# КУЗЬМА ЧОРНЫ

## ЗБОР ТВОРАЎ
## У ВАСЬМІ ТАМАХ



ВЫДАВЕЦТВА
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
МІНСК 1972

# МАЛЮНАК

## I

Першыя мухі гудуць у хаце; найбольш іх над паліцаю, на якой — збанкі, гаршкі... А пад паліцаю вісіць на ржавых цвіках усё прыладдзе вясковай капэлы: дзве скрыпкі і бубен. Паліца пад самай столлю, а ўнізе, пры акне, над тапчаном сагнуліся Сцёпка і Раман — гоняць гвазды, цягаюць дратву: Змітру Настулінаму да вяселля боты канчаюць. І ў Сцёпкі, і ў Рамана — галасы хрыплаватыя, але вясёлыя:

— Ой, брат, абцас выходзіць, як шкло.

— Ты лакам пацягні.

— Пацягнуў.

А ў Сцёпкавага бацькі голас гучны і шырокі:

— Не шкадуйце вы адно, хлопцы, гэтага лаку, бо Змітрок Настулін — хлопец у-га, дай божа кожнаму добраму. Я ж кажу, хоць к вяселлю яму боты зрабіце, каб аж... хэ-хэ-хэ...

Раману ўжо надакучыла сядзець — цалюткі дзень шые. Ён рад устаць і панесці да печы паказаць дзядзьку Паўлу бот:

— Вы адно гляньце, што за бот!

Вочы яго не сыходзяць з бота. Барада за гэтыя дні адрасла, і здаецца, што гэта ён твар свой печым запэцкаў — гэтак не ідзе да яго гэтая чорная пакручастасць.

— Няхай бы ты, Раман, пагаліўся, ці якое табе ліха,— падае з печы голас дзядзька Павал.— А то малады чалавек, а барада, як дзяркач.

— Дзякрэта такога няма, каб мне кожны дзень галіцца,— аджартаваўся Раман.

— Дзякрэта чакаеш, гэ-гэ,— падаў свой шырокі рогат з печы дзядзька Павал.— Добра кажа, дзякрэта яму няма... гэ...

Дзядзька Павал чэша ў сваіх даўно няголеных сківіцах, выцягвае з губ малюпаценькі недакурачак, стараец-

ца ўзяць кончыкамі пальцаў, каб не апячыся, і зусім камечыць губы.

Ён толькі што прыйшоў у хату пасля доўгага тупання па двары, па пуні, па сенцах. Усё як бы шукаў чагосьці. Дзядзька Павал выходзіў за адрынку ў садок, глядзець, што позняя вясна робіць з дрэвам. Аж там пайшлі нешто ўзаметку ніштаватыя такія пупышкі, трава палезла з-пад платоў, крапіва проста аж буяе.

Пахадзіў, патупаў дзядзька Павал па садзе, знайшоў раней не заўважаны чарвівы леташні лісток і спароў яго з яблыні кійком. Пасля закурыў там жа, на месцы, і падаўся ў хату. Баб кудысьці павыносіла. Дзядзька Павал пабраўся на печ. Беручыся, крактануў:

— Хіба задрамаць з паўгадзіны якое.

І адразу, як лёг, замахалася ў прыжмураных вачах конская грыва. Конь той — худы, махае ўсё хвастом; ён спрацаваны, зрэзаны пугаю ў гадзіну, калі плуг не ідзе. Гэткі конь пачаў матляцца ў заплюшчаных вачах. Пасля пачала наплываць першая дрымота, конь тады стаў. Раптам пад нагамі яго зазелянела каляіністая палявая дарога, трава на ёй скрозь буяе паўз каляіны. Конь патрос апошні раз грываю, угнуў мысу ў зямлю і пачаў грызці. Дзядзька Павал нібыта падышоў тады да каня і правёў рукою па яго шыі. Конь чамусьці натапырыў вушы і глянуў на гаспадара. А вочы тыя! — чыста як крыніца.

— Што гэта ты, гаспадара не пазнаеш? — пакрыўдзіўся дзядзька Павал.

Раптам скакануў конь не па сіле сваёй цераз дарогу кудысьці ў хмызнякі.

— Зусім знацца з гаспадаром не хоча,— выказаў сваю крыўду дзядзька Павал.

Але адно вецер свіснуў паўз вушы. Больш ніхто і не пачуў дзядзькі Паўла. Тады дзядзька Павал паклыбаў дарогаю далей у поле. Нікагутка! Адно над узбалоццем кігікаюць кнігаўкі. Здаецца, плачуць небаракі, енчаць, просяць чагосьці. Кі-гі, кі-гі.

«От бо стварэнне»,— моцна задума ўзяла дзядзьку Паўла. Тут зусім ужо сон наваліўся на яго. На печы не горача, сама што спаць. Якое цяпер паліва — абы гаршчок закіпеў. Цяпер бабам самая пара дровы апшчаджаць, а дроў, сказаць, і няма.

І от ужо дзядзька Павал сядзіць на мяжы адзін, сярод ветру. І ні то гэта ён бачыць перад сабою на забаранова-

най раллі, ні то проста толькі думае пра гэта. Не, такі сапраўды бачыць: той усё самы конь цягнецца, валачэцца проста да яго, хоча, значыцца, ужо з гаспадаром знацца! І чым бліжэй падыходзіць, тым больш парэбрыны ў яго свіцяцца пад скураю. Так і ходзяць, так і ходзяць. Хоць пералічы ты іх. «Колькі ў каня парэбрын?» — пачынае раптам думаць дзядзька Павал, але тут конь, як бы ўгадаўшы яго думкі, адвешвае губу, вышчарае зубы і падае голас:

— Нашто ж ты мяне зрэзаў гэтак пугаю?

Дзядзька Павал бачыць — аж тут ужо (адкуль толькі іх і набралася) паўнюсенька ралля: суседзі, суседкі, так сабе людзі. Дзеці, дзяўчаткі, хлопчыкі...

От і жонка стаіць ля яго, босая, у зрэб'і; робіць, робіць, угнуўшыся ў зямлю, і канца гэтай рабоце няма. Дзядзьку Паўлу шкода стала, устаў памагчы, дык і сам гэткі немагушчы стаў. Закалола ў сярэдзіне... Гэта ж — ці не вярнулася зноў тая хвароба, што мучыла яго некалькі год? З чаго? З працы, з работы вялікай. З бядноты, з холаду, з бяды, з гора... Падверадзіў плечы, рукі, ногі... А паправіцца не было чым. Дык цяпер раптам страшна стала дзядзьку Паўлу: зноў тая немач вярнулася, ад якой ледзьве адхаяўся!

А тут навакол, на раллі, дзеці вясковыя: абшарпаныя пастушкі, з паабдзіранымі нагамі, без сну, без догляду. Малыя зусім дзеці, пузатыя, віхрастыя, недагледжаныя. Маткі, стараючыся сцішыць іх ад плачу, спяваюць над імі калыханкі, затыкаюць ім раты сусламі з жаванага хлеба. Песня тая — дык, здаецца, гэта не спяваюць яе над малым дзіцем, якое напроці свайго века стаіць, якое гадуецца, каб жыць, а, здаецца, гэта нябожчыка праводзіць на той свет — гэткая тая песня!

— Я ж адцураўся ўсяго гэтага! — стараецца гукнуць дзядзька Павал і не можа, сон душыць яго.— Я ж атрапаў рукі ад усяго гэтага!

## II

— Дзень добры ў хату.

Сцёпка павярнуў галаву да дзвярэй, каб убачыць чалавека з гэткім знаёмым голасам.

Цераз парог спачатку шкрабянула крывая, як кульбака, нага, пасля чырвоны твар, пасля падаліся ў хату

плечы, і тады ўжо, значыцца, увесь чалавек быў у хаце.

— Эгэ, дзядзька Мудрэйка! — прывітаў яго Раман.— Ці не з лазні вы гэта?

— Чаму?

— Нешта твар у вас, дзядзя, вельмі распараны?

— Ай, няхай ты запаветрай, ты ўсё жартуеш.

— Якія тут жарты. Праўда, няхай хоць сам Сцёпка скажа.

— Праўда, дзядзька, што вы вельмі ружовенькі,— і Сцёпка падміргнуў Раману.

— Ружовенькі, кажаш... э... што тут таіцца.

— Разгаўляліся, значыцца?

— Разгаўляўся. Тут, значыцца, як вам сказаць... Значыцца, каб не схлусіць, падаўся я гэта быў зранку ў мястэчка, дый там, каб не схлусіць... учора гэта было...

— Цэлы дзень? А хто ж за вас рабіў?

— А ўчора ж нядзеля была.

— А, праўда, учора ж нядзеля была. Я і забыўся.

— Няўжо ж гэтак, як вы, свята такі і сапраўды адцураліся. А яшчэ, каб не схлусіць...

— Дык гэта было ўчора, а сёння чаму вы гэтакі ружовы? Няйначай-такі ў лазні парыліся.

— Дай свет. Гэтак мне нядобра было пасля ўчарашняга, што мусіў сёння...

— Ага! Значыцца...

— Значыцца, дык ацеліцца. Чаго гэта бацька на печы ляжыць, а ты мне кажаш, што ўчора хто за мяне рабіў!

— Бацька выходны сёння.

— А от што. Выходны? Эй ты, калгасавец, злазь з печы!

Дзядзька Павал не паварушыўся нават. Ён спаў.

— Спіць як пшаніцу прадаўшы. Э-э!

— Нашто ён вам, няхай засне.

Памаўчалі. Мудрэйка сядзеў на лаве, адставіўшы нагу. Пасля ўспомніў:

— Бывала, я памятаю, у ўездным прысуцсцвіі быў пісар, дык — от выпіваў!..

— А гэта быў ваш сваяк, ці як?

— Гэ, чаму сваяк. Я там і так усіх ведаў, як лупленых. Я ўезднае прысуцсцвіе ўсё навылёт ведаў. Колькі я, бывала, прашэнняў пападаваў туды.

Яно такі і праўда. Гэта ўсе ведаюць. Мудрэйка за свой век папасудзіўся з усімі. Усё падаваў прашэнні, падаваў

скаргі, пасля зноў прашэнні, што каб скасавалі справу, бо ён добра быў не разабраўся, калі падаваў прашэнне. Пасля зноў прашэнне, каб аднавілі справу, бо «цяпер ён ужо добра разабраўся і ніяк не памыліцца гэты раз». Адным словам, года не мог прасядзець чалавек, каб не адбыць судоў з пару. Часамі праз гэта сам у бяду ўскочыць, а не сядзіць ціха. Любіў чалавек, можна сказаць, канцаляру. Нават у яго ў хаце ў самога як бы канцаляра была: на паліцы куча нейкіх усё з-за гэтых спраў паспісваных папераў. Пылу на іх было — страх што. Такі і любіў Мудрэйка сваё «ўезднае прысуцсцвіе».

— Дык гаспадар, значыцца, сёння выходны?

— Але, дзядзька Мудрэйка.

— Калгасавец, значыцца, выходны, значыцца! А ўчора, у нядзелю, рабіў?

— Рабіў, дзядзька Мудрэйка.

— М-гу, рабіў, значыцца.

— Рабіў, значыцца. Нядобра, праўда, дзядзька Мудрэйка?

— Ат, мне што. Хай сабе праўда, хай сабе няпраўда. Я такі чалавек: цяпер што! Цяпер, я ж кажу, дзень пражыў і...

— І дзякуй богу, праўда, дзядзька Мудрэйка.

— А што ж! Як цяпер народ жыве! Народ цяпер жыве гэтак, што... Што ж гэтыя, хоць бы сабе і калгасы. Гэта добра, калі дзе калгас добры пападзецца адразу, што ўсё там ёсць, што там і хлеба хапае, і ўсяго. І сала, свіней там многа...

— Адным словам, гэткі калгас, у які бог з неба ўсё скідае, а калгасаўцы адно падстаўляюць раты ды ловяць. Зловіць, глыне дый зноў разяўлены рот падставіць. А бог зноў зверху — ляп у гэты рот. Гэтак, дзядзька Мудрэйка?

— Што ты брыдзеш?

— Ну, а як жа! Вы калі ў калгас самі падавацца будзеце?

— Буду бачыць.

— Тады, мусіць, калі ўсё ўжо там будзе гатовае. Калі ўсё ўжо там наладзяць цяперашнія калгаснікі? Цяпер то яно, праўда, і не хапае таго-сяго. Але затое людзі стараюцца, робяць, каб набыць. Дык тады і рабіць лягчэй будзе, і жыць лацвей. А вы каля гатовага агню любіце рукі пагрэць.

— Ат.

— Ат — не ат, а гэтак яно выходзіць.

Тут падаў голас Сцёпка:

— Не, дзядзька Мудрэйка хоча раскідаць калгас ды на яго месца ўезднае прысуцсцвіе зрабіць.

Мудрэйка сядзеў і пакручваў адно крывою нагою.

Раман нагнуўся над абцасам. Сцёпка скончыў бот, адклаў убок і здалёк акінуў яго вокам: бот быў як цацка.

— Тфу, каб ты згарэла, вярзецца нешта! — мармытнуў, усхапіўшыся раптам за комінам, дзядзька Павал.— Тфу!

Плюнуў у сцяну, перакруціўся на другі бок, і зноў апанавала цяжкая дрымота. Дрэмлючы, чуў, як пахла ў хаце новымі ботамі — дзёгцікам патыхаюць боты; кіслым малаком нясе недзе з паліцы; з-за акна чуецца вясёлы бабскі рогат і дзіцячы плач... А тут ужо дрымота зусім адабрала думкі, і от ужо... (ці гэта са сну, ці сапраўды гэта ўсё на дварэ робіцца) — недзе плюхае вада. От ужо і сапраўды бабы палошчуць бялізну. Халодная, гэткая прыемная вада сцякае ў іх па белых руках і плюхае, а навокал спяваюць, аж залягаюць, пеўні, кудахчуць куры, гвалтуюць вераб'і, так яшчэ нейкія дробныя птушкі шчабечуць. А гэта ўсё глушыць вялы, як тандэтная кілбаса, Мудрэйкаў голас:

— Ат, жыць цяпер, дзень перабыў, дык і хвала богу.

— Гэта вы пра сябе ці пра каго? — пытае Раманаў голас.

— Так, як сказаць, пра ўсіх.

— Вы на свой метр увесь свет перамералі, ці як гэта?

— На метр, на шметр, ты вельмі разумны нешта стаў, пане Рамане.

Тут Сцёпка паддаў жару:

— Ён, сказаць, і ніколі не падаваў прашэння, каб яго прынялі ў дурную каманду.

— Но але,— падаў голас Раман,— добра кажа, прашэння.— А пасля, памаўчаўшы:— У ўезднае прысуцсцвіе...

— Тфу! — плюнуў Мудрэйка.

І тут ужо ў дзядзькі Паўла дрымота пачала праходзіць. Тут ужо думка, самая сапраўдная, як дратва ў тавар, пайшла ў мазгах.

Учарашні дзень. Калгасаўцы аруць. Трактар проста-такі есць зямлю. Няма яму ні дзірвану, ні пырніку: рве, грабе, ломіць, крышыць... Трактарыст адно пасвіствае, адно падміргвае навокал. Дзядзька Павал за пла-

тамі параконным плугам арэ калгасаўскія капуснікі. У свінарніках пішчаць парасяты, рыкае цельная карова дзесьці ў аборы... Веснавы вецер дае проста ў твар дзядзьку Паўлу.

— Гатова! — гукае Раман і адкідае бот на тапчан.— Цяпер Змітрок пару ботаў мае — хоць на выстаўку.

— Святочныя боты,— падае голас Мудрэйка,— у свята абуцца або ў выходны дзень... хэ-хэ-хэ...

Пачуўшы Мудрэйкавы кепікі, Раман не перапусціў:

— Не, нашто ў выходны дзень, калі найлепш у нядзелю. Абуўся, значыцца, пайшоў сабе ў царкву, пацалаваў там пасля малітвы куды належыць, пасля пацалаваў яшчэ папу ў гэтае, значыцца, у руку, пасля падаўся дадому, падпіў, даў жонцы па карку. А то проста, пашукаў сабе добрае кампаніі, каб памясіць каго кулакамі...

Тут ужо Мудрэйка спусціў нос і пастараўся пусціць гаворку ў другі бок:

— Кажуць, што на паплавах яшчэ вада стаіць.

І залажыў нага на нагу, каб не тырчала лішне на хату крывая, што была калісьці, яшчэ перад вайною, перабіта недзе на нейкім фэсце.

Раптам дзядзька Павал пачуў, як смык паспрабаваў струны на скрыпцы. Сцёпка трымаў скрыпку ў руках, зусім гатовы смальнуць па струнах. Раман настройваў сваю.

Змяркалася. Бабы пакінулі на дварэ паласкаць бялізну, адно пра штосьці мацней яшчэ загаварылі, мацней засмяяліся. Мухі аселі над паліцаю, гулі цішэй.

Музыкі ўтнулі польку. Раманава скрыпка проста-такі загаварыла. Сцёпка пайшоў пад утур. Дзядзька Павал адкінуў ад сябе дрымоту, чухануўся плячыма аб комін, усхапіўся, шалыгнуў на край печы, развёў рукі і замахаў імі ў такт да музыкі, як капельмайстар.

— Паддавай, паддавай, хлопцы, сып, сып! — гукаў дзядзька Павал.

— Не гэтак. Не гэтак, кажу табе, махаеш! — ускіпеў Мудрэйка,— што ты махаеш адно ў бакі, управа і ўлева, трэба, кажу табе, і ўгару і ўніз. Я ведаю, як махаць трэба! Я калісьці, як спяваў на клірасе, дык дзяк...

— Пайшоў ты з сваім клірасам.

Тут ускочыў у хату бубнач і схапіў з-пад паліцы бубен.

І як утнулі яны марша, дык да хаты пачаў збірацца народ.

# НЕ ХАЧУ ГЭТАК

## I

Па мокрай дарозе шырокія развалiны пад'ехалi да нiзкага i доўгага дзеравянага дома сельсавета. Хлапчук прыпынiў лейцамi лапавухую кабылу, злез з развалiн i падкiнуў кабыле сена. Лейцамi прывязаў яе за мокры клён напроцi вокан на вялiзным двары. Узяў з саней жменю саломы, абцёр боты i пайшоў на ганак, падагнуўшы полы аблезлага кажушка i ўсунуўшы рукi ў адтапыраныя кiшэнi картовых портак.

У сельсавеце шмат было народу. У светлых сенцах нечага чакалi дзядзькi, стоячы каля сцяны, папрыпiраўшыся да яе плячыма. Сядзелi на падлозе. Адзiн, з доўгiм i спакойным тварам, панура расказваў:

— ...Дык я толькi адхiлiўся на момант ад воза, дык адразу нехта пугу з сядзення выцягнуў. I такая ж была пуга, каб ён не спажыў яе! Стусiна, у краме куплена. I схавана ж была пад саломаю.

— Мусiць, бачыў, як ты хаваў яе,— сказаў другi.

— А можа i так, наманы,— падышоў, памацаў — бачыць, пуга тырчыць!..

Хлапчук вярнуўся назад, выцягнуў з саней з-пад саломы сурамцовую пугу i падаўся зноў у сельсавет.

У першым пасля сяней пакоi народу было больш. Каля аднаго стала стаяла чарга. Хлапчук пакуль агледзеўся, пакуль паперачытваў надпiсы над сталамi, прайшло колькi хвiлiн. Раптам знаёмы голас над самым вухам адарваў яго ад чытання:

— Пятрок, што ты тут робiш?

— От тут... трэба...

— А як ты ехаў, праз Валадзькоўшчыну цi напрамiк?

— Напрамiк.

— Хiба трымае яшчэ?

— Пачало пускаць... На сярэдзіне вада стаіць.

— Як жа ты ехаў?

— Праехаць яшчэ можна ўлегцы.

— А я кружыў Валадзькоўшчынаю, чатыры вярсты, ліха яму, кругу даў. Не ведаў, думаў, што зусім пусціла.

Пятроў швагер — невялікага росту і чарнявага воласу — Сальвэсь таксама трымаў пугу ў руках. Тонкім канцом пужальна ён стараўся запхнуць у лапаць разбэрсаны край анучы, што збоку вылез наверх. Доўгі і новы халат яго, апрануты на кажух, адтапырваўся ў бакі поламі. Каўнер кажушка быў выцягнены з-пад халата і быў трохі падняты і абвязаны паверсе рудым самаробным шалем. Паправіўшы анучу, Сальвэсь патупаў падмочанымі лапцямі і сказаў:

— Як той казаў, завозна вельмі. Чакаць доўга давядзецца, каб яно ўтанула. Людзей назбіралася вельмі ж.

— А вы чаго прыехалі?

— От... трэба.

Тут Сальвэсь пільна паглядзеў у твар Пятру. Той разглядаў забруджаную і пашчапаную падлогу. Пасля адзін аднаму стараліся не глядзець у вочы.

— Мусіць, некалі тут дровы секлі,— заўважыў Пятрок.

Сальвэсь допытна і нават устрывожана разгледзеў Пятроў твар. Аднак з роздум'ем адказаў:

— Тут кухня была, калі поп жыў.

Калі ж Пятрок глянуў на яго, ён павярнуўся ўбок, як бы для таго, каб разгледзець стол, каля якога стаяла чарга.

## II

«Няўжо ён гэта таксама дзеля гэтага ж самага прыехаў?» — думаў Сальвэсь, гледзячы цераз спіны мужчын на сельсавецкі стол і пазіраючы збоку на Петрака.

Глядзеў на яго і чакаў, каб хутчэй дазнацца, чаго ён прыехаў сюды.

Пятрок жа думаў: «Каб хутчэй узяць гэты квіток на дровы ды ехаць дадому. Можа б сёння яшчэ да лесніка справіўся б, каб паказаў, дзе збіраць гэтае галлё. І каб хаця Сальвэсь прыставаць не пачаў з усялякімі допытамі, а то тут можа і гаварыць чаго не трэба, а ён гатоў мяне ўблытаць, як сам захоча». Апошняя думка не была выразнаю ў Петрака, і ўсё гэта адчувалася. Ён зрэдку

паглядаў на Сальвэся, заўважаў, як той коса пазірае на яго і ўскідае вачыма паверх чужых спін.

Сальвэсь дачакаўся, пакуль Пятрок дастаў квіток і, убачыўшы, што ён ніякай большай справы тут не робіць, а збіраецца, мусіць, ехаць адгэтуль, паспакайнеў і сказаў Петраку:

— Значыцца, скончыў сваё?

— Але.

— Дадому цяпер?

— Не зусім.

Сальвэсь зноў трохі ўзнепакоіўся:

— А куды ж?

— Да лесніка заеду.

Зноў Сальвэсь паспакайнеў:

— Дык гэта ж можна выкіраваць, што і па дарозе будзе.

— Я ж так і зраблю.

— Значыцца, напрамік льга яшчэ ехаць?

— Льга.

Раптам Пятрок падумаў: «А от вазьму ды папытаю, што ён тут робіць. Папытаю і паеду зараз жа. Добра было б дазнацца, чаго ён прыехаў сюды — дома расказаць». І ён запытаў:

— А вы што тут робіце?

Сальвэсь паглядзеў на падлогу, хмурна агледзеўся вакол і адказаў:

— От таксама з дрывамі.

— Чаму ж вы са мною разам не бралі, як усім выдавалі?

«Не верыць, ліха яму»,— падумаў Сальвэсь і раптам загаварыў:

— Што я табе, браце, буду гаварыць. Ты тут у гэтай справе ўсё роўна мала што можаш разабрацца. Я табе скажу гэта проста. Што думаю, тое і гавару. Табе якіх-небудзь чатырнаццаць год, што ты тут лішне можаш разумець. Што тут табе гэта! Вядома, што б там ні было, а ты заўсёды будзеш супроць мяне. Ты яшчэ не жыў, можна сказаць, не ведаеш жыцця і слухаеш, што там у вас у сям'і гавораць. Што я гад, што я згубіцель. А тут ва ўсім вінавата яна, і больш нічога. Яна там нагаворыць! Ох, яна там нагаворыць ужо! А тут што, яна дзеля гэтага і замуж ішла, каб маім дабром сваю гаспадарку паправіць. Ты на мяне паглядаеш коса, а што ты ведаеш тут? Гавор-

ка!.. Дурня знайшлі, ездзіць па ім! Пазіраюць, раты паразяўляўшы, вочы скасабочыўшы!

Вакол іх пачалі збірацца людзі. Пятрок праверыў, ці палажыў ён у кішэню квіток і, нічога не кажучы, хутка падаўся да свайго воза, абы так пільна не разглядалі яго. Сальвэсь падышоў да акна, глядзеў, як Пятрок адвязаў кабылу, падабраў з-пад яе сена, папpавіў на развалінах салому, ускаціўся на разваліны і, развязваючы на хаду торбу з хлебам, пагнаў кабылу. Каля Сальвэся стаялі мужчыны.

## III

— Тут гаворкі доўгае быць не можа,— гаварыў Сальвэсь, гледзячы ў людскія твары і шукаючы ў іх сабе спачування,— тут няма чаго лішне доўга гаварыць. Гэта добра даць права якой-небудзь гарадской кабеце, якая, можна сказаць, больш ведае як і што, бо яна хоць трохі ды вучоная. А гэта — дай ты ёй, нашай кабеціне, усялякія, як той казаў, правы, дык яна цябе асядлае ды паедзе на табе.

Пачуліся галасы:

— Ды ты, чалавеча, гавары выразна.

— Гавары ты, хто гэта там за такая, што па табе паехала?

— Пра што гэта ты?

Сальвэсь паглядзеў вакол сябе. Стаяла перад ім чалавек пяць, незнаёмых усё, з суседніх, мусіць, вёсак. Стаялі і глядзелі на яго, некаторыя і не лішне цікавячыся, а па прывычцы даведацца пра ўсё, што дзе гаворыцца, каб, расказаўшы дома вечарам у сваёй хаце, тут жа і забыцца на гэта. У некаторых можа і была вялікая цікавасць, але на твары яна не выяўлялася. Твары былі спакойныя, заклапочаныя нечым сваім.

Сальвэсь паглядзеў яшчэ на сельсавецкія сталы. Там перабіраліся паперкі, гаварылі між сабою і з мужчынамі, што налеглі на стол...

Сальвэсь сказаў:

— Баба ад мяне ўцякла.

Зразу ўстрапянуўся нечы голас:

— Ось ліха!

— Уцякла. Пажылі мы тры гады ўсяго.

— Чаго ж яна ўцякла?

— Дрэнна жыла са мною. Нелады былі ў хаце.

— А можа гэта ты з ёю дрэнна жыў?

— Ну, як жа ўжо жыць з ёю? Жыў, як усе жывуць добрыя людзі. А што нелады былі ў хаце, дык у каго іх няма. Усе людзі так жывуць. Ці гэта ж дзіва?!

— А якія ж нелады?

— Ды от што я скажу або зраблю — ёй не падабаецца. Што яна скажа, мне не падабаецца.

— Сварыліся, значыцца?

— Было і гэтага, але ці гэта ж дзіва?

— А чаго ж вы не маглі падзяліць?

— А хто яго ведае. Можа гэта так ідзецца на жыцці мне — узяць такую паскудную кабеціну.

— А невядома, як яна скажа на гэта?

— Ну вядома, што гэтая сцерва будзе ўсюды на мяне нагаворваць.

— От і разбяры тут.

— Ды яшчэ, паскуда, падала ў суд, каб частку з мае гаспадаркі ёй забраць. Я, кажа, тут працавала.

— А як жа ты думаў?

— Як думаў? Я яе не праганяў. Няхай бы жыла. Жылі б, рабілі б і мелі б. Далікатная вельмі! Слова ёй не скажаш.

— А дзеці ёсць?

— Адно. Хлопчык. З сабой забрала.

— То табе, чалавеча, значыцца, аліменты давядзецца плаціць.

— Я проці гэтага нічога не маю. Плаціць — дык плаціць, але нашто гэты здзек — каб забраць там з гаспадаркі частку. Адно кажу — я яе не праганяў.

Ужо некалькі галасоў пачулася:

— Тут сапраўды закавыка.

— От табе, браце, ты і ажаніўся. Цяпер цацкайся.

— Бо можа ты крыўдзіў яе вельмі чым? Можа ёй вельмі жыць было дрэнна за табой?

Сальвэсь перабіў:

— Я тут думаю проста — пайшла яна замуж дзеля таго, каб пакарыстацца маёю гаспадаркаю. Яна законы гэтыя ўведала — і давай, думае, папрабую. Хіба гэта мне не крыўдна? Дзе я ні быў — усюды кажуць, што яна частку адсудзіць. Што гэта за такое, браткі мае? Хіба гэта закон? Яна не хоча бо са мною жыць! Не хочаш — дык ідзі к чортавай матары, калі гэтак намаглася сама! Я цябе не праганяю. Я ўгаварваў нават яе, каб засталася. Халера... Трасцы! Не адсудзіць, я на яе ўправу знайду!..

— Ты, чалавеча, пачакай. От я ў цябе зараз запытаю...

Сальвэсь глянуў. Наперад вылез чалавек у кароткім новым кажушку. Бялявы, з падстрыжанымі вусікамі. Высокі. Падышоў да самага Сальвэся, жмурачы вочы ад сонца.

— Ну, запытай.

## IV

Сальвэсь глядзеў на гэтага чалавека і пачаў пазнаваць патроху яго:

— Дзе гэта я цябе бачыў?

— Не ведаю, можа дзе і бачыў.

— Ці не ў саўгасе гэта ты кавалём трохі быў?

— Быў.

— А, то я ж цябе ведаю. Гэта ты тады са мною барыш піў, як памог мне каня выбраць. На гэтым кані цяпер езджу, дай табе божа панаванне.

— Ну, панаванне там, дык гэта...

— Я табе і цяпер кажу перад усімі, што...

— Пачакай. Дрэннае было такое жыццё, калі кожны дзень сварка?

— Не дай божа.

— То на што ты цяпер крыўдзішся?

— На тое, што частку з гаспадаркі возьме. Не ўдалося мне жыццё, дык чаму павінны яшчэ бацькі мае пакутаваць? Гаспадарка і так небагатая.

— Ну, што ж табе тут парадзіць? Няўдачы ў жыцці бываюць. Ясна адно, што добра твая жонка зрабіла, што парушыла гэтае пекла, якое, мусіць, было ў вашай сям'і.

— На гэта то я нічога, але от мне за гаспадарку душа баліць. І так яна дробніцца. Як падзялілі з братам, дык колькі там тае гаспадаркі?

— Не трэба было дзяліць з братам.

— А як?

— Не трэба было зусім дзяліцца. Сам кажаш, што гаспадарка здрабнела.

— Чалавек усё прабуе, як лепш.

— А дзе ж яна цяпер?

— Хто?

— Жонка.

— Да брата і маткі пайшла.

— Дык частку, чалавеча, мусіць, давядзецца табе даць.

— А ты ж сам дзе цяпер?

— За Астрэйкамі на гаспадарцы.

Сальвэсь пачаў расказваць, як Пятрок — брат яго жонкі — быў тут кагадзе і, мусіць, гэта не так наконт квітка на дровы, як пра гэты ўсё суд — клапоцяцца яны ўсе.

## V

Пятрок ехаў па мокрай дарозе. Пад капытамі ў каня плюхала, уезджаны і пачарнелы снег правальваўся.

«У лесніка каб хутчэй справіцца ды дадому. Бо трэба яшчэ будзе ў аптэку заскочыць па лякарства сестрыному маламу». Даставаў з торбы хлеб і еў. Не паклалі яму нічога больш у торбу, бо не было нічога палажыць, апроч хлеба. І ён думаў яшчэ пра гэтае самае: як сястра, што адчувала цяпер сябе дома ні госцяю, ні гаспадыняю, клала яму гэты хлеб у торбу.

І гаварыла:

— Заедзеш, братачка, яшчэ ў аптэку...

— Добра,— адказаў ён.

І яму захацелася сказаць што-небудзь добрае сястры, супроць якой нават і матка пачынае гаварыць, што от не магла яна жыць замужам, што от уцякла на смех людскі. І цяпер ні дзяўчына, ні ўдава. Адказала была яна матцы:

— Не магла я жыць разам. Бо гэта не жыццё, а пекла.

— Біў ён цябе?

— Не, але ненавідзелі адзін аднаго.

— Чаму?

— Праціўнымі былі адно аднаму.

— Трэба было, дачушка, як-небудзь трымацца. Як-небудзь паражылося б, перагаравалася б. Ты ж сама ведаеш, як я жыла. І бедна жылі, і сварыліся, і таксама ненавідзелі, біліся нават. Колькі я пабояў перанесла! Аднак пражыла век.

— Я не магу гэтак.

— Трэба было трымацца, дачушка.

— Не хачу гэтак!

— То чаго ты злуешся на мяне, старую?

— Бо калі табе, мама, я замінаю тут у хаце, дык ты

скажы мне проста. Я куды-небудзь буду старацца — хоць на службу да каго застацца.

Маці заміргала вачыма, пачала выціраць рогам хусткі слёзы.

Петраку нядобра стала стаяць пры гэтым, і ён сказаў:

— Хутчэй улажэце мне хлеба ў торбу.

— От зараз.

Сястра правяла яго за вароты і зачыніла іх за ім.

Цяпер у полі было весела. Пахла вясною. Пад мокрым снегам адчувалася зямля.

# ВЕРАСНЁВЫЯ НОЧЫ

## I

Каля студні з дзеравянага вядра, пазелянелага і слізкага, капала вада на запыленую буйную крапіву і пясок. За парканам спелі яблыкі і арабіны, пад парканам раскашэльвалася мята і бабіна лета. Каля варот сакаталі куры, пераграбаючы канюшынную пацяруху, і адна — надзьмутая і сярдзітая — упарта квактала, расплывалася па пяску гарачым воллем. Абмочаны недзе шчанюк аціраўся каля сяней і нудна вылізваў шэрсць каля хваста. Гусак падняў галаву і глыбакадумна закрычаў. Шчанюк крыху страціў свой нудны выгляд і забурчаў, вільнуўшы шчуплым хвастом.

Паставіўшы каля заскарузлага карыта ражку з свіным цестам, чухаючы вуха аб голую руку вышэй локця, Агата злосна крыкнула:

— Віляй, віляй, падла аблезлая! Зноў недзе ўскочыў у памыі, каб ты ўжо нечага ў вір галавою ўскочыў. Зноў усё пазагаджваеш у сенцах. Вон, каб ты выдах!

Шчанюк выцягнуўся на пяску доўгім целам сваім і ціхавата завыў. Квактуха закквактала мацней. З панурым папрокам Агата кінула на яе дзеркачом.

— Квокчаш? А дзе ж ты вясною была, пошкудзь кашлатая!

Два падсвінакі, трасучы вушамі, весела хваталі з карыта цеста. Верабей зляцеў з вішні на плот, пасля каменем упаў на зямлю каля самага карыта, мяркуючы, каб уварваць крыху сабе. Яго ніхто не заўважыў.

Агата выцерла рукі брудным фартухом, зняла яго з сябе і ўскінула на плот. Рукі ў яе былі прыгожыя і прывабныя, голыя да плеч, белыя і гладкія. Толькі пальцы на іх кароткія і тоўстыя, непрыемныя на выгляд. Сама яна — высокая і мажная, белабрысыя бровы і шэрыя во-

чы, зацягненыя сытаю каламутнасцю. Як ішла яна ў сені, стан яе цяжка гойдаўся, і вочы прасілі сну.

У халодных сенцах стаялі ночвы з памытымі гуркамі, і былі рассыпаны крупы.

— Зноў дзеці лазілі! — сярдзіта абазвалася Агата, падмятаючы да парога буйную абдзёртую грэчку.

У адчыненых хатніх дзвярах з'явіўся Стасюк, братні сынок, белагаловы свавольнік і сірата; маці ён ледзьве памятаў.

— Цёця Агата, я адзін гурок вазьму.

— Ты ўжо крупы рассыпаў! Як ад цябе нідзе не ўхаваешся. Усюды ты дападзеш.

— Гэта не я... Я вазьму гурок.

— А хто ж гэта?

— Гэта Антосеў Юрка прыходзіў. Рассыпаў крупы і два гуркі ўхваціў і ўцёк. Я яму дам, як злаўлю дзе.

Агата сунула ў рукі яму гурок і выправадзіла з хаты. Злосная раздражненасць не пакідала яе. Яна мучыла яе з учарашняга, калі перад вечарам брат Фэлька, скінуўшы з воза плуг і адкасваючы порткі, запэцканыя вільготнаю раллёю, запытаў:

— Ці праўда гэта, што Асташонак, калі браў на тым тыдні самагонку, дык управіў табе мікалаеўскую трохрублёўку?

— Хто табе казаў?

— На полі хлопцы смяяліся. Казалі, што сам Асташонак хваліцца ўсім. Няхай, кажа, цяпер падае на суд. Няхай падасць, паспрабуе. І праўда, як тут падасі, каб прыйшлося, на суд, калі невядома, каго тут суд за ныркі возьме... Як бо ты глядзела! Няўжо ты не бачыш, што мікалаеўскія, а што савецкія грошы...

— Вечарам. У каморцы газоўка гарэла, а я не прыглядалася. Чорт яго поўначы пазнае.

— А ўрэшце — згарыць няхай ён са сваёю трохрублёўкаю. Адно што от плёткі распускае, халера на яго.

Фэлька паставіў нанач коні, з'еў малака і пайшоў спаць на канюшыну, а яна пакуль управілася ў хаце, шмат прайшло вячорнага часу. Стасюк спаў у хаце на ложку, высадзіўшы цыбатыя ногі з-пад кудзельнай коўдры. Агата паправіла коўдру і выйшла з хаты, поўная гаркачэчы і злосці. Пад паветкаю, дзе ляжалі дровы і трухлявая салома з перакрытай страхі, адзывалася сонная качка. Рэшта ж усё было ціхім. Маўчаў сад за старым

80228

парканам, і цёмныя дрэвы яго былі ў нерухомым спакоі. Трохі счакаўшы, на вуліцы ў канцы заспявалі хлопцы. Асташонкавага голасу не магла яна злавіць у песні. Мусіць, там яго не было. Злосць на яго не пакідала мучыць яе. Адна праседзела яна з паўгадзіны каля хаты. Па вуліцы праходзілі хлопцы і да яе не падышлі, можа не заўважылі яе. Асташонка нідзе не было чуваць. Пайшла назад у хату і доўга не магла заснуць.

З таго часу нядобрым усё было; і горш за ўсё тое, што раздражненне супроць яго не ад мікалаеўскай трохрублёўкі было і не ад таго, што ён выхваляўся гэтым — гэта толькі псавала настрой,— а ад таго, што каторы ўжо час зусім заходзіць пакінуў.

Фэлька зноў быў на полі, Стасюк зусім знік недзе з двара.

Агата пасаліла гуркі і падмяла сені. Асенняя муха моцна ўкусіла яе за нагу, каля вялікага пальца. Яна пацерла ўкушаным месцам аб лытку другой нагі і пачала наліваць каля студні ў цэбар ваду; непаласканая бялізна ляжала на мокрым тапчане каля плота.

Дзень хіліў да дрымоты. Сонна крычалі на вуліцы качкі, плюхаючы бруднай вадою каля карыта. Па той бок вуліцы ў суседнім садзе звісала над плотам вясёлая цяжкасць чырвоных арабін; пад імі плот быў аброслы зялёным і зусім сухім мохам і ўзлягаў на трухлявыя подпіркі панурым дзедам. Вільготная каля студні зямля прыемна халадзіла гарачыя ногі. Мокры шчанюк падышоў і ткнуўся галавою ў нагу, ніжэй калена. Агідліва адапхнуўшы яго, Агата стала паласкаць бялізну.

У звінючых кроплях вады, што ліліся з яе голых рук, люстравалася незлічоная рухавасць сонечных іскраў. І рукі яе, белыя і прыгожыя, былі празрыстымі і пахучымі. Гойдалася ў цэбры вада, льючыся праз край, і твару свайго выразна разгледзець у вадзе Агата не магла; толькі бялелі ў вадзе рукі, і гэта цешыла яе.

Сонца моцна грэла яшчэ. Халоднаю ж і прыемнаю была вада. І ўсё гэта патроху заспакойваць пачало раздражненасць і прытупляць злосць, і праходзіць пачала вастрата гэтай узбуджанасці і ператварацца ў іншыя формы.

Яна ўспомніла,— выязджаючы араць іржышча, Фэлька сказаў: «Скажы Стасюку, каб пазваў сваю кампанію абабраць ігрушы. Але каб не зваў шмат гэтых сваіх вісу-

саў, а то як прываліць гэтага зграя, дык усе грушы парасцягаюць. Гэта ж гэткая плойма!..» Яна і сама ведала, што трэба абіраць ігрушы; чуваць было, як яны стукалі ў садзе, раз-поразу падаючы на зямлю. Але было жаданне, папаласкаўшы бялізну, нічога не рабіць, і з гэтым жаданнем даводзілася змагацца. Уночы не спалася, і цяпер з'яўляліся адзнакі лёгкай дрымоты. Часта пазяхалася і соладка хацелася, каб вецер абвеяў гарачую голую шыю і плечы. Калені пачыналі злёгку дрыжаць, і твар гарэў. У целе запаноўвала гарачая разамлеласць. Учынак Асташонка з трыма рублямі пачаў траціць сваю вастрату, і зусім згінулі думкі пра крыўду на тое, што нельга адпомсціцца яму, падаўшы на суд ці ўжыўшы якія-небудзь іншыя захады. Усё гэта забывалася, і хацелася як найхутчэй, каб нават і не ўспомніць пра гэта, як пра нешта калючае, непрыемнае. Асташонак зноў здаваўся прыгожым і прывабным. І побач з ім горш яшчэ, як раней, непрыемным паўставаў уваччу Зыгмусь Чухрэвіч, што паўтара гады ўсё дамагаецца, каб узяць яе замуж, і на гэтым тыдні прыходзіў у нядзелю, выфранчаны і далікатны. Раней, як Фэлька быў яшчэ хлопцам, яны дружылі вельмі, з самых малых год сваіх. Пасля бурна разышліся з-за дзяўчыны, якой абодва дамагаліся і якая, урэшце, пайшла замуж за Фэльку. А Фэльку не давялося з ёю доўга пажыць — нарадзіўшы Стасюка, яна неўзабаве памерла. Тады ўсё забылася. Зноў у іх пачалося нешта падобнае да дружбы, а пасля Зыгмусь пачаў прыглядацца на Агату. Яшчэ за некалькі дзён да Асташонкавай трохрублёўкі Фэлька гаварыў ёй:

— А можа і сапраўды табе пайсці замуж за Зыгмуся. Ён цябе будзе кахаць і глядзець.

А яна адказала:

— Што ты мяне хочаш з хаты збыць?! Калі ты хочаш жаніцца, дык я табе ўпоперак дарогі не стаю.

Фэлька па-вінаватаму паморгаў вачыма і мякка сказаў:

— Што ты выдумала? Хіба я не магу з табою гаварыць як з сястрою пра ўсё?

— А от і не можаш пра ўсё. Не маеш права.

— Чаго ты злуеш?

— Не ўмешвайся ў чужыя справы.

Тады заззлаваў і ён.

— Я табе як добра, а ты чорт ведае што! Колькі сва-

талася, ніхто даспадобы не даходзіць. Усё перабіраеш. Табе ж ці не трыццаць год ужо?

— Ну, я ж казала, што ты мяне з хаты збываеш!

І яна пайшла злосная. А вечарам яны абое зрабілі выгляд, што нічога не было. Так уся гэтая прыкрасць і скончылася. А тут Асташонак, малады і вясёлы, трохі жулікаваты, заўсёды стараўся злавіць яе і на вуліцы і на полі. І поўніў яе агнямі суму здаровай перарослай дзяўчыны. У той дзень, калі здарыўся гэты яго ўчынак з трохрублёўкаю, ён назнарок прыбег праз агароды памагаць ёй складаць атаву, заўважыўшы яе каля гумна. Жартаваў з ёю, тузаўся, пакуль яна, чуючы, што траціць волю сваю перад ім, не прагнала яго. У той жа вечар ён і з'явіўся купляць самагонку.

Палошчучы бялізну, яна змагалася сама з сабою. Падабалася сама сабе; глядзела ў ваду; чула разамлеласць ва ўсім целе і як усё больш і больш прытупляліся і ападалі думкі. Губілася ўсялякая воля і цвёрдасць.

Стукалі ў садзе вобземлю яблыкі і грушы, спелі арабіны. Цякла пахам моцная мята. Асеннія мухі гулі каля сяней, сінія і вялікія. Стасюк на вуліцы, па той бок студні, боўтаецца ў лужы. Вуліца была ціхаю, дрымотнаю. І без дай прычыны захацелася ёй пакрычаць на Стасюка:

— Стасюк, ідзі ў двор!

## II

Зыгмусь Чухрэвіч бедаваў, што вусень пааб'ядаў вясною лісце ў садзе, і цяпер няма садавіны. Агаце прыкра было слухаць яго павольную гаворку, бачыць, як ён стараўся быць перад ёю дасціпным. Гальштук у яго быў вузенькі, у зялёную палоску, вельмі туга нацягнены на цвёрдай манішцы і раней за ўсё кідаўся ў вочы. Гарнітур быў нішто, але няспрытна вельмі ж сядзеў, мусіць, адтаго, што манішка і цвёрды каўнер усё роўна як звязвалі чалавека. Гамашы былі выглянцаваныя, але запыленыя. Фэлька быў адзеты прасцей і з самага ранку нікуды не выходзіў з хаты. Гаворачы з імі абодвума, Агата неўзаметкі паглядала ў люстэрка, што вісела насупроць на сцяне. Мокрыя яшчэ валасы пахлі дарагім мылам, і здавалася, што гэта пахне блакітненькая шпілька, што гэтак прыгожа сцягвала белы гафтаваны каўнер сіняй блузкі. Стасюк ацірауся каля вялікіх і ўсё дурыўся:

— Цёця Агата, есці.
— Ты ж еў кагадзе.
— Зноў хачу.
Зыгмусь Чухрэвіч памог ёй адчапіцца ад Стасюка.
— Няможна так часта есці, няздарава.
— Чаму?
— Няздарава на жывот.
— Сапсуецца жывот?
Фэлька ўзяў Стасюка за руку і вывеў на двор. Відаць было праз вокны — павёў у сад, каб абы адчапіўся ад Агаты. Зыгмусь Чухрэвіч падкруціў вусы, дастаў з кішэні партабак з бярозавай чачоткі і дастаў тоненькую папяросу. Пакуль трымаў у пальцах, Агата, гледзячы, думала, што ў яго прыгожыя рукі — тонкія і белыя зверху. І, закурваючы, ён зноў пачаў бедаваць, што вусень аб'еў сад. Гаворка яго была вялая, кожнае слова як бы абдуманае. «Здаецца, памагла б яму»,— думала Агата, падышоўшы да люстэрка і папраўляючы грабяні ў валасах. У хаце была прыемная хмурнасць,— неба ў той дзень было шэрым, але высокім. Сонца неглыбока было схавана за тонкую плёнку ветравых хмараў, вецер шастаў за вокнамі садам, сад нехаця пачынаў жаўцець. Аж у хаце, здавалася, чуваць было, як пахнуць у садзе бэры і вінёўкі. Цыганкі чырванелі над плотам і над страхою прыгрэбкі. Нават запозненыя спасаўкі падалі яшчэ на траву і разліваліся ў ёй зялёным кісялём.

— У вас добра сад захаваўся ад вусеня, а ў мяне дык каб, скажам, на завод яблыка адно.
Агата ўздыхнула.
— Чаго вы, панна Агата, уздыхаеце?
— Нічога, так сабе.
— Мусіць, сумна чагосьці?
Агата глядзела, як ад усмешкі пайшло ў яго па твары шэсць вельмі сталых зморшчкаў, па тры з кожнага боку, і схаваліся яны канцамі сваімі ў вясёленька падкручаных вусах.
— На фэст, панна Агата, не збіраецеся?
— Не думала яшчэ. Можа і пайду.
— Можа разам пойдзем?
— Будзем бачыць.
— Сядайце, панна Агата.
— Дзякуй, у сваёй хаце можна пастаяць.
І тут яна падумала, ці не сказала чаго лішняга, можа

за тон гаворкі яе пакрыўдзіцца кавалер. Тады ветліва, наколькі льга было, усміхнулася:

— Вы таксама нейкі сумны.

— Не, чаго ж я. Сядайце.

Ён устаў з доўгага памалёванага столка і паставіў яго каля яе. Агата села. Ён сеў поплеч яе, заглядаючы ёй у вочы.

— Пра што вы думаеце?

— Вам трэба ведаць?

— Трэба.

— Нашто вам ведаць?

— Панна Агата...

— Што?

— Эх, панна Агата...

Падсунуўся бліжэй, узяў пад руку, пацалаваў яе кароткія пальцы. Казлытнуў вусамі яе цудоўную шыю.

— Панна Агата, панна Агата...

Яна выцягнула з яго рук сваю руку, адсунулася далей.

— Панна Агата!

Губы яго трасліся, вочы зелянелі нерухомымі іскрамі, твар чырванеў.

У сенцах затупаў Фэлька, увайшоў у хату. Агата пайшла ў мыцельнік, за перагародку з цалёвак, нібы мыць міскі.

Зыгмусь Чухрэвіч расказваў Фэльку:

— ...Дык я і кажу яму перад усімі — гад ты, кажу, печаны, хамула ты дурное. Хамут! Чым ты, кажу, хвалішся? Што за тры рублі абармотам зрабіўся?! Знайшоў чым хваліцца, выбачайце за слова, дурніла. Я яму так і сказаў. Не сцерпеў.

— Каму гэта? — трасучыся ад незразумелай крыўды, болю і тупой цяжкасці на душы, крыкнула з мыцельніка Агата.

— Асташонку.

Агата кінула міскі, з мокрымі рукамі кінулася на двор. Пабегла ў сад, дзе пад бэрамі сохла капа садовай атавы. Упала галавою ў сена, калоцячыся ад бурных слёз.

## III

Фэлька стаяў у варотах і чэзнуў па чарнавокай Алімпе. Вечар быў цёмны. Агата сядзела каля хаты. Асташонак хадзіў з Алімпаю па вуліцы. Непадалёку каля нечай

хаты гуляў маладзеж. Фэлька не вытрымаў і падаўся да Алімпы і Асташонка.

Пасля дзённага дажджу пахла жвіраватае каменне, маўчалі платы і хаты.

Дзяўчаты і хлопцы заспявалі. Фэлька, Асташонак і Алімпа недзе зніклі з вачэй. Агата пачухала левы локаць, сціішылася каля сцяны. Дзяўчаты на вуліцы зарагаталі. Агата пазнала іх па галасах. Падумала: «Як павыросталі, яшчэ летась у парваных андараках каровы пасвілі, а гэта ўжо з хлопцамі гуляюць». Прыкрасць нейкая находзіла на яе. З'яўляцца пачалі думкі — пайсці ў гурт маладзяжу. Але ўспомніла — няма там аднагодкаў ёй, усе маладзейшыя. Брат Фэлька ніколі не ўпікаў, што сядзіць яна дома, колькі сваталася — ні за кога ісці не хацела, усё па густу выбірала сабе і ніяк выбраць не магла. Хіба ж ён асмеліцца ўпікнуць яе гэтым? А ўсё ж думкі ў яго ўсялякія могуць быць... І чаму якраз Фэлька на думку ўзбрыў, хіба самой ёй нічога гэта не абыходзіць?.. І чаго яны рагочуць так весела, гуляюць гэтак заўзята, гэтыя цыбатыя падлеткі? Можна падумаць, што і сапраўды паненкі цікавыя. Прыкрасць сціснула сэрца. Прыціснулася плячыма да сцяны і чакала.

Гарэла святло ў хатах. Ішла ноч. Маўчала восень у садах і агародах, мёдам пахла павольнае кананне кляновага лісця. Якую ж ноч прынёс верасень!

«Спаць ісці»,— узышоў чэмер думак, але ведала, што не засне.

Далоні рук пачалі гарэць. Ноч схавала ружовасць твару, маўчанне — нервовую трывогу цела.

Дзяўчаты зноў заспявалі. І паважныя крокі скінулі з яе забыццё.

— Панна Агата?

Зыгмусь Чухрэвіч пакруціў вусы і сеў.

— Чаго вы маўчыце, панна Агата?

Падсунуўся бліжэй, памаўчаў і ўзяў за руку. Яе маўчанне надавала яму смеласці. Палажыў руку ёй на плячо. Падсунуўся яшчэ бліжэй, аж прыціснуўся і абняў адной рукою.

— Чаго панна Агата так дрыжыць?

І пачаў цалаваць шыю.

— Панна Агата, панна Агата.

Ад дзікай радасці не памятаў ён, што робіць,— Агата не адсунулася ад яго, як заўсёды, не адабрала рукі сваёй,

а нават, здалося яму, схіліла ў яго бок галаву. І ўжо зусім выразна пачуваў ён, што гарэла яна тысячамі агнёў. З кожнай хвілінай ён рабіўся смялейшым.

— Згалі вусы,— сказала яна.

— Нашто?

— І курыць пакінь.

— Чаму?

— Нядобра чуваць дымам гэтым, перагарам.

Дзве цёмныя постаці з'явіліся на вуліцы — Фэлька і Алімпа. Асташонка не было з імі. І гэта кальнула Агату, пасля ўзрадавала. Фэлька і Алімпа падышлі і селі.

— Добры вечар,— сказала Алімпа.

Зыгмусь астаўся сядзець, трымаючы яе руку, адно адхіліў галаву. Гаворка між імі ўсімі доўга не клеілася. Нарэшце Зыгмусь сказаў:

— Абабраў ігрушы, Фэлька?

Голас яго быў неспакойны, узнерваваны.

— Не ўсе. А ты?

— Таксама. У мяне мала ёсць што абіраць. Вусень, каб ён павыдыхаў, увесну быў увесь сад аб'еў.

Голас яго спакайнеў, шпарка рабіўся раўнейшым. Агата ўздыхнула, забрала ад Зыгмуся руку. Ён хацеў затрымаць, але яна была ўпартаю. Аглянуўся на Фэльку — Алімпа сядзела каля яго нерухома. Але заўважыў ён — Фэлька гладзіць яе руку, зусім не гледзячы ў той бок.

— Дзе ж Асташонка падзелі? — запытаў зайздросна Зыгмусь Чухрэвіч.

— Прыстаў да кампані.

Зноў зачамярэла на сэрцы ў Агаты. «Нашто ён успамінае пра Асташонка? Які нячулы. А можа назнарок? Але дзе яму назнарок, каб і хацеў укалоць — не здагадаецца».

— Трэба ісці,— сказала Алімпа.

Устала і развіталася з Агатаю і Зыгмусем за руку. Фэлька пад руку павёў яе. Ноч маўчала, прачышчаючы неба. Высвечвалі зоры, вырысоўваліся абрысы садоў і хат. Агата ўстала ісці. Зыгмусь узяў яе пад руку. Пастаялі гэтак, і ён сказаў:

— Заўтра атаву забіраць буду.

Ей хацелася зноў сесці, але каб ён пасадзіў яе. А ён стаяў, трымаючы далікатна яе пад руку. Тады яна злосна загаварыла:

— Заўтра атаву забіраць?

— Але.

— А груш мала ёсць у садзе?

— Зусім мала.

— Вусень пааб'ядаў?

— Але, каб ён павыдыхаў.

Ён правёў яе да сянец. У сенцах доўга цалаваў, стала і далікатна, аж пакуль не застукаў варотамі Фэлька. Тады пайшоў, пагаварыўшы трохі з Фэлькам на двары каля сянец. Счакаўшы, пакуль Фэлька ўкладзецца спаць у каморы, Агата яшчэ выйшла на вуліцу. Маладзеж разыходзіўся. Дзяўчаты шапталіся, і невыразны шэпт іх далёка чуваць быў у чулай цішыні вераснёвай ночы. Чуваць быў там і вясёлы голас Асташонка. Агата моцна назнарок кашлянула і пачакала. Пэўна, чуў ён, але не падышоў. Агата села на лаўку, пачакала, пакуль там усе разышліся. Асташонак зусім знік з вуліцы. Усё сціхла. Хоць бы Зыгмусь Чухрэвіч падышоў яшчэ! Агата зачыніла вароты і пайшла спаць у адрынку на канюшыну. Доўга не магла заснуць; чухала пад пахамі, папраўляла пад галавою падушку. Цвыркалі ў канюшыне конікі, і за шчыльнаю сцяною з смольных аполкаў часта ўздыхала цельная карова.

## IV

Ралля дробна рассыпалася пад плугам і прыемна халадзіла босыя ногі. Дзіцячая ўсмешка кволага сонца цалавала зямлю. Пахла на полі бульбаю. Парэзаны плугамі бульбоўнік выглядаў з раллі.

Рукі ў Агаты былі ў зямлі. Твар абвязаны хусткаю. Фэлька стала пажартаваў:

— Чаго ты гэтае загары баішся, як ты дыхаць можаш, гэтак абвязаўшыся. Ад цяперашняга сонца загары не будзе.

Агата, як граблася ў зямлі, так, не паднімаючы галавы, адказала:

— От... табе вельмі абыходзіць, цяжка мне ці лёгка дыхаць.

І падумала, што Фэльку можа нядобра чуць гэткі пануры адказ. Тады глянула на яго, усміхнуўшыся. Але ўсмешка была схавана пад хусткаю, і Фэлька ўбачыў адно вочы. Агата зноў сказала:

— На пераносссе рабацінне вельмі ад сонца садзіцца.

— Пераносссе ў цябе якраз на сонцы.

Фэлька запрагаў каня, развязваў вузлы на вяроўцы, абціраў рукі аб картовае галіфэ. Саскроб вострым каменем зямлю з плуга. Ласкава сказаў да Агаты:

— Найму капальнікаў ды за дзён тры выберам. Што мы будзем тут з табою корпацца.

Пасля, пачакаўшы:

— Пакідай, годзе грабціся, усё роўна гэтых двух градусаў да вечара не выбераш.

— Дык нашто ты разараў гэтулькі?

— Паляжаць да заўтра, ліха іх не возьме... Бачыў раніцаю Зыгмуся.

— Ну то што, калі бачыў?

— Вельмі рад... Вельмі... Ён цябе будзе глядзець... Будзе цябе на руках насіць.

— Чаму гэта мяне?

— А ён хваліўся, што ў вас ужо згода.

— Заранне ён да цябе ў швагры лезе, дурны, марцовы кавалер. А ты і ўзрадаваўся...

— Мне што, як хочаш. Я ў чужыя інтарэсы не лезу.

— Як не! Я не бачу, як ты мяне з ім зводзіш? Ты хочаш жаніцца, дык каб я табе не замінала?!

— Агата!..

— Ты думаеш, я не бачу, што тут каля мяне робіцца?!.

— Да душы не, сястра! Ці так, ці так — я неўзабаве жаніцца буду. Ты мне папярок дарогі не стаіш.

Пасля раззлаваўся:

— Дурная ты!

Агата змоўчала.

— Немаведама, з чаго наганяеш сама на сябе жах... Ачамярэлі мне твае гэтыя слёзы.

— Я ніколі слёз не пускаю.

— Дык так усё ныеш.

Цяпер сапраўды ў Агаты заблішчалі на вачах слёзы. Яна сарвала з твару хустку, кінула на драбіны. Каля воч пачырванела, твар зрабіўся непрыгожым. Стаўшы на калені, яна дагрэбла градус. Фэлька ўссыпаў кош бульбы ў воз. Яна атрэпвала спадніцу ад зямлі, выцірала кулакамі вочы і пэцкала зямлёю твар. Фэлька цмокнуў на каня, рушыў з поля. Яна засталася адна, каб ісці наводдалек. Спявалі на полі дробныя птушкі, награвалася сонцам пад нагамі жвірыстае каменне. Чэзла трава на верасеньскіх межах. Тхнула чабаром і піжмаю; дрымотна звінела сухая трава ці то зелле. Спарыш і дзяцельнік гусціліся ля

дарог, цвілі і вялі жоўтыя кветкі на высокіх сцяблах. Яны пападалі між пальцаў босых ног, пакідалі там на нагах галоўкі свае. Агата нагіналася, каб выкінуць іх. Тады мацней пахла верасеньская зямля.

Даўно схаваўся ў лагчыне за ўзгоркам Фэлька з возам, і яна ішла адна сярод жоўтай задумёнасці.

«Фэлька раней прыедзе дадому, пачакае яе ссыпаць бульбу з воза, два мяшкі зверху, пэўна, скіне адзін — здаровы, прыгожы, трохі пануры. І няўжо ён сапраўды стараецца збыць мяне з хаты! Ці не з Алімпаю гэта зладзіў ён, а тая ж ведзьмаватая трохі, дарма што нядаўна каровы яшчэ пасвіла. А за Фэльку яна маладзейшая гадоў на дзесяць, калі не больш. А можа і не яна гэта, можа іншая. Але ж ходзяць разам вечарамі, Фэлька прападаць у яе падоўгу стаў. І Асташонак нечага там трэцца ўсё. Але дзе ён не трэцца, куды ён не ўлезе. Нідзе спакою не дасць. Ніякай сталасці не мае і, мабыць, ніколі чалавекам не будзе. Што за карысць, што малады і прыгожы, калі кручаны і невядома калі пасталее. Яшчэ гатоў і Фэльку напсаваць як-небудзь; і чаго Фэлька не патурыць яго, гада — ходзіць ды хваліцца, што абармотам стаў за тры рублі. Вісус, пошкудзь гэтая... Няхай бы Фэлька браў сабе Алімпу, што яму, маладому, жыць так. І ў хаце ладней было б... Цябе Зыгмусь, кажа, будзе на руках насіць. Зыгмусь хоць стары чалавек, усё ў яго ў парадку, і нікому ён прыкрасці не зробіць, і пальцамі на яго людзі не паказваюць... І кахае мяне. І па-суседску з Фэлькам будзе жыць — усё будзе душа ў душу. Добра ўсё будзе... Бо і праўда — дарэмна я часам на Фэльку сярдую, ён па-брацку ўсё хоча, каб як найлепей. І што я нагавару яму, дык ён усё змоўчыць. Хіба ён кепскі брат? Нічога сабе каторы ўжо год не спраўляе, а мне колькі гарнітураў накупляў. Добры ён, добры. А я крыўджу яго часам, сама не ведаючы, за што. Ён жа сапраўды — калі мяне з хаты збываў? Здаецца ўсё мне. З Зыгмусем з малых дзён дружыць. А каб Зыгмусь быў кепскі, дык хіба ён дружыў бы з ім... А Асташонак... Што там Асташонак!..».

Аднак вострым сумам на момант сціснулася сэрца. І зноў ціхі прастор палявой восені агарнуў спакоем душу.

Плыў водар павольнага канання травы і кветак. Верасень чула драмаў на ржышчы, уздыхаў радасным шэптам кустоў.

## V

Моцна стукалі аб зямлю яблыкі. Пахлі загарэлыя вінёўкі і недаспелыя бэры. Каля платоў расцвітала бабіна лета. Куры склёўвалі садовую макрыцу, у двары каля студні плюхаліся качкі. Каля прыгрэбкі Стасюк адкусваў па дробцы ад хлебнай скарынкі і кідаў курам. Куры хапалі ежу і з зайздрасцю дзяўблі адна адну ў галаву. Тут жа стараліся пажывіцца вераб'і. Кідаючы крошкі, Стасюк гукаў, каму кідае. «Гэта табе, Тадора»,— заяўляў ён старой, валяватай і кашлатай курыцы. «А ты, Рыжы Янaчка, не хватай, калі табе не кідаюць»,— злаваў ён на шчуплага, абскубленага ў бойцы, маладога пеўніка. «Чаму Чарнявы Рыгор не крадзе чужога?» Але Чарнявы Рыгор у гэты час падскочыў Стасюку пад ногі, каб адабраць у Тадоры крошку. Тадора ўцякла, а якраз папаўся Рыжы Янaчка. Дык Чарнявы Рыгор і дзеўбануў Рыжага Янaчку ў галаву, аж у таго замакрэў ад крыві грэбень. Стасюк кінуўся ў плач:

— Цёця Агата, чаму Чарнявы Рыгор, каб ён выдах, Рыжага Янaчку чуць не забіў!

Агата паволі ішла па садзе да Стасюка, жмурачыся ад сонца і смеючыся.

— Якога гэта Рыжага Янaчку? — пытаўся Фэлька, высунуўшыся з сянец з квартаю недапітага квасу.

— Певень гэта ў яго завецца.

Фэлька паставіў квас на лаўку каля дзвярэй, падышоў да Стасюка з свежым тварам пасля святочнага дзённага сну, у новых галіфэ, босы яшчэ. Прыгарнуў Стасюка да сябе, смеючыся сказаў:

— Эх ты, сынку... Байбас ты сваволны.

Пагладзіў па галаве, пайшоў у хату адзявацца, радасны і спакойны. Агата падхапіла Стасюка на рукі, жартаўліва панесла ў сад, цалуючы яго ў бялявыя валасы. Стасюк трапятаў нагамі, вырываўся, весела рагатаў.

— Ах ты, сваволнік. Буслянё ты цыбатае. Малы, смешны ты, Стасюк.... сваволнік.

Выцалавала яго ў твар, у галаву. Пасадзіла на траву, гладзячы па галаве.

— Цёця Агата, яшчэ.

— Чаго?

— На рукі.

— Бачыш ты, пястун. Цяжкі ты.

— А-ай!

Зноў песціла яго, аж пакуль яму надакучыла. Тады пусціла яго гуляць на вуліцу. Перасадзіла цераз нізкі паркан і глядзела, як пабег ён на той бок вуліцы і пыліў па зямлі босымі пятамі. Доўга глядзела на яго. І пайшла па садзе, сумуючы па сваім, няведаным, дзіцяці. Здавалася — усе думкі былі б аб ім і апраўданы сталі б усе трывогі і буры яе нездаволеных шуканняў. Жаданні сталі б выразнымі і даўгавечнымі.

І зноў патрэбна стала песціць Стасюка.

— Стасюк, сюды бяжы.

— Не.

— Бяжы, сыночак... Хадзі.

Выйшла на вуліцу, узяла на рукі. Там жа ў садзе гладзіла яго па галаве, цалавала ўсяго. Трохі здзіўлены Стасюк заплюшчыў вочы, пакінуў смяяцца. Маўчала і яна, тулячы да сябе малога. Пасля павяла ў камору, карміла павідлам і ўсё думала, чым бы яго, малога, узрадаваць.

Фэлька глядзеў з сянец у камору і рад быў гэткай ласкавасці сястры да яго сына:

— Нашто ты яго распешчваеш гэтак?

— А хто ж яго, сірату, папесціць.

Фэлька аб нечым думаў пасля, гледзячы цераз паркан у сад. Потым увайшоў у хату, выправіў Стасюка гуляць і нясмела пачаў гаварыць. Смуглявы твар яго быў нервовым, як ніколі раней, голас — ціхім, немагушчым нейкім. Гаворачы, глядзеў ён на каляровую, вытканую Агатаю посцілку, што паслана была каля стала на падлозе. У вочы ж Агаце ён ні разу не глянуў.

— ...Што ж, Стасюк, добра ты кажаш, сірата... Памерлага з магілы не паднімеш... Як я яе ні кахаў, а нічога парадзіць ніхто не можа... Як гляну на Стасюка, дык і стаіць яна ўваччу ў мяне, дагэтуль забыць не магу... Астаўся малы, небарак, сіратою.

Патроху дагаворваўся да самага важнага:

— Ты ж ведаеш... дагадваешся даўно... Алімпа за мяне замуж ідзе.

Тады Агата крыўду ці зняважу да брата пачула ў яго ж словах:

— А чаму ёй не ісці за цябе? Ты гаворыш гэтак, як бы яна робіць табе ласку, што ідзе за цябе.

— Не, не.

2 Зак. 1144

— Што ж ты... Няхай дзе лепшага знойдзе. Які з цябе ўдавец! Ты сам не ведаеш сябе...

Радасны Фэлька разгаварыўся, але быў вельмі далікатным з сястрою, нават сказаў, што з Алімпаю яны павінны ладзіць, бо Алімпа надзвычайна ласкавая і добрая; што ўся сям'я ў іх вельмі паважная, і Алімпа інакшаю быць не можа...

Доўга гаварыў узбуджаны Фэлька, а яна стаяла каля акна, напроці печы, за няшчыльнаю перагародкаю з пабеленых цалёвак і думала, што брат нечага не выказвае ці не можа выказаць. Можа і сапраўды гэта будзе лепш і для яе, і для яго — што нібыта такі намерылася яна ісці за Зыгмуся Чухрэвіча. І яна будзе мець дзіцё, і яе будзе кахаць і шкадаваць... Зыгмусь Чухрэвіч.

На момант нешта кальнула сэрца. Пасля ўспомніла, як вельмі шмат сваталася да яе, вельмі шмат уздыхалі па ёй, але ніхто не падабаўся, а без кахання замуж ісці не хацела. Так і прайшла першая дзявочая маладосць. І другая на сконе... цяпер жа яна ўсім падабаецца, але ўсе на шмат маладзейшыя за яе хлопцы; старэйшыя ж усе пажаніліся.

Старалася яна перамагчы ўсе вялікія трывогі свае і заспакоіць неспакойнае сэрца.

Неўспадзеўкі думка адна зноў кальнула яе: «Дзіцянё можна мець і не ідучы за Зыгмуся Чухрэвіча. Я ж сама сабе тут у брата гаспадар. Палавіна ўсяго — маё ж тут. Дый Фэлька — слаўны брат, наўздзіў добры і памяркоўны»...

Але ўсё сплывала пад цвёрдым поступам жыццёвых устанаўленняў. І замест бунтоўных думак прыйшоў спакой душы і сэрца.

Фэлька зваў прайсці разам па вуліцы. Падхарошыўшыся перад люстэркам, пакінулі яны Стасюка гуляць з дзецьмі ў зачыненым садзе і пайшлі ціхаю і люднаю пасвяточнаму вуліцаю. Пайшлі да Алімпы і з ёю, каля яе хаты, на вуліцы, селі ўтраіх.

## VI

Уночы быў вецер і дождж і шмат атраслося недаспелых антонавак, вінёвак і бэраў. А назаўтра, у нядзелю, з самага ранку расчысцілася неба і сонца пачало прасушваць зямлю. Атрэсеныя яблыкі і грушы насыпаны былі ў сен-

цах каля сцен і пахлі на ўсе сенцы і хату. У хаце ад гэтага здавалася яшчэ шумней і цясней. Гасцей было цэлае застолле. Фэлька пазваў Алімпу з бацькам і маткаю і Зыгмуся з братам і яго жонкаю. Было падобна на заручыны дзвюх пар. Гаспадарыла каля стала Агата, радасная Алімпа, смеючыся і паглядаючы Фэльку ў вочы, расставіла талеркі і яшчэ нешта памагла Агаце. Агата села за стол пазней за ўсіх. Алімпа сядзела каля Фэлькі. Агата каля Зыгмуся. Пілі вішнёўку, і Зыгмусь паважна расказваў, што гэты год у яго шмат вішань, і дрэнна, што ніхто не здагадаўся паставіць настойкі.

— Каму гэта ў галаў,— таксама павольна дапамагаў яму брат.

— У гаспадарстве ўсё добра і ўсё патрэбна,— падтрымліваў гаворку разбітны Алімпін бацька.

І як падпіў, з радасным захапленнем загаворваў з Фэлькам, ужо, можна сказаць, зяцем сваім, аб чорным Зыгмусёвым жарабцы. Зыгмусь, не спяшаючы, еў вяндліну і ўважліва прыслухоўваўся, што гавораць пра яго гаспадарку. Агата глядзела, як Фэлька глядзеў Алімпе ў вочы, як ружовіў хмель Алімпін твар. Бачыла, як абое яны, падвыпіўшыя, аж млелі адно па адным і не маглі схаваць гэтага. Адварочвала Агата твар на Зыгмуся, а ён слухаў усё, што стары гаворыць пра яго жарабца і зрэдку ўстаўляў слова:

— Але, але, золата, а не конь.

Пасля, як яшчэ выпілі, старыя і жанатыя распачалі агульную гаворку, Фэлька з Алімпаю пачалі ўпаўголаса аб нечым гаварыць, а Зыгмусь старацца пачаў выказваць усім свой погляд наконт коней і садавіны. Агата скоса зірнула яму ў вочы і заўважыла пабабленую скуру ў яго каля вушэй, доўгія шчокі і нізкі лоб пад начэсанымі на яго змочанымі валасамі. Ён глянуў на яе, кіўнуў ёй галавою і зноў узяўся за сваё.

— Зыгмусь,— шапнула Агата.

— Што?

— Зыгмусь.

Ён усміхнуўся, схіліўшы ў яе бок галаву. Тады яна ўбачыла тупую санлівасць яго вачэй і набеглыя ад усмешкі зморшчачкі каля іх. Вусы цяпер не былі падкручаны і, макраватыя, звісалі кончыкамі валасоў на самыя зубы.

— Божа ж мой,— са смуткам уздыхнула Агата.— Зыгмусь, Зыгмуська...

Падсунулася бліжэй і раптам зноў адсунулася: той ужо зноў гаварыў павольна і стала аб тым, як жарабец яго парваў быў раз пута і паўгоняў аўса стравіў.

— Зыгмусь...

— І аўса шкада, і пакуль я злавіў яго...

— Зыгмусь...

— Не так шкоды, як невыгоды... Што?

Агата глядзела на яго абвіслыя вусы і губы. Ён падсунуўся бліжэй, бязвольна неяк усміхнуўся, жуючы, можа нават пустым ротам. «Нашто ён піў, ведаючы, што робіцца гэтакім, як вып'е?!»

— Зыгмусь!

А Фэлька і Алімпа гутарылі ўсё паціху, прыгожыя, радасныя.

— Божачка ж мой...

І раптам устала з свайго месца Агата.

— Куды вы, панна Агата?

Цяпер яна не глянула на Зыгмуся, азірнулася толькі, выходзячы за перагародку ў кухню. «Ісці за яго? І каб дзіцё маё было ад яго? Радненькія ж мае... А божачка!»

Чула тлум за сталом і скрозь усё голас Зыгмуся:

— Агата... панна Агата?

«Які ж у яго голас!»

Сціснула губы, глядзела бязмоўна ў акно. Хіліўся сонечны дзень да захаду сонца, перад вокнамі сад адкідаў доўгія цені. За сталом усё гаварылі. І зноў чуўся Зыгмусеў голас:

— Панна Агата!

«Чаго ён хоча ад мяне?»

— Панна Агата, я іду шукаць вас.

Чула, як шмаргануўся па падлозе ножкамі зэдлік, затупалі Зыгмусевы гамашы.

«Гэта ж ён будзе мець права, а так, калі захоча хадзіць за мной...»

Язык у яго трохі блытаўся:

— Панначка Агата!

І так кружылася ў галаве, а гэта моцна стукнула ў мазгах. Усё заварушылася перад вачыма. Яблынавыя цені і сонечныя лапіны на зямлі заскакалі і пераблыталіся. Закалацілася сэрца і запыла душа выбухамі вострага суму. Ужо на гэты бок перагародкі стукалі Зыгмусевы гамашы. Тады яна кінулася ў сенцы, выбегла на двор. Зачыніла за сабою дзверы. І пабегла на прыгуменне.

«Куды ж мне?!» На прыгуменні Стасюк кідаў палкамі на вераб'ёў.

— Куды ты, цёця?

Думка ў яе з'явілася раптам:

— Да Асташонка. Ідзі скажы ў хаце, што я да Асташонка пайшла.

— І я з табою пайду, цёця.

— Бяжы ў хату, скажы ўсім, што я пабегла да Асташонка. Скоранька бяжы.

Агародамі пайшла спакайней. Калацілася трывожна сэрца, кружылася ў галаве, сплывала патроху ценжар, што гняла душу. Не думаючы, два разы азірнулася на свой сад. Верхавінне груш было ясным і зялёным. Заходзіла сонца.

## VII

Раставала ноч, як Асташонак прывёў Агату дадому. Яны яшчэ пасядзелі на вуліцы, перакідаючыся рэдкімі словамі. Фэлька не спаў — з вуліцы праз акно без фіранкі відаць было, як тупаў па хаце, з расшпіленым каўняром белай сарочкі, у камізэльцы.

— Фэлька,— гукнуў Асташонак.

— Ціха ты.

Фэлька выйшаў на вуліцу, няцвёрда ступаючы разбутымі нагамі, хмельны яшчэ.

— Асташонак, ты?

— Ну як?

— Што?

— Усё.

— Ціха вы, абодва!

Агата ўстала, думаючы калюча ўпікнуць чым-небудзь Фэльку. Маўчалі ўсе трое. Фэлька, трохі збянтэжаны, сказаў:

— Зыгмусь пакрыўдзіўся.

— Зыгмусь Чухрэвіч пакрыўдзіўся! — сказала моцна Агата.— Ты ідзі,— загадала Асташонку.

Асташонак пайшоў, развітаўшыся і з ёю, і з Фэлькам за руку.

«Зараз пачнецца самае важнае,— з сумам падумала Агата.— І няхай сабе пачынаецца што хоча». Пачала шукаць у думках слова, каб укалоць Фэльку.

Але Фэлька падышоў да яе бліжэй, паглядзеў моўчкі ёй у твар і сказаў:

— Ты не крыўдзіся на мяне.

— За што?

— Ты ж думаеш, што я сілком цябе ўгаварваў ісці за Чухрэвіча. А яно не гэтак. Не ідзі ты за яго, калі гэтак не падабаецца ён табе... Хто гэта мог падумаць... Нядобра адно, што пакрыўдзіўся ён, такі ж мы з ім дружылі.

— Адкрыўдзіцца, калі табе гэтак хочацца.

— Я паміруся, толькі ты не ўмешвайся больш у гэтую справу.

— Я ніколі не хацела ўмешвацца.

Слёзы душылі яе, і яна пачала плакаць, сеўшы і прыпершыся плячыма да сцяны. Фэлька сеў каля яе. Палажыў руку на плячо, хмельны і расчулены, пацалаваў сястру. Яна плакала ціха. Пачынала світаць. Выплакала свае слёзы, рабілася ёй лягчэй.

— Кінь ты, не плач. Усё скончылася. Хіба нам кепска жыць на свеце?

— Бяры ты хутчэй сваю Алімпу.

— Чаму ты гаворыш?

— Хачу табе дабра.

Зноў брат пашкадаваў яе, пагладзіў па галаве. Яна ўстала. Стала на паўзмрочнай вуліцы — прыгожая, здаровая, моцная. Высыхалі на вачах апошнія слёзы, хараство жаночай усмешкі расцвітала на твары. Фэлька стаў поплеч з ёю:

— Заснуць з гадзіну трэба яшчэ.

— Ідзі.

— А ты?

— Зараз іду.

Засталася на вуліцы адна.

Яснела неба, віднела на зямлі. І шкада стала ёй, што адправіла яна так хутка дадому паслухмянага перад ёю Асташонка.

Паволі пайшла ў двор, поўная жаночага хараства. Ледзь прыкметна ўсміхнулася — як на ўсходзе заружавеў гэты першы прамень маладога сонца.

Ападалі і пахлі ў садзе грушы. Усход рассцілаў бяліць ружовыя палотны.

# ВЕСНАВЫЯ ДАРОГІ

Глыбокія сляды гадоў і вякоў. Курганы на полі параслі ядлоўцам. Ядловец здаецца ўсё гэтакім жа самым, нязменным і лета, і зіму. Гады, дзесяткі год. І ніводнае ж іголкі няма на ім ранейшай. Іголкі асыпаюцца непрыкметна, сохнуць на кургане і гніюць. Ядловец зялёны і зялёны. Вясна адно што ахутала яго парнасцю вільготнай раллі. Пакуты людзей, што згнілі ў курганах пад цяперашнім ядлоўцам, слёзы, што былі выплаканы сотні год таму над імі,— забыліся. Нічога няма, апроч ядлоўцу на курганах.

Магілы пры дарозе. Дарога глухая, лясістая, палявая, узгоркаватая і лагчыністая. У лагчынках — незагачаныя грэблі. На людзях, што ў магілах пры гэтых дарогах, слёзы яшчэ не выплаканы: боль яшчэ не прайшоў. Нават яшчэ калёсы ўцекачоў-выгнанцаў, паламаныя, рассохлыя, без шынаў, далежваюць свой век у кутках двароў прыдарожных гаспадароў.

У дварах начамі брэшуць сабакі.

Начамі над лесам усходзіць поўны месяц. Лес пад месяцам — чорны і повен чулай цішыні. Але лес далей. Бліжэй — да ўцекачоўскіх магіл — чатыры хаты. Каля хат пахне кастрыца, што не прыбрана пасля зім з-пад сцен і вокан.

За паўвярсты якой ад хат скрыжаваліся дзве дарогі. Там гэта і магільнік той уцекачоўскі, выгнанскі. Над адной, дагледжанай, магілай — нізенькі спарахнелы крыж. Па другім баку дарожнага скрыжавання — размытыя веснавою вадою глінішчы.

Лес далёка — зялёная густая сцяна, а над ёю ў ветравыя дні ўстае раскудлачанасць хмар. Калі ў месячныя ночы брэшуць сабакі, рэха гулка ходзіць каля лесу.

У ветравыя ж дні і хвоі шумяць. Нават і ў неветравыя над узгаркаватым полем, каля лесу, стаіць роўны хваёвы шэпт.

Хвоі гавораць.

Чаму гэтак ціха гавораць хвоі?

Ідзе вецер. У ясны дзень, веснавы дзень, ідзе вецер.

Вецер ідзе з-за лесу, з-за лясоў, з-за тумановых, дымных, балотных, палявых далягляд аў. Шырокіх — як сягануць вокам.

Некалькі хвояў — наводдалек лесу, на полі пры самай дарозе. Тут ветру латва густа біць у купчастае голле і напорна згінаць яго. Улетку тут і скрозь цвіце чабор. Скрозь пах жыта і аўсоў чуваць чабор.

А ўжо з самай вясны на прыдарожных хвоях садзяцца дробныя каршакі азіраць свае дарогі.

Глухата якая!

. . . . . . . . . . . . . . . .

Чабор пахне на межах і вясною, яшчэ да цвету свайго.

А ў крайняй з чатырох хат ён пахнуў і ўсю зіму, сухі, старанна завязаны ў палатнянай торбе. Вастраносы дзед зімою менш ужываў яго, а калі ў красавіку пайшла халодная вільгаць, часцей ён прасіў дачку:

— Напар ты мне, Юлька, чабру і сягоння.

Адкашліваў харкавінне і яшчэ гаварыў:

— А калі застаўся ўчарашні, дык падагрэй.

Юлька адказвала:

— Навошта яго гэтак ашчаджаць, дабро гэтакае. Хопіць і свежага, не канечне пракіслы ўчарашні піць.

— Можа і гэтак,— згаджаўся вастраносы дзед, тупаючы па хаце. І ішоў калыхаць унучка:

А-а-а-а, мой каток,
А-а-а-а, варкаток.

І ўсю раніцу, кашляючы, плюючы ў жвір каля парога, спяваючы малому, пaглядаў у печ, чакаючы чабру.

Чабор студзіў на акне. А Юлька гаварыла:

— Пі гарачы, дык кашаль хутчэй пройдзе.

А ён не згаджаўся:

— На гарачы многа цукру ідзе, а дзе тут яго набрацца; я цёплага нап'юся.

Калі чабор рабіўся цёплым, ён даставаў з паліцы паперку, а ў паперцы заверчаны былі два кавалачкі цукру.

Адкусваў драбок цукру, трымаў пад языком і выпіваў шклянку чабру.

І зноў ішоў калыхаць унучка:

Пайшоў каток у лясок,
Знайшоў каток паясок...

Поле маўчыць. У хаце чуваць, як маўчыць поле. Нават і пагранічнікі-салдаты мала тут калі спяваюць. Спяваюць хіба адышоўшы за вёрст пяць ці далей у вёску.

Тут па дарогах нават і не едзе ніхто. Няма куды і адкуль ехаць. Няможна ехаць. Адно, што выязджаюць на поле. Дык якая ж гэта язда? Узімку і з самай вясны і гэтага няма.

Вастраносы дзед часам устрапянецца:

— Здаецца, прыехаў нехта.

І кінецца да акна. А там — суседскі конь залапатаў капытамі па апошняй замакрэлай мерзлаце і прыпыніўся пачухаць аб вароты шыю.

Хто і адкуль пад'едзе пад гэтую хату? Стары і не чакае...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Другі стары — сусед — прыходзіць да вастраносага пагаварыць. Вастраносы сустракае:

— Выпі, суседзе, шклянку чабру.

— Ат, можна абысціся. Цукар дораг.

— Што там, у мяне два кавалкі яшчэ захаваліся.

— То няхай захоўваюцца. Давай лепш закурым.

Вастраносы ціха пагойдвае за почапку калыску:

Знайшоў каток паясок,
Ды які ж ён чырвоненькі.

Сусед падыходзіць да калыскі:

— Гадуецца?

— Расце.

— Здаровы хлопец будзе.

— Нішто сабе.

— Ад бацькі, мажа, чуваць што?

— Каб ён так жыў, сабака.

— І грошай не прысылае?

— Па рублю цэдзіць. Але што. А гэтая як рыба аб лёд б'ецца, навек абязвечаная. Каб не дзіця — служыць бы куды-небудзь пайшла. Сама кажа. Я пражыў бы як-небудзь. На людзях не прапаў бы, колькі мне трэба.

— Колькі там трэба, то трэба, але што ж ты, пад плотам хіба валяўся б. Чатыры гэтыя сцяны нічога табе не дадуць.

— А няхай бы сабе і пад плотам, мне ўжо ўсё роўна. Дажыў бы век.

— Гаворка.

— От табе і гаворка. Табе здаецца. Цябе ніхто ніколі з хаты не выганяў, ты не ведаеш усяго. А я прыблытаўся сюды да вас, і сам не ведаю, як зачапіўся тут. Ты ж сам памагаў мне без труны старую маю закопваць. Дзякуй табе, што памог, незнаёмаму, выгнанцу нейкаму, валацузе, брадзязе...

Вастраносы нервуецца, крычыць, пачынае кашляць. Ад кашлю чырванеюць вочы, прыпухае твар. Запівае кашаль халодным чабром і гаворыць:

— ...Цяпер ужо і крыж спарахнеў, і дзярном усё зарасло... Хто гэта думаў калі, божа мой, божа. Косці па свеце растраслі. Дажываць веку гэтак... А дзяўчо гэтае згублена навек.

— Яшчэ маладая, яшчэ і шчасце прыйдзе.

— Не дажыву я да яе шчасця. Колькі мне жыць засталося. Мусіць, не суджана мне шчасце бачыць. І дзецям маім. А гэтая небарака...

— Калі неасцярога. Як гэта ісці за невядомага чалавека? Чаго ж ты сам глядзеў?!

— Я верыў чалавеку. А яны любіліся. А тым часам чорт яго ведае... Я не памру спакойна. Небарака Юлька з малым гэтым... От пажыў два гады, а як звольнілі з салдат, дык годзе ўжо...

— А ён жа не звольніўся, здаецца.

— У камандзіры выбіўся. Цяпер ужо іншая яму патрэбна, гарадская можа якая. Тады дык яму і мая дачка добра была, калі пайшла дзяліць з ім салдацкі паёк. Пакруціўся недзе ў свет, толькі яго і бачылі. От прыслаў быў грошай у тым месяцы трохі. Круціцца, пакуль галавы не скруціць.

— Гэта ўсё, каб, кажа, не звязаны быў чалавек.

— Але ж ён не павінен выручваць з свайго сэрца вінаватасць перад дзіцём сваім і кабецінай... Хоць гэты от малы — сабачае сіроцтва...

І зноў кашляе стары, і зноў запівае кашаль чабром.

Адкашляўшыся, яшчэ:

— Каб гэта спосаб які, дык чэрці яго матару бралі з

яго грашыма разам. І так цяпер менш пачаў прысылаць. Забывацца пачаў. А то сам жа прыгубіў... Каб быў работнік, мужчына ў сям'і, дык зямлі ўзялі б — даюць, дык як жа ж тут. Яно то і пражывецца, але ад гэтага ўсяго крыўда.

— Асталюецца як-небудзь патроху, уладзіцца і будзе жыць. Дзіця падгадуе, тады лягчэй стане. Знойдзе сабе які-небудзь спосаб. Юлька яшчэ зусім жа маладая.

— Маладая,— гаворыць вастраносы, адкашліваючы харкавінне.

Маўчаць доўга. На дарогах ціха.

Вастраносы:

— Зараз на поле выйдуць.

Сусед:

— Але. Мой хлапец ужо і насенне ачысціў.

Вастраносы падыходзіць да акна і ўглядаецца ў палявую далячынь. Пуста і гола на полі. За дарожным скрыжаваннем шэрая дарога перакапана ровам і скрозь, з самага поля, перагароджана дротам. Ледзь прыкметна постаць пагранічніка на дарозе. Варушыцца далёка, малы, як муха.

Вастраносы ў задум'і:

— Гэтаю дарогай я прыехаў сюды.

Пачакаўшы:

— Бывала, у нас там, дома, у гэтую пару...

І сам над сабою ядавіта кпіць:

— Бывала, бывала!.. Не ўбачу я свайго дома.

Над полем пачынаюць шумець хвоі!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Як жа шумяць хвоі!

Юлька слухае іх і слухае вясну.

Над лесам усходзіць месяц. І лес чорны, як ноч.

Дарогі маўчаць. Нават травой зарастаюць дарогі. Улетку раскашэльваюцца на іх трыпутнік, малачай і мятліца. Але чабор на межах будзе пахнуць мацней за ўсё. Вастраносы стары бацька будзе стаяць, укленчыўшы, на мяжы, высокі, худы, у белым зрэб'і — як старая абязвечаная і гордая птушка,— будзе рваць чабор, запасаць на зіму, каб было чым утаймаваць кашаль.

Тады і заработку больш будзе — жніво, сена, поле, поле! Будуць дзяўчаты, робячы, спяваць. І Юлька з імі.

На дарогах — месячная відната. У хаце — чуваць тут, на двары — стары бацька калыша малога:

Будзем таго ката біць —
Аддай, каток, паясок.

Шумяць хвоі над полем.

У суседнім агародзе нарабілася за дзень. І цяпер гэтак добра даваць супакой рукам і слухаць вясну. Пахне зямля, вада, лес. Пахне бярвенне старых хат.

Далёка брэшуць сабакі.

Над полем пачынае ісці вецер.

Стары — чуваць — тупае па хаце. Відаць — глядзіць у акно.

Ідзе вецер!

Белы і малады Юльчын твар глядзіць у віднату вясновае ночы.

Вецер.

Ідзе вецер!

# ЛІСТ ЯКУБА МАЛЬКЕВІЧА

На вуліцы стаялі людзі і гаварылі.

Варывон Вілач, высозны, пануры, згарнуўшы на жываце рукі, разважаў:

— У нас,васпане, заўсёды робіцца гэтак: калі чалавека агорне бяда, калі чалавека прыцісне, дык няма, каб яму паспагадалі. Будуць усе дакопвацца, а чаму, а як, а калі... Я не то што гавару, што от бо, канешне, хоць бы і гэты самы Хведар не вінен. Я гэтага не кажу. Але нашто гаварыць, што ён ужо, васпане, гэтакі гад. Яшчэ невядома, ад чаго яна была памерла. Мала што ён сядзеў. Але патом выразна сведкамі гэтага не паказана. Хто гэта, васпане, бачыў! Можа ён зусім нявінна пакутаваў два гады ў гэтым самым, васпане, допры.

Варывону Вілачу адказваў Якуб Малькевіч:

— Добра кажа, ліха яго тут ведае. Але патом, што ты тутака ні гавары, дык усё роўна, мусібыць, Хведара не апраўдаеш. Я сам на свае вочы колькі разоў бачыў... Колькі разоў на свае вушы чуў... ад людзей чуў...

— То чаму ты, васпане, за сведку не стаў?

— За сведку стаць — дык я не ведаю выразна, але людзі кажуць... і казалі... і цяпер кажуць, што ён яе жывасілам у труну загнаў. Суд жа патом разбіраецца; не можа быць! Ён жа яе і ўзяў толькі для таго, каб, добра кажа, як зямлю абразалі, дык каб больш душ у сям'і было. На чорта ж ён бо канешне браў бы яе з дзіцём! Пажыў быў з паўгода, а тады разлучвацца захадзіўся. Памятаеш?

— Але ж жыў з ёю, не разлучаўся.

— Бо прыперлі, як вужа віламі. Ён думаў так выкруціцца. Адно ж частку падай! Як прыйшлося ёй часць выдзяляць, дык і асеў. Дзеля чаго ён яе браў, як не дзеля таго, каб выгаду нейкую мець. Што, не праўда?

80468

— Чаму не праўда! — абазваліся галасы.

— Пасля ўсё грыз яе, як іржа жалеза, пакуль не забіў.

— Двое дзяцей асіраціў: і сваё, і яе.

— Адседзеў два гады. Гэтакаму каб хаця дзесяць год.

— Я, васпане, за яго вельмі не абстайваю, але... Што мне ён — ні сват, ні брат...

— А так сабе дружака.

— От можа сваяком зараз будзе.

— Гэта ўсё, што хто, васпане, гаворыць... Калі што ў яго і было, дык ён за сваё адпакутаваў... А можа яму самому гарчэй за каго. Што яму ківаць, васпане, туды, дзе ён і сам бачыць. А цяпер ён прападае без сталай гаспадыні. Што ж, сёстры гэтыя дзве на вылёце з хаты — дзякуй богу, абедзве не маладзенькія.

— Можа даўно замужам былі б, каб не гэтакі брат. Можа ніхто і браць не квапіць з гэтакае хаты.

— А што яны вінаваты!

— І старэйшая гэтакая самая. Яна ж і памагала яму нябожчыцу грызці; усё ж і падвучвала, а без падпалу дровы не гараць. Можа б гэта і ёй трэба было з ім разам у астрог сесці.

— А маладзейшая, дык гэтая — чалавечая душа. Пра яе што хто скажа.

— Але, гэта інакшая.

— Жывучы, васпане, і так і гэтак бывае.

— Не ўспеў яшчэ ад астрога ачухацца за першую жонку, як ужо другую бярэ. От ахцак!

— Ды і гэтую бярэ за пасаг... Ты, Варывоне, думаеш, што гэта ён як-небудзь іначай?

— А гэтым сіратам дабра як не было, так і не будзе.

— Дзе ім тое дабро!

— У нас, васпане, калі на чалавека наваліцца бяда, дык усе толькі дакопваюцца яго грахоў...

— А што ж, яго па галоўцы гладзіць?

Варывон Вілач пайшоў. Якуб Малькевіч зноў загаварыў:

— Усё роўна ж і сам сабе бяды нарабіў. Што гэта яму вельмі шчасце самому цяпер вялікае, што два гады сядзеў, што людзі пальцамі паказваюць? Патом не будзе мець спакою ён. А ўсё горла шырокае, зайздроснае, вока няпоўнае. І сам сабе, гад, жытку атруціў, і дзяцей пасі-

рацiў. Колькі б ні сядзеў, усё роўна таго не адседзіш. Што зрабіў — назад не вернеш. Нежывога з магілы не падымеш. Што меў адразу, у маладыя гады ўзяць сабе добрую дзеўку ды жыць, як добрыя людзі, дык от бярэ гэтае пакідзішча.

— Роўны роўнага ўбачыў.

— А Вілачу абы з хаты збыць братаву ўдаву. Гэтаму што!

— А яна ж таксама нікому свайго не перапусціць.

— Што свайго, ёй і чужога мала!

Пасля таго як госці падпілі, у хаце стала шумна. Больш за ўсіх гаварыў Варывон Вілач. Твар у яго быў чырвоны, а голас гучны, з лёгкай хрыпатою.

— Мёртвым неба, а нам, васпане, выпіўка. Пускай, Хведар, чарку да свахі.

— Мае галубочкі, да мяне і першую чарку пускалі, і другую, і... я ўжо ўпілася.

— Што гэта вы?

— Яшчэ адну, цётка Аўгіння.

Сваха піла ўсё з прыказкамі:

— Каб не стаяў над душой сват-прыганяты, вып'ем па пятай. Хі-хі-хі...

Сам Хведар не лішне піў і не лішне пільнаваўся «маладой». На тую ўсё налягала Аўгіння.

— Нешта ж ты, Зося, не п'еш. Ні калі бывае. Пускай гарэлку, не трымай усіх. Няхай людзі вып'юць.

Варывон гаварыў Хведару:

— Мы гэта, васпане, прыйшлі, можна сказаць, у гэтыя самыя аглядзіны так сабе. Што мы ў цябе ў хаце ніколі не былі, ці што? Мы гэта ў госці прыйшлі, а не ў аглядзіны нават. Што мы не ведаем, як ты жывеш, ці што? Мы будзем, васпане, лічыць, што гэта ты нас сабе ў госці паклікаў. А раз мы, васпане, будзем сваякамі, дык мы з дарагою душою прыйшлі. Дык я ж кажу. Як нябожчык брат памёр, вечны пакой, дык мы ж не былі падзелены, ты ж сам ведаеш. Мы сабе жылі гэтак, як з табою, васпане, будзем жыць. Дык я яму і гавару, калі ён канаў: я, кажу, васпане, твае Зосі не скрыўджу. Яе частка заўсёды будзе пры ёй. І я ад яе не адбіраю нічога і не хачу што-небудзь скруціць. У нас гаспадарка адна. Дам я за

ёю, васпане, кабылу, цялушку і два, васпане, падсвінакі. А там якое драбязы — збожжа ці што сабе яна трохі захоча, дык я цанавацца не буду. Мы памяркуемся.

Хведар зусім ужо адцягнуў яго ад стала.

— Не, браце, ты мне дай не кабылу, а жаробку.

— Што табе гэтая жаробка, яна не лішне складзістая. А кабыла добрых жарабят, васпане, водзіць. Гэта завод!

— Дык і жаробка ад гэтай самай кабылы. А ты кажаш, што вельмі добрыя жарабяты.

— Н-ну, жаробка не ўдалася. Як цявіна. Бывае. Што меў ты, васпане, гэтую жаробку (яна ж як дошка, паглядзі, які ў яе зад!) меў ты браць, дык я табе як добра — гатовую кабылу і... Што табе гэтая жаробка ў вока ўпала!

— Кабыла ўжо ў гадах.

— Ты, васпане...

Але тут сваха падцягнула яго да стала:

— Цераз вас, Варывоне, людзі не п'юць. Пускайце чарку.

Хведар падсунуўся следам за Варывонам і ўсё шаптаў сам сабе разважліва:

— Такі, мусіць, жаробкі не дасць. От як упяўся. Тады няхай хіба яшчэ колькі авечак накіне...

— Накінь авечак,— сказаў ён, падсунуўшыся да Варывона.

— З авечкамі нешта, браце, нядобра. Сам жа ведаеш, пазводзіліся.

Раптам сваха ўстрапянулася:

— А дзе ж гэта паненкі?

— Матыльда, васпане, тут.

І, глянуўшы сабе пад локаць, Варывон не ўбачыў Матыльды.

— Нясу гарбату,— сказала Матыльда, з'яўляючыся ў дзвярах з кухенькі.

— А я бо, васпане, гляджу, у брата, можна сказаць, гэтакі дзень сёння, а сястра ўцякае. А дзе ж Анэта?

— От гэта мне не падабаецца,— устрывожыўся раптам Хведар.— Калі яна маладзейшая сястра ды калі яна за нашымі галовамі была ў хаце за паненку, дык чаго яна яшчэ цяпер тут свае камэды паказвае. Дзе яна дзяецца! Я не пасаромеюся і перад людзьмі скажу.

У Матыльды жоўты і злосны ад прыроды твар яшчэ пажаўцеў:

— Надулася, як смоўж, і сядзіць у бакоўцы.

— Чаго яшчэ ёй трэба? Анэта!

— Ат, можа яна нездарова, пускайце, мае родныя, чарку,— падагнала Аўгіння.

Хведар раптам зноў сеў і прыгнуўся да Варывона:

— Ну то давай нечага будзем канчаць гаворку, трэба ж рабіць які-небудзь лад.

— Я, васпане, не адказен хоць цяпер лад зрабіць... Што ж, Зося засталася бяздзетнаю, малое яе як памерла...

— Гэта то ўсё нічога... Што ты мне пра гэта гаворыш... Пра дзеці ўспамінаеш? Дык што калі ў мяне на руках іх двое — майму чацвёрты год і яе, нябожчыцы,— восьмы год. Што ж з таго! Большы ўжо гатовы пастух. А ў мяне гаспадарка!

— А як, васпане?

— А так што, я ж кажу, мы лішне спрачацца з табою не будзем...

— Не, не, васпане, што не — то не, спрачацца не будзем...

Аўгіння зноў устрапянулася.

— А дзе ж гэта дзеці? Хай бы яны па паўчарачкі выпілі. Шмат не можна, а трошкі — няхай паспытаюць.

Зося адразу выявіла клапатлівасць новай маці:

— Але дзе ж гэта малыя?

Агледзела трохі санлівымі ад гарэлкі вачыма хату і, кіўнуўшы галавою Матыльдзе, вылезла з-за стала. Яна ўжо назвала Матыльду братаваю:

— Хадзем, братавенькая, да малых.

І ўзяла Матыльду пад руку.

У маленькай бакоўцы стаялі два ложкі і памаляваны столік. Скрозь на сцяне вісела адзежа, і вельмі было тут цесна.

На ложку сядзела заплаканая Анэта і трымала на каленях малога хлопчыка. Большы сядзеў на другім ложку, як стары, успёршыся локцямі на калені і падпёршы імі твар. Ён наморшчыў лоб, падняў вочы і глянуў на Зосю і Матыльду. Зося пагладзіла яго па галаве.

— Няхай бы ты, сынок, туды, да таты, падышоў.

І Матыльда падышла да яго:

— Можа ты з'еў бы чаго?

0500

У Анэты зморшчыўся твар. Зося села поплеч з ёю. Матыльда, глянуўшы на яе, сціснула губы.

— Нешта, мусіць, нездарова, Анэта, што сядзіш тут адна?

Зося прыхінулася бліжэй да яе і пастаралася паказаць ласкавай усмешкай шчырае спачуванне. Анэта бліжэй прыгарнула да сябе малога. Тады ўскочыла вёрткая Аўгіння:

— Дайце ж сюды сыночка, няхай жа ён да стала падыдзе. Хадзем жа да таткі.

Яна папрабавала сцягнуць з ложка большага.

— Не хачу!

— Чаму? Чаму ж ты не хочаш?

— Не чапайце яго! — жорстка сказала Анэта.

— Чаму? — шчыра здзівілася Аўгіння.

— Таму...

Матыльда пастаралася ўлагодзіць усіх, каб спыніць гэтакія непаразуменні:

— Няхай бы ты, Анэта, гасцям гарбату падала.

— Добра.

І Анэта выйшла ў кухню. Тады Аўгіння сілком узяла пад пахі большага і падвяла пад гасцей. Варывон Вілач паглядзеў на хлапчука:

— Расце, васпане. Расці, расці, гаспадаром будзеш.

Аўгіння наліла паўчаркі гарэлкі і дала малому. Той узяў і баязліва паглядаў на ўсіх.

— Пі, сынок, пі.

Малы нясмела глянуў на айчыма Хведара, як бы баючыся, што той скажа.

— Пі,— сказаў той, нагінаючыся да Варывона, каб зноў загаварыць пра жаробку.

Усё застолле ўпарта пацвердзіла:

— Пі, сынку.

Малы памачыў губы і скрывіўся.

— Пі, пі.

Малы пацягнуў, белымі худымі рукамі шпарка паставіў чарку назад і моцна закашляўся.

— А-а, трэба было, васпане, разам!

Малы кашляў, цёр кулакамі па твары слёзы.

— Не, жаробкі я, васпане, не дам,— адразу схіліўся да Хведара Варывон.

— А Зося як сама захоча?

— Мы з ёю, васпане, не дзяліліся і не сварыліся...

Анэта прынесла гарбату і ўбачыла: малы кашляў, за ім стаяла Зося і трымала на руках меншага. Аўгіння нешта тлумачыла суседу.

— Хоць бы хто адвёў яго ад стала назад. Нашто яго тут трымаць,— сказала з пагардаю Анэта.

Хведар ускочыў:

— Чаго ты ўсё бурчыш? Чаго ты дзьмешся, сястрыца, на мяне! Што ты перад людзьмі мне брыдка робіш?

— Ціха, васпане.

— Бо я калі добра, дык добра, а як захаджуся, дык...

Зося занесла ў бакоўку малога і прыйшла назад, збянтэжаная.

— Мне як добра, дык добра, а не — дык я не пагляджу.

— На што ты не паглядзіш?

— На ўсё. За шыю ды з хаты, як жабу. Перад людзьмі гавару.

— Няможна, васпане.

— Каб у мяне тут у хаце!..

Анэта не даслухала, моўчкі пайшла ў бакоўку. Матыльда глянула на Хведара.

— Не крычы, Хведарка, што табе здалося...

Яна, відаць, трымала яго руку. Гасцям зрабілася не па сабе.

— Пускайце, пане Варывоне, чарку.

— Я, васпане, не адказен. Здароў будзь, Хведар.

Але ніякавасць гэтак шпарка не прайшла. Зося пайшла следам за Анэтаю, а за Зосяю Хведар.

— Не вартісці, васпане,— зазлаваў раптам, сам не ведаючы з якой прычыны, Варывон Вілач.

— Ты што гэта? — сказаў Хведар Анэце яшчэ здалёк.

— Вам можа што трэба сказаць, братавенькае, ці што...

— Ат,— з'явілася раптам Матыльда,— што тутака лішне браць у шух. Калі ўжо на тое пайшло, дык тут жальга сказаць у адкрытую.

— Але, васпане.

Ён ужо стаяў у дзвярах, вялікі, плячысты, як гара.

— Панна Анэта, васпанна.

— Я не панна і не васпанна!

— Ого!

— Я вас прашу, ідзіце вы і не чапайце вы гэтых малых! Што яны вінаваты перад вамі ці перад кім!

— Ого!

— Што табе не падабаецца?

Анэта закрыла рукамі твар і пайшла. Перад ёю расступіліся ў дзвярах, далі ёй дарогу. Малыя кінуліся за ёю:

— Куды ты, цёця!

— Не ідзі!

— А мой сынок,— абазваўся Хведар,— куды ты, чаго ты, хадзі да мяне. Ідзі от да цёці Зосі, да яе... Гэта ж мама.

— Да мамы ідзі, васпане...

— Цёця Анэ-э-эта,— заплакалі малыя ўдваіх і кінуліся бегчы.

Анэта ўжо стаяла ў кухонных дзвярах.

— Яны баяцца чужых людзей,— сказала Матыльда.— Анэта, куды ты?

Дзеці сталі каля Анэты.

Хведар ірвануўся.

— Анэта, што гэта?

— А гэта што? — крыкнула Анэта.— Ты думаеш, дзеці нічога не ведаюць? Ты думаеш, яны не ведаюць больш за цябе? Ты думаеш, яны не бачаць, што ты за бацька? Што каля іх робіцца?! А ты памятаеш, як гэты большы крычаў і людзей ззываў, калі ты біў яго маці? Можа ты яго навек скалечыў гэтым самым. Можа ён іншым цябе і не можа бачыць, як з узнятым паленам над яго нябожчыцаю маткаю. Можа тое, што ён убачыў тады, навек сядзіць у яго сэрцы і, колькі ён будзе жыў, ніколі не вытравіцца з яго. Што ты тутака развёў гандаль перад імі — цераз гэты гандаль і тады сям'ю раскідаў і цяпер моцнай не зробіш! Як тады было не вяселле, а нейкі гандаль, дык і цяпер тое самае. Не навучыў цябе і астрог; хоць бы ты малых дзяцей пашкадаваў...

— Што ты мяне, гадаўка, сарамаціш перад усімі людзьмі...

— Я табе гэта і без людзей гаварыла, кожны дзень дзяўбла табе ў галаву, што зноў пасля пачнецца калатня ў хаце, толькі што тады гатова больш сірат застацца.

— А божа ж мой,— заплакала Зося.

— Васпане Хведар, што гэта робіцца?

— Ці ты ж не бачыш, што ён цябе бярэ не як жонку, а як пасаг. Яму ж мала, яму ж — ён і сам не ведае, колькі яму трэба, каб утхланіць сябе.

— Анэта!

— Гэты большы — дык можа і не дзіва гэта, што ён

цябе баіцца. Але тваё дзіцянё — чаго гэта яно ад цябе ўцякае, чаго гэта яно дрыжыць перад табою...

— Ты нагаворваеш дзецям на бацьку, ты сама адбіваеш іх ад мяне!

— Што ты робіш з свае хаты?!

Варывон адцягнуў Хведара да стала і сілком пасадзіў на лаву. Госці заварушыліся; Аўгіння выціскала слёзы і цёрла далоняю сухія вочы. Твар у Матыльды больш яшчэ пажаўцеў, і сціснутыя губы зрабілі яго больш худзейшым.

— Дзеці, васпанна, доўга не бачылі яго і яшчэ не прывыклі.

— І не прывыкнуць ніколі. У дзіцячую душу што западзе, ніколі, колькі і жыць будзе чалавек, не вытруціцца адтуль.

— Дык як загадаеце, васпанна Анэта, брату свайму Хведару: жаніцца яму ці не. Хэ-хэ-хэ! А нам як: пабыць яшчэ тут трохі ці зараз жа выносіцца з хаты?..

— Чаго ж ты маўчыш, сястрыца мая, можа чакаеш, каб я цябе папрасіў?

Зноў яго сілком абсадзілі на лаву.

— Хэ-хэ-хэ, мы не ведаем, што нам рабіць, васпанна.

— Што рабіць? Зараз жа вон адгэтуль усе! Усе зараз жа!

— Божа мой,— залілася слязьмі Зося, стукнуўшы локцямі аб стол.

Хведар быў белы як палатно. Губы яго сціскаліся і дрыжалі. Дзеці трымаліся за Анэту і плакалі.

— Ты думаеш пра дзеці ці не?

— Гэта каб падзякаваць, мусіць, мне, што я іду гадаваць чужыя дзеці,— закрычала Зося, выбегшы на сярэдзіну хаты.

— Можа ты і дабра ім хочаш, але як гэта ўсё робіцца!

Варывон Вілач ужо ўсцягваў на плечы кажух. Але адразу, адумаўшыся, уздыхнуў і сказаў да Зосі:

— Ціха, пляваць на ўсё.

І да Хведара:

— Ты тут гаспадар ці хто? Каб гэта на мяне, дык я тут доўга лішне не глядзеў бы, а адразу...

— Што адразу? — крыкнула Анэта.

— Каб больш я твайго слова не чуў! — кінуўся да яе Хведар.

— Не, будзеш чуць!

— Дай сюды хлапца. Мой сын, я над ім бацька.

— Ты бацька яго, але не над ім.

Ён адарваў ад яе меншага хлапчука і панёс на руках. Хлапчук немым зайшоўся плачам. Анэта з большым зачынілася ў кухні.

Варывон Вілач усё ж усцягнуў на плечы кажух і падаў вялікую хустку Зосі.

## ЛІСТ

Як два разы жаніўся Хведар Тамілоўскі, вёска Канатопшчына, Бабелянскага раёна. Я чалавек просты і невучоны, дык не вельмі складна апішу, як жывуць малыя дзеці і ўся іх сям'я, але затое чыстую праўду скажу. Эх, горка і кепска жывецца бедным хлопчыкам без роднай маткі! Гэта ў Хведара Тамілоўскага. Дык адзін большанькі хлапчук, можа яму гадоў якіх сем або восем — не Хведараў, а яго жонкі, якую ён забіў, за што і адседзеў два гады. А меншы — родны сын Хведараў, і яму можа якіх год тры ці трохі больш. Забіў Хведар жонку з зайздрасці і ўзяў ён быў яе дзеля выгады, а жыць з ёю не хацеў. І гэтыя два хлапчукі за свой кароткі век вельмі ж гора, небарачыны, ужылі. Няма ў іх цяпер ніякага скутку, ці як тут сказаць, каб ім прасветлую гадзіну мець. У Хведара дзве сястры ёсць, дык старэйшая, Матыльда, спрыяе Хведару, гэтакая самая, як і ён, наглая і ненаедная. А маладзейшая, Анэта, толькі і ёсць абарона гэтых малых. Яна нейкі, можна сказаць, вырадак ува ўсёй іх сям'і, не падобна на ўсіх іх. Ёй і самой дрэнна тутака жыць пры гэтакім браце. Як ён у астрозе сядзеў, дык яна за мужчыну была і на полі, і дома. А гэтыя малыя нават жыццём сваім рашалі, плакалі і рыдалі, калі бацька жаніўся. Большы — ён жа ўсё ўжо ведае. Пра яго гэта я і хачу напісаць, бо меншы то гэты яшчэ як воск, што з яго хочаш, тое і зробіш. Ён яшчэ нічога не ведае і лепш, можа, каб і не ведаў. А большы ўсё змалку дзён сваіх уведаў, на няшчасце сваё. Калі Хведар Тамілоўскі жаніўся, дык пад акном народ стаяў, і некаторыя рагаталі з гэтага вяселля, бо ён ізноў узяў з-за выгады і набраў пасагу чорт што. Дык ізноў у хаце з гэтаю Зосяю ў яго дабра не будзе. А большы хлапчук, не Хведараў, а той, першай яго жонкі, як дзікі нейкі і як бы скалечаны застаўся. Пра гэта я

колькі разоў чуў ад самое Анэты, якая за малых вельмі абстайвае, а пасля я пачаў сам прыглядацца — адно ж праўда. Тады я ўспомніў, што яшчэ як ён быў меншы, дык як Хведар біў раз на панадворку паленам яго маці нябожчыцу, дык я прыбег па-суседску ратаваць. А малы гэты стаіць каля платца і дрыжыць увесь. І нейк не па-людску глядзіць. Можа ён тады нічога не бачыў больш, апроч гэтага палена, якое біла ў плечы яго маці. З таго часу ўжо колькі год прайшло, а ён часта гэтаксама глядзіць. Памятаю, калі яна, маці яго, колькі дзён была непахаваная — усё следства вялі,— дык ён не адыходзіў ад яе нежывой і гэтаксама глядзеў. Не плакаў, а глядзеў гэтак страшна. Я па-суседску прыйшоў зняць з яе мерку, каб труну зрабіць, бо я сталяр, а ён стаіць і вокам не змігне. Дык мне самому стала страшна ад гэтага яго зірку. Вялікі жаль агарнуў маё сэрца, і з таго самага часу я калі ўбачу яго, дык маё сэрца крывёю абліваецца. Бо я і сам, сказаць, гледзячы на яго, успамінаю, як я гадаваўся. Я, просты чалавек, і не ведаю, што са мною часамі робіцца. Паеду араць і ўспомню гэтага хлапчука; дык жаль душу агорне, і, пакуль забудуся, дык хоць немаведама дзе дзецца. Гэтаксама і з яго цёткаю Анэтаю, сама гаварыла; за гэта яе ў хаце і не любяць. А гэтыя людзі ў іх у сям'і жывуць сабе — ядуць, п'юць, спяць, робяць, сварацца і нічога не бачаць і нічога гэтага не ведаюць, што можа быць усё гэта на свеце. А гэты хлапец нешта ўсё як бы бачыць і маўчыць. Нешта з яго будзе, калі ён вырасце. Дык от я і хачу тут напісаць вам, дарагія таварышы, у рэдакцыю газеты (бо я не ведаю, куды больш пісаць пра гэта), каб можа якая апека была над гэтым хлапцом, ці што, а то вельмі ж і цяпер яму нясоладка жыць. А яшчэ каб які-небудзь закон быў, каб прыглядацца, калі судзяць, да таго, напрыклад, што Хведар зрабіў з гэтым хлапцом, калі біў і забіў яго мацеру, бо сядзець у астрозе то ён сядзеў два гады, але што гэта памагло? Ён мог пасядзець і адзін месяц, і дзесяць год, і адно ўсё роўна было б. І яго калі засуджвалі, дык толькі і ўспамянулі, што хлопца асіраціў. А можа ён зрабіў з гэтым хлапцом нешта больш! А можа ён яго зрабіў гэтакім, што ён колькі будзе жыць, дык не будзе падобным на ўсіх. Можа ён будзе бачыць на свеце і ў людзях больш, чым усе; будзе бачыць і ведаць тое, чаго ўсе навокал яго не бачаць і не чуюць. Ён будзе разумнейшым за ўсіх. Ён будзе бачыць навылёт усіх людзей, а яго

не будуць бачыць, і ведаць, і разумець, што ён гаворыць, і ўсе як ёсць будуць не толькі смяяцца, а аж здзекавацца над ім. Можа ён сярод тых людзей, што без розуму і сэрца, будзе, як трава на дарозе. Бо разумнейшаму чалавеку, таму, хто больш бачыць за ўсіх, хоць прападай сярод усіх. Гэта заўсёды было і ёсць, можа хіба пасля не будзе. Сярод усіх калі будзе адзін гэтакі, дык няма каб у разумнейшага вучыцца, дык яшчэ, яго абсаджваючы, смяюцца, крыўдзяць, каб ён от, канешне, быў гэтакі самы без розуму і сэрца, як яны самі. Можа я не гэтак усё гавару, як трэба, можа нягладка ці цяжка, але я чалавек просты. Хоць і бываў шмат дзе на свеце, але мала вучоны; можна сказаць не вучаны, а мучаны. Трэба яшчэ, каб бралі на ўвагу тое, што гэты хлапец, калі нават пад'еўшы і адзеўшыся, усё адно мучыцца сэрцам сваім, бачачы заўсёды ў вачах сваіх, як дрыжаць губы і твар у яго мацеры, калі яе паленам забіваюць. На гэтым я канчаю. З тае самае вёскі Якуб Малькевіч.

# СПРАВА ВІКТАРА ЛУКАШЭВІЧА

## 1. Гр-ну Марынковічу

«...Я тады спакойна быў выслухаў вашу казань, шаноўны грамадзянін Марынковіч, мала што гаварыў вам у адказ, бо мне вельмі дораг мой час, і я не магу траціць яго на дыскусію з вамі. Таўчэце сабе вы, колькі ўлезе, ваду ў ступе, а мяне ў гэтую работу не ўцягнеце. Спрачацца ж з вамі — гэта значыцца таўчы ваду ў ступе.

Вы не маеце зусім ніякіх прынцыпаў. Вы — верхагляд. А іх бязлітасна адганяе ад сябе ўсялякая справа, калі яна толькі сталая справа, а не вада ў ступе. Але калі ўжо ўсё пайшло шырэй, калі ўжо вы, страціўшы ўсялякае сумленне, палезлі ў друк, дык цяпер я не магу маўчаць.

Вы карыстаецеся вельмі простым і можа ў наш час выгадным, але брыдкім метадам змагання са мною. Вы ўсё ж самі ўпэўнены, недзе глыбока, на дне свайго думання, што не гэткаю з'яўляецца ўся гэтая справа, як вы яе размалёўваеце і як вам выгадна, каб яна была. І таму вы выдумляеце тое, чаго зусім не было, і перакручваеце наадварот тое, што было. Гэта вы ўсё рыхтуеце на ўсялякі выпадак, а пакуль што, паводле свайго метаду, гаворыце пра мяне гэтак, што само слова напрошваецца на язык — «свядомы контррэвалюцыянер». Дзе ж там! Спрабаваў сарваць агульны сход! У гэтай вашай газетнай запаметцы яшчэ гаворыцца, што я ўвесь час і да гэтага сходу стараўся зрываць грамадскую працу. Адным словам, усё як мае быць. Найлепшы метад. Ніякіх доказаў няма, абсалютна. Ды яны і не трэба. Вам што! Вы схаваліся за псеўданім — «Рабочы». Як вы любіце казыраць гэтым словам і адурачваць гэтым таго ж самага рабочага! Для вас слова «рабочы» — гэта прылада для заработку. Вы казыраеце сваім пахаджэннем! Толькі не перада мною вам казыраць ім! Вы ўсюды тыцкаеце сваю «рэвалюцыйнасць». А на справе,

што для вас сама рэвалюцыя? Гэта такое ўстанаўленне на свеце, на якім вашаму брату вельмі зарабляць добра можна. Гэта сродак з якога-небудзь унтэр-афіцэра зрабіцца добрым савецкім начальнікам, і калі ўдалося ўшыцца ў партыю, дык браць партстаўку ці, прынамсі, дамагацца яе, арганізоўваць усялякія закулісныя авантуры і плёткі, палітыканства лічыць за палітыку, ухітрацца пускаць усё гэта «па партыйнай лініі», жыць у вялікім горадзе, лавіраваць, каб не папасці куды-небудзь у глуш, кожны год ездзіць адпачываць на поўдзень (бо вы ж за год працы стоміцеся!), часта мяняць жонак (бо рэвалюцыя ж раскідала старую сям'ю і дала савецкаму грамадзяніну волю!), псаваць мову беларускай нацыі не вывучэннем яе, а канцылярскай «беларусізацыяй» на 100 прац., выслужвацца перад начальствам, трубіць усім у вушы сухія лозунгі, ператвараючы ў іх жывое слова рэвалюцыі, гаварыць на сходах агульныя, «вытрыманыя на 100 прац.», фразы — от і ўсё. От і існасць для вас рэвалюцыі. Выгадная штука гэтая рэвалюцыя! Ці ж не праўда? Можна жыць і бога хваліць (лепш усяго гэтую старую прымаўку асучасніць, і каб яна была ідэалагічна вытрыманая — «можна жыць і рэвалюцыю хваліць!»). Але вы гэта сябе лічыце рэвалюцыяй, і ўся ваша «рэвалюцыйная» дзейнасць накіравана на тое, каб гэтая прымаўка гучала на свеце так: «Можна нам усім жыць і рэвалюцыянера Марынковіча хваліць». Толькі не для мяне гэтая прымаўка! Я не хачу нікога хваліць і не хачу, каб мяне хто хваліў. На алялюях далёка не заедзеш. Каб я хацеў займацца тратай часу, я мог бы разварушыць і вашу асобу, калупнуць ваша жыццё. Тады паглядзелі б, як бы запахла.

Перад вамі я не апраўдваюся, але патрабую сказаць выразна — у чым жа мая контррэвалюцыйнасць? Няўжо ў тым, што я прапанаваў зусім не тое, што хочаце вы? Амбіцыя?! Хацеў сарваць ваша і правесці сваё? Дык што ж, калі я меншы «начальнік», дык перад вамі не маю голасу? Мне забаронена думаць? Але ж я ўпэўнены, што вы і самі не гэтак думаеце, самі для сябе. Але вам трэба была прычапка, каб памсціцца мне, каб выжыць мяне адгэтуль. І што ж тады? Тады ўжо ніхто ніколі не будзе перашкаджаць вам, падфарбаваўшыся ў чырвоны колер, прыкрыўшыся рэвалюцыйнымі лозунгамі, сесці сваім шырокім задам на ўсялякую жывую справу. І сядзець так, паводле вашага ж уласнага, ні то жартаўлівага, ні то

сталага, выслоўя: «Як бог у нірване». Я каб быў карыкатурыстам, я намаляваў бы вас у нірване. Як-небудзь паказаў бы шмат усяго жывога, дзейнага, маладога, радаснага. І на ўсім гэтым паважна супачывае шырокі зад.

Я не магу больш быць спакойным. Шырокаму заду я не дамся. Я моцны, раны мае пасля вайны з палякамі ўжо зажылі, і я зноў гатоў да паходу. І ў паход іду супраць хатняга шырокага зада. Бо рэвалюцыя не для таго, каб вызваліць раней прыгнечаны худы зад, выкарміць з яго зад шырокі і пасадзіць у «рэвалюцыйную» нірвану. Нірваны ў нас няма! Рэвалюцыя вызваліла не зад, а галаву. І наша бяда, што не ўсе ў нас навучыліся яшчэ бачыць, дзе галава, а дзе зад. Няма чаго выдумляць паклёпы на мяне за тое толькі, што я ўзняўся супраць усяго гэтага. Калі я захачу паглядзець камедыю, дык пайду ў тэатр, а тут мне не да гэтага. Не хачу зводзіць усё да гульні ў цацкі. Я калі і малы быў, дык у цацкі не лішне гуляў. Каб у мяне хоць кропля была павагі да вас, каб хоць кроплю бачыў я ў вас чалавечнасці, нашай чалавечнасці, я мог бы расказаць вам пра тыя «цацкі» жыцця, якія спаткалі мяне з малых дзён маіх. Але не для вас мая споведзь. Нават калі здолееце ўплішчыцца ў камісію па чыстцы апарату, калі вы нават якім-небудзь нахрапным парадкам станеце за старшыню гэтай камісіі, і тады я ніводнага слова не скажу вам з сваёй споведзі. Лепш быць выкінутым на вуліцу, чым спавядацца шырокаму, падфарбаванаму пачырвона заду.

Я той чалавек, якога вы сёння ў савецкім друку, перад усёй краінай рэвалюцыі, абазвалі контррэвалюцыянерам, выступаю на абарону рэвалюцыі! Каб абараніць яе ад вас. Няхай мяне застрэляць ці павесяць, няхай хоць нада мною які-небудзь паказальны судовы працэс вы зробіце, усё роўна я не адступлюся ад свайго.

Я не веру ў вас. Я веру толькі ў тое, што каб не вы, дык мы лягчэй ішлі б наперад. З-за той справы, пра якую тут не месца ўспамінаць, з-за той асабовай нашай справы вы робіце на мяне паход, пераверўшы ўсё на партыйную, на грамадскую, на савецкую, на рэвалюцыйную, на ўсялякую, якую сабе хочаце, лінію. Што ж вы робіце з самім разуменнем рэвалюцыі?! Што вы зрабілі ўжо? У што вы ператварылі яго?!

У сваім паклёпе на мяне, які вы надрукавалі сёння ў газеце, вы гаворыце: «...Віктар Лукашэвіч даўно вядомы

як варожы нам элемент. На адкрытым пасяджэнні н-скага мясцкома перад усімі работнікамі прадпрыемства выступіў з сваёю контррэвалюцыйнаю прапановаю. Ён прапанаваў зусім к святу не ўпрыгожваць клуба, святочнай вечарынкі не ладзіць. І сваім гэтым выступленнем баламуціў сход, так што аж некаторыя галасавалі ў яго руку. І толькі дзякуючы старшыні мясцкома Марынковічу ўдалося правaліць гэтую прапанову, якая імкнулася да таго, каб зусім не было адзначана пралетарскае свята і каб рабочыя глядзелі на гэты дзень без павагі... Такіх лукашэвічаў у нашай працоўнай сям'і не трэба. Іх трэба гнаць у шыю». От што вы пішаце.

...Вы гатовы душыць усё маладое, дзейнае, абы самім утрымацца ў ролі «начальства». Гэта ўжо ўрода ваша гэтакая. І са мною вы зводзіце асабовыя справы, спекулюючы справамі грамадскімі...»

## 2. Запіскі

— Ты пасядзі каля яе, мусіць, ёй лепш, калі хто каля яе сядзіць. Сёння зранку і папаўдні, калі яна ляжала адна, дык усё спакою не мела. Хацела падняць галаву, вадзіла па хаце вачыма і нешта губамі шаптала. Але нічога разабраць нельга і не чуваць.

— У яе і мову адабрала?

— Не гаворыць ужо дзён пяць. Каторы ўжо дзень слова ад яе не чулі... Ты пасядзі тут, у яе ў галавах. А як пачне цямнець, запалі лямпу, у кухні на акне стаіць. Толькі закрыеш чым-небудзь або ўбок адставіш, каб святло ёй у вочы не калола.

— Добра.

— А калі яна пачне варушыцца, калі прачнецца — глядзі,— дык папраў ёй падушку, бачыш, як з'ехала на самы край; але цяпер не чапай, не будзі, хаця каб яна трохі заснула. Трохі сцішылася... І не гаварыце тут моцна. Не пускай сюды адразу знадворку хлопцаў, а то яны холаду нанясуць. Няхай раней у кухні абагрэюцца. Ды глядзі ж, каб не гаварылі моцна, каб яе не будзілі.

— Ведаю... Добра.

— Не адчыняйце дзвярэй у кухню. Калі хлопцы захочуць курыць, дык няхай на двор ідуць. А то як накурылі былі раз, дык яе вельмі ж кашаль душыў. Нават у кухні няхай не кураць махорку гэтую сваю. Я ім заўсёды га-

вару, і яны заўсёды забываюцца; вельмі ім у галаве!.. Не адыходзь ад яе.

— А калі ты вернешся?

— Буду старацца справіцца як найхутчэй... На змроку хлопцы будуць жывёлу паіць, дык скажаш ім, няхай вядзёр з тры вады ўльюць у кухні ў цэбар; як прыйду, дык папалашчу бялізну — сёння раніцою, палячы ў печы, памыла.

— Дык можа я папалашчу цяпер, пакуль ты прыйдзеш?

— Не, ты сядзі, не адыходзь.

— А калі быў доктар?

— Даўно, тыдняў мо з чатыры, як быў. Лякарства тое самае раз у аптэцы бралі. Гэтак сказаў быў.

— Памагае?

— Сама ж бачыш, дзе яно памагае!

— Можа б яшчэ пазваць доктара?

— Можна і пазваць, але што за карысць. І так відаць, што ніякай паправы не будзе.

— Сястрыца, ціха, не плач.

— Нічога... Мамачка-а-а...

— Ціха, ціха, ну ідзі... Сама ж казала, каб не будзіць яе.

— Ужо нічога, гэта ў мяне ад слабасці. Ужо чатыры ночы не спала каля яе.

— Дык ты не ідзі, калі ты гэтакая слабая, нашто табе ісці канечне. Можа б пайшоў Віця?

— Ён пайшоў бы, каб мароз не гэтакі вялікі.

— Ён холаду гэтак баіцца, ці можа нездароў?

Тут адбылося кароткае маўчанне, пасля якога:

— Няма ў яго ў што апрануцца. Ён у летнім фрэнчы ходзіць. Памятаеш?

Зноў адбылося маўчанне. Яно было як жарства пад голымі каленьмі малога дзіцяці.

— А можа заўтра пайсці — ты за ноч набярэшся сілы, паспіш. Я ж буду сядзець тутака.

— Не, мне добра будзе прайсці марозам. Галава пасвяжэе. І палатно сёння прынясу, можа яшчэ пакрою сёння, а заўтра пашыю — а то вельмі ж ён, небарак, мучыцца ў гэтым фрэнчы — гэтакія маразы!

— Дзе ты будзеш сёння краіць! Спаць ляжаш.

— Буду бачыць. Так дык я яму заўтра пашыла б; кудзелю ўчора ператрасла, а на падшэўку з таго ж самага

кавалка... Я сама ткала б, дык дзе там — адна ў хаце, і яе даглядаць трэба, і... у хаце і так цесна, не павярнуцца... Цяпер тут вальней трохі, як Віця кухню адбіў, не гэтак пара ўсялякая цягне, як у печы паліцца, свяжэй тут ёй дыхаць... Віця сам дадумаўся.

— А дзе ён дошак узяў?

— У клеці століь зняў, там яна не лішне патрэбна.

— Дык ты хіба ідзі, а то цябе і ноч на дарозе агорне... А чаму б не запрэгчы каня?

— Мне прайсці здаравей будзе... Глядзі ж яе. Не адыходзь надоўга.

— Добра.

Пасля гэтага стукнулі ціха хатнія дзверы і мацней — сенечныя. І пад нагамі заскрыпеў мёрзлы снег. У хаце запанавала цішыня.

* * *

Кухня тая была — невялікі куток насупраць печы. Пабеленыя калісьці цалёўкі, якімі яна была адбіта ў хаце, былі няшчыльна прыстаўлены адна да адной, і праз шчыліны свіцелася ўсё, што рабілася ў хаце. Ціха было, і нікога тут.

У сенцах затупалі боты, і дзіцячы грубаваты голас загаварыў ціха:

— Снег да ботаў прымёрз... От напрымярзаў!

Неўзабаве другі, вясёлы голас:

— Што ты сам з сабою гаворыш, дурань ты?

Першы голас:

— Вельмі ўжо ты разумны... Гэта я снег з ботаў абіваю.

І пайшлі гаварыць:

— Ужо ў хату пойдзеш?

— Але.

— Жывёлу панапойваў?

— Няўжо ж не!

— Дык сядзі ў хаце ціха, не стукай нічым.

— Хаця ты не стукай, а я то не стукаю.

— Не стукаеш! А ўчора маму пабудзіў.

— Бо мне трэба было палена раскалоць на падпал.

— Дык не мог ты ў сенцы выйсці!

— Усё роўна, і ў сенцах стукае.

— От, яшчэ будзеш аскірзацца!

— А што ж!

Нейкі час маўчалі, а пасля зноў той першы, дзяціны, абазваўся голас:

— А ты што цяпер рабіць будзеш?

— Кончу ўпраўляцца і ў хату прыйду... Ідзі, дык я зачыню сенцы.

Адчыніліся хатнія дзверы з сянец, і ў кухню ўвайшоў той, хто гаварыў кагадзе ў сенцах дзіцячым голасам. Ён быў у шарачковай кароткай, вельмі гаматной капоце — мусіць, яна была на кудзелях,— у ботах, у шапцы з вушамі — з шэрага труса. Ён адразу скінуў з сябе капоту, шпурнуў на лаву; паважна, як стары, хукаючы на рукі, падышоў да стала. Дастаў з акна пачак тытуню, скруціў папяросу і закурыў. Узяў з качэргаў нейкі ражон, прычыніў ім дзверцы ў коміне і пускаў туды дым, задзіраючы галаву. Ён быў белагаловы, сінявокі, гадоў яму было дванаццаць, а можа і трынаццаць. Гэтак ён стаяў і курыў, радасна адчуваючы хатняе цяпло.

У хаце, там, дзе ляжала хворая, зашаравалася аб зямлю дрэва — мусіць, ножка ў зэдліку. Дык курэц у кухні, душачыся дымам, апошні раз шпарка зацягнуўся і схаваў недакурак у кулак. Хацеў зачыніць у коміне дзверцы, але не было ўжо калі — з хаты падходзілі да кухонных дзвярэй. Ён ледзьве ўспеў стаць каля стала, як у дзвярах з'явілася сястра.

— Ці не курыш ты?

— Не.

— А чаму ж дым па хаце ходзіць?

— Дык я яго ў комін пускаў. Яго адразу выцягае на двор. Гэта адно трохі на кухню пайшло... Як бачыш выцягне.

— Нашто ты курыш?

— Так.

— Рана табе яшчэ курыць.

Сказала гэта і як бы штосьці ўспомніла, пра нешта падумала — сціхла раптам, шырока адчыніла кухонныя дзверы, каб відаць было хворую, і ўвайшла ў кухню. Брат сеў на лаву, пасядзеў і, падумаўшы, што ўсё роўна ўжо, стаў пад комінам і спакойна дакурыў.

— Вучышся?

— Вучуся.

— І Віця?

— Або ты не ведаеш!

— Калі ж вы ўпраўляецеся дома?

— Досвіткам устаём.

— А як вясною будзе?

— Мусіць, Віця пакіне.

— А ты?

— Буду давучацца.

— А што ты так робіш?

— Нічога.

— А дзе твае кнігі?

— У сенцах на лаве.

— Чаму ты іх вынес?

— Так сабе... Замінаюць адно.

— Ты, мусіць, ніколі не чытаеш іх?

— Чаму не, чытаю... Папытайся сабе ў Маргарыты... Куды яна пайшла?

— Па палатно.

— Гэта Віцю на капоту?

— Ён у летнім фрэнчы ходзіць?

— Ходзіць.

— Як жа ён не захалодзіцца?

— Не ведаю.

І падумала цяпер: «Нашто я пра гэты фрэнч папытала, усё трэба ведаць, але не пра ўсё гаварыць». Увайшла назад у хату, глядзела яшчэ праз дзверы на яго і зноў думала пра тое, успомніўшы, што кагадзе сціхла гаварыць яму, каб ён не курыў.

«Нейк жа боты яму справілі... У халодным зрэб'і зімуе, але хоць абуўся добра... Можа яму, што ён курыць, асалода якая ад гэтага; можа ён іншае і не ведае ніколі. Мусіць жа, ён ніколі не даспіць, не даесць; устае досвіткам малаціць, а намалаціўшыся, вучыцца бяжыць, а прыбегшы з гэтага вучэння, сечку рэзаць ідзе. Дзіва што ён гэтакі спрацованы».

Дык не магла яна, каб зноў не запытацца:

— Калі табе гэтыя боты шылі?

— Яшчэ ўвосень.

— Мусіць, збожжа якое прадавалі на боты?

— Не, гэта я запасвіў.

Яна ўспомніла ліст ад сястры: «...Якубу вучыцца трэба ісці і каровы дапасваць, дык мы і самі не ведаем, што рабіць. Ён вельмі занудзіўся, таварышы яго ўсе вучыцца пайшлі...»

— Дапасваў ты?

— Але.

— А як жа ты вучыцца пайшоў?

— Спазніўся траха не на два месяцы.

— Як жа цябе прынялі?

— Мама ўпрасіла нейк... Не хацелі прымаць.

Маўчалі доўга. Яна села каля хворай. Каб не стукаць, ён на пальчыках увайшоў у хату следам за ёю і зашаптаў:

— А ты доўга будзеш тут?

— На тыдзень мяне пусцілі.

— Дык ты праз тыдзень паедзеш?

— Не ведаю, як з мамаю будзе. Але ж і ехаць трэба. Вядома, служу ў чужых людзей.

— Усё роўна ж ты нічога не паможаш, а там можа нядобра табе будзе, што не будзе цябе доўга.

Як стары, ён адставіў нагу ўбок, набраў з голай кішэні ў тры пальцы дробнага тытуню і зноў сыпаў у паперку.

— Я тут курыць не буду, я пайду на двор... Дзе гэта там Віця забавіўся?

У хаце было прытульна, чыста, прыбрана, але цішыня і спакой былі страшнейшымі за ўсялякія варожыя навальніцы. Сястра глядзела на яго вострым зіркам. І яму, мусіць, шмат чаго хацелася сказаць ёй; губы ў яго трохі надзьмуліся, цераз увесь твар лягла вельмі выразная для адчування і невыразная для слоў рыса. Куткі рота ў яго затрэсліся і вочы пачырванелі. Але ён цвёрда і паважна, як стары, выйшаў з хаты. І калі ён выходзіў, яна прачытала ў вачах і на твары яго: «Усё можна. Заставайся і надалей тут. Не можа быць нядобра там за тое табе, што пасля гэтага тыдня не з'явішся туды служыць... Перад смерцю маццеры ўсё можна. Усё можна!»

* * *

Над зямлёю стаялі засцілы марозлівага паветра.

Віця нагрэўся пры рабоце, але зверху сухім холадам хапала за плечы. Цямнела. Віця ішоў у хату па траскучым снезе. Вострыя плечы яго варушыліся пад тонкім фрэнчам.

Быў ён сам занадта тонкі паводле росту, белатвары, з жоўтымі кропелькамі рабаціння на высокім ілбе. Цыбатымі нагамі ён сцібаў шырока, шмат займаў імі, ішоў подбегам. Схаваў рукі ў кішэні портак і падтуліў плечы, угнуўшыся ўперад. На ганку стаў абіваць з падэшваў прымёрзлы снег.

Ружавеў захад і з другога боку ў чорных дрэвах бялеў месяц. За адкіненымі веснiцамі звінела пустая цішыня вуліцы. Сінявокі Якуб моўчкі выйшаў з сянец, паслізнуўся на ганку, траха не ўпаў, але адзержаўся і падаўся на вуліцу.

— Куды ты?

— Нікуды.

На вуліцы Якуб шпарка пераступаў з нагі на нагу, біў ботам аб бот. Віця не ўцерпеў з ганка:

— Нашто ты боты рвеш?

— Ногі мерзнуць.

— Дык няхай бы сядзеў у хаце.

— У цябе не папытаю. Вельмі бацька знайшоўся! Прыганяты!

— Дурань, чаго ты агыркваешся!

— Бо чаго ты заўсёды чэпішся!

— Ідзі ў хату!

— Чаму?

— Не мерзні.

— А сам? Я цяплей за цябе апранены. Гэта ты ідзі, не мерзні ў гэтым летнім фрэнчы.

Віця смешна нахмурыў свае белабрысыя бровы і адчыніў дзверы ў сенцы.

У кухні было змрочна. Бялела акно над сталом. Віця пацягнуў носам і буркліва сказаў:

— Зноў накурыў поўную хату.

Прытуліўся плячыма да печы і грэўся. Адагрэтыя пальцы на нагах вельмі засвярбелі. Дык ён сцягнуў бот і з асалодаю пачаў церці пальцы анучаю. Усё ў хаце маўчала. Раптам ён апусціў рукі і стаў думаць.

«Нашто я пусціў Маргарыту ісці, яна і так колькі ўжо ночаў не спала. Як яна і так цягне... Перабыў гэтулькі часу без адзежыны, дык і яшчэ б з лішні дзень пачакаў бы... Цяпер ёй гэтыя дні лягчэй будзе, пакуль Маня зноў паедзе...»

Усё нястрыманым віхрам імчалася ў галаве.

Сядзеў моўчкі доўга. Пасля шпарка ўсцягнуў бот і ўвайшоў у хату. Глянуў у акно ад вуліцы. Якуб стаяў на тым жа ўсё месцы.

«Стаіць як прыкуты, яшчэ захалодзіцца».

Замілаванне да Якуба панавала ў ім, назаўсёды кладучы сляды на душу, у гэты час пераходу дзяцінства ў пер-

шае юнацтва. Само жыццё выкоўвала ў ім вялікую чалавечую чуласць для замілавання і нянавісці.

Сястра папрасіла яго запаліць агонь. Ён прынёс лямпу. Сястра зняла шкло і стала выціраць. А ён стаяў перад ёю — высокі, худы, з дзяцінным яшчэ рухам твару. Але не дзяцінае было ў сціснутых тонкіх губах.

«З ім ужо можна гаварыць пра ўсё».

Гэта падумала сястра.

— Як ты вырас за гэты час.

Ён пацiснуў плячом.

— Добра, што ты прыехала.

Памаўчаўшы:

— Мама, мусіць, памрэ.

І пайшоў у кухню курыць.

. . . . . . . . . . . . . . . .

## 3. З стэнаграмы следчага допыту

...Які ліст я пісаў Марынковічу! І пасля чытання запіскі не мог ужо яго дапісаць. Зусім не мог пісаць, думкі мае не ішлі патрэбным парадкам, а былі ў непарадку. Вось разбягаюцца і зноў збіраюцца, як хмары перад навальніцаю. Узбуджанасць мая пайшла ў другі бок. Як гэта гэтыя мае даўнейшыя запіскі захаваліся? Пажаўцелі як лісткі! Колькі гэта ўжо часу прайшло ад таго, як я пісаў гэта, пра сябе, пра брата Якуба, пра сёстраў, і колькі год ужо мінула з таго, як было ўсё тое, пра што я пісаў тут! Як мы тады ўсе, браты і сёстры, хавалі маму, як мерзлі ў дрэннай адзежы і былі заўсёды галодныя! І трэба ж якраз папасціся на вочы мае якраз бо тады гэтым запіскам! Мусіць, гаспадыня, прыбіраючы паліцу, выцягнула іх з-за кніг і кінула на стол. Убачыў іх, і ўсё ва мне аж уздрыганулася, перачытаў гэтую сваю даўнейшую споведзь перад самім сабою і не мог дапісаць ліста гэтаму чалавеку, Марынковічу.

А напэўна я і пісаў яго не гэтак, як трэба. Залішне я злаваў і гарачыўся, а гэтага ніколі не трэба. Але не магу інакш з гэтым чалавекам. От і цяпер хочацца схапіць яго і шпурнуць куды ў мураваную сцяну, каб ён больш не даждаў псаваць людзям свету. Можа нешта падобнае і трэба з ім зрабіць, можа зусім і не варта пісаць яму. Ці пройме ш яго словам! Ён жа ўсё добра сам ведае, усё ў яго самога даўно вымерана і разлічана, і растлумачваць яму

няма чаго. Ён гэты мой ліст не чытаючы ведае, ён раней ужо да яго падрыхтаваўся. К д'яблу ўсе лісты! З ім трэба іначай.

Як ён выбіў мяне з мае каляіны, як ён адарваў мяне ад мае работы! Ён, як камень, лёг на маёй дарозе, на дарозе ўсёй нашай сям'і, насмяяўся з Маргарыты, наздзекаваўся з яе, адабраў ад яе здароўе. І цяпер (няйначай, што гэта так) стараецца выжыць мяне адтуль, дзе сам начальнікам, каб не тырчаў я ў яго кожны дзень перад вачыма, я, брат Маргарыты, бо ведае ж ён, што ненавіджу я яго, як толькі можа ненавідзець той чалавек, які з малых дзён сваіх прайшоў агонь замілавання і нянавісці. Ці не лепш жа яму пазбавіцца ад мяне, бо яшчэ ж «асмеліўся» крытыкаваць яго.

Маргарыта! Як яна сохла тады каля мамы і як яна старалася, каб не бачылі мы, што замест лепшай яды для хворай мусіць яна, сціснуўшы сэрца, даваць ёй бульбу. (Дзе ж мы маглі ўзяць чаго лепшага! А бачачы гэта, мы нудзелі і сумавалі страшна.) І як яна, небарака, сохла, гледзячы ў тую зіму на мяне, што я мерзну ў летнім нейкім фрэнчы!.. І якая ж яна цяпер усё-такі моцная, загартованая! Як яна трымалася тады перад ім у судзе! Да апошняй хвіліны ніхто не пазнаў бы, гледзячы на іх, што яна гэтак ім скрыўджана. І яна прайшла буры нянавісці і замілавання і ўсё роўна як з гарту выйшла. Толькі ці надоўга хопіць у яе здароўя? Колькі яна крыві страціла кожны год па некалькі разоў. (Вядома, «новы чалавек» павінен быць вольным, прыгожым, а дзеці, каб іх было некалькі, не далі б яму займацца гэтаю воляю і прыгажосцю!) І гаварыла як яна тады перад ім!

Маргарыта! Яна тады прыехала была ў горад дзён за два перад судом, надвечар. Незнаёмая жанчына паказала ёй, дзе льга за двазлотку на пору спыніцца. (Жанчына набожна перахрысцілася перад працэсіяй. Труну везлі на сялянскім возе, і паперадзе гарбаты чалавек у белай комжы нёс крыж). Маргарыта падзякавала жанчыне і купіла ў яе ж з каша шэсць абаранкаў. Ад вакзала ісці было ёй недалёка. Гэта была нават і не гасцініца. У двухпавярховым доме, побач з дзвярыма ў вялікую краму, спусціцца толькі ўніз, а там шырокія і нізенькія вокны, пад самаю столлю, выглядалі на малы скверчык. Гаспадыня адчыніла Маргарыце дзверы ў сцяне з пабяляных цалёвак. Каб гэта не на Маргарыту, дык прытулак гэты мог бы

здацца чорным і цяжкім. Але гэта хто да чаго прывыкне, жывучы на свеце.

Ішоў у той дзень веснавы вецер, і голыя дрэвы на скверчыку гойдаліся і стукаліся голлем. Маргарыта бачыла праз акно іх пні ля самай зямлі. Пасля падышла яна пад люстэрка на сцяне: «Якая ж я стала худая і страшная».

Знайшла яна мяне тады была ў той самы дзень, калі ў суд хадзіла, не ведала адразу гэтай маёй новай кватэры. Ясныя былі тады ў яе думкі, усё расказвала мне, як прыехала, дзе і як спынілася, як з каша ў гандляркі абаранкі купляла, як нейкую труну везлі папярок вуліцы. Пра ўсю гэтую драбязу старалася гаварыць, абы не маўчаць, бо маўчанка была б вельмі цяжкаю. А нам хоць і было пра што пагаварыць (не бачыліся ж мы чуць не год, ад таго, калі ён яе завёз і пакінуў там), але ў тую хвіліну не гаварылася. Я цяпер як бачу, як чую той дзень, калі яна прыехала, як і дзе паварочвалася. І яе перад люстэркам, і сквер увечары, і вецер у голых дрэвах, і вясну... А з якім замілаваннем глядзеў я тады з канца карыдора ў судзе на яе постаць, калі яна гаварыла з ім! Як ён злаваў, у яго зелянелі вочы і трэсліся сківіцы! Не, яна не спавядалася перад ім. Не спавядалася! Маладзец, Маргарыта!

— Я не прыехала перад табою спавядацца!

А як жа ён скрыгітаў зубамі і ледзьве стрымліваў сябе, сам пераняўшы яе слова:

— І я перад табою спавядацца не буду, як я жыву і як я хачу жыць. Усё, што было ў нас, гэта былі нашы памылкі... Чаго ты прыехала?

— Я прыехала ў суд.

— Можна было ўсё зрабіць завочна. Не канешне нам без патрэбы мучыць адно аднаго.

— А з патрэбаю тваёю дык можна і памучыць?

— Я не слухаю тваіх пустых слоў... Я табе пісаў тады, што буду без усялякіх судоў выплачваць тое, што з мяне належыць. І ты не можаш скардзіцца, што я сваіх абавязкаў не выконваю.

— А ты ведаеш свае абавязкі?

— Ведаю... Чаго ты хочаш дайсці гэтым судом? Я і без судоў ведаю закон.

— Але ці закон цябе ведае?

— Дык што ж, па-твойму, я непакараны злачынец?!

— Гэта ты добра сказаў, непакараны злачынец!

— Дык не табе ж судзіць і караць мяне! Годзе! Нічога ты гэтым судом не дойдзеш! Усё ў нас скончана, раз і назаўсёды! Калі ты па добрасці не можаш!..

— Не крычы, не хваліся, што крычаць умееш.

— Дык буду маўчаць.

Ён адышоўся ад акна і закурыў. Дастаў з кішэні маленькі, на ланцужку, гадзіннік. І зноў падышоў:

— Спыні гэтую справу і едзь адгэтуль.

— Не, я запішуся на біржу працы.

— Ты хочаш тут заставацца?

— Хачу.

Яна памаўчала. І зноў старалася не заікацца ад сваёй трывогі:

— Застануся тут... Табе не хочацца гэтага?

— Як хочаш. Мы чужыя людзі.

— Чужыя?! А чатыры гады мы не былі чужыя? Пэўна ж, што я цяпер табе чужая стала, на чорта я табе цяпер, хворая. Пану трэба не гэтакая жонка.

— Які гэта пан?

— Табе цяпер не гэтакая, як я, трэба, вядома.

— Я яшчэ раз кажу табе, прашу цябе — годзе нам адно аднаго мучыць. Я гэтак знерваваўся і стрывожыўся за ўвесь гэты цяжкі і паскудны час.

— Нічога, паедзеш на курорт, палечышся.

— Не ўсміхайся гэтак, ты мяне ўпікаеш яшчэ і курортам?!

— Ага, ты ўжо голас збавіў. Спішэў? Жыві сабе, едзь сабе, упоперак дарогі я табе не стану. Гавары сабе пра свайго новага чалавека, гавары, трубі ўсюды, дзе толькі льга... Новы чалавек павінен, кажаш, быць прыгожым і вольным? А я адабрала ў цябе волю? От прыйшла да цябе, стала ўпоперак дарогі, завязала табе свет, і хоць страціла сама здароўе, жывучы з табою, але ўсё для таго, каб ты не быў ні вольным, ні прыгожым?

— К чорту гэты твой смех.

— На злосць гэта я табе ўсё зрабіла! На злосць! Каб звязаць цябе, каб адабраць ад цябе волю, каб ты быў не новым чалавекам, а старым!.. Старым!.. Нягодным!.. Брыдкім!.. А ты ўсё не паддаешся і застаешся добрым!.. Прыгожым!.. Разумным!.. Патрэбным на свеце!.. А гэта я гэтакая нягодная, гэтакае злачынства з табою зрабіла!.. Гэта я!.. Гэта я адна вінавата!.. Гэта я!..

— Не плач і не крычы, неззывай людзей!

Заклапочаны твар глянуў з прычыненых дзвярэй у пусты карыдор. Голас у чалавека быў нецярплівы:

— Справа Маргарыты і Аляксандра Марынковічаў. Хто да гэтай справы, заходзьце!

— Я спыняю справу,— сказала Маргарыта судоваму чалавеку.

— Зайдзіце заявіць пра гэта ў суд.

А які ліст паказала мне і пакінула на памяць перад ад'ездам! Які дакуменцік! «Паважаная Маргарыта! Ты разумная жанчына і сама павінна ведаць, што нам жыць разам больш немагчыма. Жыві там і не прыязджай. Я табе буду належачую па закону долю высылаць на хлопчыка. Ведай, што мы адно аднаго толькі звязваем. У нашу хвалюючуюся эпоху, калі мы няўхільна змагаемся за новага чалавека, мы павінны ўжо і цяпер даваць расткі гэтага новага, ідучага ў жыццё чалавека. А ён павінен быць вольным, прыгожым, не звязаным нічым, у яго павінна быць мінімум няволі і максімум волі. Мы, змагаючыяся і будуючыя, а таксама маючыя перспектыву на светлае заўтра, цяпер павінны адкінуць ад сябе старыя мяшчанскія традыцыі... Жыві там і не прыязджай, належачае па закону я табе буду беспракаслоўна высылаць. Марынковіч».

«Новы чалавек» яму спакою не дае! Якая гадзіна!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Старыя мае запіскі трывожаць мяне. Якуб цяпер вялікім вырас... Не, не мог бы цяпер дакончыць ліста Марынковічу. І не варт ён таго. Ды і нашто я пісаў яму? Як гэта мне магло ў галаву ўзбрысці гэта? Не да яго ж апеляваць з гэтаю справаю.

А які прававерны грамадзянін і партыец! Надпіс яго на картачцы сваёй Маргарыце, даўней, калі яшчэ яна дзяўчынаю была: «Тов. Маргарите от близкого, может быть, товарища. Общественность и общественная работа должны жить в вас. Маринкович». Тады ён яшчэ не быў «балгарынам». Не было яшчэ загаду пра беларусізацыю.

Не давай ты яму загаду (ці дырэктывы), і думка яго будзе драмаць спакойна і весела. Ніколі ён не выкажа ніводнай думкі свае: і няма яе ў яго, і баіцца — «а можа начальства зусім не гэтак скажа. Пачакаю лепш, што яно скажа, а тады ўжо і я». І колькі яшчэ ён задушыць жывых слоў і думак рэвалюцыйнай творчасці толькі таму, што выказаны яны не начальствам!..

Як гэта Маргарыта сышлася была з ім...

## 4. Весткі ад Якуба

«Братка Віця! Але ж даўно я цябе не бачыў. Чаму ты гэтак мала пішаш, забыўся пра нас, ці што? Мы табе рэдка калі пішам — дык нам жа вельмі часу ніколі няма. Цяпер толькі адсеяліся. Ну і нагальнасць была! Добра, што дажджы ідуць, годзіць на поле. Каб ты ведаў, які ліст учора прыйшоў ад Маргарыты. Ты б за галаву хапіўся б, каб ведаў. Ты, мусіць, нічога пра гэта не ведаеш, бо няўжо б ты маўчаў нам пра гэта гэтулькі часу. Але чаму яна сама дагэтуль — хоць бы слова. Гэта ж цэлы год ужо зараз. Яна піша, што бачылася з табою, бо прыязджала ў твой горад у суд, браць разлуку. Ты ведаеш, як усё гэта было для нас — як абухом па галаве ўсім. Я то яшчэ нічога, а Маня і цяпер да спакою прыйсці не можа. Яна ж Мані пісала (толькі сёння Маня мне расказала), што зусім страціла здароўе, жывучы з ім. І цяпер усё адразу ён узяў ды вырашыў па-свойму — узяў дый кінуў, няхай як сабе хоча, хоць зойдзецца дзе. Яна і сама піша гэта самае, але гэтак, што трэба найбольш здагадвацца — як бы не смее яна гаварыць нам усяго выразна. Толькі нарэшце вырвалася ў яе слова: «Што ж, я калі пайшла замуж, дык закон гэтакі, што трачу я права на тую гаспадарку, адкуль пайшла. Дык я і не паеду да вас. Работы я нідзе не знайшла, і цяжка мне яе знайсці, дык няхай сабе будзе, як будзе». От што і як яна піша. Яна, відаць, ужо і законамі націкавілася, мусіць, прыйшлося ёй добра цяпер! Каб яна яшчэ адна, а то з дзіцем, дык яшчэ горш. Я сёння ёй напісаў проста — закон, гавару, адно, а жыць на свеце жывым і родным людзям часамі можа быць і другое. Не чалавек ідзе да закону, а закон да чалавека. І калі дзе які закон не прыйшоўся да чалавека або чалавек падышоў наперад, а закон астаўся, дык закон падганяць трэба. Мы, гавару, родныя, і не канешне на законы прыглядацца. Бо ты як была дома, а мы былі малыя, дык была ты для нас як родная маці. Няўжо ж мы павінны забыцца на гэта. Няўжо ж мы пойдзем у суд, каб нас чужыя людзі мірылі і дзялілі? Прыязджай, напісаў ёй, мы цябе спаткаем з радасцю, і ўсё будзе добра. Можа і добра, што развязалася з гэтакім. Маня таксама і ад сябе прыпісала, каб прыязджала і нічога лішне не думала. Але Маня сваім жаночым сэрцам угадала яшчэ адно. І мусіць, гэта праўда. Яна мне гэта сказала: таму Маргарыта не хоча да нас ехаць, што рабіць цяпер

не можа, здароўе страціўшы. А ў нас жа гаспадарка. І не хоча яна быць «дармаедам» на чужым карку. Маня як толькі сказала мне гэта, дык адразу і заплакала. Тут ужо ніяк не напішаш пра гэта Маргарыце, каб лішнім і грубым словам яе не скрыўдзіць як часамі, каб, яшчэ больш неасцярожна і не ў меру сказаўшы, не паддаць ёй яшчэ больш пакуты. Трэба толькі падумаць, што яна цяпер думае і як жыве. Адно каб яна прыехала, а калі не — дык я сам паеду і забяру яе. Ты, братка Віця, напішы ёй, няхай нічога гэтакага не думае і адразу прыязджае. Будзе яна тут спакайнейшаю і можа паправіцца трохі. А то, мусіць жа, дапякло ёй усё гэтае, калі аж пра законы, небарака, пачала пісаць... Сам я, мусіць, да цябе неўзабаве прыеду. Ненадоўга. Тут у нас адна справа заварваецца, і мне давядзецца ехаць. Я ўвесь клопат узяў на сваю галаву, бо, сказаць праўду, каб не я, дык, бадай-што, нічога і не было б. Гэта мы складаем камуну — сем хат згаварыліся. Дык цяпер трохі мне клопату будзе. Я табе напішу гэтымі днямі, калі прыеду. А ты ж хаця пішы. І яшчэ раз просім мы цябе з Маняю — напішы ты Маргарыце — няхай нічога не думае і не псуе да рэшты свайго здароўя. Няхай прыязджае. Вітай яе ад нас і бывай здаровенек. Якуб».

## 5. З стэнаграмы следчага допыту

...Цягнік прыйшоў пад вечар. Я даўно чакаў на вакзале, каб сустрэць Якуба. Я стаяў каля дзвярэй і ўглядаўся ў людзей — які ж цяпер той ранейшы сінявокі Якуб, што (калі ўжо тое было!) гэтак няёмка развітаўся быў са мною на станцыі? Я тады бачыў праз акно з вагона, як ён паправіў на возе мяшок з сенам і паехаў у сваю дарогу. Я ведаў, што ён спяшае, каб да вечара перапаўзці трыццаць вёрст. Пакуль ад'ехаў, дык разоў тры азірнуўся. А пасля цягнік рушыў... Колькі ўжо год прайшло, як мы пакінулі жыць разам!

Доўга прайшло часу, калі я заўважыў сярод людзей загарэлы, аж чорны, хлапечы твар і шэрую суконную жакетку. Цераз плячо ў Якуба вісеў на палатняным рубцы малы клунак. Я схапіў яго за рукаў і выцягнуў з натоўпу.

На вуліцах стаяў пыл, і сонца яшчэ пякло. Якуб грукаў ботамі па гарачым бруку. У першыя хвіліны мы не знаходзілі словаў. І гаварыць пачалі тады, калі прыйшлі на

кватэру. Што перш за ўсё кінулася мне ў вочы ў Якуба — гэта павольная сталасць у рухах нават тады, калі гэтай павольнасці не было.

«Як у старога вясковага гаспадара, у якога ўкаранілася мудрасць, што на зямлі вельмі спяшаць і трапятацца няможна. А можа гэта ён стаміўся з дарогі?» — падумаў я.

Запахла ў пакоі Якубавымі ботамі і ветравым пылам ад яго жакеткі.

Якуб гаварыў пра ўсе самыя дробныя хатнія справы, пра знаёмых вясковых, смяяўся мякка і добра. І я адкінуў на гэты час усе свае справы, каб застацца аж да заўтрага з братам. Усё больш і больш агортвала мяне тое роднае, што з малых дзён вызначылася назаўсёды між намі і ў нас. Гэта тая арганічная блізасць з Якубам, што з вялікай сілай загаварыла зноў цяпер пра сябе.

— Ты мне хіба паможаш што тут у маёй справе, бо я ж, сам ведаеш, нідзе ніколі не быў,— сказаў мне Якуб.

Ён расказаў, як Маргарыта ішла замуж (трэба ж было, як на тую бяду, паехаць ёй тады да Мані і якраз спаткацца з ім!), як лепш яны там усе жывуць цяпер дома. Якуб гаварыў з развагамі, спакойна і стала. Белыя, ад сонца аж жоўтыя, валасы тонкімі пасмамі клаліся ў яго на вушы, тыя ж самыя сінія вочы глядзелі шырока, толькі глыбей увайшлі нейк позіркам сваім. І яшчэ прабівалася наверх з усіх рысаў твару адзнака ўпартасці.

— Дык як Маня маецца? — запытаўся.

— Жыве сабе... Мне цяпер абы тут усё добра зрабіць, а там — не я ж адзін... Зусім прыйдзецца некалі на вясну вуліцу зносіць, і рэшта вёскі падзеліцца на два калектывы.

Я тады ахоплен быў новым пачуццём, глыбокім, радасным. Мы сядзелі з Якубам у першы вечар доўга, і яго абветраны твар быў для мяне вельмі любым. Тут было ўсё ад пачатку і да канца — і тое мінулае, з чаго вырасла наша блізасць, і цяперашняе. Мы разумелі адзін аднаго з паўслова.

Пра Маргарыту ён гаварыў, як бы сам быў у чым тут вінават. Але пасля, калі загаварылі мы, як дапамагчы ёй, каб стала ёй спакайней на душы, ён увесь загарэўся і ўспомніў адразу пра Марынковіча. Нават скрозь загару я прыкмеціў, як пачырванеў яго твар, і ён увесь аж уздрыгануўся. У ім, у гэтым сінявокім Якубе, у гэтым маладым, спрацаваным, упартым рэфарматару зямлі захаваны вялі-

кія буры. Ён пабыў у мяне два дні і паехаў, зрабіўшы тыя свае справы. І першы дзень, як паехаў ён, мне самому хацелася следам за ім ехаць. І ў той жа дзень я напісаў яму колькі слоў і вялікі ліст да Маргарыты. Усё гэтак, як гаварыў ён.

Цяпер менш за ўсё я думаю пра Марынковіча. І гэта дрэнна. Бо яго трэба перамагчы. Гэта нялёгка. Вельмі часта можна самому праславіцца за ворага рэвалюцыі, пакуль пераможаш яго. Даведзена ж і выдрукавана ў прэсе, што я контррэвалюцыянер.

Буду ісці да канца.

. . . . . . . . . . . . . . . .

## 6. Якая гаворка была ў мяне з Марынковічам

— ...Яна зняла справу з судовага разгляду не затым, што вы вельмі хацелі гэтага, а затым, што нічога суд не сказаў бы таго, пра што трэба было б хоць слова сказаць. Бо тут гэта не тое толькі, што ў яе ад вас дзіцянё застаецца і што вы будзеце даваць на яго гэтулькі, колькі закон скажа. Можа суд яшчэ сказаў бы колькі слоў і пра тое, што яна, жывучы з вамі, страціла сваё здароўе: вы ж жылі разам чатыры гады, і яна магла б ужо мець чацвёра дзяцей! Над гэтым ні вам, гр-н Марынковіч, нікому галава не баліць, і яна адна сваім жыццём тут за ўсё адказвае. Але суд ні слова не сказаў бы пра тое, што яна ішла за гэтага Марынковіча тады, калі ён зарабляў на месяц усяго васемнаццаць рублёў. Яна хацела бачыць у Марынковічу чалавека і пайшла дзяліць з ім гора. А ён, калі ўжо зрабіўся важнаю асобаю, дык забыўся на ўсё гэта. Ён цяпер стаў «новым» чалавекам і знайшоў сабе «новую» жанчыну...

— Гэта справа мая і яе. Толькі!

— Але я ж брат яе.

— Вы, грамадзянін Лукашэвіч, маеце на мяне злосць за вашу асабовую справу і прыплятаеце сюды справу другую, якая сюды не належыць.

— Належыць!

— Не.

— Належыць! Усё належыць! Я ўсё разам збяру.

— Ну і што тады будзе?

— Нешта будзе.

— Што ж, грамадзянін Лукашэвіч, збірайце, збірайце

ўсё разам. Мусіць, дапякла вам праўда, калі гэтакім гарачым зрабіліся. Збірайце, збірайце... Братняя блізасць! Зачапі толькі мешчаніна за душу, за пачуцці, будзе тады крыўды... Мешчаніна, мешчанчука, вас!

— Мяне гэта?

— Вас. Вы ж мешчанін, самы сапраўдны! Безумоўна, пачалося з таго, што вы заеліся на мяне за сваю ўласную справу, за тое, што я апублікаваў вашы контррэвалюцыйныя паводзіны. І тады вы пачынаеце прыплятаць сюды зусім іншую справу, безумоўна не належачую сюды, чужую тут, непатрэбную, пабочную! І стараецеся выйграць на гэтай справе. Чаму ж вы пра сваю справу са мною не гаворыце, чаму ж аб ёй маўчыце, а ўсё пра маю асабовую, у чужое жыццё залазіце?! Я не жадаю аб гэтым больш з вамі гаварыць. Гэта ўсё інтэлігенцкая псіхалагічнасць, мяшчанская сямейсцвеннасць, браты, сёстры! Як вы, грамадзянін Лукашэвіч, не можаце зразумець (бачыце, я халадней пачынаю гаварыць), што старая сям'я пашатнулася. Безумоўна і назаўсягда! Гэта ясна, і вам гэта павінна быць даўно вядома. Надыходзячыя будучыя часы ад нас ужо цяпер патрабуюць дзейнасці.

— Якое?!

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ён доўга гаварыў мне пра нейкую дзейнасць, а я маўчаў. Я не мог гаварыць тады з ім. І пайшоў, не даслухаўшы яго да канца. Ён стаяў перада мною пануры. Ад гаворкі тоўстыя губы яго трэсліся, ад узбуджанасці чырванелі вочы і твар мяняў колеры. Твар яго быў апушчаны ўніз. Я пайшоў і пачуў праз зачыненыя дзверы, як ён змоўк і пачаў цяжкімі крокамі сваімі хадзіць. Я ніякай драбязы цяпер не заўважаю, але адна не вылазіць з маёй галавы — гэта як ён ступае. Моцна стукае пятамі і раскідае ногі. А сам ён ад прыроды сваёй пануры і не любіць гаварыць. Толькі, як ён кажа, грамадскія абавязкі навучылі яго гаварыць, крыклівa і суха. Дома ён заўсёды маўчыць. Любіць сядзець на скверы і маўчаць. Калі ідзе, напрыклад, з грамадскага прагляду якога-небудзь кінафільма ці новай п'есы — ніколі не выкажа сваёй думкі, а ўсё гудзе: гу-гу — не разабраць, ці гэта ён згаджаецца з табою, ці не.

Гаворка гэтая мая была з ім пазаўчора. Сягоння я зусім спакойна ўспамінаю яе. Таксама сёння сказалі мне, што праз тры дні будуць мяне «чысціць» — будзе браць мяне на допыт камісія, якая чысціць наш савецкі апарат.

У мяне з'яўляецца адна думка — падаць у гэтую камісію свае запіскі і лісты. Усіх у камісіі я ведаю, можна ім даць чалавецкую споведзь. Толькі адзін — Курціцкі, але ён там адзін, і не пасмее ён пасля здзекавацца з маёй споведзі. Трохі не гэтак кажу — ён то пасмее, але не павінны іншыя дапусціць да гэтага. Я думаю, што гэтыя мае запіскі ёсць найлепшы дакумент. Пісаў жа я іх толькі для сябе.

Перш за ўсё будзе да мяне падыход як да нейкай «контры». Друкаванае слова!

## 7. Весткі з вёскі і ў вёску

«Братка Віця! Я прыехала «дадому» (дзе мой цяпер дом?), і мяне спаткалі гэтак, што я вось ужо колькі дзён жыву тут, а не магу спакойна ўспомніць гэтага спаткання. Слёзы радасці і замілавання ў мяне на вачах, калі думаю пра гэта. Вельмі Якуб пра мяне клапоціцца. З Маняю дык мы, вядома, сёстры, жанчыны, мы як адна душа. Яны нічога не даюць мне рабіць, кажуць, каб я адпачыла і папраўлялася. А я і так добра сябе пачуваю, вельмі добра. Здароўе маё гэта раней было дрэнна, а цяпер, за апошні час, на паправу пайшло. Так што дарэмна яны мне забараняюць рабіць. Ты ім напішы, каб яны не рабілі гэтага, я магу і хачу рабіць разам з імі ўсялякую цяжкую работу. Ды я і не хачу, могучы сама рабіць, глядзець, як нехта робіць, а самой быць за паню нейкую. А паняю я ніколі не была і не хачу быць. Калі я ішла за Марынковіча замуж, дык ён тады зарабляў на месяц васемнаццаць рублёў. Значыцца, я не ішла за яго панаваць. А цяпер, калі ён зрабіўся панам, дык я ж не жыву з ім. Яшчэ раз прашу цябе, Віця, апішы ім усё гэтак, як табе будзе здавацца найлепш, каб іх не пакрыўдзіць, каб яны нічога лішняга не думалі ў гэтай справе, каб я разам з імі ўсё рабіла па гаспадарцы. Бо ўсё гэта тут, у маёй гэтай справе, вельмі проста і звычайна. Я гэта ведаю, ведай гэта ты, і няхай яны ведаюць. Я зусім здаровая. Маргарыта».

* * *

«Братка Віця! Маргарыта прыехала да нас, і вельмі дрэнна ў яе з здароўем. І горш за ўсё, што яна не шануе яго, не хоча папраўляцца як мае быць і бярэцца за работу. І ніяк не можна яе адгаварыць ад гэтага. Яна кажа, што

зусім здаровая і што не можа сядзець без работы. Праўда, гэтак выразна не гаворыць, каб мы не пакрыўдзіліся, але з яе гаворкі гэта відаць. Усюды яна ідзе разам з Маняю, усё робіць. Нават стараецца сама ўзяць самую цяжэйшую работу. Мяне часам аж злосць бярэ, бачачы ўсё гэта. Ніколі я, кажа яна, не была хвораю. Так, кажа, трохі недамагала, але тое прайшло, хоць ёй і цяжка, але яна не падае нават выгляду. А я ведаю, бачу, што не можа яна рабіць і да рэшты сапсуе сваё здароўе. (Выкажу табе маю думку — мусіць, ужо ёй і няма чаго псаваць, мусіць, ужо зусім здароўя ў яе няма.) Дык ты, братка, напішы ёй, каб яна хоць час нейкі нічога не рабіла, каб слухала нас і паверыла, што мы будзем вельмі рады, калі яна кіне ўсялякую работу. А то ўчора заўважыў я, як яна ўся збялела ад слабасці і прытулілася галавою да сцяны ў гумне (нешта там корпалася, сама пайшла). Але заўважыла мяне і, каб схаваць усё гэта, пачала варушыцца каля работы і неўзабаве пайшла ў хату. Я толькі паглядзеў ёй услед. Я ведаю, што ёй цяжка: яна думае, што будзе на нашым карку, але чаму яна і пра другое не падумае! Яна ж нас усіх павыгадоўвала, была для нас не толькі за сястру старэйшую, але і за матку. Уся ж тады работа на яе плячах ляжала і ўвесь клопат на яе галаве. І што б там ні было, я не магу дазволіць ёй рабіць цяжка. Пра гэта ты і напішы ёй, прашу цябе.

У самога мяне ўсё ідзе някепска. Добра, што тады ты быў памог мне, як я да цябе прыязджаў. У нас цяпер самы рэзрух. Ворагі сталі прыяцелямі, а прыяцелі сталі ворагамі. У якой хаце раней была калатня, дык цяпер стала ціха, а ў якой было ціха, дык пачалі калаціцца. З нашай камуны дзве хаты адкінуліся — спалохаліся, але новыя хочуць. Прыехаў бы ты, паглядзеў, што робіцца. Папраўдзе, вазьмі ды прыедзь. І з Маргарытай пагаворыш, можа лепш угаворыш яе. Так жа з ёю справу цягнуць няможна, мы ўсе павінны пра яе падбаць. Не толькі ж лячыцца, але і паберагчыся трэба. Яна гэта сама ведае лепш за нас. Каму гэта ведаць, як не ёй. Але што ты ёй зробіш! Яна гордая, ды яшчэ і любіць нас усіх. Успамінае ўсё, як мы гадаваліся. Сапраўды, якое гора яе спасцігла! Але вельмі дрэнна, што яна тоіць яго ў сабе і нават з Маняю скрытная бывае. Вітае цябе Маня. Яшчэ адно. Чыталі мы газету (не зусім свежую, газеты сюды да нас даходзяць позна), дык там пра цябе чыталі, што ты нібыта там нейкі сход хацеў

раскідаць і шкодную рэзалюцыю прапанаваў. Тут усе ўжо ўзялі ў шух вельмі. Я то не веру, што гэта было так, як надрукавана, але, прызнацца, адразу як прачытаў, дык жахнуўся. А хто цябе тут не любіў, дык пачалі языкамі малоць — от, кажа, табе і прававерны камуніст вельмі. Нешта недзе не ўнаравіў, дык і скідаюць ужо. Мне здаецца, што ўсё гэта нейкае непаразуменне. Пісані і пра гэта колькі слоў. Якуб».

* * *

«Браце Якуб! Пішу адразу пра справу. Што на мяне пусцілі паклёп — дык гэта ўсё рука Марынковіча. Сёння мяне «чысцілі», там гэты газетны паклёп быў самым галоўным абвінавальнікам. Паклёп з мяне знялі, і пра гэта будзе ў той жа самай газеце. Усе гэтыя матэрыялы — і мае, і Марынковічавы, пойдуць у камісію па чыстцы партыі. Марынковіч цяпер устрывожыўся. Як Маргарыта? Я пісаў ёй тады, пасля твайго ліста, што няхай адпачне гэты час, ■ да канца лета я збяру грошай, і тады яна паедзе куды падлячыцца. Ніхто мне з вас на гэта нічога не адказаў. Чакаю. Віця».

* * *

«Браце Віця! Не адказвалі мы табе доўга таму, каб не трывожыць цябе. Але цяпер пішу — Маргарыта зусім хворая. Зусім ляжала ў пасцелі і толькі гэтыя два дні патроху ўстае. Я прывозіў доктара, і ён сказаў, што нервы яе не ў парадку. Ёй трэба лячыцца, так што ты добра прыдумаў сабраць ёй трохі грошай. І я памагу, колькі будзе ў мяне, вельмі дрэнна з ёю, баязно, каб зноў не пагоршала. Якуб».

## 8. З стэнаграмы следчага допыту

...Зноў была ў мяне з ім сутычка.

Ён зусім іначай гаворыць са мною. Пра новага чалавека цяпер гаварыў не ён, а я. Трэба ад Марынковіча збавіцца, сказаў я яму, каб ён не шкодзіў фармаванню новага чалавека. Ён пачырванеў, вочы яго наліліся крывёю, але ён тут жа асеў. Яго аглушыла пастанова камісіі па чыстцы апарату і перадача ўсёй гэтай справы як матэрыялу ў партыйную камісію. Ён злуе, вар'юецца, але стараецца

стрымліванца. Штосьці хацеў са мною гаварыць, але я пайшоў. Я прачытаў яму на адыходзе Якубаў апошні ліст — губы яго сціснуліся, і ён з нянавісцю глянуў на мяне... Цяпер ён адзяецца прасцей, скінуў гальштук і вельмі ветлівы з усімі на працы. З кожным загаворвае. Але цяжка з ім гаварыць — усё выходзіць няшчыра, холадна, штучна. Нейк так выходзіць, што ўсякі або згаджаецца з ім, або маўчыць.

Як мяне ператрэсла ўся гэтая справа!

## 9. Тэлеграма

Віктару Лукашэвічу Прыязджай Маргарыта пры смерці Якуб

## 10. Ад аўтара

На гэтым канчаюцца пісаныя матэрыялы, што да справы Віктара Лукашэвіча, і пачынаецца не пісаны яшчэ раман.

# НЯНАВІСЦЬ

## I

На голым алешніку сонца трымалася нядоўга — ціхая ласкавасць спаўзла ўніз, на мокры снег, на ўпарты хмызняк: сонца, як паднялося вышэй, лягло ў адлежную вату і заснула. Дзень зноў стаў хмурны. Ухабы зачарнелі больш, пні лесавой высечкі зусім зліліся з сваім надрэчным узгоркам, за адлегу з якога пачаў сплываць снег.

Абледзянелая ручаіна сонна гнала сінюю ваду, млява пнулася выкідаць на лёд крынічную сцюдзёнасць. За пністаю высечкаю скрозь сінела поле, аж да лесу.

Ручаіна загіналася ў лог, там разлівалася шырэй і спакайнела пад лёдам. Снег на штучным малюпасенькім азярцы быў ушчэнт спярэшчаны заячымі слядамі; яны заходзілі аж пад масток над круглым азярцом. На масток паглядала мучною слепатою млынавая шыба, струхнелая сцяна, каб траха, дык прыпіралася б да самай парэнчы. Замарожанае млынавае калясо маўчала пад парэнчамі, як магіла: лёд укаваў яго спадыспаду і намярзаў гузамі. Дарога праз масток ішла раз'езджаная, бітая і за млынам цяжка рвалася на ўзгорак, адразу за самотнымі спарышамі ўзбераЖных алешын.

Адтуль скаціліся санкі. Лапавухая кабыла ратавала заднія ногі ад дошак санкавага донця, імчала з гары на ўсе жылы. Хамут пёрся з шыі на мысу, мяў і цёр кабыліны вушы.

— Ах, няўдала з гары з'ехалі,— заспяваў голас.

Сані ўвязлі ў снег з боку ад дарогі. Чалавек завярнуў кабылу назад да моста, выкіраваў да млынавага ганка, пачапіў ёй на мысу аброчную торбу. Сам ён патупаў здаровымі ботамі ля саней, дастаў з кішэні забруджаную, як засланка, пасатку і прачысціў вусы. Змаршчанаваты твар быў халодны і нерухавы, як бы ўсё, што жыло ў ча-

лавеку, варушылася дзесьці глыбока пад ружоваю насупленасцю бязброўных вачэй, пад рудым зараснікам вусоў, пад усімі рысамі абліччa, што ляжалі дзіўна, упоперак. Чалавек акінуў вачыма дашчаны насціл перад млыном: старая, мо яшчэ леташняя, нацярушана была салома на ганку, трухлявая сцяна асела, пагнуты замок бокам трымаўся ў здаровых прабоях.

— О, ужо нехта замок пагнуў. Бачыш?

І чалавек рушыў на ганак.

— Г-х-тфу! — танклява харкануў ён з ганка ў снег.

Ля саней застаўся варушыцца чалавек у кароткай ватоўцы, у лапцях, у суконных гаспадарскіх нагавіцах — лата на лаце. Ён даставаў з саломы пілу, сякеру, лом. Ён суха і дробна паплёўваў навокал сябе, без патрэбы, так сабе, з прывычкі. І толькі цяпер нехаця адказаў на тое, што няўдала з гары з'ехалі:

— Падпінаць трэ было, я казаў... Замок нехта скрывіў?

Голас у яго быў няроўны, разбаўлены няпэўнасцю. А той другі зноў заспяваў:

— Тут зараз і масток разбяруць; а самі тады ўпоперак па вадзе з калясьмі плаваць будуць, а не то што каб сцены гэтыя цэлыя засталіся. Г-х-тфу! Я ж кажу, калясо і снасць я ім пакіну, а сёе-тое пабяру. Усё адно прападзе, парасцягваюць, паглумяць, і таму, хто стараўся, набываў, нават і дзякуй не скажуць. Г-х-тфу!

Тонкім, пявучым голасам ён закашляўся, захаркаўся, пляваў, абціраў насаткаю вусы.

Хутка ў млыне заенчыла піла, застукала сякера, запылела, пасыпалася трухліна, затраслася задняя сцяна — яна трымалася на падпорках.

— З столі дошчак завязом вазоў два, а рэшту вазьмі сабе, за работу,— спяваў танклявы голас і адхарквaўся.

Хутка чалавек выйшаў на ганак, аддыхаўся, паглядаў навокал:

— Але ж і зайцоў ходзіць, ды што ж іх тут робіцца, страшэнная моц.

Завярнуў кабылу і пачалі класці на воз трухлявыя дошкі. Пакуль чалавек у ватоўцы ўвязваў дошкі пастронкамі, танклявы голас яшчэ колькі разоў задзівіўся з ганка:

— От няма каму зайцоў страляць. Ах, ах, г-х-тфу-фу.

Дзень зноў пачаў яснець, блізка было да вечара. Твар у чалавека паружавеў пры рабоце і на халадку, але папярочныя рысы на ім больш акамянелі. Нязголенае колькі

тыдняў шчацінне на барадзе, рудое, сіваватае, рабіла твар знізу таўсцейшым, шырэйшым, як пята старасвецкай ступы. Адно вока, здавалася, кудысьці падміргвала.

Чалавек у падпяразанай ватоўцы астаўся адзін, дошкі паехалі. З гары доўга чуваць было танклявае «г-х-тфу». Ватоўка на чалавеку сядзела цесна, па шэрых кавалках злямцованай ваты, з дзірак, перацiснутая раскудзеленым путам. Чалавек паскроб гузаватым пальцам пад шапкаю, засадзіў руку за пазуху і там паскроб. Паварочваўся ён рухава, левым лапцем моцна шморгнуў па зямлі — нага была крывая, але ў калене згіналася і, здаецца, мала надазаляла звыкламу да яе чалавеку.

Дробна і суха паплёўваў чалавек, пакляў крыху, без злосці, вераўчаную абору:

— Каб ты згарэла, каб ты... раскручваецца ўсё.

Паставіў нагу на ганак, каб завязаць абору.

Зверху на масток зноў скаціліся сані. Рыжы канюк таксама ратаваў заднія ногі, хамут цёр зноў конскія вушы.

— Не ўмееш з гары з'язджаць,— звінеў з саней вясёлы голас.

За мастком ляйчына спрытна накіравала каня ў хмызняк. Конь пайшоў звыклаю сваёю старэчаю ступою.

— Стой, прыехалі.

З саней злезлі двое.

— Ну, бяры сякеру.

— А ты прывязвай каня.

З вострага пляча злазіў усё ў хлапца расшпілены кажух.

— Хіба каб гэты кажух зусім скінуў, пры рабоце цёпла.

— Ты ж яшчэ рабіць не пачынаў.

— То пачну зараз.

Хлапчук скінуў кажух.

— Адно замінацьме, гаматны вельмі.

Дастаў сякеру і адразу ўзяўся глушыць хмызняк. Твар у яго заружавеў, вялікія вочы хмурыліся ад пільнасці, калі гасіў ён з-за вуха сякераю па ўпартых каржаках.

— Зоська, сцягвай да саней.

— Яшчэ ж няма чаго сцягваць, насячы хаця больш.

— Як бачыш насяку.

— Сячы, сячы, я пачакаю.

Пайшла яна дарогаю да мастка, дзе цішыня пустой будыніны і бязлюднае гала, у дарогу — як вокам сягануць.

Бесклапотна глянула ўніз цераз парэнчу, кінула вочы на дарогу, па той бок мерзлай ручаіны, і пакінула там пільны, збянтэжаны зірк свой. Нацягнула на вочы даўгія вейкі, ссунула на пераноссе лоб.

З кустоў быў братаў голас:

— Ідзі сцягвай, я панасякаў ужо!

— Пачакай крыху.

— Чаго чакаць, каб марудзіць адно?

— Іду.

— Што ты ўгледзела там?

— Бухча едзе.

— Ну?

— Удвух едуць.

— Чорт іх бяры, няхай едуць.

Яна сышла з мастка, коўзалася па слізкіх дошках. У кустах пад нагамі ў яе шорхаў снег.

Тады чалавек у ватоўцы пазваў яе:

— Зоська.

І пайшоў на мост.

— Дзядзька? Чаго вы тут? — здзівілася дзяўчына.

— Бухчу млын разбіраю.

— Нашто?

— А ліха яго ведае, нашто.

— А тата злаваў, дзе вы падзеліся з самага ранку. Мы з Галляшом па фашыну прыехалі.

— Чаго ж вы раней за ўсіх?

— А чаго мне марудзіць,— зазвінела з кустоў,— я сваё адбуду, а там няхай сабе хто калі хоча. Што, няпраўда?

— Ты мяне, Зоська, не бачыла, як на мосце стаяла,— з бацькаўскаю ласкавасцю змяніў голас чалавек у ватоўцы.

— Не.

— А я глядзеў на цябе з-пад млына.

І скрывіў твар ва ўсмешку. Вочы сталі, як шчылінкі, губы заварушыліся і ўзнялі ўгару кароткае шчаціннне — ні то вусы, ні то так колер губы.

Тады забубніў сам сабе, паглядаючы на дарогу.

— Едзе ўжо, з сынам, нешта справіўся хутка, ах, каб ты бокам ездзіў.

І падаўся ў млын грукаць трухлявымі дошкамі.

З дарогі ў кусты санок наскочвалася многа. Запахла сенам, утульнасцю. Людскі гоман ажыў скрозь паўз

ручаіну. Пакуль Бухчавы сані пад'ехалі да млына, там ужо курылі мужчыны, прабавалі пальцамі старасць драўлянай трухліны. Бухча нават крыху збянтэжыўся, калі ўвайшоў у млын,— там былі ўсялякія людзі. З чалавекам у ватоўцы пагаварылі ўжо дагэтуль.

Гэта было з кепікамі:

— Ты гэта, Рыгор, сабе дошкі здзіраеш ці Бухчу?

— Ты ў яго падзённа ці як?

— Грашыма бярэш ці таварам якім?

— А мо па-сваяцку памагаеш Бухчу?

А гэта было стала:

— Увесь млын будзе разбіраць ці адно столь аддзярэ?

— А ён мае права разбіраць? Глядзі, Рыгор, каб цябе ў гэтую кашу не ўмяшалі.

— У якую кашу?

Рыгор сумеўся.

— А от — у Бухчаву кашу.

Былі і так сабе — ні нашым, ні вашым:

— Але глядзі ты, як струхнела. За маю памяць жа яшчэ ставілася.

— Шашаль паеў.

Рыгор выказаў сваё дачыненне да ўсёй гэтай работы:

— Паўрубля якога абарву. Хай з яго вантробы вырве. Сваяк! Дзясатая вада на кісялі, што гэта за сваяўство! От наняўся і ўсё. О-го! Бухча! Гад! Без літасці і сэрца.

Рыгор пачаў падаваць прыклады Бухчавай бессардэчнасці.

— Дзень добры,— увайшоў Бухча ў млын.

Сын, круглатвары здаравяк, апусціў рукі ў дзвярах. Рыгор змоўк.

— Млын разбіраеце?

— Якое разбіраю! Трухлявую столь зніму. Упадзе зараз. Ледзьве бэлькі трымаюцца.

— Няхай падае,— сказаў хтосьці.

Тады не ўсе засталіся ў млыне. Некаторыя выйшлі. Адзін, выходзячы, мармытнуў:

— Зараз пачнецца! На чорта мне канечне быць пры гэтым. Яшчэ, калі што якое, за сведку ўпішуць.

— Я млына не чапаю. Снасці пальцам не крану. Я адно трухлявую столь, мой жа клопат.

— Млын цяпер не твой.

— Я ведаю, што не мой. Я гэта лепш за цябе ведаю. Я млына і не чапаю.

— А што ж ты чапаеш?

— Трухлявую столь.

— Дык ты разбяры сцены ды скажы: «Я млына не чапаю, адно сцены».

— Я гэтага не раблю.

— Ён добра кажа, адно столь. Яго ж работа і клопат. Ён жа стараўся, рабіў.

— Каб я гэтакі, як ён, быў, дык і я мажа рабіў бы. Мажа і я млын паставіў бы.

— А хто табе не даваў быць гэткім, як я? Трэба было не гультаявацъ.

Малады Бухча ўняў бацьку.

— Калі ты думаеш, што маеш права разабраць млын, дык заяві ў канцаляру або падавай у суд.

— Суды і канцаляры, усе разам!

— Нядобра?

Збянтэжаны Рыгор стаяў за людзьмі, коса паглядаў на Бухчу.

* * *

Фашыну вазілі на грэблю. Мужчыны справілі былі гвалт: камусьці здалося, што хтосьці скруціў адзін воз. Гвалт быў з рогатам, з упікамі, з хітрымі ўсмешкамі. Пасля ўсё пайшло ў другі бок: Бухча наладаваў другі воз дошак. Рыгор няпэўна выйшаў з млына, збянтэжана падаўся ў хмызняк да мужчын. Спярша кінуў пару слоў, пасля акінуў вокам — дзе ж яго небажаты? Дзесьці чуўся Зосьчын голас:

— Галляш, тата ж яшчэ казаў дадому воз ядлоўцу прывезці.

— На чорта ён,— гукаў Галляш.

— Тату патрэбна.

— Калі трэба, дык і вязі.

Рыгор знайшоў сваіх наводшыбе. Упартаму Галляшу здавалася, што там гусцейшы хмызняк і лацвей з ім арудаваць.

— Я табе памагу,— сказаў Рыгор, чамусьці беручыся за лейчыну.

— Ідзіце дадому.

І панура плюнуў Галляш сабе пад ногі.

— От упарты, каб цябе немач,— аскірзнуўся Рыгор і прыслухаўся.

Ля млына крычалі. Хтосьці ўспамінаў Бухчава імя.

— Дзяніс, нічога не выскураеш.

— Няма ўжо мне чаго баяцца. Усё адно ўжо.

— Ой, глядзі!

— Што там глядзі? Млын будаваў я? Ты мне не памагаў. Я адзін гараваў? Закон дык закон, я супроць не іду і не пайду! Але калі закон не законны, тады што? Маю я права з свайго млына воз трухлявых дошак набраць ці не, я цябе пытаю?

— Пытай сабе, каго хочаш. Млын цяпер не твой.

— Паедзем,— гукнуў малады Бухча.

Рыгор бачыў, як стары Бухча тузануў лейцы, як сані рушылі і як зараз жа іх абярнулі. Дошкі раз'ехаліся па дарозе.

— Забірай каня за самаўпраўства.

Тады малады Бухча ўскочыў на сані, вырваўшы ў бацькі лейцы, і свіснуў пугаю. Кабыла рванула, шырокаю хадою затраслася ў дарогу. Стары Бухча азірнуўся на мужчын, памаўчаў і пайшоў. Ішоў не дарогаю, а напрамік, сцежкаю, паўз высокую мяжу. З-пад снегу тырчаў сухі быльнік — і аб яго скрозь шморгаўся Бухчаў кажух. Бухчавы плечы ўгнуліся, галава ўціснула ў іх шыю; і хада і постаць яго сталі раптам маўклівымі.

Меркнуў дзень. Алешнік схмурнеў больш, і снег пасінеў. Хмызняк змаўкаў. Рыгор заставаўся адзін. Ён хацеў гукнуць сваіх небажат — Зоську і Галляша, але ўспомніў, што, мусіць, паехалі ўжо. Тады засцібаў дарогаю. На грэблі апошнія дзве фурманкі скідалі фашыну. Яму сказалі:

— Пачакай, садзіся, паедзем.

Грэбля чарнела торпам, паўз бакі чулася ў равах вада. З далей дыхала адчуванне блізкай вясны.

— Цяпер табе Бухча гатоў не заплаціць,— сказалі Рыгору.

«Праўда,— падумаў Рыгор,— чорт з яго цяпер сарве».

І адказаў, узрушыўшыся ад раптоўнай злосці на Бухчу:

— Але. Гэта ж гад.

Памаўчаў, плюнуў дробна і далёка ад дарогі.

— Яго сэрца літасці не мае.

## II

Увечары ў хаце сварыліся. Рабілася гэта звыклым парадкам: павольі, умеру. Было падобна, што людзі робяць

нескапчоную работу, яе пачалі даўно, і канца ёй яшчэ не відаць. Пачалося з таго, што Рыгор, занядбаўшы дома незмалочаны ячмень, пайшоў да Бухчы ў заработкі. Ён моўчкі паслухаў крыху ўпікаў, тупнуў лапцем і раўнуў:

— А што ж я табе тут буду за парабка? Што я тут бачу лішне ў гэтай хаце?

— А я тут паную, ці што,— заенчыла Рыгорава брацiха.

Брат жа плюнуў і сышоў з хаты.

— Пакіньце вы,— гукнуў Галляш.

— Пакінуць яны! Божа, божа! — абазвалася Зоська. Яна зачэсвала перад люстэркам паламаным грабянцом валасы, а Галляш еў у мыцельніку з бляшанага кубка малако. У гэты момант Рыгор аніяк не меў ласкавай сваёй прыхільнасці да Галляша і Зоські. Прыхільнасць гэта да небажат находзіла на яго тады, калі быў ён спакойны душою.

— Бачыш, о! — гукаў ён, міргаючы брацісе ў бок Галляша,— адзін малако жлукціць, а другому нішчымніца.

— А ты ўжо малака не далічыўся.

Рыгор тады ўссунуў на вушы шапку і падаўся з хаты. У сенцах замарудзіў, выцягнуў з кубельчыка крыху сала. Кішэнь у нагавіцах даўно не было ўжо: нагавіцам было год з шэсць, і кішэні пазацягваліся пакрысе латамі. Дык ён сала схаваў за пазуху пад ватоўку. У хаце заўважылі, што Рыгор нешта марудзіць у сенцах. Брацiха адчыніла дзверы з енкам.

— Зноў, можа, па сала палез. Я ж цябе, прасіла, Галляшка, прыбіць на кубел клямку і завесы да вечка, каб замыкаць. А то ўсё парасцягвае ўшчэнт.

— Каб табе духі замкнула,— крыкнуў Рыгор,— як цераз цябе ў сенцы выйсці нельга, усё пільнуе, усё віжуе...

— Пакіньце вы,— нарабіла крыку Зоська,— хто гэта на кублы замок вешае! Вам усё патрэбна не гэтак, як у людзей. Няма, каб хаця вечар пабыло ціха ў хаце.

Шоргаючы крывою нагою, Рыгор выйшаў на вуліцу. Ціснуў за пазухаю сала. Адлежны вецер ішоў з паплавоў; неба над хатамі было — чорнае прадонне.

— Паскавычы там крыху!

Рыгор глянуў на вокны; у хаце ўсё яшчэ падавала злосны голас братавая жонка. З хаты выбеглі Зоська і Галляш. Рыгор усё стаяў насупраць варот.

— От так ужо і пайшлі на цэлую ноч! — абазваўся ён.

Ён пачуваў, што яму трэба сказаць што-небудзь сваім небажатам. У голасе яго была панурая непрыхільнасць.

— А што ж, сядзець ды слухаць, як вы там у хаце грызяцёся?

Гэта сказала Зоська, ідучы паўз дзядзьку. А Галляш застаўся стаяць.

— Што ты, пільнуеш мяне?

І Рыгор запляваў суха і дробна сабе на лапці.

Галляш засмяяўся.

— Нашто вас пільнаваць, і так нідзе не дзенецеся.

— А вы ўсе і рады былі б, каб я дзе дзеўся.

— Вядома, дзядзька, нам толькі і радасці было б. Толькі і ўцехі было б, каб вы дзе падзеліся.

Дзядзька чуў у нябожавым голасе кпіны з нядаўнай хатняй сваркі, але адпускаць адразу насупленасць сваю было нейк нязвычна. І ён сказаў:

— А як жа, гэта я ведаю.

І тады пачаў мякчэць. Ён падаўся ў двор, прайшоў на прыгуменне і ціхом адчыніў гуменныя дзверы. Пралез у чорную пічыліну і пад салому ў куце схаваў сала. Кавалачак жа адрэзаў касою, дастаў адтуль жа з-пад саломы хлеба, сеў на заперыну і еў.

На вуліцы стаяў Галляш, ведаў, чаго дзядзька пайшоў у двор, бо ведаў, чаго дзядзька перад гэтым забавіўся быў у сенцах. Ведаў ён, што дзядзька цяпер есць у гумне сала, і шкадаваў і яго, і бацькоў, і Зоську, і ўсіх сваіх. Так пайшоў у вуліцу.

* * *

Як вярнуўся Галляш у хату, па прыпеку дагарвала газоўка. Густое цемрыва траслося па кутках, тхнула дрэнную парнасцю з-пад лавы, з-пад ложка — адусюль з сцен пры зямлі. Усе спалі; за комінам на печы скробся дзядзька. Адно бацька глытаў дым, седзячы ля стала. Папяросы бацька круціць тоненькія — махоркі ў кааператыве вобмаль — і стараецца не страціць дарэмна анічуць дыму. Здаецца, п'е той дым. Вусаты твар зусім губіцца ў апарыстай хатняй цемені.

— А дзе ж Зоська?

Галляш адказаў панура:

— Не ведаю.

Больш бацька не пытаў. З гэтай восені неўзаметку пакінуў ён пытаць, дзе ходзяць дзеці. Адно дзядзька часам, калі мае настрой пасварыцца, буркне з-за коміна:

— Што, усіх ужо сабак павешаў?

Дык Галляш заўсёды перапускае дзядзьку, адкажа жартам:

— Усіх. Нават і таго валачашчага, рыжага.

— Каб на што добрае, а на гэта ты спрытны.

— А як жа, я толькі на гэта і здатны.

Тут ужо ў Галляша чуецца крыўда, але ён больш стрымлівае сябе, каб усё абышлося ціха. Але ціха не бывае. Уставіць сваё слова бацька:

— Чаго ты да гэтага хлопца чэпішся? Скробся б там за комінам сабе.

— А няўжо ж ты хочаш, каб я цябе скроб?

І пачнецца вайна, пакуль Галляш не загадае бацьку сціхнуць. Калі Зоська ў хаце, дык яна адразу пачынае ўпрошваць старых:

— Ну няўжо вам гэтак люба гэтая калатня?

— А як жа,— гаворыць Галляш,— ты ім есці не давай, а дай толькі пасварыцца.

Раней, у самым маленстве, дык Зоська і Галляш баяліся гэтай хатняй калатні. Усё здавалася малым, што зараз от дзядзька пачне біць маці або бацьку. Дзядзька заўсёды здаваўся вінаваты. Была да яго дзіцячая непрыхільнасць. Пасля ўсё пакрысе пачало здавацца інакш, але доўга яшчэ не хапала сілы ўразумець — каго вінаваціць? І тое, што ўядалася тады ў дзіцячую душу, цяпер часта трывожыла спелую думку, рабіла яе цвёрдай і ўпартай.

Чаму ў дзядзькі была крывая нага? Пра гэта расказвалі, што як быў ён малы, дык наклаў быў на печы агню. Сухая лучына загарэлася адразу, заняліся ўсялякія лахманы, усмалілася сцяна. Малому як запякло, дык ён скаціўся з печы і зламаў нагу. Хату ўтушылі, на печы з-пад вапны і цяпер яшчэ відаць асмаленае бярвенне. Так чалавек і вырас, акалечаны навек.

Тут было шкода дзядзькі.

Але калі абнямог дзед — бацькаў і дзядзькаў бацька — дык тады выразна чакалі, каб ён хацяя хутчэй апаражніў хату. Часта адганялі старога ад стала. Вельмі стараўся тут дзядзька. Ён крычаў да брата — Галляшовага бацькі — ківаючы на старога:

— Гані яго на печ!

Стары тады дрыжаў, браўся на печ і маўчаў там, сцішыўшыся.

Тут у Галляша была нянавісць да дзядзькі і злоснае непаразуменне перад бацькам.

Усё ў гэтай роднай хаце рабілася часта агідным, прыкрым.

Зоська толькі вінавацілa ўсіх за згрызоту, а ён і шкадаваў яшчэ.

От так, кладучыся спаць, ведаў Галляш, што бацька пераседзеў недзе ў людзей вечар, пакуль скончыцца ў хаце сварка (самому часта агідна было грызціся), цяпер дапівае апошні дым з недакурка, зараз, павольна вохкаючы, пачне раздзявацца і разам з гэтым шаптаць малітву.

«...Аставі нам долгі наша, яко жэ і мы астаўляем даўжнікам нашым»...

«Якія тут «долгі», хто іх каму калі «астаўляе» і на што іх «астаўляць»,— думае Галляш, слухаючы бацькаву спрадвечную малітву, бясконцую, як ярмо для вала.

«...Прыпанцісці пілаці»...— шэпча бацька незразумелыя, патаемныя для простага чалавека словы.

«Прымасціўся страляці»,— усміхаецца скрозь першую дрымоту Галляш.

Раптам бацька сам перарывае свае модлы:

— Ты быў не разам з Зосяю?

— Не,— нехаця адказвае Галляш.

— Дзе ж яна забавілася гэтак?

Галляш засынае і чуе, як крэкча бацька, сцягваючы з ног боты.

Бацька доўга не спаў. Калі ўставаў поцемкам закурыць, знячэўку стукнуў локцем аб стол і пабудзіў Галляша. І абодва цяпер не спалі. Галляш паціху, а бацька вохкаў, варочаўся. І раптам зноў успомніў:

— Ці прыйшла Зося?

Тады ўстаў, запаліў сярнічку. Зосьчына пасцель пуставала.

— Мусіць, позна ўжо? — абазваўся Галляш.

— Пеўні спяваюць.

Бацька заснуць не мог. Усцягнуў на ногі боты, адзеў кажух. Галляш бачыў, як матнуўся бацька на двары паўз акно: пайшоў на вуліцу. Цяпер занепакоіўся і Галляш. З-за бацькі? З-за Зоські?

Ён не ўспамінаў. Ён чуў цяпер, як удзень, калі секлі фашыну, Зоська ўвесь час была збянтэжанаю пасля таго,

як убачыла Бухчаў. Яна тады, прыбегшы да саней, нейк адразу зыначылася, ускідала фашыну на сані няўдала — фашына скочвалася на зямлю па той бок саней. Тады ён на яе нават зазлаваў быў:

— От бо неўдаль!

А яна не чула. Бо каб чула, дык адказала б што-небудзь:

— От ты ўжо ўдалы!

Або:

— Як жа, я ад усіх няўдалейшая.

Яна ўсё штосьці думала, варушылася ля саней, стала маўклівай, пачала спяшаць, каб хутчэй кончыць. Сказала была, што бацька загадваў прывезці воз ядлоўцу дадому, а пасля і не ўспомніла нават, калі Галляш не захацеў больш варочацца і паехаў дадому ўлегцы.

«На чорта гэты ядловец дома, запамагчыся бацька драбязою ўсялякаю хоча. Гаспадар! Пра гэтакую драбязу адно і думае. За саломіну гатоў набіцца, а да большага чаго яго думка і не даходзіць. Гэтак і век зжыў, як чарвяк у нары. І яшчэ мне гэтакую самую сцежку вызначаў».

І цяпер зноў, забыўшыся на ўсё, гэтае самае перадумвае Галляш. Сон прапаў. Злосная рашучасць мучыць яго. Яму хочацца ўстаць зараз жа і ісці з хаты. Непакой, трывога зусім апаноўваюць ім. «Зрабіў бы ўсё адным махам!»

«Праўда, дзе ж Зоська?»

Бацька паволі ідзе назад дваром з вуліцы паўз вокны. Падсутуленыя шырокія плечы пасунуліся паволі.

Галляш усхваціўся і пачаў адзявацца. Бацька здзівіўся:

— Чаго ты? Куды ты?

Што сказаць бацьку?

— Не спіцца мне... галава баліць...

Напэўна, не верыць бацька. Што б яшчэ гэтакае прыдумаць, каб ямчэй зманіць.

— Вечарам выпіў з хлопцамі, дык з непрывычкі нядобра мне. Прайдуся пайду крыху па дварэ.

Але бацька спрактыкаваны:

— Дык трэба праспацца, а не хадзіць.

Тады ўсё ўскіпела, уздрыганулася:

— От што, бацька, ідзеш ты ў калгас ці не? Сёння трэба запісацца. А не — дык заставайся адзін, мы з Зо-

сяй пойдзем без цябе. Як сабе хочаш, я не магу ўжо больш гаварыць табе.

Бацька хоць бы слова адказаў. Стаў закурваць.

— Божа мой, божа мой, дзе Зося? Днее ўжо.

Цьмяныя здагадкі і трывогі пагналі Галляша з хаты.

* * *

Бухчаў Стась! Вось каго Галляш і не любіў, можна сказаць, ненавідзеў і нават пабойваўся. Братняя чуласць да Зoські з'явілася адразу, прачнулася зусім у гэтую раніцу. З самага маленства гэта чуласць не прыкмячалася, яна губілася ва ўсім штодзённым, звыклым, не было прычыны, каб яна выразна апанавала сэрцам.

Зоська была яшчэ дзяўчынка, яшчэ нясталая рухавасць была ў яе, але ўжо апошнім годам шпарка рабілася яна дарослаю. Неўзаметку ўсё гэта прыйшло. Цяпер яна наводзіла ў хаце свае парадкі, упікала ўсіх за згрызоты, клікала няўмекамі ў жыцці, цемнікамі ў людзях. Бацька заўсёды маўчаў і ганарыўся дачкою, а маці не паддавалася. Тады Зоська брала маці пад уладу сваёю работаю. Маці бачыла, як удала ўсё робіць яна, і змаўкала. «От гэтак трэба»,— як бы гаварыла Зоська, і маці моўчкі згаджалася.

Часамі на яе находзіла задумёнасць. Управіўшыся, яна мылася, паламаным грабянцом расчэсвала валасы, прыбірала ў хаце, вымятала, выскрабала, вымывала і гаварыла сама сабе:

— Як ты тут ні скрабі, ні шаруй, усё адно рады няма. Не надоўга. Жывуць!

— А як жа, дачушка, жыць? — уздыхала маці.

Тут і ўстаўляў сваё слова Галляш. Ён, старэйшы ад Зосі на гады два, цяпер, у сэрцы, меў яе за вернага саюзніка свайго.

— Вядома,— гаварыла маці,— хто багацейшы, той і жыве лепш.

Бацька душою сваёю гэтак жа сама разумеў усё, але маўчаў — знаравіўся чуць ад Галляша зусім іншае ад свайго разумення рэчаў, што ішло насупраць усіх адвечных бацькаўскіх і дзедаўскіх устанаўленняў. Ён верыў, што ў Галляша добрыя намеры, але думка яго не давала веры, што ўсё гэтак добра будзе. Перад сынам цяпер ён найбольш маўчаў і, з сваёй адвечнай прывычкі,

з патрэбаю і без патрэбы ўсё ўздыхаў, глытаючы дым з махоркі.

Адзін раз Зося прыйшла з гулянкі ўстрывожаная, неспакойная. Гэта заўважыла маці, пра штосьці ціхом запытала. Тая доўга не гаварыла з мацераю, засмяялася, пастаралася скінуць з сябе адзнакі ўзбуджанасці. Гэта заўважыў Галляш і адчуў у сястры цяпер сталасць, сілу, даросласць, не вядомую дагэтуль і не свядомую для яе самой спрактыкаванасць. З таго часу пачаў гаварыць з ёю пра ўсё сваё. Так сталі яны свядома блізкімі.

Пасля, праз доўгі час, Зося, як бы ненарокам, успомніла Галляшу, што Бухчаў Стась угаворвае яе ісці за яго замуж.

— І не думай,— узгарачыўся Галляш.

Зося адно ўсміхнулася і пра гэта больш не ўспамінала. Але Галляш і без Зосі чуў ад хлопцаў і дзяўчат, што малады Бухча не кідае сваіх думак. І чым больш Зося абыякава была ў дачыненні да яго, тым больш ён шукаў яе. Гэта гаварылі ўсе. Людзі ж ведаюць усё, нават хто што думае.

«А можа гэта яна цвеліцца з маладым хлопцам, Стасем Бухчам»,— думаў часамі Галляш.

Гэта часам пасавала да Зосьчынай таемнай жаночай усмешкі.

* * *

На ўсю вёску пеўні віталі дзень. Світанне вырастала з аснежанай зямлі. У Галляша пад нагамі снег асядаў з мокрым шорганнем — Галляш ішоў напрамік агародамі. Суседні сабака правёў яго скрозь да паплаўной сцежкі на дарогу.

Чуўся дзень. Блізка чулася вясна.

Галляш думаў: ад маладога Бухчы можна ўсяго чакаць цяпер. Няўдача ўсіх бацькаўскіх і яго меркаванняў зрабіла яго злосным і рашучым. Стары Бухча — дык той затаіў у сабе сваю нянавісць, перад людзьмі стараецца быць лагодным, сын жа — мо з маладосці гэта сваёй — яшчэ ўсё ў рызыканты глядзіць. «Цёмныя мужыкі, кажа, адно могуць давесці ўсё да зруйнавання, да роскіду». Ён і язык трымаць за зубамі можа, але і слова часам загнуць умее. «Нашто яму Зося? Узяць замуж? Зося не павінна ісці на гэта. Меркаванні тут якія ў Бухчы? Якія?

Чаму Зося не пагнала яго адразу ад сябе? Чаго дагэтуль важдаецца? Можа яна незнарок цвеліцца з ім?»

Тут толькі падумаў Галляш, куды ідзе. Зося хадзіла ўчора гуляць да таварышак на цэлы вечар. Каля той жа хаты Галляш чуў голас маладога Бухчы. Дзе Зося? Чаму за цэлую ноч не прыйшла?

Галляш збочыў на прыгуменні. Прайшоў скрозь двaром той хаты. Вядома, там было ціха. Праз акенца відаць было — гаспадыня корпаецца ля печы, на стале гарыць лямпа, і дзяўчаты-сёстры, Зосьчыны таваршкі — бяруцца за кудзелю. Галляш ускочыў у хату.

— Дзе Зося?

— Як дзе?

— Куды ад вас пайшла ўчора?

— Чаму?

Галляш аж зазлаваў:

— Зося дадому не вярнулася з вячорак.

— А можа?!

Дзяўчаты ўскочылі, маўчалі, маці застыла ад навіны ля печы ў нерухомасці.

— Яе Бухча ўзяўся правесці дадому.

— Ну, дык Зосі дома няма.

Ён сказаў гэта моцна, і ўсе адчулі сябе як бы вінаватымі тут, у гэтым здарэнні.

І страх за Зосю, і злосць на яе змяшаліся разам і пагналі Галляша з хаты.

Цяпер ён спяшаўся вельмі. Пабег назад на паплавы, цераз іх — на дарогу. Павальней пачаў ісці, калі змрок стагодніх хвояў схіліўся над дарогаю. Бязветраніца адпачывала на хвойных верхавінах. Цішыня была гэтакая, што крокі трывожна гучалі на ўвесь свет. Дзень плыў шпарка. Ён чуўся дзесьці за хвоямі, за гэтым змрокам роўнага стволля. Дзень цадзіўся сюды з неба праз высокае галлё. Пахлі прасторы, блізкая вясна.

Заядла брахаў сабака ў бок ад хвояў, на Бухчавым хутары. Туды збочвала ад лесу сцежка праз поле, праз рэчку.

## III

У Бухчавым салончыку, над старасвецкаю камодаю, віселі фатаграфіі. Павятовы фатограф быў невялікі майстра, і стары Бухча на адной фатаграфіі выйшаў з пагну-

тым носам, з адтапыранымі губамі. Але вочы выйшлі як жывыя. Яны сядзелі спакойна на сваім месцы, спрабавалі аглядаць канец мясістага носа, глушылі ўсё навакольнае ўпартым задаваленнем.

Старая Бухчыха перад смерцю (гадоў два таму) колькі разоў гаварыла, гледзячы на фатаграфію:

— Які ты быў, Дзяніс, тады цікавы. Глядзеў, як пан, сабе. Цяпер твае вочы змяняцца пачалі, а яшчэ, здаецца, нядаўна было!

Дзяніс адказваў:

— Нічога, будзе яшчэ і наша.

— Ой, калі ж яно будзе?

— Будзе, я ведаю.

— Нічога не будзе. Будзе гэтак, як шваргу.

Тады Дзяніс Бухча пераводзіў вочы з жонкі на фатаграфію і доўга ўглядаўся. Там, поплеч з ім, стаяў чалавек, ростам вышэйшы ад яго. Добра разгладжаныя вусы, барада голеная, глянцаваныя гамашы (на фатаграфіі выйшлі белымі). Рэшта ўсё, як і ў Бухчы,— манішка, тоўсты ланцужок з цацкамі ад гадзінніка на жываце, валасы ўгору вожыкам.

— Сэдас, пане Сэдас! — трасе галавою Бухча.

Бухчыха выцірае слёзы, жагнаецца і ідзе з салончыка, шэпчучы пацеры. Фатаграфія з Бухчам і Сэдасам рыжэла з кожным годам. Пад ёю вось ужо колькі год нечапаная сарвэта на камодзе, пыл, леташні агрызак яблыка, тры ці чатыры кнігі — адна ў даўнейшай скураной вечнай вокладцы, з пазлацістым друкам на ёй: «Русские полководцы от генералиссимуса Суворова и до наших дней», на гэтай кнізе касцельныя кантычкі, а рэшта — усё драбнейшыя помнікі культуры: «Практический семейный и для молодых людей письмовник», соннік, аракул і яшчэ сёе-тое.

Бухча заходзіць сюды не часцей, як раз у тыдзень, глянуць на шваргра Сэдаса і падацца думкамі ў мінуўшчыну.

Сэдасаў твар як жывы. Бухча калі спаткаўся з ім, было ім абодвум па гадоў так з трыццаць пяць. Бухча быў ужо сталым асэсарам і задаволена гаварыў мястачковым знаёмым:

— Дзякуй богу. Усё добра.

Ён памятаў тады яшчэ лапці, нішчымніцу, халодную зацірку з макам, але разам з тым вызнаваў ужо сябе

за выдатную галаву, што спрытна гэтак выйшла ў людзі. Хутар ствараўся пакрысе, не адразу. Прыйшоўшы з салдатаў, Бухча заявіў:

— Я — царскі чалавек.

І пачаў шукаць сабе лёгкага хлеба. Падаваўся ў стражнікі, у манапольшчыкі, у местачковыя крамнікі, у сальнікі... Такім чынам набылася нейкая з тысяча рублёў. А гэтай тысячы дадзены быў гэтакі ўдалы ход, што праз гадоў колькі льга было пачынаць скупліваць у абяднелых вяскоўцаў зямлю. Бухча стараўся, як мог. Ён угаварыў сваіх жа вяскоўцаў спрадаць яму скрозь па гэты бок рэчкі імшыстыя паплавы. Сена на іх расло дрэнна, і вяскоўцы ахвотна збылі за бесцань гэтую сваю дзялянку, думаючы купіць у суседняга пана на тое месца лясны выцераб на раскарчоўку. Выцераб яны купілі. Бухча сваю дэкларацыю выканаў: пабыў перад панам за адваката ад усёй вёскі, але ў панаву руку, а з гэтай прычыны аж да самай рэвалюцыі вяскоўцы не маглі вылезці з даўгоў. За няпоўную выплату пан падаў у суд, і ўвесь час пяты сноп з раскарчаванага поля вяскоўцы завозілі пану за працэнты. Пан рабіў ласку, прымаў і чакаў доўг. А Бухча перакапаў поплаў ровам, нечым угнаіў яго, і вяскоўцы неўзабаве аж валасы на сабе рвалі, што гэтакае багацце збылі за бесцань печанаму гаду. Падобным парадкам Бухча яшчэ з некалькіх памежных вёсак паскупліваў сабе па кавалку — то зямлі, то поплаву, то хмызняку. І хутар заснаваўся.

Па той бок рэчкі ў роднай вёсцы засталіся сваякі па стрэчнай лініі — крывы Рыгор з братам. Родны ж Бухчаў брат доўга не цешыўся з братавага панавання. Ён быў хваравекаваты і пасля бацькавай смерці застаўся служыць да старэйшага брата свайго — Дзяніса. Той з ім абыходзіўся па-брацку — ніводнага рубля яму не скруціў, як часамі іншым сваім парабкам (што ж, тыя былі чужыя людзі). Усё як мае быць плаціў брату за парабкоўства Дзяніс Бухча. Але той, не зважаючы на гэтакую братэрскую прыхільнасць, памёр, і людзі казалі, што не ад салодкага жыцця. Тады Бухча выпусціў вясковую бацькаўскую хату і зямельную дзялянку ў арэнду. Была яшчэ маладая сястра. Дзяніс Бухча пачаў знацца з панамі (знімаў шапку здалёку), і пашэнціла яму аддаць сястру за пакаёўку ў двор. Тады ўжо ўсё было добра. Хутар рос. Бухча багацеў.

4 Зак. 1144

З салдатаў Бухча прынёс знаёмства з культураю (кнігі на камодзе), нянавісць да мужыкоў «за іх хамства».

Раптам з'явіўся на даляглядзе новы чалавек. Гэта быў Стафан Сэдас, панскі сырнік. Бухча і цяпер як мае быць не ведаў, адкуль ён родам быў, гэты Стафан Сэдас. Нешта ён так, ні то з-пад Сувалак, ні то можа з-пад самай Варшавы. Бачыў і ведаў Бухча толькі адно: чалавек гэты з добраю галавою, не любіць мужыкоў, выглядае панам, умее добра з панамі ладзіць, а як пачне гаварыць, дык не спаў бы, не еў бы, а ўсё слухаў бы. Адным словам, чалавек, можна сказаць, культурны. Ён і пра сямейныя інтымнасці ўсіх навакольных паноў, і пра гешэфты павятовых скупшчыкаў з панамі, і нават у вясёлую хвілінку, калі ў галаве гэтак лёгка туманіцца хмель, пра заляцанні старога пана да аптэкаравай жонкі ў мястэчку. І раптам гэты чалавек, гэтакі добры знаёмы, гэтакі прыемны госць, робіцца Бухчавым сваяком — бярэ замуж панскую пакаёўку, Бухчаву сястру. Пан адчыняе другую сыраварню, і Стафан Сэдас, Бухчаў швагер, робіцца майстрам у двух маёнтках адразу. Складаецца цікавае сяброўства: хутаранец Бухча, сыравар Сэдас, местачковы арганісты, наглядчык панскіх садоў.

І вось тут Сэдас страшэнна ненавідзіць папоў. Ён паважае ксяндзоў, а Бухча з папом першы друг. А пра дзяка і гаварыць няма чаго. Той, як дзень, так ноч, трэцца на Бухчавым хутары. А тут якраз, з Сэдасавай ласкі, укліньвацца пачаў да Бухчы арганісты, а за ім яшчэ гатоў з'явіцца на даляглядах і сам ксёндз! А Сэдас не такі чалавек, каб пагадзіць праваслаўе з каталіцтвам разам. Так гэтая няпэўнасць цягнулася нешта з год, а пасля поп зусім мінаць пачаў Бухчаў хутар. Ксёндз, праўда, Бухчавым другам не зрабіўся, але затое арганісты як мае быць замяніў Бухчаву страту, калі дзяк пры спатканні з Бухчам адвярнуўся і не падаў рукі.

А над Бухчаваю камодаю ў салончыку з'явілася на сцяне велікодная паштоўка: ідуць пад руку паніч з паненкаю. Навокал іх распускаецца бэз, а ўнізе напісана Сэдасаваю рукою: «Wesoeego aleluja».

Бухчу часта агортвае нуда. Не трывога, а нуда. Трывога была калісьці. Першы раз, несвядомая, цьмяная, яна пеканула была Бухчу за сэрца, калі запенілася паводкаю вестка, што цара скінулі.

Бухчу душыла трывога. Пасля трывога мінулася. Усё

як быццам было, як і раней. Нават яшчэ і весялей як бы: швагер, слаўны Сэдас, заснаваць пачаў у мястэчку прадпрыемства, якое назваў кааператывам. Першымі буйнымі пайшчыкамі былі Сэдас, Бухча, ксёндз, арганісты, сам пан, гаспадар сыраварняў і ўсё мястэчковае праваслаўе — поп, дзяк і некалькі блізкіх да іх багатыроў. Тут праваслаўе і каталіцтва пагадзіліся. Ніякіх канфліктаў не адбылося і адбывацца не мелася. Наадварот, поп быў пачынальнікам усёй справы і сам выбраў за галаву Сэдаса. А той сам прыехаў да папа і меў з ім доўгую гутарку. Пайшчыкаў больш не запісалася, але яны і не патрэбны былі: прынамсі кожная драбяза не перашкаджала. Гандлёвае таварыства, ці, як у статут было ўпісана, «кааператыў» — шырылася вельмі ўдала.

Але адбылася другая рэвалюцыя, і прадпрыемства пайшло дагары нагамі, а ўсе ўдзельнікі яго пашыліся ў свае норы, як рудыя мышы.

— Прапала Расія,— затрос галавою Бухча.

Сэдас тады сагнуўся, але вострае слова пускаў, калі хто-небудзь з вёскі спаткае яго кплівым жартам:

— Чаго ты, пане Сэдас, ходзіш, як свіны тата?

— Будзе яшчэ ўсякіх татаў,— адказваў Сэдас.

І, праўда, Сэдас, а з ім і Дзяніс Бухча прычакалі таты. Як прыйшлі палякі, яны паднялі галовы. Сэдасу пан падараваў зямлі, і ён кінуў сыры, зрабіўся панскім маёнткавым кіраўніком і заводзіць стаў уласную дамоўку. Вяскоўцы гаварылі, што лепшага панскага падбрэхача цяжка і знайсці. З паліцыянтаўскага пастарунка ён і не вылазіў цяпер. Наводзіў ён паліцыянтаў на кожнага, калі дзе хто якое не зусім трывалае слова скажа. Крывому Рыгору, Бухчаваму сваяку, паліцыянты спаласавалі шампаламі ўсё цела за тое, што ён не захацеў везці Сэдаса кудысьці за дваццаць вёрст (Сэдас нейкім парадкам меў права ездзіць куды сабе захоча на вясковых фурманках). Сэдас уеўся ў косці вяскоўцам гэтак, што, як адыходзілі палякі, дык яго загадзя яшчэ злавілі, звязалі, заткнулі анучаю горла, каб аж енку не падаў, і трымалі так два дні ў сушні пад кастрыцаю. Вяжучы яго, Рыгор, разам з трыма другімі, адвёў душу за ўвесь апошні час. Сэдас там ледзь не кончыўся, аслабеў, змардаваўся.

На адыходзе польская рота назнарок была спынена, каб знайсці Сэдаса. Траслі ўсю вёску, падпалілі з двух

канцоў, але вяскоўцы тут жа ўтушылі. Увечары, бачачы, што будзе кепска, калі Сэдаса знойдуць, хлопцы выкраліся пад сушню, развязалі Сэдасу ногі і пагналі ў лес. Стрэльбаў у іх не было, і ён кінуўся наўцёкі. Яго запынялі ад усіх бакоў, каб ён не выскачыў туды, дзе стаялі палякі. Гналі гэтак да лесу, дзе ён упаў, там яму і зрабілі канцы. Гэта ўсё трымалася ў таемнасці, але людзі потым ведалі. Самі ўдзельнікі гэтай справы таму-сяму пошапкам расказалі пра гэта, калі ўжо Бухча страціў усялякую надзею, што палякі вернуцца.

Цяпер ужо было Бухчу ўсё роўна — палякі, немцы, кітайцы, туркі, абы не бальшавікі, ці, як ён гаварыў, хамы, парабкі, мужыкі. Якраз бо і сталася дзіўна для яго — дзяржава загаварыла мужычаю моваю.

І з таго часу, як памерла жонка, ніхто больш не сціраў пылу з камоды, з «русских полководцев», з касцельных кантычак, што нябожчык швагер Сэдас падараваў немаведама нашто.

Бухча пастарэў. Ён бедаваў цяпер вельмі, што сын застаўся так сабе, не выйшаўшы ў людзі, што не вывучыўся ён, не надзеў сурдута з бліскучымі гузікамі, або... ах, не збылася адна вялікая мара! От вывучыўся Стась за доктара. Доктар з яго выйшаў знакаміты. Тут на хутары выстраіў ён сабе бальніцу. Да яго з'язджаюцца лячыцца ўсе выдатныя людзі, усе багатыры, асэсары, пасэсары, дзедзічы, паны, папы, ксяндзы, хутар робіцца маёнткам, пасля ўжо ў Бухчы некалькі маёнткаў!..

А выйшла так, што Стась ходзіць за плугам гэтак, як ходзіць які-небудзь крывы Рыгор, хлапчук Галляш, Галляшоў бацька...

Сваякі! Стрэчныя сваякі! Як іх ненавідзіць Бухча! І больш за ўсё таму, што цяпер, у гэты час, трэба здавацца перад імі лагодным, савецкім, чуць не бальшавіком, прынамсі, іхнім самым лепшым другам. А калісьці бывала!..

Там не было ніякіх фатаграфій. За што там было здымацца, калі хлеба ў хаце не было! Тады, як родны Бухчаў брат служыў у Бухчы за парабка, стрэчныя сваякі прысявалі ў Бухчы на аджон то картоплі, то льну, то бралі часамі гатоўкаю збожжа на адработак. Усё гэта атульвалася нейкім сваяцтвам: Бухча, бывала, з паўкаша лішняй бульбы сваякам усыпле або Зоську раней (тады яшчэ зусім дзіцё была) з работы пусціць. Прыйшоўшы

ў вёску, гады ў рады зойдзе да сваякоў у хату, пасядзіць хвілін пяць, не знімаючы шапкі, дасць колькі гаспадарскіх парадаў, якіх беднаму сваяку і выканаць ніяк нельга. У дачыненнях фальш чулася заўсёды. Калі, бывала, Бухча сядзіць у хаце, Галляшоў бацька не ведае, з чаго пачынаць і як канчаць гаворку. Найбольш маўчаць або выпытваюць адзін у аднаго тое, што і так больш як трэба вядома, што нецікава і пра што пытацца страшэнная нудота.

— Ну, як жа братавая маецца? (Гэта Бухчава жонка.)

— А як твая маецца?

— Ці скончылася крыцца гумно?

— Ці знайшоўся сабака?

Як падраслі Галляш з Зоськаю, дык дражніць пачалі бацьку за гэтакія гаворкі з Бухчам. Пасядуць адно насупраць другога і перапытваюць адзін у аднаго ўсялякую драбязу, гэтак, як робяць бацька з Бухчам. Аж самому бацьку смешна стане — возьме дый зарагоча.

Пасля, як Галляш яшчэ падрос, загадаў бацьку зусім пакінуць знацца з Бухчам. Каб раней, дык гэта Бухчу нават і прыемней было б, што нейкі галетнік пакінуў вызнаваць яго за сваяка. Але надышлі гэтакія гады, што самому Бухчу не зусім добра было не знацца з галетнікам-сваяком. І вось Бухча пачаў часцей даходжваць сюды. Цяпер у яго знаходзілася і гаворка, праўда, таксама ні яму, ні сваяку нецікавая, але яна часам ішла доўга, не спынялася — дзе трэба, дык Бухча пагаварыць умеў. Раз Бухча як бы пакрыўдзіўся на сваяка:

— Што ж гэта дзеці нашы не знаюцца, жывуць, як чужыя. Стась і Галляш не сыдуцца нават ніколі.

— Ат,— адказаў сваяк.— Справа іх, маладых. Што мы, старыя, будзем ім гаварыць, як і што. Маладыя цяпер не любяць, каб іх старыя вучылі.

— От табе і маеш! — пацінуў плячыма Бухча.

Больш пра гэта Бухча не ўспамінаў. Тады ж Галляш стаў трывожыцца за Зоську наконт Стася.

Рыгор — дык той з Бухчам трымаўся крыху інакш. Ён яго зняважаў за ўсё жыццё сваё вельмі, але бяднота ў хаце гнала часам яго на ўсялякую гаворку з Бухчам. Раз ён ад Бухчы прывёз з паўвоза саломы і ўсё ўсміхаўся:

— Схітрыў! У Бухчы воз саломы вырваў.

Брат быў рад, а нябож Галляш абазваўся:

8/1028

— Але ж і папаскакаў ты, дзядзька, каля гэтага Бухчы, пакуль гэтае дабро выскакаў! Запамога!

Тады бацька з дзядзькам уз'еліся ўдвух разам:

— Дык ідзі дзе дастань лепшага дабра. Няма, каб ён вучыўся ўсё ў хату дбаць, дык не! Як жа будзеш жыць на свеце?

— Буду жыць.

— Пажывеш ты!

— Пажыву, лепш за вас.

— Паглядзімо.

— Пэўна, што гэтак мучыцца цэлы век не хачу.

Галляш пачаў гнаць бацьку ў калгас. Бухча, калі заходзіў, не асмельваўся пярэчыць Галляшу, але бацьку і дзядзьку часам штосьці шаптаў. Галляш здагадваўся, што там за шэпты, і раз нарабіў на Бухчу крыку. Бухча пайшоў, падтуліўшы плечы, бацька нічога не сказаў Галляшу.

Дзядзька праз колькі дзён наняўся да Бухчы раскідаць млын. Галляш злаваўся на дзядзьку за гэта, упікнуць яго хацеў.

«Зарабіць надумаўся!»

## IV

Галляш убачыў старога Бухчу на двары. Здалёк чуў Галляш танклявае адхаркванне:

— Г-х-тфу... Г-х-тфу...

Бухча занепакоіўся, як убачыў Галляша. Здзіўлена паглядаў з-пад прыложанай да лба далоні, цяжка сунуў насустрач свае ногі.

— А-а-а-а... Галляш. Г-х-тфу...

— Дзе Зося?

— Зося?.. Чаму?

— Стась дома?

Бухча збянтэжыўся. Захаркаў больш, зачухаў шыю. Галляшу захацелася як мага хутчэй пайсці адсюль.

— Ніколі, Галляшка, і не зойдзеш да нас. Хадзем у хату.

Бухча ўзяў Галляша за плячо.

— Я прыйшоў запытацца, ці не было ў вас Зосі?

— Зосі? Хадзем у хату.

Галляш пайшоў за Бухчам.

Палілася ў печы, наймічка спрытна завіхалася. Бухча

павёў Галляша далей, у невялікі апушчаны пакойчык. Пасля няёмкай маўчанкі Бухча пачаў:

— Галляшка, Стась хоча браць замуж Зосю.

— Я ведаю.

— Мы, Галляшка, сваякі далёкія, гэта можна. Самі мы ведаем, у архірэя пытацца не трэба.

Галляш слухаў.

— Тут калектыў робіцца ў вас там — няхай, г-х-тфу, робіцца. Я не супроць. Я сам паспрыяць гатоў. Колькі ў мяне зямлі пасля абрэзак засталося, я і так, калі трэба будзе, пад калектыў кавалак аддам... Стась няхай, калі возьме Зосю, бярэ сабе кавалак і дабра частку і хоць сабе выдзеліцца няхай. Можа нават у прымы да Зосі — хату вашу пабольшыць, прыбудаваць ці на вашым, г-х-тфу, пляцы зусім новую — тата твой бядняк, і яму лесу дадуць на хату. Я сам памагу грашыма. Мы з Стасем не ладзім. Можа я сам ажанюся, а можа дажыву век і гэтак, а ён за пралетарат стаіць, г-х-тфу, а я чалавек стары і хоць таксама за пралетарат, але я дажыву век у сваім гняздзе. Хай сабе Стась, калі хоча, у калектыў, г-х-тфу, падаецца. Я не супроць. Але можам і пачакаць крыху. Першым не канечне лезці, можа быць усяк, можа гадоў цераз два ўсе гэтыя калектывы параскідаюцца, можа гэта толькі выдумка, каб давесці людзей да торбы. Мужыку трэба што?!

Бухча пачынаў рабіцца самім сабою.

— Што трэба, я ж кажу, мужыку? Ты яго не чапай, каб ён быў сам сабе гаспадар, дык хто з галавою — стане багатым, будзе добрым гаспадаром, а дурны — хай сабе за парабка, г-х-тфу, пабудзе. Трэба даць чалавеку, які ўмее жыць, ход, не то што... А гэтыя калектывы, дык як зменіцца ўлада або вайна пачнецца, дык адно загудуць. А хто сам вельмі першы лез, дык таму мала не будзе, г-х-тфу. Я ж кажу, Стась, калі перабярэцца да вас, хату зробіць, хай тады ўсё дабро з хутара бярэ, хоць сабе і будынкі разбірае, жывёлу, снасць... От гэта ўсё і будзе, а зямля — што зямля!..

Галляш не слухаў. Яму хацелася шпурнуць куды ад сябе гэтага чалавека, знішчыць яго.

— А як родны брат быў у вас за парабка?

Бухча цмокаў губамі, збіраючыся штосьці сказаць.

— А як майго бацьку вы ніколі за чалавека не мелі?.. Дзе Зоська?

Бухча адумаўся, збянтэжыўся.

— Я сам за пралетарат.

— Дзе Зося?

— Г-х-тфу.

Галляш пайшоў з хаты. Праскочыўшы кухню, на двары азірнуўся. Бухча стаяў на ганку і харкаў у снег.

Цяпер зусім разднела. Апошняя панурасць ночы хавалася ў лес.

Галляш ішоў лясною дарогаю.

Раптам ён пачуў, што паблізу дзесьці гавораць.

* * *

Пасля Зося расказала.

Увечары Стась Бухча быў п'янаваты — дурэў больш, як заўсёды, спяваў, рагатаў. Трымаўся з хлопцамі добра, гаварыў усім у руку, аж усе дзівіцца пачалі. Пасля, як разыходзіліся вячоркі, Стась колькі разоў прыкладаўся да шыбы і паглядаў на двор.

Ён намогся праводзіць Зосю. Было вельмі позна. Ні ў кога нідзе ўжо не свяціліся вокны. Ён пастараўся астацца з Зосяю ад усіх. Зося тады, як бы чуючы што нядобрае, сказала яму не праводзіць яе далей,— «я адна пайду цяпер». Ён жа тады затрымаў яе і павярнуў у другі бок. Пуста было на вуліцы, усе адышліся далёка наперад.

— Куды ты вядзеш мяне? — запытала перапалоханая Зося.

— Зося, калі хочаш, зараз жа пойдзем назад.

— Пусці, я адна пайду.

— Ідзі, калі хочаш, але я лепш давяду цябе.

— Ну дык вядзі.

Аднак жа Стась усё вёў Зосю наперад.

— Пусці.

Зося паспрабавала вырвацца. Стась прытрымаў яе і пачаў рашуча ўгаворваць ісці за яго замуж.

— Пусці,— колькі разоў гукнула Зося.— Не пайду.

Стась усё трымаў яе, угаворваў, абяцаў усё, што, калі хоча, дык зараз жа вернуцца назад. Аднак жа яны не варочаліся і дайшлі так да хутара. Зося плакала, рвалася.

— Няўжо ты думаеш, я табе што дрэннае зраблю? — гаварыў усё малады Бухча.

Днела. На двары Стась трымаў Зосю за руку.

— Пусці мяне.

Тады яны пайшлі назад. Стась гаварыў, Зося рада была, што ідзе адсюль, што днее, што зараз за лесам відаць стане вёску.

Стась колькі разоў прыпыняўся...

* * *

Яны сядзелі на вывернутай навальніцаю хвоі. Зося здавалася злоснаю. Галляш убачыў яе змучаны бессаннню твар, утомленыя вочы. Яна злавала:

— Нашто табе я? Выгады нейкай шукаеш, ці што?

— Ніякай тут авантуры няма.

— А што ж?

— Я не ладжу з бацькам. Я набяру дабра і адыду. Нават магу ў прымы да цябе. Хату пабудуем новую, дом пабудуем, нават бацькаў дом можам куды перанесці.

— У калгас мы сёння з Галляшом запісваемся, от і ўсё.

— Хай сабе Галляш з бацькам запісваецца, а мы з табою...

— Як гэта з табою? Пусці, я пайду.

— Зося, бацька мой сваё аджыў, я сам гэта ведаю, цяпер па-інакшаму трэба сваё браць... Бачыш, я з табою шчыра...

Зоська раптам устала і пайшла, нясмела, паволі, азіраючыся на Бухчу. А той памкнуўся яшчэ затрымаць яе і так застаўся стаяць моўчкі. Галляш прайшоў паўз яго, гледзячы яму ў твар. Той сцягнуў на лбе белабрысыя бровы і адвярнуўся. І пайшоў назад. Галляш дагнаў Зосю.

— Ты шукаў мяне?

Яна з ласкаваю ўдзячнасцю глянула на брата.

— Шукаў.

— Што ён мае да мяне? Як ён мяне папамучыў.

Зося заплакала.

## V

У хаце пасварыліся. Рыгор штосьці сказаў, брацiха адказала, брат памог — гэтак і пайшло. Але сварыліся нядоўга. Сцішыў усіх сельсаветчык, глянуўшы з вуліцы ў акно. Заказваў на сход.

Галляш пасля гаварыў бацьку цэлую казань.

— Загрызаецеся век у хаце, адно ад аднаго туляецеся. калі хто захоча лішні кавалак з'есці. З гразі не выла-

зіце. Як у пекле, век зжываецe свой. А адцурацца бяды сваe кожны баіцца... Хата з хатаю грызуцца, паелі б адзін аднаго, падушылі б...

З таго гаварыў Галляш, што, як запісваліся ў калгас, дык бацька распісваўся не адразу. Узяў у рукі асадку, думаў, думаў, пасля адважыўся, намерыўся.

— Пішы,— гукнуў хтосьці.

Той ткнуў пяром у паперу і адхваціў, як ад агню, руку назад. Хто зарагатаў, хто паспачуваў, а ён яшчэ крыху адышоўся падумаць. Глядзеў доўга, як людзі распісваюцца. Пасля і сам надумаўся, адважыўся.

— Ах, што бог ні дасць.

Узяў ды і распісаўся.

Як хадзілі па вёсцы абагульваць маёмасць, Рыгор быў за панятога.

— Сэдаса я памагаў вязаць,— шапнуў ён сельсаветчыку.— Цяпер ужо можна сказаць, цяпер ужо яго і знаку няма. Цяпер я што!

Брат яго, Галляшоў бацька, як пераступіў цяпер які парог, пераступаць які цяжка было. Галляш рассейваў цяпер бацькавы трывогі.

Рыгор адумаўся, што не аддаў яшчэ яму Бухча за работу ў млыне.

Праз дзён два, раніцаю, ён пайшоў да Бухчы. Сказаў пра гэта ў хаце. І як адчыняў дзверы, яшчэ раз вытлумачыў:

— Каб маё перайшло Бухчу? Ён думае можа, гэтак яму і абыдзецца!

На Бухчавым хутары спаткала Рыгора ўтрапенне. Наймічка бегала па двары, узрадавалася Рыгору:

— Хоць адзін жывы чалавек знайшоўся! Божачка мой! А то хоць спалі, хоць немаведама што рабі.

— Чаму, што?

— А-ёй... Божа мой, божа... Я адна, ідзіце, гляньце... Стася недзе з цёмнага чорт выгнаў, дзе яго дзела!..

— Што ў вас тут?

— Я адна, пабягу, уцяку.

Рыгор пайшоў у хату. Увайшоў у салончык і падаўся ад нечаканасці назад. Быў страшэнны непарадак. Былі паварочаны крэслы, бокам ляжаў вазон, сарвэтка з камоды была сцягнута, на падлозе ляжалі ў кучы кнігі, фатаграфіі. Але гэта ўжо заўважыў Рыгор пасля крыху. Перш за ўсё кінуўся яму ў вочы Бухча. Ён вісеў на круку

пасярод салончыка, з высунутым языком, сіні. Лямпа з крука была сарвана і валялася ў яго пад нагамі, пабітая ўшчэнт.

Рыгор кінуўся з хаты. Жанчына бегла за ім. Яны ішлі ў вёску і ў лесе спаткалі людзей. З вёскі ішлі апісваць Бухчаў хутар. Жанчына пасмялела.

Каля скамечанай сарвэты, ля камода, на кнігах тых, што шмат год праляжалі на гэтай камодзе, знайшлі ліст з прыпіскаю да Стася: «Пашлі туды, на той бок, за граніцу, каб ведалі, да каго-небудзь, хоць да арганісцыхі». У лісце Бухча апісваў усё сваё жыццё цяпер. Ліст быў повен нянавісці і злосці. Успамінаў Бухча смерць швагра Сэдаса. Пісаў, што галетнік арудуе, па-свойму ўсё робіць.

«...Царства нябеснае шурыну Стафану Сэдасу. Каб хоць яшчэ крыху можна, каб хоць на адзін дзень яшчэ пабыць, кім я раней быў, я б яго, галетніка, парабка, жывога на кол пасадзіў бы, пацешыўся б за ўсё. Я іх усіх бы з усімі іхнымі Галляшамі і Зоськамі... Каб толькі хутарам паўладаць мог я яшчэ. Але забіраюць, мінулася панаванне»...

* * *

Зося скаланулася ад утрапення, ад нянавісці, як даведалася пра ліст. Бацька з удзячнасцю глянуў на Галляша.

# СПАТКАННІ З ВАСПАВАТЫМ ЧАЛАВЕКАМ

Як чысцілі загадчыка культасветнай працай на заводзе, Явіч папрасіў слова і пачаў гаварыць.

* * *

Жанчына сышла з трамвая.

Пасля ўсяго гэтага Явіч успомніў, што ў тую хвіліну ён бачыў яе ля трамвая. Цяпер гэтая постаць засталася толькі ўваччу. Дзесьці прапала яна ў натоўпе, і Явіч, не думаючы пра яе, ішоў далей.

Звыклы шум яшчэ стаяў у галаве ад вялікага сходу, уваччу яшчэ стаялі высокія сцены, задымленыя пры столі, чорныя з жаўтаватым водлівам, машынная аліва на жалезных прэнтах і калёсах. Твары блізкіх людзей, уедлівы ў памяць твар новага чалавека — кіраўніка грамадска-культурнай работай.

Усё гэта кожнадзённае, блізкае, яшчэ не выйшла з воч, думак і адчуванняў, пакуль Явіч узышоў на той самы трамвай, з якога злезла жанчына, і пакуль ехаў праз увесь даўжэзны вулічны рэйс. Пасля, на драўлянай гарадской ускраіне, дзе два коміны заводзікаў ледзь дымілі ў неба, дзе ўжо ішла з поля ветравая свежасць, сплывала ўражанне.

Падыходзіў вечар, і трэба было спяшацца.

Явіч быў яшчэ гадзін пяць дома, была гаворка пра гэты ад'езд, пра нездароўе маленькай дачушкі, пра блізкую вясну... Анэта наказвала пісаць, а ён гаварыў заўтра ж зноў выпісаць доктара да малой.

А на вакзале зноў! Жанчына стаяла ля білетнай касы.

Вось цяпер Явіч і ўспомніў, як надвечар, ідучы з развітальнага сходу, пакінуўшы за сабою на тры месяцы

звыклы штодзённы шум завода, убачыў гэтую жанчыну, калі яна сыходзіла з трамвая. Цяпер яна як бы ўкалола яго думкі чымсьці далёкім і ўедлівым. Хто гэта? Калі гэта і дзе было штосьці такое, што гэтак трывожыць цяпер? З чым гэта ўсё звязана?

Явіч ехаў на тры месяцы на працу ў вёску.

Цягнік прыпыняўся на станцыях на дзве ці на тры хвіліны, толькі пад дзень ужо на вялікай станцыі стаяў ён хвілін дваццаць. Тады Явіч выйшаў у буфет і зноў убачыў яе. Яна несла з буфета на столік шклянку моцнай гарбаты. Явіч у буфет не пайшоў, а стаяў колькі хвілін ля дзвярэй, гледзячы на яе твар. Адзета яна была звыкла яму. Гэтак адзяецца Анэта. Падрапаная за доўгі час скураная жакетка на футры, чорны шаль, гаматно накручаны на галаву і шыю. Яна здавалася задумёнай; доўга мяшала лыжачкаю гарбату, гледзячы кудысьці ўніз навылёт шклянкі. Што гэта ў гэтым твары? Твар як бы да таго пра штосьці гаворыць, што аж пакутная трывога апаноўвае чалавекам! І гэтая напорнасць думкі, жаданне ўспомніць перавышала ўсё — санлівасць змрочнага вагона, рух кустоў за вокнамі, світанне ў полі. Нейкая гармонія складалася ў чалавеку. Жаданне ўспомніць, жанчына, гэтае поле з рухавымі гаямі і хмызнякамі, з узгоркамі і лагчынамі — злівалася ў адно, вырастала і рабілася вялікім і важнейшым ад усяго.

Явіч успомніў, што на некалькі момантаў падобнае было з ім, калі колькі дзён таму на завод заявіўся новы кіраўнік грамадска-культурнаю часткаю. Спаткаўшыся першы раз тут, яны ад нечаканасці падаліся на крок назад адзін ад аднаго, пасля той, крыху збянтэжыўшыся, працягнуў руку:

— Ты тут? Працуеш? Даўно ты тут?

— Дзе тут?

— Ну, тут, у гэтым горадзе, на гэтым заводзе.

— З самага канца вайны.

— А-га... А я, бачыш, да вас. З другой акругі перакінулі...

Пасля таго яны яшчэ сказалі колькі слоў. Гаварыць ім было няспрытна, яны тут жа развіталіся. І кожны дзень, спатыкаючыся на працы, віталіся, рабілі выгляд, што кожны вельмі заняты, на гаворку няма часу. Гэта нават пачало рабіцца ўжо звыклым, хоць ненармальным. І мучыла Явіча.

Але спаткаўшыся з ім, Явіч не ўспамінаў. Чалавек быў гэтакі знаёмы, гэтак яго Явіч ведаў, што разам з ім адразу ж цэлыя фантасмагорыі адмысловага свету паўсталі ў ім. Тое, што было, што мінула і што засталося навек.

Хмурны дзень у чыстым полі. Восень. Меркнуць лясы. Вісіць смуга над зямлёй. Неба — поўна самоты і цішыні. Яно споўзвае ў далячынь. Праз яго цэдзяцца ясноты далёкага сонца. А лясы! Яны пакалечаныя і змагаюцца са смерцю. Выкарчаваныя парахавымі і дынамітавымі ўзрывамі, дрэвы корчацца над сваімі ямамі. Лясы застаюцца ў страшэнным калецтве паволі залечваць свае раны. А зямля! Скрываўленая, здрасаваная, яна маўчыць. Але мо ўсяго дзень прайшоў ад вялікага штурму, а ўжо відаць: яшчэ колькі дзён, і кроў пачне зарастаць травою.

Каля лесу курацца галавешкі ад мужычых хат. Нават панскія палацы за лесам падрапаны, нават сцяна адна ў іх ушчэнт рассыпалася. І тут, у гэтым разбурэнні!.. Яму не важна, што ён увесь у зямлі. У закарэлых дзіравых лахманах. Ён не ведае, што твару ў яго няма, а ёсць пакута, а ў гэтай пакуце гарэць два агні. Яны аглядаюць дарогу, і даўно ўжо (свет зжываў сябе, і вякі праходзілі тут у хвіліну) спапялела ў іх усялякая думка пра смерць. У крывавай траве кіпіць ужо жыццё, ужо сокі зямлі зноў твораць расцвітанне. У гэтай жудаснай цішы чалавек жыве! Ён чуе адно тупое тузанне болю ў плячы і адзін у гэтым ціхім утрапенні паўзе. Чалавек поўз, адпачываў, шукаў дарогі. Плячо не давала яму ўзняцца на ногі. Пасля яго напаткалі людзі — свае ці чужыя — але ён быў рад ім. Можа гэта і смерць, бо так туманіцца пачала галава і — дзіўна! — разам з тым такая яснасць думкі. Прагнасць жа жыць фарбавала ў ружовыя колеры калецтва зямлі і самотнасць неба.

Сапраўды кроў зарасла травою, і па ёй ляглі даўно ўжо рэйкі для новага экспрэса гісторыі. Цяпер гэта мінулы свет, а тады думкі не былі гэтакія ясныя, як цяпер, пра гэта.

Ішла ноч. Абяссілены чалавек, лежачы на прыемным холадзе зямлі, заўважыў над сабою васпаваты твар.

— Нежывы,— сказаў васпаваты твар сам сабе ціха,— вочы расплюшчаны і ашклянелі.

І засвістаў чалавек ціха, свістаў дзеля разрыўкі, дзеля нейкай сваёй упэўненасці. Толькі вочы ў неспакоі бе-

галі па зямлі, па траве, купаліся ў далечыні зямнога спустошання. Свіст яго быў адмысловы, ціхі, сухі, кароткі.

Вось калі новы чалавек з'явіўся на завод і падаў Явічу руку, калі яны пазналі адзін аднаго — як адзін ляжаў на зямлі, а другі стаяў над ім — Явіч успомніў гэты свіст той хвіліны. Васпаваты твар пастарэў, але не змяніўся. Гэтаксама віжуюць вочы, і ад гэтага цераз твар праходзіць рыса застыласці. Ужо ўночы, калі на небе радасна гарэлі зоры і ажылі начныя птушкі, Явіч прачнуўся. Плячо ныла, боль сцішыўся. Явіч першы раз, пасля ўчарашняй параненасці, узвалокся на ногі. Ціхутка, роўна льга было ісці. І ён найшоў па той зямлі, якая праз усе стагоддзі залечвала ўсе свае раны ад сутычак народаў, па якой праязджалі імператары на белых конях, прымаючы хвалу «Віват, імператар!». Шмат слядоў загладзіла зямля на сабе. Салдаты якой імперыі не клялі гэтую, гэтакую далёкую ад радзімы зямлю, па якой гэтак цяжка ісці і выцягаць з яе свае цяжкія салдацкія боты?!

Разбітыя гарматамі панскія палацы бялелі за лесам, як здань. Дым з пажарышча слаўся нізка над зямлёю — датлявалі мужычыя хаты. Наводдалек жа ад пажарышча, на пакалечаным узлеску, захавалася штосьці цэлае: у белым змроку стаяла чалавечая ўтульнасць. «Нікога там няма»,— думаў Явіч, і слабець пачаў за брамаю. Але на ганак ён узышоў. Прысесці яму было цяжка. Ноч была глыбокая, і цішыня навокал была жудасная.

Ён як стаяў, прыпёршыся здаровым плячом да вушака, здалося яму, што дзесьці гавораць. Гэта была радасць — чалавечы голас!

Пасля ён успамінаў, што, як прачнуўся ён — была раніца, было сонца і навокал жыццё. Хтосьці дзесьці выразна гаварыў, і пасля зноў той самы!

— Вас моцна ранілі,— сказаў чалавек, уваходзячы ў цёмную клець.

Твар у яго быў гэтакі знаёмы — гэта ж ён учора нагінаўся над Явічам у полі. Васпаваты твар!

— Я вас бачыў учора на полі,— гаварыў усё чалавек.

— Што тут робіцца?

— Як? Дзе?

— Дзе фронт, дзе палякі, дзе нашы?

— Я думаў, што вы нежывы, калі глядзеў на вас учора,— сказаў чалавек з жорсткім спакоем.

Губы яго толькі злёгку задрыжалі.

— Слухайце...

— Ах, вы пра фронт?.. Нашы адступілі, мы на польскай тэрыторыі.

Явіч узняў галаву, кінуўся назад — страшна ад гэтага руху тузануўся боль у плячо.

— Чаго вы,— страшна ўсміхнуўся чалавек,— вы баіцёся? Вы хіба камуніст? Гаварыце смела ўсё, мяне можаце не баяцца, я такі ж самы, як і вы, палонны, толькі я здаровы, а вы паранены.

Явіч успомніў: учора на полі ён быў у дрэнным чырвонаармейскім шынялі. Шынялец быў распораны ўнізе па ўсіх швах, вываляны ў зямлі. Цяпер паверх чырвонаармейскага абмундзіравання, зношанага ў паходах, на ім быў пацёрты аксамітавы фрэнч.

— Вам цяжка гаварыць ці вы не хочаце? Тут пуста, але я думаю, зараз тут з'явяцца людзі. Можа варочацца ўцекачы пачнуць, хто астаўся жывы. Пэўна, улада хутка з'явіцца... Вы баіцёся?

— Мне страшна рана баліць.

— З'явяцца людзі і палечаць... Вы з якой часці?

— Дзе мы знаходзімся?.. Тут гэта бой быў?

— Тут самы цэнтр быў бою. На шмат вёрст толькі, мусіць, і засталіся два гэтыя хутарцы... Дык што вы думаеце цяпер рабіць?

Явіч нічога не казаў.

— Самае важнае — не бойцеся. Мы на той тэрыторыі, дзе большая сіла. Я думаю, што фронт ужо далёка: нічога нідзе не чуваць. Польская артылерыя яшчэ ўчора мінула гэтае месца, далёка ўжо, мусіць, увагнала ўпярод. Бальшавікі пайшлі назад. Вам непрыемна?

І памаўчаўшы:

— Хоць прыемна, хоць не, але нічога не зробіш. Не ўдалося, відаць. Я не стратэг, але думаю, што палякі цяпер выйгралі. А там — і ўнутры Расіі — непарадкі. Голад і холад яшчэ большыя будуць.

— Ну, дык што?

— Я і сам не ведаю, што. Я астаўся з бою, змучыўся я.

Ён чуць збянтэжыўся з сваіх слоў, здалося Явічу,— нават пачырванеў крыху.

— Мяне кантузіла, прысыпала зямлёю,— паправіўся ён.

Але збянтэжанасць яго была яшчэ колькі хвілін. Ён

задумёна пастаяў крыху над Явічам, пасля засвістаў знаёмым ужо Явічу свістам, ні слова не кажучы, выйшаў. Явіч астаўся ляжаць адзін на саломе. «Хто мяне палажыў сюды?» — думаў ён. Нейкі страх быў у яго ад таго, што васпаваты чалавек можа зноў прыйсці сюды. Яго мучыў голад, яму страшна хацелася піць, яму хацелася быць цяпер на сонцы, у спакоі, у пэўнасці. Страшна балела плячо. «Мусіць, так зайдуся ад раны і голаду»,— думаў ён.

Васпаваты чалавек зноў прыйшоў. Ён прынёс у салдацкім кацялку есці.

— Я тут як за гаспадара якога,— усміхнуўся ён.

— Тут нікога няма з гаспадароў?

— Ёсць тут...

— Хто?.. Гаспадарская сям'я асталася?

— Ешце,— сказаў васпаваты чалавек.

Явіч папрасіў вады, і той прынёс. Ён карміў і паіў Явіча. Явіч аслабеў, сілкуючыся.

Явіч зноў пакутаваў у гарачцы і непрытомнасці. За дзень ён колькі разоў прыходзіў да памяці. Апоўдні сонца праз малюсенькае акенца засвяціла яму ў твар. Трывога яго і боль узняліся больш.

Надвечар у клець увайшла жанчына.

— Гэта вы?.. Слухайце... гэта вы мяне палажылі тут?

— Я з вашым таварышам.

— З якім?

— А ён жа даглядае вас тут.

— Таварыш?..

— Але...

— Вы гаспадыня?

— Цяпер як бы гаспадыня. Адна я тут.

Явіч гаварыў з пакутаю, але ён шукаў пэўнасці.

— Гэта ваш хутар?

Жанчына адказала не адразу. Яна маўчала, плакала, глядзела Явічу рану. Гаварыла нясмела, недаверліва, але Явіч адразу пачуў яе забітасць, жудасць тут, страх, сіроцтва, шуканне жывога чалавека.

«Яна адна. На багатым хутары ў далёкага дзядзькі яна была як за наймічку. Бацька забіты яшчэ на ранейшай, імперыялістычнай, вайне. Маці даўно памерла. І нічога пасля раменніка-бацькі не асталося. Багатага дзядзьку-хутаранца, тутэйшага гаспадара, пазаўчора гарматны набой змяшаў з зямлёю».

— Вунь там, за грушаю, не ўспеў у пограб ускочыць,— паказала яна праз вузенькае акенца.— Ён не хацеў хутара кідаць, чакаў, што навала пройдзе і дабро ўпільнуе.

Яна плакала ціха і доўга:

— Божа мой, божа, я адна.

Яна была маладая.

— Можа я памру,— сказаў Явіч,— дык я прашу вас: дастаньце ў мяне з кішэні ў канверце ліст, там мой адрас дадому. Калі ўсё мінецца, хоць праз колькі год, напішаце, як і дзе я памёр.

— Я непісьменная,— сказала яна.

Цёмная і забітая была гэтая дзяўчына.

Дапамога прыйшла нечакана. Назаўтра зямля навокал пачала ажыўляцца. Варочаліся людзі. На хутар прыгналі раненых палонных, мо нават з гэтага самага поля. У хаце, сенцах і клеці зрабіўся шпіталь палонных. Васпаваты чалавек з паўдня пахадзіў на хутары, пасля знік.

— Вашага таварыша забралі,— сказала дзяўчына Явічу.— Пагналі ў горад, дзе ўсе палонныя, каторыя здаровыя.

— Якога таварыша?

Явіч чуў сябе лепш. Павязкі ляжалі на ране. Боль утаймаваўся. Кулю доктар дастаў.

— А ён жа ўсё казаў, што вы яго таварыш, што вы разам служылі, што вы ведаеце добра адзін аднаго.

Явіч нічога не адказаў.

Але праз колькі часу, дзён мо праз два, васпаваты чалавек з'явіўся назад на хутар.

— Пусцілі на работу, пад нагляд,— сказаў ён. І ўзрадаваўся: — Фронт далёка!

Ён колькі разоў спачатку падыходзіў да Явіча, пасля пакінуў. Знаёмства спынілася.

Колькі палонных памерла. Явіч ачуньваў. Васпаваты чалавек пачынаў хадзіць па хутары, як гаспадар. Явіч пачаў заўважаць: яны гаспадарылі разам з гаспадыняю, кудысьці ён пачаў ездзіць, і гаспадыня больш не падыходзіла да Явіча.

Але аднойчы чалавек выказаў страшэнны непакой. Явіч чуў, як ён пасвістваў, ходзячы, прыглядаўся да людзей. Ён як бы пачуў што трывожнае. У той жа дзень зноў загулі першыя гарматы.

— Фронт ідзе,— радасна зашапталі палонныя.

Але наступныя дні больш не радавалі іх. Фронт ці спыніўся, ці адышоў назад зноў. Васпаваты чалавек пaспакайнеў.

Гэта было тады, калі фронт трымаўся блізка, але невядома было, куды ён пойдзе.

Явіч быў у змове: палонныя рыхтаваліся ўцякаць. Васпаваты, нядаўны чырвонаармеец, быў у іх на хутары за гаспадара, і гэты гаспадар падслухаў і выкрыў змову. Явіча пагналі з хутара разам з усімі. Тады ён ачуньваў добра, і думкі пра ўцёкі не пакідалі яго. Але ўсё адбылося само сабою. Калі фронт рушыў зноў у глыб тэрыторыі, што была пад палякамі, палонных не ўспелі адвесці. Быў прарыў фронту, быў пярэпалах. І зноў Явіч пайшоў ваяваць. Тады ён яшчэ раз спаткаўся з васпаватым чалавекам. Ён зноў быў у чырвонаармейскім шынялыцу і, калі фармавалі нядаўных палонных у роту, загаварыў з Явічам:

— А я думаў — палякі верх бяруць. Памятаеце, як я вас карміў параненага?

— Памятаю.

— Я не стратэг. Я тады казаў сам.

— Каб вы былі стратэг, вы не выкрылі б змовы.

Чалавек пабялеў:

— Не, не я. Што мне з таго было б, вы падумайце.

Аднак палонныя заўважылі нядаўнага гаспадара з хутара. Явічу пасля пісалі некаторыя з іх, што папалі ў адну часць з васпаватым, што яго будуць судзіць. Да яго прыязджала развітвацца жонка, дзяўчына з хутара, плакала, нудзела,— так пісалі Явічу.

Явіч цяпер не мог спаць у вагоне. Мучыла яго страшэнная ўзбуджанасць: чаму гэта незнаёмая і разам з тым гэтакая знаёмая жанчына вярнула яго думкі да васпаватага чалавека? Гэта яна з таго далёкага часу, з таго жудаснага поля, з таго хутара? Явіч некалькі пралётаў стаяў усё ля акна, чакаючы вялікай станцыі, а на ёй выйшаў шукаць жанчыны. Ён зноў знайшоў яе на станцыі.

Цяпер ён бачыў — гэта яна. Ён адразу пайшоў да яе. Ад яе зірку павеяла на яго тым далёкім.

— Вы родам з...

Ён назваў тую мясцовасць.

Твар яе гэтак дзіўна стаў ясным.

— Хто вы? Як жа вы ведаеце?

— Значыцца, вы адтуль?

Яна здзівілася, захвалявалася, разглядала яго.

— У мяне было плячо ранена, як вы адны былі асталіся там.

Яна маўчала.

— Я тады прасіў вас, калі памру, напісаць пра мяне маім...

— Штосьці ўспамінаецца мне,— сказала яна.— Я тады ліст ваш узяла дзеля адраса, а сама пісаць не ўмела... Так вы пасля таго і зніклі былі.

Яна хвалявалася, чагосьці трывожылася.

— Якая сустрэча!.. Ліст той ваш захаваўся ў мяне, дзесьці ляжыць дома.

— Дзе ж ваш дом цяпер?

— У N.

— Я непадалёку буду там, тры месяцы...

Яна хоць і гаварыла спакойна:

— Дык заедзьце да мяне, вось вам я напішу свой адрас цяпер.

Але Явіч бачыў: яна толькі стараецца разагнаць сваю трывогу і не ўдаецца ёй.

— Вы едзеце адтуль, адкуль і я... Я цяпер прыпамінаю, як днём бачыў вас ля трамвая, тады ўжо хацеў пазнаць вас...

— Я была там.

Ідучы ўжо ў вагон поплеч з ім, яна дзіўна ўсміхнулася.

— Я да мужа ездзіла.

Пасля паправілася яшчэ з больш дзіўнаю ўсмешкаю:

— Да былога мужа... Калі так, можа і яго ўспамінаеце. Васпаватага свайго таварыша помніце?

— Вы і тады на хутары называлі яго мне маім таварышам.

— А хіба не?

— Не, я толькі першы раз убачыў яго, лежачы на зямлі, як ён хадзіў па полі.

— Шукаў хутара? — засмяялася яна.

Явіч не распытваў пра ўсё. Толькі чуў ён, што можа цяпер смела запытаць:

— Яго ж судзілі тады?

— Не.

— А мне пісалі.

— Апраўдалі. Ніхто не давёў выразна. Недаведзенае абвінавачванне!

Цяжкая, як зямля, навала думак, зусім новых, завару-

шылася ў Явіча. Жанчыне ён не сказаў, што зноў сустрэўся з васпаватым чалавекам.

Цягнік тады прыйшоў быў да апошняй яго станцыі апоўдні. Жанчына ехала далей яшчэ да наступнага паўстанка. Явіч падышоў да акна яе развітацца. Яна чакала там яго задумёным зіркам сваім.

Была глуш. Явіч ехаў яшчэ вёрст сорак коньмі.

— Вы ж заедзеце? — сказала на развітанні жанчына.

— Хіба ніяк не трапіцца!

Колькі часу яшчэ Явіч упарта супроць волі сваёй думаў пра дзіўнае спатканне, пра дзіўныя нечаканасці ў гэтыя дні. Але неўзабаве не гэтакімі вострымі сталі адчуванні ўсяго гэтага.

Глуш жыла!

Былі тут новыя знаёмствы. Явічу здавалася, што гэта ўсё старыя яго знаёмыя, блізкія людзі...

У канцы трэцяга тыдня Явіч напісаў знаёмай жанчыне пару слоў пра тое, што, мусіць, неўзабаве давядзецца яму быць там. Ён чакаў гэтай сустрэчы; чулася яму, што ўсё гэта павінна нешта высветліць, давесці да пэўнасці нават тыя трывогі, тую можа, як ён сам называў, хваравітасць, сляды якой палажылі на яго ўсе гэтыя крывавыя жудасці парахавога дыму, крывавага поля, мёртвай адзіноты спустошанай зямлі. Была там не толькі параненасць у плячо, мог быць там зранены ўвесь чалавек — і думкі і сэрца. Гэта, каб чалавек быў мякчэйшы!

Явіч спыніўся на тым паўстанку,— таварны цягнік стаяў на пераездзе. Явіч злез з саней, прайшоўся паўз вагоны.

Зіма дажывала апошнія дні свае. Навокал было поле, снег макрэў, хоць бялеў яшчэ скрозь, не зачэплены сонцам. Дыхала прастора воляю, ветравою свежасцю. Сінеў лес на ўзгорку, далягляд навісаў тонкаю празрыстасцю.

Поезд пайшоў, і Явіч ужо хацеў садзіцца ў сані, ехаць далей, як раптам прыгорбленая крыху постаць зацікавіла яго. Не было ў ёй нічога незвычайнага, проста высокі чалавек у бравэрцы, пацягненай вышмальцаваным кортам.

Хто гэта? На якім з сходаў, гэтых бурных сялянскіх паводак, быў гэты чалавек?

Твар яго ўбачыў Явіч у профіль.

Твар быў востры, немалады, нервовы.

Явіч рушыў ужо ў дарогу, як чалавек прывітальным

махам рукі спыніў яго. Явіч папрасіў свайго фурманшчыка пачакаць чалавека.

Той працягнуў Явічу руку:

— Я вас пазнаў.

— Я вас дзесьці бачыў, усё думаю дзе.

— А на тым тыдні ў...

Ён назваў вёску.

— ...Сход я праводзіў, і вы пасля прыехалі.

Явіч назваў яго. Настаўнік адтуль, куды цяпер едзе ён!

— Пехатою іду, як бачыце.

— Адкуль?

— Справы ўсё. А вы куды?

— Садзіцеся разам са мною.

— Я то сяду, але думаў, дагоніць мяне наша сельсавецкая працаўніца. Я яе чакаў на паўстанку, а далей пайшоў... нагоніць, думаю.

Колькі хвілін маўчалі.

— Яна ў нас дзіўная.

— Хто?

— А от што я гаварыў, сельсаветчыца.

Явіча цікнула. Ён стаў распытваць.

Яна самая!

— Яна адна жыве?

— З сынам, год дзесяць хлапцу.

— Даўно яна ў вас?

— Колькі год ужо.

— А муж яе?

Явіч запытаўся назнарок.

— Прыехала яна сюды адна была, з хлапчуком. Страшэнна змучаная была... гады тады галодныя былі. Забітая была, цёмная... Муж у войску, гаварыла.

— А пасля?

Явіча зноў агортвала дзіўная трывога.

— А пасля і ён прыязджаў, толькі не армеец быў.

— Ён быў і армейцам, я ведаю.

— Вы ведаеце яго?

— Яго?

— Сапраўды ён армеец быў?

— Быў.

— Вы добра ведаеце?

— Я з ім спаткаўся на вайне быў.

— А пра яе?..

— І пра яе.

— Што?

— І яна адтуль.

— Адкуль?

— З вайны.

— Як?

— От толькі цяпер і сам пачынаю разумець, здагадвацца, чаму гэтак рабіў ён.

— Як жа яна, з вайны, вы кажаце?..

— На багатым хутары яна адна асталася была...

— Так, так.

— Гаспадар не ўсцярогся і згінуў, а яна, далёкая сваячка, асталася на польскай тэрыторыі адна за поўную гаспадыню.

— Далёкая сваячка, за парабчанку была, раптам робіцца за гаспадыню?

— Выходзіць так.

— І хутар аставаўся ёй у спадчыну?

— Здаецца, так.

— Вы, як кажуць, льеце святло на гэтую справу.

— А ён тут як прыязджаў сюды?

— Да яе.

— Але?

— Як муж... але...

— Ненадоўга, вы хочаце сказаць.

— Ненадоўга.

— А як жа ўсё адбылося?

— За штосьці яго меліся судзіць, справа нейкая была за ім, пакуль яна цягнулася, работы не меў, не было дзе дзецца, дык...

— Па той справе яго даўно, тады ж яшчэ, апраўдалі, не даведзена было, я чуў.

— Гэта так, але пасля пачалі нанава, мусіць, матэрыял новы быў.

— А гэта не яна падавала новы той матэрыял?

— Яна ж, калі прыехала сюды, вестак пра яго ніякіх не мела, анічога не ведала. Ён прыехаў неспадзявана, як яна пачала ўжо чалавекам рабіцца. Я гавару «чалавекам» у пэўным сэнсе.

— Разумею.

— Як яна ўжо даслужвала за парабчанку апошнія, можна сказаць, дні.

— Але ж ён як жа мог ведаць пра гэта?

— А ён адразу не з'явіўся. Гэта дык я ўжо ведаю. Ён паацірауся так раней у гэтай мясцовасці.

— А як жа ён знайшоў яе тут?

— Знайшоў жа нейк, шукаць, відаць, што яму трэба, умее.

— Значыцца, і другі раз з справы ён чысты выйшаў?

— Выходзіць, што так.

— Доўга ж ён тут быў?

— Не. Мала пабыў тут.

— Што ж, разышліся яны цяпер зусім?

— А пэўна ж.

— А я тыдняў тры таму ехаў з ёю разам у цягніку, дык яна гаварыла, што ад яго едзе. Можа жартавала?

— А, мусіць, такі ад яго.

— Як жа так?

— Ну, не зусім ад яго, але адтуль. Яна нядаўна з жаночага з'езда вярнулася. Ну, пэўна, ён, калі ведаў, пастараўся бачыцца з ёю. Ён цяпер ніжэй травы, мусіць, перад ёю.

— Чаму?

— Яна справу пачала цяпер сама.

— Сямейную, іхнюю?

— Усё тую ж, кажуць.

— Трэці раз?

— Але.

— Вы гэтую справу ведаеце?

— Не.

— А я ж ведаю.

Явіч расказаў пра змову палонных.

— ...На польскай тэрыторыі ён мог астацца ненаўмысля, хоць усё гэта наводзіць на пэўныя думкі. Але як убачыў, што льга сабе добрую аселасць зрабіць, што гэтакі залаты выпадак, дык — усё тут ляснула.

— Дык яна ў вас сельсаветчыца?

— Самая выдатная ў нас тут працаўніца. Што ж, парабкоўскае гора ведае.

Так прагаварылі да канца дарогі.

Перад імі зачарнела вёска.

Явіч убачыў яе толькі назаўтра. Як старога знаёмага, што ведае якуюсьці таемнасць у яе жыцці, спаткала яна яго.

— Учора прыехалі? — здзівілася яна.— Дзе начавалі?

— У настаўніка.

Явіч убачыў яе сына.

— У твары ёсць штосьці бацькоўскае. Праўда? — усміхнулася яна.

— Ёсць.

— Спадчыннасці не будзе!

Яна зноў усміхнулася.

— Я ў гэтым пэўна.

Явіч дзівіўся перамене ў ёй. Не тое, што яна можа і зашмат пастарэла за гэтыя год дзесяць, а зусім уся іншая стала.

Яна сама гаварыла:

— Дзесяць год гэтыя — вялікімі гадамі былі мне. Я жыла, перажывала ўсё, вучылася...

* * *

Пасля таго, як Явіч скончыў гаварыць, чыстку заводскага культасветніка адклалі, каб пачуць слова N-скай сельсаветчыцы.

Яна прыехала сама.

# СЯМ'Я ЮРЫЯ ГАРЭЙКІ

Вайна адышла наперад. Цяпер ужо фронт ні гадзіны не трымаўся па адным месцы: палякі адыходзілі шпарка, і лесавая дарога вось ужо тры дні жыла нашым паходам. Мы прайшлі Наваградчыну за хмурныя дні, а на Гародзеншчыне мы адчулі сухую спёку ліпеньскага сонца.

Цэлую ноч мясілі мы сухі пясок, жорсткі, калючы, па дарозе гэтай губілі мы свае сілы і чулі, як вырастае ў нас непераможная патрэба кінуцца на зямлю і тут жа забыцца на ўсё. Але мы ішлі, думаючы, калі скончыцца пясок. Цвёрдая зямля ўжо здавалася нам за той самы салодкі сон на зямлі. З самага вечара мы мінулі мястэчка Ражанае ці Ражаны; наш зводны, таварыш Скабакоў, глядзеў на карту, але не знайшоў яго і сказаў назву гэтак, як сам пачуў,— невыразна. За поўнач пясок пачаў мінацца, а напярэдадні зачарнелі лясы і над імі месяц. Мы б адчулі гэтае хараство ночы (ціхае хараство ў вайну!), але дрымота і здранцвеласць цела туманіла нам галовы і зацягвала сэрца карою абыякавасці. Чацвёртую пору мы не спалі.

Мы дайшлі да лесу, яшчэ не пачынала світаць, і тут нам быў загад спыніцца. Мы маглі цяпер перадыхнуць; вартавых зменьвалі часта і прычакалі гэтак дня. Досвіткам дазналіся, што будзем чакаць тут наступнай ночы, тады рушым далей, а цяпер — мы ўсе ўпокат ляжалі за паўзлеснымі хмызнякамі, на мяжы лесу і поля. Гэтак застаў нас сонечны дзень.

Ён зіхацеў над зямлёю, гэты сонечны дзень. Мы ж яго не чулі і не бачылі. Варушыцца пачалі мы тады, як сонца стаяла коса над лесам, святло яго ружовілася ўжо; лес і поле маўчалі.

Мы адыходзілі ў тыл і чакалі, пакуль прамаршыруюць

паўз нас дагэтуль тылавыя каманды. І яны маршыравалі, спешна, не спыняючыся надоўга і шкадуючы пакідаць за сабою гэткі прывабны і прытульны куток.

Поле было перад лесам шырокае — спрэс усё адзін палетак, а далей, за жытам і бульбаю — чырвоніўся дах палаца, абрысы ж усяго маёнтка, можна сказаць, зусім хаваліся ў вясёлым зялeніве таполяў і клёнаў. Мы тут жа высыпалі на поле шукаць бульбы. Нас не лішне было шмат — у Наваградчыне мы мелі гарачую сутычку, і пасля гэтага ў нашай роце засталося чалавек сорак. Пасля гэтага мы слаўна выканалі марш свой аж дагэтуль, і толькі адзін з нас, Юры Гарэйка, зусім выбіўся з сіл, зваліўся з ног, і мы развіталіся з ім у паходным шпіталі: ён падняў руку ўгару і памахаў ёю, пасля палажыў яе ўздоўж тулава і адразу задрамаў. Вядома, не ўсе мы выкопвалі штыкамі і цесакамі бульбу, з палова нашых яшчэ адлежвалася на гэтакай мяккай і жаданай зямлі.

Поплеч са мною ішоў цяпер, сагнуўшыся і арудуючы цесаком, мой паходны друг і таварыш, Скабакоў, высокі, здаровы і адважны хлапец. Мы адпачылі і някепска (праспаць маглі б яшчэ ночай дзве засаб, але на вайне зусім сваё, асаблівае, адмысловае разуменне адпачынку, спакою, трывогі, гадзіны ночы...) — дык мы чулі сябе цяпер добра. Скабакоў спрытна біў цесаком у зямлю, выварочваў бульбяныя карчы, а бульба тая была яшчэ дробная, вадзяная — спела яна толькі ўвосень. У ім бушаваў уздым і ахвота да слова. Апошнюю ноч і дзень ён быў ужо нязвыкла маўклівы — утома прымусіла яго маўчаць і гэтак, сціснуўшы зубы, мясіць жвірыстую дарогу.

На Наваградчыне, пасля таго як нас засталося чалавек сорак, ён сабраў нас перад нашым рухам наперад:

— Ну, цяпер пойдзем, малайцы. Дарогу прачысцілі, работа была гарачая, але добра, што сонца не пякло, усё менш поту вылілі.

Жартаваць ён не ўмеў, не быў да гэтага здатны. Але мы ведалі яго натуру і былі ўдзячны яму за гэтыя «жарты». Гэтакімі няспрытнымі «жартамі» ён бадзёрыў нас, гэтак мы чулі ад яго жаданае нам слова. Проста сказаць — мы яго любілі. Некаторыя з нас былі босыя — спрэс растаптаныя чаравікі зусім пазлазілі з ног, і ён, вось ужо больш за тыдзень, цешыў нас кожны дзень.

— Мы самі вінаваты. Даўно пара нам адбіць дзе-небудзь хвост польскага транспарта.

Перад гарачаю наваградскаю справаю мы паабедалі былі гэтакім чынам: у дрэнным паўпанскім маёнтачку знайшлі былі ў гумне паўскірты жытніх снапоў. Зараз жа паабівалі зерне аб ток і сцены і варылі кашу. Елі і хвалілі, але ці льга раўняць той абед з цяперашняю бульбаю?

— Мы і забылі.

— Што мы забылі?

— А ну, успомні. Ну, успамінай. Паглядзі навокал і ўспамінай... Эх ты, дзівак! Галаву і сэрца не згубіў яшчэ? Ну, от глядзі цераз поле, упоперак на гасцінец. З самае Наваградчыны мы прыйшлі сюды гасцінцам. Так? Ну, а пасля пяскоў за мястэчкам увайшлі куды? У лес! Гасцінец увайшоў у лес, усё роўна як ён рассунуў гэты лес папалам. Памятаеш, як ён казаў: «Гасцінец рассоўвае лес папалам». Перад лесам, збоку крыху ад гасцінца, маёнтачак у таполях і клёнах.

— Успомніў. Ну і таварышы ж мы!

Але Скабакоў гаварыў да канца:

— ...Цяпер яшчэ скрозь паўз лес, між ельнікам і хмызняком, дарога пойдзе ўлева, калі стаць тварам да лесу, дарога — як з калясьмі праехаць. Ну?

— Ну, я ўспомніў,— з прыкрасцю нейкаю да самога сябе сказаў я.

Я чуў, што Скабакоў упікае і мяне і сябе.

— Прайсці крокаў з тысячу ад гасцінца, і ў ельніку будзе хата.

Гэта я ўжо запабягаў наперад перад Скабаковым.

— Шпіталь едзе павольна. Ён можа праз некалькі дзён усяго будзе тут, калі куды ўбок не зверне,— задумёна сказаў Скабакоў.

— Добра. Да захаду сонца яшчэ добры кавалак часу. Успеем да ночы. Ліст захаваўся?

— Згубіў! — панура паздзекаваўся з мяне Скабакоў.

Пасля абеду мы пайшлі туды. Нам трэба было спраўляцца шпарка — мы спадзяваліся, што пад поўнач будзе нам загад рушыць далей. Дазвол нам быў дадзен на гадзіну ўсяго.

За дзень вайна адышлася далёка наперад. Перафармаванне нас у новыя часці павінна было адбыцца праз дзён тры, пункт быў назначаны кіламетраў за сто адгэтуль. Пра гэта мы дазналіся пасля полудня. Тут ужо спакайнела ўсё, быў ужо тыл. Мы бачылі, як у спаленай вёсцы

сяляне, са звыклаю павольнасцю сваёю, выбіралі на папялішчах асмаленае бярвенне, як ужо браліся дажынаць пераспелае жыта.

Мы прайшлі паўз ельнік не тысячу крокаў, як думалі, а мо ўсяго пяцьсот. Адразу ж зірнула на нас з узлеску, за хмызняком, прысадзістая хата, старая, старасвецкага смольнага бярвення.

— Ці не тут? — сказаў Скабакоў.

— Можна запытаць.

Скабакову давялося нагнуцца, каб глянуць у акенца. Спачатку ён нічога там не ўбачыў. Ён пастукаў у шыбу. Ніхто не адазваўся. Мы ўвайшлі ў двор — звыклы сабе сялянскі двор, з хлевушкамі, павеццю, весніцамі на прыгуменне. Ля парога ў сенцы ляжаў камень — палова вялікага млынавога каменя. Дзверы ў сенцы былі адчынены. Там сядзеў стары чалавек і спакойна глядзеў на нас. Ля яго стаяла конаўка з квасам, корч зялёнай цыбулі і тоўстая луста хлеба. Мы спачатку і не заўважылі, што ён вельмі стары — відаць, ён галіўся або нізка выстрыгаў бараду і вусы; была на твары толькі нізкая сівая шчэць. Твар быў шырокі, але паморшчаны і худы. Ён агледзеў нас спакойна і холадна сказаў:

— Нічога няма. Ідзіце, таварышы, далей. А калі вам packначаваць, дык таксама няма як,— у хаце ў нас хворая ляжыць, а ў пуні нідзе саломы каліва няма. Хіба ў садку, але ж лепш ужо ў лесе.

— А нам нічога і не трэба,— сказаў я.

— Гэта Гарэйкава хата ці не? — запытаў Скабакоў.

Тут чалавек ажывіўся крыху. Ён высока ўзняў твар, цяпер мы заўважылі, што ён вельмі стары. Вочы яго былі чырвоныя, за жыццё, відаць, папсаваныя, лоб высокі, прыгожы, і нізкі сівы чубок тырчаў над ім.

— Што ж вы за людзі, служывыя, што нашу хату ведаеце? А адкуль вы?

— Далёкія,— пачаў гаварыць Скабакоў,— я алонецкі.

— Не чуў ніколі,— затрос галавою стары.

— Далёка гэта, на поўнач, усю Расію трэба прайсці.

— О-ё-ёй!

— Дык от,— гаварыў Скабакоў,— мы разам служым з Юрыем. Ён змарыўся і на некалькі дзён лёг у паходны шпіталь. Ён адстаў ад нас і напісаў вам ліст. От ён.

— Юры — гэта мой сын.

Стары сказаў гэтак спакойна, што нам дзіўна гэта здалося. Юры гады два як разлучыўся з сваімі, мы гэта ведалі. Нават расчараванне агарнула нас. Мы падумалі — аддалі ліст і пойдзем.

Стары трымаў ліст у руках. Ён стаяў, і мы бачылі, што гэты стары — высокі, сухі, калісьці, мусіць, быў вельмі моцны... Маўчанка цягнулася з хвіліну. І тут у хаце пачуўся жаночы голас.

— Тата, тата!

Стары адчыніў дзверы ў хату, і мы адчулі адтуль душны змрок. Пасля разгледзелі, што на пасцелі ляжыць укрытая кужэльнаю коўдраю жанчына. Стары, здавалася, забыўся на нас у гэты момант. Ён падаў жанчыне ў мядзянай конаўцы квасу, яна памачыла губы і піць не захацела. Стары штосьці зашаптаў ёй, ківаючы ў наш бок галавою. Мы прыселі ў сенцах на лаве. Стары неўзабаве вярнуўся, але мы бачылі, як у хаце пачаўся неспакой: жанчына дзіўна заварушылася, падушка з-пад яе галавы з'ехала на самы край ложка, коўдра сцягнулася на ногі, яна зноў паклікала бацьку. Бацька цяпер даў ёй у рукі ліст, яна паднесла яго да воч і пачала прыглядацца. Пасля з вінаватаю ўсмешкаю працягнула назад старому. Той кіўнуў у хату нас.

— Ну, дык прачытайце хто-небудзь,— сказаў ён,— я не ўмею.

Скабакоў узяўся чытаць ліст. Юры апісваў свае два гады. Мы самі з цікавасцю даведваліся яго гэтую гісторыю.

Таму назад з год мы сышліся разам у сваёй роце. Ён быў добры дружака, але пра сябе гаварыў неахвотна, не любіў лішне займацца сабою, не любіў расказваць. Мы дружылі з ім вельмі, але ўсяго і ведалі пра яго, што ён з тэрыторыі, занятай палякамі, што ўцёк адтуль, але як і што — не гаварыў ніколі. І вось цяпер мы, разам з яго роднымі, даведаліся гэтую гісторыю.

Ён пачынаў апісваць з таго, як сядзеў ужо ў польскім астрозе. Да гэтага, вядома, у хаце ведалі ўсё.

Была ноч, як у астрозе ён даведаўся, што яго будуць страляць. Перад гэтым яго білі, раздзелі і ўвапхнулі ў астрожную камеру толькі ў адных споднiках, нават без сарочкі. Быў на дварэ вецер, ранняя зіма, зямля была яшчэ голая, але замерзлая, і сыпаўся зверху снег-крупа. Змерклася, было рана, ноч цягнулася доўга; з другога

паверха, дзе была камера, праз акно відаць было поле за астрожнаю агароджаю. Цэментовая падлога ў камеры намерзла, босыя ногі пачалі карчанець, і ён скінуў споднікі і падаслаў пад ногі. Цяпер ён чуў, што пакуль застрэляць, дык з холаду зойдзецца. Раптам ён заўважыў, што краты ў акне як бы пагнутыя крыху, мусіць, хтосьці спрабаваў ужо свайго шчасця. З роспачы скочыў ён на акно і скалынуў крату. З правага боку яна ледзьве ўпіралася ў мур, два гвазды былі выцягнуты. Ён павіс усім целам на ёй і ўпёрся нагамі ў мур. Колькі разоў гэтакай патугі, і крата сагнулася. Ён раскалываў яе яшчэ, і ўжо льга было пасадзіць у дзірку галаву і плечы. Ён хапіў свае сподністі, калоцячыся, ледзьве ўздзеў іх і палез у дзірку. Пад акном была вартаўнічая будка з бляшаным дахам, а адтуль крокаў чатыры да агароджы, на ёй таксама бляшаны дах. Іншага нічога не было ўжо выбіраць, і ён скочыў на вартаўнічую будку, а адтуль на агароджу. З агароджы ўжо скаціўся на мерзлае поле, скрываўлены аб краты і бляху. Яму самому потым дзіўна было, як гэта шпарка ўсё адбылося. Як адбегся ўжо крокаў дзвесце ад астрожнай агароджы, пачуў, як там пачалася трывога, выстралілі, закрычалі. Ён пабег шпарчэй, задыхаючыся. Сухі снег сек яго голае цела, і гэтак ён даскочыў да ляска. Там ужо зусім аслабеў. Забівала дух, халодны пот змачыў яго ўсяго. На ўзлеску ён перадыхнуў самы найкарацейшы момант і пабег далей, але не ў лес, а паўз яго, дзе, як праз туман, вочы ўбачылі будынак. Тады ўжо снег пакінуў сыпацца, бялявае месячнае святло лягло на зямлю.

У хаце гарэў агеньчык. Ён застукаў у шыбу.

— Жаўнеры не стаяць тут?

— Не,— адказаў з хаты мужчынскі голас,— а што?

Тады ён убег у хату. І адразу прызнаўся:

— Я ўцёк з астрога. З-пад расстрэлу. Бачыце, які я.

— Лезь на печ,— адказаў чалавек.

На печы ён адчуў, як забалела моцна раптам у нагах.

— Гэта па табе стралялі? Чуваць было,— пытаўся мужчына.

— Па мне.

— Здарава ж ты бег, за хвілін якіх пяць даскочыў сюды... Ты ж доўга не сядзі тут, а выбірайся. І табе самому і мне... На, вып малака і ідзі... Пашукай яму чаго апрануцца (гэта да жонкі).

Баба прынесла з гары старую кажушаную, усю аблез-

лую, шапку, каравыя старыя нагавіцы, кажушок без воўны і каўняра і лапці. Начапіла яшчэ на яго торбу і палажыла туды акраец хлеба. Цяпер гэта быў сапраўдны старац. Гэтак ён і рушыў у дарогу. Ішоў ён да фронта начамі, туляўся па лясах, здолеў перабрацца цераз фронт і от...

Жанчына нервавалася. Пакуль Скабакоў дачытаў ліст, твар яе быў мокры ад слёз, і нам толькі дзіўна было, чаму стары як дзеравяны ўсё адно. Холадам веяла ад яго твару.

— А дзе цяпер той шпіталь? — запытала жанчына.

Голас яе дрыжаў ад хворасці, быў слабы і хрыпаваты.

— Дзе шпіталь — мы цяпер не ведаем. Ён можа нават тут праехаць, а можа ўбок куды падацца, як патрэба будзе.

— Першая вестка ад яго з самага таго часу,— сказала жанчына.

Нас дзівіла вельмі халоднасць старога. Здавалася, што ён думае пра штосьці сваё, перад чым уся гэтая важная яму навіна пра сына — нішто.

Мы пачакалі крыху, нам здавалася, што мы павінны пра штосьці тут даведацца, пачуць, высветліць. А пасля нехаця паспрабавалі развітацца, але жанчына тады спыніла нас:

— А вы яго будзеце бачыць?

— Цяжка сказаць. Калі паправіцца хутка — дагоніць нас, а калі не — можам і не ўбачыцца.

— Няўжо ж ён дадому не гляне?

— Як выйдзе. Калі тут праходзіцьме.

— А так? Няўжо не мог бы, каб хацеў, збочыць з дарогі, хоць на дзень сюды?

У голасе яе была хворая раздражненасць, але тут жа яна прымусіла сябе зрабіцца інакшаю. Як бы адчуванне вінаватасці засвяцілася ўваччу яе. Стары гэта заўважыў. І мы тут аж сумеліся, як убачылі гэта: халодны гэты стары гэтак чула ўспрымаў кожны рух пачуцця і думкі маладой жанчыны.

Стары патупаў ля парога, паглядаючы на нас, пасля пакашляў у сенцах. Мы не здагадаліся выйсці. Дык ён паклікаў нас.

— От што, вы яго таварышы,— загаварыў ён, садзячыся ў сенцах на сваё ранейшае месца,— вы яго трэба каб убачылі. Скажыце яму, што я ўсяго гэтага так не пакіну... Дык от... Пасля таго як яго тут славілі і як ён



Будынак, у якім распачаў сваю працу Беларускі дзяржаўны універсітэт.

уцёк быў цераз фронт туды, яе забралі, і яна сядзела доўга. Іх ганялі ўсіх, што сядзелі, убіраць ельнікам дарогу, па якой варочаўся назад пан, выгнаны паўстанцамі (і наш Юры там быў) з маёнтка. Пан як варочаўся, дык яго ахоўвалі салдаты. Ехалі на конях, а мужыкоў усіх выгналі ісці спатыкаць. Нас гналі цераз поле, снегам нацянькі і загадалі яшчэ здалёк зняць шапкі. Пан праехаў у фаэтоне, а мы ззаду ішлі без шапак. І я ішоў без шапкі. Не далі мне нават і апрануцца цяплей: я, стары, увесь адубеў. Тым часам у двары нас выбралі некалькі чалавек — выбіралі з кожных дзесяцёх аднаго. Якраз папаўся і я. Нас пагналі ў скарбовае гумно, а там адсцябалі лазою. Пан сам то не прыйшоў глядзець на гэтую сваю пацеху, а прыслаў аконама свайго. Той глядзіць ды адно прыгаворвае: «Лес панскі секлі, а лазы і не здагадаліся спляжыць. Усё адно як наўмысля, каб было чым вас сцёбаць»... Але не з гэтага ўсё. От яна,— паказаў у хату на жанчыну,—прыйшла дадому з астрога зусім хворая. Там яна ў холадзе і голадзе ўсе сілы пакінула. Абы за работу цяпер возьмецца, зараз і... Унь жа пазаўчора гэта на полі цэлы дзень рабіла, а сёння ўжо ляжаць ёй цалюткі дзень трэба. Я дзве ночы і два дні вартаваў ля дарогі ў хмызняку на тым тыдні, як пан выязджаў зусім адгэтуль. Я не пашкадаваў бы сябе, звёў бы яго з свету, а сам тады хоць памёр бы спакойна. Але ён выехаў гэтак, што і доступу да яго не было — за ім з дваццаць вайсковых коннікаў. Ну, як я даступіўся б! Так яму ўсё і раскажыце, няхай тады што хоча думае. Рана вы прыйшлі сюды, каб яшчэ яны тут крыху пабылі, можа я што яшчэ і прыдумаў бы... Я яшчэ яго спасцігну дзе! Як вы думаеце, яны яшчэ сюды вернуцца ці не?

— Хто? — мы адразу нават разабраць не здолелі.

— Паны.

Мы бачылі: у старога пануе адна думка. Ён дыхае помстаю.

— Хто ж у вас больш у хаце ёсць?

— Хлапчуку дванаццаты год, каровы пасе,— абазвалася ўжо гэта жанчына з хаты,— а дзяўчына, сястра Юрасёва, жыта жне сёння. Пазаўчора мы з ёю ўдзвюх жалі.

Мы бачылі — яна была рада цяпер пагаварыць з людзьмі. Мы стаялі ля парога, стары варушыўся штосьці ў сенцах і неўзабаве сціх. Мы бачылі ў ім адно — вялікі

цяжар крыўды, панаванне над усім ідэі помсты і бунту ў гэтай перапоўненай бядотамі істоце.

Мы праз якіх мо хвілін пятнаццаць пайшлі адгэтуль, больш як добрыя знаёмыя, блізкія людзям у гэтай хаце, а пад дзень пакінулі зусім гэтую мясцовасць, каб больш не праходзіць ужо тут. Уночы мы прайшлі паўз самую хату (абыходзілі лес берагам, дзе за ім загінаўся ўлева гасцінец). Усё было ціха ў двары, хату ледзь заўважылі пад высокімі пнямі чорнага лесу. Тут, на хвойных карнябішчах, пахла адсырэлым за ноч жвірам, нага часам пападала ў жвірыстую каляіну.

— Ці не пясок зноў будзе? — хтосьці сказаў з прыкрасцю.

Але пяску больш не было. Мы некалькі дзён ішлі цвёрдым гасцінцам, пераходы былі цяпер меншыя, адпачынкі — большыя. Мы дайшлі да месца фармавання новых часцей так на дзень пяты. Пункт гэты быў у баку ад гасцінца кіламетраў за сорак, там ужо ішла чыгунка. Вакзал быў спалены, пажарышча было яшчэ свежае, усё ў белым попеле, сама ж чыгунка не была папсавана, тут чакалі цяпер першага цягніка. Гэта быў эшалон такіх самых, як мы, чырвонаармейцаў. Мы пазайздросцілі ім; на зборны пункт яны не ішлі пеша. Тут нас і дагнаў Юры.

Цяпер, калі ўсё ўжо гэта адышло ў час і толькі ўспаміны хвалююць сэрца, больш, як тады, адчуваю я тую змену, што раптам у тую хвіліну адбылася ў Юрыя. Як пачуў ён, што мы ліст аддалі, што самі нават яго чыталі, што былі ў яго хаце, ён страціў адразу сваю панураватасць, страціў яе надоўга, аж да таго самага выдатнага моманту, што вызначыўся праз некалькі дзён, у хмуры здаровы адвячорак, за межамі ўжо Гародзеншчыны. Мы пазналі, які сапраўды Юры жыццярадасны чалавек, і як мы не разумелі дагэтуль яго, думаючы пра яго як пра «панураватага». Нейкая інтымнасць цяпер між намі зусім раскрыла яго нам. Мы ўжо зусім зблізіліся.

— Дык вы бачылі і старога, і жонку, і сына? — гаварыў ён, увесь загарэўшыся.— Ну, а як бацька? Ох, зазнаў ён гора за век свой. За парабка быў, аратага, у двары цэлы век свой і нас там павыгадоўваў. Гэта я ўжо з парабкоўства вылез як бы... Ну, а як спаткалі вас?

Скабакоў нехаця расказаў пра наша спатканне з яго роднымі. І тут от выявілася яго падабенства з бацькам, гэтак, як стары, ён неяк холадна спаткаў навіну пра хво-

расць жонкі, пра астрог, пра панскі двор. Можа гэта з таго, што прывык ён да цяжкіх падзей і навін?

Ажыўленне яго мінулася, але маўклівасць не варочалася. Мы ўтраіх трымаліся разам усе дні да таго адвячорка.

Фронт трэці дзень стаяў на адным месцы. Мясцовасць была скрозь узгоркаватая, з рэдзенькім хмызняччом у лагчынах — там, дзе мы, перафармаваныя часці, стаялі. Гэта было яшчэ крыху ў тыл, але мы выходзілі на той бок хмызняку, дзе трымаўся фронт. Пасля наваградчынскай сутычкі мы не бачылі ўжо больш засцілаў бою. На вайне дзень часта — эпоха, мы прывыклі да спакойных пераходаў і цяпер зноў разварушваліся. Памятаю, як Юры ляжаў поплеч са мною на пескавым беразе дробнай рэчкі. Бераг быў пляскаты, вада за намі была плыткая: хмурны цёплы вецер нават не мог раскалыхаць яе, яна дробна дрыжала, а ўсё ж і ад яе ішоў водар! Ён здаваўся нам вельмі моцным, вельмі вострым,— жыццё адчувалі мы цяпер з падвоенаю сілай.

Мы ляжалі доўга, цэлы ланцуг шэрых людзей. З паўдня аж да змроку.

— Няўжо яна не паправіцца? — ціха сказаў мне Юры.

— Хто?

— Жонка. Як ты... ты ж бачыў яе, гаварыў з ёю...

Што я мог сказаць, сам нічога не ведаючы.

— Бацька дзівак,— гаварыў Юры,— ён думае, як адпомсціцца аднаму пану, дык і ўсё на свеце выратуе. Няхай бы лепш паменш думаў пра гэта, а...

Ён не скончыў, не могучы, мусіць, упікнуць бацьку.

— Ён чалавек мяккі, мой бацька. Крыўды заўсёды перастулаў... Як ты думаеш, будзем мы ісці сёння наперад ці чакаць?

Узгоркі засласліся змрокам, і мы адчулі, як прабегла па ўсіх нас адно адчуванне чагосьці блізкага. Мы пачулі: далёка дзесьці вельмі загаварылі кулямёты, і неўзабаве перад намі абазваліся вінтоўкі. Зараз мы будзем выбірацца на той бок рэчачкі.

Перад намі ішла ўжо гарачая работа, як мы рушылі туды з рэзерва. За намі яшчэ беглі, ад гэтага моманту залежала ўдача. Як і заўсёды ў гэтакія хвіліны, мы бачылі толькі тое, што было блізка ля нас — зямлю пад нагамі, хмызнячкі, узгорачкі перад намі. На небе запальваліся зоры, але нам было не да іх, мы іх не бачылі. Неў-

забаве нам давялося заняць першую лінію, і там мы пачалі недалічвацца аднаго за адным сваіх таварышаў. Мы беглі ўсё наперад, аж пакуль не пачулі каманды лажыцца. Лежачы, мы стралялі. Быў самы гарачы момант. Налева быў адзін куток, дзе больш, як усюды, сыпаліся варожыя кулі. Там сакатаў наш кулямёт, і раптам мы пачалі заўважаць, што ён змоўк. Юры кінуўся туды, там было пуста — ляжалі параненыя і нежывы кулямётчык. Юры нарыхтаваўся ў момант, кулямёт адсунуў наперад, нежывы кулямётчык астаўся за ім. Праз колькі доўгіх хвілін кулямёт зноў загаварыў. Тут мы зноў пабеглі, пасля пайшлі і ішлі ўжо ўсю ноч, займаючы шырока мясцовасць. Але Юры астаўся. У той момант, калі мы рушылі, калі ўсё ўжо было зроблена, адна з апошніх варожых куль урэзалася яму ў руку ля локця. Я сам яго ўжо не бачыў, але хто быў ля яго, расказвалі, што тады ён гукнуў немым голасам: «Ну, цяпер не магу». І споўз крыху ўніз з узгорачка.

Перад світаннем мы ішлі ўжо ў цішыні. Цяпер мы заўважаць пачалі зоры — яны тухлі на палавым небе, і ўсход засцілаўся бялявымі прасторамі.

Мы ішлі ўсе наступныя дні. Сяляне выходзілі спатыкаць нас. Партызаны далучаліся да нас. Нас цешыла гэта і вітанне сялянскіх натоўпаў.

Я цяпер не ведаю, дзе Юры і што з ім. Таксама сышоў з майго далягляду і Скабакоў. Ён недзе там, на сваёй поўначы Савецкага Саюза. Каб я ведаў яго адрас, я напісаў бы яму, што вычытаў нядаўна ў нашых беларускіх газетах. Перадавалася паведамленне з польскіх газет: успаміналіся прозвішчы кіраўнікоў першамайскіх дэманстрацый у Заходняй Беларусі. Іх вінавацяць у камуністычнай дзейнасці. Сярод іх вычытаў я імя Паўла Гарэйкі.

Я ўспамінаю: у тую часіну, як распытваў Юры — як спаткалі нас у яго хаце і каго мы там бачылі, — ён гаварыў:

— А сына майго не бачылі? Паўла? Паўлючка, майго сына?

# БРОНЯ КАЗАКЕВІЧ

Усе, хто толькі праходзіў у гэты час паўз заўкомаўскі ганак, ведалі, чаго Бронька гэтак сядзіць на ганкавых балясах, унурыўшыся носам у зямлю. Спецвопратка яшчэ была на ім чыстая: ён яе шанаваў, як усё адно святочны гарнітур які (яшчэ ўсё прывыкаў і да завода і да спецвопраткі). Валасы ў яго былі белыя, адмыслова, некалькі гадзін да гэтага, зачэсаныя набок, і шапка сядзела на самым версе галавы. Здавалася, ён зараз з'едзе з спусцістых балясаў на зямлю. Зборачнік Весялоўскі, як праходзіў паўз ганак, спыніўся быў на момант, але пасля пайшоў далей, ведаючы, што цяпер лепей нічога не гаварыць да Броні. Бо Весялоўскі, можа як ніхто іншы тут, навылёт бачыў Броню, гэтага ціхманага хлопца, каржакаватага каваля. Хто яшчэ больш быў блізкі да Броні ці, лепш сказаць, хто за гэтыя тыдні, ці можа нават і дні, апроч Весялоўскага, зблізіўся з Бронем, тут трэба ўспомніць перш за ўсё кавалёў: Рамана (Рому) Даўгінскага, Косцю Сымянутовіча, Гірша (Гірку) Ерынгроза. Далей — фармоўшчыцу Насцю Чырванец, а пра самую важную тут асобу — прыбіральшчыцу Рыву Паперман будзе гаворка пасля. Вось з гэтымі людзьмі Бронька ў апошні час і сустрэўся твар у твар. Яго пачалі заўважаць у канцы лета, калі ён з'явіўся на заводзе. Першыя дні — каму гэта было ў галаву, што ў кавальным цэху працуе новы каваль? Шмат новых людзей бывае на заводзе, асабліва тады, калі летунам яшчэ як мае быць па шапцы не давалі. А пасля неяк раз заўважылі: на вуліцы, перад заводскаю брамаю, стаіць у аглоблях нязграбны канючок і цярэбіцца як можа ад куслівых восенных мух. Хамут у яго, небаракі, на самыя вушы з'ехаў, падсядзёлак перакруціўся на жывот, каля вачэй гною накарэла, але вочы бачаць. Весялоў-

скі падышоў, каб паправіць хамут, а канюк яшчэ здалёк заўважыў незнаёмага чалавека і адразу натапырыў вушы.

— Эйш ты, які ганаровы, індывідуальнік. Колькі цябе ёсць, а фанабэрышся, як стаеннік які!

Да воза тады падышлі двое: белявы хлопец у новай заводскай жакетцы (спецвопратка) («Ля кавальнага цэха бачыў я яго»,— чамусьці адразу падумаў Весялоўскі) і другі, за яго, відаць, маладзейшы, гэтакі самы белявы і вельмі ж на яго падобны. «Браты, няйначай,— падумаў Весялоўскі,— як адзін».

Весялоўскі тады чакаў гудка на сваю змену, сеў з людзьмі на лаўку ля брамы і курыў сабе седзячы. Белявыя хлопцы гаварылі, абапёршыся локцямі на драбіны.

— Драбіны ў іх, можна сказаць, ерундоўскія,— падаў павольна голас хтосьці, відаць, стары і не лішне руплівы да нейкіх там драбін,— з палавіну лёстак няма і ўвесь зад асеў. Як у іх і салома гэтая трымаецца!

Ля драбін жа хлопцы гаварылі:

— Я каня гэтак турыў, гнаў гэтак,— гаварыў маладзейшы, з нейкаю як бы крыўдаю ў голасе.— Лепш, думаю, няхай каня змардую, а каб хаця ўпору ўсё было.

— Конь адпасецца,— адказаў з панурасцю хлопец у спецвопратцы.

«Ёсць тут што мардаваць, або ёсць тут чаму адпасвацца»,— сам сабе ўсміхнуўся Весялоўскі.

— Дык калі табе не выпадае,— гаварыў маладзейшы,— дык няхай. Тады я, калі гэтак, падскочу па цябе ў сераду, як ты будзеш выходны, калі, вядома, будзе патрэба.

— Можа і не трэба будзе,— задумёна згадзіўся старэйшы.— Ты ж лякарства ўзяў ужо?

— А як жа! — аж пакрыўдзіўся маладзейшы, і ў голасе яго Весялоўскі заўважыў нямала нейкага расчаравання і нават як бы крыўды на свайго таварыша ці брата. А той, таварыш ці брат, меў гэтакі выгляд, што ён у нейкай тут справе вельмі вінаваты. Ён кусаў саломіну, гаварыў ціха, куды ціпшэй за таго, другога.

Гэтак яны яшчэ пагаварылі, усё пра тое ж, не называючы проста рэчаў сваімі імёнамі, але Весялоўскаму стала ясна: гэта людзі з адной сям'і, у іх дзесьці там, адкуль прыехаў гэты малады фурманшчык на гэтым кашлатым канючку і растрыбушаных драбінах, хтосьці хворы, блізкі ім абодвум.

— Ну, добра,— сказаў маладзейшы,— я паеду адзін. Ты ж будзь у нас у гэтую восень, выберы часіну... А гэта ў цябе што за жакетка гэтакая? Купіў?

— Гэта казённая, да работы выдаецца.

— Да работы? Дык жа нішто! З чортавае кожы?

— Эгэ, з чортавае кожы. Я, ведаеш, сам у сераду пехатой прыйду. Ехаць не трэба будзе, каня гнаць. Я яшчэ зацямна як выйду, дык у вас буду — ледзь развідняе. Чуеш?

— Глядзі ж адно.

Заенчыла сірэна. Людзі з лаўкі, што з імі сядзеў Весялоўскі, падаліся ў глыб двара. Весялоўскі бачыў, як заспяшаўся ля воза малады заводскі работнік і як яны ўдвух вельмі шчыра і сумна развіталіся. Весялоўскі аж прыпыніўся на момант пасярод двара, каб прапусціць паўз сябе хлопца: гэтакі той нейкі пануры раптам стаў. Аж дзіўна нейк было. І незнаёмы! Новы тут! Весялоўскі бачыў, як пайшоў ён у кавальны цэх. Каваль? І другая змена стала на работу.

Тым часам увечары рэдкалегія заводскай шматтыражкі сабралася ў адным з заўкомаўскіх пакояў. Гэта было якраз у той самы дзень. Тут ад кавальнага цэха былі: Рома Даўгінскі (член рэдкалегіі), даўгі і здаровы хлапец; Косця Сыманутовіч і Гірка Ерынгроз (рабкоры). Старшыня рэдкалегіі Весялоўскі, фармоўшчыца Насця Чырванец (член рэдкалегіі) і з ёю — таварышка яе вельмі блізкая, прыбіральшчыца Рыва Паперман (Рыва ў рэдкалегію не ўваходзіла, але кудысьці яна з Насцяю разам ісці згаварыліся пасля рэдкалегіі). Рома Даўгінскі кіраваў брыгадаю цісочнікаў, у тыя дні ў брыгаду гэтую ўвайшоў і новы тут каваль Броня (Бронька, Браніслаў), і на гэтым грунце яны з Даўгінскім і як бы пачыналі сябраваць. І цяпер Рома прывёў з сабою ў рэдкалегію гэтага маладога бялявага каваля Броньку. Так усе і сабраліся. Броня гэтак з усімі тут і пераznаёміўся. Не трэба было толькі яму знаёміцца з Рываю Паперман: яна першая, як толькі Броня з Ромам увайшлі ў пакой, падалася да яго і працягнула руку:

— І ты прыйшоў сюды,— сказала яна ад лёгкай збянтэжанасці.

І гэтакім чынам не Насця Чырванец пазнаёміла Рыву з Ромам і з іншымі, з кім яна не была яшчэ знаёмая, а Броня. І гэта нават адбылося раней, чым сам Броня

пазнаёміўся з усімі тут. Нейк гэтак выйшла. Весялоўскі пільна паглядзеў на Броню.

— Новы каваль,— шапнуў яму Рома,— і таксама свежанькі ўдарнік. Здаецца, самавіты хлопец. Няхай уцягваецца ў работу. Гэта я яго прывёў.

— Я яго бачыў сёння перад брамаю. Нейкая растрыбушаная фурманка да яго прыязджала.

— А, гэта брат яго. Ён мне, як ішлі сюды, усё ўжо расказаў. Бацька ў яго вельмі хворы.

— А дзе ж яго бацька?

— У вёсцы недзе. Ён жа нядаўна сам з вёскі. Ну, як нядаўна — можа месяцаў тры ці чатыры якія.

— І ўвесь гэты час у нас на заводзе?

— Не. Ён месяцаў са два ў бальніцы ляжаў тут, у горадзе. Быў ён за вясковага каваля і там нешта параніў сабе аб іржавае жалеза. Уся ў яго рука была ўспухла, ледзьве адхаяўся. А тады і астаўся тут. Тады мы якраз новых кавалёў набіралі сабе.

Але Весялоўскі апошніх слоў ужо не слухаў: ці мала новых кавалёў у кавальным цэху! Рома ж проста быў хлопец прыхільны да свайго новага брыгадзіра і таварыша.

У гэты ж самы час паміж сабою гаварылі дзяўчаты Рыва і Насця. У іхняй гаворцы было крыху, нават можа і не зусім крыху, дзявочага элементу.

— Хто гэта? — пытала Насця.

— Броня Казакевіч — каваль, цісочнік, тут у нас на заводзе кваліфікацыю падвысіў.

Апошнія словы яна сказала проста на тое, каб даскана паведаміць таварышку пра свайго знаёмага і паказаць яго ў найлепшым святле.

— Ты з ім знаёмая?

— Ну бачыш жа.

Але самой Рыве хацелася расказаць пра гэтае знаёмства. Яна была гэтакая просценькая, ці лепш сказаць, прастадушая, гэтая Рыва Паперман, другі месяц тут — прыбіральшчыца. Пакуль Весялоўскі даставаў з стала паперы і шукаў тыя допісы пра кавальны цэх, пра якія сёння мелiся гаварыць, фармоўшчыца Насця Чырванец выслухала гісторыю гэтага знаёмства.

На біржы працы не лішне шмат было народу. Рабочую сілу бралі, як і заўсёды ў гэты час, нарасхват. Беспрацоўных ужо не было. Было толькі тут размеркаванне,

падлік і рэгуляванне рабочай сілы. Рыва Паперман хацела змяніць сваю работу. Дагэтуль яна працавала на земляных работах за горадам. Яна доўга не была на біржы. І яна была рада, што пасылаюць яе хоць за прыбіральшчыцу на завод: і сталае месца. і мела яна надзею тут пайсці далей у сапраўдную заводскую работу. У той дзень, як яе пасылалі на працу, яна заўважыла там жа бялявага хлапца: стаіць ля бар'ера, рука на перавязі, перавязь разбэрсалася і не можа ён адной рукою паправіць яе. Тузае, тузае за канец марлі і рады не дасць. Дык Рыва адразу і падышла.

— Дайце я памагу.

Проста так гэта выйшла. Ён моўчкі працягнуў руку, і пакуль яна развязвала стары вузел и завязвала новы, ён глядзеў на яе твар, на яе рукі, пачынаў ціхенька ўсміхацца і ўсё стараўся, каб загаварыць што-небудзь. Проста нейкая далікатная прыемнасць трымала яго ў гэты час пад сваёю ўладаю. Рыва была тады ў сваім рабочым адзенні: старая сукенка, парудзелая на сонцы, і каляровая хусцінка на галаве. Ён быў вышэйшы за яе, і як сталі яны разам, вочы яго якраз глядзелі на яе высокі лоб. І дзіўна нейк было, як на тое ўсё адно ішлося: яна нават сама старалася, каб як даўжэй завязваць гэты вузел з марлі.

— Што ў вас на руцэ? — нарэшце запытала яна.

— У кузні абадраў аб жалеза.

— А вы каваль?

— Каваль.

— А дзе працуеце?

— У вёсцы... Толькі летась з навукі выйшаў. Пры кавалі працаваў.

— А што вы тут?..

— Хачу тут астацца. Каб дзе паслалі на работу. Тут на адзін завод кавалёў цяпер набіраюць...

Тут яго якраз выклікалі. Рыва асталася паглядзець, што далей будзе, і... сапраўды, як на тое ішлося... на адзін завод іх! Ён яшчэ спачатку не ведаў, што і яна там. Ён толькі быў рад, што гэтак адразу ён спатрэбіўся тут; схаваў хутчэй у кішэню сваё накіраванне і чакаў, каб як пайсці разам з гэтаю дзяўчынаю.

— Дык — нас жа разам на адзін завод паслалі,— сказала яна.

Яны разам выйшлі. Яна ўсё стаяла ўваччу яго. Ён

быў удзячны ёй за тыя хвіліны, калі яна папраўляла яму перавязь на руцэ. З таго дня, прыходзячы на сваю другую змену, ён стараўся ўбачыць яе дзе-небудзь на заводскім двары; а яшчэ ні разу яны пасля таго не спатыкаліся іначай, апроч як за работаю або выпадкова здалёк. А якая яна была, гэтая Рыва, увесь гэты час! Яна вельмі клапацілася на сваёй рабоце. А работы было нямала.

Сёе-тое з гэтага яна цяпер расказала Насці Чырванец, сёе-тое з гэтага цяпер сам Броня ўспомніў, перадумаў, стоячы ў гэтым цемнаватым заўкомаўскім пакоі, крыху наводшыбе ад усіх. Што ж, яму трэба будзе слухаць, цяміць справу і ўцягвацца ў работу, падвучвацца. І асабліва ў новага старэйшага таварыша свайго — Ромы Даўгінскага.

Нарэшце, Весялоўскі расклаў на стале паперы; ён ужо трымаў у руках дробныя лісточкі з блакнота, а на іх алоўкам нечытэльна напісана. І як толькі Весялоўскі пачаў, дык адразу і сплыла з усіх спакойная, што пасля працы часта бывае, суглядальнасць. Пра што загаварыў Весялоўскі? Ці праўдзівей сказаць, пра што ён стаў вычытваць з блакнотаўскіх лісточкаў? Гэта быў допіс у шматтыражку пра некаторыя справы ў кавальным цэху. Ішоў ход аб ціосках і аб кляпальніках іхніх.

«Ціскі каштуюць рублёў трыццаць, а заклёпка капеек трыццаць. А ў нас некаторыя як кляпаюць? Абы найбольш выгнаць заклёпак! А якія гэтыя заклёпкі? Цэлая куча ўжо каторы час ляжыць на двары збракаваных з-за заклёпак ціскоў! З-за дрэннай заклёпкі ліха ведае колькі ціскоў псуюцца, іржавеюць. Гэтакая дробязь псуе цэлы ціск».

Далей яшчэ, пра «склад пад дажджом». Гэта ўжо з другога цэха.

«Выкінуць на дождж, на двор адлітую рэч, яшчэ не абточаную, а яна і ляжыць сабе там, як бы ёй там і месца».

Гэта ўсё прыгаварылі не толькі пусціць у друк, але зрабіць гаворку з адміністрацыяй. Націснуць на яе. Ва ўсякім разе справа не скончылася яшчэ. Гэта Весялоўскі павінен быў правесці. На гэтым гэтая кароткая нечарговая нарада рэдкалегіі павінна была скончыцца, але Рома Даўгінскі загаварыў пра справу, пра якую яшчэ не гаварылі ўсе гэтыя дні, хоць яна якраз у гэтыя дні і адбывалася. Гэта было к а л у п а н н е.

Прарыў у кавальным цэху знішчылі. Нават перавы-

сілі лічбы вытворчасці. Стараліся ўвесь мінулы месяц як мага. Нават ударнікі выходных дзён добраахвотна на гэты час былі адцураліся. А цяпер было тое, што крыўдаю напоўніла Ромавы словы:

— Раз прарыў знішчылі, дык ужо і забыцца на яго трэба?! А ў нас што робіцца? Робіцца тое, што раз толькі ганьба прарыву над каркам не вісіць, раз яна вочы не муляе, дык і пачынаецца, дык і пачалося адразу калупанне! Нікому і не ў галаву, што калі гэтак будзе, дык зноў прарыў будзе і зноў, як гара, плечы прыдавіць. Калупанне ў нас пачалося, таварышы! Калупацца пачалі, а не рабіць. І не толькі гэта некаторыя старыя ініцыятары тут, а і маладыя гэтаксама!

— Стаіць некаторы, здаецца, сагнуцца баіцца, каб лішні раз не паварушыцца,— падаў насмешны голас раптам Броня Казакевіч.

Усе глянулі на яго.

— О, о! — і Рома патрос яму руку.

Спадабалася гэта Рому чуць ад Броні.

— Заўтра валі ў заўком і да дырэктара,— сказаў Весялоўскі,— няхай склікаюць агульны сход кавальнага цэха.

На гэтым і згадзіліся ў той вечар. Весялоўскі ўстаў з свайго месца, згарнуў паперы, адабраў што трэба ў кішэню, каб дома выправіць да друку, і ўсе пачалі рыхтавацца пайсці адгэтуль. Рома Даўгінскі падышоў да Броні Казакевіча і заўважыў, што той нешта раптам як бы сумны стаў. Глядзеў у адно месца, ажыўленне яго, што было, калі ён высмейваў калупанне некаторых кавалёў, прайшло.

— Пойдзем,— тузануў яго за руку Рома.

Броня ў гэты час гаварыў з Рываю.

— Да мяне сёння брат прыязджаў,— гаварыў Броня.

— Брат?

Рыва была рада гаварыць з Бронем, але што брат да яго прыязджаў — вельмі ж усё гэта было незнаёма ёй!

— Бацька мой проста-такі пры смерці.

— Пры смерці?

— Я табе ўжо расказваў пра яго хваробу... Брат прыязджаў, каб я паехаў сёння да бацькі. А я да серады адклаў — тады ў мяне выходны дзень... Бачыш, тут я з імі вось (паказаў на Рому Даўгінскага) разам працую...

Рома слухаў.

— Я яго ў сваю брыгаду ўцягну,— падаў голас Рома.

Рома тут падышоў бліжэй да іх, каб лепш пазнаёміцца з Рываю.

— От дзеля гэтага ж я і астаўся сёння,— не сціхаў Броня.

— І добра зрабіў,— гаварыў Рома,— добра, што астаўся. Сам бачыш, мы ўдарнікі. А што робіцца ў нашым цэху? І ты ж сам толькі што пра гэта са смехам гаварыў: калупацца пачалі пасля таго, як прарыў знішчылі! Мы сёння з табою як працавалі? Каб гэтак усе, дык... Я сам хваліцца не буду, але я цябе хвалю. Ты тут, можна сказаць, малады работнік, а каб усе старыя гэтакія былі...

Броню аж няёмка крыху стала ад гэтых слоў Ромавых. Няёмка і прыемна. Ён тут сказаў:

— А можа я свайго бацькі і не пабачу.

— Няўжо ён такі слабы?

— Ты не верыш, ці што?

Рома аж спалохаўся ад думкі, што Броня на яго пачне крыўдзіцца, што падхвальвае яго за тое, што ён астаўся на тое, каб сваёю работаю падварушваць калупальнікаў, а сам з-за гэтага не паехаў да хворага бацькі.

— Нічога,— сказаў Рома,— у сераду паедзеш. А калі што якое, дык на дзень водпуску вазьмі.

Нешта адбывалася ў Броневых думках. Ён як бы задумёны быў, разам з тым глядзеў нейк востра на ўсіх. Рома ведаў ужо, што гэта за думкі там пра бацьку. Ведала гэта ўжо і Рыва. Ім абаім Броня расказваў ужо, з чаго бацька хварэе.

І нейк выйшла цяпер гэтак, што ўсе, хто быў тут цяпер (а з пакоя яшчэ ніхто не выйшаў), падышлі ўсе да Броні, абкружылі яго і стаялі гэтак, калі пачулі пра яго ўдарніцтва, пра бацькаву хваробу. Рома першы пачаў успамінаць сёе-тое з ранейшага Броневага расказу, дык сам Броня з нейкаю дзіўнаю тут, перад некаторымі ледзьве толькі знаёмымі людзьмі, адкрытасцю расказаў.

Ён то сам быў тады малы яшчэ, так мо гадоў якіх з шэсць-сем было яму, і памятае ён гэта ўсё, як праз туман. Ён памятае непабаранаваную і непасеяную раллю пад жыта, без меж — скарбовае поле. Восень. Хмурны дзень. Бухаюць, аж трасуць усё навокал нямецкія гарматы. Уся краіна, што ляжыць за імі на захад, выехала ва ўцекачы. На самай мяжы з фронтам асталася толькі іх-

няя вёска. З самага яшчэ ранку казакі пагайкамі выганялі народ выязджаць. Усе і выехалі, а ў каго не было на чым — пеша выйшлі. Іхняя сям'я таксама выехала: быў у іх канюк (нешта падобнае да цяперашняга, да таго, якога сёння Весялоўскі бачыў перад заводскаю брамаю). Ад'ехалі яны так мо з кіламетраў якіх дзесяць (воз цяжкі), дык канюк і прыстаў. Хоць плач! Хоць гвалт крычы, ды бяда, што не паможа. Так яны і заселі на дарозе. Бацька думаў, што конь адпачне, пастаіць і далей льга будзе як-небудзь выбрацца. Але толькі час страцілі. І гэтулькі страцілі часу, што салдат навокал стала, як чорнай хмары. У гэтым жывым чалавечым струмені давялося і рушыць наперад. І гэта была самая бяда, бо немец гэтаму шырокаму салдацкаму адступленню стараўся зайсці ў тыл, каб усіх і прыдушыць. І от па дарозе пасярод той скарбовай раллі, збоку, адкуль зусім не чакалі, і пачалі бухаць нямецкія снарады. Перад гэтым маці з дзяцьмі пайшлі пеша, за некалькі гадзін да гэтага. Бацька сказаў ім, куды кірунак трымаць, каб пасля спаткацца. А сам астаўся адхайваць канюка: каб хоць крыху набытку якога льга было на чым вывезці. Паніка была страшная. Яго там і дало ў грудзі. Насмерць, праўда, не забіла, але проста такі да паўсмерці ён затхнуўся. З салдацкім абозам з'явіўся ён на ўмоўленае месца, а там ужо сваіх не знайшоў: пагналі іх далей. Цэлы год бадзяўся ён па прыфрантовых гарадах Расійскай імперыі, шукаючы сваю сям'ю, валяўся па шпіталях, зноў выходзіў з іх і ўсё шукаў, шукаў. Пасля зноў клаўся ў шпіталь — прыдушаныя зямлёю і параненыя грудзі вельмі цяжка паддаваліся лекам. І, нарэшце, знайшоў, у бараках ля вакзала знайшоў сваю сям'ю. У голадзе, у холадзе, у нечалавечых пакутах прайшлі ўсе наступныя гады, аж да самага канца вайны, да самай рэвалюцыі. За гэтыя гады асесці ўдалося ў адной вёсцы, непадалёку ўжо адгэтуль (кіламетраў за пятнаццаць ад гэтага горада), а ў рэвалюцыю зямлі далі. Гэтак і астаўся тут. Тут і выраслі дзеці. А сам ён старэў вельмі шпарка, жыў на адных леках і рабіць нічога не мог. Назаўсёды было страчана здароўе. І дзіўна, як мог ён пражыць аж да гэтай пары з гэтакім здароўем. І цяпер цяжка, мусіць, яму ачуняць.

— Я заўтра пайду, вельмі слабы ён,— загаварыў раптам Броня, памаўчаўшы пасля свайго расказу.

Усе, стоячы навокал яго, разумелі яго. Весялоўскі

асабліва: у яго галаве праходзілі цяпер малюнкі вайны, той самай вайны! Ён жа сам, можна сказаць, на сваіх плячах выносіў яе, тую вайну. А пасля ваяваў з польскімі панскімі акупантамі.

Броня цяпер маўчаў — бялявы здаравяк, крыху з нейкаю здароваю таўсматасцю ў плячах. Рыва стаяла блізка ля яго; таксама і Насця Чырванец, папраўляючы на галаве хусцінку. Кавалі — Гірка Ерынгроз і Косця Сыманутовіч хацелі ўжо нават гаварыць, што трэба няйначай заўтра выправіць Броньку дадому ў вёску, калі ён думае, што бацька не выжыве гэты раз. (Пра гэта яны пасля самому Броньку ўспаміналі.) Нарэшце, усе пакрысе разышліся. Рома і Насця Чырванец, ужо на дварэ, пакінулі Броню і Рыву ісці разам: заўважылі, што Рыва вельмі горача штосьці гаворыць Броньку. Гэтак Бронька і Рыва выйшлі разам з заводскай брамы пасля ўсіх.

Гэта было ў суботу, а на трэці дзень Бронька сядзеў пасля змены сваёй на заўкомаўскім ганку, спусціўшы галаву ў зямлю. Весялоўскі, як праходзіў паўз яго, здагадаўся: няйначай бацька памёр! А як выйшаў на вуліцу, убачыў: зноў стаіць ля брамы той канючок у драбінах і брат Бронеў пры ім.

— Броню чакаеш? — цяпер ужо адразу загаварыў Весялоўскі.

— Але. Хутка ён выйдзе?

— Мусіць, зараз ідзе. Дома што ў вас?

— Бацька памёр. Вельмі шкадаваў, што Броні не было. Гэтак жа ён хацеў яго пабачыць!

«От чаго Броня нудзіць, седзячы на ганку»,— Весялоўскі думаў гэта, ідучы далей, у свой бок. «Не паехаў жа такі назаўтра пасля тае гаворкі ў суботу Броня ў вёску. Што гэта — ударніцтва, жаданне не адставаць ад Даўгінскага? Няхай бы ён лепш прапусціў са два дні работы!..»

У той вечар Броня выехаў з братам хаваць бацьку. Аднекуль якраз бо ўзялася Рыва і прайшла побач з фурманкаю да канца вуліцы. А наступныя два дні ўся тая моладзь — Рома, Гірка, Косця, Насця — пыталі ўсё ў Рывы, як трымаўся Броня, калі ад'язджаў хаваць бацьку. Цераз дзень з'явіўся Броня назад на работу. На сваю, другую, змену ён спазніўся. Рома ў той дзень быў выходны, і Броня ледзьве прычакаў канца сваёй работы. Ён знайшоў ля брамы на лаўцы Рыву, Гірку, Косцю,

Насцю. Не было толькі Весялоўскага (гэты, вядома, напроці іх усіх стары чалавек, будзе яшчэ яму хвіліна пагаварыць з Бронем!). Яны ўсе чакалі Броню і, як толькі ён выйшаў, абкружылі яго, так што ён адразу папаў у гэтакае абкружэнне, якое не «давала яму спакою» немалы час пасля гэтага. Ледзьве яны адышліся ад заводскай брамы, як ужо шпарыў ім на спатканне Рома Даўгінскі. І за наступныя дні яшчэ бліжэй сышліся Рома і Бронька. Ну і гналі ж яны работу! Ну і ўзяўся ж цяпер Броня за сваё ўдарніцтва, за спаборніцтва. І само нейк выйшла гэтак, што склалася брыгада: Броня, Рома, Гірка, Рыва, Насця, Косця — брыгада, якая павінна была націскаць на адміністрацыю — зараз жа пашырыць крыты склад, каб ніводная гатовая рэч не валялася на двары. Гэтая ж самая брыгада ўзялася як мае быць за праверку заклёпкі ціскоў. Тут, вядома, галоўную ролю адыгрывалі брыгадзіры-кавалі. А павольныя тэмпы работы, што пачаліся нейк неўзаметку пасля знішчэння прарыву? Тое калупанне, пра якое і Рома і Броня гаварылі першыя? Тут ужо сам Броня гнаў нават самога Рому. З іх пачалося. Пайшлі брыгады на ўвесь цэх, зноў гэтаксама, як тады, калі змагаліся з прарывам. Сістэма брыгад, можна сказаць, пачала ўваходзіць у самы быт кавальнага цэха. І калупанне знішчылася. А што ж Рыва Паперман? А яна пайшла неўзабаве вышэй: сама яе дзейнасць прымусіла яе быць нядоўга за прыбіральшчыцу, яна пайшла ў ліццёвы цэх кваліфікавацца на фармоўшчыцу. У пачатку зімы Броня вадзіў у госці да Рывы, да Рывінага бацькі, шаўца з арцелі, сваіх таварышаў — Гірку і Косцю. Гэта было пасля ўжо таго, як стала вядома, што Броня і Рыва неўзабаве пажэняцца. Праз некаторы час Рыва пачала працаваць у ліццёвым цэху за фармоўшчыцу.

# БРАТЫ

Хлапчук спаў на халоднай траве. Калені ён падцягнуў да барады, рукі, як мог, схаваў на грудзях у рукавы таго, што калісьці было чалавечай вопраткай (злямцаваныя шматкі ваты і аблезлай картуны). Гэтак і спаў грудзьмі на кулаках; сціснуты ўвесь, як карчук дробнай расліны. Ляжаў ён тварам уніз. Віхрастая бялявая галава не мясцілася ў скуранай шапцы без казырка. Шапка была б нават і ніштаватая, каб яшчэ да яе казырок і каб не распоркі скрозь па швах. Бялявыя віхры вытыркалі праз гэтыя распоркі ва ўсе бакі. Голыя пяты блішчалі здалёк, з-пад даўгіх нагавічных калошаў. Нагавіцы не мелі ўжо аніякага колеру.

Восенныя павевы ішлі над горадам; дрэвы стаялі жоўтыя. Гукі беглі адусюль: на блізкай электрастанцыі чмыхала пара, там жа дзесьці вызвоньваў і грукацеў трамвай; кукаваў на вузкакаляіне драбнюсенькі паравічок і цягнуў за сабою ляскатлівую гаворку рухавых скрынак з торфам. Плыткая рэчка гнала няспынную ваду. Яна адгароджвала тут сад ад горада. Сцежкі скрыжоўваліся ў шмат якіх мясцінах вялікага саду; па іх шнуравалі людзі, і хто колькі меў вольнага часу, спыняўся тут дзе-небудзь ля ціхай лаўкі — на гэтай вясёлай выспе сярод пыльных вуліц грукатлівага места. Хлапчук спаў на ўзгорку. Дрэў тут было менш. Сонца не лішне грэла зямлю, не хапала толькі сіверу, каб да рэшты ахаладзіць вытаптаную траву. Яшчэ не выбралася з саду летняя сталавальня. Кухонны водар патыхаў паміж дрэў. Сталавальня была пры пешаходнай садовай дарозе. На адкрытай верандзе стаяла чарга ў касу. Навокал столікі, на іх абы як выцертыя цыраты, і поўна людзей тут. Усе — працавітыя людзі: з рук ніколі не адмываецца са-

жа і зямля; гальштукі, у каго ёсць, завязваюцца толькі з той прычыны, што ні на што іншае іх не абярнеш. Людзі тут доўга не сядзяць: кароткі полудзень не ёсць адпачынак. На хадзе раскусваюць запалкі, каб пакалупаць у зубах, на хадзе закурваюць «Колгосп» і «Змену».

Нават праразлівы, сіпучы гудок з электрастанцыі не пабудзіў хлапчука. Следам за электрастанцыяй загулі заводы: абазвалася ўся бліжэйшая адсюль гарадская ўскраіна. Тады неўзабаве да сталавальні ў садзе прыйшла дзяўчына. Постаць яе і мажная і, разам з тым, невялікая. Чорныя кучаравыя валасы, белы твар, да якога не прыстае сажа і пыл, як вытачаныя дзеля прыгожасці пераноссе і барада — цвёрдыя рысы. (Кажуць, гэта ўпартасць натуры.) Яна прайшла роўнаю дарогаю да сталавальні, кідаючы вачыма навокал; кагосьці шукала вачыма. На веранду яна ўзбегла шпарка, адразу прыстроілася да рухавай чаргі і праз некалькі хвілін трымала ў руках талон на полудзень. Але за стол яна адразу не села: збегшы з веранды, яна разгледзела рухавымі вачыма натоўп, пешаходаў, людзей на лаўках і заўважыла абшарпанага хлапчука на траве.

— Гурык, Гурык,— гукала яна, яшчэ не падбегшы нават да яго.

Хлапчук адразу ўскочыў на ногі і стаяў перад ёю. Ён яшчэ не скінуў з сябе соннай млявасці і дрыжаў ад сцюдзёнасці восеннай зямлі, на якой праспаў некалькі гадзін. Пасля ён шмаргануў рукі ў астачу кішэнь і пайшоў за ёю. Ён пераступаў з нагі на нагу вельмі шпарка і моцна, падскокваў, падбягаў, каб сагрэцца, а яна ішла цяпер спакайней. На верандзе яны выбралі столік у пусцейшым кутку. Цяпер людзей сплыло, і крыху вальней стала.

Ім прынеслі есці. Так мо з пяць хвілін пасядзелі пасля яды за столікам, пагаварылі ціха, пасмяяліся ў гаворцы адно аднаму. Гэта былі добрыя ўсмешкі блізкіх людзей. У гэты час страўня пакрысе пусцела. Менш усё тут было людзей, і буфетчыца пачала нават калі-нікалі соладка прыжмурваць вочы, на хвіліну ўспіраючыся локцямі на свой даўгі стол. Хлапчук астаўся сядзець яшчэ некалькі хвілін пасля таго, як пайшла яго сяброўка. Яна пайшла вельмі шпарка да вялікай садовай брамы, недзе па той бок яе, дзе неўзабаве зноў абазвалася заводская сірэна. Хлапчук, перад тым як сысці з веранды, колькі разоў

прагна аглядзеў столікі. Толькі на адным століку ён заўважыў недаедзены і непрыбраны кавалак хлеба. Ужо сыходзячы ў сад, ён даядаў яго.

— Ты ж гэта адкуль узяўся,— запытала ў яго буфетчыца,— што цябе дагэтуль не відаць было?

Хлапчук спыніўся на ўсходках і з падазронасцю паглядзеў на жанчыну. Яна яго ведае, ці гэта проста цікаўнасць, можа нават і пустая?

— Чаму? — пільна перапытаў ён.

— А от што яна адна ўсё прыходзіла сюды есці дагэтуль.

— Хто, Хана? Вы Хану добра ведаеце?

— Ды кажу ж, што есці ходзіць сюды. А як яна там, Хана ці не Хана... Эх, ты!

Хлапчук зарагатаў і больш не слухаў. Ён пайшоў, ціха пасвістваючы. Праз сад ён ішоў, не спяшаючы, падтуліўшы плечы, паглядаючы навокал — на сустрэчных людзей, на траву, на дрэвы. Гэта была прывычка. Можна было заўважыць, што гэта досыць такі высокі хлапчук («вырас, выцягнуўся»), што неўзабаве нахопіцца першае юнацтва. З саду ён выйшаў на пыльную вуліцу і пайшоў тут шпарчэй. На вуліцах ён мінаў рамонты асфальтавых тратуараў (ішоў сярэдзінаю вулічнага бруку), прыглядаўся ўгару на шматлікія рыштаванні (на кожнай вуліцы выраслі гмахі муроў). На сонечным пляцы ён прыпыніўся ля жалезнай агароджы, пасля пералез цераз яе і сеў на лаўку. Тут быў невялікі і даволі-такі пыльны скверчык. Гадзіннік на вежы гулка выбіў дзве гадзіны. Хлапчук як бы нехаця падняўся з лаўкі і пайшоў цераз пляц да старасвецкага абшарпанага мураванага дома. У брудных карыдорах яго было крыху людзей; на дошках павывешваны былі спісы тых, што пасылаюцца на работу. Біржа працы! На другой ад дзвярэй дошцы хлапец прачытаў паміж густа выдрукаваных незнаёмых яму прозвішчаў сваё. Тут ён раптам скінуў з сябе сваю суглядальную павольнасць. Ён шмыгануў у першыя адчыненыя дзверы і стаў ля бар'ера. Неўзабаве яму выдалі паперку — накіраванне на працу. З заўтрашняга дня! Цяпер ён жвава пасігаў па карыдорах, глянуў у кожныя адчыненыя дзверы. Усё, што ён чуў тут за ўсе гэтыя дні, набывала цяпер іншы, цікавы і новы сэнс. Кіраўнікі работ гэтак, як і ўсе гэтыя дні (кожны дзень чуў ён тут), спрачаліся з-за рабочай сілы...

— Апошнія дэкады будаўнічага сезона, а вы мне і дагэтуль, колькі мне трэба, рабочых рук не далі...

— Вы мне не далі кваліфікаваных работнікаў...

— У нас рабочых рук не хапае, бо іх няма без работы. А тым больш кваліфікаваных. Беспрацоўя няма!

Гурык пайшоў назад праз пляц, праз вуліцы, праз сад. За вялікаю брамаю ён перайшоў упоперак пустую вуліцу, саскочыў уніз на тратуар з паднятага бруку, пайшоў паўз даўжэзны будынак. Пакуль ён хадзіў тут, два разы прагучала над гэтаю будынінаю сірэна, некалькі разоў уязджалі ў заводскую браму фурманкі з жалезным і чыгунным ломам (уцільсырэц)... Ён, нарэшце, вярнуўся назад і надоўга сеў на лаўку, разглядаючы дрэвы, неба над імі, зямлю, людзей... Гэтая суглядальнасць не мела ў сабе бяздум'я і спакою: і думкі клалі сляды на малады твар (зморшчакі ўгіналі лоб), і далоні рук расціралі траву і познія кветкі малачайніка... Гэта была маладая ўзбуджанасць, радасны неспакой, разам з тым упартая сталасць бывалага чалавека. Дзе ён не быў і чаго ён не бачыў?

Перад захадам сонца ясныя колеры залівалі заводскі двор. Закурадымленыя людзі з дзённай змены яшчэ хадзілі па двары: таўкліся ля кааперацыйнага кіёска, уваходзілі ў сталавальню і выходзілі з яе, збіраліся па трычатыры ля заўкомаўскага ганка. Двор пакрысе пусцеў. Пасля праразлівай сірэны на вячэрнюю змену роўны шоргат, гул і стук з цэхаў здаваўся як цішыня. Нізкі паркан ад вуліцы быў увесь ясны ад сонца. Жоўтыя калоны скрозь навісалі над ім. За імі, па той бок паркана, узвышаліся нясконачаныя сцены новых заводскіх карпусоў. Адтуль моцна патыхала размочаная вапна, і ішла ціхая плынь чыстай разлегласці. Там неўзабаве канчаўся горад. Гурык абышоў тут усё навокал, чакаючы Ханы. Ён яе прычакаў, як сонца яшчэ стаяла на небе, перад захадам. Яна выйшла ўся ў вапне і чырвоным пыле ад цэглы.

— Хана,— загукаў ён, падбягаючы ёй на спатканне.— Я на рабоце!

Яна весела пайшла да яго.

— Тут жа са мною ўсе ранейшыя беспрацоўныя і беспрытульныя робяць... Цяпер вячэраць пойдзем.

— Хана, дзе ты была, Хана?

І Хана і Гурык азірнуліся на гэты голас. Хлопец выходзіў з заводскай брамы. Валасы над вушыма ў яго былі яшчэ мокрыя (відаць, толькі што памыўся, змяніў-

тыся з працы); ён ішоў проста ў спецвопратцы — шырачэзная жакетка (два гэтакія, як ён, улезлі б у яе), закасаныя ўнізе, над жоўтымі гамашамі, нагавіцы. Хана паглядзела на яго, не ведаючы яго, і пайшла сабе з Гурыкам у сваю дарогу. («Можа, пачуў, як клікалі яе таварышкі на рабоце, і цяпер робіць выгляд, што ведае яе».) Хлопец пайшоў скрозь за імі, астаючыся ўсё далей. Ён, відаць, не спяшаў. Хана ні разу не азірнулася. Гурык, як уваходзілі ўжо ў сталавальню на досыць жывой вуліцы, абазваўся:

— А ён глядзіць, куды мы пайшлі.

Хана нічога не адказала.

Змяркалася. У сталавальні толькі што запалілі святло. Людзей, не сказаць, каб было тут многа, але пасля абеду не павыціралі яшчэ ўсіх столікаў, дык здавалася, што тут цесна вельмі. З кухні патыхала гаркаватым дымам. На падлозе было насмечана, натаптана зямлі і панакідвана крошак і скарынак. Не было тут чыста і прытульна, але гэта пакуль што яшчэ не перашкаджала людзям есці тут з апетытам. Нават было тут і прыемна пасядзець з паўгадзіны, а можа і больш, пасля работы. І Хана і Гурык сядзелі гэтак за маленькім столікам ля сцяны. Цяпер яны не дзялілі папалам сваёй вячэры. Заўтра Гурык на рабоце. З гэтага часу ўсё абнаўляецца, буйна расце ўгару. Яны елі, пасля пілі гарбату. З кухні ўсё патыхала гаркаватым дымам, людзей пабольшала. Непадалёку спрацованы стары піў гарбату з абаранкамі (абаранкі прынёс з сабою ў кошыку). За другім столікам елі ячменную кашу.

Хана колькі разоў пасміхвалася, паглядаючы на Гурыка.

— Цябе як падростка паслалі на работу ці як старога?

І дадавала з важнаю сталасцю:

— Як ты вырас ужо!

І праўда, ён вырас. Але тут ніхто не ведаў яго, каб параўнаць цяперашняга яго з тым, які ён быў хоць бы і летась яшчэ. Яго тут ніхто не ведаў. А Хану? Той хлопец, што пытаўся нядаўна ў яе на вуліцы: «Хана, дзе ты была?» — стаяў ужо мо з пяць хвілін ля дзвярэй і ўглядаўся ў яе. Пазнаваў яе ці проста яна яму спабачылася? На ім ужо не было заводскай спецвопраткі. З някепскага сукна гарнітур быў на ім. Шэрая кашуля пад гарнітурам

з адкладным каўняром і тонкі гальштук, завязаны наспех. Плашч быў расшпілены.

— Не займайце дарогі,— сказала яму жанчына, несучы повен паднос талерак.

Дык ён адразу рушыў да Ханы і Гурыка.

— Да нас ідзе, глянь, Хана! — сказаў Гурык.— Той, што гаварыў да цябе, як мы ішлі сюды.

Хана глянула на яго.

— Хана, здарова! Ты мяне не пазнаеш, Хана? Дзе ты была, Хана, дзе ты была дагэтуль?

Хана і сапраўды не пазнавала яго. А можа зусім не ведала? Можна сказаць, нічога не гаварыў ёй гэты твар, гэтае аблічча, гэтая постаць. Ён быў даволі высокі, смуглявы, загарэлы (дзесьці пры агні); гэтакі малады здаравяк. Была ў ім і сталасць, што не давала ёй думкі пра яго, як так сабе, пра маладога хлапца, якому яна спабачылася з першага зірку, які пачуў дзесьці выпадкова яе імя, які прыйшоў сюды за ёю.

— Ты мяне не пазнала, Хана?

— Не.

Гурык з цікаўнасцю глядзеў і на яго, і на Хану. А той ужо сядзеў за іхнім столікам.

— Я цябе, Хана, пазнаў, як толькі некаторага дня ўбачыў на пабудове. І толькі сёння мог злавіць цябе. Я ішоў станавіцца на сваю змену ў цэх, а ты капала зямлю. Вас там шмат было дзяўчат, я цябе заўважыў. І толькі што от я цябе спаткаў, а ты, мусіць, не пачула, як я гаварыў да цябе.

— Значыцца, ты ведаеш мяне? А я не магу ўспомніць... Я тут ужо трэці месяц працую... Я не магу ўспомніць цябе...

— Успомні дворнічыху на Чырвонасцяжнай вуліцы.

Тут Гурык ускінуў галаву ўгару ад раптоўнай напружанасці думак і цяпер ужо стараўся ўслухацца ў кожнае слова. Цікнула яго ад гэтага слова: «дворнічыха на Чырвонасцяжнай вуліцы». Некалькі хвілін усе трое маўчалі. Успаміналі? Думалі? Не ведалі, як далей гаварыць? Хана ўспомніла, пазнала гэтага хлапца?

Калісьці, год за некалькі да гэтага, сапраўды была такая дворнічыха на Чырвонасцяжнай вуліцы. Хто яе найбольш ведаў — Хана, Гурык ці гэты новы знаёмы? (А можа гэта старое знаёмства, і вельмі блізкае, аднаўляецца?) Гурыку належала больш за ўсіх ведаць двор-

нічыху. Але чаму гэты, незнаёмы Гурыку хлопец, гэтак, загаварыўшы пра дворнічыху, пачаў пільна ўглядацца ў Гурыка? Ён жа цяпер думае пра тую жанчыну!

Некаторыя насельнікі з лепшых кватэр казалі тады, што дворнічыха была баба ліхая. Некаторыя нават проста-такі не мелі на яе, небараку, вока. Бо яна якраз мела звычай падмятаць тратуар упоперак цераз двор тады, калі яны ідуць на сваю службу. Нязграбная, высокая, худая, спрацаваная, з вострымі плячыма, з завостраным носам, яна шморгае, бывала, у той час па тратуары мятлою, а яны гэтым жа самым тратуарам праходзяць, памахваючы партфелямі. Вельмі ж адзін з іх!.. Але яму не смела дворнічыха сказаць і слова. А што ён? Рабіў рэвалюцыю? Ці ратаваўся ад яе? Хіба магла разабрацца ў гэтым дворнічыха! Выразна ў гэтым абсягу дворнічышыныя думкі не хадзілі. Людзі прасцейшыя, дык тыя сыходзяць з тратуара і не турбуюць дворнічышынай работы. Але гэта людзі, якія з ёю і калягаваць могуць. Але ёсць і іншыя. Сёй-той возьме і пераступіць цераз мятлу або часамі, бывае, нават і наступіць на яе. Усе яны гэтакія ці не ўсе? Гэтым дворнічыха не цікавілася. Даволі было аднаго, каб усе яны зліліся ў адну лапіну перад вачыма гэтай жанчыны. Наступіўшы на мятлу, чалавек пераб'е рытм работы. Каб гэтага не было, жанчыне трэба што рабіць? Трэба адрывацца ад работы, разгінацца, адстаўляць мятлу ўбок і чакаць, пакуль чалавек не пройдзе. Не паспее яшчэ ён адысці, а жанчына нагнуцца і шмаргануць першы раз мятлою па тратуары, як другога ліха нагоніць. Гэты дык не дае нават часу дворнічысе адцягнуць убок мятлу, так і прэцца. Дворнічыха злуе і пачынае бубніць сабе пад нос і клясціся — гэта тое, за што яе на двары мелі за ліхую бабу. «Каб вы па свеце не хадзілі, як вы не можаце ўбок з дарогі сысці». Яна абагульвае ў гэты момант свет у адно злое і бязлітаснае ўстанаўленне. І, мусіць, такі праўда, што дворнічыха ліхая жанчына, калі гэтак. Тратуар жа на тое пакладзены ўпоперак цераз двор, каб па ім хадзіць. А мясці? На тое ж і мясці, каб хадзіць. Мусіць, яна і сама цьмяна здагадвалася пра тое, што яна баба ліхая. Бо яшчэ не было гэтакага выпадку, каб яна ў гэтакую хвіліну вытнула каго мятлішчам у плечы. Скончыўшы мясці, яна кідае мятлу ля парога сваёй хацінкі ў глыбіні двара і, аддыхваючыся ад страшэннай утомы, ад вялікай змарда-

іасці, упоўзвае ў хату і хутчэй стараецца дапасці да пасцелі. Яна акрываецца тоўстаю кудзельнаю зрэбнаю коўдраю, зажмурвае вочы і не варушыцца з гадзіну. Яна моцна дыхае, у грудзях яе хрыпіць, скрыпіць, аж здалёк, здаецца, чуваць, як б'ецца, калоціцца яе скрываўленае жыццёвымі ранамі сэрца, як яно сціскаецца, як чмокае хвораю крывёю змучанага чалавека! Але от змардаванасць пакрысе праходзіць, расплюшчваюцца вочы, жоўты зморшчаны твар робіцца рухавейшы, у вачах загарваецца і пачынае тлець раптоўнымі ўспышкамі агонь... Жанчына бачыць рог варыстай печы, што займае палову ўсёй хаты, нізенькі зэдлік ля яе, гэтакі нізенькі, што, калі дворнічыха садзіцца на яго, калені яе бываюць на ўзроўні грудзей. Вільготныя сцены поўняць усю хату цеплаватаю парнасцю, нізенькае акенца ў сад усё ў слядах летняга жыцця мух. Тут заўсёды змрачнавата, у гэтай хаце. Але ў сонечныя дні, калі сонца перад захадам стаіць над садам, дворнічыпыная хата збірае на сваіх сценах ясныя колеры. Нават чорныя павады парванага і абкуранага павуціння пад столяю над комінам трацяць сваю змрочнасць. Цяпер дворнічыха, ачомаўшыся, садзіцца, працягвае руку, доўгімі пальцамі дастае з акна пачак махоркі і закурвае. Яна пачынае харкаць, мокра кашляць, адплёўваць харкавінне ў куток за ложак. Падлогі ў хаце няма, адно ўтрамбаваны нагамі пясок; харкавінне, значыцца, можа высахнуць і ўвабрацца ў зямлю. Гэта каб была падлога, ды яшчэ можа маляваная, тады дворнічыха можа б і не плявала на яе! Але наўрад! Ці быў калі выпадак, што чалавек, зваліўшыся з карабля ў раз'юшанае мора, шкадаваў, што замачыў свае новыя нагавіцы? А тут раз'юшанае мора было скрозь. З самых малых дзён яно было! Перш за ўсё, радавітае парабкоўства, яно перайшло ў спадчыну ад бацькі. Яно ж мелася, мусіць, перадацца і дзецям, бо далягляды на што-небудзь лепшае былі засланы змрочным туманам. Так ужо маці і прывыкла думаць: вырастуць два сыны-парабкі. Але часамі варушылася і іншая няясная думка: вырастуць яны маладыя, здаровыя, дык можа і іншага спосабу жыць дойдуць, а яна сама, яны самі, бацькі, дажывуць, дагаруюць веку і гэтак. Але давялося крыху іначай дагараваць век! Старэйшы сын, Уладзімер, быў ужо дужаваты хлапчук, а меншы, Гурык (Гаўрыла), яшчэ ледзьве хадзіць пачаў, як прыйшла вестка, што бацька іхні развітаўся з жыццём на вайне.

А неўзабаве немец пашпарыў наперад, і фронт вымеў і зруйнаваў усё, што было перад ім. Тады і пачалося жудаснае бадзянне па свеце, скрозь, аж да той пары, калі нанялася яна за дворнічыху. А большы сын, Уладзімер, ужо тады другі год як ваяваў з палякамі. Вайна тады канчалася, і яна ўжо чакала свайго Уладзімера да сябе, хоць пабачыць яго. Але ён не ехаў. Слаў толькі лісты, а пасля пачаў прысылаць і грошы. Тады маці весялей пачала глядзець на свет, але кашаль і боль у грудзях не доўга мучылі яе на свеце. Тым жа часам Гурык чуў сябе як не трэба лепш. Гэта нічога, што і галадна і холадна яму часта бывае! Затое ўвесь горад у яго ўладзе. А таварыства — таксама повен горад. Цэлымі днямі ён не сядзеў дома; маці ён бачыў толькі ўвечары, калі, набегаўшыся за дзень, прыходзіў дадому адсыпацца да заўтрашняга, не менш клапатлівага, дня. У тыя часы, толькі што пасля вайны, на некалькі дзён прыехаў быў Уладзімер, Гурык зусім не пазнаў яго; гэтакі высозны хлопец, гэтакі здаровы вайсковец. На ўсім двары тады загаварылі: «Бач ты, гэта ж у нашае дворнічыхі сын камандзір!» Праз некалькі дзён Уладзімер паехаў, пакінуўшы маці ясныя надзеі: цяпер яшчэ от толькі што пасля вайны і ён, камандзір, яшчэ не адышоў ад сваіх паходаў, бо яшчэ па ўсёй краіне то там, то тут давозіцца знішчаць бандытызм. Але гэта неўзабаве мінецца, і тады ён як мае быць на старасці год дагледзіць сваю маці. Але як паехаў ён, пасля таго, колькі ні пісала яму дворнічыха, ніякага адказу не было. Было, праўда, неспакойна і каля іхняга горада: і тут з'явілася непадалёку банда. Было заўважана, што яна стараецца спаліць ці якім-небудзь іншым парадкам зруйнаваць чыгуналіцёвы завод на гарадской ускраіне. Злоўленыя два бандыты паведамілі, што ўсё гэта робіцца на грошы ранейшага ўласніка завода. З гэтага, вядома, нічога не выйшла: навакольныя лясы, як бачыш, былі ачышчаны ад гэтай навалачы. Дзеля гэтага прыехала была з стараны вайсковая часць. Пяць ці шэсць чалавек з гэтай часці былі забіты, больш ахвяр не было. Ніякага ўрачыстага пахавання не адбылося, бо толькі на чацвёрты дзень прайшла трывога, калі як мае быць усё навокал ачысцілася і рабочыя, асабліва «старыя», што нядаўна вярнуліся з польскай вайны, спакойна, як мае быць, адразу пачалі брацца за адбудаванне і пуск у ход свайго

завода. Праз некаторы, самы малы, час прыйшоў дадому, дэмабілізаваўся, чырвонаармеец з той часці, што падыходзіла пад горад на сутычку з лясной бандаю. Чырвонаармеец гэты быў родам з таго самага горада. Ён вярнуўся дадому, на той самы двор, на якім жанчына служыла за дворнічыху. Дома брату ён расказаў, што сярод забітых быў і іх камандзір. Як пачаў ён расказваць пра свайго камандзіра, як назваў яго імя і прозвішча, дык чырвонаармейцаў брат устаў з свайго месца, ажывіўся ўвесь, вельмі зацікавіўся і адно рукамі развёў. Не было каму ўжо расказаць тут пра гэтую сумную навіну. Пасля яны з братам пайшлі туды, дзе ўвесь час працаваў іх бацька, пакуль жыў быў, і дзе старэйшы брат, нядаўны чырвонаармеец, таксама, пакуль пайшоў ваяваць з палякамі, ужо быў за рабочага: пайшлі яны на свой завод, на агульны сход. Чырвонаармеец меў яшчэ сваю страявую выпраўку, але вайсковая адзежа яго сядзела ўжо на ім па-цывільнаму. Сход быў гарачы, і пасля яго яшчэ шпарчэй пайшла справа аднаўлення завода. І пачалася тады з дня ў дзень упартая праца. Два браты аднак не ўвесь час разам працавалі на сваім заводзе. Праз некаторы час, калі завод быў пушчаны ў ход, старэйшы, нядаўны чырвонаармеец, пайшоў вучыцца на рабфак. А маладзейшы ўсё больш і больш упрагваўся ў работу на заводзе, там жа набываючы токарскую кваліфікацыю. Ён быў падобны на свайго старэйшага брата, хоць на шмат год за яго маладзейшы быў. Ён быў яшчэ зусім маладзенькі, яшчэ нядаўна з падросткаў вылез, і на заводзе выйшаў з яго вельмі добры вучань. Ён праходзіў навуку тут жа, пры рабоце, пад кіраўніцтвам старэйшага майстра: вучылі тады наспех і найбольш на самай выразнай практыцы, бо людзей не хапала: то паразыходзіліся па свеце за нядаўную завіруху, то некаторыя з вайны не папрыходзілі. Называўся гэты малады вучань на токара Казя Сурэвіч, а яго брат рабфакавец — Мікалай Сурэвіч. Кватэра ў іх была гэтакая цесная, што нават утраіх (маці яшчэ была ў іх) ім там было цесна. Дык Мікалай перайшоў неўзабаве жыць у агульнае студэнцкае рабфакаўскае памяшканне. Казя тады мала бачыўся ўжо з братам, кожны найбольш глядзеў свае навукі. Казя ў тыя часы перажываў першае з'яўленне юнацтва. За некалькі дзён да таго, як прыехаў быў з арміі брат, ён ужо добра ведаў, што

кожны дзень прыходзіць на іхні двор гэтакая самая, як ён, маладзюсенькая чорная кучаравая дзяўчына. (Раней яна сюды ні разу не з'яўлялася.) І от яму ўжо хочацца бачыцца з ёю, гаварыць з ёю. Ён убачыў, што яна пачала нейк адразу прыходзіць да дворнічыхі на іхнім двары. А тады ўсе на двары пачалі гаварыць, што дворнічыха раптам аслабела вельмі; і праўда, ужо некалькі дзён, як яна не выходзіць падмятаць двара і вуліцы. Казя ведаў — ёсць у дворнічыхі хлопчык Гурык, падобны да беспрытульнага; нават часта і сапраўды беспрытульных чарада прыходзіла з ім на гэты двор. А больш пра дворнічыху Казя нічога не ведаў. Хіба толькі тое, што прыязджаў да яе сын камандзір, і яшчэ ведаў ён іхняе прозвішча, от і ўсё. Раз жанчыны на двары (Казя чуў) гаварылі:

— Падмяла яна вуліцу і як лягла адпачыць, дык ужо больш і не ўстала здаровая. От і ляжыць.

— Дзіва што,— гаварыла другая,— гэтулькі бяды на свеце ўбачыўшы.

Далей яны гаварылі пра ўцякацтва, пра парабкоўства, пра ўсю бядоту з самых малых дворнічышыных год (ведаюць суседкі-жанчыны адна пра адну вельмі добра).

Казя раз надвечар загаварыў з смуглявую дзяўчынаю:

— Да нашай дворнічыхі прыходзіш?

— Але.

— Гэта твая знаёмая?

— Знаёмая.

— Ты сама жывеш тут?

— Дзе? — перапытала дзяўчына, злёгку здзівіўшыся гэтаму як бы допыту.

Зялёная маладосць не ведае меры, і самае смешнае слова тады здаецца як вельмі сталае. Казя тады адразу і выпаліў ні з таго ні з сяго:

— Я завуся Казя Сурэвіч.

Гэта хлопец набіваўся на знаёмства з дзяўчынаю. А яна спярша ўскінула на яго свае вочы, памаўчала крыху і пасля вельмі стала, здалося Казю, нават з нейкаю крыху ганаровасцю, адказала:

— А я завуся Хана.

І абое яны не ведалі, што больш ім гаварыць.

— Вы сюды часта прыходзіце,— зноў пачаў ён ранейшае.

— Часта.

Яны намаўчалі, і яна пайшла, а ён прайшоў з ёю крыху, так можа крокаў якіх дзесяць, і вярнуўся. У той жа самы дзень, калі добра ўжо змяркалася, ён зноў убачыў яе на сваім двары. Яна ішла зноў да дворнічыхі. Ён сам не ведаў, чаго ён пайшоў тады разам з ёю. У дворнічышынай хаце было цёмна, газовачка ледзь асвечвала нябеленыя сцены. Дворнічыха ляжала, сцішыўшыся на сваёй пасцелі. Хана падкруціла больш агню ў газоўцы і ўзялася за нейкую невялікую работу. Неўзабаве прыйшоў у хату Гурык. Ён таксама моўчкі сеў у куток і маўчаў, пакуль маці не абазвалася ціхім голасам.

— Хана, ты напішы Ўладзю. Напішы, што я вельмі хворая, няхай прыедзе, бо можа больш ён ужо і не ўбачыць мяне. Можа да яго не дайшло, што раней суседзі пісалі.

Яна сказала гэта вельмі ціха і больш гаварыць не магла. Яна ўжо маўчала, толькі Гурык падышоў да яе вельмі блізка і стаяў гэтак доўга, як бы ўведваючы тое важнае, што ў гэты час адбывалася тут. Казю стала няёмка, што ён тут немаведама чаго сядзіць, немаведама чаго прыйшоў сюды за Ханаю. Ён устаў і, гэтак жа сама як і сядзеў, ціха выйшаў. І пайшоў сабе, куды яму трэба было, думаючы толькі пра Хану. А назаўтра раніцаю ўсе на двары загаварылі, што ўночы дворнічыха памерла. Казя не бачыў, як яе хавалі, у той час ён быў дзесьці ў горадзе. Хана пасля гэтага была тут яшчэ ўсяго адзін раз, яе тады Казя бачыў: яна ішла па двары з Гурыкам. Кудысьці выходзілі з двара.

Казя спаткаў іх у браме:

— Добры дзень,— сказаў ён.

— Добры дзень,— як бы нехаця адказала яму Хана.

І пайшла з Гурыкам. Больш яна сюды не прыходзіла. На двары тады загаварылі, што яна, гэтая дворнічышына зямлячка, павязла Гурыка да яго брата, туды, дзе стаяў гэты камандзір з сваёю часцю. От больш і не было тут Ханы. Таксама неўзабаве пакінулі гаварыць тут і пра Гурыка. Часцей успаміналі дворнічыху, пакуль памяць пра яе не начала згладжвацца пад наплывам усялякіх дробных і вялікіх жыццёвых падзей. Праз некалькі дзён пасля таго, як апошні раз была на двары тым з Гурыкам Хана, Казеў брат прыйшоў дадому з арміі. Ён і расказаў пра смерць свайго камандзіра. Казя пазнаў, што гэта быў за камандзір.

— Ты добра ведаеш, што гэта быў ён? — перапытаў ён брата.

— А то як жа, не ведаю свайго камандзіра, ці што!

— Ну, дык і я яго ведаю.

— Як жа ты яго ведаеш?

— Ён прыязджаў сюды. Тут яго маці жыла і нядаўна памерла... Дворнічыха ў нас яна была, пачала жыць тут, як толькі што ты ў армію пайшоў.

— От як?

— А цяпер да яго паехаў асірацелы меншы брат яго, зусім яшчэ дзіцё.

— Як жа ён паехаў, калі таго няма?

— А ніхто гэтага не ведаў.

Пра што тады цумаў Казя? Чаго шкадаваў? А таго, што ён як бы носіць у сабе нейкую цяжкую вестку, якую няма каму сказаць тут. Дзе будзе шукаць малы Гурык брата? Пра гэта больш з братам у Казі гаворкі не было. Казя дзень пры дні быў цяпер у сваёй рабоце на заводзе, а брат праходзіў рабфак. Завод ажываў. Пайшоў спярша адзін цэх, пасля другі. І от праз некаторы, немалы, праўда, час увесь завод заварушыўся. Пачало прыбываць людзей, пачало рабіцца цесна. Адзін корпус стаяў калекаю пазней за ўсё — гэта кутавы будынак, узарваны палякамі пры адступленні. Рассыпаная на цагліны сцяна яго ляжала доўга ў непарадку, трымаючы ў людской галаве думку пра нядаўнюю навалу. Але нарэшце і тут усё зрабілі як мае быць. Завод рос і ўжо ў самыя апошнія гады вырас нагэтулькі, што трэба было няйначай новыя карпусы прыбудоўваць. Мікалай Сурэвіч даўно ужо скончыў рабфак і вучыўся далей: на інжынера. У гэтым горадзе яго ўжо не было цяпер.

Ці ўспамінаў усе гэтыя гады Казя, гэты цяпер ужо малады токар, Хану? Успамінаў. Успамінаў вельмі тады, калі на тэрыторыі завода паставілі помнік тым чырвонаармейцам, што згубілі галовы свае, абараняючы завод ад наскоку бандыцкай шайкі. Прозвішчы іх былі выпісаны на помніку. Казя гаварыў не раз таварышам:

— Я ж ведаў гэтага камандзіра!

Каму ён і калі як мае быць раскажа пра гэта?..

— Дык ты — Хана, я ж пазнаў цябе? — пытаўся цяпер Казя, седзячы за столікам у сталавальні.

— Я дворнічыху памятаю. Як жа мне не памятаць яе,— адказала Хана.

— А мяне памятаеш? Памятаеш, як я гаварыў раз на вуліцы табе, як я завуся. І ты мне сказала была, як цябе зваць.

— Я ўспамінаю толькі цяпер, але чаму ты гэтак мяне памятаеш?

— Бо я яго памятаю. Гэта ж Гурык?

— А як жа ты яго ведаеш?

— Мы ж там на адным двары жылі тады з ім, пакуль ты не павязла яго брата шукаць.

Хана адно маўчала цяпер.

— Я адразу, як угледзеўся ў яго, дык пазнаў яго. Выліты мацерын твар.

— Брата мы яго не знайшлі. Невядома дзе ён дзеўся адтуль. Часць тая туды не вярнулася адтуль, куды якраз неўзабаве перад тым выехала. А дакладнага адраса той часці я тады не магла знайсці ў іхняй хаце (яна паказала на Гурыка). Я ведала толькі, што камандзір роты, ведала нумар роты, а палка не ведала. А там гэтакі рух тады войска быў, што не адзін полк за той час у тым горадзе перамяніўся.

— Дзе ж вы былі?

— Я ўсюды была. Я працавала, вучылася, зноў працавала. А ён (зноў паказала на Гурыка) там жа ў дзіцячым доме астаўся. Але гэтакі рухавы хлопец быў (усміхнулася, глянуўшы на Гурыка), што не пабыў доўга на адным месцы. Збег некуды. А пасля зноў з'яўляўся, пасля зноў прападаў немаведама куды...

Гурык цяпер адно смяяўся вачыма і ўсім тварам.

— ...А апошні раз зноў з'явіўся, ужо вось гэтакі. Бачыш, які хлапец! Дык я ўжо цяпер яго ад сябе не пусціла. Мы сюды прыехалі. Я ўжо залічана на работу, на новую галантарэйную фабрыку, гэтымі днямі яна адкрыецца, а цяпер пакуль я на пабудове ля завода.

— А на самай тэрыторыі завода ты не была яшчэ ні разу?

— Не.

— Там помнік стаіць. Не бачыла?

— Не. А чаму?

— Так.

Цяпер гаворка набывала ўжо спакойны характар. Людзей у сталавальні цяпер было шмат, шумней стала. Хана ўстала з свайго месца. Яны ўтраіх выйшлі на вуліцу.

— Ён жыве ў мяне,— сказала Хана пра Гурыка,— але гэтак прывык не сядзець дома. Я ўжо так і ведаю, дзе шукаць яго, калі іду палуднаваць у сад: дзе-небудзь у садзе чакае мяне. Ён з заўтрашняга дня на рабоце.

— Дзе?

— На вашым, здаецца, заводзе. Ты ж на чыгуналіццёвым, здаецца? Ты адтуль у спецвопратцы выйшаў, як гукаў на мяне?

— А што ён там будзе рабіць на заводзе?

— Я там буду за прыбіральшчыка ў клубе і канторы,— адказаў порстка Гурык.

— Самая індустрыя! — падаў жартаўлівы голас Казя. І ўсе ўтраіх засмяяліся.

* * *

У хмурны дзень жоўтыя каштаны і клёны збіралі на сябе ясныя колеры з усяго заводаўскага малюнка. Пад імі, перад брамаю, чорная зямля — сажа, дзындра і гразь — была разгруджана нагамі і калясьмі. Клёны і каштаны засланялі ад вуліцы першыя заводаўскія дамкі: заўком, кантору. Шчыльная агароджа перад імі дзеліць двор на дзве часткі. Па той бок гэтай нізенькай і месцамі разламанай агароджы — вялікі двор, цесны ад жалезнага і чыгуннага лому, ад пажарнага хлява, што вытыркнуўся нейк на сярэдзіну... Тут часамі і ўсялякая непатрэбшчына мазоліць вочы: страшэнная размешаная гразь, цераз якую трэба, каб яе не было, пакласці шырокі тратуар або проста выбрукаваць двор, а тратуар ляжыць вузенькі, так што, калі двое спяшаюць хутчэй размінуцца, адзін няйначай тупне нагою ў гразь ля тратуара. Але тут жа побач, толькі ўбок крыху, пакладзены новы, шырокі асфальтавы тратуар, але ён ідзе туды, куды мала яшчэ хто цяпер ходзіць: там няма аніводнага цэха, толькі наглуха зачыненая нізенькая брама. Адтуль пахне заўсёды размочанаю вапнаю, смольнымі стружкамі; адтуль чуваць людскія галасы — там вырастаюць новыя карпусы. Пакуль жа яшчэ пойдзе ў ход новы тратуар, ён толькі большай мізэрнасці надае растаптаным аполкам старога тратуара. Пакуль яшчэ не загула сірэна на другую дзённую змену, можна сказаць, двор тут зусім пусты, калі-нікалі толькі пройдзе то бібліятэкарша, то

хто-небудзь з прыбіральшчыкаў з сталавальні... З тапарнага цэха коціцца на двор роўны гул — з няспыннаю песняю варстатныя долаты скрабуць адліты чыгун. Роўную тахту гэтай песні адбівае дробны звон у кавальным цэху. Скрыгоча, папісквае, б'е ў барабанныя талеркі цэх бляшаны. Дзесьці, не разабраць дзе, проста-такі енчыць жалеза: абзавецца і сціхне, абзавецца і сціхне. І самотны пажарнік задумёна дастойвае сваю першую дзяжурную палову выходнага дня ля адчыненых дзвярэй пажарнага хлява.

Перад самым гудком пажарніка змяніў яго таварыш. Пажарнік скінуў з галавы мядзяную шапку і перадаў таварышу. А сам пайшоў скрозь цераз двор да нізкага доміка заводскай сталавальні. Гудок дагнаў яго ўжо ў карыдоры. Ён там астаўся на колькі хвілін пастаяць, пакуль не заўважыў, што чалавецкі струмень лінуўся проста сюды. Тады ён падаўся ў сярэдзіну і стаў чакаць. Людзі зараз жа з'яўляцца пачалі тут. Чорны абкуродымлены натоўп прынёс сюды густы гул галасоў. Нядаўны пажарны дзяжурны стаяў ужо ля стала, а ля яго наляглі адна на адну галовы, спіны... Падлога тут нядаўна падмецена; і гэтак шчыра мялі яе, што пыл цяпер стаіць у паветры і паволі асядае на сталы, панакрываныя белымі цыратамі.

— От бо мятуць, хоць бы вадою скрапілі, а то душыцца трэба з пылу!

— Хто гэта тут падмятае гэтак?

А самы той падмятальнік стаяў у натоўпе ля хлопца, што мерыўся быць за старшыню сходу. Гэта яшчэ хлапчук, у нейкай зборнай адзежы, проста немаведама як ён адзеты. Нядаўна, відаць, пастрыжаны: галава белая і круглая, як бручка.

— Здароў, Казя,— сказаў ён хлопцу ля стала, які ўжо даставаў з кішэні скрутак папер і пачынаў перабіраць іх.

— Гурык! Ну, як табе працуецца?

— Ат. Дармо.

І раптам пахваліўся:

— Зараз у лазню пайду. У крэдыт авансам выдалі з кааператыва бялізну і адзежу.

— Маладзец,— адказаў Казя.

Хлапец ушыўся яшчэ больш у натоўп і не зводзіў вачэй з Казі.

Сход пачаўся тады ж. Гурык чуў:

Дзесяць дзён асталося да канца гаспадарчага квартала, і калі не пастарацца, дык не будзе дацягнена да канца гаспадарча-вытворчая праграма. Прарыў можа быць не малы. А як дацягнуць і праграму да канца і нават перавысіць яе? Трэба развіць ударніцтва да максімальнасці. «Што гэта «да максімальнасці», папытацца ў каго, ці што?» Працаваць перашкаджае загружанасць цэхаў сыравінаю, а каб іх разгрузіць, трэба раней разгрузіць і ачысціць двор ад лому. А на гэта няма вольных людзей. Дык заўтра трэба наладзіць суботнік: абавязак кожнага, хто заўтра выходны, прыйсці на суботнік. А тады — гнаць работу, кожны трэба каб быў ударнікам.

Гурык хадзіў пасля сходу па двары: зноў мокры двор быў пусты, і цэхі ціха спявалі сваю працавітую песню. На двары ўжо часамі сёй-той, прабягаючы, кідаў гаспадарскае вока на стары чыгун і лом паўз сцены, паўз агароджу. Казю Гурык спаткаў тады ж. Ён увесь гэты час, з таго самага вечара ў сталавальні, прагнуў быць бліжэй да гэтага хлопца.

— Ты што тут аглядаеш? — падаў да яго голас Казя.

— Так сабе. Куды ты, Казя?

Казя хапіў яго рукою за плячо, і гэтак яны выйшлі на вуліцу.

— Ты як, будзеш доўга за прыбіральшчыка?

— Як будзе.

— Табе вучыцца трэба. Ты не думаеш пра гэта?

І цяпер яшчэ болей пацягнула Гурыка да Казі. Ён бег дадому шпарка. Як бы штосьці падганяла яго (як і ўсе гэтыя дні), як бы што адабрала ад яго ранейшую сузіральную павольную порсткасць. Ён не застаў дома Ханы. Ён выцягнуў з кутка скрутак у газетнай паперы і сабраўся. Як бы спяшаючы, ён шпарыў у лазню; і ўвесь гэты час, і пакуль ён мыўся там, беглі ў галаве яго бурныя думкі. Яны нічога не маглі яшчэ яму сказаць выразна і адкрыта, але яны яшчэ больш прымушалі яго бліжэй трымацца да Казі. Казя памятае яго маці! Казя паказаў яму помнік пасярэдзіне заводскага двара і расказаў яму пра брата яго, камандзіра. І сам ён памятае брата, ці толькі цьмянае адчуванне яго, няяснае ўспамінанне яго стаіць перад ім? А Хана? Гэтая яго старэйшая сяброўка, як сястра, як маці! А ўсе гэтыя людзі, чорныя,




Вокладкі кніг Кузьмы Чорнага, выпушчаных Дзяржаўным выдавецтвам Беларусі.



Кузьма Чорны і Юрка Гаўрук. *1927 г.*

клапатлівыя, якія пакуль што яшчэ зліваюцца ў адну масу і толькі пачынаюць перад ім выдзяляцца асобнымі абліччамі, якія пакуль што яшчэ яму здаюцца ўсе незнаёмымі. Як бы віхор нейкі трымаў яго ў сабе ўсе гэтыя дні. Ён з асалодаю мыўся, не спяшаўся адсюль, пасля гэтаксама доўга адзяваўся. Ён з страшэннаю, не веданаю раней лёгкасцю, з найвялікшаю асалодаю, адчуваў на сабе новую бялізну: яна, здаецца, адразу натуральна зраслася з целам.

«Той чад, які поўніць гаркачэчаю нашу сталавальню з кухні, той бруд, які ўкрывае падлогу нашага клуба, той пыл, што асядае на нас, на паперу і кнігі, пасля таго як раз у тры дні яго падмятуць,— усё гэта тая сажа, якую рабочы пасля работы кожны дзень абмывае з свайго твару. Усё гэта змыецца неўзабаве, разам з усёй іншаю нарасцю, якую змывае рэвалюцыя і якая вырасла на нас за доўгія вякі... Калі гэта Казя гаварыў гэтак? Дзе-небудзь на сходзе ці з Ханаю?»

Назаўтра Гурык бачыў: адна змена саступала месца другой. Паджылы чалавек, што стаяў ля свайго такарнага варстата побач з Казем, з паўхвіліны падумаў, штосьці шэпчучы губамі, пасля махнуў рукою, укусіў хлеба і, адразу налёгшы зноў на варстат, астаўся стаяць пры ім на другую змену. Ля наступнага варстата тое самае зрабіў малады хлапец. А далей — чалавек адышоўся крокаў за дваццаць да дзвярэй ад свайго варстата, пасля адразу павярнуўся на адной назе, вярнуўся назад і зноў стаў ля варстата. Гурык міргнуў да Казі, Казя яму ўсміхнуўся. Гурык выйшаў на двор, а там ужо выходныя варушыліся на двары, ачышчалі двор ад лому. Гурык пастаяў крыху сярод усіх, узяў іржавы шворан і ўскінуў на тачку. Пасля пачаў цягнуць з-пад урослай у зямлю рэйкі ліст пагнутай бляхі. Так ён і астаўся на суботніку з усімі да самага вечара.

— Дзе ты гэтак быў позна? — сустрэла яго дома Хана.

Яна пра яго думала яшчэ і цяпер. Як яна яго шкадавала тады! Як клапацілася пра яго ўсе гэтыя гады! Яны ж разам прыехалі ў гэты горад калісьці, і яна дарогаю растраціла ўсіх сваіх небаракаў родных.

Цяпер кожную раніцу яны з Гурыкам разыходзіліся да вечара: яна ішла на сваю галантарэйную фабрыку, а ён — на сваю работу.

* * *

Новы малады інжынер Мікалай Сурэвіч прыехаў на пабудову заводскіх карпусоў. Было ў яго, так сказаць, масавае спатканне з усімі старымі рабочымі. Помнік на заводскім двары паставілі ўжо без яго. Брат яго Казя Сурэвіч павёў яго паказаць помнік. Навокал сабраліся таварышы. Мікалай Сурэвіч расказаў:

...Свайго камандзіра я пазнаў як блізкага таварыша Уладзімера, можна сказаць, незадоўга перад тымі днямі, калі нас прыслалі сюды, пад гэты наш горад. Што мы з ім землякі, я яшчэ тады не ведаў. Уведаў гэта я толькі тады, калі ён канчаўся ад раны. Канчаўся ён не доўга, рана была вялікая, але ён яшчэ мог сказаць колькі слоў. Але сказаў не ўсё, што хацеў. Гэта я ўбачыў тады ж. Я ў тую хвіліну затрымаўся каля яго, бо незадоўга перад гэтым хтосьці сказаў, што наш камандзір нібы родам з гэтага горада. От я, значыцца, і спаткаў земляка, можна сказаць, дома і толькі цяпер пра гэта дазнаўся! Хоць сышоўся блізка такі даволі я з ім раней ужо, але што адзін горад нам абодвум нейкім чынам родны, мы тады яшчэ не ведалі. Паранены ў грудзі, ён кінуўся на зямлю тады, калі ўжо, можна сказаць, усё было скончана. Хоць яшчэ страляніна была, але ўжо лес быў як мае быць ахоплен кругом намі, і яны былі сагнаны ў адно месца, адкуль, пасля таго як Уладзімер сканаў, праз самы малы час некаторыя выходзілі здавацца. Уладзімер ляжаў, моцна сціснуўшы зубы. Я падбег да яго.

— Тут мая маці недзе,— ледзьве выгаварыў ён.

— Дзе? — запытаў я.

— Тут, у горадзе. І брат малы.

— А дзе іх знайсці, калі што? — запытаў я.

Але ён тут штосьці пачаў вельмі шпарка гаварыць. Гаворыць, гаворыць. Гэта ўжо была слабасць і першыя адзнакі смерці...

— А от і той брат яго Гурык, зялёненькі яшчэ фабзавучнік,— падцягнуў Казя Гурыка да Мікалая.

Гурык у першыя дні пасля пачатку сваёй вучобы часта цёрся з прывычкі на заводзе. Мікалай Сурэвіч пацісну Гурыку руку.

— Ён вас як успамінаў,— сказаў ён,— брат ваш Уладзімер, дык я шмат прачытаў тады быў у вачах яго. Ён тады ляжаў, памятаю, на беразе ядлаўцовых зарасні-

каў. Смерць яго адбылася на маіх вачах. Ён пралежаў, ужо нежывы, на тым самым месцы да вечара. Вечарам яго хацелі пахаваць, але ў блізкім лесе выявілася яшчэ астача незаўважанай дагэтуль банды. Так што яшчэ як мае быць спакою дзён два ці тры не было. Мы яго пахавалі назаўтра. Там брацкая магіла. Я тое месца цяпер як бачу перад вачыма: густа сыходзіцца ядловец і ручаіна цячэ. Ядловец над самаю ручаінаю...

# СЕМНАЦЦАЦЬ ГОД

## I

Увосень тысяча дзевяцьсот пятнаццатага года салдат расійскай арміі Пятро Тадаровіч быў лёгка ранены ў нагу: блізка ля яго разарваўся гарматны снарад. Нават ён спачатку думаў, што яму толькі дало ў ногі сухою зямлёю, а пасля, ачомаўшыся, агледзеўшыся, убачыў на левай назе, пад каленам, кроў. У тым месцы было холадна, кроў неўзабаве закарэла, і разарваныя нагавіцы прыліплі да раны. Пачало балець, але ён не спыніў работы: як і ўсе, ён акопваўся ў бясконцай першай лініі. Акопвацца — гэта ратавацца. Таму ён з усіх сіл налягаў на рыдлёўку. Ён з строя не выйшаў — нельга было гэта зрабіць. З строя выйшаў ён праз дзень, калі была ўжо ноч.

Першая расійская лінія пасля атакі акопвалася на новай пазіцыі. Германцы білі з гармат, напэўна, перад сваёю атакай. Атака гэтая можа быць уночы, а цяпер толькі што ўзышло сонца. Раптам германцам адказалі расійскія гарматы і ўжо не сціхалі ўвесь дзень. Салдаты праляжалі ў зямлі ўвесь гэты дзень і пачатак ночы, а пасля, не чакаючы германцаў, іх пагналі зноў у атаку. Пятро Тадаровіч наперад не рушыў, хоць і меў сілы гэта зрабіць. Ён ляжаў тварам на зямлі ў сваёй яме, ныючы ўсёю істотаю сваёю ад блізкасці грымучай смерці. Ён чуў, як папацёмку цераз яго прапаўзла наперад другая расійская лінія, а пасля і трэцяя, і пасля ўжо гэтага гэты блізкі шоргат больш не турбаваў яго спакою.

Узышоў месяц, лагчыны пачарнелі; вайна чулася ўжо толькі дзесьці далёка, а тут вельмі стала ціха. Ранены салдат мог цяпер смела стаяць або ісці. Адно, што ён не ведаў, куды яму падацца: падацца да санітараў, дык рана завельмі лёгкая, некалькі дзён пратрымаюць яго, а пасля зноў пхнуць на фронт. Даганяць фронт — гэта быў жах.

Ну, можна было пабыць там дзе-небудзь яшчэ дзень, ну два, а больш — салдат стаў бы ўжо дэзерцір. А за гэта жорстка пакараюць. І от у гэтыя хвіліны цяжкіх думак салдат паклыбаў па няроўным полі, сам не ведаючы куды, ён ішоў паўз пустую лінію акопаў. Месцамі гэтыя акопы былі зруйнаваны гарматным агнём: зямля з краёў паабсыпалася; бясформенная чарната была ў гэтых правалах. Ля адной з гэтых акопных руін салдат спыніўся: дзесьці далекавата ён пачуў чалавечыя галасы. Ён прыгледзеўся і пачаў заўважаць, як у некалькіх месцах пстрыкалі святлом электрычных ліхтарыкаў. Санітары забіралі раненых, ходзячы па полі. Салдат прысеў на краі акопа. Ці ісці да санітараў, ці што рабіць? У гэтую хвіліну яму хацелася, каб рана яго была большая, каб ён доўга мог праляжаць далёка ад вайны ў шпіталі, без думак, як бы кожную хвіліну ўратавацца ад смерці. Даволі было яму аднаму пабыць гэты малы час тут, на ціхім полі, у ціхую ноч, як тое пекла, што адышло кудысьці наперад, зноў паўстала перад ім з усёю сваёю сілай. А куды яна пайшла, вайна, салдат не ведаў і не хацеў ведаць. Нават думаць пра гэта яму было страшна.

Ён быў слабы, змучаны і бязвольны, гэты чалавек.

Так як прыгінаўся ён разам з усімі на першай лініі, пачуўшы, як нямецкі гарматны «чамадан» рэжа паветра, так і цяпер ён як бы прыгнуўся перад жалезнаю хадою падзей: усё робіцца само па сабе, незалежна ад яго, і яму толькі астаецца чакаць — можа і міне яго страшная навала; ну, або старацца быць далей ад усяго і бліжэй да самога сябе; сам сабе чалавек не вораг!

Сам сабе чалавек не вораг! Гэты салдат, што сядзеў цяпер перад чорным акопам, уночы, адзін, пад зорным небам, каб мог выразна запытацца сам у сябе пра гэта, не сказаў бы, дзе канчаецца ў чалавека вораг самому сабе і пачынаецца прыязнь. Ён, бадай, так сфармуляваў бы сваё разуменне свету: свет вялікі, і ў свеце незлічонасць усялякіх падзей і здарэнняў. Некаторыя з іх добрыя чалавеку, некаторыя варожыя. І кожны чалавек імкнецца ўнікнуць варожага, злога і мець дачыненне з добрым. А чалавечая дзейнасць? Чалавек стараецца дзейнічаць сабе на дабро; і гэтае дабро чалавек сабе зробіць, прыдбае, калі чалавеку пашанцуе. Гэтакі чалавек можа быць, напрыклад, багаты — ён не гаруе на свеце. Але найчасцей чалавека апаноўвае гора. Таму большасць людзей могуць рас-

цаніць жыццё як бесперапыннае і бясплённае змаганне з пакутамі. А што такое вайна? Вайна таксама ўваходзіць у той жалезны шэраг няшчасцяў, што адвеку ўсталяваны і час ад часу сыходзяць на чалавецтва, як сыходзяць голад, хвароба, смерць, і кожны чалавек ратуецца і трапечацца, як можа, жывучы на свеце. І от ён, Пятро Тадаровіч, цяпер жыве ў самай чорнай навале няшчасця. Калі ўсё жыццё яго было як змрок, у якім сягды-тагды высвечвалі зоры, дык цяпер ніякія зоры нідзе не свецяць. «Божа, выратуй мяне»,— прасілася ўся істота гэтага чалавека. Свет стаяў навокал яго, над ім і пад ім усім багаццем сваіх праяў; стаялі пад месяцам чорныя лясы, халадзіла чалавечае цела ціхім і радасным холадам зямля. Неба палавела, і на ім папялелі зоры, і на іх месцы высвечвалі новыя і ўсё тлелі і тлелі. Ішла няспынная плынь часу, цякла ў бездань без канца і пачатку. «Гэты свет і плачучы пераплачаш, а той — і скачучы не пераскочыш» — як грозная практыка асуджанасці, стаяла над чалавекам нявольнічная філасофія. Праўда, ні пра які «той свет» чалавек не думаў, але «гэты свет» увесь губляўся ў чорнай безнадзейнасці.

Дзесьці на ўсход сонца ад таго месца, дзе сядзеў цяпер салдат, неяк ліпела на свеце яго сям'я. Ён думаў пра дзяцей тады, калі адыходзіла ад яго няшчасце: вайна! Гэта было за ўвесь гэты час, калі даводзілася быць у тыле арміі або калі доўга цягнуўся спакой на самым фронце. У гэтакія ж дні, як гэты апошні, чалавек выходзіў з роўніцы ўсіх з'яў і адно сам сабе і ў сабе вырастаў як супрацьлегласць усяму, што толькі ёсць на свеце. Жывая істота прагла жыць!

Санітары з ліхтарыкам ішлі ў гэты бок паўз акопы. Яны падышлі зусім блізка і яны ўжо былі салдату як ворагі якія: яны яго вернуць у той жудасны свет, з якога ён нядаўна выйшаў. Не думаючы, салдат споўз у акоп, і санітары прайшлі паўз яго далей. Чуваць былі іхнія ціхія галасы, пасля за імі ціха і павольна прагрукалі колы, фыркнулі коні, і зноў усё стала ціха. Салдат у роспачы зноў заўважыў над сабою безнадзейныя зоры і халоднае неба. Ён выразна чуў, як штосьці дзесьці недалёка глуха шаравалася, як аб сухую зямлю, нешта ўсё паскрыпвала; пасля яму пачало здавацца, што нехта стараецца выгаварыць слова, а выходзіць усяго паўслова і ўсё шпаркім шэптам, хворым і нежывым. Салдат шмат чуў гэтага люд-

скога шэпту і шмат бачыў, як каналі людзі з гэтакім шэптам і енкам. І ён адразу пазнаў, што тут, дзесьці паблізу, блізка да смерці ранены.

Пятро Тадаровіч далёкі быў і заўсёды, а яшчэ больш цяпер, у гэтыя хвіліны, ад таго, каб да роспачы напінаць нервы і забывацца на тое, што над ім вісіць смерць. З такою думаю можна звыкнуцца, але ўсё адно чалавек звычайны тут не пераступіць мяжы, за якою пачалася б абыякавасць да свайго жыцця. Таму Пятро Тадаровіч лёгка прывык да смерці сотняў і тысяч людзей навокал сябе. Перадсмяротныя шэпты нейкага невядомага цяпер у акопе не здзівілі яго. Ён адно падаўся крыху глыбей, прылёг плячыма да спусцістай, разбуранай гарматамі акопнай сцяны і маўчаў так колькі хвілін. Чалавечы няясны, можа нават непрытомны, шэпт ішоў крыху зводдалеку. Раптам Пятро Тадаровіч пачаў заўважаць асобныя словы ў гэтым шэпце, выразна ён ужо чуў:

— Хто там? Хто там? Сюды. Сюды.

Пятро Тадаровіч, не думаючы лішку, падаўся ў цемень акопа. Яму дзіўна стала, што чалавек шаптаў не зусім ужо гэтак блізка ад яго, як яму раней здавалася. Яму прыйшлося ступіць акопам не менш, можа, як дваццаць пяць крокаў. Падышоўшы блізка, ён пачуў, што хтосьці шэпча, і не гэтак ужо непрытомна і слаба: можна было добра разбіраць і словы, адно што яны раней заглушаліся адлегласцю.

— Хто? Хто? — шаптаў хтосьці невядомы.

— Салдат,— сказаў Пятро Тадаровіч і на ўсялякі выпадак дадаў, падумаўшы: — Ранены ў нагу.

— Памажыце мне,— сказаў невядомы.— Я палкоўнік і ранены ў жывот.

Па-першае, гэта быў палкоўнік. Па-другое, ён гэтак маліў, прасіў. Значыцца, усё пераблыталася, ніякіх ранейшых устанаўленняў. І незвычайнасць найшла на гэтага радавога салдата, нявольніка, слаба раненага ў нагу, Пятра Тадаровіча. Без усялякіх чыноў, а так проста і разам з тым спелячы ў сабе пэўныя думкі, што пачалі ўжо набываць выразнасць, ён пачаў гаварыць з палкоўнікам.

— Што ж мне зрабіць, як памагчы?

— Вынесці мяне з акопа на гару, калі больш нічога не можаш. Тут акопы назаўсёды астануцца пустыя, ніхто сюды не загляне, і мне тут давядзецца кончыцца. На гары можа мяне заўважыць хто-небудзь. Калі ж можаш, заня-

гэтых нагавіц ніколі не вырасце. Наадварот, ён расце ўніз.

— Глядзі сябе, куды ты расцеш!

Весялоўскі пастараўся даканчыць сваё:

— Ён спадзяецца, што нейкі дзядзька гатуе яму недзе гатовенькае: прыйдзе і працягне ў руках: на, значыцца, грамадзянін Пархвіенка, от табе за прыгожыя вочы. Спажывай на здароўе!

— А можа ў яго дзе гэтакі дзядзька і ёсць,— падаў порсткі і вясёлы голас хтосьці немаведама ■ якога боку ў натоўпе.

— Дзядзька то ёсць,— пацвердзіў Весялоўскі,— але які! Такі, што сам стараецца, каб дзе зручна гатовыя нагавіцы з каго садраць. Тут адно пазяхні, вушы развесіўшы, дык адкуль гэтых дзядзькаў і набярэцца. Уг-га!

— Наляцяць гэтых дзядзькаў, як варання, і гэтак абдзяруць, як... усё адно...

Рома Даўгінскі, не лішне востры на слова, змоўк, прыдумліваючы патрэбнае тут слова. Пархвіенка аслабелым голасам абазваўся:

— Як што? Як што абдзяруць?.. Што гэта за дзядзька гэтакі ў тваёй галаве сядзіць?

— Што за дзядзька?! — ускінуў адразу галаву ўгару Рома, здаволены, што мінула патрэба ў нязнойдзеным слове,— унь поўная Еўропа гэтакіх дзядзькаў,— перайшоў ён адразу на сталы, аж хмурны тон.

— Дык ты мяне ў памагатыя гэтаму еўрапейскаму дзядзьку аддаеш? — шпарка заварушыўся раптам Пархвіенка.

— А што ж ты думаеш! — хапіла адразу некалькі галасоў.

І цяпер ужо галасы не змаўкалі. Цяпер ужо гаворка пачалася проста. Весялоўскі цяпер адно стаяў ціха, з сталым спакоем зноў закурваючы: ён сваё скончыў, ён пачаў, цяпер няхай канчаюць іншыя.

— А што ж, каму гэта ты спрыяеш?

— На чый гэта ты млын ваду льеш?

— Ты можа і сам не ведаеш, што ты нарабіў?

— Чаму не ведае! Ён добра ведае!

— Наўрад ці ён ведае!

— Што з таго, ведае ён ці не ведае. Яму гэтага і ведаць не трэба, тут само паказвае: за месяц восем дзён прагуляў; што больш яму трэба ведаць!

— Восем дзён?! Як жа гэта ён здаўмеўся гэтак? Гэта проста-такі талент!

— Талент, толькі ў другі бок талент! Тут што выйшла? Мадэльшчыкаў мала, а новых заказаў многа цяпер прываліла. Каб былі мадэлі — мы б усе адлілі. А то — хоць на свой нос фармуй, а самы лепшы майстар-мадэльшчык — цераз дзень — дый няма, цераз дзень — дый няма. От мадэлі і не гатовы, каторая пара. Вучні там гэтыя скраблі-скраблі...

— І мала што выскраблі...

— Бо ім яшчэ вучыцца трэба, а майстар Пархвіенка...

— А можа ён гэтыя дні ў загс хадзіў! Чалавеку гэта трэба.

Пархвіенка цяпер ужо нічога не гаварыў: усіх не перапрэш! Ён адно пляваў, раз-поразу даставаў з кішэні папяросы і, пацягнуўшы разы са два, кідаў і даставаў новую. Губы дрыжалі і зубы поўзалі па іх. Пасля, як не хапіла папярос, ён пачаў усё даставаць з кішэні насатку і смаркацца: чмыхне — і зноў схавае насатку, пасля раптам дастане — і зноў чмыхне. Аж камусьці не ўдалося змаўчаць:

— Ты глядзі, як раптам Сымону нос залажыла!

Тут Сымон Пархвіенка не вытрымаў. Ён яшчэ пастаяў з хвілін дзве пасля гэтага «носа», а пасля, не слухаючы больш словаў, жарцікаў, упікаў — раптам разгарнуў каля сябе рукамі натоўп, праўдзівей кажучы, развёў перад сабою рукамі і рынуўся ісці. Перад ім расступіліся і глядзелі яму ўслед. Аж пара з яго вярнула, так з-пад шапкі, з-за каўняра яна, здаецца, і перла слупамі. Твар то бялеў, то чырванеў.

— Цяпер, пасля лазні, Сымон, бялізну змяні! — гукнулі яму ўслед.

— Ціх-ха. Цяпер — ша! — моцным шэптам загадаў Весялоўскі.— Цяпер пра гэта яму ані слова ні сёння, ні заўтра, ні... Ш-ша!

Сымон Пархвіенка ішоў, як смяротнік, цераз увесь двор. Двор быў даўгі, і гэта, мусіць, было яму пакутай, бо ён з кожным крокам стараўся паддаць ходу. Ён чуў, што вочы натоўпу, як свярдлы, уядаюцца яму ў спіну. А як падышоў да брамы, проста-такі аж кінуўся ў яе, і ўжо яго не відаць стала. Людзі пайшлі таксама з двара, гэта ўсё была другая змена, а трэцяя змена стаяла ўжо на рабоце. Весялоўскі выйшаў пасля ўсіх. Па дарозе да

брамы ён прагным вокам акінуў новую табельшчыцу, пасля азірнуўся на яе. Але цяпер ужо не відаць было яе, дык ён, небарак, каб траха, дык уздыхнуў бы; узяў закурыў і пайшоў.

Назаўтра ён пільным вокам некалькі разоў кінуў у мадэльны: Пархвіенка стаяў крукам на рабоце. Як другая змена зменьвала першую, Пархвіенка закурыў на ганку, пастаяў і падаўся назад у цэх: ён адстояў і другую змену. Назаўтра было тое самае. На паслязаўтра — таксама. Ён гэтыя дні не гаварыў ні з кім ані слова. Загаварыў ён на пяты дзень, калі адмовіўся ад свайго выходнага дня.

У той час некаторыя цэхі, стараючыся знішчыць прарыў, адмовіліся адзінагалосна на дзве дэкады ад выходных дзён. Пархвіенка зрабіў тое самае, а з ім і ўсе мадэльшчыкі, пакуль не будуць скончаны мадэлі на новыя заказы. Такім парадкам склалася Пархвіенкава ўдарная брыгада. Гэта было ўвосень, а зімою Пархвіенку прэміявалі, сам Весялоўскі падаў за гэта голас.

# ВІНГЕЛЬ

Цяперашнія перадавыя ўдарнікі — Гімпалевіч з такарнага цэха і Весялоўскі са зборачнага цэха — летась пазналі былі раз старога знаёмага. Спатканне адбылося на тэрыторыі завода, на вузкім заводскім двары. Раўла сірэна. Вячэрняя змена заступала дзённую. Гімпалевіч і Весялоўскі, сышоўшыся ля фабкомаўскага ганка, рушылі ісці ў сталовую, а адтуль дадому. Раптам заўважылі як бы знаёмага чалавека ля шырозна адчыненых дзвярэй у ліцейны цэх. Чалавек быў танклявы крыху, сярэдніх год, даволі высокі. Закурадымленая кепка была нацягнена на лоб, і з-пад казырка пазіралі ясныя вочы на спрытны рух пальцаў з махорачнаю паперою: ён закурваў.

— Эгэ-гэ, бачыш? — штурхануў Весялоўскі Гімпалевіча.— Прыгледзься адно, ты нідзе не бачыў гэтага чалавека? І здаецца, ён тут новы, бо няўжо ж дагэтуль я не спаткаў бы яго тут дзе?

— Чаму не бачу,— адказаў Гімпалевіч,— нешта нейкае было ў мяне з ім... Чакай жа, хто ж гэта можа быць?!

Яны падышлі бліжэй, і Гімпалевіч, каб пачаць гаворку, працягнуў руку:

— Дай, таварыш, паперы, закурыць.

І ўжо ўсадзіў руку ў кішэню і набраў у тры пальцы махоркі, як той спакойна сказаў:

— Паперы? Калі ласка.

І сам стаў прыглядацца да Гімпалевіча. У гэты момант Гімпалевіч і Весялоўскі яго і пазналі. Пазналі з голасу.

— Вінгель? — сказалі яны абодва разам.

— Я і сам да вас прыглядаюся. Гімпалевіч? Весялоўскі?

Спакойна, без жаднага здзіўлення, ён працягнуў ім абодвум руку і стаяў з імі нядоўга: сірэна пакінула раўці, апошнія фармоўшчыкі выйшлі з ліцейнага цэха; там штосьці бляшанае забразгала, хтосьці моцна загаварыў...

— Ну дык я іду, браткі,— сказаў Вінгель і адразу пайшоў, сказаўшы толькі: — Дык гэта вы тут? Гэта старое месца ваша? Той самы даўнейшы Хукманаўскі завод, што тады гаварылі?..

— Але.

— А я тут нядаўна... Ну, іду.

Назаўтра, раніцою, чакаючы хвіліны заступаць на сваю змену, Весялоўскі ўспамінаў пра ўчарашняе спатканне. Успамінаў не таму, што ўсім хацелася вельмі пачуць пра Вінгеля — усе, хто слухаў яго, Вінгеля не ведалі, і яшчэ не было прычыны як-небудзь іначай ад усіх, адмыслова, уведаць яго. Весялоўскі гаварыў, так сказаць, дзеля свае прыемнасці, бо любіў ён успамінаць свае ранейшыя прыгоды; і такі пагаварыць часам любіў. А гаворыць ён удала, на язык востры, калі скажа слаўцо ды прыкажа, дык доўга будзеш памятаць, навылёт ён пройме цябе сваім словам. Здаецца, і словы тыя самыя, што і ва ўсіх нас, а калі ён гаворыць, скажам, пра стральбу, дык, здаецца, порахам навокал пахне.

Слухаючы яго ў тую раніцу, усе, хто сам валачыўся калі-небудзь з вінтоўкаю па лагчыністых дарогах і пудоўных узлесках, уявілі сабе, як жывы, той дзень, калі Весялоўскі і Гімпалевіч першы раз былі спаткаліся з Вінгелем.

«Невядома куды бегла сцежка — праз дубняк, праз асіннік, цераз ручаіну пад крушыннікам, цераз паўзлесную дарогу і зноў у лес — у дубняк, у асіннік... Ядловец астаўся на ўзлеску, крушыннік згусціўся над самаю ручаінаю. Драсён рос у самай чысцюсенькай вадзе. Страшэнная моц, як біла ў нос лесавая вільгаць. Пахла восень. Птушкі даганялі сонца. Бусел цындаўся па той бок лесу ля ядлоўца. Даўно пара яму вылецець! Сцежка вяла проста. Пад крушыннікам было ціхутка. На дубах спелі жалуды. Асінавы кусток тросся і лепятаў. Дробныя птушкі пстрыкалі навокал, грыбны водар цёк з зямлі, верасы цвілі скрозь над імхамі. Дробны каршачок плаваў над асіннікам, вавёрка імчалася цераз дубы. Лес маўчаў. Сонца жыло на яго вяршалінах...»

— От там мы гэтак і спаткалі яго, Вінгеля. Цяпер я вам гэтак расказваю ўсё і сам веру, што гэтак прыгожа было навокал. Але гэта я толькі цяпер успамінаю. А тады дык зуб на зуб у нас не пападаў з Гімпалевічам. Што ж, так сказаць, без аховы закона — смальнуў хто з-за куста, дастаў душу — дык яшчэ яму падзякуюць, што звёў з свету здрадніка «айчыне». (Весялоўскі з вобразным прыціскам сказаў апошняе слова.) Адным словам, мы з Гімпалевічам былі дэзерцірамі з царскай арміі. Гэта была апошняя восень перад рэвалюцыяй. Немцы растрэслі нашу часць, дык мы, прызнацца, не лішне і бедавалі. Немцы займалі мясцовасць шпарка, а мы ледзьве ногі валаклі. Няхай будзе што будзе,— падумалі мы і падаліся ціхом з шырокай дарогі ў гэтую сцежку. Я то яшчэ сяктак, а мой небарак Гімпалевіч дык проста, можна сказаць, канае ідучы. Гімпалевіч мой родам з Беластока, там яго сям'я, а Беласток даўно ўжо ў немцаў! От ён і адважыўся — хоць, кажа, у палоне буду, але на адной тэрыторыі з дзецьмі і жонкаю. Як мае быць наспела ў яго думка, як засмаліў быў яму ў вуха за нешта фельдфебель. А генерал трымаў прамову: «...кто убьет изменника отечеству, суду не подлежит!..» «Ну дык чорт жа тваю матару бяры з тваім «ацечаствам»,— сказаў Гімпалевіч і пацягнуў мяне за сабою. Самае важнае, каб як ціха фронт перайшоў. Апошнія дзён два дык нават ужо і гарматы пакінулі раўці, немцы ціхом па пятах смалілі і ўсё. Вінгеля мы ўбачылі ў самай гушчырні кустоў. Ён пераабуваўся. Мы як наткнуліся на яго, дык адразу сумеліся. Сядзіць сабе салдат і анучу на нагу накручвае, а навокал ціха сабе, як дома... Ну, але далей другім разам...

І Весялоўскі рушыў у свой цэх. А пасля ўсе дазналіся канец гэтага расказу.

Вінгель кінуў к чорту вінтоўку і назіркам ішоў дадому, таксама недзе пад Беласток. Яны ўтраіх шчасліва перасядзелі ў блізкім лесавым хутарку фронт, праседзелі пад руінамі, на папялішчы. А там — разышліся: Вінгель дадому, а Гімпалевіч пацягнуў ціхом Весялоўскага ў Беласток. Там іх і ўзялі ў лагер палонных, як былых вайскоўцаў. От пакуль што і ўсё, што пачулі ад Весялоўскага. Пасля, як пачала ўмацоўвацца сістэма спрэс усёй вытворчасці брыгадамі і як Вінгель на тым памятным сходзе быў увесь ажыў і ўстрапянуўся, Весялоўскі ўспомніў момант іхняга развітання з Вінгелем тады, у

Беласточчыне. Адзін момант астаўся ў памяці Весялоўскага і прыйшоў на памяць цяпер. Тады ўжо яны здружыліся з Вінгелем. І от калі развіталіся, Вінгель зачырванеўся ўвесь раптам, відаць, нейкае хваляванне працяла яго. І гэта было нечакана і Весялоўскаму і Гімпалевічу, бо дагэтуль ён быў маўклівы, нават пануры, найбольш усё згаджаўся і ніколі не спрачаўся, як бы хацеў, каб усё было ціха і добра. У яго была нейкая падатлівасць, мяккасць, своеасаблівая цікаўнасць да ўсяго, але вялікага ажыўлення тут не было. Ён павольна і ціха рабіў сваю справу — ішоў сабе, гаварыў, калі трэба было гаварыць, стаў за падарожнага таварыша, але не сказаць, каб льга было думаць, што ён надоўга пасля развітання пакіне ў памяці гэтае знаёмства. Гэтак думалі Гімпалевіч і Весялоўскі. Дзесьці ўсё глыбока схавана ў ім. Ад яго павявала заўсёды гэтакім роўным настроем, які гнаў ад сябе ўсялякае ўтрапенне. Можа таму гэтак і лёгка было з ім ісці ў гэтакія трывожныя хвіліны: ён заспакойваў і абнадзейваў... Дык на развітанне ён усхваляваўся:

— Вы ведаеце, браткі, от як усё адно ўжо няма чаго больш чакаць. Хоць не думай ні пра што, хоць на свеце не жыві! Цяпер куды іду? Можа чорту лысаму ў лапы! Можа на здзекі! Можа дзяцей дзе ўжо разарвала з гарматы, можа адно косці дзе асталіся! А можа, яшчэ горай, калекамі дзе асталіся! Можа галодныя сядзяць! А што я ім прынясу? І па што я сам іду? Нічога я за сабою не пакінуў, нічога і не знайду там, куды іду. Павошта іду? Па шчасце?! Куды мяне гналі? Што і каму адваёўваць я быў павінен? І за плячыма, і перад вачыма ўсё адно. Як на свеце і прытулку нашаму брату няма! Змалку быў як госць на свеце, гэтак і ўсё далей. Нехта за нешта ваюе, нехта нешта мае і мець будзе... Што гаварыць! Бывайце!

Ён аж пацалаваўся з таварышамі. І, ужо адыходзячы, успомніў:

— Вінтоўку кінуў. Можа дарэмна. Можа трэба было хоць штыхам каму грудзі пранізаць.

Весялоўскага цікнула. І ён сказаў адразу:

— Калі ты ўвесь час будзеш ля Беластока, дык будзеш бачыцца з намі; і вінтоўка яшчэ знойдзецца. Яшчэ ўсяго будзе.

І з запытаннем паглядзеў на Гімпалевіча. Той быў тут больш тубылец. Вінгель пайшоў. Ён меў недзе по-

блізу тут прыгарадную хату, нейкае капеечнае рамяство ў руках...

Гімпалевіч і Весялоўскі былі ў палоне аж да самага замірэння. Тым часам Вінгеля больш не спатыкалі. Не маглі знайсці нават і тады, як іх выпусцілі на волю.

Рэвалюцыя ішла шпарка. А пасля — польская вайна. Пасля вызвалення з палону ўжо Весялоўскі пацягнуў Гімпалевіча сюды, у свой горад, сам спяшаў на ранейшую работу ў свой зборачны цэх. Заводчыка Хукмана да гэтага часу як вадою змыла. Але завод неўзабаве зацягнуўся дрымотным жахам: з палавіна людзей пайшлі ваяваць з палякамі, з палавіна расцярусіліся недзе. Весялоўскі як вярнуўся з вайны, завод стаяў, як мярцвяк: палякі, адступаючы, паразбівалі яго. Весялоўскі, а пасля і Гімпалевіч, былі адны з першых, што ўзяліся разварушваць завод. Доўга яшчэ завод ледзьве дыхаў. Але год за годам... І от цяпер... Але цяперашняе пачалося, можна сказаць, з леташняга года. І нават не з леташняга, а крыху пазней, як пайшоў другі год пяцігодкі. Рабілі сабе на заводзе, рабілі; хто рабіў, а хто калупаўся; але на другі год пяцігодкі раптам дайшло да вушэй, як з грому: прарыў! І пайшло рваць страшнае слова. Нават не прарыў ужо гаварылі, а правал! Тут, праўда, крыху перабольшвалі, але гэта можа і добра. Слова, калі яно там дзе трэба і добра ўжыта, заўсёды падганяе людзей. Гэтак і тут. Усе заварушыліся. Ячэйкі, партыйная, камсамольская, фабкомаўцы, рэдактары цэхавых насценных газет... Спачатку, вядома, найбольш гаварылі, а пасля і за справу пачалі брацца. Завод у нас сярэдні, да двух тысяч рабочых не дацягвае, але Весялоўскі і Гімпалевіч доўгі час не бачылі тут Вінгеля. Ён, як пасля выявілася, працаваў ужо тут, да таго спаткання, месяцаў са тры. А пасля спаткання яны ўтраіх, старыя таварышы, часта пачалі бачыцца. Не было аніводнай хвіліны, каб Вінгель стаў калі падобны на самога сябе гэтакага, які быў тады, калі яны развітваліся на Беласточчыне. Ён быў ціхі, спакойны, гаварыў мала, нічому ніколі не дзівіўся, ціха рабіў сабе ў сваім ліцейным цэху — прыходзіў увечары заліваць формы. Гэтакі ён быў у тую хвіліну, калі яны ўбачылі яго першы раз у лесе пад крушыннікам. З гэтакай сталай пільнасцю ён тады пераабуваўся. І, здаецца, нічога ніколі не ўзварушыць яго, а тое хваляванне на развітанні было выпадкам. Ён расказаў, як тады, дома,

жыў сабе ціха, прыхоўваючыся ад немцаў, каб не папасціся ў палонныя, а пасля ваяваў з палякамі і, як скончылася вайна, застаўся тут і пачаў клапаціцца, каб сям'ю сваю дастаць сюды з-за новай мяжы. Сям'я, нарэшце, прыехала.

На рабочых сходах ён галасаваў за добрыя прапановы, сам нічога не прапанаваў, рабіў акуратна, работы абы-як і дзе не кідаў...

Раз на сходзе, пасля таго ўжо іхняга спаткання ля дзвярэй ліцейнага цэха, Весялоўскі даў прапанову працаваць тры пяцідзёнкі без выходных дзён, каб хутчэй расправіцца з прарывам. Хтосьці з камсамольцаў паправіў Весялоўскага — не тры пяцідзёнкі, а дзесяць пяцідзёнак! Сход падтрымаў. Гімпалевіч правёў гэта ў сваім цэху. Большасць згадзілася. Згадзіўся і Вінгель і працаваў, але здавалася, што гэта ён разам з усімі, каб не астацца. Хто яго ведае, што ў яго за думкі былі тады. Працавалі ўсе заўзята, час ішоў, неўзабаве канчаўся другі год пяцігодкі, прарыў паменшыўся, была надзея, што яго след зараз згладзіцца. Усё было апланавана, і вядома было, што да канца гаспадарчага года прамфінплан будзе даведзены да канца. Выйдзем без прарыву! І от некаторыя зноў пачалі калупацца, хоць гэтакіх усё ж, сказаць праўду, у нас цяпер стала менш. Тым часам і восень нахапілася. Новы год от зараз на завод награне! У нас рыхтаваліся да Дня ўдарніка. У тыя дні адбыўся вялікі агульны сход рабочых. Гэта проста была масавая вытворчая нарада. У тыя дні складаліся кантрольныя лічбы, самакрытычная мятла вымятала з самых цёмных кутоў усялякую шушамець. На новы год збіраліся новыя прапановы ад рабочых. Разгортвалася кампанія за кантрактацыю да канца пяцігодкі, шукалі лепшых сістэм у рабоце, блізіўся момант разгарнуць вытворчыя манеўры, заводская шматтыражка і насценгазеты смалілі па летунах. Да гэтага сходу камсамольскія ўдарныя брыгады рыхтаваліся загадзя, важна было, каб ініцыятыва ўсіх работнікаў завода пакінула ісці самапасам: увабраць яе ў сістэму, у планы! Пасля цэхавых абгаварэнняў было тут агульнае абгаварэнне сустрэчнага прамфінплана. Рабочыя падавалі свае лічбы норм вытворчасці, большыя за тыя, якія падавала адміністрацыя. Дык раптам падняўся на сваім ціхім дагэтуль месцы Вінгель. Весялоўскі і Гімпалевіч пасля расказвалі, як у першую хвіліну яны падумалі,

што гэта Вінгелю надакучыла сядзець тут на сходзе і ён збіраецца ісці, каб пасля згадзіцца з усімі пастановамі сходу і выконваць іх сумленна і цягавіта, без уласнай тут ініцыятывы. Што ж, гэтакі чалавек Вінгель! Але ён не пайшоў, а папрасіў слова. І гэта выйшла ў яго няспрытна з непрывычкі гаварыць перад вялікім натоўпам. А як пачаў гаварыць, нясмеласць яго пачала згладжвацца, пасля зусім прапала, толькі лілося з слоў і вачэй жаданне сказаць штосьці, што як бы ўсё не ўдавалася яму выказаць дагэтуль.

— ...Я вытворчыя манеўры разумею гэтак,— гаварыў ён, прыжмурваючы вочы,— што гэта — каб не спыняць іх праз нейкі малы ці нават можа вялікі час. Гэта не кампанія якая-небудзь. Гэта вам не тое, што адбыў і ўсё тут. А чаму? Таму што мы не летуны якія-небудзь, што сёння тут, а заўтра там, бегай, мяняй работу, лётай з канца ў канец!..

Было відаць, што ён нездаволены сваёю гаворкаю, што мацней і больш выразную думку ён стараецца выказаць. Ён вадзіў пальцамі па лбе, жмурыў вочы.

— ...Я скажу пра сябе. Я рабіў дагэтуль дрэнна. Не апошняя ж я тут спіца ў калясе! Я сваю норму выпрабляю, нават яшчэ больш. Але я сам ведаю, гэтага мала. І кожны лятун, нават прагульшчык часам можа сваю норму вырабіць. Я на якім грунце стаю тут?..

Зноў было відаць, што занадта слаба ён уладае словам, каб выказаць свае моцныя думкі.

— ...От калі я калісьці спаткаўся быў з Весялоўскім і Гімпалевічам у лесе, чорт ведае дзе, блізкі свет адсюль!.. Яны ведаюць... Дык чаго мяне дрэнчыла тады?.. Чаму мне тады было хоць тапіся?.. Яны ведаюць, могуць расказаць...

Весялоўскі і Гімпалевіч успомнілі тады, як Вінгель развітваўся з імі на Беласточчыне. Гэтаксама ён гаварыў тады: штосьці хацеў выказаць большае, вялікае, а толькі расхваляваўся і нарэшце, махнуўшы рукою, пацалаваўся і зачырванеўся ўвесь.

— Тады я чаго глядзеў, да чаго ішоў, чаго шукаў і за што ваяваў? Ні ўзад падацца, ні ўперад. Усё адно, як у моры шукаеш цвёрдай зямлі пад нагамі... Я гавару, таварышы, што я цяпер павінен стаяць за тое, што трымаю ў руках! Сам жа сябе я павінен бараніць ці не?!

Тут яго думку ўсе зразумелі. Хтосьці падказаў:

— Ну, адным словам, ты заклікаеш усіх да няспыннага ўдарніцтва.

— Але! Гэта і ёсць, па-мойму, тыя самыя вытворчыя манеўры. Гнаць і гнаць работу наперад, аж пакуль не будзе перадышка дзе-небудзь.

— Дзе-небудзь на першым паўстанку сацыялізма,— кінуў радасна хтосьці з камсамольцаў.

— Але, але!.. Таварышы,— падняў высока тут голас Вінгель,— я гавару от што: першае — заступаць змене пасля змены адразу, не спыняючы варстату, каб работа ішла кругла цэлы дзень. Другое — увесь цэх, скажам, разбіць хутчэй на ўдарныя брыгады, і кожная брыгада каб мела, скажам, сваю перадатачную брыгаду зверху, а гэтаксама і знізу. От, скажам, брыгада такарнага цэха мае сваю папярэднюю брыгаду ў ліцейным, а пасля ў зборачным...

— Перавесці завод на сістэму скразных брыгад!?

— Але! Я гэтак думаю. Бо калі ты ў брыгадзе, калі ты ўдарнік, дык гэта ўжо адно будзе падганяць цябе. Тваё сумленне не будзе даваць табе спакою.

Вінгель гаварыў пасля гэтага нядоўга. Ён неўзабаве зноў пачаў выяўляць нездаволенасць сам сваімі словамі і нарэшце сказаў некалькі слоў зноў пра ранейшае сваё блуканне ў пустэчы поўнага свету. Але гэта дзейнічала мо нават лепш за доўгія прамовы спрытнага прамоўцы. Яго разумелі ўсе. Ён сваёю прамоваю паддаў агню сходу. Пайшлі заявы пра закантрактаванне да канца пяцігодкі, пра надвышэнне лічбаў вытворчасці. Пайшло — пра новую сістэму (хоць яна і не была новаю, але была ў заняпадзе дагэтуль).

З Дня ўдарніка частка завода пачала выпрабоўваць новую сістэму. Вінгель склаў першую моцную гэтакую брыгаду ў сваім цэху. Ён проста-такі змяніўся. Стаў больш рухавы, але больш і пануры. Яшчэ менш стаў гаварыць. Ён гнаў работу неміласэрна. «Гэта не кампанія,— гаварыў ён,— гэта не кампанія!»

Яго брыгада і на манеўрах, і пасля іх ішла наперадзе.

# ЗЛАЧЫНЦА ПАКАРАНЫ

Зыгмунт Асядовіч чуў за гэтыя дні, бадзяючыся па вуліцах, звон у касцёлах, бачыў маршыроўку салдат, бляск рэлігійнай працэсіі з галоўнага касцёла... Усё туманілася ў галаве яго. Трэцяга дня ён яшчэ зарабіў злоты, памогшы дворніку вычысціць забруджанае сутарэнне. У той дзень дзеці яго паспыталі хлеба. А з таго дня ён нават і не бачыў іх: ён зусім не заходзіў дадому, нават на ноч, бо не мог глядзець у вочы галоднай сям'і. Ён мог прыйсці туды толькі тады, калі будзе што даць ім паесці. Яго страшна мучыла сумленне — нашто ён пусціў іх на свет, гэтых сваіх дзяцей? Урэшце ўжо і гэта пачуццё прытупілася, сцяжэла, сплыло кудысьці ў цёмную глыбіню сэрца. Як і ўсялякая іншая жывёла, дзеці яго карміліся цяпер нейкім зеллем (маці хадзіла за горад ірваць яго і варыла ў вадзе). Але ці доўга можа так пражыць чалавек?

Зыгмунт Асядовіч зноў, можа ўжо пяцьдзесяты раз, пайшоў да фабрыкі. Далей брамы яго не пусцілі. Дый чаго было старацца ісці туды: фабрыка ледзьве жыла. З дзвюх тысяч рабочых там цяпер асталося ўсяго каля двухсот. Чалавек дзесяць стаяла ля брамы.

— Назад нас на работу не прымуць,— сказаў адзін.— Няма чаго і думаць. Фабрыка зусім, кажуць, стане.

Другі чытаў газету. Ён вычытаў, што ў нейкім амерыканскіх штатаў урад абмежаваў фермераў сяўбою пшаніцы; больш, як ім вызначана, яны не мелі права сеяць.

— Чаму? — здзівіўся Зыгмунт Асядовіч.

— Бо там больш яе як трэба,— растлумачыў яго таварыш.— Летась там у моры наўмысля ўтапілі шмат пшаніцы.

«Дык там рай жыць,— горка падумаў Зыгмунт Асядовіч.— Там хоць не пакутуюць людзі з голаду».

— А унь бачыш? — паказаў таварыш пальцам на другі бок вуліцы.

Зыгмунт Асядовіч убачыў там тое, што бачыў кожны раз, як праходзіў тут: у піўніцы на акне было накладзена ўсяго, чаго толькі душа жадала. Бяры ідзі, купляй і еш.

— А за што я куплю! — выгукнуў Зыгмунт Асядовіч.

— Гэтаксама і ўсюды,— адказаў яго таварыш.— Гэтаксама там з тэй пшаніцаю.

Ён быў высокі, крыху пасівелы, гэты Асядовічаў таварыш. Ён цяпер стаяў нейк не гэтак, як заўсёды, калі бывала стапавіўся на работу і, спяваючы, вітаўся з Зыгмунтам Асядовічам. Ён як бы ўсё чакаў чаго цяпер ад усіх гэтых, што стаялі немаведама чаго ля фабрычнай брамы.

— Мы не таму пакутуем, што няма нічога, а таму, што ўсё багацце пазаграбала сабе кучка людзей...— загаварыў ён.

— Капіталістаў,— памог яму адзін.

— Гэты парадак можа толькі знішчыць рэвалюцыя,— гаварыў усё першы. І сказаў пасля сваё апошняе слова:— Сёння ўвечары мы ўсе павінны быць на дэманстрацыі беспрацоўных. Дэманстрацыю склікае камуністычны камітэт.

— А адкуль ты ведаеш?

— Я сам дачуўся ад выпадковага беспрацоўнага, мне знаёмага.

І ён шпарка пайшоў адгэтуль.

Зыгмунт Асядовіч яшчэ стаяў тут колькі хвілін, яму ўжо [не] было куды ісці, ды і хадзіць яму, галоднаму, змораnаму, было цяжка. Людзі з-пад фабрычнай брамы пачалі разыходзіцца, па некалькі чалавек, па адным. Зыгмунт Асядовіч пайшоў апошні. Ён ішоў, сам не ведаючы, куды, чаго і нашто, некалькі разоў ён спыняўся пасярод вуліцы, пакуль вуліцы былі ціхія. Увайшоўшы ў цэнтральныя вуліцы, ён не мог спыняцца: яго некалькі разоў перасцерагаў вулічны паліцыянт: рух тут быў вялікі. Страшная млосць хіліла яго да дрымоты, усё цела ныла ад голаду і слабасці.

Неўзабаве ён прайшоў паўз шпіталь «Божая міласэрнасць». Цьмянае жаданне хутчэй зваліцца з ног і каб яго паклалі ў шпіталь хоць на дзень — заварушылася ў ім. Але ў тую ж хвіліну яго апанаваў жудасны сум па дзецях, і ён ірвануўся, каб зноў ісці немаведама куды і шукаць немаведама чаго.

Раптам ён убачыў дзіва: проста прад ім, гэтак блізка

ад яго, з брамы вайсковай пякарні выехала вайсковая фура, паўнюткая хлеба. Хлеб, гэтак блізка ад яго! Ён не стрываў. Нічога ўжо не думаючы, ён падбег да фуры, хапіў хлеб і кінуўся бегчы.

— Стой! — загукаў яму наўздагон голас.

За фураю ішоў сержант таго самага артылерыйскага палка, да якога належала пякарня і фура з хлебам.

— Стой! — яшчэ раз гукнуў сержант.

Зыгмунт Асядовіч быў ужо далёка. Сержант ускінуў угару карабін, у момант прыцэліўся і стрэліў. Зыгмунт Асядовіч раптам пахіснуўся, прыпёрся на самы найкаравейшы момант да сцяны, але ўжо ў наступны момант ірвануўся бегчы зноў, усё не выпускаючы з левай рукі хлеба. Думкі яго цяпер сталі ясныя, як ніколі за ўвесь гэты час: хлеба дзецям! Хлеба сям'і! Хлеба сабе!

Гэтак бег ён праз шмат вуліц, тулячы да сябе хлеб. Следам за ім па тратуарах і бруку буйна капала кроў. Яна цякла з прастрэленай правай рукі. Вельмі можа быць, што з утрапення ён яшчэ не заўважыў свае раны. Чым больш бег ён, тым больш усё бегла за ім народу: людзі бачылі дзіўнага нейкага, утрапёнага чалавека з хлебам пад пахаю, што шпарка бег, з дзікім бляскам вачэй, і не заўважаў акрываўленай рукі. І цікаўцы кідаліся бегчы за ім. Ужо беглі два паліцыянты, вулічныя дзеці і натоўп дарослых. А ён усё паддаваў ходу.

Вельмі шпарка дабег ён да сваёй кватэры... Гэта была трухлявая прыстройка да не менш трухлявага дамка ў глыбіні двара. А з вуліцы ж засланяў гэтую спарахнеласць ніштаваты дом. Брама была адчынена, і Зыгмунт Асядовіч адразу дабег да сваёй кватэры. Але дабег ён ужо ледзьве. Ужо адчуваў ён і страшны ў руцэ боль, і прайшла ўжо тая нервовая ўзбуджанасць, што гэтак гнала яго вуліцамі.

Нейк няспрытна ён прысеў на калені ля самага парога, і дзіва, усе ягоныя рэчы: лаўка, два табурэты, стол, шафка і ложак — стаялі тут жа, перад парогам. Дзеці яго былі тут жа, адны, без маці.

— У таты хлеб! — загукалі дзеці.

Гэты дзіцячы крык зноў на момант ірвануў у бацькі ўсе жылы. Ён кінуў хлеб туды, дзе, як у тумане, варушыліся дзеці.

— А мама пайшла на могільнік,— радасна хапаючы хлеб, загаварыў большы хлопчык.

— Чаго ж яна пайшла на могільнік? — запытала ней-

кая жанчына, яшчэ не могучы разабрацца, што тут адбываецца.

— Мама там ірве... расце там... мама варыць...— пачаў заікацца хлопчык, запіхаючы ў рот хлеб.

— А чаму вы на двары? — пытала ўсё жанчына.

— Мы ўжо ад учарашняга дня.

— І начавалі тут?

— І начавалі тут, бо ўжо трэці месяц не плацілі за кватэру. Гаспадар нам дазволіў на двары пабыць...

— А дзе ж ваш бацька?

— А от тата! — віснулі раптам дзеці, бачачы, як бацька іхні качаецца па зямлі, стогнучы.

— У таты кроў! — загаласілі дзеці.

Тым часам паліцыянты разганялі натоўп. Не прайшло і пяці хвілін, як на двары ўжо было пуста.

— Калі матка прыйдзе? — пытаў паліцыянт у дзяцей.

— Яна казала, што доўга не забавіцца,— трасучыся ад страху, гаварылі дзеці, кідаючыся то да бацькі, то назад да таго ламачча, што было вынесена з кватэры на двор.

— Не вем цо робіць,— з момант стаяў паліцыянт. Пасля пабег да бліжэйшага тэлефона. Неўзабаве з шпіталя «Божая міласэрнасць» пад'ехала машына хуткай дапамогі, і паліцыянты памаглі шпітальнаму службоўцу палажыць у машыну Зыгмунта Асядовіча. Ён усё стараўся павярнуць галаву і сказаць штосьці дзецям. Але гэта яму не ўдалося: ён быў ужо гэтакі слабы, а яго гэтак шпарка клалі ў машыну, што ён мог толькі стагнаць.

Неўзабаве пачало змяркацца. На перадвячэрнім небе на захад, дзе неўзабаве павінна было заходзіць сонца, блішчалі чырванаватым колерам вежы галоўнага гарадскога касцёла — катэдры. Яшчэ праз колькі часу на званіцы гэтага касцёла даспяваў самотны звон. Гэта была кожпадзённая металёвая песня — адвітанне сонцу, дню. Дзень канчаўся.

Тым часам машына хуткай дапамогі яшчэ не даехала да шпіталя «Божая міласэрнасць». Перш за ўсё яна заехала яшчэ ў адно месца: забіралі нейкага хворага. Выявілася, што гэта была жанчына: яе занеслі ў выпадковы дом пасля таго, як яна рабіла спробу кінуцца пад трамвай. Паліцыя пытала яе дакументы (тэлефанавала на фабрыку), калі яе муж быў звольнены з фабрыкі і дзе ён цяпер: яна сама не магла гаварыць, гэтакая яна была аслабелая, перапалоханая і збянтэжаная.

Пасля машына хуткай дапамогі накіравалася ўжо

ў шпіталь. Ехала машына цераз пляц паўз касцёл. Якраз у гэты момант званіў звон на касцельнай вежы. Над касцёлам заходзіла сонца. З кантычкамі ў руках маліліся на касцельным каменным ганку некалькі жанчын. Старац стаяў на вуліцы з працягненаю рукою.

Касцёл стаяў на рагу пляца, на скрыжаванні вуліц. Раптам машына прымушана была спыніцца — хоць гэта і «хуткая дапамога» была, але і ёй не было як праехаць: густая калона людзей проста з вуліцы выходзіла на пляц. Шэрагі людзей займалі ўвесь брук, а ўглыб — аж пакуль не зварочвалася вуліца. Над галовамі людзей у калонах пакалыхваліся чырвоныя палотнішчы з надпісам «Хлеба галодным!», «Працы беспрацоўным!», «Дапамогі беспрацоўным!», «Няхай жыве камуністычная партыя!», «Прэч катаўскі ўрад!», «Няхай жыве пралетарская рэвалюцыя ў Польшчы і ва ўсім свеце!» Дзесьці ў сярэдзіне дэманстрацыі заспявалі «Інтэрнацыянал». Пасля спявала ўся вуліца. Выхад на супрацьлеглую вуліцу таксама зараз жа загарадзіўся новай калонаю людзей.

Шмат аўтамабіляў, трамвайных вагонаў, разам з імі і «хуткая дапамога» скапіліся на пляцы. Неўзабаве загаварыў прамову чалавек. Гэта быў рабочы. Хто стаяў у той дзень ля фабрычнай брамы, дзе гаварылі пра амерыканскую затопленую пшаніцу, бачылі, што гэта той самы, што тлумачыў Зыгмунту Асядовічу, чаму топяць пшаніцу ў моры, а навакол мільёны людзей мруць з голаду.

Цяпер, стоячы над калонамі людзей, чалавек здолеў сказаць моцныя словы пра задачы і патрэбы ўсіх тых, што сабраліся тут. Ён гаварыў хвілін пяць. Пасля чаго неўзаметку змяшаўся з натоўпам. На яго месца стаў другі.

Дэманстрацыя шырылася і расла. Неўзабаве яна пачала выстройвацца ў доўгія калоны і рушыла на галоўную вуліцу. Там войска і паліцыя перацялі ёй дарогу. Дэманстрацыя стала раставаць, разлівацца па вуліцах, зрабіўшы сваё. Чуваць былі стрэлы, і праз малы час некалькі «хуткіх дапамог» трашчалі маторамі па пляцах і вуліцах, забіраючы раненых дэманстрантаў — галодных, знядоленых людзей.

Зусім ужо было цёмна над касцёлам. Трамваі і машыны зноў замільгалі і загрымелі на вуліцах, як «хуткая дапамога» з Зыгмунтам Асядовічам прыехала да шпіталя «Божая міласэрнасць». Ужо як уязджалі ў шпітальны двор, ранены Зыгмунт Асядовіч пачаў стукаць здаровую

рукою ў шкляное акенца да шафёра. Яго стрымліваў шпітальны службовец. Шафёр зазірнуў у машыну.

— Вады, дайце ёй вады,— гукнуў аслабелым голасам Зыгмунт Асядовіч.

За шумам матора шафёр нічога не чуў, ды і, можна сказаць, яны прыехалі ўжо на месца. Першы выскачыў з машыны службовец. Ён загадаў зараз жа, не выносячы з машыны, клікаць да жанчыны доктара. Жанчына ляжала, як нежывая.

— Ад хворых нерваў,— прызнаў доктар.

— А што з дзецьмі? Што з дзецьмі? — не пакідаў гаварыць Зыгмунт Асядовіч.

Бінты з раненай рукі ссунуліся ўніз, ён гэтага не заўважыў.

— З якімі дзецьмі? — пытаў доктар.

— З маімі. Гэта маці іх! Гэта жонка мая! — паказаў ён на жанчыну.

Жанчыну выносілі ўжо з машыны. На шпітальным двары было цёмна, гарэла некалькі ліхтароў толькі над уваходамі ў будынак.

Праз паўгадзіны Зыгмунт Асядовіч ляжаў з нанава ўбінтаванаю рукою. Жанчыну панеслі ў жаночы пакой.

* * *

Жанчына выйшла з шпіталя раней за мужа. Ён выйшаў на два тыдні пазней за яе. Рука яго больш у лакці не згібалася, ён астаўся калекам назаўсёды.

Нават каб і мог ён дзе-небудзь знайсці работу, дык не можа з-за свайго калецтва стаць на яе. Але каб і мог ён стаць дзе-небудзь на работу, дык на фабрыку ўжо яго не прымуць: ён жа акалечаў з той прычыны, што краў казённае, дзяржаўнае дабро. Акалечаў ён таму, што не хацеў жыць сумленна і справядліва, а падаўся на злачынную, зладзейскую сцежку.

Адзін раз на касцельным пляцы зноў сыходзілася агульная гарадская камуністычная рабочая дэманстрацыя. Калоны дэманстрантаў выходзілі адначасна з усіх вуліц на пляц. Войска і паліцыя спешна выстройваліся ля касцёла, гатовыя кожную хвіліну даць залп у жывое мора людзей.

Адну з калон беспрацоўных вёў Зыгмунт Асядовіч.

# ТРУХЛЯВАЕ КОЛА

Адзін быў плячысты малады чалавек, Сцёпка Майсейчык, брыгадзір. Другі — чалавек сярэдніх год, Хвёдар Руцкі, актывіст каля брыгадзіра. Яны ўдвух увайшлі ў двор да Юзіка і пайшлі проста да пуні, бо дзверы ў пуні былі адчынены. Юзік стаяў на таку, быў без шапкі, і пасівелыя, нізка астрыжаныя валасы на яго галаве тырчалі віхрамі ва ўсе бакі.

— Што ты без шапкі стаіш? — пачаў гутарку Хвёдар Руцкі.

І паправіў ён на сваёй галаве круглую кепку з гузікам наверсе, пашытую з паласатых крамных старых нагавіц. Юзік не ўспеў адказаць, чаго ён стаіць без шапкі, бо Сцёпка Майсейчык адразу паведаміў:

— Мы, дзядзька Юзік, да цябе от чаго: ты як ішоў пазалетась у калгас, дык схаваў пару колаў і кавалак жалеза. Мы пра гэта ведаем.

Юзікаў твар выцягнуўся, зрабіўся шэры, стары.

— Калі ў мяне што ёсць, я аддам.

— Можа і больш што ёсць, паглядзі,— абазваўся дружацкім тонам Хвёдар Руцкі, мацнуўшы гузік на сваёй круглай кепцы.— Вясна на дварэ, сеяць трэба, спасць патрэбна, колы трэба, жалеза трэба...

— Ведаю, што трэба,— нецярпліва і смела ўжо абазваўся Юзік, і твар яго паяснеў.— Аддам, што калісьці быў схаваў. Схаваў, гэта праўда. Пазалетась. Толькі не два колы, а адно. І не новыя колы, як ты, Руцкі, кажаш (яму здалося, што Руцкі гаварыў пра новыя колы), а трухлявае кола без шыны. А кавалак жалеза — праўда: дышаль з даўнейшага плуга, у кузні ён запатрэбіцца. Куды занесці, на калгасны двор ці пад кузню? Я от зараз.

Сцёпа і Хвёдар зірнулі адзін адпаму ў вочы. Сцёпа зірнуў з нецярплівай панурасцю. («Патрэбна спасць, патрэбна жалеза, а хітры Юзік хлусіць, не аддае. Пачыпаецца цяганіна. Давядзецца браць яго за карак!») Хвёдар жа зірнуў на Сцёпу весела і самазадаволена. («Не казаў я, што хлусіць будзе?»)

— Дзядзька Юзік! — сказаў Сцёпа,— давайце зробім усё як мае быць, без хітрыкаў. Аддайце два колы і плуг. Мы ведаем. Два колы новыя, а плуг стары, на жалеза пойдзе.

— Адно трухлявае кола без шыпы і дышаль з плуга,— зазлаваў Юзік.— Вы мне не верыце? Ты мне не верыш? (Ён падступіў ужо да Хвёдара Руцкага.) Ты ж сам добра ведаеш, а брыдзіш тут мне светам!

— Чаго ты на мяне! Я прыйшоў з Сцёпам сказаць табе. А ты не гаворыш як чалавек...

— Ты прыйшоў сказаць! Можаш сабе гаварыць, але чаму мне не верыце!

Сцёпа сказаў:

— Занясі, дзядзька, жалеза пад кузню, а колы — на калгасны двор.

І яны ўдвух пайшлі. Хвёдар Руцкі некалькі разоў дакранаўся да гузіка на сваёй круглай паласатай кепцы.

Юзік бачыў з двара, куды яны пайшлі. Яны заходзілі ў некалькі хат, а пасля Хвёдар Руцкі пайшоў дадому, а Сцёпа пайшоў пад калгасную кузню. Неўзабаве явіўся туды і Юзік. Ён прынёс дышаль з старога плуга. Дышаль быў іржавы, але моцны і цяжкі. Здаровы быў кавалак жалеза.

— Не плуг, а дышаль? — усміхнуўся Сцёпа.

— Дзе ж я таго плуга вазьму. Мне не верыце. Ты адно добра папытай у Хвёдара, ён ведае гэты дышаль. Пазалетась ён яго бачыў, тады, калі я кідаў яго пад салому.

Каля кузні было некалькі чалавек. Яны абступілі Юзіка.

— Ты пад салому яго хаваў?

— Пад салому. Бо тады думаў гэтак: у калгас я іду. Іду па сваёй ахвоце. Але калі раптам што такое будзе на свеце, што калгаса не будзе, дык тады зноў прыйдзецца сваю гаспадарку набываць. Каня я ў калгас здаў. Драбіны (чатыры колы) таксама здаў. Плуг здаў. Барану здаў. Усё здаў, што было ў мяне на маёй аднаконнай гаспадарцы. Але як які чарвяк мяне тачыў: а што калі калгас век веч-

ны не будзе. Тады што? «Чорт яго ведае,— сказаў мне тады Хвёдар Руцкі,— год, два — і калгаса не будзе. Гэта не вечная выдумка». Я чалавек стары. Дык мне як хто мазгі зацямніў: а з чаго тады разжывацца пачнеш? Смех адзін з мяне выходзіў: як бы можна разжыцца з кавалка ржавага жалеза і трухлявага кола. Ну, таго кола дык, каб і даваў я, у калгас не ўзялі б,— на чорта яна, гэта ламачына! Гэта адно мне, старому дурню, рукі павярнуліся занесці гэта кола ў пуню і кінуць пад сцяну. (Яно магло б на дварэ два гады праляжаць.) От, сказаў я тады Хвёдару Руцкаму, дышаль з плуга і кола без шыны старое асталося ад мае гаспадаркі. «Няма гаспадаркі,— сказаў тады мне Хвёдар Руцкі,— нічога няма. Усе пагінем». Я бо гляджу, што ён, гэты самы Хвёдар Руцкі, тады адразу палез у конюхі, калгасныя коні карміў і сабе авёс цягаў.

— Як цягаў! — устрасянуўся Сцёпа.

— А чым ён свіння карміў! Па трое на год, здаецца, калоў, усе гэтыя гады. Пакуль быў за конюха.

— А факт?

— Факт? Я яшчэ летась заяўляў, што Руцкі ідзе ўвечары, бывала, з стайні няйначай як агародамі. Вуліцаю не ідзе, і кожны раз у мяшэчку нешта нясе. Не заяўляў? А мне што сказалі? Мне сказалі, што трэба гаварыць толькі тады, калі ўбачыў, што ў яго ў мяшку. Руцкі тады злаваў, крычаў на ўвесь сход, што яго за злодзея маюць, а гэта ён мае прывычку вопратку сваю класці ў мяшок і несці дадому. Дзеля прыклёпу старое калгаснае кіраўніцтва тады паглядзела ў яго, нічога не знайшло. Фактаў няма! Тады ён на мяне ў суд за знявагу хацеў падаваць. Дык я і зубы сцяў. Дзе я таго факта вазьму! Я адно бачу, што ў Руцкага свіння корміцца лепш як у каго. І карова яго сыцейшая. І ў калгасным кіраўніцтве ён свой чалавек — заўсёды трэцца там. А як жа! Ён жа актывіст!

— Актывіст! — засмяяўся хтосьці з людзей.

— Актывіст на чужы карак! Ты ж сам належыш да калгасаўскіх кіраўнічых, калі цябе зрабілі за брыгадзіра. Ну, можа ты чалавек новы, ты не прыгледзеўся можа яшчэ, але і каля цябе ўжо Руцкі за актывіста зрабіўся. Новыя людзі змяніліся, а Руцкі астаўся на месцы.

— На якім месцы? Ён даўно ўжо не конюх.

— Не конюх, дык актывіст. Руцкага дык усе маюць за актывіста, а я дык не актывіст? Паглядзімо, у каго больш працадзён, у мяне ці ў яго?

— Я чалавек новы,— сказаў Сцёпа,— я не глядзеў, колькі ў каго працадзён было.

— Дык паглядзі. За ўвесь год я ніводнага рабочага дня ў калгасе не прапусціў. І часта за адзін дзень аж да двух працадзён даганяў! Як летась жыта трэба было прыбіраць, дык не я першы ўночы пайшоў жыта вазіць? Каб не я першы...

— Гэта праўда,— загулі галасы.

— Дык на мяне ніхто і слова не скажа, што я актывіст. А Руцкі — дык на воку ва ўсіх, усюды трэцца, усюды парады дае. Дык пра яго ўсе ведаюць!

— Казалі,— сказаў Сцёпа,— што працаднёў у яго таксама нямала. А параду ён разумную падаў: сабраць старое жалеза па дварах, бо ў кузні яго не хапае.

— Гэта не ён сказаў, а я! — закрычаў раптам Юзік і аж кулакі сціснуў.

— Ад яго чулі. Я не ведаю.

— А як жа, заўсёды ад яго чулі! Пазаўчора стаялі на вуліцы. Каваль кажа, што жалеза няма, а я кажу, што па дварах старое ламачча пазбіраць. Руцкі як пачуў, дык адразу і падаўся ў калгасную кантору. Пазаўчора, як быў абед, гаварыў ён пра гэта?

— Пазаўчора.

— Дык гэта я сказаў, а не ён.

— І сказаў ён, што ў мяне схаваны два колы новыя і плуг. Пазалетась ён сам паддаваў мне ахвоты хаваць усё, што ў калгас яшчэ не пайшло. Старое кола і дышаль гэты і не пайшлі ў калгас. От ён, гэты дышаль, каб ён згарэў!

— Жалеза не гарыць,— засмяяліся ў натоўпе.

— А ён цяпер нагаварвае на ўсіх, стараецца, рупнасць паказвае. А як жа, актывісту так і трэба! А пра яго працадні, дык — адзін на полі робіць, а ён у халадку, бывала, агінаецца.

— У якім халадку?

— Два вуллі калгасных пчол ёсць. Дык канешне бо Руцкаму трэба даглядаць іх! Колькі з двух вуллёў можа раёў вылецець? А ён з паўлета ўсё каля гэтых пчол цёрся — я, кажа, калгасных пчол даглядаю! І даглядае сабе! Пчолкі гудуць пад вішняю, а пад яблынькаю Хвёдар Руцкі храпе на ўсе застаўкі. Перачакае дзень, а ўвечары яму працадзень запішуць. І кожны дзень усё трэцца каля калгаснай канторы, у сельсавеце, дзе што якое ў раён трэба да начальства, Руцкі туды ўхітрыцца паехаць: усюды яго

ведаюць, усюды чуюць ад яго пра калгас, пра работу. Усіх абдурвае... Два колы ў мяне? Хадзем, сам іх не панясу, хадзем раней пакажу, дзе яны схаваны, тады панясу, бо мне ж ніхто не верыць. Як жа мне верыць, калі я адно пры рабоце стаю, а каля начальства не труся. Хто мяне ведае! Мяне ж цяпер за тое, што я схаваў два колы, самае меншае, трэба з калгаса выкінуць! Хадзем! Хадзем да мяне!

Ён пацягнуў усіх да сябе. Ісці было недалёка. Ён павёў усіх у пуню.

— Вось тут ляжаў гэты дышаль, каб ён згарэў! — ткнуў ён пальцам у адзін кут.— А вось тыя два колы.

Ён паказаў у другі кут. Там, заседжанае курамі, ляжала кола без шыны, трухлявае, обад быў не цэлы: дзве спіцы тырчалі без обада. Што было добрае ў гэтым коле, дык гэта хіба толькі адна букса.

— Букса яшчэ моцная, праўда,— кпліва сказаў Юзік.— Цяпер гэтыя два колы занясу. А вы, пакуль я прыйду, пературасеце ў мяне ўсё, можа яшчэ штук пяць колаў знойдзеце.

— Чаму ж ты дагэтуль маўчаў, што Руцкі гэткі? — сказаў Сцёпа.

— Чаму маўчаў? Я гаварыў некалі, мне не паверылі.

— Тое калгаснае кіраўніцтва даўно пад суд папала.

— Ведаю.

— А ты маўчыш пра Руцкага.

— Не, я не маўчу. Мала я вам гаварыў?

— А каб не прыйшлі да цябе, дык маўчаў бы!

— А можа і маўчаў бы! Мне ў душу калола ўвесь час зноў загаварыць пра яго. І загаварыць іначай.

— Праўда,— абазваліся галасы.— Праўда.

— І загавару! І загавару. Зараз пайду і ўсюды скажу. Мне душу коле сказаць! У душу коле! Я пайду, і ты са мною пойдзеш! — Юзік глянуў на Сцёпу.— Хіба табе ў брыгадзе патрэбен гэткі актывіст? На чорта ён табе. Мне ў душу коле, што я ў другі раз пра яго не загаварыў да сённяшняга дня. Збірайся ўсё. Непаваротлівасць гэтая мая!

— Непаваротлівасць гэтая і губіць,— сказаў хтосьці з людзей.

— Дык несці кола ці не? — кпліва сказаў Юзік.

— На чорта яно! — адказаў Сцёпа.

— Хадзем да старшыні,— сказаў Юзік.— Ён чалавек

новы. Я яму раскажу, хто актывіст, а хто — скула пад бокам.

— Старшыня сам ужо да Руцкага прыглядацца пачаў. Учора проста пагнаў з канторы. Чаго ты, кажа, тут трэшся, а работы не робіш,— пачуўся голас.— Ужо гаварылі некаторыя пра Руцкага.

— Хадзем,— ірвануўся Юзік ісці.— І я яшчэ скажу.

# БРЫГАДЗІРАВА ПАМЫЛКА

## I

Самая гаваркая ў гурце была Волечка — бялявая малая жанчынка. Яна спявала, гаварыла, заўсёды звінела на ўсё поле і на ўсю вуліцу. Цяпер, ідучы з поля, яна ўсё жартавала з жылатварага маладога мужчыны Ёсіфа Катлубайскага. Жартавала наконт таго, што ён сумысля сёння ўсё стараецца трымацца бліжэй да яе, бо ці не думае адбіць яе ад мужа? Сам пануры Ёсіф Катлубайскі ўцягнуўся за дарогу ў жарты, сам пачаў жартаваць. Такая ўжо ёсць густаваласая Волечка: любіць смяяцца і жартаваць. За ўсімі следам клыбаў высокі і тонкі стары — дзядзька Гельскі.

— А дзе, кажаш, будуць дзяліць мануфактуру? — пытаў ён ужо нешта шосты раз Ёсіфа Катлубайскага.

Але той з-за Волечкі не мог адказаць.

Як прыйшлі з работы, сабраліся ўсе ў свайго брыгадзіра Косціка Раўтовіча, каб падзяліць мануфактуру. Мануфактуру гэтую кааперацыя адпусціла на ўсю брыгаду. Яе было гэтулькі, што ўсім прыйшлося па кавалку і яшчэ асталася адна хустка, добрая, вялікая, з жаўтаватага паркалю і ў кветкі.

Неяк гэтак выйшла, што не прыйшлося нічога з гэтай мануфактуры адной толькі жанчыне, Марылі. Праўда, яна апошнія дзён шэсць не хадзіла разам з усімі жаць жыта, але не таму, што не хацела, а таму, што ёй даручылі варыць есці дзецям у яслях. Можна сказаць, не то што даручылі, а проста-такі ўпрасілі, бо яна доўга не хацела становіцца на гэтую работу. Гэта трэба заўважыць, бо пра гэта цяпер, увечары, у Косцікавым двары такая пачалася гарачая гаворка, што кончылася яна слязьмі і спрэчкаю.

Сам розум дыктаваў даць гэтую паркалёвую хустку Марылі: ёй не прыйшлося мануфактуры, а хустка гэтая аставалася. І кожны гэтак думаў. Усё так ішлося, што

адразу гэтак і зрабіць трэба было, аднак жа гэтага не зрабілі.

Мануфактуру дзялілі паміж сабой, вядома, тыя, што працавалі ў брыгадзе. Праца была цяпер цяжкая. Жанкі жалі сярпамі жыта, а мужчыны дакошвалі кулістую сенажаць. Сярпамі жалі жыта не таму, што ў калгасе не было жняярак. Дзве жняяркі, простыя, і снопавязалка жалі ў іншым палетку. А сярпамі жалі там, дзе быў засаджан сад. Маладыя яблынькі адно самымі вяршкамі выглядалі паверх жыта. Пусціць туды жняярку — значыцца зглуміць сад і жняярку сапсаваць: шчэпы былі паабгароджваны калкамі.

Работа жанкам на жніве была цяжкая. Дык з-за гэтага і пайшоў гармідар.

— Што будзем рабіць з хусткаю? — падаў голас брыгадзір Косцік Раўтовіч, калі падзялілі мануфактуру.

Бачачы, што ўсе маўчаць, ён падказаў сваёй брыгадзе, куды павярнуць гэтую хустку.

— Што будзем рабіць з Марыляю? — сказаў ён.

Тады абазвалася з свайго месца маленькая жанчына Волечка:

— Даць Марылі гэтую хустку.

— Даць, даць! — пачулася некалькі галасоў.

Косцік ужо ўзяў хустку з табурэта, што стаяў пасярод двара і на якім мералі мануфактуру, і хацеў ужо даць яе Марылі. Але Марылі ён перад сабою не бачыў.

— Марыля,— сказаў ён,— бяры хустку.

— Марылі няма,— адказаў хтосьці.

— А дзе ж яна?

— Яна з самага пачатку, як толькі пачалі дзяліць, пайшла дадому: там яна адно дзіця пакінула. Яна мне сказала, каб я ўзяла яе частку і занесла ёй. Давайце сюды хустку,— гэта сказала Волечка, і ўсе глянулі на яе.

— А-а, якраз і няма яе,— сказаў Косцік, рушыўшы да Волечкі, каб перадаць ёй хустку.

— Узяла б дзіця на рукі і прыйшла б сама,— пачуўся раптам бурклівы голас.

Гэта сказаў дзядзька Гельскі. Ён заўсёды і пра ўсё гаварыў гэткім тонам — ці рад чаму, ці не рад, тон яго заўсёды аднолькавы, бурклівы. Раз, напрыклад, ён убачыў, як араты спыніў коні і адвярнуўся ад ветру прыкурыць папяросу. Левы конь за гэтую паўхвіліну паспеў ублытацца ў пастронкі. «Каб на табе, хлопча, шэрсць курэла з

тваім курывам разам,— сказаў дзядзька Гельскі,— бачыш, конь ублытаўся?.. Кураць, смокчуць без канца і без меры! У цябе ўжо, мусіць, у вантробах, як у коміне. Усё пракурана!» — і сказаўшы гэта, дзядзька Гельскі здорава пыхнуў махорачным дымам з вішнёвага папяросніка. Другі раз было гэтак: хтосьці прынёс на сенажаць біклагу вельмі добрага хлебнага квасу. Дык і дзядзька Гельскі такі ніштавата пацягнуў з біклагі разам з усімі. Ужо як падменчваў касу, прабурчаў сабе пад нос: «От каб квасу, канечне! А вады з-пад гнілое купіны не хочаш?»

Дык і цяпер гэтаксама прабурчэў ён пра Марылю, што яна, не дачакаўшыся канца дзяльбы, пайшла дадому.

— Я ж кажу, што я ёй занясу хустку,— яшчэ раз сказала Волечка.

— Занясі, занясі,— бацькаўскім тонам сказаў Гельскі.

Дык тут і пачалася гаворка. Перш за ўсё падаўся крыху наперад Ёсіф Катлубайскі. Ён падаўся наперад гэтулькі, каб яго добра заўважыў сам брыгадзір Косцік Раўтовіч. Але і не на гэтулькі ён вылез наперад, каб вельмі аддзяліцца ад натоўпу. Усё было зроблена неўзаметку і ў меру.

— Даць гэтую хустку Косцікавай Галене.

Гэта значыцца — Косцікавай жонцы. А гэтая Косцікава Галена нешта ўжо блізка месяца на работу не хадзіла. Сама яна стаяла цяпер тут жа.

Волечка ад гэтых слоў уся ўстрапянулася, але ў справу спачатку не ўмяшалася, не думаючы, каб справа сапраўды павярнулася ў гэтакі бок. І без яе тут абыдзецца, а сказаць што-небудзь супроць Галены таксама нядобра, бо заўсёды ж яны жылі як блізкія таварышкі.

Бачачы ж, што ўсе на момант прыціхлі, яна сказала гэтак, каб не пакрыўдзіць Галены:

— Чаму гэта не даваць хусткі Марылі?

Ёсіф Катлубайскі ўставіў вочы сабе ў боты і ўпарта буркнуў:

— Каб ёй патрэбна была гэтая хустка, яна была б тут.

— У яе дзіцё малое.

— Магла б узяць дзіцё на рукі і прыйсці сюды.

— Як жа гэта будзе, усім што-небудзь прыйшлося, а Марылі нічога?

— Эт, усе на полі робяць да сёмага поту, а ёй там дзецям есці наварыць — невялікая работа. Яшчэ і сваіх дзяцей там лепш прыкорміць.

Тут і пачалася спрэчка. З аднаго боку, дзе задавала тон Волечка, крычалі:

— Яна не хацела ісці ў яслі! Яна лепш бы ахвотная была разам з усімі на полі.

— А есці варыць дык гэта не работа? Яна раней за цябе ўстае зранку: пакуль збярэ з чаго варыць!

— Тут не ідзе гаворка пра гэтае варыва, а пра Марылю. А яна нават лепш за ўсіх рабіла. Яна, як рабіла на полі, дык больш за ўсіх работу гнала.

На гэта не было чаго сказаць, дык з таго боку, дзе задаваў тон Ёсіф Катлубайскі, адно чуваць было раз-пораз:

— Ат, цацка вялікая — паркалёвая хустка! Гэтулькі крыку з-за няма чаго. Шкада, каб хустку ўзяла Галена! От бо народ! Бяры, бяры, Галена, хустку!

Нарэшце ўжо справа павярнулася гэтак, што важна было не тое, што Марылі не прыйдзецца хустка, а тое, як гэта Галена возьме хустку, калі яна на поле не ходзіць рабіць, тады калі ўсе, што дзялілі мануфактуру, робяць дзень пры дні на полі.

— Вазьму хустку,— апраўдвалася Галена,— а пасля ўсе гаварыць будуць, што калі жонка брыгадзіра, дык і хустку ўзяла.

— А брыгадзіравай жонцы хусткі не трэба, ці што? — рубам паставіў справу Ёсіф Катлубайскі, і косці ў ягоных скіўіцах заварушыліся.— Бяры, бяры, Галена, хустку.

Галеніны вочы проста-такі гарэлі, як кідала яна позіркі на хустку, ёй вельмі хацелася гэтую хустку ўзяць.

— Ліха ведае, што рабіць? — гаварыў адно раз-пораз збянтэжаны Косцік.— Не хачу я гэтае хусткі. Пасля адно крыўды не абярэшся.

І ён паклаў хустку на табурэт.

— Бяры, бяры, Галена, бяры! — крычаў усё Ёсіф Катлубайскі.

Але Галена чакала, каб ёй хто даў гэтую хустку ў рукі.

— А як жа Марыля будзе? — крычала Волечка. А пасля страсянула кулакамі: — Галена, не бяры хусткі!

Хустка ўсё ляжала на табурэце. Ніхто яе не чапаў. Усе пакрысе адступаліся ад табурэта. Нарэшце, па аднаму пачалі разыходзіцца, бо было позна, даўно змеркла, і толькі захад яшчэ ўсё ружавеў. Так усе і разышліся. Волечка ішла дадому, крычучы сваім:

— Катлубайскі думае, што калі Косцік брыгадзір, дык

ужо і начальнік. Мы ж яго самі выбралі за брыгадзіра. Гэта ж гэтак падлізвацца к Косціку! От чалавек! Падлізваецца! Падхлебнік нейкі, а не чалавек!

Усе ведалі, што гэта і сапраўды так. Таксама ведалі, што няма ніякай патрэбы Ёсіфу Катлубайскаму падлізвацца да Косціка Раўтовіча.

Але раз хустка ўжо асталася на двары, а кожны сваё атрымаў, а тым часам позна было, а заўтра, ледзь дзень нахопіцца, уставаць трэба будзе, дык усе разыходзіліся, пачынаючы ўжо гаварыць пра сваю кожнадзённую работу. Адна толькі Волечка ўсё гаварыла пра «падхлебніка Ёсіфа Катлубайскага», а як адышлася далей, дык загаварыла і пра Галену.

— Скваплая якая! Няма, каб сказала, што не трэба мне, значыцца, гэткае хусткі, дык не — каб самой глынуць.

Неўзабаве ўсе разышліся, толькі некалькі мужчын і хлапцоў спынілася на вуліцы закурваць на адыходак. І от яны ўбачылі, як Косцік з вельмі гаспадарлівым і заклапочаным выглядам прайшоў паўз іх да калгаснага двара з метроўкаю (меркаю) на плячы. Гэтаю метроўкаю ён цэлы той дзень мераў палеткі: разбіваў аратым дзялянкі і правяраў скошаныя сенажаці.

Так гэта было ці не так, але некаторым здалося, што Косцік гэта сумысля і без патрэбы пайшоў гэткі заклапочаны на калгасны двор, каб паказаць, што ён вельмі многа стараецца, многа мае клопату. А значыцца, няма вялікае ў тым бяды, калі жонка яго ўзяла хустку. Так падумалі людзі. І ўзбіў людзей на гэтую думку дзядзька Гельскі.

— Узяла Галена хустку ці не? — сказаў паціху хтосьці.

Усе адступілі пад Косцікавую хату. У хаце гарэла газовачка. Яна ледзьве асвятляла гэтую старую, трухлявую, як склеп, хацінку. Малюсенькае люстэрачка вісела ў ёй на сцяне, і Галена стаяла перад ім у той самай хустцы на галаве, углядаючыся, ці да твару ёй гэтая хустка.

Убачыўшы гэта, усе і разышліся. І пра ўсё гэта назаўтра забыліся.

Не забылася толькі адна Волечка. Ёй не давала спакою гэтакая няпраўда.

## II

Папоўдні было на вуліцы пуста. Спёка стаяла ў паветры. Сонныя вароны відны былі на жардзяных загарадзях ля паплавоў.

Ля самай старой хаты ў вёсцы была прытульная мясціна: хата стаяла крыху ў глыб двара, і перад ёю раслі клёны і каштаны... На прызбе, у халадку, і сядзеў цяпер дзядзька Гельскі. Шырока, але няцвёрда (нездаровілася яму гэтыя дні) паставіўшы ногі на зямлю, ён, здавалася, урос у гэтую прызбу. Саломінкаю ён калупаў зубы.

Неўзабаве выйшаў з хаты сам гаспадар, мажны чалавек з вусамі — Пракоп.

— Хутка трэба ісці,— сказаў ён.

— Пойдзем зараз,— адказаў Гельскі.

— Сёння бадай-што мы гэтае сена і высушым.

— Можа быць.

— У мяне зуб у граблях зламаўся. Дык ты пасядзі тут, а я пайду зуб гэты ўставіць; і тады пойдзем.

— Ідзі ўстаў, а тады пойдзеш.

— Я марудзіць не буду. Я от зараз. Яшчэ не позна, яшчэ ніхто нават і снапы вязаць не ішоў пасля абеду.

Гельскі астаўся адзін. Неўзабаве падышла да яго калгасніца Рыва.

— Ішлі ўжо жанкі снапы вязаць? — запытала яна.

— Уг-га,— заспяваў Гельскі,— даўно пайшлі.

— Не можа быць! — перапалохалася жанчына.

— От табе і не можа быць,— холадна прабубніў Гельскі.

— У каторы ж яны палетак пайшлі? — аж калацілася жанчына.

Гельскі спачатку яшчэ памучыў: ён спакойна калупнуў зубы, пачухаў за каўняром і дастаў тытунь з кішэні. Пасля ўжо даў адказ:

— Не ведаю, галубка, у які яны палетак пайшлі.

І твар яго быў спакойны, нічога на гэтым холадзе ў гэты момант не адлюстравалася.

— У які ж палетак бегчы?

— А што я, галубка, ведаю!

Жанчына пабегла. Гельскі курыў і калупаў у зубах. Пракоп выйшаў з граблямі.

— Пойдзем? — сказаў Пракоп.

— У цябе, здаецца, квас добры, вынесі з паўкварты.

Пракоп вярнуўся ў хату вынесці Гельскаму квасу.

Увечары, як варочаліся з сена, Гельскі яшчэ зайшоў да Пракопа выпіць квасу. Пракоп, пакінуўшы яго аднаго ў хаце (жанкі з поля яшчэ не прыйшлі), выйшаў у сенцы

цадзіць з кадушкі квас. Сеўшы на карачкі пад кадушкай, ён злаваў потайкам:

— Каб цябе халера, гэтага чалавека. Сам не можа квасу паставіць. Няма, кажа, посуду гэткага, каб квас ставіць. Каб ты гэтак жыў, як у цябе няма посуду! Яшчэ старасвецкіх кадушак поўна прыгрэбка. Каб ты смалы напіўся!

— Ты квасу камусьці шкадуеш? — абазвалася жонка, стоячы ў дзвярах. (Яна ўвайшла і чула Пракопа.)

— Не шкадую, а сабачае хцівасці цярпець не магу.

У хаце Гельскі піў квас і ўсё гаварыў, што няма часу сабраць рассыпаную кадушку, каб паставіць квасу. Пракоп нічога не адказваў: натура ў яго гэткая, што любіць ён, каб усё добра і ціха было, вылаяць чалавека ў вочы не можа: цяжка яму і словам зняважыць чалавека.

Гельскі даў дабранач і пайшоў дадому. У хаце зусім ужо было цёмна, мухі ледзьве гулі, усаджваючыся на сталі, пакуль не запаляць агонь.

— Каб ты ведаў, што з Рываю сёння было,— сказала Пракопіха.

І яна расказала, што Рыва дала ў той дзень ходу, шукаючы вязальнікаў. Яна абегла два палеткі і нідзе нікога не знайшла, бо ніхто яшчэ не выходзіў вязаць. Яна ўбачыла, што з яе пакпіў Гельскі, што вязальнікі яшчэ не прыйшлі на работу пасля абеду. І яна адна пачала вязаць снапы. Нейкі час яна вязала і, бачачы, што ніхто не прыходзіць, кінулася ў другі палетак. Там ужо ішла работа.

— Позна прыходзіш,— сказалі ёй жанкі.

— Я раней за ўсіх прыйшла. Я ў тым палетку вязала,— пачала даводзіць яна.

— Чаму ж ты разам з усімі не прыходзіш? Трэба раней гэты палетак звязаць, а там — сырое, можа паляжаць.

Рыва пачала расказваць, як з яе пакпіў Гельскі. Расказваючы, яна заплакала.

— Чаго ты плачаш, дурная? — пацешыла Рыву Волечка.— Плюнь.

— Каб жа ён блазан, а то стары! — крыўдзілася Рыва.

— Паскуда гэткая! — вылаяла Волечка Гельскага.

Пракопіха расказала пра гэта здарэнне з Рываю, пра тое, як Волечка цешыла Рыву і злавала на «старога гада» Гельскага.

Пакуль павячэралі, ціхманы Пракоп сам укінуў не-

калькі слоў у гаворку — не спагадных да Гельскага: «Хоць ён мне крыўды і ніякае не зрабіў, але...»

Ракоп пайшоў спаць у адрыну. На захадзе неба яшчэ ўсё ружавела — захад быў відзён праз разабраны шчыт. Але пачало хмарыцца, і захад пачарнеў. Пачаў узнімацца вецер, здаравей стала, прапала духата. Ракоп можа з паўгадзіны драмаў, пакуль заснуў. Дрымота замчала яго нешта за чвэрць века ў глыб часу. Думкі, успаміны, уяўленні — усё ішло, блыталася, стаяла, варушылася, зноў ішло.

Нейкі хмурны і здаровы дзень быў у пачатку восені. Суха было. Гельскі і Юзік Кірбуць (цяпер нябожчык ужо — дрымотная Ракопава думка на Кірбуцю доўга не стаяла) — яны ўдвух вярнуліся з горада на Гельскага кані і прывезлі повен воз у саломе ўсялякага дробнага (а на сваё мястэчка нават і нядробнага) тавару. Там была бочка піва, скрыня з крамнымі кілбасамі, другая бочка з селядцамі, мяшок з цукерачнымі пакуначкамі і яшчэ ўсяго падобнага там шмат было: ні то крамку, ні то «піцейную кватэру» трымалі яны ў хаўрус у мястэчку. А маючы свайго каня — часта льга было ездзіць у горад па гэткі «піцейны» тавар. Маючы сваю гаспадарку, льга свіней падкормліваць. А падкормліваючы свіней, ёсць што падаць свайго на закуску ў «піцейнай кватэры». Так пакрысе гандаль і ішоў. На гаспадарцы рабіў парабчук.

Дык Гельскі з хаўруснікам прыехалі былі з горада. Тавару ім пашэнціла купіць выгадна, і з гэтай прычыны Гельскі быў вясёлы, узбуджаны. Нават, што мала калі здаралася, гаварылі хаўруснікі паміж сабою па-сяброўску, у руку адзін аднаму, паджартоўвалі адзін з аднаго: вельмі ж ужо гладка, як выгаблявана шархеблем, было ў іх і ў галаве і ў сэрцы. Яны прыехалі папоўдні, надвечар, і кожны пабег дадому папалуднаваць. Гельскі нават дома перад сваёю сям'ёю рызыкаваў і нават на большай, як заўсёды, адлегласці ад сябе трымаў жонку. Быў ён тады яшчэ здаровы, у самай моцы. Росту ён страшэнна высокага і танклявы (цяпер, пад старасць, сагнуўся адно ў хударлявых плячах сваіх).

На змроку хаўруснікі сышліся зноў у Гельскага гумне — здымаць з воза тавар.

Кожнаму суседу хацелася падысці паглядзець на гэтую іхнюю работу, але ўсе ведалі, што не любяць яны гэтага. А злашча Гельскі, што верыў у нядобрае людское вока.

Ён будзе маўчаць, надзьмуўшыся, а Кірбуць — дык той гатоў проста аблаяць. Дык толькі самы блізкі сусед прыйшоў, ды і то дабраў прычыны: прынёс пазычаную на тым тыдні сякеру. Пракоп, тады яшчэ малады, нядаўна жанаты чалавек, таксама трапіў быў на двор да Гельскага: ішоў якраз вуліцаю і зайшоў. Убачыў, што хаўруснікі, як сугнярі, соўгаюцца каля воза, разбіраючы яго, ён доўга там не стаяў. Пайшоў, а як выйшаў на вуліцу, мацюгнуў хаўруснікаў за тое, што яны ёсць яны.

Дык у той самы вечар адбылася ў мястэчку вось якая справа: поп здаў у арэнду ўсю сваю зямлю. І заарандавалі тую зямлю тыя самыя ўсё хаўруснікі: Гельскі і той другі...

Тут ужо зусім Пракопавы думкі сцьмелі, некалькі абрыўкаў прайшло яшчэ.

Заарандаваўшы папоўскую зямлю, Гельскі неўзабаве кінуў гандаль. Папоўскую зямлю здаў напалавіну людзям. Гэтак цягнулася аж некалькі год. Пасля папу зноў самому зажадалася трымаць гаспадарку... Але пакуль гэты гешэфт з папом раскідаўся, Пракоп, разам з іншымі, рабіў Гельскаму напалавіну папоўскую зямлю.

Даўно гэта было, можа больш за чвэрць стагоддзя прайшло ўжо ад таго.

Гельскі пасля таго многа перапрабаваў камерцыйных і ўсялякіх іншых спраў, але ўсё нейк сышло. Як ішлося на тое, каб быў ён цяпер калгаснікам: ніводнай справы доўга не трымаўся. А перад вялікаю вайною вольны быў ад гэткіх спраў: пачаў рабіць дома — стальмашыў, а для зямлі — трымаў хлапчука-парабчука. Пад гэты час прыпадае росквіт яго стальмашнага рамяства: пачаў нават перарастаць у механіка: нанава адбудаваў папсаваны пажарам вятрак млынару Аляксандру Пацієўскаму. На гэтым этапе сваёй дзейнасці ён раз, падвыпіўшы, убачыў, як праз мястэчка прамчаўся панскі аўтамабільчык (першая навіна на ўсю акругу). Дык Гельскі тут жа на месцы пачаў хваліцца, што каб ён адно паглядзеў зблізку гэтую машыну, дык сам такую ж зрабіў бы. Местачкоўцы не далі веры, але слухалі...

І заўсёды Гельскі меў прывычку вельмі бедніцца.

Сон агарнуў Пракопа як мае быць.

## III

Волечка сцялася грызціся з Гельскім:

— Вы стараліся, каб Косцік узяў хустку! Не павінен ён быў яе браць.

— Каб не ўзяў, дык быў бы дурань! — не маргнуў нават і вокам Гельскі.

— Чаму дурань?

— А таму, што хустка павінна астацца яго жонцы.

— Чаму гэта? Яна ж на работу не хадзіла.

— Як жа яна пойдзе, калі ў яе дзіця малое.

— Ну дык от жа.

— Ну дык і от жа! Не ходзіць яна на работу, дык сам Косцік, як чорны вол, удвая робіць. Ты думаеш, за брыгадзіра лёгка быць?

— Але ж яму за брыгадзірства большыя працадні налічваюцца.

— А ты хочаш, каб не налічваліся? Ён жа і ўначы спакою не мае. Ты ж сама можа не сляпая і бачыла, як ён, небарак, плішчыў на калгасаўскі двор метроўку, аж вочы ў яго на лоб вылазілі, тады ж, уначы, як падзялілі былі мануфактуру.

— Вы смяецеся, дзядзька, з Косці! Метроўку малое дзіця панясе! Гэта кпіны не з Косціка! Гэта з чагосьці іншага!

— Я смяюся? Я гавару, што бачыў. А калі я не пускаю слёз, гаворачы, дык гэта ўжо бяда? Плакаць трэба? Я плакаць не буду. Гэта ты летась казала, што ў калгасе дрэнна.

— А што, добра было летась, калі калгас ледзь не раскідаўся?

— Ды ныючы не паправіш. Не ныць трэба, а рабіць. Папрывыкалі вы ныць!

— Я ведаю вашы хітрыкі!

— Ну, бо ў цябе ж галава разумная.

— Хустка ў Косці, Марыля цяпер кляне ўсе нашыя парадкі... Ёй памагае Рыва.

— Усім не ўнаровіш. Ты думаеш, брыгадзір дарэмна павінен за ўсіх рабіць? Чужая праца табе не страшна?

— Чужую працу абараняць узяўся!

— Косця табе не які-небудзь элемент. Ён франты прайшоў, ён порах нюхаў, а хто дзе аддзякаваў яму? У яго

натура такая — сам не возьме, пакуль не ўгаварыць яго. Гатоў сам сябе ў крыўду пусціць.

— Чужую крыўду бароніш, а сам...

— Што сам! Кулак я раскулачаны, ці што? У калгас пралез? Маёмасць схаваў?

— А можа і схаваў.

— Схаваў? А сама ты многа схавала?

— Я — гэта я. Я да калгаса ледзьве пражывала на свеце.

— А я? Можа яшчэ я за цябе бяднейшы быў! Дробна ўсё ў мяне ішло.

— Дробна? Дробны, ціхенькі, у ціхім балоце чэрці вядуцца.

Тым часам Ёсіф Катлубайскі гаварыў Косціку:

— Ты запісаў, браце, там быў мне тыя пяць дзён у працапоўдні. Праўда, мне тады прыйшлося было да паўдня рабіць тыя дні. Але — запішы на поўныя дні, што табе значыць? Ты вінаваты не будзеш. Праўда, не плаціць багаты, а вінаваты, гэта так, але — братка ты мой! Я на тое месца наганю работаю. Пастараюся. Раней за ўсіх выйду калі на работу, пазней астануся. Ад мяне калгас крыўды мець не будзе.

— Як жа я запішу?

— Вазьмі ды запішы.

— Падумай, што ты гаворыш!

— Гавару... Вазьмі ды запішы, па-свойму. Свая справа.

— Свая справа?

— Ад мяне калгас крыўды бачыць не будзе. Не такі я чалавек. Я ж кажу.

Брыгадзір не бачыў спакою і ад Волечкі. Гэтая ўвішная жанчынка раз запарвала яго на вуліцы:

— Ты рад, што каля цябе стараюцца ўсялякія гады і падхлебнікі. Ты слухаеш. А Марыля ўсім гаворыць, што яе пакрыўдзілі. І ўсе за яе. Бо і праўда. Большае права яна мае на хустку за тваю жонку.

І нешта Косця пачаў заўважаць, што Гельскі ветлівей, як заўсёды, пачаў вітацца з ім. Разам з тым ён сапраўды ўбачыў, што нешта нядобрая выходзіць з гэтаю хусткаю справа. Некаторыя нават паглядаць на яго крыва пачалі, нейкае як бы недавер'е пачаў заўважаць ён сярод людзей да сябе. Вядома, тут яму магло ўжо больш як было здавацца, але ўсё ж штосьці і сапраўды было. Вельмі ж Ёсіф Катлубайскі паддаў яму думак: «Значыцца, яму трэба бы-

ло да мяне падлізацца, каб пасля смела прасіць мяне пайсці з ім на нячысты гешэфт. Напішы яму поўных пяць дзён! От на што ён угаварваў мяне, каб я ўзяў гэтую чартоўскую хустку! Але чаго тут стараўся Гельскі? У калгас ён не пралазіў, а пайшоў смела. Ён не кулак, бо ў яго нават у апошні год і каня не было».

Адзін раз Гельскі зноў сядзеў на Пракопавай прызбе. Косця падышоў туды ж. Гэта, як і той раз, была пара полудня. Неўзабаве меліся выходзіць у поле.

— Квас у цябе добры,— сказаў Гельскі Пракопу.

— Быў, ды няма,— адказаў Пракоп.

— Дзе ж ён дзеўся?

— Дай рады. Выцек, усе сенцы заліў. Клёпка адна была зломаная. Да часу сяк-так ліпела, пакуль не адваліласявся... То ты хіба ідзі бяры граблі, я цябе пачакаю і пойдзем.

— А-а, шкада, што квас прапаў... Такі пайду па граблі. Я зараз прыйду...

Гельскі пайшоў. Як толькі ён крыху адышоўся, Пракоп пайшоў у сенцы і вынес сабе і Косціку квасу.

— Квас жа выцек?

— Каму выцек, а каму і не. Ого! Ён усё бедніцца. Гнецца. Увесь век прывык гнуцца, тужыць, што ў яго нічога няма, што ён бедны, дробнае ўсё ў яго... А некалі гандляваў... Не памятаеш ты, малы быў... На паўпанскі капыл выраўняцца стараўся. Дармо, што ён як бы бядняк — нават каня не было апошні год. Капяні ты яго, дык у яго на дваццаць год хопіць, нічога не рабіўшы. Я гэткіх жміндаў ведаю! Цярплівасці мае не хапае з гэтым чалавекам. Чалавек гэты — юха добрая. Ты чуў, як ён з Рывы насмяяўся? Цяпер тая крыўдзіцца, што ўсё нядобра, што ў калгасе здзекуюцца з яе... Ведама, баба цёмная...

Гельскі прыйшоў з граблямі і ўбачыў у конаўцы недапіты квас.

— Квас? — сказаў ён.

— Квас,— весела засмяяўся Косця.

Яны ўтраіх пайшлі на сенажаць, і Гельскі ўсю дарогу маўчаў. Назаўтра ж было вось што.

З самага рання, калі яшчэ не выганялі на поле жывёлу, Волечка прыбегла да Марылі. Тая збіралася ісці ў абору па малако ў яслі. Яна стаяла перад люстэркам і ўглядалася ў яго — ці да твару ёй новая паркалёвая хустка. Волечка хацела расказаць Марылі пра справы з хусткаю і

не толькі расказаць, а заявіць, што яна гэтай справы так не пакіне. Але яна як бы пачала пазнаваць хустку, што была на галаве ў Марылі.

— Якая гэта хустка? — запытала Волечка.

— А гэта мне толькі што Косцік прынёс.

— Што ён гаварыў? — не сцярпела Волечка.

— А ён гаварыў, што ўсе паднімалі гаворку, каб гэтую хустку даць не мне, а ягонай Галене. Але раз Галена на работу цяпер не ходзіць, а я раблю, дык ён гэтую хустку прынёс мне. Не хачу, кажа, блытацца з Гельскім і Катлубайскім.

— Я адразу казала, я яшчэ тады казала, што так трэба зрабіць. Дык мяне тады не слухалі! А цяпер — дык самі... Каб я тады не пакрычала, дык так і асталося б,— весела гаварыла Волечка.

## IV

Сакратар ячэйкі гаварыў калгаснаму старшыні:

— Даўно ўжо я думаю, што ў цябе Гельскі не калгаснік, а гніда.

— І я гэта ведаю,— адказаў старшыня.

— Чаму ж ты яго не выкінеш?

— Я не маю за што ўчапіцца.

— Учапіцца? Учапіся за ўсяго яго, за Гельскага.

— А прычына?

— А прычына сам Гельскі. Склікаць трэба сход і пагаварыць пра Гельскага. Я нюхам чую, што ён не калгаснік.

— Пачакай,— сказаў старшыня,— цяпер нядаўна пра Катлубайскага працадні, пра паркалёвую хустку нейкія гутаркі былі. Пакуль не забыліся — можа з гэтага пачаць? Можа што выявіцца.

У той жа дзень, увечары, вось што было:

— Ага, ты здагадаўся? Дадумаўся-такі нарэшце! — крычала Волечка ў самы твар брыгадзіру Косціку Раўтовічу.— Ты нарэшце здагадаўся, а дзе ж твой раней розум быў? Табе трэба паказаць пальцам, а сам дык ты не можаш бачыць? Аддаў хустку, дык маладзец! Але можа крыху запозна? Цяпер хочаш, каб усё ціха было, калі Марыля папакрычала, што ў калгасе ўсё гэтак: хто сабе грабе, таго і права. Гэта яна папакрычала. Крычала яна не таму, што сама ў гэта верыць, а таму, што яна адразу павінна

была мець гэтую чартоўскую хустку, няхай бы яна згарэла!

— Я сам спачатку не хацеў браць. Я сам гаварыў, каб даць хустку Марылі.

— Дык трэба было і рабіць гэтак. Ніколі з свае думкі не збівайся. А то ты паслухаў Гельскага і Катлубайскага.

— Паслухаў, гэта праўда. Але ж і не адны яны гаварылі.

— Іх сей-той падтрымаў. А ты і раскіс. Рад, што табе хустку даюць! Ты ведаеш, што ты зрабіў? Цяпер і Гельскаму добра і можа яшчэ каму. Чым больш неспакой, крык і крыўды тут у нас, тым...

— Я ведаю. Пракоп гаварыў пра Гельскага.

— А хоць бы гэты і Пракоп! Дома ў запечку дык і ён гаворыць, а дзе на людзях, дык...

Гутарка гэтая адбывалася на тым жа ўсё самым Косцікавым двары. Народу ўсё збіралася больш. І ўсе адчувалі, што пара ўжо забыцца на гэтую хустку, бо штосьці большае вырастае тут.

Як прыйшоў Ёсіф Катлубайскі, Косцік адразу загаварыў да яго, спішыўшы ўсіх:

— Я гавару перад усімі: ты ўгаварваў мяне, каб я табе напісаў лішніх працадзён. Ты думаў, што я гэта зраблю табе за тое, што ты даваў мне хустку? Дык я зрабіў памылку, узяўшы хустку. Яе я аддаў Марылі, ёй яна павінна была належаць з самага пачатку.

— Ты прагуляў пяць працадзён,— закрычала Волечка,— і думаў, што табе запішуць за поўныя дні? І за гэта падлізваўся да брыгадзіра? Прызнавайся!

А пасля Косцік загаварыў да Гельскага.

— Ты мог, скажам, па шчырасці спрыяць мне з гэтаю хусткаю,— сказаў Косцік,— але вось!

І ён паказаў на Рыву. Рыва выйшла наперад, каб гаварыць.

— Пакуль тут яна сёння скажа пра цябе,— закрычала Волечка,— дык гаварыла яна, што ў калгасе бегала, шукала гурту і калгас лаяла. Вось яна зараз скажа пра цябе!

— Я па шчырасці спрыяў табе наконт хусткі.

— Па шчырасці спрыяў? — перабіла Волечка.— А пасля нагаварваў, што Косцік больш хваліцца работай, чым робіць. Памятаеш, што ты казаў пра метроўку? Каб зрабіць выгляд, што вельмі стараецца, дык і метроўку панёс уначы? Гэта абы хустка яму асталася?

— Пракоп, што ты мне казаў пра Гельскага? — сказаў Косцік да Пракопа.

Усё было скончана. Справа перамагла натуру. Пайшоў Пракоп малоцца пад грамадскі камень. Справа павярнулася гэтак, што трэба было ісці на адкрытую. І Пракоп выйшаў наперад.

— Ну, што ж, я скажу,— загаварыў ён,— самі ведаеце. Ён бедніцца, гнецца, а капяні ты яго, дык у яго... я казаў і кажу... А як ты тут яго раскулачыш, калі ў яго нават і каня не было? А тым часам — нагандляваў калісьці, быў яму час... Паглядзіш, як ён цяпер жыве... А як ён раней жыў!..

— Гавары, гавары, дзядзька Пракоп,— не магла ўстаяць на месцы Волечка — бялявая, густавалосая, маленькая жанчынка.

# ЗВЯГА

Каваль Антон Рубановіч стаяў паміж натоўпам і сталом, за якім быў прэзідыум сходу. Ён стаяў, як бы ад нейкага непаразумення, растапырыўшы рукі, сам высокі, чарнявы чалавек, чорны ад курадыму, босы, у калісьці жоўтых галіфэ, у непадпяразанай старой рубашцы з кішэньмі на грудзях. Сход канчаўся.

— Здаецца, усё? — сказаў старшыня сходу.

Яшчэ старшыня не скончыў гэтай фразы, як каваль, з нейкай пагардай ва ўсіх рысах твару, заявіў:

— Не, не ўсё.

Усе бачылі кавалёву ўзбуджанасць, і ўвесь сход адчуў, што каваль зараз скажа нешта важнае.

— Чаму дагэтуль справу не перадалі ў пракуратуру? — запытаў каваль.— Акт рэвізійнай камісіі ёсць, што дзесяці пудоў ячменю з калгаснага свірна няма. А чаму гэты акт ляжыць сабе спакойна?

— Ну, можа чый-небудзь сват ці кум з'еў гэты ячмень,— яшчэ з большай пагардай, як у каваля, падаў голас Жывіцкі, не адрываючыся ад сцяны, да якой стаяў прыпёршыся плячыма. Але калі каваль аж трохся, калі гаварыў, дык гэты гаварыў спакойна і павольна. І ў гэтай спакойнасці гучаў сарказм.— Таксама чатырох хамутоў няма. Дзе яны? — скончыў ён.

Лёгкі гул прайшоў па натоўпу.

— Гэта праўда,— падаў голас гарбаносы Валодзя.— Справу з ячменем трэба расследаваць. Таксама ў нас ходзяць гутаркі, што ў нашым калгасе ёсць былыя элементы — дыяканы там і іншая шваль... Усё высветліць трэба.

І, сказаўшы гэта, гарбаносы Валодзя вылез наперад. Адразу відаць стала, што гаварыў ён горача: твар узбуджаны, вочы блішчаць, кепка служыць казырком не над

ілбом, а над вухам, і гарбаты нос аж, здаецца, варушыцца. Шчака ў яго была падвязана хустачкай.

Але доўга ён не стаяў наперадзе: ён адно бліснуў перад натоўпам, паказаўся перад усімі і зноў апынуўся недзе ў гурце.

Пачаўся гармідар. Гарбаносы Валодзька горача гаварыў дзесьці ў натоўпе, пасля ўжо зусім яго не чуваць стала. Хтосьці нават заўважыў, што ён зусім пайшоў са сходу. Ён такі і сапраўды пайшоў з выглядам чалавека, які ўсё сказаў, сказаў добра, а калі яго не паслухаць, дык гэта пойдзе толькі на кепства людзей, з якімі ён меў справу.

Дзесьці ў сярэдзіне натоўпу павольны і сталы голас даводзіў усяму свету, што «яшчэ перад нямецкаю вайною ён быў справіў сабе варшаўскі плуг, і глядзеў ён гэтага плуга гэтак, што ён быў зусім яшчэ як новы, адно што мясцамі пазлізваўся і дышаль нешта выкручвацца пачаў». Другі, шпаркі, як барабан, голас даводзіў, што плуга да плуга не прыраўнуеш, што «плуг можа быць куплены перад вайною і дажыць да калгаса, а другі плуг і паўгода не вытрымае, раз ён на тандэт зроблены. А раз ён гэтакі, дык карысць з яго невялікая». Гэтую несусветную праўду чалавек пачаў даводзіць канкрэтнымі прыкладамі. Каб лепей давесці, ён выпхнуўся наперад.

Выгляд у яго быў нейкі лямцаваты. Сукаватаю палкаю ён забаўляўся ў руках, як дзіця цацкаю, кудзеля з вопраткі выбівалася адусюль. Барада, даўгі нос, і ўсё раз-пораз пачмыхвае носам.

— Францкевіч, слова хочаш? — закрычаў яму старшыня.

— Не, якое слова, нашто яно мне! Я толькі хачу сказаць, што ён там пра плужок гаворыць. Дык гэта факт.

— Які факт?

— Вы не верыце? Тфу! (Ён не толькі чмыхаў, але і паплёўваў сабе пад ногі, суха і дробна.) — Плуга да плуга не прыраўнуеш.

— Да якога плуга, прычым тут плуг?

— Я вам скажу, тфу, тфу, што Хурсаў зяць, нябожчык Кандыбовіч, таксама быў купіў сабе перад вайною аршаўскага плуга, дык закаяўся. А от што Сяргей гаворыць, дык тут... тфу, тфу...

Ніхто ўжо яго не слухаў, але ён гаварыў, забаўляючыся сукаватаю палкаю. Гэта быў адзін з тых гаваруноў,

якім ад усіх тых спраў, якія тут так цікавяць людзей, не было ні холадна, ні горача: «Куды людзі, туды і я, нашто мне канешне раней за бацьку ў пекла лезці». Так можна было з першага разу падумаць, гледзячы на гэтага чалавека. Пакуль старшыня сцішваў людзей, ён такі паспеў дагаварыць пра нейкі там Кандыбовічаў даваенны плуг. Паспеў таксама ўпікнуць нейкага за нейкія дваццаць два, «а можа нават і ўсе дваццаць тры» (дакладна не было падлічана) калівы тытуню, успомніць, як «пры немцах яшчэ нейкія канакрады ўтапілі пад нейкім мостам нейкага амерыканца», і шмат чаго іншага нагаварыў бы яшчэ гэты чалавек, каб нарэшце не сціхлі ўсе. Чалавек, які выпадкова трапіў бы на сход, мог бы з першага разу падумаць, што гэты чалавек вельмі вялікі практык, вельмі ўсё і разумна ведае і да ўсяго можа сказаць патрэбнае слова.

— Што ты рабіў у горадзе? — запытаў старшыня ў каваля.

— Рабіў, што траплялася. Брук масціў, печы мураваў, а пасля пры кавалях быў. Давайце высветлім усё. Усё адразу павінна пайсці пад расследаванне: і дзе ячмень падзеўся з хамутамі і ці быў я за дыякана!

— А нашто ты плугі паглуміў? — выразна прагуў голас.

— Плугі? Якія плугі?

— Колькі было за кузняю пад паветкаю запасных плугоў? Дзе яны цяпер?

— Ды не будзь я Антон Рубановіч...

— Можаш сабе і не быць.

Стала зусім ціха. Справа ўскладнялася. Яна рабілася шматгранная. Гэта зразумеў лепш за ўсіх сам каваль Антон Рубановіч. Дагэтуль ён яшчэ ўсё не прымаў блізка да сэрца гэтай справы, думаў, што гэта ўсё так сабе. А цяпер яму заняло дух, сціснулася і закіпела каля сэрца.

— Які ж я дыякан,— закрычаў ён раптам,— калі я каталік!

— Хто цябе ведае, ці ты каталік, ці ты японец. Ты прыйшоў да нас тады, калі рэлігія была выразна скасавана і больш нічога.

— Ну, дык я даводжу савецкай уладзе, што я каталік, а не праваслаўны,— злая ўсмешка прайшла па яго твары.

І стала ціха, а пасля зноў пачаўся гармідар. Пайшлі ў ход плугі. «Я прынёс у калгас плуг, ён ляжаў за кузняй пад паветкай. Дзе ён? Падай яго сюды!» Францкевіч ус-

помніў раптам, што тытуню было не дваццаць два і не дваццаць тры, а дваццаць чатыры калівы. І пайшло бушаваць, гуляць.

— Варшаўскі быў плуг, браткі мае... Варшаўскі, з гнутым дышлем...

Гэта млеў па варшаўскаму плугу той самы Сяргей, што з самага пачатку павёў гутарку пра плугі. Як і кожны слабавольны чалавек, ён, чым больш гаварыў пра гэты плуг, тым больш сам сабе паддаваў упэўненасці ў тым, што на яго баку праўда. Ён у гэтую хвіліну ўжо быў упэўнены, што яго пакрыўдзілі і пра гэта трэба ўсім давесці. З прычыны таго, што шмат хто тут хацеў штосьці сваё выказаць, слабавольнаму Сяргею прыйшлося пашукаць сталага і маўклівага слухача. Гэтакі слухач яму тут жа і нагадзіўся. Гэта быў маўклівы дагэтуль на сходзе чалавек. Ён стаяў пры сцяне, прыпёршыся да яе на ўсе плечы, і задуменна жаваў саломінку. Але гэтая спакойнасць, відаць, была толькі знадворная, бо часта ён выплёўваў з рота адкушаны драбок саломінкі гэтак горача, як можа рабіць чалавек толькі тады, калі ў яго недзе ў глыбіні галавы і сэрца ідзе нейкая работа. Здавалася, ён не слухаў, што гаварыў яму Сяргей. А той, стаўшы перад ім нейк бокам, усё тлумачыў пра варшаўскі плуг, ад хвалявання звяртаючыся ўсё да яго з яго прозвішчам: «Жывіцкі, Жывіцкі».

— А ты думаеш, ты праўду гаворыш? — адарваўся раптам ад сцяны Жывіцкі.

Сяргей сціх на паўслове ад страшнага непаразумення.

— Ты лухту вярзеш! Хто цябе падвучыў? Цябе ж, дурня, нехта навучыў. Прызнайся. Рубановіч плугі паглуміў? Якія ж гэта былі плугі? Гэта лом быў, а не плугі. Гэта пагнутыя кавалкі жалеза. Рубановіч з гэтага ламачча вырабіў падковаў і ўсе коні падкаваў. Ты шкадуеш свайго плуга? Які ён твой? Ён калгасны, і калгасу гэтакая надобіна не патрэбна. Ён пайшоў на тое, на што трэба было яго пусціць.

— Калгасу брыдкі плуг не патрэбен,— лапатаў Францкевіч, пакручваючы ў руках сукаватую палку.

Старшыня сходу чуў усё, што сказаў Сяргею Жывіцкі. Разам з тым ён бачыў, як Сяргей, выслухаўшы Жывіцкага, раптам змоўк, нейк асеў, нават як бы збянтэжыўся. Значыцца, тут не такая простая справа! Яна павярнулася на святло новаю сваёю гранню. У яе рэчышча, што пачало

ўжо ліцца ў адзін бок, урэзалася другая плынь. Вада закруцілася, як у віры, і тут не так проста знайсці на дне канцы і пачаткі. Да гэтай справы трэба падрыхтавацца.

І, спасылаючыся на позні час і на заўтрашнюю раннюю работу, ён прагаласаваў, каб адкласці далейшае вырашэнне справы на наступны раз.

Народ рушыў па хатах.

Каваль дайшоў да крайняй хаты.

Ён узяўся за клямку незамкнёных дзвярэй. Як прычыніў дзверы, убачыў, што тут яшчэ не спалі. Праўдзівей кажучы, мусіць, тут людзям перабілі сон. Пасярод сянец на табурэце гарэла моцна прыкручаная лямпа. Сенцы ад гэтага святла былі чорныя. Тхнула аднекуль сенам. Каля лямпы стаяла на сподку соль і ляжаў недаедзены корч цыбулі. Гаспадар, з пакудлачанаю ад сну бародкаю, запушчанаю, відаць, толькі нядаўна, сядзеў у адной бялізне на калодзе перад лямпаю і круціў папяросу. Збоку стаяў услон.

«Хацеў выспацца, дык не даюць»,— гаварылі ягоныя вочы. Антону Рубановічу здалося, што ён і зірнуў нават на пасцель пры сцяне, насупраць дзвярэй.

Відаць было, што ён чагосьці захваляваўся, калі ўвайшоў у сенцы каваль Антон Рубановіч.

Ён нейк адразу лізнуў языком па папяросе, уваткнуў у папяроснік, адной зацяжкаю прыкурыў ад лямпы, выкруціўшы раптоўна агонь і зноў укруціўшы, і абярнуўся да каваля.

— Здароў, — аж гукнуў ён, патрасаючы яму руку.— Садзіся. На, закурвай.

Нізкая постаць яго жыла нейкім неспакоем. Напроці Антона Рубановіча ён стаяў, як ёрш — стрыжаныя пруткія валасы на галаве, ускудлачаны дзяркачык бародкі, валасатыя рукі; не зусім выбеленая, можна сказаць, суровая яшчэ бялізна; споднікі на адным мядзяным гузіку з двухгаловым арлом — ад старога салдацкага шыняля. Гэты гузік аж зіхацеў на ўвесь жывот.

Антон Рубановіч стаяў над ім, на галаву вышэй ад яго, без шапкі, у кучме чорных, як вугаль, прыклееных пасмачкамі да спацелага лба, валасоў, у кароткіх нагавіцах з прышытымі галіфэ, у непадпяразанай чорнай рубашцы.

Трэці чалавек, што быў у сенцах, глядзеў на іх з кутка. Там ён успёрся локцем на разверненыя жорны без

млёна; таксама босы, як і гаспадар сянец, невысокі ростам. Шапка ў яго служыла казырком набок, гарбаносы твар абвязаны быў тоненькай чорнай хустачкай. Ці не балелі яму зубы? На ім была камізэлька і не было пінжака. Як і тыя два, ён быў няголены. Так і відаць адразу — няма часу людзям: вельмі ж ідзе гарачая работа.

Каваль, убачыўшы гэтага чалавека ля жарон, спачатку на момант збянтэжыўся, збялеў і закалаціўся. Пасля ляснуў сківіцамі і моцна, каб той чуў і бачыў, плюнуў. Гаспадар сянец усё гэта бачыў, і стала яму ніякава. Ці ён у чужыя справы не хацеў умешвацца, ці ён баяўся чаго, ці проста спаць хацеў і не было яму нічога да ўсяго гэтага? Ён спусціў вочы ўніз, і хоць папяроса яго гарэла, ён вельмі раптоўна заклапочана зноў стаў над лямпай без патрэбы прыкурваць.

Гэтак цяглася маўчанка нешта хвілін з тры. Чалавек, што стаяў пры жорнах, паспеў прысесці на хатні парог і ўздыхнуць стала і па-гаспадарску, з спачуваннем да ўсяго свету. Твар яго пры гэтым з'ехаў уніз, сабе ў ногі. І здавалася, што спачуванне да ўсяго, што толькі ёсць на свеце, сцякае ціха з яго твару — з вачэй, з носа, з рота і льецца па сенцах, лагодна і мякка.

Дзверы ў хату былі адчынены. Там было чорна: з сянец святло туды не даходзіла. Вялікая муха сонна гула над чалавекам на парозе.

— Тфу, каб ты згарэла,— зазлаваў раптам гаспадар сянец.

— Чаго ты? — ласкава заўважыў чалавек на парозе.

— Чаго? — аж гукнуў нечакана ўсім гаспадар.— Махорка з папяросы на язык палезла. Гаркачэча ў роце.

Ён сціх, адышоў да сваёй пасцелі і сеў на яе. Выгляд ён меў такі, што ўжо гатоў быў так сядзець і маўчаць хоць аж да дня. «Не даеце спаць, дык што я вам зраблю. Сядзіце. І я буду сядзець». Гэта ўсе і заўважылі, што не ад махоркі на языку ён злуецца.

Каваль Антон Рубановіч не вытрымаў.

— Нічога мне не зробяць. А калі зробяць, дык я да самага Сталіна дайду. І тады пазварочваю галовы ўсім гэтым работнікам. Але за што я цярплю? Сэрца не вытрымае.

— Вытрымае,— ціхом абазваўся гаспадар сянец.

— Не, не вытрымае сэрца! — закрычаў Рубановіч, падступаючы бліжэй да гаспадара.

— Дык што ты мне крычыш? — заазлаваў гаспадар,— крычы ўнь каму.

І ён ткнуў пальцам на гарбапосага чалавека. «Згарыце вы, хоць падушыце адзін аднаго»,— гаварыў ягоны ўзлаваны позірк.

Гарбаносы чалавек раптоўна рушыў на сярэдзіну сянец. Калі ён стаў у святле, раптам відаць стала, што не такі ён на гады, як здаваўся, калі быў у ценю, зусім яшчэ малады.

— Чаму гэта ён мне павінен крычаць? — спакойна здзівіўся ён, глянуўшы на гаспадара.

— А чорт яго ведае каму. Я ведаю толькі, што не мне. Што вы маеце да мяне?

— Слухай, Сяргейка, што ты злуеш?

І гарбаносы з выгляду яшчэ пасталеў. Адсунуў на край корч цыбулі і сам сеў на тое месца.

— Чаго ты прыйшоў сюды? — глянуў раптам каваль Рубановіч на гарбаносага.

— Чаго ты ад мяне хочаш?

— А чаго ты ад мяне хочаш? Чаго ты тут трэшся?

— А ты чаго тут?

— Я прыйшоў туды, куды хацеў і куды мне трэба.

І каваль Рубановіч павярнуўся да гаспадара.

Гаспадар ускочыў з месца, захваляваўся, разоў некалькі драбнюсенька плюнуў, шмаргануў нагою аб другую калошу споднікаў, каб выцерці абплёванае месца, і тады твар яго адлюстраваў на сабе сапраўдную пакуту. Ён не ведаў, што гаварыць. Аж пабялеў, і губы задрыжалі.

Каваль адступіў назад і акінуў вокам іх абодвух. Ён нейкі спакойны цяпер стаў, нават штосьці падобнае да ўсмешкі прамільгнула ў яго па твары.

— А ведаеш што,— сказаў ён вельмі спакойна гарбаносаму чалавеку,— калі я толькі што быў увайшоў сюды, дык ты збянтэжыўся. Чаго ты быў спалохаўся?

— Я чаго спалохаўся?

— Гэта ты пасля ўжо напусціў на сябе смеласці.

— Чаго ты да мяне чэпішся? Чаго мне цябе баяцца?

— Ты добра ведаеш і сам.

Гэтак яны гулялі ў перакідку словаў, фальшыва паглядаючы адзін на аднаго. Але гарбаносы не вытрымаў:

— Воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць.

— Гэта то праўда, і якраз яна сюды падходзіць, бо сабака — гэта ты.

Гарбаносы кінуўся наперад, каваль, сціснуўшы кулакі, стаяў, як дрэва на паветры, а гаспадар сянец пачаў азірацца, як бы чаго шукаючы. Каб так прайшло яшчэ паўхвіліны, напэўна, гарбаносы як-небудзь зачапіў бы каваля, не различыўшы з гарачыні ні сваёй, ні кавалёвай сілы. А каваль бы пасля гэтага, напэўна, пасадзіў бы гарбаносага гэтак, што той бы не адразу ўстаў.

Але ў гэты самы момант у цёмнай прорве хаты ля дзвярэй вырасла жаночая постаць. Яна гукнула на каваля:

— Ты!

І каваль адразу схаваў рукі ў кішэні нагавіц і нават як бы з боязню прыпёрся плячыма да сцяны. Гарбаносы з хітрым і радасным бляскам уваччу паглядзеў на жанчыну і гаспадара — жанчына выйшла ў сенцы.

Яна была высокага жаночага росту і мажная. У яе былі шырокія рысы твару і касцістыя скроні. Бровы надавалі верхняй палове твару выгляд цвёрдай вытачанасці з каменя. Яна, мусіць, нядаўна спала, бо была цяпер адзета абы-як. Набок накінутая і дрэнна завязаная пад барадою хустка ледзьве стрымлівала бездань растрапаных валасоў.

— Ідзі адгэтуль! — загадала яна кавалю.

Каваль спачатку не паверыў. Ён падаўся на паўкрока наперад і застыў гэтак. Бачачы, што жанчына зменьвае выраз на сваім твары, ён задушыў у сабе заядлую злосць і нецярплівасць і, як мог спакойна, выгаварыў:

— Маня!

— Ідзі вон! — сказала яна, і ў гэты момант смутак ад таго, што ён зараз пойдзе, адлюстраваўся на яе твары. Але яна перамагла гэта і зноў загадала:

— Ну ідзі ж!

— Праз некалькі дзён ты выганіш адгэтуль гэтага гарбаносага чорта, а твой бацька (глянуў на гаспадара сянец) пашкадуе, што ён як гнілая салома і ніякае свае лініі не мае.

І каваль пайшоў.

Маня села на хатні парог, унурыўшы галаву ў калені.

— Лажыся, бацька, спаць,— сказала яна.

— А ты?

— І я зараз лягу.

— Дык што? — ускіпеў, як умеў, мяккі Сяргей.— Я не павінен нічога ведаць, што вы гаварыць будзеце?

Я ў старане? Каб спачатку мяне слухаць, дык... Ты мне пра плугі пагаварыў, а выходзіць — няпраўда.

— Добра, добра,— замахала рукамі Маня,— ну не спі, ну слухай.

Сяргей на ўвесь спрыт стомленых за дзень пальцаў скруціў папяросу і пачаў пыхкаць ёю над лямпаю.

— Каб ты згарэла! — і крутнуў агонь у лямпе ўгару гэтак, што чырвоны куродым пайшоў пад самую столь. Прыкурыўшы, спусціў агонь меньш яшчэ, як быў.

— От так добра,— сказаў гарбаносы, глянуўшы на лямпу.— Я не люблю вялікага бляску.

— Слухай,— загаварыла Маня да гарбаносага,— ты мне скажы — праўда ўсё гэта? Ты не мані, Валодзя.

— Ну, што ж,— пакрыўдзіўся гарбаносы, паціскаючы плечуком і пагардліва крывячы губы,— калі ты не верыш... На чорта мне маніць табе. Замуж я цябе браць не буду, у мяне жонка ёсць. Барыша хачу? Дык такія справы барышом не мераюцца.

— Праўду кажаш,— глыбока ўздыхнуўшы, згадзіўся Сяргей.

Маня асадзіла яго позіркам.

— Сядзь, Валодзя, сюды,— паказала яна гарбаносаму месца ля сябе на парозе.

— Я табе скажу, і няхай бацька твой слухае,— загаварыў гарбаносы Валодзя сеўшы.— Тут так. Яшчэ раз вам скажу: мая тут справа маленькая. Я сказаў і скажу, што ў мяне на сумленні, і скончана. Пайду зараз спаць, а заўтра ўстану рана, пайду на работу.

— Гэта ты напісаў на яго заяву?

— Не, але ведаю хто.

— Дык хто?

— Не скажу. Па добрасці кажу — не скажу.

— Скажы.

— Гэтага няможна гаварыць, калі ведаеш.

— Далей гэтых сянец і гэтай ночы не пойдзе.

— Дык гэта я напісаў. Але ж толькі, каб нікому ні слова. Ша!

— Што мы дурні, ці што,— стала згадзіўся Сяргей.

— І ўсё гэта праўда?

— Праўда.

— Я пытаю і пра тое, што ў заяве, і пра тое, што не ў заяве.

— Ну, вядома. Тут так. Тое, што да заявы не пады-

ходзіць, я не пісаў. Не ўсё належыць да заявы. Ды і не цікава, і не патрэбна ўсё. Падумаеш!

— Чынш да падатку не належыць,— уставіў слова паспакайнелы Сяргей.

— Я табе толькі дабра хачу, дык і сказаў, што ведаў.

— Няхай ад гэтае ночы ўсё забудзецца, і аман,— трывожна папрасіў Сяргей.

Маня зноў позіркам асадзіла яго.

Гарбаносы Валодзька пасунуўся бліжэй да Мані і моцным пошапкам пачаў гаварыць, дзе трэба, загінаючы пальцы, каб былі падлічаны факты.

— У яго двое дзяцей — гэта раз. Значыцца, была і жонка. А ён не ўдавец. Гэта ў горадзе людзі ведаюць. Ён жонку кінуў.

— Чаму ж дзеці ў яго, а не ў яе? І ён іх гэтак добра глядзіць?

— Я не ведаю. Тут так. Можа яна і забрала дзеці. Можа іх больш было. Дзяцей маглі падзяліць.

— Ты ж мне раней пра гэта не гаварыў. Ты глядзі. Можа ты гэта цяпер выдумаў? Я цябе ведаю,— прыгразіла яна.

— Прычым тут я? Я зараз спаць пайду, а заўтра зранку на работу, што мне. Падумаеш!

— Ну, а далей што?

— Ну, значыцца, жонка ў яго ёсць.

— Гэта паскудства, а не чалавек,— уздыхнуў Сяргей.

Ізноў Манін позірк.

— А далей — гэта ўжо да заявы належыць — быў за дыякана недзе на Палессі. А можа памацаць — ці не быў ён у бандытах?

— Не дай божа, што ты гаворыш,— не вытрымаў Сяргей.

— Гэта ты выдумляеш пра бандытаў?

— Я гэтага не гавару, я не ведаю. Тут так. На Палессі бандыты былі, а духавенства — сама ведаеш, які прыяцель савецкай уладзе. Могуць думаць, а як па-мойму — паехаць бы яму адгэтуль і няхай жыве спакойна, дзе яго ніхто не ведае. Бо вычысцяць яго з калгаса, няйначай, і яшчэ прыпякуць...

Маня маўчала. Яна па-бабску падагнула пад сябе ногі і падперла твар рукамі. Было падобна, што яна ціхом плача. Уся яна сціснулася, сагнулася, і постаць яе стала непрывабная.

Гарбаносы Валодзя, як да соннага дзіцяці, каб не пабудзіць яго, падышоў да Сяргея. Пошапкам, так што Маня можа і не чула, ён сказаў:

— Кладзіся спаць і будзь смелы. Скажы ёй... (махнуў рукою). А ўрэшце, нічога не трэба ёй казаць.

Ціха выйшаў і вельмі старанна зачыніў за сабою дзверы.

— Што бог ні дасць,— заспакоіў сябе Сяргей і пачаў павольна курыць. З папяросай у зубах ён лёг.

— Ужо, мусіць, за поўнач,— пачаў ён словамі падаваць сам сабе смеласці. Але ўбачыў, што Мані ўжо не было. Было толькі чуваць, як яна ў хаце падбівае падушку.

— Патушы лямпу,— сказаў ён.

— Няўжо ж так пакіну! — агыркнулася яна.

Як ужо было цёмна і яна пачала драмаць, раптам ёй здалося, што хтосьці шатнуўся паўз вокны. Нават здалося ёй, што пачула яна знаёмы лёгкі кашаль (калі чалавеку трэба падаць ведаць, што ён тут). Дрымота збегла адразу. Яна кінулася да акна. Нікога нідзе не было. Яна выйшла на двор. Перад дзвярыма стаяў каваль.

— Чаго ты прыйшоў?

— Чаго і раней прыходзіў.

Ён гэтак спакойна і нават са смехам сказаў, што яна сумелася.

— Ты цяпер гэтак гаворыш, а чаго ты калаціўся, дрыжаў і аж заікаўся, калі толькі што быў? Бяду чуў?

— Якую там бяду? Калі чалавек з лазні выходзіць, ён заўсёды чырвоны.

— Але чалавек у лазні бывае тады, калі на ім бруду многа.

— Пра што ты гаворыш? Я думаў, што ты тады гэта так сабе сказала, каб я ішоў адгэтуль. Ты скажы мне ўсё, што ён нагаварыў на мяне. Не, ты скажы. Заява, што я быў за дыякана?

— А чым ты давядзеш, што не быў?

— А чым ён давядзе, што быў?

— Раз не пабаяўся заяву пісаць.

— Ага, дык гэта ён напісаў! Я так і думаў.

— Адкуль ты ведаеш, што ён?

— Ты ж сказала... Ты ведаеш. Відаць, здорава вы пасябравалі.

— Я не сказала.

— Можаш сабе таіцца, колькі хочаш.

— Не казала я, бо не ведаю!

— Хто там? — спрасонку кракtануў у сенцах Сяргей, пачуўшы моцны Манін голас.— Хто там, хто ў хаце?

Ён пачаў мацаць каля сябе запалак.

— Гэта я,— урачыста абазваўся каваль.

— Хто? Рубановіч? Ты?

— Ідзі адгэтуль! — моцна сказала Маня. Яна села і ўжо сапраўды заплакала.

Рубановіч вынес лямпу ў сенцы і паставіў на раней-шае месца. Сяргей ляжаў, наўмысля заплюшчыўшы вочы.

— Святла баішся, што вочы жмурыш? — сказаў кплі-ва каваль.

Сяргей роспачна сеў.

— Чаго ты хочаш ад мяне? Я табе не таварыш, я на-проці цябе стары.

— Ты стары, але як малы.

— Чаго ты ад мяне хочаш?

— Што табе гаварыў гэты гарбаносы? Чаго ён прыва-локся да цябе быў?

— Ці гэта дзіва, што чалавек зойдзе?

— Не, якраз бо. Мяне там зняважылі, мяне там асмя-ялі, з мяне рагаталі, ён першы распальваў сход, а пасля сюды пабег, не дачакаўшыся канца. Я шкодзіў у калгасе? Калі? Дзе? Я — ударнік і прэмію маю.

— А плугі паглуміў?

— Якія плугі?

— А гэтакія, як хоць бы і мой.

— Які гэта твой?

— Ну, мой, ну!

— Быў твой, а стаў калгасны. А табе шкада? Назад усё аглядаешся?

— Я не аглядаюся, але яго я спраўляў, а ты знішчыў.

— Пагнутую ламачыну? Я гэтым ломам, які адно за-мінаў на калгасным двары, коні пападкоўваў, бароны па-правіў...

— На гэта ёсць у краме жалеза. А гэта снасць.

— Гэта не снасць, а калецтва.

Сяргей маўчаў.

— Дык, значыцца, от які я шкоднік! Ну, пачакай жа. Цяпер мне ўсё ясна. Але чаму ён? Чаму гэтая гарбано-сая халера? Чаму ніхто іншы? Што ён да мяне мае?

— А можа гэта і не ён?

— Чаго ўжо ты перада мною віляеш?

Сяргей зноў змоўчаў.

— Ясна адно. Першае, гэта каб я Мані замуж не браў. Ён стараецца. Нагаварвае. Другое — каб мяне з калгаса выкінуць. Нашто ўсё гэта яму? Даводзіць трэба, што ў мяне хваста няма. Што я не мог быць за дыякана, бо я каталік. І нават яшчэ ў вайну да ксяндза да споведзі хадзіў.

— Ты каталік? — устрапянуўся Сяргей.— Які ж ты к чорту дыякан?

— Дай жа рады.

— А метрыку маеш, што ты каталік?

— От гэта самае страшнае. Рабочы час, і доўга шукаць яе няма калі.

Маня ўжо стаяла ў дзвярах.

— Я табе ўжо ўсё давяду,— злосна ўпікнуў яе каваль, шпарка выходзячы з сянец.

Яна памкнулася была ісці за ім, але ён быў ужо на двары. Тады яна ўвайшла ў хату і прыціснулася тварам да шыбы. Каваль быў далёка. Гукнуць яму — калі і пачуе — не вернецца. Постаць яго адразу растала ў ясным змроку.

Растрывожаная, кінулася яна на пасцель і да самага світання не магла заснуць.

Назаўтра быў гарачы дзень. Сонца пякло з самага рання, і вельмі сухое паветра было.

Кавалёвы дзеці спалі позна. Мухі бегалі па іхніх замурзаных тварыках, але дзе там было чуць гэтую навалу? Дзіцячы сон моцны.

Каваль некалькі разоў падымаў цяжкую, як жалезную, галаву. Глянуўшы на дзяцей, ён усхватваўся і адганяў мухі. Меншы хлапчук (яму было год шэсць) часта мармытаў штосьці праз сон і смяяўся. Большы (год дзевяць) спаў як камепны, падклаўшы кулак пад вуха.

Нарэшце, кавалю надакучыла ўсё: і бессань, і цяжкая галава, і мухі на дзецях. Вялымі рукамі ён зашпіліў каўнер рубашкі і пачаў доўга курыць. Цяжкія ад расы і ад кветачнага пылу канапліны заглядалі ў самае акно. Сакатала на прызбе курыца, і вераб'і глушылі раніцу. Поблізу звінеў пры студні ланцуг.

Каваль не знаходзіў месца. Ён пачаў збірацца на работу. Дастаў з халоднай печы ўчарашнюю бульбу, панюхаў: пахла кісла. Паставіў яе назад. Адрэзаў, колькі трэба, дзецям на снеданне хлеба і паставіў на стол кіс-

лае малако. І хацеў ужо выходзіць з хаты, але ў дзвярах як бы што кальнула яго.

Дзеці гэтыя, як шчанюкі, без дагляду...

Ён вярнуўся назад і лёг зноў на лаву, дзе праляжаў цалюткую ноч, ніяк не заснуўшы. Цяпер ён пачаў драмаць. Яму было цяжка паварушыцца. Як застукалі ў акно і ён усхапіўся, хлапчукі ціхом елі, здзіўлена паглядаючы на бацьку: ніколі ён так позна не спаў.

— Антон! — крычалі пад акном.— Захварэў ты, ці што? Каторая пара, а цябе ля кузні няма. Ці ты хворы, ці ты прагульшчык? Каня перакаваць трэба.

— Прагульшчык! — закрычаў каваль.— Дыякан і шкоднік заўсёды будзе прагульшчык. Зараз іду.

Ён злаваў.

— Ну, ты ідзі. Там конь прывязаны стаіць.

Каваль пайшоў і да самай кузні не сказаў ні слова. Моўчкі пачаў выбіраць падкову.

— Не думай ты гэтак, плюнь ты,— гаварыў яму чалавек. Але ён і на гэта ні слова не адказаў.

Пад поўдзень ён пайшоў у калгасную кантору. Там быў рахункавод.

— На табе ключ ад кузні,— сказаў каваль,— я сёння прагульшчык. Пайду ў горад шукаць апраўдання.

— Пашукай таксама апраўдання, што ты не быў у бандытах,— адказаў рахункавод.

— Чаму?

— Ужо сёння ўсе гавораць, што ты, як быў за дыякана, дык памагаў бандытам.

Каваль бразнуў ключ вобзем і, як вар'ят, выскачыў з канторы.

Прайшоў ён без мэты на агароды, адкуль ішла дарога ў горад, пасля вярнуўся да кузні, крыху адумаўшыся.

— Што я вельмі буду старацца. Няхай давядзе на мяне фактамі, а гэтага ніколі быць не можа.

Ён сам супакойваў сваю гарачку.

Пастаяўшы колькі хвілін зноў ля кузні, ён пайшоў да Жывіцкага ў хату. Той быў на полі. Каваль вярнуўся ў кузню і пачаў раздзьмухваць горан.

Назаўтра раніцою, як збіраўся ён на работу, у хату ўскочыў Францкевіч.

— Ці няма ў цябе зазубняў? — звярнуў раптам гаворку Францкевіч.

— Нашто табе зазубні?

— Зазубняў няма ў мяне, а сёння павінна рыба добра брацца.

— Хіба на работу не пойдзеш?

— А такі і не пайду. Вельмі ж дзень сёння на рыбу.

Раптам Францкевіч убачыў на акне зазубні.

— А божачка ж мой,— залапатаў ён, заграбаючы жменяю зазубні.— І падвойныя, і малыя, і вялікія. Во гэты на добрага шчупака. Увечары будзе рыба.

— Я ж табе зазубняў яшчэ не даю,— пацвяліўся каваль.

— Дай, браток.

— Не, не дам.

— Дай, каяцца не будзеш.

— Не дам.

— Ты ведай, з кім сябраваць.

— Я ведаю.

— Не заўсёды і ведаеш. Ты пасябраваў быў з гарбаносым Валодзькам, а ён цяпер цябе топіць.

— Не ўтопіць. (Аж кальнула кавалю ў сэрца.)

— Калі будзе мацнейшы за цябе, дык утопіць. У яго свае грахі, у цябе свае. Хто-небудзь ды перацягне. На свеце ж гэтак.

— Мае грахі вядомы, але ён свае чаго хавае? Усё адно не ўхавае.

— Як сказаць, тфу, тфу. Дай пару зазубняў.

— Ён заяву на мяне падаў, думае гэтым свае грахі замазаць,— сказаў каваль, думаючы: патраплю ў цэль ці не? — Ён думае, я нічога не ведаю?

Раптам ён убачыў, як Францкевіч, гэты лямцаваты дурань, расплыўся ўвесь у шырачэзную ідыёцкую ўхмылку і загроб сабе ў жменю ўсе зазубні.

— Забірай і забірай усе,— падвесяліў яго каваль.— Палічы колькі.

— Трынаццаць зазубняў,— урачыста заявіў Францкевіч, знімаючы шапку і ўсыпаючы ў яе зазубні. Шапку ён з вялікаю асцярогаю ўздзеў зноў на галаву.

— Грахі то грахі,— наўздагад і вобмацкам стараўся напасці на след каваль, не зводзячы вачэй з Францкевіча,— чорт яго бяры з усялякімі яго грахамі. Але адзін грашок ён не схавае.

«Што будзе — дык будзе,— думаў каваль,— заблытаюся, убачыць гэты дурань, што я нічога не ведаю, дык толькі бяды».

Францкевіч расплыўся яшчэ горш.

— Я такі адразу думаў, што табе Сяргеева Маня раскажа, раз ты з ёю, значыцца, гэтак бываць пачаў. А можа вы жаніцца і не будзеце, хто вас ведае?

Каваль ужо выразна бачыў, што на нейкі след ён напаў. Словы «Маня раскажа» прымусілі яго аж уздрыганицца. Маня штосьці ведае? Ён адзеў шапку і рушыў з хаты. Францкевіч подбегам выскачыў за ім на вуліцу.

— Слухай, Антоська,— лапатаў ён,— ты толькі мяне не блытай сюды, я тут ні пры чым. Я ведаю, ты чалавек гарачы, ты з гарачкі можаш ліха ведае чаго нарабіць. На табе твае зазубні.

— Не,— грозна стаў перад ім каваль,— ты цяпер гэтыя зазубні глынеш. Замест шчупака ты іх будзеш глытаць.

І пайшоў далей.

— Антоська,— бег следам за ім Францкевіч,— дальбог жа я тут ні пры чым. Ён мяне самога запалохвае. І лішне я каля яго не жыўлюся. Ну, ён мне быў два бараны даў, няхай яны яму праз бок вылезуць.

Каваль убачыў, што вузел пачаў разблытвацца, і ясна яму стала: не трэба нічога гаварыць, маўчанкаю можна цяпер ужо браць.

— А ты, Антоська, ліста гэтага не слухай, гэта ён, каб цябе запалохаць.

Каваль нічога не разумеў, што там за ліст гэтакі, ён нават і не чуў ніколі. Але ён, перамагаючы жаданне запытацца, што гэта за ліст такі, нібы з абыякавасцю халодна буркнуў:

— Яму гэты ліст так не пройдзе.— І памаўчаўшы: — І табе таксама.

— Антоська. Тфу, тфу. Я табе скажу — ён мяне запалохвае, а я богу душою не вінен. Я хацеў гэты ліст у агонь кінуць, а пасля сам сябе ратаваў.

— А дзе ты яго быў спачатку паклаў, гэты ліст?

— Праз акенца ў сенцы ўкінуў.

— Брэшаш!

І каваль ледзь не зарагатаў.

— То дальбог жа праўда. А калі ён быў у іншым месцы, дык можа дзеці занеслі...

— Ну, ідзі дадому, дурань,— сказаў каваль і моцна зарагатаў.

— Чаго мне баяцца, я не вінават нічога,— аж тросся Францкевіч.

Губы яго дрыжалі. Твар пабялеў.

— Ну, добра, ідзі.

І каваль завярнууся назад да хаты. Францкевіч подбегам рушыў за ім.

— Ты,— раўнуў каваль,— ты цяпер мне непатрэбен. Марш, чортава душа.

Францкевіч, абняможаны і вялы, стаў як цявіна. Здаецца, вецер яго цяпер паваліў бы.

— Высып вон зазубні і зараз жа ідзі на работу.

Францкевіч, паслушны, як дзіця, скінуў шапку, вытрас з яе на дарогу зазубні і з нейкай надзеяй, як молячыся, глянуў на каваля. «Бачыш, паслухаў цябе, высыпаў зазубні»,— гаварыў яго позірк.

— Ідзі на работу і нічога не бойся,— абнадзеіў яго каваль.

— Дзякую, браток,— сказаў Францкевіч.

«Каб я тут хоць на макавае зерне што-небудзь разумеў»,— думаў каваль, варочаючыся да хаты.

Як толькі ўвайшоў ён у сенцы, пачуў, што ў хаце нехта ёсць, бо большы хлапец нейкаму гаварыў:

— Я прачнуўся — дык таты няма ў хаце. Мусіць, у кузню пайшоў.

— А маму ты сваю памятаеш? — запытала Сяргеева Маня.

Каваль пазнаў голас.

— Крыху памятаю,— адказаў хлопец.

— А дзе мама цяпер?

— Памерла.

— А што ж ты памятаеш?

— Памятаю, як яна ляжала ў труне, а пасля яе панеслі, і я плакаў, мы з татам пасля не раз, як былі ў горадзе, хадзілі на магілу.

— А ты шкадуеш мамы?

— Шкадую.

Каваль адчыніў дзверы. Хлапец сядзеў на пасцелі, уткнуўшы твар сабе ў грудзі.

— Што, дзяцей дапытваеш, правяраеш мяне? Чаму ж мне не верыш?

— Антон, не злуй.

— Лепш Валодзьку, гэтаму гарбаносаму чорту, верыш?

— Факт заўсёды факт, хто б пра яго не гаварыў.

— Дык ты на мяне факты збіраеш?

— Я хачу, каб іх не было.

Уваччу ў яе стаялі слёзы.

— Мне дык ты адразу не паверыла, а як таму — дык...

— Я яму не верыла. Каб верыла, дык не прыйшла б з тваімі дзецьмі гаварыць.

— З ім дык ты гаворыш, а са мной — дык... Памятаеш, як увечары тады выгнала мяне вон, пры ім жа? Ну, што, сказаў табе праўду мой сын?

— Антон!

— Вядома, ты пра яго дык мне нічога не сказала. Ведаеш яго грахі, а тоіш.

Яна як адзеравянела. Яна ўстала з лавы і пачала паволі падыходзіць да яго.

— Ведаю. Усё ведаю. Яму ўсё гэта адпомсціцца.

— Раз ён на цябе нагаварыў, што ты жонку маеш, а не жывеш з ёю, дык і больш мог паклёпаў... Не бойся.

— Дурная.

— Пачакай, пачакай, я табе скажу...

— Яшчэ скажаш, паспееш яшчэ.

Ён адвёў яе рукою ад сябе і выскачыў у сенцы. Ён адразу зірнуў туды, дзе, гаварыў Францкевіч, быў кінены ім праз акенца ліст. Сапраўды, на зямлі ляжаў кавалачак паперы. Друкаваным ладам (каб не пазнаць было рукі) напісана: «Рубановіч, усё будзе добра, выедзь з нашага калгаса куды далей і жыві сабе на здароўе. Калі не — дык табе ж дрэнна будзе».

— Ну, глядзі. Яго работа.

— Не ведаю.

— Гавары!

— Праўду кажу — не ведаю.

— Ведаеш!

— Не!

— Добра, калі табе не вераць?!

Ён махнуў рукою і пайшоў. Яна пастаяла пасярод сянец колькі хвілін і пайшла следам за ім.

Яна яго дагнала пры выхадзе на вуліцу. Яна яго пачала ўпрошваць зайсці цяпер да яе ў хату.

— Зайдзі, зайдзі,— гаварыла ўсё яна.— Ты ў кузню спяшаешся? Дык табе ж па дарозе.

Яна яго пацягла за рукаў:

— Мой бацька яшчэ, здаецца, не пайшоў на работу, яшчэ яго дома захопім,— прабяры ты яго за тыя плугі, пра якія ён нейкую лухту плёў.

Як увайшлі яны ў хату — убачылі: Сяргей сядзеў белы, як палатно, пляваў раз-пораз, заўсёды абплёўваў сабе босую нагу і ўсё шмаргаў абплёваным месцам аб калошу на другой назе. Поплеч яго стаяў, як апараны, Францкевіч і ўсё пакручваўся, як на ражне. Перад імі стаяў гарбаносы Валодзька і, як Маня з Антонам увайшлі ў хату, ён так і застыў перад імі на паўслове.

— Канчай, канчай,— загадаў яму каваль.

Той азіраўся, як злоўлены воўк.

— Зубы яшчэ ўсё ў цябе баляць? А ну, пакажы.

Каваль злупіў з яго твара хустку. Той хоць бы абазваўся. Бачачы такую незвычайную з Валодзькам рэч, гэткую яго маўклівую цярплівасць, Сяргей ускочыў з месца, трасучыся, як ліст увосень.

— Дык што ж ты, сукін сын, падгаварваў мяне, каб я падаваў сваю крыўду, што каваль плугі паглуміў,— сыпануў ён да гарбаносага Валодзькі.

— Ага, дык гэта яго падгаварваў,— урачыста заспяваў каваль.

— Я... я... Я таксама... тфу, тфу...— залапатаў Францкевіч.

— Ты таксама падгаварваў? — зарагатаў каваль.

— Не, я таксама тут ні пры чым.

— А ну, расказвай усё,— загадаў каваль Францкевічу.

— Я тут магу сказаць... сказаць...

— Ну, дык і кажы.

— Значыцца... так...

Ён аж адышоўся, небарака, у кут, падбіраючы патрэбнае слова. Нарэшце такі ён падабраў гэтае слова:

— Туман быў. Туманок, значыцца.

Але ў гэтую хвіліну ціхом адчыніліся дзверы і ўсунуўся новы чалавек. Гэта быў Жывіцкі — сталы чалавек і здаровы розум.

— Дзень добры ў хату. Сяргей, ты яшчэ не пайшоў? Дык хадзем разам,— пачаў ён, але, убачыўшы людзей, расстаўленых адзін перад адным нейк дзіўна, ён сціх.

Шмат ёсць у нас такіх людзей. Гэты чалавек ніколі не вытыкаецца наперад, не хваліцца і не рызыкуе сваімі талентамі і поспехамі, не крычыць цераз галовы іншых

пра сябе, а з лёгкім сумленнем і радасцю робіць сваю справу. Ён з першага разу бачыць, дзе права, дзе лева, але ён мае звычку мерацъ усё на свой метр. Яму здаецца так: не можа быць, каб усе не ўбачылі рэчаў так, як яны ёсць. А ўжо толькі пасля, калі ўбачыць, што сярод разумных ёсць і дурні, ён не вытрымае і абзавецца, каб адным словам убіць у галаву праўду. Да такіх людзей належыць Жывіцкі. Тады на сходзе ён належаў да тых, што крычалі:

— Каваль плугоў не паглуміў, а пусціў гэты ржавы лом у вялікую карысць.

Цяпер ён сціх і падумаў: «Можа я перашкодзіў людзям што-небудзь рахавацца?»

— Туманок такі быў, тфу, тфу,— пачаў голасам як з-пад зямлі гаварыць Францкевіч.— Туманок, значыцца, тфу, тфу. Ну, туманок, значыцца, стаіць цалюткую раніцу, а я таксама сабе іду. Выйшаў я, каб не схлусіць, яшчэ поцемкам з хаты, як польская акупаца была, і туман зранку, тфу, тфу...

— Брэшаш! — раўнуў гарбаносы Валодзька.

— Браткі мае, я не магу і слова выгаварыць, я нездароў. Жывот у мяне сёння няспраўны.

— Гавары,— моцным пошапкам загадала Маня.

— Я сабе ў туманку гэтым іду, яшчэ, можна сказаць, ноч была, а не раніца, я і сам забыўся. Век чалавечы доўгі, і чалавек усё забываецца, жывучы на свеце. Тфу, тфу.

Пачалася доўгая маўчанка. Сяргей сядзеў як прысуджаны да смерці: так і не разумеў ён анічога, што тут навокал яго і ў яго хаце робіцца, а разам з тым бачыў ён, што тут нешта ідзе не на жарты.

— Выйдзі з хаты,— загадаў каваль гарбаносаму Валодзьку.

Той не рушыў з месца.

— Будзеш ты расказваць ці не? — запытала Маня.

— Лепш ты раскажы сама, не адзін жа я бачыў, ты бачыла.

— Што бачыла? Ты пра што?

— Сама ведаеш. Што на мяне аднаго ўсё ўзвальваеш? Я цёмны чалавек, а ты маладая, табе тады яшчэ год пятнаццаць можа, не больш, было, а ў мяне ўжо сівізна ў галаве была.

— А ён? — паказала на Валодзьку, таксама, як раней каваль, стараючыся напасці на дарогу.

— Ну, а яму, каб не схлусіць, было год можа дваццаць пяць якіх... Яшчэ тады да свае цяперашняе Стэфкі гуляць хадзіў.

— Дык ты бачыў?

— І ты ж бачыла, як ён паказваў польскім уланам, дзе вёска ад рэквізіцыі каровы схавала.

— Туман тады быў?

— Туманок слаўся.

— Ты ішоў?

— Ішоў.

— Раптам бачыш?

— Раптам бачу, як ён двух улан вядзе туды, а ўдзень усіх кароў пабралі і мужчынам бізуноў усыпалі.

— Брэшаш, сабака! — зноў зароў Валодзька.

— Што ён цябе сабакам абзывае,— не вытрымаў Жывіцкі.— Чаму ты маўчаў дагэтуль?

— Ён мне двух бараноў быў даў, пасля аж дагэтуль палохаў, што калі я выкажу, што бачыў, дык ён і мяне туды ўблытае: пакажа, што гэта мы ўдвух з ім падказалі. Тады, кажа, разбірацца не будуць. Я калаціўся, дрыжаў, я цёмны чалавек.

— Дык от што ты бачыў, Францкевіч? Толькі чаму ты кажаш, што я таксама гэта бачыла?

— Іду я сабе, а туман — свету не відаць, ноч. Ён з уланамі ідзе, а я быў душою невінаваты чалавек, ненаўмысля, нічога не ведаючы, нічога не бачачы, нічога ніколі не хочучы ведаць — тыц з туману проста на іх трох, каб не схлусіць — ён адзін і два уланы. Тфу, тфу. Ну, каб не схлусіць, гэта было на самым уваходзе ў лес, дзе нашы сушні ў хмызнячку стаяць. Так я і падумаў сабе, і ён таксама падумаў сабе. А ты аднекуль таксама ішла — ці думала ты што, ці не думала — я і ведаць не хацеў. Ці ты на вячорках дзе на хутарцах загулялася, ці хто цябе ведае, я супроць цябе нічога не маю і мець не хачу. І я цябе бачыў выразна, а ён таксама на цябе выразна паглядзеў. А пасля ён і на мяне яшчэ выразней пагляздзеў. Так мы адразу ўдваіх і падумалі, што не толькі я, але і ты бачыла, як ён вядзе уланаў.

— Нічога такога я ніколі не бачыла.

— Якраз туман быў, дзіва, што не бачыла,— узрадаваўся Сяргей.

— Ты не бачыла?! — закрычаў раптам Францкевіч.

— Не, не бачыла.

— Ай-яй-яй-яй! Дарэмна ж ты баяўся. Папамлеў праз колькі год!

— Гадзіна ты! — працадзіў праз зубы Валодзька.

— Дык ты думаў, што я бачыла, і баяўся, каб не выказала? Каб бачыла, дык даўно выказала б.

Дайшла цяпер чарга трэсціся гарбаносаму Валодзьку. Мусіць, ён шкадаваў цяпер, што не пайшоў з хаты раней.

— А цяпер ты мне скажы,— падступіў каваль да Францкевіча,— прычым тут я; чаму трэба, каб я выехаў адгэтуль зусім; чаму ў мяне павінна быць пакінута жонка; чаму я бандыт і дыякан?

— Ты... Ты... Я табе скажу.

— Ну, скажы.

— Ты чалавек такі: ты чалавек гарачы. Ты можаш ліха ведае чаго нарабіць.

— Як гэта?

— А от так, што нікому ў зубы не паглядзіш.

— Пра што ты гаворыш?

— Як пра што? Ты хоць у рэўкамісіі ніколі не быў, але ты летась сам з свае ахвоты знайшоў, хто бульбу згнаіў і грушы пакраў, і ў суд яго ўпёк. Хоць цябе ніхто і не прасіў. Ты чалавек заўзяты. А цяпер ты таксама, хоць цябе ніхто і не просіць, ужо другі месяц дакопваешся, дзе падзеліся хамуты і дзесяць пудоў насеннага ячменю. А хто цябе просіць? І без цябе зробяць. Тфу, тфу. Дык калі б ты, скажам, даведаўся, як, скажам, я, ці ты, ці трэці, ці дзесяты паказваў уланам, дзе каровы ад рэквізіцыі схаваны, што, ты змаўчаў бы? Факт ці не? Тфу,тфу. (Францкевіч аж расцёр свой плявок нагою, чаго раней ніколі не рабіў.) А праз каго, скажам, ты мог даведацца пра уланаў і пра каровы за акупацыяй? Тфу! Што, жонка не раскажа пра ўсе сакрэты свайму чалавеку? Раскажа, усё раскажа. Дык от і бяры, значыцца, Маню замуж. Раскажа, калі ведае, але ж яна кажа, што не ведае. Значыцца, не раскажа і аман. Я тут ні пры чым, і канцы ў ваду. Тфу!

Якая б там уся гэтая справа цяжкая ні была, у гэтым, аднак, месцы Францкевічавай гаворкі ўсе, апроч гарбаносага Валодзькі, зарагаталі. Нават Сяргей, і той засмяяўся Францкевічу:

— Ці ты дурны, ці ты хітры?

Вельмі можа быць, што Францкевіч сапраўды не

ўцяміў сабе, захапіўшыся гаворкаю, што ён ужо ўсё выкрыў, і Маня, нават каб яна ведала гэтую справу, магла б ужо нічога і не расказваць. Як бы там ні было, ён павярнуўся да гарбаносага Валодзькі.

— Не бойся,— паказаў ён яму на Маню.— Яна не ведае, дык і не раскажа Рубановічу, хоць ён яе і возьме замуж.

Зноў грунуў рогат.

— Сабака ты,— заскрыпеў зубамі Валодзька.— Ты не выкруцішся. Разам з табою мы вадзілі уланаў?

— Брэшаш! Тфу!

— Хто табе цяпер паверыць,— сказаў Сяргей да Валодзькі.

— Колькі табе уланы заплацілі былі? — не сціхаў Францкевіч, мяняючы свой выгляд.— Ці не з тае самае уланскае падзякі і тыя два бараны, якія ты мне даў? А за што ты мяне мучыў? За што ты мяне палохаў праз колькі год, што і мяне ўблытаеш і разбірацца не будуць.

— Ты быў за дыякана! — зароў Валодзька на каваля і глянуў на Францкевіча.— Можа ты гэтага не ведаеш?

— Што праўда, то праўда,— спалохаўся Францкевіч.— У горадзе чалавек расказваў Валодзьку, я чуў. Валодзька распытваў пра цябе. Памятаеш, біскуп там нейкі прыязджаў?

— Дык мне тады было шаснаццаць год, я спяваў у касцёле на хорах. А як мне было дзесяць год, дык я раз быў у гандляркі з каша абаранак украў. Аддай мяне пад суд за гэта!

Гарбаносы Валодзька пайшоў дахаты.

— Трэба, мусіць, падумаць пра цябе наконт хамутоў і ячменю,— не вытрымаў і сказаў яму ўслед маўклівы дагэтуль Жывіцкі.

Францкевіч круціўся, як на ражне. Ён то расплываўся нейкай ідыёцкай усмешкай, то рабіўся змрочны. Нешта ён цярэбіў пальцамі ў кішэнях.

— Ты, чортава душа,— загаварыў да яго Жывіцкі,— дурань ты, надобіна чартоўская! Ты ўсё віляеш на свеце, а не жывеш. Тварына ўдалася, ліха цябе ведае. Некалі ты за прыганятага падаваўся ў маёнтак да пана, а пасля зайздросціў, што панскаму лёкаю вельмі добра: зарабляе добра, і работа лёгкая — з-пад пана гаршчок выносіць. Ты ўсё лёгкае работы хацеў і зрабіўся нарэшце абібокам,

гультаём. Лянуешся рабіць, ды ўсё сабе рыбку ловіш. Ты думаеш быць разумнейшым за ўвесь свет, а гэтая твая хітрасць даводзіць цябе да таго, што ты проста несусветны дурань. На цябе глядзець агідна. Каторы чалавек гадлівы, дык ён табе рукі не падасць. На табе кожная гадзіна гатова конна ехаць. Ты гатоў усякае паскудства далонямі мясіць. Не ідзеш ты ў вялікую добрую работу, а ўсё нюхаеш, рыбку ловіш...

— У каламутнай вадзе,— уставіў слова Сяргей.

— А ты таксама,— перарваў яго Жывіцкі,— маеш вочы, а не бачыш, на чым твае ногі стаяць. Плужка твайго старасвецкага каваль папсаваў, каб цябе чорт забраў з тваім тым плугам, чортава душа.

# «СВЯТАЯ» ПАПРУЖКА

У тую восень, калі Івану Касніцкаму было шэсцьдзесят год, быў вялікі ўраджай. Жоўтыя стагі саломы стаялі за агародамі і садамі, і каля іх цяпер канчалася тая работа, што дзён дзесяць таму пачыналася тут жа, пры малатарні. Іван Касніцкі з граблямі ў руках абыходзіў стагі і беглым зіркам правяраў, ці добра ўкладзена салома. Вецер дзьмуў з чырвонага асінніку, сонца стаяла яшчэ высока.

У адным стозе Іван Касніцкі ўбачыў, што пярэбірак саломы навісае ўніз.

— Клалі, чэрці,— буркнуў Іван Касніцкі, паднімаючы граблі высока ўгару, каб згладзіць гэту няспраўнасць.

Ён пачаў збіваць лішнюю салому. Скончыўшы, ён ужо намерыўся ісці да суседняга стога, як раптам убачыў, што на абгрэбаным месцы з саломы звісае канец раменнай папружкі. Ён заблытаў папружку граблямі і пацягнуў. Як толькі ён узяў папружку ў рукі, так адразу і пазнаў яе. Гэта была даўнейшая яго падпяразка.

Касніцкі быў крыху філосаф. Ён меў некаторы нахіл зусім свядома заўважыць рух часу па зменах рэчаў. Вопратка зношвалася і падмянялася новаю, дрэвы выраталі, сцены асядалі і трухлелі. Значыцца — час ішоў. Шэсцьдзесят год прайшло, як радзіўся Іван Касніцкі на свет!

Нябожчык бацька яму расказваў пра паншчыну. Сам ён ваяваў з японцамі. На нямецкай вайне не быў, бо перарос быў ужо салдацкія гады. У 1914 і 15 гадах ён з гэтага самага месца, дзе стаяць цяпер стагі, глядзеў на бежанскі і вайсковы рух па гасцінцы. Тады яшчэ там стаялі тыя ж самыя старасвецкія бярозы, з якіх ён, будучы малым, даставаў птушанят. За вайну і рэвалюцыю

нечыя рукі навысякалі бярозы. Рукі Івана Касніцкага прыкладіся толькі да адной бярозы. Больш дрэў ён не чапаў, калі не лічыць лесу ў першы год рэвалюцыі і ліп на могільніку.

У 1930 годзе Іван Касніцкі, завёўшы свайго каня ў калгас, стаяў надвечар за сцяною пустога хлява з смуткам на сэрцы і глядзеў на выпусташаны ад дрэў могільнік і знішчаныя прысады.

«Як бяжыць і не варочаецца час,— думаў Іван Касніцкі.— Як усё зменьваецца. Няма больш ні ліп на могільніку, ні бяроз на гасцінцы. Колькі мне год ужо? Каб яны не даждалі, як яны папляжылі і ліпы і бярозы! Жыў-жыў і дажыўся». Яшчэ большы смутак агарнуў яго.

Цяпер ён трымаў у руках знойдзеную папружку і разглядаў яе. Ён гаварыў сам з сабою:

— Колькі яна год аджыла, гэтая папружка! Ох, чорт, мацунак які, старасвецкі сурамец. Толькі ў адным месцы зморшчыўся і выцягнуўся, як шнур, звіўся, як бы за што быў завязан. І клямар той самы медны! Дзе яна была, гэтая папруга? Я яе быў згубіў некалі, мусіць, год пятнаццаць (не, здаецца, больш) яе ў мяне не было. Дзе яна была? Адкуль яна ўзялася тут у саломе?

Ён разгарнуў полы пінжака і падперазаўся знойдзенай ім папружкай. Нейкі час ён яшчэ стаяў і думаў, дзе ён бачыў гэту папружку, і калі згубіў, і адкуль яна ўзялася тут, у саломе. Пасля зноў стаў падчышчаць граблямі стагі.

Ён вельмі завіхаўся. Яму рупіла хутчэй скончыць. Была адна справа, што цягнула яго ў той дзень дадому. Сказаць праўду, дык ён вельмі хацеў не ісці сёння на работу, каб самому зрабіць тую справу. Але сам калгасны старшыня сказаў яшчэ ўчора ўвечары, што направіць стагі можа толькі адзін Іван Касніцкі, самы спрактыкаваны спецыяліст і сумленны работнік. Гэта была праўда, і гэта сам Іван Касніцкі ведаў. Радасць працы вымагае, каб усё тое, што добра зроблена, было заўважана і адзначана. Касніцкі бачыў гэту ацэнку і пайшоў аглядаць стагі.

Дома было от што: Касніцкага жонка і дачка вылаталі і абгледзелі дзесяць мяшкоў. Пасля занеслі гэтыя мяшкі ў калгасны свіран, пасля трох мужчын калгаснікаў прывезлі на Івана Касніцкага двор у гэтых мяшках збожжа, прычым было вядома, што гэта першая рата за

работу па працаднях, так, прыблізна, трэцяя частка, а можа і менш таго.

Касніцкі запазніўся: стагоў было многа, і пакуль ён паправіў апошні (а стог быў здарава такі разварочаны), то сонца поўным ходам ішло на захад свой. Калі Іван Касніцкі ўскінуў на плечы граблі і вілы і рушыў ісці, цень быў яго гэтакі доўгі, што галава ўпіралася ў былы папоўскі сад, а граблі з віламі каб траха, дык дайшлі б да самай царквы.

Царква! Яна стаяла цяпер неабгароджаная і запушчаная. Хацелі ў яе ссыпаць збожжа, дык страха дзіравая — цячэ, а перакрываць, дык сцены занадта трухлявыя, не варта. Так яе і пакінулі. Касніцкі, глянуўшы на цень ад грабель, падумаў пра царкву і чамусьці адразу ўспомніў знойдзеную папружку.

— Чакай жа,— гаварыў сам сабе ён,— здаецца, я ў царкве калісьці быў без папружкі, і перад самым, здаецца, «атчанашам» у мяне паехалі былі ўніз штаны. Чакай жа, хто ж тады быў царкоўны стараста, Грамабой ці Сурвіла? От бо і не ўспомню ніяк. А можа ні той ні другі, а Сымон Габрыельчык? Чакай жа, ці быў Габрыельчык царкоўны стараста? Не, такі не быў. Дзе яму быць! Грунт слабы меў на гэта: адна карова і здохлая кабылка. Іншая справа Сурвіла або Махлак. А які-небудзь Габрыельчык ці Тодар Пошта, або хоць бы сабе і я...

Тут Касніцкі пачырванеў і змоўк раптам. Моўчкі ён ішоў хвілін з чатыры, задумаўшыся, пасля зноў загаварыў:

— Хоць бы сабе гэты Сымон Габрыельчык. Дзе яму там было за старасту... А хацеў, небарака!

Прыйшоў ён дадому, час-часом пакашліваючы, больш з прывычкі, як з патрэбы. Адчыніўшы сенцы, убачыў мяшкі і палічыў:

— Дзесяць?

— Дзесяць,— адказала дачка, расчэсваючы валасы.— Гэта першая рата.

— Першая? Гм. Хто робіць, той і мае,— спакойна сказаў Касніцкі (неспакойна ён ніколі не гаварыў).

Ён умыўся, прыадзеўся, падперазаўся знойдзенай папружкай.

— Бачыш, сваю старую папружку знайшоў,— сказаў ён жонцы.

Тая паглядзела:

9 Зак. 1144

— І зусім гэта не твая папружка, а Сымона Габрыельчыка.

— Як Габрыельчыка?

— А так што Габрыельчыка. Ён і сам зімой па кажусе ёю заўсёды падпяразваецца, і яго Павел па рубашцы.

— Што ты пляцеш! Гэта мая папружка!

— Не твая! Знайшоў чужую папружку і рад.

— Кажу табе, дурная галава, што гэта мая папружка. Бачыш медны клямар?

— Ну дык што, калі бачу? Аддай Габрыельчыку папружку.

— Сваю аддаваць? Бачыш клямар?

— То што, калі бачу?

— Успомні, авечая галава,— аж вар'яваўся ад злосці Касніцкі,— успомні...

— Што ўспомніць?

— Як я табе быў гэтым самым клямарам па галаве даў і вуха рассек.

— Калі ты мяне крыўдзіў, то мне аднолькава балела, ці біў ты мяне паленам, ці клямарам.

— Пачала ўжо!

І Касніцкі змоўк. Яго адчуванні былі цяпер такія, як і тады, калі ён чырванеў, ідучы паўз царкву. Здаецца, ён і цяпер пачырванеў. З такім настроем і пайшоў ён на калгасны двор.

Там людзей было многа. Змеркла. Захад быў яшчэ ружовы, але тут навокал усе рэчы выступалі толькі, як сілуэты: было відно толькі пад клёнамі, дзе адзін за адным у рад гарэла шэсць ліхтароў. Пад ліхтарамі на казялках ляжалі дошкі, каля іх стаялі заслоны, і некалькі жанчын канчалі рыхтаваць стол. Праз хвілін пятнаццаць калгасны старшыня запрасіў усіх садзіцца. Ясней загарэліся ліхтары (у іх падкруцілі агонь), мацней загулі галасы, і ўжо зусім не чуваць стала, як непадалёку за садамі і агародамі шэпчацца асіннік. Ліхтары асвятлялі сталы, на сталах поўна было ўсяго. Вячэра пачалася. Спачатку за вячэрай старшыня сказаў колькі слоў аб ударным сканчэнні малацьбы, сяўбы, нарыхтовак. Пасля ён адзначыў лепшых ударнікаў і майстроў работы. І ў ліку гэтых ганаровых людзей быў ён! Так проста і выразна было сказана імя і прозвішча — Іван Касніцкі!

На яго галаву падала святло з бліжэйшага ліхтара.

Над святлом, на голым кляновым голлі, навісала спакойная цішыня. Усё гэта Касніцкі адчуваў, але ўсё гэта — свет ва ўсіх яго вонкавых выяўленнях стаяў перад ім — як толькі абкружэнне чагосьці больш важнага. Насупроць Касніцкага сядзела жонка, чамусьці Іван Касніцкі саромеўся глянуць ёй у твар.

Вячэра ішла далей. Ужо было адзначана паасобнымі членамі гэтай урачыстасці наконт ураджаю, калгаснай заможнасці. Цяпер пачаліся ўспаміны.

Вядома, тут гаварылі найбольш людзі бывалыя і паважылыя. Касніцкі маўчаў. Дзіўная рэч: радасць атрымання ўдарніцкай годнасці межавалася ў яго з стараннем успомніць, дзе ён быў згубіў знойдзеную сёння папружку. Раптам з задумы вырвала яго хваля галасоў:

— Івану Касніцкаму слова. Няхай раскажа свае ўспаміны.

Касніцкі не паварушыўся, ён не быў ахвотнік гаварыць на людзях, у такіх выпадках у яго нягладка ішла гаворка. «Пакрычаць і сціхнуць»,— думаў ён, унурыўшыся. Але крычаць «Касніцкаму слова» не пакідалі. Рад — няволя, а трэба было што-небудзь адказаць. І Касніцкі сказаў, заікаючыся:

— Я яшчэ не надумаўся. Хіба крыху пасля.

На гэта ўсе згадзіліся і закрычалі:

— Слова Сымону Габрыельчыку.

Габрыельчык байчэйшы быў на слова і, разоў са два кашлянуўшы, пачаў гаварыць. Ён папраўляў на сабе пінжак, цёр далоняю каля вуха і гаварыў. Івану Касніцкаму было зайздросна: «Умее чалавек гаварыць на людзях».

— ...То я сёння атрымаў збожжа за работу. Калісьці я рабіў і не меў, цяпер я раблю і маю... З-за нішчымніцы, з-за бядноты ў хаце калатня была... А чаму, каб хто запытаў? Прызнаюся ўсім, жонку і дзяцей біў я. Злосць на ўвесь свет была, і па-сабачы жылося. Сёння тут мяне прыставілі да ўдарніцкай годнасці і назвалі выдатным чалавекам і майстрам калгаснай работы. Колькі я жыл на сабе за свой век ні рваў, то ніхто ніколі не адзначыў мае працы. Адно ўсё стаялі навокал, з самых малых год маіх, як маравыя скулы, горлы паразяўляўшы — каб як з майго мазаля пажывіцца.

«Гэта ён як бы пра мяне гаворыць»,— пякла Івана Касніцкага думка.

— ...Сказалі мне сёння тут перад усім народам, што я знатны чалавек. Вось дзе я знайшоў гэтую знатнасць. А я шукаў яе даўно, але... але не на той дарозе шукаў. К прыкладу сказаць.... Няхай на мяне Касніцкі Іван крыўдзіцца, няхай не, як сабе хоча ці як сабе яму выпадае, а я скажу проста і адкрыта. Мы з ім калісьці ўдвух разам у знатнасць лезлі. На ўсё ішлі, каб у царкоўныя старасты ўбіцца. А як жа, гонар! Ад усёй грамады чалавек выбарны. Мы плішчымся, як, шануючы вас, блыха на струп, а нас не выбіраюць — гэта, кажуць, годнасць да галетніка не падыходзіць. То мы адзін аднаму давай ножку падстаўляць. Не злавалі мы тады адзін на аднаго, Касніцкі?

— Злавалі,— прагучала ў напружанай цішыні.

— Церліся мы каля царкоўных свечак?

— Церліся.

— Панікадзіла раз спускалі запальваць, і яно адарвалася, і рэзрух на ўсю царкву пайшоў?

— Пачакай, пачакай, я ўспомніў,— ускочыў раптам з месца Касніцкі.— Ты пачакай, ты мяне не перабівай цяпер, я ўспомніў, дзе я быў згубіў сваю папружку.

— Якую папружку?

— Во гэтую, во!

Касніцкі сарваў з сябе папружку і патрэсваў ёю над сталом.

— З-за гэтай папружкі я над сабою несусветны здзек выцерпеў. Я ўспомніць не магу без сораму і болі.

Можа каб мыш дзе ў асінніку бегла, то тут чуваць было б. Твары ўсіх павернуты былі да Касніцкага.

— Перацерлася была вяроўка, і панікадзіла бразнулася вобземлю (гэта мы, як добра той Габрыельчык казаў, лезлі ў знатныя людзі, за царкоўных старастаў падвучваліся), то поп падбег з крыкам: «Колькі мужыка дурнога не вучы, то ён дурны і няўдалы». І ён ірвануў з мяне гэтую самую папружку і закамандаваў падвязаць панікадзіла. Падвязаць то мы падвязалі з табою, Сымоне, але пакуль я адышоўся к сцяне, то штаны на мне, шануючы вас, і з'ехалі ніжэй кален.

Грунуў страшэнны рогат. Не выцерпеў і сам Касніцкі.

— То гэта добра, што я цяпер магу рагатаць з гэтага. А тады? Тады ж мне на вуліцу нельга выйсці было... Гэта спрадвечная папружка. Мой бацька ёю падпяразваўся, біў ён мяне ёю, і ўсё з нэндзы і гора! З той самай прычыны

я гэтай папружкай дзяцей гадаваў і жонку шкадаваў... Усе мы, што тут сядзімо, тое самае. Марнелі мы!

Адкуль браліся ў Касніцкага словы.

— Я быў цёмны чалавек, то што, я цяпер гэтага саромецца павінен? А што я вінават быў? А цяпер я выдатны чалавек!

— Гэтая папружка,— сказаў Сымон Габрыельчык,— правісела была ў царкве год пятнаццаць. Яна там святая стала. А як медзь з царквы здавалі, то я адвязваў панікадзіла і папружку забраў. Мусіць, мой хлопец згубіў яе, стагі складаючы.

— На табе, братка, гэтую папружку, яна табе таксама належыць.

Касніцкі паклаў папружку на стол.

— Ты на яе права большае маеш,— усміхнуўся Габрыельчык.

— Хіба вы разрэжце яе на дзве аборыны,— пачуўся жартаўлівы голас,— і так падзяліце.

— Яно то можна,— Іван Касніцкі падумаў і ўсміхнуўся.— Але ж з маіх працадзён гэтулькі мець буду збожжа, што чорт яго гэтыя лапці і насіў. Што, няпраўда?

Вячэра шумна пайшла далей.

Было ўжо не рана, калі Іван Касніцкі з жонкаю варочаўся дадому. Было ціха. Неба высокае, і на ім густа зор. Касніцкі і жонка прыселі на бярвенні каля хаты. У такі час на вуліцы яны сядзелі толькі шмат год таму, калі былі зусім маладыя.

# МУРАВАНЫ СКЛЯПОК

Пра Тоню Базылькевіча прывыклі гаварыць, што ён можа варочаць горы. Вядома, гэта было перабольшванне справы. У гэтай мясцовасці нават і гор ніякіх няма, шмат толькі лесу. Так што горы не горы, а бярвенне Тоня Базылькевіч мог сапраўды добра варочаць. За сваё жыццё ён бярвення папаварочваў і карчоў папакарчаваў. Як задумаў вымураваць сабе скляпок на бульбу, то нешта з год усё каменне на полі збіраў. Нават і вялікія камяні, якія цяжка было і павярнуць, ён браў адзін. Ён быў цягавіты і працавіты. Калі ехаў, бывала, на начлег з канём, то не садзіўся на каня конна, а запрагаў у драбіны, клаў салому, а наверх плуг ці барану. І пакуль была ноч і конь пасвіўся, ён спаў на возе, а як толькі займацца пачынала на дзень, ён ужо араў. Так што пакуль людзі павыязджаюць, бывала, на поле, Тоня Базылькевіч загон і ўзарэ.

Ён асірацеў тады, калі яму было дваццаць год. Бацька і маці памерлі ў адно лета. Тоня астаўся адзін пасярод гаспадарскай няўладжанасці: трэба было і скляпок дамураваць, і падваліны ў хаце змяніць, і хляўчук новы паставіць. І ён яшчэ больш увайшоў у сваю беспярапынную цягавітасць. Ён не ведаў светлай гадзіны, думаючы толькі пра тое, што, быць не можа, зробіць ён усё, што хоча і што надумаўся зрабіць, стане калі-небудзь і спаць колькі трэба чалавеку, і на лепшым кані ездзіць.

Аднойчы, праціраючы ад пылу вочы і абліваючыся потам ад гарачыні, ён вёз дадому каменне. На вуліцы стаяў натоўп.

— Тоня! — гукнулі яму.— У салдаты збірайся, вайна!

Ён анямеў. Сэрца яго быццам упала на сваё месца

з нейкай страшэннай вышыні і зноў паднялося туды ж, каб зноў падаць. Уз'ехаўшы на двор, ён не заўважыў ні ўкопанага ўчора на брамку ў агарод новага шула, ні маладзенькай рабінкі перад вокнамі. У страшэнным смутку ён перабыў дзень, а назаўтра, яшчэ сцямна, паклікаў перакупшчыка, прадаў шмат што з гаспадаркі і паехаў за дваццаць вёрст у горад, да доктара, якому некалькі год яшчэ да гэтага вымуроўваў печы ў новым доме. Тоня быў да шмат чаго майстар, а доктар рыхтаваўся да старасці і выбудаваў сабе ўласны дом.

Доктар пазнаў Тоню, але гэта мала памагло справе: усё адно цана была загароджана здаравенная. Тоня паспрабаваў як умеў далікатна і лісліва патаргавацца. Але тут жа ўбачыў, што гэта яму не перакупшчык, і змоўк. Доктар даў яму чагосьці выпіць і сказаў прыехаць праз дзён пяць, а пакуль што ляжаць у пасцелі.

Тоня Базылькевіч пяць дзён скардзіўся на боль у жываце — і сапраўды яму, небараку, прыйшлося крута. З сям'і яго была толькі сястра, і яна ціхом плакала, шкадуючы брата.

Людзі пайшлі ў салдаты, а Тоня астаўся правіцца. На шосты дзень сястра завезла яго да таго самага доктара і там пакінула. Доктар паклаў яго ў сваю ўласную бальніцу і сказаў:

— Можна бараніцца ад салдат вачыма, жыватом, грудзьмі — чым хочаш. Выбірай, толькі не марудзь, мне часу няма.

Тоня падумаў: зачапі жывот, то працаваць не будзе як. З папсаванымі грудзьмі таксама доўга не пацягнеш. І ён выбраў вочы. Вочы ўдаліся добра, можа нават больш як трэба. Тоня пачуў ад доктара:

— Цяпер у салдаты не пойдзеш. Бачыш няважна, але, як скончыцца вайна, я табе гэтыя вочы зноў пастаўлю на месца.

Стала і глыбакадумна Тоня Базылькевіч явіўся дадому і зноў узяўся за перарваную няшчасцем работу. Бачыў ён цяпер толькі зблізку, здалёк усё было, як у тумане. З сенечнага парога ён зусім не бачыў новага слупа, пастаўленага ў агароднай агароджы; да яго трэба было прырабіць брамку. Апанованы страшэнным смуткам, Тоня пайшоў у той бок, дзе стаяў слуп. Свінні пакорпалі навокал зямлю, першая ад разгароджанага месца града была здрасавана ўшчэнт. Хлеў быў адчынен і там бы-

ло пуста — карова пайшла ў перакупшчыцкія рукі, а грошы за яе ўзяў доктар. Усё, што было набыта такой упартай працай, пайшло марна. Праўда, Тоня Базылькевіч не ў салдатах, не на вайне, але затое — і набытку няма, і вочы не свецяць. Тонеў смутак вырас удвойчы. Ён не мог адразу акінуць вокам сваёй раптоўнай спустошанасці і пачаў хадзіць з аднаго кутка сваёй сялібы ў другі, разглядаючы ўсё хворымі вачыма. Трэба было ўсё пачынаць спачатку — старацца, не спаць, мазалі націраць — набываць. І як толькі гэтая думка выясніла перад ім такі стан рэчаў, зноў устрапянулася і ажыла ранейшая цягавітасць і працавітасць. Роўна праз хвіліну Тоня Базылькевіч біў з-за вуха абухом па коллі, канчаючы агароджу. У агародзе лапушыўся гарбузеннік. На градах ляжалі гарбузы і гуркі. І хоць Тоня Базылькевіч ужо не мог са свайго месца разгледзець іх, ён усё ж адчуваў свой агарод: з яго цяклі запахі. Гэта паменшыла яго смутак. Пасля падзьмуў вецер, запахлі з-за гумен каноплі, і Тоня Базылькевіч яшчэ мацней пачаў біць абухам, поўны ўпартай волі працаваць да сёмага поту.

У гэты момант пачуўся з двара скрыпучы голас:

— Дзяндобры, пане Базылькевіч.

Пане Базылькевіч, забыўшыся на недасканаласць сваіх цяперашніх вачэй, азірнуўся і нікога не ўбачыў. Але з голасу ён пазнаў, што дзесьці ў глыбіні двара ідзе да яго мельнік Сымон Бірыла. Так і ўяўлялася Тоню, што доўгі і тонкі, як прут, Бірыла, пачухваючы пальцам шыю, шырока сцібае нагамі дзесьці яшчэ каля хатніх сянец.

— Добра здароўе! — абазваўся Тоня і, каб не траціць марна часу, зноў падняў угару абух.

— Чаго я да цябе, пане Базылькевіч, прыйшоў,— загаварыў Бірыла, працягваючы Тоню руку.

— Ну чаго?

— Тут, пане-браце, такая загваздка выходзіць, што ці не ўзяўся б ты мне малатарню паправіць?

Тоня Базылькевіч быў добры майстар на такія рэчы, і душа яго ў гэты момант устрапянулася: калі ўдзень працаваць дома, на сваёй гаспадарцы, то ўночы пры агні можна пры Бірылавай малатарні. А часамі можна і ўдзень часіну ўварваць. Адмовіцца ж ад такой работы нельга, гэта само шчасце ідзе ў рукі чалавеку, гэта

жывы заработак! Работа зробіцца, час пройдзе, а заробленыя грошы ён аберне на заняпалую гаспадарку.

— А многа ў саміх работы каля малатарні?

— Хадзем паглядзім.

Пайшлі аглядаць. Выявілася, што там трэба ўстаўляць усе кулакі, самае кола трэба перасыпаць, шасцярню зрабіць зусім новую, ды і барабан занадта ўжо нешта гайдаецца ў бакі, калі пхнеш яго рукой,— і яго трэба падмацаваць.

— Тут жа многа работы! — радасна заявіў Тоня Базылькевіч, ужо дыхаючы паветрам вялікага заработку.

— Ну, што трэба, тое зробіш.

— Гэта ж выходзіць, што, можна сказаць, палавіну малатарні трэба нанава зрабіць!

— Ну якая там, пане Базылькевіч, палавіна?

І яны пачалі таргавацца. Вытаргоўвалі спачатку па рублю, пасля па паўрубля, пасля спрачаліся хвілін пятнаццаць за дзесяць капеек. І от, нарэшце, старгаваліся. Тоня Базылькевіч пабег дадому канчаць гарадзіць плот.

— Толькі ж, пане Базылькевіч, вы не марудзьце тут мне з малатарняй, самі ведаеце — восень на носе, малаціць трэба будзе.

— Бог дасць, зраблю,— гукнуў у адказ Тоня Базылькевіч.

Да вечара ён яшчэ паспеў дагарадзіць плот, на змярканні выехаў з драбінамі і плугам на начлег, досвіткам і пакуль не ўзнялося сонца араў, пасля прыехаў дадому і пайшоў даводзіць да парадку Бірылаву малатарню. Так пайшлі дні. Тоня Базылькевіч сляпіў свае хворыя вочы ўночы пры агні, вычэсваючы кулакі. Малатарню ён упарадкаваў і пайшоў разлічацца з Бірылам.

— Я табе, пане Базылькевіч, дам цяпер палавіну грошай, а рэшту аддам увосень, як намалачу і прадам.

— Можна і так.

Увосень, пасля таго як дзень пры дні папагула спрытна наладжаная Бірылава малатарня, Тоня зноў пайшоў па грошы.

— Пачакай, пане-браце, да замаразкаў,— скрывіў набок дробную галаву Бірыла.— Мы, пане-браце, я ж кажу, сварыцца і па судах цягацца не будзем.

— Добра,— сказаў Тоня Базылькевіч.— Мне абы па судах не цягацца.

Пасля замаразкаў нападаў снег, і Тоня зноў пайшоў да Бірылы.

— А ведаеш, пане-браце,— сказаў гэтым разам Бірыла,— нешта мне, як той казаў, не выходзіцца цяпер з грашыма. Хіба ты, пане Базылькевіч, пачакай крыху. Бог дасць здароўе, то аддам, не такі я чалавек, каб на чужое кваціць.

— То вы ж, пане Бірыла, чорт што збожжа прадалі!

— Мне трэба на гаспадарскі абыходак, мне трэба гаспадарку трымаць, каб не спусціцца з яе. Я аддам, але брыдка, пане Базылькевіч, лезці да чалавека з нажом да горла. А калі чалавеку не выходзіцца, тады як?

— Тады я ў суд падам.

— У суд? А чаму гэта ты не на вайне, пане Базылькевіч? Усе ваююць, а ты дома сядзіш?

Збянтэжаны і ўстрывожаны Тоня змоўк, пасля ледзьве выгаварыў:

— У мяне вочы хворыя. Мяне камісія забракавала.

— А ці дарага гэтая камісія абыходзіцца? Можа б я свайму швагру нараіў бы, дзе той камісіі шукаць?

— Можа вы мне, пане Бірыла, усё ж такі аддасце грошы?

— Дурань ты! Ты злупіў з мяне такую цану, што... Тым часам!

— Вы не аддасце?

— Я чужога не хачу.

— Калі ж вы аддасце?

— Я на чужое не кваплю.

— Калі ж мне зайсці да вас?

— Мне чужога не трэба.

Такім парадкам прайшла і зіма, і вясна, і лета, а Бірыла ўсё гаварыў Тоню, што ён на чужое не кваціць, а калі Тоня ўзвышаў голас, то Бірыла пытаў, колькі каштуюць Тонікавы вочы. Тонік нарэшце не вытрымаў. Аднойчы звечара ён выехаў на начлег. І прыехаў у той палетак, дзе даспяваў Бірылаў авёс. Цэлую ноч ён пасвіў каня ў гэтым аўсе, а пад дзень сеў конна і разоў пяцьдзесят прагнаў каня дробным трухам туды і назад уздоўж палетка. Бірылаў авёс ляжаў, як пласт, скручаны, зблытаны і змалочаны конскімі капытамі. Тонеў конь абліваўся потам. Тоня явіўся дадому і трывожна ўзяўся за работу. Бірыла прыйшоў к яму апаўдні.

— Дзе ты сёння свайго каня ўночы пасвіў?

— На пакошы каля рэчкі.
— Чаму ж у мяне загона аўса няма?
— А адкуль я ведаю?
— Галаву зніму!
— Знімі сабе,— адрэзаў Тоня, давედзены да роспачы хворымі вачыма, Бірылам і нязвыклай справай глуму чужога ўраджаю.
— Гэта ты мне такую шкоду зрабіў!
— Што ты выдумляеш?
— Ты!
— Брэшаш! Абармот! Гад! Ашуканец! Падай мне мае грошы!

Раз'юшаны Тоня Базылькевіч хапіў даўбешку і кінуўся да Сымона Бірылы. Той ледзьве паспеў выскачыць на вуліцу. Такім парадкам яны затаілі адзін да аднаго нянавісць. Яна цяглася праз гады і ніколі не скончылася.

К канцу вайны Тонік Базылькевіч набыў у сваю гаспадарку тое, што было патрачана на вочы. Вайна скончылася, і трэба было падумаць, каб ранейшыя вочы назад вярнуць. Але на гэта зноў трэба рашаць шмат што з гаспадаркі, каб пасля зноў такім горам і бядой набываць. Яго мучыла думка пра гэта. Калі ён праходзіў па загуменню і глядзеў на зробленую ім Бірылаву малатарню, нянавісць душыла яго. Малатарня стаяла — новая, моцная, удалая, зробленая добрым майстрам з поўным сумленнем. Спакайнеў ён толькі дома, калі бачыў, што яго набытак зраўняўся з тым сваім даваенным станам, калі яшчэ Тоня не браўся за свае вочы. Тады гэтага чалавеку было мала, цяпер гэта было пачаткам уцехі. Пакрысе ж набытак стаў яшчэ падвышацца.

«Толькі вочы! Але як іх будзеш лячыць? Доктар возьме за гэта не менш, чым узяў тады, калі псаваў іх. Не, няхай яно згарыць,— падумаў Тоня,— пачакаю, пагляджу, падумаю».

Можна вылічыць, колькі яму было к гэтаму часу год. Сястру ён аддаў замуж. Трэба было самому спяшацць жаніцца, каб не сплылі марна лепшыя гады. Пачакаць яшчэ некалькі год, і гатова ўжо быць позна.

І от ён пачаў сягды-тагды даходжваць да сваёй ранейшай Насці. «Ранейшай» таму, што ўжо год за шэсць да гэтага ён меўся выбраць часіну і пасватацца да яе. Але хоць яго і мучыў смутак па ёй, гэтая часіна так і не падабралася: трэба было дамуроўваць скляпок, трэба

было вазіць з лесу бярвенне, каб зарабіць грошай на аддачу даўгоў за прыкупленую дзесяціну зямлі, трэба было і сабе прызапасіць дрэва. Многа чаго трэба было! Часамі ён тады прыходзіў да Насці, браў яе за руку, стараўся, як умеў, паказаць усялякімі намёкамі, што любіць яе, і мучыўся, што няма як яшчэ жаніцца, бо нічога ж у яго яшчэ не ўладжана.

Цяпер ужо быў і скляпок дамурован, і хляўчук пастаўлен, і новыя падваліны ў хаце, конь някепскі — можна было жаніцца і абсямейвацца, але нагадзілася новае няшчасце: к гэтаму часу ён ужо быў не проста Тоня Базылькевіч, а Тоня Дойла. От як адбылася гэта змена Тоневага прозвішча на мянушку.

Раз, у гарачы поўдзень, ён вёз з лесу даўжэзную хвою. Конь так змучыўся ў хамуце ад цяжкасці воза і ад балючай назолы аваднёў, што ў вуліцы стаў і не мог нейкі час крануцца з месца. Запараны да сёмага поту, Тоня Базылькевіч прысеў на дзеравячыну і охнуў:

— Ох, каб ты выгарала!

І пачаў выціраць рукамі лоб. Перадыхнуўшы з хвіліну, ён пачаў падварушваць каня:

— Но, малы, но! — пагукваў ён, як і заўсёды, нікога і нічога не заўважаючы навокал сябе, апроч таго, чым заняты.

— А браткі, а дойла ж ззаду вісіць! — пачуўся голас нейкага дванаццацігадовага ўрвіцеля.

— Якое дойла, у каго?

— У каго ж! У Тоніка Базылькевіча.

— Але, хоць ты падой яго,— спавагу абазваўся сталы гаспадарскі голас.

Тоня Базылькевіч азірнуўся і ўбачыў, што навокал яго аж кішыць натоўп дзяцей, а наводдалек стаіць гурт мужчын.

— А ў яго заўсёды штаны вісяць, як у каровы вымя.

Хтосьці зарагатаў, а самы сталейшы заўважыў:

— Вядома, чалавек вечна пры рабоце. Няма часу носа ўцерці, а не то, каб штаны там яшчэ падцягваць.

З гэтага моманту ўсе пачалі бачыць тое, чаго раней не бралі на ўвагу: сапраўды, у вечна занятага сваёй работай Тоні Базылькевіча штаны ніколі не бываюць на сваім месцы: крэсла абвісае да кален. І ён, з-за клопатаў, не заўважае гэтага.

Увечары пад яго акном ішла работа. Натоўпам дзеці

(а сярод дзяцей былі і не зусім дзеці: адзін з такіх «не зусім дзяцей» меў сорак тры гады, лысіну і сівыя вусы) кішэлі на Тонікавай прызбе. Кожны стараўся сапхнуць другога з прызбы пад акном, заняць яго месца, замест яго самому ўкласці губы ў шыбу і гукнуць на ўсе жылы:

— Дойла!

У першы вечар Тоня Базылькевіч яшчэ нічога не разумеў. У другі вечар ён пачаў здагадвацца, а ў трэці вечар ён ужо ганяўся па вуліцы з дручком.

— Дойла! Дойла! — аж разлягалася на ўсю вуліцу. Што ён ні рабіў, гэты Тоня Базылькевіч: і скардзіўся крыкуновым бацькам, і скардзіўся крыкуновым дзецям, і стараўся не браць на ўвагу — нічога не памагала. Даволі было яму хоць раз выйсці з цярплівасці і выскачыць на вуліцу з цапільнам ці з млёнам, крык «Дойла, Дойла!» пачынаўся з новай сілай. Так што канец вайны і рэвалюцыю Тоня Базылькевіч спаткаў ужо з як мае быць усталяванай мянушкай.

— Здарова, Насця,— сказаў Тоня Базылькевіч, хітра ўсміхаючыся. «Зараз скажу табе такое, ад чаго ў цябе закружыцца галава і затрапечацца сэрца»,— гаварылі ўсе выразы яго твару.

Насці кінулася ў вочы, што ў яго над вухам некалькі сівых валасоў. Яму кінулася ў вочы, што ў Насці занадта ўжо нешта падазроныя дзве маршчынкі каля пераносся: па адной пад кожным вокам.

Можа б пераборлівая Насця, маючы на ўвазе свае маршчынкі пад вачыма, і была б інакшая ў дачыненні да Тоні, каб ён адразу не ўзяў такога заліхвацкага тону. А то ён спачатку нейк вельмі ж нястала падміргнуў Насці некалькі разоў, пасля, думаючы ўзяць яе жартам, пекануў ёй у самае сэрца:

— Што ў цябе пад вачыма робіцца?

— Чаму, можа ў сажу запэцкалася?

— Дзе там у сажу! Раўчукі ад старасці!

Вядома, Тоня Базылькевіч, ды яшчэ і Дойла! Ён прывык бярвенне варочаць, а не далікацтва каля дзяўчыны мець.

«Якая там к чорту старасць,— думаў ён, ядучы вачыма яе локці, шыю і ногі,— такая яшчэ дзявуха, што чорт ёй і рады дасць».

Тоня падсунуўся бліжэй. Насця маўкліва глядзела сабе пад ногі. Тоня двума словамі сфармуляваў тое, што

яна апошні час адчувала. Гады праходзяць, даўно пара замуж. Можа нават хоць за гэтага самага Тоніка, які калісьці сапраўды яе любіў. Яна гэта добра ведала.

Яна яго тады таксама сапраўды такі, калі цяпер падумаць, можна сказаць, любіла. У кожным разе яна тады хацела, каб ён часцей прыходзіў, каб трымаў яе за рукі. Але як жа за яго ісці было замуж, каб ён нават і пасватаўся? Ірвацца з ім у такой нечалавечай рабоце? А не рвучыся, то навек прападзеш: пойдуць дзеці, трэба будзе іх адзяваць і карміць, трэба будзе даць ім у рукі які-небудзь спосаб жыць. Зямлі даць? А дзе яе ўзяць?

Вядома, з такой дакладнасцю Насця ніколі не думала, але атмасфера такога абмеркавання навісала, стварала пэўныя настроі і паставіла перад вачыма постаць Тоні Базылькевіча ў святле яго вечнай заклапочанасці, неахайнасці ад вечнай работы, яго няроўнай паходкі, як быццам яго ногі былі так натруджаны, што на іх і стаяць спрытна ўжо нельга. Так дваілася Тонева постаць. Чым больш да яго гарнулася душа, тым больш паміж імі вырастаў парог. І, нарэшце, Насця пераканала сябе: нічога не павінна быць у яе з Тонем. А тым часам Тоня не пасватаўся, і так усё ўсталявалася. Аднойчы за Насцяю пацягаўся крыху нейкі заезджы семінарысцік. І гэта надало яе думкам выразны паварот: прыгажосці сваёй яна ніколі не будзе губіць з Тонем Базылькевічам. На свеце ёсць настаўнікі, чыноўнікі на пошце. А то яшчэ падкруціўся малады ляснічы і пачаў на яе прыглядацца. І хоць ён быў проста-такі непрыемны на выгляд (дзюбасты нос і барада як прыпек у добрай варыстай печы), але ж затое ён ляснічы! Ён падараваў ёй два флаконы духоў — «Резеда» і «Букет моей бабушки». Дзе ўжо там было небараку Тоню ўлазіць у гэтую «резеду».

Цяпер Тоня шапнуў Насці:

— Нагніся, Насця, нешта скажу на вуха.

«Зараз нагнецца, я скажу, каб ішла за мяне замуж, яна, мусіць, будзе маўчаць, я абніму яе, тады яна прыцісненца да мяне, і скончан увесь інтэрас». Так думаў Тоня Базылькевіч. А тым часам Насця і сапраўды як бы пачала нахіляцца да яго, але толькі на тое, каб угледзецца ў яго валасы над вушамі і сказаць зусім не такім тонам, якім ён гаварыў ёй пра маршчыны пад вачыма:

— Ты калі ў люстэрка глядзішся ці не?

— Чаму ж не, гляджуся.

— То ты, мусіць, ведаеш, які ты стаў дэраш?

Тоня раптоўна адшатнуўся ад Насці, уставіўшыся вачыма ў аконную шыбу. Так ён адчуў паміж сабою і Насцяй холад. Насця была злосная, але менш за ўсё на Тоню. Злосная яна была на сваё дзявоцтва і на першыя маршчынкі пад вачыма.

Яны сёе-тое гаварылі, найбольш маўчалі. Такі паганы стан цягнуўся з гадзіну. Нарэшце Тоня адкінуў усе жарты ўбок і ціха выгаварыў пра свае намеры. Злосная Насця падумала: «Некалькі год ты і носа не паказваў, а гэта так, адразу». Можа яна хацела яго толькі памучыць, каб пасля даць яму згоду. Гэта не так важна. Важна тое, што яна адсекла яму адразу:

— Як жа я пайду за цябе? Ты ж цяпер ужо Дойла. Хочаш, каб мяне Дойліхаю дражнілі?

Тоня быў зняважан да канца. Ён устаў і сказаў:

— Як быццам ты без мянушкі! Разяда! Цябе ж усе і завуць так з-за тых тваіх смярдзючых духоў, якімі ты ўсім некалі хвалілася. Стаўбуней сабе ў дзеўках, разяда аблезлая.

І пайшоў са смуткам па ёй і па сабе. Яна адчувала сябе не лепш.

Страшэнны смутак мучыў яго доўга, але не ён пачаў абуджаць і варушыць думкі. Паварот справе дала новая мянушка. Праўда, яна была дадзена не самому Тоню, а яго каню. Але выгаварвалася заўсёды ў спалучэнні з Тоневай мянушкай, а гэта было яшчэ горш. Аднойчы, святочным днём, Тоня сядзеў адзін на сваёй прызбе і думаў: «Пайду зараз да Насці, адкрыю ёй душу, годзе мне мучыцца». Ён быў як прыглушаны. З яго думак не сыходзіла Насця, адзетая ў белае — такую ён бачыў яе неўзабаве да гэтага моманту. Тым часам з выгану цягнуўся дадому Тонеў конь. Тоневы вочы, не лечаныя да гэтага часу, зусім аслабелі. А конь яго быў белы, так што Тоня не распазнаў, што гэта такое белае мільганула ў яго перад вачыма пасярод вуліцы. І язык яго выгаварыў на ўсю вуліцу тое, што гняло яго сэрца.

— Здарова, Насця! — гукнуў Тоня, махнуўшы шапкай свайму каню.

На суседняй прызбе грунуў рогат і не сціхаў можа з гадзіну. Некалькі вышчараных вусастых рыл тут жа рушылі да Тоні і, зазіраючы ў яго акамянелы твар, рагаталі бесперастанку. Найбольш стараўся мельнік Сымон Біры-

ла. Той аж бокі драў сабе з рогату. Можна было бачыць, што мельнік знайшоў тут сабе чаканую праз гады ўцеху. Памучыўшыся з паўгадзіны, анямелы Тоня ўстаў і, не ведаючы дзе дзецца, паспрабаваў яшчэ пашукаць разрыўкі ў рабоце. Ён сеў на свайго каня і паехаў на ім назад на выган. Але як толькі ён выткнуўся на кані са свайго двара, з-за шула вылезла Бірылава вусатае аблічча і аж заенчыла на ўсю вуліцу, захлёбваючыся рогатам:

— Дойла на Насці едзе!

Тоня з усіх сваіх сіл разануў рэменем па ні ў чым не віннай конскай галаве.

З гэтага моманту Тонікавага каня празвалі «Насця», а ў Насці пад акном у той вечар крычалі:

— Насця! Насця!

— Гэта ж яе імя,— гаварылі сталейшыя людзі, але нічога не памагала. У гэтым і была ўся музыка, што імя ператварылася ў мянушку. Даволі было Насці выйсці на вуліцу, як адкуль-небудзь чуўся крык:

— Насця!

Праз некалькі дзён яна прыбегла з плачам, злосцю і крыкам да Тоні, але ён затупаў нагамі і прагнаў яе, не пусціўшы нават і на ганак. Моцна плачучы, яна пайшла назад на вуліцу. Штосьці зварухнулася ў яго сэрцы, і ён следам за ёй паказаўся з двара. Напэўна, ён хацеў ужо вярнуць яе назад, але ў гэты момант недзе з-за вуглоў галасоў пяць залямантавалі:

— Дойла! Насця! Дойла! Насця!

Тоня рвануўся назад у двор, схвастаў ламачынаю свайго каня і з енкам «божа мой, божа, да чаго я дажыўся» зачыніўся ў адрынцы і пралежаў там на саломе з паўсутак. Ён глядзеў у цёмную страху і думаў пра сябе і людзей. Паканчаліся войны, прайшлі рэвалюцыі, людзі паварочаліся з франтоў, былі партызанамі, пазаслужвалі ордэны, пажаніліся, гадуюць дзяцей, пайшлі вучыцца. Зараз два сыны Тоневага суседа будуць дактарамі, а ён... Нават Насця, колішняя дарагая Насця, плача і скардзіцца, што ён прычыніўся да таго, што яе імя ператварылі ў мянушку.

Тоня ўсхапіўся з саломы і выскачыў на двор. Работа валілася з яго рук. На чорта рабіць. Трымаючыся абеуруч за галаву, ён пайшоў у глыб двара. Там важна стаяў сабе пад сваёй страхой даведзены да поўнага ладу мураваны склепок. Здавалася, што нават і страха яго служыць па-

заліхвацку набакір. Каб ён быў выгараў, гэты скляпок, уся гэтая драбяза, якая жыццё глынула і шчасця не дала! Тоня ўбег у хату і кінуўся да люстэрка. На яго глянуў аброслы, каравы твар, злямцаваныя валасы, сарочка чорная, як скаварада.

«Якое дзіва, што Насця не горнецца да мяне!»

Яму стала праціўна ўсё, работу ён зненавідзеў, корпаўся на ёй нехаця, абы не пайшло ўсё марна. Тоня хадзіў як атручаны.

Кончылася восень, усталёўвалася зіма. Тоня Базылькевіч яшчэ ніколі не меў такога суму. Ён не мог вытрымаць у адзіноце свае хаты. Ён усё часцей і часцей заглядваў у люстэрка, праз кожныя дзён чатыры пачаў брыцца, вечарамі, прыадзеўшыся, выходзіў на вуліцу. Праўда, ні да якой кампаніі ён не прыставаў: ён быў старэйшы за ўсіх тых, што збіраліся вечарамі гуляць, і яшчэ баяўся, што сярод хлопцаў знойдуцца тыя самыя крыкуны, што могуць абсмяяць яго мянушкай. Папацёмку ён праходзіў некалькі разоў з канца ў канец вуліцу, па шмат разоў спыняўся супроць Насцінай хаты, стараючыся разглядзець праз асвечаную з сярэдзіны шыбу, што там робіцца і чым занята Насця.

Аднойчы, стоячы так пасярод вуліцы і прыглядаючыся да акон Насцінай хаты, ён пачуў недзе як бы нейкі трэск. Было падобна, што дзесьці, не зусім далёка, ломяць дзверы або трашчыць так што драўлянае. Гукі ішлі як бы з глыбіні Бірылавай сялібы (Бірыла жыў праз некалькі хат). Вядома, каб гэта калі-небудзь раней, хоць бы тады, калі дамуроўваўся пакрысе скляпок. Тоня аніяк не ўзяў бы на ўвагу нейкага там шуму з Бірылавага двара (нават і з чыйго-небудзь іншага). Цяпер жа трэба мець на ўвазе тое, што рабілася з гэтым чалавекам. Ён быў як бы ў атмасферы нейкага рэзруху. Так бывае ў доме, з якога толькі што вынеслі хаваць нябожчыка. У гэтыя дні Тоня Базылькевіч нават раз зранку, толькі што ўстаўшы, трымаючы ў руках збанок з вадой, каб прамыць твар і вочы, ні з сяго ні з таго высвістаў раптоўна разоў тры кракавяка, чаго з ім ніколі за ўсё жыццё не было. Трэба думаць, што думкі яго так ішлі навалай, што ён сам не заўважыў свайго кракавяка, прынамсі, ён хвілін тры прастаяў у акамянелай позе са збанком у руках. Цяпер ён, чуючы нейкі падазроны трэск дзесьці ў нетрах Бірылавай сялібы, падаўся адразу туды. Ён ясна ведаў,

што асабіста яму няма ніякай справы да гэтага. Але тут можа быць так: там робіцца што-небудзь важнае — можа крадуць што, ці так што падобнае. Тады ён, даскана дазнаўшыся пра гэта, кінецца туды, дзе гуляюць хлапцы і дзяўчаты. Уся кампанія пойдзе туды — і от ужо Тоня Базылькевіч натуральна ўвайшоў у гэтую кампанію. Само сабой выйдзе так, што ён астанецца там. І, напэўна, такая яго ініцыятыва ў гэтай справе зробіць тое, што ніхто не гукне на яго мянушкай, ніхто не будзе пытацца, чаму гэта ён раптам пачаў шукаць кампаніі, цягнуцца да моладзі, прыглядацца да дзяўчат, хадзіць вечарамі па вуліцы. Тоня выйшаў на загуменне і пералез цераз Бірылаў жардзяны плот. Клён стаяў голы, сухое бадылле на ўзмежку растапырвалася ва ўсе бакі і чаплялася за ногі. Па няроўнай мёрзлай зямлі пустога капусніку Тоня Базылькевіч падышоў да самага Бірылавага гумна. У гумне гарэў агонь. Тоня ўставіў вока ў шчыліну — мала што ён мог разгледзець так сваім хворым вокам. «Няўжо зладзеі будуць паліць агонь?» Ён абышоў навакол гумна і падышоў к дзвярам. Яны былі зачынены, але ў іх у адным месцы быў выламан кавалак дошкі. Тоня глянуў праз дзірку ў сярэдзіну. Доўгі, як жэрдка, Бірыла стаяў непадалёк ад дзвярэй, пры левай сцяне, і штосьці калупаўся ў малатарні. «Сам гаспадар, якое дзіва, што...» Тоня плюнуў і пайшоў назад. Але не ступіў ён і трыццаці крокаў, як шкрабануліся дзверы, святло пабегла ў шчылінах сцен, пасля пайшло палосамі па зямлі. Бірыла ішоў пад паветак, у манеж, дзе ўпрагаліся ў малатарню коні. Раптам зноў пачало трашчаць дрэва, Тоня прытуліўся к сцяне, падышоўшы бліжэй. Ліхтар асвятляў вычасаныя каліcьці ім, Тонем, кулакі, шасцярню яго ж уласнай работы, вал. Бірыла разварочваў шасцярню, пасля пачаў выбіваць кулакі і расколваць кожны напалам сякерай. Здзіўлены Тоня хацеў спачатку запытаць, чаму гэта ўсё самім гаспадаром робіцца, але старая закаранелая нянавісць паміж ім і Бірылам не дазволіла яму загаварыць. Так ён і пайшоў назад. Было позна, хлопцы і дзяўчаты разыходзіліся. Тоня пераходзіў вуліцу ўпоперак, да сваёй хаты. Трое хлопцаў перанялі яго на дарозе:

— Тонік, дзе ты быў гэта?

— От быў.

— Недзе да дзяўчат ходзіш і нам не кажаш?

— Вы мне таксама не кажаце, хэ-хэ.

— Ну бывай, Тонік.

Яны пайшлі. Тоня падумаў: «Што ж, я ім і сапраўды як бы не сказаў нічога. Можа яны і някепскія хлопцы. Але што ім сказаць?» Тут ён гукнуў ім наўздагон:

— Эй вы, ведаеце што? (Тыя сталі. Тоня падышоў да іх.) Бірыла малатарню сам сваю ломіць.

Адзін хлопец сказаў:

— Сам сваю? От дурань, няхай бы лепш табе аддаў, гэта ж твая работа, а ён табе не заплаціў.

І ён зарагатаў. Тоня абазваўся:

— Не заплаціў, халера.

Другі хлопец здагадаўся:

— Хадзем глянем.

Усе пайшлі і, чыркаючы запалкамі, убачылі паламаную малатарню.

Назаўтра к Тоню явілася сельсавецкая камісія.

— Хадзем, Тоня.

— Куды?

— К Бірылу ў гумно.

— Чаго?

— Як чаго? Ты ж сам агледзеў, а цяпер «чаго».

Бірыла так загаварыў пра ўсё гэта:

— Каб так ліхі на свеце жыў і быў, як гэты Дойла бачыў, што я ламаў малатарню. Каб сваё ды ламаць?

— Цяпер гэта не тваё ўжо. І сам ты тут доўга не будзеш. А за тое, што псаваў, пойдзеш пад суд.

— Я не ламаў.

— От жа сведка.

— У гэтага сведкі вочы не свецяць. Ён на мяне ў злосці. Ён сваімі вачыма не мог бачыць. Гэта ж Дойла. Дойла дурны!

— Добра, так і запішам у акт, што зняважаў мянушкай таго чалавека, які выкрыў злачынства. І за гэта судзіць будуць. Нічога, Тоня, наплюй, не зважай. За гэта суд упячэ.

«За знявагу Тоні Бірылу будуць судзіць?»

Тоня аднак не ўзяў гэта на ўвагу. Сапраўды, гэта нябывалая рэч! Паверыў ён толькі тады, калі праз некалькі дзён паклікалі яго пацвердзіць тое, што ён сапраўды бачыў, як Бірыла ламаў малатарню і як пасля аблаяў яго мянушкай.

Тоні не было, калі раскулачвалі, судзілі і высылалі

Бірылу. Тоня ў гэты час ляжаў у бальніцы. Вечарам таго дня, калі ён пацвердзіў свае паказанні пакопт Бірылы, больш ы яшчэ, як калі, сум агарнуў яго. Уся справа была ў тым, што ён цяпер, можна сказаць, з гэтага вечара сам глядзець пачаў на сябе як бы звысоку. Смутак часамі ападаў да лёгкай журбы, пасля зноў даходзіў да найвялікшага гарту.

«Колькі год я пражыў на свеце? Гадамі сваімі — ці таварыш я маладым знаёмым людзям? Дзе ж дзелася маладосць? Мураваны скляпок з'еў яе?»

Тоня пачаў дзейнічаць. Ён ледзьве прычакаў канца ночы. З самага ранку рушыў ён у горад. Явіўся ў бальніцу, паказаў вочы.

«Чорт яго забяры ўсё, з скляпкамі, з хлевушкамі, усё спушчу, а вочы направлю. Хоць адной хібай будзе ў мяне менш»,— так думаў Тоня ў той момант, калі доктар даследаваў яго вочы.

— Можа якую суму трэба ўнесці ў бальніцу, то я магу,— сказаў нарэшце Тоня доктару.

Доктар зірнуў на Тоню:

— А вы што, багаты?

— Які там багаты! Але вочы каб як вылечыць.

І Тоня паказаў сваю даведку з сельсавета.

— Можаце свае сумы трымаць пры сабе,— усміхнуўся доктар.

Тоня ляжаў у бальніцы чатыры месяцы. Вярнуўся ён дадому тады, калі малады калгас наладжваў сваю работу.

Увосень трэба было малаціць. Пасля Бірылавых рук малатарню нельга было пускаць. Трэба было намалаціць жыта і пасеяць, усё трэба было рабіць скора. Тоня ўзяўся направіць малатарню за тры дні. Яму далі падручных памагатых.

Тры дні і тры ночы Тоня не пакідаў работы. Можна сказаць, ён і не спаў гэты час. Так не стараўся ён некалі і каля мураванага скляпка. Вочы яго свяцілі добра, і ён спрытна вычэсваў і выгаблёўваў дрэва. Адвячоркам, скончыўшы работу, калгаснікі сыходзіліся глядзець, ці сапраўды будзе зараз гатова малатарня. Кожны бедаваў, што работа можа зацягнуцца. Многа людзей з надзеяй паглядалі на Тоню — калі зробіць, то вельмі будзе добра, выратуе ўсіх.

Позна ўвечары трэцяга дня месяц стаяў над паплаўным туманам. Тоню хацелася выйсці туды, на агароды,

цераз гэтыя шырока расчыненыя дзверы: агародамі вяла найкарацейшая сцежка дадому. Газа ў лямпе выгарвала. Кнот пагарэў і куродымеў. Гэта вельмі вялікая работа стомленаму чалавеку — ісці браць з кута бляшанку з газай, наліваць у лямпу, закручваць. Няхай тухне!

У той якраз момант, як патухла лямпа, Тоня Базыль-кевіч, разглядаючы пры месячным святле кола над шасцярнёй, стаў на лескі, прыставіў і ўвагнаў абухам апошні кулак. Малатарня гатова!

Ніколі яшчэ не было такой радасці. Цяпер можна з гонарам заявіць усім людзям. Заўтра ўсе ўбачаць.

Ледзьве цягнучы ад стомы ногі, Тоня павалокся сцежкай дадому. Здалёк была відна ад двара сцяна Насцінай хаты.

«Можна і праз Насцін двор прайсці. Там выйду на вуліцу, а там і дадому».

У Насціным двары ён спыніўся.

«Можа зайсці? Цяпер жа ў мяне мянушкі няма. І яе імя цяпер не мянушка, а імя, сапраўднае, чалавечае».

Ён увайшоў у хату.

— Скончыў, гатова! — сказаў ён замест «добры вечар».— Ледзьве ногі валаку. От бо працы было! Смага мяне мучыць.

— Пачакай, братка, садзіся. У мяне квас на вішнях. Я табе зараз...

Насця хапіла збанок і выскачыла ў сенцы.

— Рукі памыць, ці што,— сказаў Тоня і з конаўкай вады выйшаў на двор.

Туман плыў над агародамі, паплавамі, цераз платы і садавыя дрэвы. Месяц стаяў высока.

— На ручнік,— зашаптала Насця.

Яна ўся абліта была малочным святлом.

# ФЛЁРКАВЫ СЛЁЗЫ

Тут, дзе канчаліся аўсы і пачынаўся дробны ўзлесак, палявая дарога рабілася зусім вузкая. Яна пазарастала травой, уваходзіла ў кусты. Коні, якія пасвіліся, хадзілі і па ёй. Пад яе каляінамі расла мяккая сіняватая трава, яна вельмі добра жавалася старымі зубамі гнядога каня. Гняды памахваў сабе хвастом, чухаў аб цвёрдую зямлю свае рыжыя зубы і грыз.

А Флёрка сядзеў зусім блізка пад ядлоўцавым кустом і ад таго, што не было яму чым заняцца, пазвоньваў цуглямі. Трохі раней было весялей. Сам дзядзька Тамаш пасвіў сёння ўвесь калгасны табун, а пры дзядзьку Тамашу заўсёды весела. Чаго ўжо ён ні нарасказвае, можна бакі падарваць з рогату, слухаючы гэтага дзядзьку. Паслухаць яго прыбег сюды і Флёрка, разам з усімі іншымі хлапчукамі. Гэта было да паўдня, а цяпер дзядзька Тамаш пагнаў коні дадому: пачыналася работа. А трое коней — дзве жарэбныя кабылы і старога Гнядога — ён пакінуў і сказаў Флёрку паглядзець іх, пакуль ён прышле дзеда Паўла. Кожны дзень дзед Павел вазіў на Гнядым малако ў кааперацыю; Гняды толькі і быў ужо на такіх дробных работах. Ці каму ў млын трэба, ці каму саломы прывезці з калгасных стагоў, ці гліны прывезці з гліншчаў — толькі на гэта служыў Гняды. Ён ужо адпрацаваў свой малады век, і яму цяпер не давалі цяжкай работы.

Разам з Флёркам асталіся тут яшчэ некалькі хлапчукоў, яго аднагодкаў. Яны паразыходзіліся па балоце шукаць птушыных гнёздаў. Знойдуць гняздо, пазабіраюць птушанят, а пасля пакідаюць у траву або ў ваду. А над імі лёталі і плакалі балотныя птушкі. Енчылі па сваіх дзецях кнігаўкі-чубайкі, моцна крычаў у вялікай жальбе бакас, і нейкая жоўценькая даўганосенькая птушка, малая

і рухавая, клікала ўсё сваіх загінуўшых дзяцей: «Пі! Пі-і-і!»

А яе дзеці былі блізка, чулі матчын голас, але не маглі абазваццa ёй, бо ўжо цяжка было ім дыхаць: адно з іх сядзела ў цеснай жмені вясёлага Мішкі, а другое задушвалася пад купінай у вадзе. Хлапчукі ўсё хадзілі і хадзілі па вадзе, а Флёрка ўсё сядзеў і сядзеў пад кустом. Яму думалася аб тым, што ўчора бацька набраў корту ў краме і да нядзелі маці пашые яму новую рубашку. А старэйшаму брату Міхалку такую самую рубашку пачалі ўжо шыць. І дзед Павел зараз прыйдзе пасвіць коні, і тады льга будзе бегаць з усімі па балоце. А цяпер як жа пакінуць коні? Каб не тыя дзве кабылы, то Гнядога можна было б пакінуць аднаго, ён нікуды далёка не зайшоў бы. Гняды ўжо зусім стары конь, гэта кажуць і дзядзька Тамаш, і дзед Павел. Гняды — спакойны конь. Ніколі ён не брыкаецца, і можна смела пралазіць заўсёды ў яго між пярэдніх ног, можна на яго ўзлазіць, упіліўшыся за хвост і ўспаўзаючы ўверх па задніх нагах. А ён сабе стаіць ціха і толькі вушамі варушыць.

— Гэты конь спакойны, як свіння,— сказаў быў раз дзядзька Тамаш. І гэта вельмі было спадабалася іхняму Міхалку. Тады Міхалка быў яшчэ меншы.

— Гняды спакойны, як свіння,— сказаў тады раз Міхалка ў гаворцы з сваімі сябрукамі.

І ўвесь той дзень хлопцы дражнілі Міхалку свінячым канём.

— Конь ты свінячы! — гукалі яны на яго.

А ён злаваў і ганяўся за імі. Пра ўсё гэта думалася цяпер Флёрку.

— Ага, ага, ага, ага! — закрычалі на балоце хлопцы.

Флёрка ўсхапіўся з-пад куста, зазваніў цуглямі і азірнуўся. Па балоце хлопцы гналі двух сабак. Сабакі на ўвесь дух імчаліся, падтульваўшы хвасты, а хлопцы ўсё гналі ззаду, толькі ржавая вада і чорная гразь пырскалі з-пад ног.

Проста на Гнядога беглі сабакі. Гняды падняў галаву, натапырыў вушы і, калі сабакі скочылі яму пад самыя ногі, кінуўся ў аўсы. Гняды даскочыў да куста шыпшыны ў аўсе, а там драмаў заяц. Перапалоханы заяц падскочыў угару пад самай мордай Гнядога; спуджаны Гняды кінуўся ўбок і драпануў аўсамі, куды вочы глядзелі.

Флёрка кінуўся ўслед за Гнядым.

— Гняды шкоды наробіць! — закрычаў ён. І бег моцна, і ўсё паглядаў то на Гнядога, то на зайца, што ўжо ледзьве відзён быў за шыпшынавымі кустамі.

— Косенька, Гняды! — крычаў Флёрка.

Конь дабег да канца палетка і стаў. Старыя ногі яго вельмі забалелі, і займала дух ад такога перапуджанага бегу.

— Косенька мой, косенька,— крычаў Флёрка і, падбегшы да косенькі, хацеў узяць яго за грыву, а той, напалоханы, пабег далей, стукнуўшы нагою Флёрку. Флёрка ўпаў на мяккую зямлю, але тварам ткнуўся ў нейкую сухую ламачыну, мусіць, корань ад нейкага зелля, і рассек сабе твар каля вуха. Моцна яму забалела, і пацякла кроў, і ён закрычаў.

— Флёрку Гняды забіў! — крыкнулі хлопцы, падбягаючы ўжо зусім блізка.

Флёрка ўсхапіўся, выплюнуў з рота зямлю, абцёр кроў з твару і пабег з крывавай пісагай каля вуха за Гнядым.

Усё таксама плакалі па дзецях балотныя птушкі; перад ім узляталі вароны, а ён бег усё, бег, размазваючы пальцамі кроў каля вуха.

Хлопцы злавілі Гнядога каля рэчкі.

Флёрку дома абмылі твар і абвязалі хусткай. Ён адразу павесялеў і нават пайшоў гуляць на вуліцу. А ўначы яму снілася, што ляжыць ён пасярод двара, а Гняды рве яму твар зубамі. Ён доўга не мог прачнуцца і доўга так мучыўся ў сне. Прачнуўся ён са злосцю на Гнядога і з нянавісцю да яго. Ён выйшаў на вуліцу, а там ужо былі ўсе тыя, што ганялі ўчора па балоце сабак і разбуралі птушыныя гнёзды. Тут быў Варывончыкавых Сцёпка, той самы, што за некалькі дзён да гэтага ўкінуў у студню здохлага крата. Быў і Віцюк Жаброўскіх, майстар выбіваць шыбы ў вокнах. Быў яшчэ і Мішка Казлоўскі, які пазаўчора цвяліўся праз плот з Тамашовым сабакам, не бачачы, што ў плоце паміж каламі дзірка. Сабака выскачыў праз дзірку і адарваў яму зубамі калошу ў портках. Адным словам, цяпер на вуліцы кампанія сабралася не абы-якая.

Флёрка падышоў да гэтых хлапцоў. Усе абглядзелі Флёркаў твар, пагаварылі пра ўчарашняе здарэнне. Флёрка расказаў ім пра свой сон. Ён так сказаў:

— Мне снілася, што гэты Гняды, каб ён здох, ірве мяне зубамі за твар.

— Гэта брыдкі конь, ён вельмі ляны,— сказаў Сцёпка.

— Да работы дык ён ляны, а брыкацца дык ён майстар,— сказаў Віцюк.

— От ліха на яго, хадзем дамо яму,— сказаў Мішка.

Усе яны адышліся пад кляны і пачалі шаптацца. А пашаптаўшыся, яны пайшлі ў сад, знялі тры тонкія падпоркі з-пад яблынь і падаліся пад стайню. Дзед Павел толькі што прыехаў на Гнядым з кааперацыі, распрог яго і паставіў да жолаба. Учатырох яны ўвайшлі ў стайню. Флёрка астаўся стаяць каля сцяны, а тыя ўтрох зачынілі дзверы, адцягнулі Гнядога ад жолаба, прывязалі да слупа і пачалі моцна біць яго прутамі. Білі яго па галаве, па рэбрах, па жываце. Гняды кідаўся ва ўсе бакі, ірваўся з прывязі, а яны ўсё білі яго.

— За што вы яго б'яцё?! — закрычаў раптам Флёрка, кідаючыся да іх.

Яны паапускалі пруты і спачатку быццам са здзіўленнем глядзелі на Флёрку. Пасля паглядзелі на Гнядога. І яны ўбачылі, што ён сочыць сваімі вялікімі вачыма за кожным іх рухам.

— Косенька мой, косенька,— прагаварыў раптам Флёрка.

— А ён жа цябе ўчора на зямлю паваліў! — заікаючыся, крыкнуў Мішка.

— Косенька, косенька,— не сціхаў Флёрка, падыходзячы да Гнядога.

Усе ўтрох паглядзелі на каня і зноў убачылі яго вочы. І ім здалося, што гэтыя конскія вочы пранізваюць іх навылёт і ўсюды будуць бачыць іх, дзе б яны ні былі. Яны перавялі свае вочы на Флёрку, а той ужо гладзіў Гнядога па шыі. Саромеючыся глядзець адзін аднаму ў вочы, яны, адзін за адным, выйшлі з стайні. Яны адразу разбрыліся хто куды, каб не быць разам.

Флёрка астаўся каля Гнядога. Ён яго паставіў на ранейшае месца пры жолабе, выйшаў, набраў свежай канюшыны, паклаў у жолаб і стаў глядзець на яго. Гняды не еў. Флёрка прыўзняўся на пальчыках і пагладзіў Гнядому лоб. Гняды не еў.

Тады Флёрка прытуліўся тварам да белых дошак новага жолаба і горка заплакаў.

# ЯК ДЗЯДЗЬКА ТАМАШ НАПАЛОХАЎ ВАЎКОЎ

## I

Добра было ў раннюю восень у калгасе. З поля прыбралі багаты ўраджай, сеялі жыта. На адным палетку яшчэ ляжалі снапы позняга аўса. На паплавах гатова была да касьбы атава. Яшчэ цвілі позніл палявыя кветкі, а на месцы тых, што адцвілі ў канцы лета, даспявала і сеялася на зямлю насенне — чорныя, шэрыя і жоўтыя зярняты, якімі так любяць ласавацца дробныя птушкі: шчыглы, чыжы. І нават шустры верабей, які прывык да сытай пажывы дзе-небудзь на калгаснай стайні, гумне ці свінарніку, вылятаў за сады і агароды і весела раздзёўбваў у густым зеллі спелыя галоўкі з зернем. Павучкі пплялі белае павуцінне, яно лётала ў паветры і чаплялася за траву і галлё. Гэта была адзнака таго, што доўга будзе стаяць яснае надвор'е.

Вечарамі ўзыходзіў поўны месяц. Спачатку ён быў чырвоны і стаяў нізка над зямлёй; здавалася, што ён ляжаў на прырэчных кустах ядлоўцу, крушыны і алешыны, у тым месцы, дзе на высокім беразе быў высечан лес. Пасля месяц узыходзіў вышэй, рабіўся жоўты, а калі паднімаўся высока, зусім бляднеў і такі белаваты быў ужо да самага канца ночы. А начамі павяваў здаровы і прыемны халадок, яго баяліся надакучлівыя камары, яны не лёталі і не кусаліся, а сядзелі абмярцвелыя ў шчылінах і пад лісцямі.

Увосень ночы доўгія. Калі хмары не закрываюць месяца і зорнае неба, чыстае і высокае, усю ноч зіхаціць сваім ясным харастввом, на полі відаць далёка: ці лес, ці асобнае дрэва, ці хата здалёк будзе чарнецца, хоць і ніяк нельга выразна бачыць ці нават здагадацца, што гэта такое. На высокім беразе вышэй ад усіх кустоў узнімалася маладое дрэўца. Гэта была асіна, і год ёй было каля дзеся-

ці. У месячныя ночы яна відаць была здалёк, аж з тых самых загуменных калгасных агародаў, дзе дробныя птушкі дзяўблі ўдзень насенне спелага зелля. Зелле гэтае расло скрозь паўз платы, яно было такое высокае, што дзеці маглі стаяць у ім, схаваўшыся з галавой. Там рос быльнёг, чартапалох, блёкат, палын і нават дзікі мак-відук, які немаведама як тут насеяўся. А сцяну калгаснай аўчарні абвіў хмель: тут яго многа садзілі каля хат і садовых платоў, ён густа ўецца і сплятаецца і ўпрыгожвае шэрае дрэва, зусім закрываючы яго сабой.

У аўчарні начавалі авечкі. Іх было многа. Яны спалі на саломе. Дзядзька Тамаш, аўчар і свінавод, замкнуў дзверы позна, ужо зусім змеркла, і, перадаючы нанач ключы вартаўніку Уладзю Якавецкаму, пастаяў з ім на агародзе і пакурыў. Яны пагаварылі аб тым, што скора трэба будзе выбіраць бульбу, а пасля аб тым, што за высокім берагам у лесе, па той бок рачулкі, чутны ў лесе ваўкі. Кажуць, што вельмі многа авечак схапілі яны апошнімі часамі ў тамашнім калгасе. Гаворачы так, яны пачалі ўглядацца ў высокі бераг. Там узыходзіў месяц, і побач з ім відаць была маладая асінка. Здавалася, што гэта нехта стаіць, прытуліўшыся шчакой да месяца.

У аўчарні абазваліся два маладыя баранчыкі — вялікія свавольнікі. Яны набегаліся за дзень па полі, выбіраючы смачнейшую траву. А цяпер ім не спалася, так і хацелася бегаць, хоць нагам і трэба было даць адпачыць. У аднаго баранчыка была на лбе белая лапінка, другі — увесь чорны. Крыкнула гусь, у кароўніку ўздыхнула і шарганулася бокам аб сцяну карова, і зноў усё стала ціха. Дзядзька Тамаш падаў Уладзю Якавецкаму руку і пайшоў дадому вячэраць і спаць.

## II

На высокім беразе было ціха. Не дзьмуў вецер і не шумела лісце. Праўда, на маладой асінцы лісце дрыжала, як і заўсёды, але дрыжанне гэтае зусім было бязгучнае. Не парушала цішыні і цвырканне вады ў дробнай рачулцы, наадварот, ад гэтага гучання вады яшчэ больш павявала спакоем. Слаўная ноч была! На дне ручаіны ляжала некалькі вялікіх каменняў; чыстая і халодная вада падала з іх і імчалася далей, пагойдваючы мятлістую чараціну. Паміж кустоў вызначалася сцежка, на беразе яна крута

зрывалася ўніз да самай вады, і па мокрых каменнях можна было перайсці на другі, нізкі, паплаўны бераг. Там за поплавам стаяў лес. Добра пахла адтуль сасной.

Калі месяц падняўся і пабялеў, можна было заўважыць на поплаве нейкія цёмныя і рухавыя лапіны. Чым бліжэй яны набліжаліся да рэчкі, тым здаваліся большымі. Раптам замільгацелі ні то іскры, ні то гарачыя вугалькі. Адразу можна было пазнаць, што гэта паблісківаюць воўчыя вочы. Ваўкоў было штук сем, яны ішлі адзін за адным.

Спераду ішоў стары воўк. Ён вёў усіх астатніх. Гэта быў спрактыкаваны воўчы важак. Ён ішоў, нюхаючы паветра, выцягнуўшы сваю морду. Ніякага падазронага паху ён не чуў і смела ішоў. На беразе ён спыніўся, азірнуўся, мацней пацягнуў носам, гаўкнуў коратка і віскліва і адразу пераскочыў на другі бераг. Рэшта ваўкоў пачала пераскокваць следам за ім. Стары воўк абнюхаў ствол маладой асінкі, вычухаў аб яго свой калматы бок і павёў чараду маладых ваўкоў далей. Яны выйшлі ў поле.

Да іх слыху дайшоў голас маладога баранчыка з аўчарні і кашаль Уладзі Якавецкага. Уладзя Якавецкі закашляўся таму, што моцна зацягнуўся папяросай. Воўк на момант спыніўся, спыніліся і астатнія.

Воўчы важак многа бачыў на сваім вяку прыгод. Яшчэ пазаўчора ён задраў па той бок лесу на выгане кабылу. Кабыла баранілася і дала яму заднімі нагамі па баку, ад гэтага ён цяпер крыху накульгваў. За сваё жыццё ён шмат задушыў коней і кароў, а свіней і авечак некалькі сот. Цяпер яму хацелася бараніны, і ён вёў сваю чараду пад калгасную аўчарню. Трывожыў яго толькі чалавечы кашаль, які ён толькі што пачуў. Са злосці ён ляснуў зубамі, брыкнуў задам, панура чмыхнуў носам і, крадучыся, рушыў наперад. Неўзабаве ўжо выразна зачарнелася перад ім сцяна аўчарні.

Ваўкі ўвайшлі ў густое зелле, там стаіліся і доўга прыслухоўваліся. Уладзя Якавецкі абышоў аўчарню, пасядзеў на бервяне, адышоўся на дарогу і стаў глядзець на асвечаны месяцам стог саломы. Сабака, які памагаў яму вартаваць авечак, бегаў навокал яго, абнюхваючы каляіны на дарозе. Ваўкі чулі сабаку, выйшлі з зелля, адышліся на паўкіламетра і такім вялікім кругам перайшлі да другой сцяны аўчарні, той, ад якой ішла плынь паветра. Воўчая хітрасць падказвала ім, што так сабака не пачуе іх

воўчага паху. Уладзя Якавецкі прыслухаўся. Каля аўчарні ўсё было ціха. Толькі на стайні конь застукаў нечым, і Якавецкі пайшоў туды праверыць. Ваўкі пачалі сваю работу.

Яны граблі зямлю пад сцяной, выграбалі дзірку, каб улезці ў сярэдзіну. Ім гэтая работа не была доўгая. Як яны канчалі падграбацца, сабака пачуў падазроны пах: ад аўчарні на дарогу пацягнула паветрам. Якавецкі ў гэты час падыходзіў сюды ад стайні, сабака бег па дарозе за ім. Сабака ўстрывожана падняў вушы, нюхнуў зямлю і забурчаў. Уладзя Якавецкі пагладзіў яго па галаве, сабака падскочыў і нібы паспакайнеў, але ў гэты момант зноў пацягнула паветрам з-пад аўчарні, і сабака раптам забрахаў, падвываючы. Ён адбегся ад чалавека і, круцячыся на месцы, падвываў за кожным сваім брэхам. Да самай аўчарні ён баяўся падбегчы. Уладзя Якавецкі скінуў з пляча стрэльбу, нарыхтаваўся страляць і пабег наперад. Сабака заходзіўся брэхам ужо каля другой сцяны.

## III

Страшэнная мітусня пачалася ў аўчарні. Авечкі, наскокваючы адна на адну, гуртам кідаліся ад адной сцяны да другой. Пачалося гэта з таго моманту, калі воўчая морда ўсунулася ў аўчарню з-пад сцяны. Заблішчалі воўчыя вочы, воўк коратка і гучна дыхнуў на ўсю аўчарню, чуючы ноздрамі пах авечак. У той жа момант стары воўк, як маланка, ускочыў з-пад сцяны на цёплы гной, і следам за ім пачалі лезці ваўкі адзін за адным. Толькі два ваўкі асталіся сядзець на двары, яны быццам вартавалі выграбеную пад сцяной дзірку. Два маладыя баранчыкі сумна забэкалі і стараліся ўціснуцца ў гурт авечак, якія лезлі ў кут на самую сцяну. Але было так цесна і такі шум стаяў ад бесперапыннага і трывожнага авечага крыку, што баранчыкі пачалі мітусіцца больш за ўсіх. Раптам баранчык з белай лапінкай на лбе адчуў страшэнны боль у спіне. Воўк схапіў яго зубамі і памчаў кудысьці ў чорную прорву.

У гэты час на двары прагучаў стрэл. Па ўсім калгасе ўжо брахалі сабакі; недзе непадалёку пачуліся людскія галасы. Было чуваць, як яўкнуў кароткім скавытаннем воўк адразу пасля стрэлу.

Уладзя Якавецкі бачыў, што адзін з двух ваўкоў, якія

сядзелі на двара каля сцяны, перакаціўся па зямлі і заваўтузіўся пасля таго, як ён у яго стрэліў. Другі воўк кінуўся наўцёкі і згінуў у полі. І тут адразу з-пад сцяны пачалі выбягаць адзін за адным ваўкі. Кожны з іх цягнуў авечку. Уладзя Якавецкі стрэліў другі раз. Зноў ён убачыў, як воўк перакруціўся на спіне і астаўся ляжаць.

Навокал аўчарні ўжо заходзіліся брэхам сабакі і беглі людзі. Падняўся крык, і з натоўпу хтосьці яшчэ стрэліў з паляўнічай стрэльбы; людзі стаялі сцяной з ліхтарамі, стрэльбамі, віламі і каламі. Цяпер ужо ваўкоў апанаваў жах. Першыя два ўцяклі са здабычай, рэшта ж іх сваю здабычу кідала і ўцякала так, скачучы проста на людзей. Усё гэта цягнулася не больш трох хвілін. Самы апошні воўк зрабіў некалькі кругоў у сярэдзіне натоўпу, стараючыся выбіцца з гэтай жывой пасткі. У яго два разы стрэлілі, але ён так шпарка кідаўся ва ўсе бакі, што цяжка было ў яго цэліць. Нарэшце ён, з заядлага адчаю, збіў з ног чалавека, пераскочыў цераз яго і скрыўся ў густым зеллі. Было толькі чуваць, як зашастала зелле, пасля быццам затрашчала нейкая дошка, быццам нешта цяжкое кудысьці ўпала, і стала ціха.

Ліхтары стаялі на зямлі, людзі разглядалі двух забітых ваўкоў. Каля аднаго з іх драпаў капытцамі па зямлі малады баранчык з белай лапінкай на лбе. У яго да самай касці воўк пракусіў спінку. Ён цяпер канчаўся. Уладзя Якавецкі ўзяў баранчыка на рукі. Баранчык слабым галаском абзываўся, было падобна да таго, што ён плача.

Праз некалькі хвілін ён кончыўся. Таксама былі ўжо нежывыя і іншыя авечкі, якіх ваўкі пакідалі, ўцякаючы. Людзі, пастаяўшы крыху і пагаварыўшы, пачалі разыходзіцца. Але некалькі чалавек асталося. Астаўся аўчар і свінавод дзядзька Тамаш. Разам з Уладзем Якавецкім яны ўвайшлі ў аўчарню, павесілі ліхтар на бэльку і пачалі аглядаць авечак. Яны былі рады, што астаўся другі баранчык. Дзядзька Тамаш узяў яго на рукі і паказытаў у яго каля вушэй.

— Ах ты, свавольнік,— сказаў дзядзька Тамаш,— маладзец, што не трапіў у воўчыя зубы, а то воўк бы цябе з'еў.

Пасля дзядзька Тамаш і Уладзя Якавецкі выйшлі на двор, замкнулі аўчарню, засыпалі пад сцяной выграбеную ваўкамі яму і закурылі. Недалёка было да дня. На ўсходзе неба ледзь-ледзь пабялела, і зоры там сталі не та-

кія ясныя. Над поплавам вышэй падняўся туман. Дзядзька Тамаш і Уладзя Якавецкі чакалі дня і ціха гаварылі, абапёршыся на нізкі плот, якім быў адгароджаны капуснік ад двара пры аўчарні. Раптам яны абодва пачалі прыслухоўвацца. Зусім блізка каля іх чуліся нейкія падазроныя гукі. Быццам хтосьці гроб зямлю, боўтаўся ў вадзе, падаў у яе, часам моцна чмыхаў. Чуваць было, як у ваду сыплецца зямля і падаюць камені.

— Што гэта? — сказаў Уладзя Якавецкі, знімаючы стрэльбу з пляча.

Дзядзька Тамаш азірнуўся наўкола і прыслухаўся, з якога боку ідуць гэтыя незразумелыя гукі.

## IV

На тым месцы, дзе цяпер стаяла аўчарня, раней быў кулацкі двор. Год пятнаццаць таму назад на кулацкім двары быў калодзеж. Вада ў ім была не вельмі добрая, і кулак паіў з яго толькі жывёлу. Пасля ён выкапаў другі калодзеж, бліжэй к вуліцы, а гэты, стары, накрыў зверху дошкамі і хацеў засыпаць, але кулака раскулачылі, на месцы яго двара пабудавалі калгасную аўчарню і стайню; на тым палетку, што быў каля самага кулацкага двара, пасадзілі калгасны сад, а каля яго выгарадзілі капуснік. Паўз плот і расло тое зелле, якім увосень карміліся дробныя птушкі. Гэтым зеллем абрасла і тая яма, якая калісьці была кулацкім калодзежам. Калодзеж быў вельмі глыбокі. Цяпер ён крыху засыпаўся зямлёй, і на дне яго вады было мала; вада была брудная, густая. Зверху яма накрыта была дошкамі. Дошкі пагнілі, абраслі лопухам і чартапалохам, ніхто тут ніколі не хадзіў, і Уладзя Якавецкі гаварыў, што на гэтым месцы трэба будзе вымураваць сілосную яму.

Дзядзька Тамаш улез у самае зелле і пачаў слухаць.

— А ведаеш,— сказаў ён Уладзю Якавецкаму,— гэтыя гукі ідуць з ямы. Хадзі сюды, паслухай.

Уладзя Якавецкі следам за дзядзькам Тамашом увайшоў у зелле. Сухія галоўкі лопуху і чартапалоху пачалі чапляцца за яго суконную вопратку, адрывацца ад цырбуння і так аставаліся на ім. Каб удзень яго такога ўбачылі, то, напэўна, паднялі б на смех. Але цяпер яму было не да таго, каб ачышчаць сваю вопратку. Моцна трымаючы ў руках стрэльбу, ён далез да самай ямы і прыслу-

хаўся. Сапраўды, з ямы ішлі гукі. Нехта там драпаў кіпцямі, лез, падаў, плюхаўся ў вадзе. І пасля — Уладзя Якавецкі і гэта выразна пачуў — пачаў ляскаць зубамі.

— Воўк у яме! — гукнуў Уладзя Якавецкі, і дзядзька Тамаш з ліхтаром падышоў бліжэй.

Уладзя Якавецкі быў чалавек вельмі высокага росту і тонкі. Каб зірнуць у яму, яму трэба было добра сагнуцца. Ён гэта і зрабіў, але нічога ў яме не ўбачыў, хоць туды і свяціў ліхтар. Скупое святло цьмянай ліхтарнай лямпы не даходзіла да самага дна. Дзядзька Тамаш быў чалавек нізкага росту, і ён амаль што не згінаўся, калі свяціў ліхтаром у яму.

— Прыгніся ты ніжэй ды пасвяці як мае быць, а то я нічога не бачу,— сказаў Уладзя Якавецкі.

— Куды ж гнуцца? — адказаў дзядзька Тамаш.— Хіба я спушчу ліхтар на вяроўцы ўніз.

— Ты асцярожна, бо калі гэта сапраўды воўк і калі ён выскачыць, то будзе тады нам абодвум бяда.

— Не бойся,— адказаў дзядзька Тамаш, прывязваючы вяроўку да ліхтара і спускаючы ліхтар у яму.

Яны ўбачылі, што ў яме сапраўды сядзеў воўк. Гэта быў той самы воўчы важак, які прывёў сюды чараду ваўкоў. Гэта ў яго два разы выстралілі, і гэта ён, збіўшы з ног чалавека, кінуўся ў зелле. Са страху ён не разбіраўся, куды бяжыць, і, скочыўшы цераз густы зараснік чартапалоху, рынуўся проста ў яму, праваліўшыся праз гнілыя дошкі. Ліхтар спусцілі на вяроўцы амаль што да самага дна. Воўк прыціснуўся ў кут, заляскаў зубамі, падрапаў зямлю і палез угару. Але зямля ў яго з-пад лап пасыпалася, і ён ляпнуўся ў ваду. Усхапіўшыся, ён зноў пачаў лезці ўгару і зноў сарваўся.

— Задушыў баранчыка? Цяпер сядзі,— сказаў Уладзя Якавецкі і адступіў на крок ад ямы.

Дзядзька Тамаш выцягнуў з ямы ліхтар.

Тым часам днела. Туман, як састоенае малако, напаўняў паплавы. Месяц знік. Зоры тухлі. Відаць сталі будынкі і платы. На ўсю вуліцу спявалі пеўні.

## V

Што ваўкі душылі авечкі — пра гэта ўсе ведалі яшчэ ўночы. Але што воўк уваліўся ў яму і не можа адтуль вылезці — пра гэта даведаліся толькі цяпер. Людзей на-

Заўтрашні дзень

Апавяданне.

[redacted] [redacted]

Тым летам мурашнік перавасіў пе-ршы сук старое ялiны. Цяпер ён зай-хадзіў да другога сука. І раптам асы-паўся, абсехаў; растрывожаныя му-рашкі бегалі ў траве. Нехта хадзіў тут, хто не ведаў ходаў і сцежак, убіўся ў мурашнік, набраўся голак з мурашкамі, вылецеў з узлесся ў поле і ссыпаў з сябе яловымі голка-мі па цаліне аж да арабіны з адад-ранай галінаю. Пад арабінай былі цэлыя камякі з мурашніка і вялыя з холаду мурашкі поўзалі па кастру-баватай кары старой арабіны і на зямлі пад ёю. Самі яны не маглі сюды дайсці так далёка ад лесу ў поле. Той невядомы нехта тут рабіў каля дрэ-ва, гэта няйначай было так. Напэў-на ён і цяпер недзе тут паблізу, ён не паспеў яшчэ далёка куды адыбціся, у мурашніку ён кладайна капаўся, сляды свежыя, і дажджы з ветрам не паспелі яшчэ ўпляскаць у зямлю пад арабінай і на сцежцы [redacted] яловых голак. І ніхто ніdзе не заўва-жыў, каб які небудзь бадзяга ішоў тут,

(на адвароце)

Аўтограф апавядання «Заўтрашні дзень».




Часопісы, у якіх друкаваўся Кузьма Чорны.

збіралася многа. Кожны прыбег хоць глянуць. Вельмі рана паабуджваліся дзеці і, пакуль ісці ў школу, гадзіны дзве таўкліся каля ямы, дзе сядзеў воўк. Уладзя Якавецкі ўжо нешта дзесяты раз расказваў, як ён трымаў на руках скрываўленага баранчыка, а дзядзька Тамаш расказваў, як ён спускаў на вяроўцы ліхтар у яму.

— Што ж рабіць, браткі, з ваўком? — шмат разоў пытаў ва ўсіх Уладзя Якавецкі.

— Застрэліць проста ў яме,— гаварылі амаль усе.

— Застрэліць — невялікая справа, але якая з гэтага карысць? — падаў голас дзядзька Тамаш.

— А якой ты хочаш карысці яшчэ?

— А такой я хачу карысці, каб нагнаць на ваўкоў страх.

— Як жа ты нагоніш?

— Вы толькі слухайце мяне, я чалавек бывалы.

Дзядзька Тамаш быў не толькі нізкі ростам, ён яшчэ быў даволі-такі таўставаты чалавек і вельмі рухавы. Цяпер ён пачаў камандаваць, гэты добры і вясёлы дзядзька Тамаш.

— Нясіце, браткі, сюды дзве даўгія жэрдкі і вяроўку,— крычаў ён, размахваючы каля ямы рукамі.— А вы, малыя, не лезьце на самы край ямы, бо зямля калі аб'едзе, то і ты сам ляпнеш, як гнілы гарбуз, проста ваўку на галаву. От табе тады будзе весела! Не лезь, кажу!

Як прынеслі дзве даўгія жэрдкі, дзядзька Тамаш склаў іх роўна адну пры адной і звязаў вяроўкай блізка да танчэйшых канцоў. Пасля крыху развёў канцы. Выйшла штосьці падобнае да даўжэзных жардзяных нажніц.

— Спускайце, хлопцы, гэтыя нажніцы ў яму,— скамандаваў дзядзька Тамаш.

— Хэ-хэ-хэ,— рагатнуў Уладзя Якавецкі, здагадаўшыся, што хоча рабіць дзядзька Тамаш.— То гэта ты хочаш ваўка жывога з ямы дастаць? Дайце хіба я вазьмуся.

І, падкруціўшы вус, Уладзя Якавецкі пачаў спускаць жэрдкі ў стары калодзеж.

— Старайцеся хапіць яго ў гэтыя нажніцы і пасля сціснуць,— камандаваў дзядзька Тамаш, не могучы ўстаяць спакойна на месцы.

— А як ты думаў,— абзываўся Уладзя Якавецкі, нацэльваючыся растапыранымі канцамі звязаных жэрдак на ваўка.

— О так, так, хапай яго! — клапаціўся дзядзька Тамаш.

— Пачакай, дай усё зрабіць абдумана,— даваў заўвагу Уладзя Якавецкі з такім выглядам, быццам гэта ён сам выдумаў усю гэтую справу.

І, хапіўшы ваўка за сярэдзіну кароткімі канцамі жэрдак, звёў іх даўгія канцы.

— Цяпер трымайце, хлопцы! — закрычаў ён.

— Звязаць канцы,— яшчэ мацней закрычаў дзядзька Тамаш, падбягаючы з кавалкам вяроўкі.— Цяпер цягніце ўгару.

Паволі цягнулі ўгару сціснутага паміж жэрдак ваўка, баяліся, каб ён не сарваўся. А як выцягнулі, паклалі на зямлю і ўбачылі яго вышчараную ляпу, зноў пачалі гаварыць, што трэба зараз жа застрэліць. Вельмі дамагаўся гэтага Уладзя Якавецкі.

— Я не магу забыць,— гаварыў ён,— як на маіх руках канчаўся скрываўлены баранчык.

— Мы яго страляць не будзем, а пусцім жывога,— сказаў дзядзька Тамаш.

— Што ты, здурнеў, чалавеча! — загулі галасы.— Дзе гэта хто бачыў, каб жывога ваўка з рук пускаць!

— Пусцім на воўчую згубу. Тады самі будзеце рады.

— Як гэта?

— А от так! Прынясіце сюды тыя званкі, якія пастух навешвае каровам на шыю, калі пускае ў лес.

— Нашто?

— Будзеце бачыць, я чалавек бывалы.

— Паглядзім, што зробіць бывалы чалавек,— паціснуў плячыма Уладзя Якавецкі і паслаў малога па званкі.

Неўзабаве ўсе стаялі і ад здзіўлення маўчалі: дзядзька Тамаш, накінуўшы ваўку на галаву дзяругу, вешаў яму на шыю самы званчэйшы званок.

— Што ты робіш? — закрычала некалькі чалавек.

— Я ведаю, што я раблю, я чалавек бывалы.

Мокры і напалоханы воўк дрыгаў нагамі і рваўся з усіх жыл. Павесіўшы яму на шыю званок, дзядзька Тамаш зняў з яго галавы дзяругу.

— Цяпер адыдзіцеся далей, дайце яму дарогу,— скамандаваў ён.

— Нашто яму даваць дарогу?

— Я чалавек бывалы, слухайце мяне.

Усе адышліся назад. Дзядзька Тамаш узяўся за даў-

гія канцы жэрдак і развязаў іх. І ў той жа момант усе аж ахнулі: воўк, адчуўшы волю, так ірвануўся з месца і так пабег, што ад шпаркага ходу некалькі разоў перакуліўся цераз галаву. Званок матляўся на яго шыі і звінеў бразгучым гукам. Адбегшыся далей, воўк раптам пачаў заўважаць гэты гук, які ішоў у яго з-пад шыі. Ён бег і круціў галавой. Гук не адрываўся ад яго, а імчаўся з ім разам. Жах апанаваў ваўка. З усіх ног ён дабег да высокага берага, пераскочыў цераз рэчку і, як ашалелы, дабег да лесу. Гук імчаўся ў яго пад шыяй з ім разам. Воўк, як куля, ляцеў пад дрэвамі і кустамі ў тое цёмнае месца, дзе ў гушчары заўсёды хавалася ўдзень воўчая чарада.

Ваўкі сапраўды былі там. Яны ляжалі пад карэннямі вывернутай яліны, і каля іх валяліся абгладаныя авечыя косці. Усё-такі некалькімі авечкамі яны сёння ўночы пажывіліся. Апроч таго, на рассвітанні яны выцягнулі яшчэ ў адным месцы з хлява свінню і толькі што яе даелі. Яны соладка драмалі, пахаваўшы свае морды ў пярэднія лапы. Раптам над самымі іхнімі вушамі грымнуў бразгучы звон. Яны ўсхапіліся, кінуліся наўцёкі. Бегучы, яны чулі, як звон гоніцца за імі следам, вось-вось ужо даганяе іх. Яны паддавалі большага ходу, а звон ўсё гнаўся за імі. Але яны, таксама як і ён, млелі ад жаху; ён ад таго, што ў яго пад шыяй штосьці звоніць, яны ад таго, што гэты звон гоніцца за імі следам. Так яны імчаліся цераз поле і паплавы, цераз лясы, пераскокваючы цераз дробныя рэчкі. Усе яны задыхаліся ад стомленасці. У адным месцы яны выбеглі на шырокую лясную паляну. Змораны важак, які даганяў іх і не мог дагнаць, на момант суняўся пад ялінай. Усе яны, не чуючы за сабой звону, прыселі на паляне і пачалі аддыхвацца. Стары воўк з-за яліны ўбачыў, што яны сядзяць спакойна, і ўзрадаваны кінуўся да іх. Загучаў званок, і ваўкі зноў ірвануліся з месца. Небывалая з'ява ў іхнім воўчым жыцці гнала іх немаведама куды, а стары воўк, ахоплены жахам, бесперастанку даганяў іх. Жах яго быў не толькі ад таго, што ў яго пад шыяй звоніць званок, але яшчэ і ад таго, што яго таварышы не падпускаюць яго да сябе блізка і ўцякаюць ад яго.

Ашалелая чарада ваўкоў выбегла на глухую лясную сцежку. Непадалёку ад яе было воўчае логавішча. Быццам шукаючы ратунку, перапалоханыя ваўкі пабеглі туды. Там пад густымі кустамі ляжала чарада сытых ваўкоў:

яны толькі што задралі і з'елі на выгане двое коней. Убачыўшы, што незнаёмая чарада прыбегла да іх і спынілася, яны забурчалі і павышчаралі зубы, гатовыя кінуцца на няпрошаных гасцей. Але ў той жа момант стары воўк з усяго размаху даскочыў да іх. Грымнуў званок, і ўсе яны, разам са сваімі няпрошанымі гасцямі, пабеглі. Воўк са званком на шыі кінуўся следам за імі. Мусіць, яны яшчэ недзе падхапілі чараду ваўкоў, а можа і дзве, бо тамашнія калгаснікі расказвалі, што бачылі вялікае воўчае зборышча, якое імчалася паўз лес, а следам гнаўся вялікі воўк са званком на шыі.

## VI

Добра было ясным днём на высокім беразе. Унізе цвырчала вада ў рачулцы, на дрэвах ужо шмат дзе прасідалася жоўтае лісце. Яшчэ цвілі асеннія кветкі. На дубах спелі жалуды. Слаўна пахла грыбамі. Баравікі, сыравежкі і рыжыкі вылазілі з травы і з-пад лісця.

Пасля трэцяга ўрока ўся школа пайшла на высокі бераг пацешыцца з прыгажосці яснага дня, пазбіраць грыбоў, раскласці агонь на беразе рэчкі і, самае важнае, паглядзець буслаў. Гэта была найцікавейшая з'ява. Буслы рыхтаваліся адлятаць на зіму ў цёплыя краіны. Яны збіраліся ў вялікі гурт і спрабавалі свае крыллі. Больш за пяцьдзесят буслаў цэлы дзень кружылася над высокім берагам, дзе ўвесну і ўлетку яны так многа знаходзілі сабе пажывы. Цяпер яны быццам развітваліся з гэтым улюбёным сваім месцам. Каля сотні дзяцей стаяла каля раскладзенага агню і глядзела ўгару на буслаў.

— Глядзіце, глядзіце! — закрычаў раптам малы Валодзя.— Бачыце, колькі сабак выскачыла з таго вунь лесу, што за рэчкай.

— А-ёй, колькі сабак! — зацягнула сваім тонкім галаском дзесяцігадовая Насцечка.

— Гэта ж не сабакі, а ваўкі! — закрычаў Сцёпа.— Сюды імчацца!

Сапраўды, ваўкі імчаліся проста на дзяцей. Не паспелі спалоханыя дзеці апамятацца і схавацца за дрэвамі, як ваўкі з усяго размаху пачалі адзін за адным пераскокваць цераз рэчку. Праз хвіліну ўся воўчая чарада ляцела далей, ёй было не ў галаве, каб чапаць дзяцей. За чарадой гнаўся воўк з грымучым званком на шыі.

— Гэта ж той самы воўк, якому дзядзька Тамаш навесіў званок на шыю,— загукаў Сцёпа, і ўсе пабеглі ў той бок, дзе зніклі за кустамі ваўкі.

Выбегшы за кусты, дзеці ўбачылі дзіўны малюнак: на скошаным поплаве два калгасныя пастухі стаялі зусім перапалоханыя, яны не ведалі, што рабіць. Проста на іх ляцела чарада ваўкоў, і дзесьці ў ёй ці за ёй бесперапынна званіў званок. Звон быў моцны, аж глушыў. Каровы і авечкі трывожна бегалі па поплаве, а коні, якія пасвіліся крыху далей, пабеглі цераз балота. Але пасля было яшчэ большае здзіўленне: ваўкі прабеглі проста праз чараду кароў, нічога не зачапіўшы, і праз хвіліны тры іх нават і следу не асталося, яны скрыліся недзе за балотам.

Расказвалі, што яны дабеглі да вялікай рэчкі, праз якую не маглі пераскочыць, і завярнуліся назад. І сапраўды, у той самы дзень бачылі, як яны зноў прабеглі тым самым поплавам да высокага берага і па той бок рачулкі ўскочылі ў свой ранейшы лес.

Некалькі дзён пасля гэтага людзі гаварылі, што ў лесе бесперапынна звоніць званок і не ў адным месцы, а то ў адным баку лесу, то ў другім. Бачылі, што з лесу часам выбягае чарада ўспененых ваўкоў і назад хаваецца ў лес. А часам з лесу выбягаў вялікі воўк са званком на шыі. Ён быў увесь мокры ад поту і ад зморанасці ледзь перабіраў нагамі. Ён ужо бегаў не так шпарка, як у першыя дні.

Але часам, бачачы, што чарада ваўкоў занадта ўжо далёка ад яго адбеглася, ён збіраў апошнія сілы і шпарчэй гнаўся за імі, каб, дагнаўшы іх, так, як і раней, быць з імі. Але яны, перапалоханыя небывалым звонам, які ішоў ад іхняга важака, імчаліся далей.

Яшчэ праз некалькі дзён шырокай лясной дарогай ехала фурманка. На фурманцы сядзелі: Уладзя Якавецкі, дзядзька Тамаш і яшчэ два калгаснікі. Яны ехалі ў мястэчка купляць што ім трэба было. Яны гаварылі аб чарадзе ваўкоў, што як ашалелыя бегаюць, ратуючыся ад свайго звінячага важака.

— А што, я казаў, што на ваўкоў нагонім страху,— весела сказаў дзядзька Тамаш.

Раптам конь натапырыў вушы, захроп, стаў на дыбкі і не пайшоў далей.

— Што такое? — сказаў Уладзя Якавецкі і глянуў наперад на дарогу.

— Можа чарада ваўкоў бяжыць? — весела сказаў дзядзька Тамаш.

— Не можа быць,— адказаў адзін калгаснік,— так можа што. Ужо дзён двое не чуваць гэтага звону.

Усе злезлі з воза і раптам убачылі тое, ад чаго перапалохаўся конь. На абочыне дарогі ляжаў здохлы воўк са званком на шыі.

— А браткі мае, што я гэта бачу? — здзіўлена завёў Уладзя Якавецкі.— Гэта ж той самы воўк.

— А ты думаў які! — весела абазваўся дзядзька Тамаш.

— От табе наш баранчык даўся ў знакі,— не мог змоўчаць Уладзя Якавецкі.— Бегаў-бегаў і здох ад змора і страху.

І Уладзя Якавецкі падкруціў вус. Дзядзька Тамаш прысеў, каб лепш разглядзець ваўка, і зарагатаў:

— Хэ-хэ-хэ, я чалавек бывалы!

# МАКАРКАВЫХ ВОЛЬКА

Кааператар Сафрон Дзядзюля вельмі заўзята расказваў, што прыцемкам, спускаючыся з высокага сельсавецкага ганка, ён убачыў такі малюнак: нейкая незнаёмая жанчына шпарка выйшла з-за дубовага паркана, які абгароджваў царкву і могільнік навакол яе, і ўпэўнена пайшла да таго месца, дзе калісьці была брама. Не знайшоўшы іншага спосабу ўвайсці ў могільнік, жанчына пералезла цераз жэрдкі, якія на месцы брамы былі наглуха папрыбіваны канцамі да слупоў. Паркан быў высокі, і Сафрон Дзядзюля не мог бачыць, што жанчына рабіла на могільніку. Ён толькі заўважыў, што яна адразу накіравалася кудысьці за царкву, дзе чатыры вязы густа ўсцілалі зямлю жоўтым лісцем. Ужо зусім было цёмна, калі жанчына выйшла з могільніка. Стоячы за рогам паркана, Дзядзюля бачыў, як яна некалькі разоў азірнулася на царкву і цяпер ужо зусім паволі пайшла ў вуліцу. Неўзабаве жанчына зайшла, мусіць, у адну з канцавых хат, бо раптам яе нідзе не відаць стала.

Постаць і хада гэтай жанчыны непрыемна нагадалі Сафрону Дзядзюлю адну асобу, раптоўная думка пра якую разварушыла даўнюю прошласць. Успаміны гэтыя былі прыкрыя. Але з-пад гэтай прыкрасці даволі ўпарта высоўвала галаву ганарыстае задаваленне.

Гэта было таму назад год дзесяць. Сафрон Дзядзюля сватаўся да Макаркавых Волькі. Вольцы тады было яшчэ не больш васемнаццаці год, і гэта была самая лепшая танцорка і заўзятая весялуха на ўсю вёску. Сям'я Макаркавых была бежанская. Яшчэ ў імперыялістычную вайну тут з'явіўся высокі чалавек з жонкай і малою дачкою. Прыехаў ён на сытым маладым кані. Сафрон Дзядзюля быў тады яшчэ падростак і разам з іншымі,

такімі як ён, падпывальцамі, цёрся каля бежанскай фурманкі, пакуль высокі гаспадар яе хадзіў па хатах і апытваў прытулку. Бачачы на возе толькі адну бабу з малой дзяўчынкай, Сафрон так асмялеў каля чужога каня, што надумаўся навырываць з яго хваста валасні сабе на вуду. Конь хоць быў у аглоблях, але ўхітрыўся так зачапіць нагой Сафрона, што той адразу адцураўся валасні. Дзяўчынка на возе зарагатала. Сафрон адбегся, хапіў сукаваты пошвырак і смальнуў каню ў бок.

Бежанец астаўся ў вёсцы, і праз пэўныя гады Сафрон Дзядзюля пачаў ныць па чорнавалосай Вольцы. Ён хадзіў за ёю доўга, але ў яе і ў думках не было ісці замуж, і не толькі за яго, але за каго б там ні было. Яна хацела ехаць вучыцца, і от аднойчы, не ведаючы, як ад яго адчапіцца, яна сказала яму ні то стала, ні то жартам:

— Я за цябе не пайду, бо ты такі...

— Які? Ну які?

— Ты такі, што абы дзе сеў, то пасля цябе заўсёды астаецца куча смецця, попелу з папяросы, пяску і гразі з-пад ног.

— Ну, а больш? — перабіў ён, увесь чырвоны ад злосці.

— Калі ты возьмеш у рукі якую-небудзь рэч, то адразу пачнеш па ёй цвіком, шклом ці хоць запалкай вырысоўваць сваё прозвішча і зглуміш тое, што трымаеш у руках.

— А яшчэ?

— Стол, за якім ты сядзіш, заўсёды астаецца пасля цябе зрэзаны нажом і сколаны. А на кожным лісце паперы, які трапіцца табе пад руку, ты сто разоў распішашся...

— Ну, кажы далей!

— Што ж далей?.. Ну, ты пусты ганарлівец... і яшчэ — кожнага любіш абсмяяць... От зімой, я памятаю, мая маці несла ваду і, пакаўзнуўшыся, упала, а ты пасля рагатаў, што, пакуль яна ўставала, у яе голыя калені відны былі.

Апошнія словы Волька сказала гнеўна, гнеў гэты явіўся ў яе нечакана, пры ўспаміне аб гэтым выпадку.

Усё гэта было праўда, і тым больш зняважыла высокія Дзядзюлевы пачуцці. Праз паўгода Волька паехала вучыцца на рабфак, а яшчэ праз паўгода ёй наўздагон пайшла заява аб тым, што яна «лісіца ў воўчай скуры» і не проста пайшла вучыцца на рабфак, а «пралезла» туды, і калі яна «працягвае» там вучыцца, то «гэта няправільна», бо бацька яе заўсёды трымаў сытыя коні. «Пад гэтага

каня страшна было падысці»,— такія гэта былі кулацкія стаеннікі. Усім было вядома, што ў тыя часы Вольчын бацька меў толькі і занятку, што з ранку да вечара вісець крукам у сельсавеце, дамагаючыся даведкі, што ён ніякі не кулак. Ён гаварыў, што ў часы бежанства сыты конь у яго быў таму, што ён, каб уцячы ад гарматнага агню, прадаў, што меў, да апошняй ніткі і купіў каня.

Але Дзядзюля быў вялікім актывістам. Хоць работа ў яго дома і стаяла, але затое ён быў практыкам у тым, каб лезці ў цэнтр «вялікіх» спраў. Ён пакрысе лез у каапе-рацыю, у малочную арцель, а пасля і ў сельсавет. Нейк так выходзіла, што ён заўсёды трапляўся пад рукой, заўсёды ўсё ведаў, заўсёды пра ўсё мог тонка здагадацца, і нават самыя лепшыя працаўнікі так да яго прывыкалі, што трацілі патрэбу падумаць пра яго, а што гэта за чалавек такі? У гэтай справе Сафрон Дзядзюля быў са-праўдны талент, можна сказаць, глыбокі і тонкі. З нека-торага часу ён пачаў нават дабірацца да раённага цэнтра, каб прымасціцца там, калі не на службу, то на годнасць раённага актывіста. Але райвыканком быў ад яго дома далёка, і Дзядзюля задаволіўся тым, што пакінуў за сабой агульнапрызнаную годнасць то «душы ўсіх спраў», то «цэнтра ўсіх спраў» у сельсавецкім маштабе. Вядома, з та-кога чалавека кпілі ў кожнай хаце, але за вочы. У вочы ж ніхто не хацеў з ім звязвацца, кіруючыся прыказкай, што «воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць». Скончылася тым, што словы «душа» і «цэнтр» з'ядналі разам і пачалі зваць Дзядзюлю «цэнтральнай душой». І от гэтая «цэнт-ральная душа» здолела так усадзіць свой нос у сельса-вецкія справы, што Вольчын бацька ніякай даведкі не да-біўся. Злосны на ўвесь свет, ён напісаў дачцэ горкую праўду, што не мае больш сіл і цярплівасці.

Даходзілі чуткі, што Вольку з рабфака звольнілі.

Але дадому яна, аднак, не прыехала. Яна нібыта недзе асталася на працу, а вечарамі хадзіла ў вячэрнюю школу. Як бы там ні было, яна аднойчы ўлетку прыехала дадому на два тыдні з прычыны хваробы маці. Маці памерла і была пахавана ў тым далёкім кутку могільніка пад вязамі, куды цяпер хадзіла прыцемкамі незнаёмая жанчына. Пасля смерці маці Волька была яшчэ дома дзён чатыры. Яна крыху змянілася — пасталела, выраўнялася з паставы і стала яшчэ прыгажэйшая, як была.

Дзядзюля бачыў яе здалёку, і, як толькі яна паехала

ў свой горад, следам за ёю пайшла заява, што яна ў свой час была звольнена з рабфака як кулацкая дачка. Здарылася так, што бацька яе тыдняў за пяць да яе прыезду купіў быў на гадоўлю цяля. Пасля пахавання жонкі, выпраўляючы Вольку ў горад, ён цяля прадаў і грошы аддаў ёй. Яна не хацела браць, але ён упрасіў яе: яму было прыемна хоць так выказаць сваю сардэчнасць да сваёй дачкі, якая толькі адна і асталася цяпер у яго. Такім парадкам, у Дзядзюлеву заяву было ўпісана, што апошнім часам Вольчын бацька займаецца спекуляцыяй цялятамі.

Зноў пачалі даходзіць у вёску чуткі пра Вольку. Гаварылі, што начальнік той установы, дзе яна працуе, прыслаў сюды ў сельсавет запытанне. Але ніхто не ведаў, што Дзядзюля зноў уцёрся ў гэтую справу. Поўны задавалення, ён слухаў гаворкі, што Волька нібы без працы. Але праз нейкі час Волька пачала раптам прысылаць бацьку грошы. Устрывожаны Дзядзюля пачаў збіраць весткі пра Вольку, але бацька яе раптоўна памёр, і пахавалі яго суседзі: Волька не прыехала. Больш таго, яна нават не адказала на тэлеграму, якую ёй далі. У тым, значыцца, горадзе яе ўжо не было. Рад — няволя, а Дзядзюлю прыйшлося забыцца на ўсю гэтую справу. Праз некаторы час Волька прыслала бацьку грошы, але іх ніхто з пошты не забіраў, і яны пайшлі назад. Узнепакоеная Волька напісала бацькаваму суседу, і той адказаў, што бацька памёр і пахаван побач магілы маці. Пра Вольку больш нічога не было чуваць.

Жывая карціна ўсяго гэтага і паўстала перад Дзядзюлем, калі незнаёмая жанчына нагадала яму Вольку. З задаваленнем думаючы аб тым, што ён сваімі заявамі адпомсціўся Вольцы за колішнюю зняваґу, Дзядзюля спакойна клаўся спаць, акругліўшы свае думкі фразай: «Цяпер мы з ёю квіты».

Назаўтра быў ясны дзень. Стаяла восень. Высока ўзнімалася неба, і сонца залівала зямлю. Прыемны лёгкі холад адчуваўся ў подыху ветру.

Сафрон Дзядзюля зранку ішоў на сваю працу. Цяпер ён быў начальнік усёй кааперацыйнай сеткі па сельсавеце. З таго часу ён пастарэў, і дробная хада яго набыла большую выразнасць: цяпер ужо кожны мог заўважыць, што ступае ён дробна і ціха. Апрануты ў бобрыкавае паліто, ён нёс свой партфель, мінаючы шырокія завулкі новага калгаснага пасёлка. За апошнія гады на ранейшай вуліцы

асталося не больш палавіны хат: хто будаваўся, хто выходзіў на шырэйшую разлегласць. Стаяла многа новых дамоў. Сафрон Дзядзюля таксама жыў ужо ў новым сваім доме, з чорным і чыстым ходам. З поўдня ад пасёлка, як вокам акінуць, цягнуўся нядаўна засаджаны калгасны сад. З другога боку ішлі калгасныя гаспадарчыя пабудовы. Маладыя таполі, клёны і каштаны стаялі жоўтыя паабапал дарогі. Каб Волька Макаркавых з'явілася сюды, тут яна ўжо зусім не пазнала б роднай сваёй мясцовасці.

Кааперацыйнае праўленне было ў новым доме, за калгасным садам. Пешаходная сцежка вілася праўз самы могільнік. Падыходзячы да паркана, Сафрон Дзядзюля заўважыў раптам, што на царкоўнай сцяне вісіць нейкае паліто. Зацікаўлены, ён пералез цераз жэрдкі і падышоў. Царква была зусім трухлявая. Гнілая шалёўка не трымалася на цвіках і сыпалася ўніз спарахнелымі кавалкамі. Доўгія цвікі скрозь тырчалі па сцяне. На адным з гэтых цвікоў і вісела паліто.

Паліто было жаночае, на ваце, з прышытым поясам і коцікавым каўняром. Шустры верабей шаргануўся аб гэты мяккі каўнер, улятаючы з заўзятым шчэбетам у акно, якое ўжо было без рамы і шкла. Сафрон Дзядзюля стаяў, задзёршы галаву, здзіўлена разглядаючы паліто. Раптам ён пачуў шоргат рыдлёўкі аб жвір. Азірнуўшыся, ён убачыў жанчыну. Пазнаў ці здагадаўся, але ён з першага моманту быў упэўнен, што гэта тая самая, учарашняя. Каб бліжэй яе разгледзець, ён інстынктыўна падаўся ў той бок і раптам спыніўся як ашаламонены: перад ім была Макаркавых Волька.

Гэта была маладая жанчына. Прывабнай сталасцю поўніліся ўся яе пастава, рухі і рысы. Яна працавала. Рыдлёўкай капала яна зямлю і даводзіла да парадку дзве магілы пад жоўтымі вязамі. Постаць яе была мажная, і хараство, здаецца, яшчэ большае, як тады, калі яна была маладой дзяўчынай.

Ахоплены незразумелай трывогай, Сафрон Дзядзюля ціхом павярнуўся і шмыгануў за рог царкоўнай сцяны, поўны радасці, што яна яго не заўважыла. Выглядаючы паловай твару з-за сцяны, ён бачыў, як Волька некалькі разоў разгіналася, каб адпачыць, а пасля зноў бралася за працу.

Штосьці новае было ў ёй. Гэта не была тая ранейшая простая і вясёлая Волька. Наіўнасці тут ужо не было.

Хоць Дзядзюля і не разбіраўся лішне ў тонкасцях тых адлюстраванняў, якія кладзе душа на твар, усё ж ён, стоячы тут за сцяной, падумаў, што гэтая жанчына ўжо, мусіць, глыбока ведае цану з'явам свету і людскім учынкам. У гэтую хвіліну ў яго з'явілася такое пачуццё, быццам яго асарамацілі перад усім светам. Сціснуўшы зубы, ён шпарка выскачыў з могільніка і рушыў да сваёй канцылярыі.

Да самага вечара ён быў неспакойны. За паўгадзіны да канца сваёй работы ён сядзеў у самым цёмным кутку канцылярыі і нехаця корпаўся ў паперах. Сонца спускалася за стагі саломы, і, увайшоўшы ў гэты пакой знадворку, адразу здавалася, што тут зусім змрочна.

Ціхом адчыніліся дзверы і хтосьці ўвайшоў. Дзядзюля не падняў галавы. Ён толькі ўздрыгануўся, калі пачуў проста перад сабою пявучы голас:

— Выбачайце, мне параілі зайсці да вас. Справа такая, што я прыехала сюды пабыць на магілах сваіх бацькоў. Я хацела прывесці магілы ў парадак. Чалавек, у якога я начавала, зробіць балясы, каб агарадзіць магілы, але ў яго няма цвікоў. Ён гаворыць, што ў краме цвікоў так мала, што іх не кожнаму прадаюць. Я і прашу вас, каб вы адпусцілі цвікоў, іх трэба не многа.

Змяніўшы голас так, каб яго не пазналі, і заціскаючыся глыбей у цёмны кут, Дзядзюля абазваўся:

— Можна падумаць, што вы вельмі шануеце памяць сваіх бацькоў! Аднак жа на пахаванне бацькі не прыехалі.

— Я тады толькі што скончыла медыцынскі інстытут і адбывала ў раёне першую практыку. Тэлеграма да мяне не дайшла.

— Няма цвікоў,— хрыпла раўнуў Дзядзюля.— Ніводнага цвіка няма. І не будзе!

Маладая жанчына шпарка выйшла. Сафрон Дзядзюля, сцяўшы зубы, падняўся. Ён аж счарнеў ад злосці і гневу. Як! Нягледзячы на ўсе заявы, яна скончыла інстытут і цяпер ужо доктар? Гэта жывы здзек з яго! Можна сказаць, што ніколі яшчэ раней ён не ненавідзеў Макаркавых Волькі так, як цяпер. Пануры, як кавалак хмары, ён дацягнуўся дадому і, каб асвяжыць гарачую галаву, перад сном выйшаў у адной бялізне на двор. Неба схмурнела, ужо ішоў халодны асенні дождж. Сумысля ён прайшоў пад дажджом па садзе. Ірвануўся вецер, дождж лінуў густа і, пакуль Дзядзюля дабег да сянец, ён увесь быў мокры. Падлазячы ў сенцах пад коўдру, ён адчуваў холад. К кан-

цу ночы ў яго пачало балець горла, зранку яму зусім нездаровілася, а пад вечар высока паднялася тэмпература. Ён пачаў гаварыць з гарачкі, і сям'ю яго апанавала трывога.

Быў вечар. Волька сядзела ў свайго колішняга суседа за сталом. Ёй было прыемна слухаць успаміны гэтай сям'і аб бацьках яе. У хату ўвайшла жанчына і пачала расказваць, што Дзядзюля вельмі хворы, а па доктара далёка ў такое надвор'е ехаць, і ў Дзядзюлі ў хаце аж рукі ломяць з адчаю. Маладая жанчына адразу ўстала і папрасіла правесці яе да Дзядзюлі.

Трэба сказаць, што Дзядзюля быў смелы і храбры толькі там, дзе ўсё добра і лёгка ішлося. Цяпер ім апанавала няшчасце, і ён размяк, як гнілая салома. Аслабелы, ён ляжаў і думаў пра тое, што нічога лепшага няма, як жыць на свеце. Хвароба напалохала яго, ён баяўся.

— Слухай,— замагільным голасам прагаварыў ён да жонкі.— Гэтая Волька, што прыехала — доктар. Ідзі пакліч яе.

У гэты момант адчыніліся дзверы, і на парозе з'явілася Волька. Дзядзюля затрапятаўся.

— Дзе хворы? — сказала яна сваім шырокім пявучым голасам.

— Я, я хворы,— прашаптаў Сафрон Дзядзюля.— Калі ласка, ратуйце, век буду дзякаваць. Так дрэнна мне прыйшлося...

Маладая жанчына пачала яго аглядаць. Будучы паслухмяным, як ягня, Дзядзюля бесперапынна выказваў просьбы — клапаціцца аб яго здароўі.

— У вас пачынаецца запаленне лёгкіх,— сказала маладая жанчына.— Як гэта вы маглі так захаладзіцца?

— Мяне прамачыў дождж,— прахрыпеў Дзядзюля.

— Тут ёсць дзе дастаць банькі? — запытала Волька.

— Ёсць тут у адной хаце.

— Дастаньце іх, я пастаўлю. А зранку трэба будзе лякарства. Рэцэпт я напішу.

— Вы мяне выбачайце,— ныў Дзядзюля.— Я вам цвікоў не даў. Прызнацца вам, то я забыўся, што яны ёсць. Я гэтую памылку выпраўлю, абы толькі паправіцца. Лячыце мяне, як мага, прашу вас.

— Дык гэта я ў вас прасіла цвікоў? А я і не пазнала. Нічога, хвароба не страшная, папраўіцеся.

Волька пайшла. Праз гадзіны дзве Дзядзюлева жонка

прыйшла сказаць, што банькі прыгатаваны. Ліў дождж. Волька ішла лячыць Дзядзюлю. Яму было горш. Хрып ішоў з яго горла.

— Аптэка ад вас далёка?

— На станцыі, шэсць кіламетраў.

— Я напішу рэцэпт, а вы ідзіце зараз жа запрагаць каня. Трэба адразу дастаць лякарства. Дайце на чым напісаць рэцэпт.

Дзядзюлева жонка пачала шукаць паперы і вінавата сказала:

— Ні кавалка паперы ў хаце няма, у яго ўсе справы ляжаць у канцылярыі. Хіба можа ў шуфлядзе каля вас, там нейкі звязак старых яго папераў, можа там знойдзецца.

Заплакала дзіця, і жанчына пабегла ў бакоўку. Волька адчыніла шуфляду і дастала адтуль жмут папераў. Гэта былі ўсялякія старыя рахункі і пратаколы, было некалькі пісьмаў. Волька шукала, адкуль бы адарваць кавалак няспісанай паперы. Нарэшце асобна яна ўбачыла некалькі паперын, перавязаных ніткай, і разгарнула іх. Глянуўшы ў іх, яна жахнулася, яна чытала чарнавікі Дзядзюлевых заяваў на яе. «Вось чаму я гэтулькі пакутавала, цярпела ганьбу і не меншы здзек!» Дрыжачай рукой яна адарвала ад аднаго чарнавіка палоску паперы і пачала пісаць рэцэпт. Увайшла Дзядзюлева жонка і ўбачыла, што Волька ставіць Дзядзюлю банькі.

Назаўтра Дзядзюлю стала лепш. А яшчэ цераз дзень ён ужо зусім бадзёра глядзеў са сваёй пасцелі на акно. Неба было зноў яснае, заходзіла сонца, і ў яго праменнях стаялі дрэвы за акном. Насупроць аконнай шыбы, на тонкай галінцы вісела яшчэ некалькі апошніх лісткоў. Дзядзюля глядзеў на іх, але не заўважаў іх. Як цвік з-пад малатка, яго мазгі прабівала думка, што на яго накладзена пячаць ганьбы: у цяжкую для яго хвіліну Волька прыйшла ратаваць яго. Нягледзячы на ўсе яго заявы, яна стала доктарам. Так, як ніколі, яна цяпер сталая, разумная, упэўненая ў сабе.

— Чартоўка паршывая! — замармытаў Дзядзюля.— Доктар называецца. Паставіла банькі, напісала рэцэпт і ўсё. Ні разу не прыйшла паглядзець, толькі два разы нейкую бабу прысылала запытацца, як мне. Толькі назва, што дактары, а сваіх абавязкаў не разумеюць. А можа не хочуць разумець!

У той жа самы вечар, падцягнуўшы да падушкі табурэт з лямпаю, Сафрон Дзядзюля пісаў карандашом на лісце паперы, вырваным з вучнёўскага сшытка. «Заява... Гэтая гора-ўрач дэталёва нават не азнаёмілася з хваробай. Ёй, безумоўна, трэба было дастаткова ўвайсці ў лячэнне, а яна абмежавалася толькі тым, што паставіла банькі і напісала рэцэпт. І ні разу не зайшла праверыць змагаючагася з захворваннем арганізма... І яшчэ трэба дадаць, што гэтая асоба рэлігійная, што не можа быць у адпаведнасці са званнем савецкага ўрача, як то: гэтая асоба, нягледзячы, што ў свой час выключалася з рабфака як дачка кулака і спекулянта цялятамі, павінна была ізулеч для сябе ўрокі, якіх не ізулекла, паколькі гаварыла чалавеку, у якога спынілася, што ёй прыемна было пабываць на могільніку каля трухлявай царкоўнай сцяны. Гэта яна матывавала тым, што на яе ўсплывалі ўспаміны маленства, калі яна каля гэтай сцяны гуляла ў малыя гады з дзецьмі. Але тут падаплёка ўпаўне ачавідна...»

Дзядзюля раптам задумаўся: куды ж паслаць гэтую заяву? Невядома, адкуль яна сюды прыехала?

Зусім паправіўшыся, Дзядзюля ішоў на працу. Зазірнуўшы на могільнік, ён убачыў дзве акуратна абкладзеныя дзярном магілы Вольчыных бацькоў. Магілы былі абгароджаны новымі балясамі. «Недзе ж такі дастала цвікоў»,— падумаў Дзядзюля. Удзень зайшоў у кааперацыю былы сусед Вольчыных бацькоў.

— Паехала? — запытаў Дзядзюля.

— Паехала,— адказаў чалавек.— Але ненадоўга. Ёй тут вельмі спадабалася, а ў раёне якраз не хапае аднаго доктара. Казала, што будзе прасіць, каб яе сюды назначылі.

«Вось цяпер і вядома, куды пасылаць заяву,— падумаў Дзядзюля.— Раённым органам».

У тыя самыя дні Волька пісала сваёй сяброўцы:

«...Тысячы момантаў з майго маленства паўсталі перада мной як жывыя. Я пазнавала дрэвы, камені, узгоркі... Я прывяла да парадку магілы бацькоў і доўга хадзіла па родных дарогах. Тут усё так блізка і знаёма майму сэрцу. Я шаную тое, што было ў маёй душы з маленства і люблю сучаснае. Тут мне будзе весела і радасна працаваць. Сярод тых людзей, якіх я ведала заўсёды, і тым цікавей мне цяпер бачыць іх у сапраўдным чалавечым жыцці...

Не абышлося і без непрыемных успамінаў. Я дазналася, праз каго я тады гэтульki перацярпела зняваги і крыўды. Але гэты прыкры эпізод увесь у мінулым: не перашкодзіў жа ён мне скончыць інстытут. Я гэтага чалавека лячыла. Як мне было агідна дакранацца да яго рукамі. Я хацела толькі аднаго: каб ён хутчэй паправіўся і каб больш не лячыць мне яго. Прыйшоўшы дадому, я доўга мыла рукі і думала: зусім можа быць, што ён зноў пачне займацца падобным шальмоўствам. Нашто? Так сабе, з ласкі на пацеху... Адным словам — чорт з ім...

Пасля сапраўднага асенняга дажджу зноў стаіць яснае надвор'е і яшчэ цвітуць позния кветкі...»

# СЦЯПАНАВЫ ДЗЕЦІ

Парой, блізкай да канца лета, я праязджаў праз тыя родныя мясціны, дзе нарадзіўся і вырас. Усё даўнейшае прайшло і мінулася, і я стараўся пазнаваць лясы і дарогі, вёскі і паасобныя дрэвы. Я ўспамінаў мінулае, думаў пра тое, як жылося тут раней, і сэрца маё сціскалася. Я акідаў вачыма ўсё навокал сябе, і мне захацелася даўжэй пабыць тут. І я задумаў прайсці пехатой праз некалькі вёсак.

Дарога была людная, шасейная, па ёй раз-поразу імчаліся машыны. Паабапал было поле, жоўтае ад іржышча, дзе-нідзе яшчэ даспяваў авёс. Бульба весела зялянела на сваіх загонах. Пройдзе яшчэ некалькі дзён, і тут, дзе нядаўна хадзіў камбайн і дзе жняяркі рэзалі збажыну, пойдуць трактары, заворваючы на зіму апусцелае поле. Я бачыў новыя пабудовы, вясёлыя твары людзей, чароды сытай жывёлы на пашы і ўспамінаў сваё маленства тут.

У гэтай самай мясцовасці, у гэтым кутку, быў у мяне тады блізкі друг маіх малых год, Сцяпанка. З таго часу прайшло многа год. Мы тады былі малыя. Я памятаю такую самую пару, як і цяпер,— быў канец лета. У нашу вёску прыйшоў чалавек, ён вёў за руку малога хлопчыка.

— Сцяпанка,— сказаў чалавек,— ідзі дзе-небудзь пасядзі ў цяньку, ты стаміўся, а я пайду пагавару з людзьмі.

Сцяпанка паслухмяна сеў на прызбу, а чалавек пайшоў у тую самую хату. Мы, дзеці, падышлі да незнаёмага нам хлопчыка і пачалі гаварыць з ім, распытвацца ў яго — хто ён і адкуль к нам з'явіўся. Вось што нам сказаў Сцяпанка:

— Гэта я прыйшоў сюды са сваім татам,— пачаў ён расказваць.— У нас няма нідзе свае хаты і няма ў нас зямлі. Нам няма дзе жыць. А мама мая даўно памерла,

я сірата. Дагэтуль мой тата служыў у пана парабкам. Ён вельмі многа і цяжка працаваў, а пан вельмі мала яму плаціў, і мы галадалі. Ад цяжкай працы і ад голаду мой тата стаў хворы і ўжо не можа многа і цяжка рабіць. Дык пан нас прагнаў вон.

Нам стала сумна ад хлопчыкавага расказу, мы ўсе селі на прызбу ў рад, паабапал Сцяпанкі. Праз паўгадзіны Сцяпанка гуляў разам з намі тут жа на вуліцы. Мы пачаставалі яго хлебам і яблыкамі. Сцяпанкаў бацька хадзіў з хаты ў хату і гаварыў з людзьмі, а мы ўсе гулялі са Сцяпанкам на вуліцы. А пад вечар бацька прыйшоў к Сцяпанку і сказаў яму, што яны астаюцца тут у вёсцы жыць. Мы былі вельмі рады, калі пачулі гэта, бо мы паспелі ўжо здружыцца са Сцяпанкам. Бацька павёў Сцяпанку за руку, а мы вялікім гуртам ішлі следам. Мы бачылі, што Сцяпанка з бацькам увайшлі ў хату кулака Сымона Бірулі. Так у нашай вёсцы прыбавілася адна сям'я: Сцяпанка з бацькам сталі служыць парабкамі ў Бірулі. Бацька працаваў на Бірулевым полі, а Сцяпанка пасвіў Бірулевых кароў.

Я вельмі здружыўся са Сцяпанкам. Пасучы коні, я падыходзіў да яго на полі, і мы падоўгу былі разам. Мы любілі падоўгу сядзець каля рэчкі, на высокім беразе, пад маладой асінай. Тут была густая трава, цвілі ўсякія кветкі, унізе цвірчала крынічная вада, а каля крыніцы і на рачным беразе густа рос аер, чарот, мята.

Адзін раз, калі я, як і заўсёды, пасвіў на балоце коні, я ўбачыў, што Сцяпанка вельмі быстра падганяе ка мне Бірулевы каровы. Я пайшоў яму насустрач і ўбачыў, што твар яго заплаканы і ён сам нейкі не такі, як заўсёды. Калі ён пачаў гаварыць, я пачуў, што ён ад нейкага неспакою заікаецца:

— Што з табой, Сцяпанка? — запытаў я.

— Братачка,— сказаў ён,— я цябе папрашу, каб ты да вечара паглядзеў кароў, няхай яны паходзяць разам з коньмі, а я пабягу ў вёску.

— Чаго?

— Братачка, мой тата памёр.

— Як жа ён памёр?

— Ён ад панскай службы быў хворы, а рабіць і ў Бірулі яму цяжка прыйшлося. Ён не вытрымаў. Зранку ён яшчэ вазіў снапы, хоць яму ўжо і дрэнна было. А перад абедам яму стала вельмі кепска, і ён памёр. Я нічога не

ведаў, але сам Біруля ехаў нядаўна паўз мяне з поля і сказаў мне. Я пачаў яго прасіць, каб ён дазволіў мне пабегчы дадому развітацца з нежывым татам, а ён не дазволіў. Дык я хачу сам. Братка, паглядзі маіх кароў.

— Бяжы! — адказаў я.

Сцяпанка кінуўся бегчы к вёсцы.

Назаўтра, прыгнаўшы з раніцы жывёлу, мы са Сцяпанкам пайшлі на свежую магілу яго таты. Я назаўсёды запомніў гэтае месца: магіла была пры самай агароджы, непадалёку ад вялікай бярозы. Вецер разгойдваў бярозавае вецце, а мы са Сцяпанкам рукамі выраўнілі магілу і пасадзілі на яе куст белых кветак.

З таго часу я яшчэ больш здружыўся са Сцяпанкам. Абодва мы былі падобны адзін да аднаго. Мы былі босыя. Ганяючыся ў полі за жывёлай, мы натыкаліся на карчы і каменне; пальцы на нагах у нас былі пазбіваныя, у струпах. Але самае страшнае гэта было ўставаць да ўсходу сонца і гнаць на пашу жывёлу. Кожны з нас аддаў бы ўсё самае найлепшае і жаданае за тое, каб хоць паўгадзіны яшчэ паспаць. Так хацелася спаць у гэтыя першыя мінуты надыходзячай раніцы!

Адзін раз Сцяпанка пачаў успамінаць мне пра свайго бацьку:

— Мой бедны тата заўсёды ўсё думаў пра тое, каб мець сваю хату, хоць старэнькую, хоць малую, хоць трухлявую і гнілую, але каб спакойна ў ёй жыць, каб ніхто ніколі нас адтуль не выганяў, каб мы жылі смела. Але тата так і памёр, не прычакаўшы свае хаты.

Мы былі малыя. Прайшло многа год, мы павырасталі, я выехаў жыць у іншае месца.

І вось цяпер зноў у родным кутку, іду і думаю пра мінулае, успамінаю майго прыяцеля Сцяпанку. «Ён ужо вырас,— думаў я,— ён ужо такі самы дарослы чалавек, як і я. Я павінен або ўбачыцца з ім, або, калі ён тут ужо не жыве, дазнацца ад людзей, дзе ён і што з ім».

Вось знаёмыя чатыры дрэвы. Тады яны былі яшчэ маладымі дрэўцамі, а цяпер пад імі ўжо густы цень. Гэта ўжо тоўстыя дрэвы. Як яны выраслі! Вось хвойны лес, а за ім і вёска, дзе мы са Сцяпанкам жылі малымі. Я завярнуў у лес. Запахла грыбамі. Многа год таму назад я тут са Сцяпанкам збіраў грыбы. Я ўспамінаў, як у гэтую самую пору, у канцы лета, бывала тут многа грыбоў. Ночы ўжо робяцца даўжэйшымі, і грыбны запах асабліва адчу-

ваецца пасля ночы. На лясных дарогах, проста над самымі каляінамі, відны сыравежкі, а ўбок, у лес, дзе мох, пажаўцелая трава і прэлае лісце,— красуюцца баравікі. Чырвонагаловікі і бабкі хаваюцца ў высокай траве на палянах.

Я ўвесь быў захоплены хараством лесу. Быццам маленства маё вярнулася, і я зноў перажываю ўсё тое, што калісьці перажываў тут. Ад усяго жудаснага і цяжкага, што было ў маленстве, сціскалася маё сэрца. Ад усяго слаўнага, чым цешылася душа, павявала на мяне спакоем. Навокал мяне спявалі лясныя птушкі. Недалёка той час, калі яны будуць збірацца ў зімовы адлёт. Ціха было і спакойна пад стагоднімі хвоямі. Дзе-нідзе ў хвойніку пракідалася бяроза, часамі траплялася асіна. Дарога вывела мяне на прылесны поплаў, а вось там за ім знаёмыя клёны, і, нарэшце, павінен быў быць уезд у знаёмую вуліцу. Я памятаю, што першая ад поплаву стаяла маленькая трохаконная хатка нашага вясковага каваля. Я пайшоў хутчэй.

Зялёная арка ўзвышалася над уездам у вуліцу. За ёй я ўбачыў новы дом на восем акон. Шуфляды і рамы ў вокнах былі пафарбаваны жоўтай фарбай. Перад вокнамі, за нізкай агароджай, цвілі вяргіні. Далей у вуліцы скрозь стаялі падобныя дамкі і новыя хаты. Тых, знаёмых мне, старых хат было ўжо зусім мала.

Я падышоў да першага дома, узышоў на ганак. З глыбіні двара пайшла да мяне дзяўчынка, гадоў ёй на выгляд было дзесяць. За дзяўчынкай ішоў меншы за яе хлопчык. «Як жа мне назваць ім таго даўнейшага Сцяпанку, каб яны пазналі, пра каго пытаю, і каб паказалі, дзе ён жыве? — думаў я.— Можа, яго называюць тут «дзядзька Сцяпан», а можа як інакш?» Але я не паспеў нічога запытаць, а адразу пачаў прыглядацца да хлопчыка, што ішоў следам за дзяўчынкай. Я здзівіўся, гледзячы на яго, а пасля цьмяная здагадка з'явілася ў мяне. Перада мной стаяў якраз той самы Сцяпанка. Я быццам ашаламаніўся, не раздумаўшыся, я ўзяў хлопчыка за плячо і сказаў:

— Добры дзень табе, Сцяпанка.

— Я не Сцяпанка, а Толя! — бойка адказаў мне хлопчык.

Я паглядзеў на дзяўчынку, з твару яна была падобна да Толіка.

— А ты як завешся?

— Я завуся Насця.

— Гэта ты яго сястра?

— Сястра.

— А як завецца ваш тата?

У гэты самы час аднекуль збоку я пачуў тоненькі пявучы галасок:

— Наш тата завецца Сцяпан.

Я глянуў у той бок і ўбачыў зусім малюсенькую дзяўчынку. Яна была поўненькая, кругленькая, чысценькая. Ёй было можа гадоў тры, можа чатыры, не больш. Адразу я яе не заўважыў,— яна стаяла пад кустом вяргіні, уся схаваная ў зяляніне і кветках.

— А як жа ты сама завешся?

— А я завуся Надзька.

— Гэта наша меншая сястра,— сказала Насця.

— Яна баіцца нашага сабакі, а я яго не баюся,— бойка прагаварыў Толя і падбег да мяне бліжэй.

Я ўжо быў упэўнен, што прыйшоў на двор да таго майго былога прыяцеля і што гэта яго дзеці. Асабліва ўпэўніваў мяне ў гэтым Толікаў выгляд,— як дзве краплі вады ён быў падобен да свайго бацькі тады, калі ён быў малы. Быццам той самы Сцяпанка цяпер стаяў перада мной. Толькі што Толя быў у чыстай рубашцы і новых сініх штоніках. Ногі яго не былі ў струпах і нарывах, твар яго быў свежы і вясёлы, а не цьмяны і змучаны ад бясані. Валасы яго былі коратка падстрыжаны. Насця была ў сіняй сукенцы з паяском.

— А дзе ваш тата?

— Наш тата цяпер на полі, але ён зараз прыйдзе, бо ўжо вечар скора,— праспявала тоненькім галаском Надзька.

— Калі вам трэба ўбачыцца з нашым татам, то вы пачакайце ў нас у хаце,— сказала Насця і адчыніла перада мной дзверы.

— Ты, Насця, вучышся? — запытаў я, увайшоўшы за ёю ў дом.

— Я ўжо ў трэцім класе,— адказала яна.

— А я ўвосень буду ў першым,— не сцярпеў, каб не абазвацца, Толя.— А восень ужо скора.

— А я дык буду лётчыцай,— праспявала Надзька.

— А я такі, як наш тата, буду,— сказаў Толя.— Я калгаснікам буду.

— А ты, Насцечка, кім хочаш быць?

Насцечка падумала і задуменна адказала:

— А я яшчэ не думала пра гэта.

— А лёгка стаць тым, кім хочаш? — запытаў я.

— Трэба вучыцца,— адказала Насцечка.

— А калі каму няма як вучыцца?

— Як гэта няма як? — не зразумела Насцечка.

Я хітра сказаў:

— А калі каму няма дзе жыць, няма чаго есці, калі хто хворы, а трэба цяжка працаваць?

— Дык гэта было тады, калі наш тата быў малы,— сказала Насцечка.— Гэта было тады, калі яшчэ не было рэвалюцыі.

— І гэтага ўжо больш ніколі не будзе, Насцечка.

Тут у гаворку ўмяшаўся Толя:

— А Насця раз казала, што яна хоча стаць доктарам. А я дык буду такі, як тата.

— А ты ведаеш, які быў твой тата, калі быў такім малым, як ты?

— Пра гэта нам сам тата расказваў казку,— праспявала Надзька.

— Я вам раскажу,— хутка сказала Насцечка і пачала гаварыць:

— Быў хлопчык Сцяпанка, у яго быў хворы тата, а пан і кулак Біруля прымушалі яго цяжка працаваць і не давалі хлеба. У Сцяпанкі з татам не было дзе жыць, яны жылі па чужых людзях, яны не мелі прытулку...— хворы Сцяпанкаў тата памёр... А калі ўміраў, то плакаў, што ў Сцяпанкі няма хаты, каб дзе жыць...

— А вы ходзіце на магілу Сцяпанкавага таты? — перабіў я Насцечкіну «казку», якая ў гэтым доме і перад гэтымі дзецьмі гучала як сапраўдная далёкая казка, як выдумка.

— На той магіле цвіце купчасты рамонак, блакітныя астрачкі, а півоня ўжо адцвіла. Гэта я сама саджу там кветкі.

— Калі я малы быў, я сам бачыў Сцяпанку малога,— сказаў я.

— А які ён быў? — задуменна ні то запытала, ні то так сказала Насцечка.

У расчыненых дзвярах ужо стаяў Сцяпан, бацька Насцечкі, Толі і Надзькі. Ён неўзаметку ўвайшоў, стаяў і слухаў. Гэта быў ужо «дзядзька Сцяпан». Яго дзеці сталі пры мне. Я кінуўся да яго і абняў яго.

Праз гадзіны дзве было ўжо цёмна, мы ўсе сядзелі за сталом і елі смачную вячэру. Пасля дзеці мылі перад сном ногі, клаліся спаць у чыстыя пасцелі. А назаўтра было вельмі яснае і цёплае надвор'е. Дзеці ўсталі позна, выйшлі ў большы пакой снедаць, а пасля праводзілі мяне. З самім Сцяпанам я развітаўся ў доме, ён быў заняты ў калгасе, а дзеці пайшлі са мной. Мы ішлі палявой дарогай, пасля выйшлі на ўзлесак. З травы і зелля сыпалася спелае насенне, але кветкі яшчэ цвілі. Рамонак і чабор, кмен і дзіванка, павой і дзікая астрачка і многа ўсякіх іншых кветак яшчэ пышна красаваліся. Яны будуць цвісці і ўвосень. А дзікая астрачка, высокая, сцеблаватая, з блакітным венчыкам і жоўтым сэрцайкам, будзе цвісці да самай зімы. Бывае, што без марозу, у самым канцы лістапада, падае першы мокры снег, пасля растане, а блакітная астрачка горда цвіце, напамінаючы аб жывым жыцці і хараство прыроды.

Ідучы поплеч мяне, дзеці рвалі кветкі, а Насцечка віла з іх вянок. Каля лесу я развітаўся з дзецьмі, і яны пайшлі назад, туды, дзе за поплавам відны былі будынкі іх роднага калгаса. Уваходзячы ў лес, я азірнуўся. Тры белавалосыя галоўкі відны былі пасярод зяленіва. Сонца стаяла ўжо высока, усё цвіло і пахла.

Як добра і хораша!

# ДАРАГУСЯ

Адзінаццацігадовая Люся была зусім хворая. Ужо гадоў два як хвароба сушыла яе. Добрыя суседкі, тужачы аб Люсі, заўсёды казалі:

— Каб гэтаму дзіцяці жыццё іншае, то яно не было б хворае.

Можа і праўда, што Люся была хворая ад свайго жыцця. Яна ляжала на лаве пад акном, і маці, гледзячы на яе, думала пра тое, што Люся апошнімі часамі стала нейкая доўгая, выцягнулася ростам. Можа Люся здавалася такой доўгай таму, што за апошнія дні вельмі схуднела, але маці сілком цешыла сябе думкамі: «Можа гэта Люся пайшла ў рост, а калі так — то можа гэта яна перасіліла хваробу. І можа мая дачушка будзе жыць». Як кіпела матчына душа ад такіх думак. Усё, на што толькі здолен чалавек, можна аддаць, абы толькі жыла Люся.

Ужо другі дзень, як у Люсі з'явілася новае імя. Раней была — Люся, а цяпер стала — Люся-Дарагуся. Гэтае слова ўзбрыло на матчын язык само сабою:

— Дачушка, Люся-Дарагуся, можа табе лепш сёння?

Люсі было і не лепш і не горш. Яна прывыкла ляжаць на гэтай шырокай лаве, каля акна за сталом. Яна глядзела ўгару, у акно. Ёй відна была вяршаліна старой высокай ігрушы, якая расла ў іхнім двары. Ігруша была ўжо голая, і толькі на адной галіне трапяталіся два жоўтыя лісткі. Яшчэ тым годам Люсю глядзеў местачковы фельчар. Ён сказаў:

— Калі хочаце, каб яна стала здаровая, то праўце яе лёгкім мясам і ўсялякай такой добрай ядой.

У гаспадарцы тады было тры курыцы, і Люся дзён пятнаццаць правілася. Але гэта было даўно, з таго часу прайшлі восень, зіма, вясна і лета, і цяпер зноў прыйшла

восень. Лежачы на сваёй лаве, Люся думала пра тое, што цяпер вельмі добра быць на дварэ: шпарка прабягаюць па небе хмары, раз-поразу высвечвае сонца, каля плота цвіце блакітненькая дробненькая астрачка...

Жоўты лісток адарваўся ад ігрушы, пакруціўся ў паветры і прыліп да аконнай шыбы. Следам за лістком дробная птушка стукнулася ў шкло і пырхнула назад на грушу. Шчаслівая ўсмешка павольна прайшла па Люсіным твары. Ёй захацелася ўзяць жоўты лісток у рукі. Ён, здаецца, мокры, на ім чорныя крапінкі, ён — частачка асенняй свежасці.

Босы і высокі ўвайшоў у хату бацька. Што гэта ён увайшоў, а ніхто іншы — Люся не гледзячы ведала, бо адразу запахла дымам з папяросы і пачуўся шоргат аб сцяну яго злубянелага кажушка.

Ён сеў на лаву пры сцяне.

— Тата,— сказала Люся,— ідзі, прынясі мне гэты лісток з акна.

Бацька адразу пайшоў. Неўзабаве ён стаяў у акне і падміргваў Люсі. Зноў вялая ўсмешка прайшла па Люсіным твары. Праз мінуту Люся гладзіла жоўтым лістком свае губы.

— Дарагуся,— сказала маці,— табе пара есці.

— Я не хачу.

— Але ж табе трэба правіцца.

Гэты довад быў даволі моцны, трэба было есці, хоць нехаця.

Маці забразгала засланкай. Запахла грыбной патравай. Гэта была цудоўная грыбная верашчака. Маці цэлую восень дзень пры дні хадзіла досвіткам у лес і насушыла многа грыбоў. Цыбуля з агарода была свая, а ў дзежцы стаяла яшчэ крыху мукі. Гэтай мукі можа яшчэ хопіць на два скупыя хлябы. Чым жыць далей — аб гэтай бядзе страшна было думаць, але пакуль што яшчэ было што есці.

Дарагуся прыўзнялася на сваёй пасцелі і закашлялася. Маці ўзяла яе пад плечы і трымала, аж пакуль не скончыўся кашаль, а кашаль быў страшны і доўгі.

— Еш, Дарагуся.

— Мамачка, я раней аддыхаюся.

І лежачы і аддыхваючыся пасля кашлю, Дарагуся яшчэ ўсё быццам адчувала на сваёй шчацэ шорсткія матчыны пальцы. Рукі гэтыя былі чорныя, патрэсканыя, пасі-

вераныя, з іх ужо не адмывалася брудная чарната. І постаць матчына была прыгорбленая, і твар абветраны, шэры, і валасы з-пад дзіравай хусткі выбіваліся над ілбом, і ўся на латах вопратка яе няспрытна і няроўна сядзела на ёй. Дарагуся працягнула руку, узяла матчыну руку, пацягнула да сябе і пацалавала ў каструбаваты палец. Маці адвярнулася, каб Дарагуся не ўбачыла, што яна душыцца слязьмі. Але хітрая Дарагуся ўсё ведала і, каб увесці ўсё ў абыклую раўнавагу, сказала:

— Давай, мама, буду есці.

Маці пачала карміць сваю Дарагусю, але тая, пасля трэцяй лыжкі, пачала прасіцца:

— Мамачка, я хіба пасля даем, без солі вельмі ж нясмачна.

Без солі нясмачна, але дзе той солі ўзяць? Маці не мучыла Дарагусю ядой без солі.

— Сцяпан,— сказала жанчына мужу.— Дарагуся не можа есці без солі.

— Я пайду пашукаю солі,— панура адказаў чалавек.— От зараз пайду.

Ён нават не глянуў у жончыны вочы. Пагойдваючы шырокімі плячыма, ён прайшоў да сярэдзіны вуліцы і спыніўся ў одуме. Куды ісці? У гэтай дробнай дванаццаціхатняй вёсачцы ўсе жылі так, як і ён. А солі не было дзе і не было за што дастаць. Але Дарагусі трэба есці, і марудзіць нельга. У яго з'явілася думка, можа яна будзе шчаслівая. Ён шпарка выйшаў за вёску. Дзьмуў вецер, але было цёпла. Сонца свяціла над мокрай зямлёй. Праз мінут дзесяць ходу ён дайшоў да кляновых прысад. У панскім гумне гула малатарня, парабкі і парабчанкі завіхаліся каля саломы з віламі і граблямі. Сцяпан чагосьці пастаяў каля манежа, дзе два хлапчукі паганялі ў кругу дзве тройкі коней. За дзядзінцам была панская кухня. Сцяпан увайшоў туды. Кухонная дзеўка мяшала ў чыгуне нешта, заскваранае для пакаёвых слуг. «З соллю варылі», — падумаў Сцяпан.

— Кухара няма? — запытаў ён.

— А нашто?

— Я хацеў папрасіць лыжку солі.

Дзеўка зірнула ў бярозавы кадаўбец, пасля патрэсла яго ў руках.

— Няма, усю высыпала ў чыгун,— сказала яна.— Дала б, ды няма. А ключы ад каморы ў кухара, а яго няма.

— А дзе ён?

— Пайшоў япрука калоць. Павінен быць за свірнам.

Сцяпан пайшоў за свіран і адразу падаўся назад. Кухар разбіраў там ужо смаленага япрука, а збоку стаяў сам пан і ад няма чаго рабіць глядзеў, як кухар рэжа свежае сала на вялікія пласты, уціскае ў кубел і сыпле зверху соль. Соль стаяла тут жа ў мяшку. Каля кубла на зямлі соль была рассыпана, можна было назграбаць жменю, калі не прасіць у кухара, але ні таго, ні другога чалавек не мог зрабіць: ён не мог паказацца на панскія вочы. Справа была такая, што дванаццаціхатняя вёска ў часы рэвалюцыі выбудавалася ўся на панскай зямлі. А калі ў гэтым месцы ўсталявалася польская дзяржава, пан пачаў зганяць людзей з зямлі. Зямлю адабраў, а наконт хат зрабіў ласку: пасля доўгіх людскіх просьб злітаваўся і згадзіўся не скідаць з пляцоў хат, але людзі павінны былі плаціць яму за займаемае месца штогоднюю арэнду. Плаціць гэтулькі, колькі, паводле яго ўласных вылікаў, занятая зямля магла б даць прыбытку. Некаторыя, пацягнуўшы гадоў некалькі такой арэнды, сцураліся і хат, а Дарагусін бацька не мог адважыцца сысці з сям'ёй у беспрытульнасць і нейк уседзеў аж дагэтуль на сваіх трох градах. Але цяпер ён вінен пану, ужо даўно прайшоў тэрмін, а плаціць не было чым. Пан сам займаўся гэтымі справамі і ведаў Сцяпана ў твар.

Сцяпан без солі ўвайшоў у сваю хату. Маці стаяла каля Дарагусі, трымала ў руках скрутак белага палатна і гаварыла:

— Ты зараз паправішся, будзеш здаровая, і табе будзе такое добрае плацце з гэтага палатна. Хочаш? Мы ўдваіх з табою вышыем табе плацце. Будзем вышываць крыжыкамі, чырвоных і чорных нітак я дастану.

Бацька здагадаўся, што маці глушыць свой смутак і весяліць Дарагусю. Павярнуўшыся галавой у кут, ён сказаў:

— Увечары дастану солі.

Маці паклала палатно на стол. Гэта было цудоўнае палатно. Маці яго выткала яшчэ тады, калі была дзяўчынай, выткала сабе ў пасаг. Больш як дваццаць год яно праляжала ў куфры як самая дарагая рэч, якая была ў гэтых людзей. Калі вырасце Люся, яна будзе франціць у тонкім вышытым плацці. Цяпер Люся стала Дарагусяй, і — абы

толькі яна папраўілася — няхай малая носіць тонкае палатно. Абы толькі яна жыла.

Прыйшоў вечар. Сцяпан шпарка ішоў кляновымі прысадамі. Вось ён дайшоў да таго месца, дзе ўдзень ён бачыў рассыпаную соль. Ён нагнуўся і правёў рукою па зямлі. Як ён не падумаў пра тое, што зямля была мокрая ад дажджоў і соль ужо растала! Поўны смутку, ён разагнуўся і ўбачыў, што дзверы ў свіран адчынены і там гарыць святло. Ён зірнуў усярэдзіну, і штосьці падобнае да раптоўнай усмешкі перасмыкнула рысы яго твару. Пасярод свірна стаяў адчынены, той самы, кубел з салам. На сале тоўстым пластом ляжала соль. Ён ускочыў у свіран і пачаў грэбці соль. Нікога нідзе не было.

— Сала крадуць! — грукнуў над яго вушыма голас, і панскі кухцік, дробны і заіклівы, абхапіў ззаду Сцяпана за плечы. У той жа момант загрукалі па падлозе боты і нехта другі наваліўся на яго.

— Бі злодзея! — лямантаваў кухцік.

Сцяпана павалілі на падлогу, і той другі ўскочыў з каленьмі на грудзі. Яны пачалі біць.

— Браточкі, родненькія, я не чапаў сала, гэта я хацеў солі жменю ўзяць. У мяне дзяўчынка памірае ад сухот і не можа есці без солі. Яна з вечнага голаду ў сухотах.

Ніхто яго не слухаў. Калі кухціку здалося, што збойства даволі, ён адбегся ўбок і пачаў глядзець на злодзея. Са счарнелым тварам, той падняўся і сеў.

— Я не магу ўстаць,— сказаў Сцяпан і захліпнуўся слязьмі.

Кухцік памаўчаў, падумаў, расшпіліў і зноў зашпіліў сваю вопратку і паставіў Сцяпана на ногі.

— За што ты мяне, каб цябе бог пакараў!

Кухцік моўчкі пастаяў, пасля нагроб жменю солі і ўсыпаў чалавеку ў шапку.

— Сып больш,— застагнаў Сцяпан.

Кухцік усыпаў яшчэ дзве жмені.

— Ідзі,— сказаў кухцік,— я свіран буду замыкаць.

Чалавек паклыбаў у цемені асенняга вечара. Яму было цяжка дыхаць і прыемна адчуваць, як спухлы твар абвяваецца ветрам.

У хату ён не зайшоў. Прытуліўшыся плечуком да грушы, па якой удзень трапяталіся два жоўтыя лісткі, ён доўга чакаў, пакуль жонка выйшла з хаты. Тады ён зрабіў выгляд, што толькі што ўвайшоў у двор.

— Кацярына, я прынёс солі...— прашаптаў ён праз сціснутыя зубы,— на, у шапцы. Салі, няхай Дарагуся есць.

— Дарагуся заснула,— сказала Кацярына.— На змярканні ёй было так дрэнна, яна так аслабела. А гэта заснула, можа ў сне яна памацнее. Ах, каб пайшло на папраўку. Дзе ж ты дастаў солі?

Якім родным быў для яго яе голас! Толькі як бы гэта, каб не паказацца ёй повідну з такім тварам?

— Гаспадар дома? — закрычалі раптам пад акном, і двое людзей увайшлі ў двор. Сцяпан уныў. Ён пазнаў панскага аканома і гміннага паліцэйскага.

— Я схаваюся, скажы, што мяне дома няма,— зашаптаў ён і пабег цёмным дваром за хату. Мінут дзесяць ён там чакаў.

— Арэнду за пляц,— сказала Кацярына, падыходзячы да яго.— Калі заўтра зранку не заплацім — заўтра ж выганяць з хаты. Пабудзілі крыкам Дарагусю, яна гаварыць не можа, у яе мову адабрала... Божачка, што нам рабіць? На, бяры,— совала яна яму ў рукі палатно,— хутчэй ідзі, знайдзі якога-небудзь купца, прадай, з хаты заўтра выганяць. Праз усё жыццё хавала для Дарагусі палатно... Божа мой, божа... Абы толькі яна была здаровая...

Ён хапіў палатно і пабег з двара. Ён ужо ні аб чым не думаў, абы толькі знайсці купца. Яго не было цэлую ноч. Ужо світала, калі ён, хістаючыся ў бакі, прайшоў паўз вокны свае хаты. Цела яго ныла, і твар быў як у агні. Пад пахай ён трымаў скрутак палатна. Страшная, як цень, Кацярына выйшла яму насустрач.

— Палатна не прадаў, няма каму прадаваць,— сказаў ён вінавата.

— Дарагуся памерла! — закрычала Кацярына і не магла заўважыць счарнелага Сцяпанавага твару.

Ён кінуўся ў хату, Кацярына як аслупянелая стаяла на яго дарозе. Ён хапіў яе за плечы і пхаў перад сабой. Скупое святло асенняга рассвітання цадзілася праз вокны. Дарагуся ляжала на сваім ранейшым месцы, выцягнутая, доўгая. Учарашні жоўты лісток з ігрушы валяўся каля лавы, на зямлі. На стале была шапка з соллю.

— Дарагуся, табе засталося тваё палатно! — ірвануўся дзікі Кацярынін енк. Яна выхапіла са Сцяпанавых рук палатно і накрыла ім Дарагусю.

Сцяпан кінуўся на двор, доўга чагосьці шукаў там,

круцячыся на адным месцы, пасля знайшоў: прыпёрся лбом да мокрага ствала грушы і застыў як анямелы. Над яго галавой трапятаўся жоўты лісток.

— Няхай выганяе з хаты, няхай,— мармытаў ён, адчуваючы быццам шчасце ад таго, што яго выганяць з хаты.

Яго ўвёў у прытомнасць нейкі дзіўны гул. Ён ачнуўся і падумаў, што трэбаісці разжывацца дошак на труну. Нечуваны ніколі раней ім гул шырыўся і рос. Ён убачыў, як полем ішлі не бачаныя ім раней машыны. Пасля ён убачыў на вуліцы новых людзей. Гэта былі чырвонаармейцы. Павольнай хадой ён рушыў да іх, пасля рвануўся ў нястрыманым парыве. Ён зразумеў усё.

— Братка! — закрычаў ён, кідаючыся на шыю першаму чырвонаармейцу.— Братка, ратуй! Калі дзе ўгледзіш пана — не шкадуй. Прасіцца будзе — не вер, пакуль не здохне.

# РОДНЫЯ МЯСЦІНЫ

Насустрач легкавой машыне імчалася асенняе поле, новая шасейная дарога адлівала белаватым колерам у цёплай хмурнасці ціхага дня.

Узгоркі зменьваліся лагчынамі, жоўтыя чубы маладога бярэзніку саступалі месца зялёным хвойнікам, пасля зноў ішло поле, і, нарэшце, магутная сцяна старога лесу ў момант вока вырасла як з-пад зямлі. Машына пайшла павальней, і пасля некалькіх гадзін шпаркай язды гэта была нечаканасць. Асвяцімскі крыкнуў шафёру:

— Што-небудзь здарылася, Валодзя?

Валодзя, гэты зусім яшчэ малады і заўсёды вясёлы хлопец, хутка павярнуў галаву і сказаў:

— Ох, лес які!

Асвяцімскі прыпаў тварам да шкла і спусціў яго. Колеры адразу паярчэлі, дзень здаўся яснейшым.

— Добра,— сказаў Асвяцімскі, маючы на ўвазе тое, што Валодзя зрабіў ход машыны зусім павольным.

Лясная цішыня абступала навокал, яна востра пахла, і слаўна было дыхаць асенняй свежасцю.

— Дзе мы едзем? — запытаў Асвяцімскі.

Валодзя назваў мясцовасць, і Асвяцімскі ўспомніў, што вось тут ужо недалёка яго радзіма — месца, дзе ён нарадзіўся і вырас. Яшчэ зранку, выязджаючы з далёкага раёна, дзе ён быў некалькі дзён па справах сваёй працы, ён радасна думаў, што яму прыйдзецца праехаць праз гэты родны яму куток. Даўно ён не быў тут, бадай што два дзесяткі год. Нікога ў яго тут ужо не асталося: бацьку забілі палякі ў дзевятнаццатым годзе, маці памерла праз год пасля гэтага, брат жыве ў Маскве, сястра пайшла замуж у горад, кіламетраў за сто адгэтуль. А ён сам пасля дэмабілізацыі з Чырвонай Арміі пайшоў вучыц-

ца і цяпер вось, стаўшы вялікім чалавекам у рэспубліцы, выпадкова едзе праз гэтую мясцовасць.

У гэтым самым лесе, на гэтай дарозе ён быў у маленстве не раз. Толькі гэтая дарога не была тады брукаваная. За лесам ішло панскае поле, а далей была іхняя дробная вёсачка, дзе кожны зямлі меў гэтулькі, колькі хапала на тое, каб быць панскім парабкам. Асвяцімскага бацька таксама быў парабкам. Жыў ён у сваёй хаце, а на работу хадзіў у маёнтак.

Вось тут, на выездзе з лесу, павінен быць вялікі камень, каля якога заўсёды, бывала, збіраліся хлапчукі з вёскі. На гэтым камені ён, Асвяцімскі, сядзеў і плакаў, не ведаючы, чым задушыць жудасны смутак па замучаным бацьку. Аднойчы, яшчэ падросткам, ён жаў з маткай на панскім полі палеглы ячмень і да касці парэзаў сабе сярпом палец. Маці нарвала лісцяў з падбелу, пажавала іх і прыклала да раны, а пасля абвязала палец палатнянай стужкай. Маці тужыла над гэтым няшчасным здарэннем, калі завязвала яму палец, і ў яго абудзілася да яе вялікае замілаванне, якое расло пасля з кожным годам. Калі ўвечары яны вярочаліся дадому з работы, маці скардзілася, што ёй баліць у грудзях, і прысела на гэты камень адпачыць, а ён стаяў каля маці і думаў пра тое, як цяжка жыць на свеце гэтай няшчаснай жанчыне. Гэта было даўно, і ўсё гэта ўспамінаецца, як сон. Асвяцімскі адчуў смутак.

— Валодзя,— сказаў Асвяцімскі,— там, па выездзе з лесу, павінен быць вялікі камень.

— Унь камень,— кіўнуў Валодзя галавой налева.

Камень ляжаў на тым самым месцы, на рагу лясной дзялянкі.

— Заедзем у вёску,— сказаў Асвяцімскі.

— Вы ж спяшаліся дадому.

— Дадому паспеем, доўга ў вёсцы не будзем. Спыніся, Валодзя, я выйду з машыны.

Асвяцімскі падышоў да каменя. Ён падумаў: гэты камень ляжыць тут некалькі сот год, як сведка плыні чалавечага жыцця. Знізу камень аброс мохам, жоўтая трава навокал яго была вільготная. Яго ўкрывала лісце з узлесных бяроз. Яшчэ адзін успамін з маладосці выплыў у памяці Асвяцімскага. Апошнім годам свайго жыцця тут Асвяцімскі кахаў дзяўчыну. Гэта была колішняя парабчанка з тутэйшага маёнтка, Волька. Каханне было першае, яно пачалося з таго моманту, калі на нейкай ра-



Кузьма Чорны і яго сябар настаўнік К. Шкуцька. *1932 г.*



Кузьма Чорны і Кандрат Крапіва. *1942 г.*

боце ён выпадкова дакрануўся тварам да яе валасоў. У яе былі чорныя вочы і валасы такія густыя, што здавалася, ім цесна пад хусткай. Тады толькі што пачалося яго першае юнацтва, і ён саромеўся прызнацца ёй у сваім каханні. Ён усё шукаў выпадку астацца з ёю дзе-небудзь удваіх і не ведаў, як зрабіць, каб гэта здарылася. Ён пачаў саромецца перад ёю сваёй старой зношанай адзежы, а лепшай ён не меў. Пасля, праз шмат год, перабіраючы ўсё гэта ў памяці, ён ведаў, што і яна тады саромелася перад ім сваёй зрэбнай спадніцы, а лепшай таксама не мела. Ад думак пра ўсё гэта заўсёды сціскалася болем сэрца за бедную маладосць. Аднойчы яна ішла адна, і ён пайшоў з ёю. Абое яны былі збянтэжаны і маўчалі ўсю дарогу, і абаім было нядобра ад гэтага маўчання. Па дарозе быў гэты самы камень. Яны моўчкі сядзелі на ім, а пасля, робячы выгляд, што ім вельмі весела, пайшлі далей, нічога важнага адно аднаму не сказаўшы. Перад самым ад'ездам адсюль Асвяцімскі ўведаў, што Вольку любіць самы блізкі таварыш тых яго год — Костусь. Асвяцімскі пайшоў на некалькі год у армію, новыя справы, новыя людзі, новы паварот жыцця перамалоў усё. Асвяцімскі вучыўся ў Мінску, і разам з ім вучылася сінявокая Вера, таксама з густымі валасамі. Яна стала яго жонкай — любай жанчынай, слаўным другам. Цяпер яна маці траіх дзяцей, старэйшы сын хутка будзе ўжо студэнтам. Са сваім другам Костусем ён не бачыўся з таго часу. Цяпер, у гэтую мінуту, калі ён стаяў пры гэтым камені, яму было ні то сорамна, ні то прыкра ад таго, што за ўвесь час ён ні разу не напісаў Костусю. Вядома, у маладыя годы ў гэтых справах шмат легкадумнасці, але цяпер прыйшла сталасць. І ў гэты момант ён думаў пра тое, у якім горы, у якой беднасці гадаваўся і рос тады яго аднагодак Костусь. І хоць маладосць яго самога была такой жа, але цяпер ён адчуваў быццам нейкую сваю віноватасць перад сваім былым другам. З выглядам чалавека, які адважыўся на нейкі рашучы крок, Асвяцімскі рушыў да машыны. Машына пайшла палявой дарогай на ўзгорак, і Асвяцімскі стараўся думаць толькі пра тое, што ён зараз убачыць месца, дзе калісьці стаяла бацькаўская хата.

Хаты сапраўды ўжо не было, але нельга было знайсці і тое месца, дзе яна стаяла. Асвяцімскі глянуў туды, дзе павінна была стаяць Костусева хата — гэтая калісьці

добра знаёмая яму хата з адным акном на вуліцу і з двума ў двор. І гэтай хаты не было, але месца яе выразна вызначалася: дзве старыя ліпы і стагодняя бяроза стаялі на тым самым месцы, дзе калісьці пад імі быў агародчык перад хатнім акном. Не было ўжо той старой вёсачкі. Ніводная хата не захавалася. Тады было тут хат пятнаццаць, цяпер тут стаяла каля паўсотні новых дамоў. Перад вокнамі вялі прыхваченыя першым замаразкам вяргіні, чатыры рады маладых таполей ішлі па былым выгане ўздоўж усяго пасёлка, ствараючы штосьці накшталт парку. Асвяцімскі пайшоў гэтым месцам, лёгка ступаючы па ўсланай лісцямі зямлі. У рухавай дзяўчынкі, якая выбірала сабе з зямлі жаўцейшыя лісці, ён запытаў, дзе жыве Костусь, і дзяўчынка паказала яму на новы, яшчэ не пачарнелы дом з жоўтымі вокнамі. На вуліцу было тры акны, а ў двор — чатыры.

Ледзьве стрымліваючы неспакой свайго сэрца, Асвяцімскі падняўся на высокі ганак і ўвайшоў у сенцы. Машына, якая ішла следам за ім, асталася стаяць на вуліцы.

— Хто там? — пачуў ён з-за дзвярэй пявучы малады голас.

Ці, можа, яму здалося, ці, можа, сапраўды гэта была праўда, але голас гэты быў голасам Волькі, маладой, чарнавокай, густавалосай. Выбіты са сваёй звыклай раўнавагі, Асвяцімскі адчыніў дзверы ў хату, не думаючы пра тое, што з таго часу прайшло каля двух дзесяткаў год. Ён увайшоў у штосьці накшталт пярэдняга ў кватэры пакоя. Налева былі адчынены дзверы ў кухню, а проста — у вялікі пакой. Пасярод таго вялікага пакоя стаяў стол пад зялёным абрусам і на ім чырвонымі іскрачкамі цвіў нейкі малы вазончык. Налева пры сцяне відзён быў рог ложка з гарой вышытых падушак. Але гэта ён ужо заўважыў пасля. У першы момант ён ашаламіўся: здзіўленыя нечаканасцю яго з'яўлення, перад ім стаялі дзве Волькі, такія самыя — маладыя, чарнавокія, густавалосыя. У адной было больш яшчэ ад падростка, чым ад сталай дзяўчыны, другая ўваходзіла ўжо ў першае сваё юнацтва. Толькі што да той, ранейшай Волькі яны не падобны былі сваім адзеннем: яны былі не ў зрэб'і, а ў лёгкіх сініх плаццях. Яны занятыя былі работай: перад імі на голым стале ляжала штук дзесяць падсушаных сыроў, яны падскрабалі іх кухоннымі нажамі і складвалі ў кош. Цьмяна здагадваючыся, што гэта за дзяўчаты, Асвяцімскі запытаў, дзе бацька. Зноў

пачуў Вольчын голас — гаварыла меншая дзяўчына. Бацька іх цяпер працуе, але зараз прыйдзе. Асвяцімскі выйшаў сказаць Валодзю, каб той заехаў з машынай у двор. Чакаючы Кастусёвага прыходу, Асвяцімскі пайшоў шукаць месца, дзе калісьці стаяла бацькаўская хата.

Быў ужо вечар, калі Асвяцімскі вярнуўся.

Замест Костуся ён убачыў Вольку. Толькі цяпер ён заўважыў, што яна высокая ростам. Калісьці ён гэтага не заўважаў. Перад ім стаяла жанчына, поўная разумнай сталасці. Які тон гучаў у яе словах! Гасцінная гаспадыня запрашала незнаёмага госця вячэраць і адпачываць. І тут яна пазнала яго. З момант яна стаяла моўчкі, а пасля вочы яе пачырванелі, і яна ўсміхнулася, каб не заплакаць. Але гэты рух у яе душы паклаў пячаць на яе твар, і ўсе заўважылі гэта.

— Мама,— сказалі здзіўлена яе дочкі, тыя самыя дзяўчаты, якіх Асвяцімскі ўжо бачыў.

— Вам гэта нялёгка зразумець,— адказала маці.— Вы, апроч радасці і шчасця, у жыцці нічога не бачылі, бо гэта невялікае гора, калі замест карычневага шоўку на плацці бацька купіў вам сіняга. А калісьці нашы лепшыя думкі і парывы былі атручаны голадам і брудным зрэб'ем.

«Як яна ўмее гаварыць!» — падумаў расчулены Асвяцімскі.

— Мама! — зноў сказалі дзяўчаты.

— Вы ж самі бачыце, як я шчаслівa вашым і маім шчасцем,— адказала Волька і адчыніла дзверы ў вялікі пакой.

З бакоўкі выйшаў Костусь.

— А я ўжо ў твайго шафёра распытаў, каго ён да мяне прывёз,— сказаў ён, абнімаючы Асвяцімскага.

— Ох, як мне падабаецца гэты стол! — жартаўліва і шчыра заспяваў Валодзя, гэты верны спадарожнік Асвяцімскага паездак.

Ён паспеў ужо коратка пазнаёміцца з усімі ў гэтым доме і стаць быццам сваім чалавекам — гэты малады і вясёлы хлопец. Усе падышлі да стала, дзе з-за высока накладзеных усякіх закусак выглядалі бутэлькі са сваімі, калгаснымі наліўкамі. Валодзя пастараўся сесці насупроць большай дзяўчыны і першым чынам пастараўся дазнацца, ці ёсць у іх патэфон. Даведаўшыся, што такая штука ёсць, ён тады з вялікай заўзятасцю налёг на наліўку і закускі. Праз гадзіну ён ужо танцаваў з большай Кастусёвай дач-

кой, якая звалася Насцяй, вальс, а меншая — Валя — чакала, калі скончыцца гэты танец, да якога ў яе не было пары, каб адной станцаваць «казачка», якому яна нядаўна навучылася. Пад канец вечара Костусь расказваў Асвяцімскаму свае планы. Насця ў гэтым годзе заканчвае сярэднюю асвету, і яму хочацца, каб яна пайшла вучыцца ў медыцынскі інстытут. І Асвяцімскаму здавалася, што ён ніколі не разлучаўся надоўга з Костусем і Волькай, і што заўсёды былі ў іх Насця і Валя, і што заўсёды было так весела і радасна жыць.

Аб мінулым ён падумаў на рассвітанні, калі, адпачыўшы, выязджаў у сваю дарогу. Насця і Валя спалі, а Костусь і Волька выйшлі за браму правесці госця. Іх высокія постаці вельмі рэльефна вырысоўваліся ў першым святле рассвітання. Калі ад'ехалі з кіламетр, Валодзя весела павярнуўў свой твар да Асвяцімскага.

— Але ж яны і напакавалі нам на дарогу! Поўную машыну і налівачкі, і закусачкі! От жывуць, дык жывуць! Выберам які-небудзь лясок па дарозе і спынімся папасвацца.

Асвяцімскі нічога не адказаў. Ён думаў аб сваіх бацьках і аб сваёй, і Костусевай, і Вольчынай маладосці. І перад яго вачыма стаялі чарнавокія Насця і Валя ў сініх шаўковых плаццях, і яго дзеці, і слаўная сінявокая Вера.

— Ох, якая дзеўка, гэта Насця! — зноў павярнуўся да Асвяцімскага Валодзя.

Маўчанне Асвяцімскага прымусіла яго яшчэ больш хваліць Насцю:

— Ох, якая гэтая Насця! Што, не праўда?

— Укахаўся? — сказаў Асвяцімскі, скідаючы з сябе задуменнасць.

— Каб, здаецца, яшчэ з разок сюды прыехаць! Ах, якая Насця!

Машына даходзіла да канца лесу і выходзіла на шасейную дарогу. Узыходзіла сонца, і ў першых яго праменнях чырванеўся на ўзлессі вялікі камень — шматвяковая сведка бур у чалавечых душах.

# ЗЯМЛЯ

І кожны раз, калі, бывала, прыходзіў ён у суботу перад вечарам дадому, а ў панядзелак на світанні зноў адыходзіў на цэлы тыдзень, заўсёды ў яе душы заставаліся адчуванні нейкай бяды, якая немінуча павінна калі-небудзь з'явіцца. І некалькі дзён пасля гэтага мучылі яе цяжкія думкі аб дзецях. Было заўсёды так, што кожную суботу ўжо з паўдня Ганка, большая з дзяцей, раз-поразу выбягала на дарогу і з расчараваннем адразу ж варочалася назад.

— Каб скарэй той вечар,— скардзілася яна сабе і адразу зноў бегла на дарогу.

А нарэшце прыходзіў і вечар. Сонца заходзіла за вялікі лес. Ганка доўга стаяла на дарозе і, прыклаўшы руку да лба, углядалася ў далечыню. Пасля заўважала на дарозе высокую постаць і як мага кідалася насустрач ёй. І ўрачыста варочалася дадому з бацькам. Вочы яе гарэлі, а гордасці не было канца.

Калі, бывала, спаткае яна на дарозе бацьку і кінецца да яго, той раней падніме яе высока на руках, некалькі разоў пацалуе, паставіць на зямлю, заўсёды патрэпле і паблытае на яе галаве густыя, жаўтаватыя ад сонца валасы і скажа:

— Ну, хадзем, дачушка! Мама здарова?

І, увайшоўшы ў хату, прывітаўшыся з меншымі і з жонкай, пабядуе:

— Божа мой, божа, хаця каб усё добра было.

Яна ведала, што гэта значыць. Гэта значыць, што ён баіцца, каб не прагналі з работы, каб як-небудзь пражыць на свеце, каб як-небудзь выкіравацца так, каб былі накормлены дзеці, каб усе былі здаровымі... Яна ведала,

што ён тужыць ад таго, што не ўпэўнен, што скора не з'явіцца няшчасце.

Ён быў за аратага. Ён араў зямлю. Гэта пачыналася ранняй вясной, тады, калі зямля толькі што вызвалялася з-пад снегу. Зямля прасіла плуга, і зямлі было многа скрозь,— куды ні глянь, была зямля князя Радзівіла, пана Шатровіча, пана Лечашынскага. Ён араў зямлю ў Лечашынскага.

Жыў ён у сваёй хаце. Хата асталася яму ад бацькі. Двор к хаце быў прыгароджан з выгану, а за выганам ішла дарога. Праз кіламетраў шэсць яна канчалася ў кляновых прысадах, і там быў маёнтак Лечашынскага. Стаяла там нізкая і доўгая, са смольнага дрэва будыніна, якая называлася «афіцына», і жылі ў ёй тыя парабкі, што наймаліся ў маёнтак з вясны і да позняй восені, калі канчалася праца ў полі. Гэта былі людзі «без сем'яў». Хто сям'і не меў, той адчуваў сябе вальней. Яму не рупіла тое, што ў нядзелю, калі не ішла ў полі работа, ён застанецца на цэлы дзень у той «афіцыне». Хто меў сям'ю кіламетраў за трыццаць, таго цягнула ісці ў нядзелю дадому, але гэтага зрабіць было нельга, і дзень праходзіў сумна. Ганчын бацька быў шчаслівейшым, ён мог раз на тыдзень быць дома. І цэлы тыдзень, працуючы ў полі, ён думаў аб тым, што скора прыйдзе субота.

Гэта быў чалавек ціхі і працавіты. Можа з прычыны такога складу натуры ён і быў няспынна прывязан да сваёй сям'і, а можа таму, што дзяцей сваіх яму прыходзілася заўсёды шкадаваць? Тыдзень яму здаваўся доўгім і нудным і праца цяжкой і агіднай.

Якое яму было шчасце чуць у сваёй хаце галасы дзяцей і жонкі! Яна была малая ростам і шчуплая жанчына, часта яна здавалася яму малой дзяўчынкай. Але калі яны пачыналі гаварыць аб дзецях, якой моцнай і велічнай яна здавалася яму. Яна гадавала трое дзяцей, і як гадавала! Не дзіва гадаваць дзяцей у раскошы!

Адзін раз пані Лечашынская са сваім старэйшым сынам спацыравала паблізу гэтай хаты. Лёгкі фаэтон стаяў на ўзлеску, а ад лесу сюды вяла вузкая палявая дарожка, уся зарослая дробнымі жоўтымі кветкамі на высокіх сцяблах. Панскаму сыну было год пятнаццаць, і следам за ім ішоў яго слуга, бравы малады мужчына. Гэтага мужчыну звалі Якім, а сапраўды ён зваўся Яўхім і выбіўся ў панскія слугі з простых людзей.

Жанчына з той хаты на выгане несла з лесу вязанку сухога галля. Была позняя раніца, пані з сынам ішла ёй насустрач.

— Добры дзень, Зося,— сказаў Якім.

Некалі, у першай маладосці, Зося яму падабалася. Цяпер ён быў улюбёны панамі слуга, яму дазвалялася каля паноў трымаць сябе вольна.

— Добры дзень,— адказала Зося і пайшла шпарчэй, азірнуўшыся на сваю Ганку, якая валакла за сабою перакінуты цераз плячо пук сухіх яловых лап.

— Якое пекнае дзіця,— сказала пані Лечашынская, гледзячы на Ганку.— Як ты завешся?

Зося скінула з плеч на зямлю галлё і адказала:

— Ганкай яна завецца, мая пані.

— Цяжка несці? — запыталася пані.

— Цяжка, панечка,— паскардзілася Зося. І, падумаўшы, адважылася сказаць яшчэ:— Цяжка, кепска жывецца. У Ганкі сукенкі няма, толькі гэты рызман, што на ёй.

— Мужа няма? — запыталася пані.

— Муж ёсць, у вашай ласкі за аратага. Жыве ў афіцыне.

— А, гэта мае людзі,— сказала пані і дала Ганцы нейкую дробную манету.

Якім паглядзеў на Зосю і міргнуў, каб яна дзякавала пані. Зося сказала:

— Не, панечка, я не па тое кажу, а проста так, бо і галадна і холадна. Зямлі ў нас няма ні кавалачка, з працы адных рук жывем... Панечка, ведаеце, я ўжо адважуся... Тым годам вы прадавалі зямлю. Мой муж прасіўся, каб яму на выплату на пяць год хоць два маргі, усё ж такі ён ужо гадоў пятнаццаць арэ вам гэтую зямлю. Але пан не дазволіў на выплату.

І цяпер не ўся яшчэ тая зямля прададзена, якую пан намерыўся прадаць, яшчэ ўсё купцы прыходзяць. Можа б вы добрым сваім сэрцам замовілі слова перад панам на нашу просьбу. Гэта было б нам шчасце. Ну, што ж, вырастуць дзеці, дык думка не дае жыць,— на якое шчасце яны растуць і як яны жыць будуць.

Пані ніколі не ўмешвалася ў гаспадарчыя справы свайго мужа, у іх яна нічога не разумела. Яна паглядзела на Ганку і пайшла далей. У доме яна сказала мужу аб Зосінай просьбе. Яна гэта сказала з нервовай раздражнёнасцю. Зосіна просьба вывела яе са спакойнага ўраўнава-

жання душы, калі яна цешылася з хараства прыроды. Гэта было ў суботу зранку. Перад вечарам Якім сказаў Зосінаму мужу:

— Твая жонка зславіла на дарозе паню і прасіла яе аб зямлі. Няхай яна больш так не робіць, пан выйдзе з цярплівасці, і табе будзе бяда.

Ідучы дадому ў той вечар, чалавек перажываў смутак і злосць. Ён быў чалавек залежны, ён жыў са сваёй працы на зямлі, але гэта лічылася панскай ласкай на панскай зямлі. І сцежка, па якой ён ідзе, і ўвесь абшар да лесу і за лесам — усё гэта чужое, па якім можна толькі прайсці. Як цесна жыць у шырокім свеце!

Ганка бегла насустрач, і смутак быў у чалавека яшчэ большы, калі ён узяў на рукі сваю белагаловую дзяўчынку.

Праз два месяцы была ўжо сапраўдная восень. Праз некалькі дзён скончыцца праца на полі, усю зіму трэба будзе жыць дома без заработку.

Зранку туман вісеў над зямлёй. Чалавек выязджаў з параконным плугам на поле. З панскага саду выехаў абоз з яблыкамі. За заднім возам ішоў нізкарослы парабак Іван Прастарэцкі.

— Іван, дай яблык,— гукнуў чалавек.

— Бяры, братка, толькі нямнога.

Чалавек саскочыў з каня і стаў пакаваць яблыкамі кішэні. Пасля пхаў яблыкі за пазуху, у шапку.

— Пакінь, няможна,— прасіў Іван.

— Гэта панскія, што ты шкадуеш... Братка, заўтра субота, пайду дадому, выбежыць Ганка насустрач, а я ёй гасцінец. Я ж, колькі жыву, ніколі не мог прынесці дзецям гасцінца.

І тут падбег панскі слуга Якім.

Дзве гадзіны чалавек перажываў душэўнае прыгнечанне і знявагу. Аканом яго лаяў і тыкаў пальцамі ў яблыкі, якія чалавек акуратна выложыў на стале. Пасля прыйшоў сам пан Лечашынскі і сказаў:

— З гэтага дня прагнаць, не заплаціць за месяц, бо хто ведае — пакража летам, напэўна, ішла праз яго рукі.

Чалавек асмеліўся ўспомніць аб чалавечым сумленні:

— Паночку, а калі ў мяне дзіця...

— Што тваё дзіця! Ты злодзей!

— У пана ж вагоны яблык! Бог стварыў, як той казаў, зямлю для ўсіх роўна...

Пан больш не слухаў.

«Што маё дзіця!» — думаў чалавек. Каб не такая панская пагарда да дзіцяці, чалавек, можа б, і адышоў душой ад злосці. Але за дзіця чалавек дараваць не мог. Апоўдні ён прыйшоў дадому выгнаны і зняважаны.

У канцы верасня парабкі шукалі збеглага пана Лечашынскага. Удосвіце чалавек убачыў яго: у сялянскім кажуху ён ішоў выганам паўз хаты, і чалавек пайшоў за ім следам. Пан адчуў на сабе ненавідны позірк, шпарка павярнуўся да чалавека і пазнаў яго. І тое, што ўбачыў ён у чалавечых вачах, жахнула яго. Ён выхапіў наган і стрэліў...

Вясной чалавек працаваў на сваёй уласнай зямлі. Ганка з меншымі гуляла паблізу. Раптам яна закрычала і кінулася к бацьку, але бацька быў за ўзгоркам.

— Пачакай, пачакай,— крычаў з-за дрэва мужчынскі голас.— Не бойся, гэта я, пакліч тату.

Чалавек выйшаў з плугам з-за ўзгорка і ўбачыў Ганку.

— Што, што, чаго ты?

— Панскі Якім у лесе! — крычала Ганка.

Чалавек зняў шапку і абцёр з ілба пот.

«Не можа быць»,— сказаў ён сам сабе.

Увечары, калі ён прыехаў дадому, Зося выбегла яму насустрач. Бачачы яго радасны твар, яна і сама засвяцілася шчаслівай усмешкай і сказала:

— Сёння злавілі бандыта. Ён сказаў, што ў лесе яшчэ Якім. Пан Лечашынскі пакінуў іх не дараваць за зямлю.

Ганка ж нічога не хацела слухаць. Ёй было вельмі прыемна выводзіць з аглабель за повад уласнага бацькаўскага каня.

# НАВАГОДНЯЯ НОЧ

У гэты момант усім здалося, што вусы ў дзядзькі Людвіка яшчэ больш, як заўсёды, абвіслі ўніз. «Ён або недапіў, або перапіў»,— падумаў сын. «Зараз нешта прыдумае смешнае»,— падумала дачка. «Нешта ўспомніў і зараз пачне расказваць»,— падумала жонка, якая лепш за ўсіх ведала норавы свайго мужа. А госці — суседзі і сваякі — пілі і закусвалі, але сёй-той, гледзячы на свайго гасціннага гаспадара, думаў, што Людвік нечым нездаволен.

Ён нешта раптам змоўк, працерабіў пальцамі вусы, адсунуў ад сябе чарку, але не зусім далёка, так што відно было, што ён яе ўсё ж такі вып'е.

— А ведаеце — роўна дваццаць пяць год таму назад... гэта ж... у тысяча дзевяцьсот пятнаццатым... ох, як ідуць гады!..

І дзядзька Людвік змоўк, засмучоны горкай праўдай, што адзін год вельмі шпарка саступае месца другому.

— Лепш вазьмі ды закусі,— сказала жонка, падсоўваючы яму доўгую талерку, дзе, натапырыўшы вуха, ляжала белае, як паркалёвае, парася.

Людвік з пагардай паглядзеў на жонку і рашуча разгроб над ротам вусы. «Хоць каб не сказаў якога глупства»,— пачала баяцца жонка.

— Роўна дваццаць пяць год таму назад, у навагоднюю ноч стаяла хмурнае надвор'е,— моцна, вымагаючы да сябе ўвагі, сказаў Людвік, і ўсе павярнулі да яго твары.— Наш полк у тую ноч, звечара, заняў новую пазіцыю і меў дробную сутычку з праціўнікам, але вялікіх баёў у тыя дні якраз не было. Умацоўваючыся на новым месцы, мы натыкаліся на трупы варожых салдат. Адзін з гэтых салдат не быў яшчэ трупам, ён толькі паміраў, і я,

па нейкім абшарпаным гарматамі хмызнячным узлеску, якраз на яго наткнуўся. Ён ціха стагнаў і нешта ўсё хацеў сказаць. Хоць было і цёмна, але я заўважыў, што ён адной рукой, якая, мусіць, была ў яго здаровая, стараецца нешта дастаць са свайго ранца. А ранец неяк няспрытна ляжаў у яго пад бокам. Я пагнуўся на момант і ўбачыў, што ён цягне з ранца нешта накшталт пісьма. Я памог яму. Гэта сапраўды было пісьмо. А другое, як я тут жа заўважыў, толькі краем відно асталося з ранца. Я дастаў і тое. У маіх руках было два пісьмы. Я іх працягнуў раненаму салдату, каб ён забраў іх, але слабым рухам пальцаў і незразумелым мне шэптам ён даў мне зразумець, каб я забраў іх сабе. Я ж быў салдат, які бачыў шмат чаго на свеце, і мне стала ясна, што ён просіць, каб я гэтыя пісьмы адаслаў як-небудзь. Я паднёс іх да вачэй і заўважыў, што адрасы напісаны. Салдат гэта бачыў і змоўк. Яму стала спакайней на душы, гэта я ведаў.

Затрымлівацца на тым месцы больш я не мог. Я пайшоў далей ад салдата, ён ужо больш не стагнаў. Пісьмы я схаваў у свой ранец, і ўся тая навагодняя ноч прайшла ў клопаце. Валокся густы золкі туман, мы дзяўблі кірказмі і капалі рыдлёўкамі зямлю. Адным словам сказаць, да раніцы мы ўмасціліся на новым месцы, але, як выявілася, ненадоўга. На світанні зноў была дробная сутычка, і мы апынуліся ў новым месцы. Памятаю, што туман разышоўся, мы беглі пакарпаным снарадамі полем. Я прабег тым самым месцам, дзе хадзіў уночы. Пад самы канец бою мяне ранілі. Калі ўсё сціхла, мяне адправілі ў шпіталь, і я тады мала што памятаў. Памятаю толькі як праз сон, што мне было вельмі холадна і паднімалі мяне са снегу.

А як мае быць апамятаўся я праз некалькі дзён у шпіталі. Тады я ясна ўспомніў, што, калі мы беглі на світанні, то я ўбачыў быў таго самага салдата, у якога ўначы забраў два пісьмы. Ён ужо ляжаў нежывы. У шпіталі я ляжаў каля трох месяцаў. От якая мне была навагодняя ноч дваццаць пяць год таму назад.

Дзядзька Людвік змоўк і пачаў глядзець кудысьці ў сцяну, хмурачы бровы і паторгваючы вусы.

— Ну, а пісьмы? — не вытрымаў самы неспакойны з гасцей.

— Ага, пісьмы. Ну што ж, пасля шпіталя выдалі мне мой ранец нечапаны, такі самы, як ён быў у мяне, і адправілі зноў на фронт. Аж да самай рэвалюцыі я быў у

такой абстаноўцы — то баі, то пераходы, то хвароба, то шпіталь — не да тых пісем было. Вядома, я быў гад печаны, што не адаслаў іх як-небудзь адразу, але трэба разумець тое, што я, просты і толькі крыху граматны чалавек, не сядзеў тады так, як цяпер з вамі, за такім сталом, а не спадзяваўся жывым астацца. Гэта праўда, што я не герой там які-небудзь, тут перад вамі я таіцца не буду.

— А ў партызанах жа супроць палякаў быў,— абазвалася жонка, нездаволеная апошнімі словамі свайго Людвіка.

— Што ў партызанах! Пра гэта тут не ход! Адным словам, сказаць вам, я сам сябе не паважаю за тое, што тады не адаслаў тых пісем. Яны ў мяне, на самым дне ранца, праляжалі аж да самага канца вайны. А як пачалася ўжо рэвалюцыя, дык, сказаць вам, думалася — куды цяпер пасылаць тыя пісьмы, не дойдуць яны ўжо нікуды. Я распатрашыў ранец, а пісьмы пакруціў у руках і так і гэтак. Я і так слаба тады чытаў, а па-чужаземнаму, па-нямецку, ці як там было напісана,— па ўсёй акружнасці і чалавека такога ў нас не было, каб хто расчытаў.

Адным словам, сказаць вам, я тыя пісьмы схаваў. Пайшоў год за годам, я часам дастану іх, пагляджу, падумаю, што тут жа ж чалавек думкі свае ад душы пісаў некаму роднаму! Так падумаю і зноў схаваю. І так усё было, аж пакуль ён,— Людвік паказаў на сына,— аж пакуль ён не падрос і не паехаў вучыцца ва універсітэт...

Слухаючы Людвікаў расказ, ніхто не глядзеў на яго сына, студэнта, які канчаў ужо універсітэт. Каб на яго хто раней глянуў, то заўважыў бы, што ён увесь час нейк дзіўна трымае сябе. У часе бацькавага расказа ён стаў нейкі нецярплівы, занадта рухавы, а часамі ўпадаў у задуменнасць і нават быццам не чуў таго, што гаворыць бацька. Цяпер, бачачы, што пасля апошніх бацькавых слоў усе глянулі на яго, ён успыхнуў нейкім празмерным ажыўленнем, прыўзняўся са свайго месца і зноў шпарка сеў.

— Калі я ўжо на другім курсе быў,— перарваў ён бацькавы словы,— прыязджаю на летнія канікулы, бачу раз увечары — бацька зноў круціць у руках тыя пісьмы. А я ўжо тады мог чытаць і па-нямецку, і па-французску. Бяру ў бацькі пісьмы, чытаю адрасы, бачу — на адным

канверце напісан адрас па-нямецку ў Германію, а на другім па-французску ў Францыю. Дзіўлюся, чаму ў Францыю: я ж ведаў, што пісьмы былі ў нямецкага салдата. Што ж, думаю, прайшло многа год — узяў тыя пісьмы, распячатаў і стаў чытаць. Я тады не мог яшчэ бегла чытаць па-французску і па-нямецку, узяў свае студэнцкія слоўнікі і, калі ўсе паснулі, чытаў слова за словам.

— Што ж было ў тых пісьмах? — абазваўся нецярплівы госць.

— І ў адным пісьме, і ў другім было адно і тое ж. І французскі салдат, і нямецкі — кожны з іх пісаў сваёй сям'і, дадому, самыя ласкавыя, самыя лепшыя словы ад душы і сэрца. Французскае пісьмо было напісана раненым французскім салдатам, які, пакуль яшчэ не аслабеў зусім ад раны, ляжаў у полі і стараўся дапісаць пачатае яшчэ перад боем пісьмо. Канец гэтага пісьма — гэта ўжо было развітанне са сваімі блізкімі.

— А як жа гэтае пісьмо магло трапіць у рукі нямецкаму салдату? — устрапянуўся нецярплівы госць.

— Я магу ручацца, — сказаў Людвік, — што яно трапіла да нямецкага салдата так, як і ў мае рукі. Немец, напэўна, быў на французскім фронце і напаткаў раненага француза, можа нават у момант яго смерці.

— Я, — сказаў студэнт, — не вытрымаў, запячатаў пісьмы ў новыя канверты, напісаў тыя самыя адрасы і здаў на пошту, коратка растлумачыўшы ў запісцы кожнаму адрасату, як гэта ўсё было.

— І добра зрабіў, — уздыхнуў Людвік, — хоць сумленне крыху чысцейшае.

— Цяпер слухайце, — сказаў студэнт. — Тут напісана па-французску, але я адразу буду вам перакладаць на нашу мову.

Студэнт дастаў з кішэні пісьмо, дастаў з канверта ліст і прачытаў:

«Невядомы, далёкі друг! Маё сэрца ўдзячна вам за тое пісьмо, што я атрымала ад вас два гады таму назад. З яго я даведалася аб акалічнасцях смерці майго мужа многа год таму назад. Новыя раны ў маім сэрцы адкрылі і тую старую рану. Калі я пішу вам гэтыя радкі, я аплакваю свайго сына, таго самага любага хлопчыка, з якім у тым пісьме назаўсёды развітваўся мой бедны муж. Мой сын забіт на вайне ў гэтым годзе, і я асталася адна. Вай-

на выгнала мяне з дому і разбурыла яго. Я стала бяздомная і адзінокая ў сваёй няшчаснай мілай Францыі. Маё сэрца не вытрымала, і я пішу вам, няшчасная жонка і маці. Я выказваю вам сваю ўдзячнасць. Я не ведаю, хто вы, але ваша сэрца зразумее мяне. Я ведаю пра вас, што вы маеце свой дом і спакой у ім...»

Студэнт дачытаў пісьмо да канца.

— Я яго атрымаў нядаўна,— сказаў ён.

Але яго слоў ніхто не чуў. Усе маўчалі і думалі пра тое, што маюць і дом, і спакой, жыццё і шчасце, і радасць, і сваю ясную будучыню.

Была поўнач. Пачынаўся тысяча дзевяцьсот сорак першы год.

# РАСПЛАТА

Непадалёку ад горада М. ёсць вёска Максімаўка. Калі гэтую вёску займалі немцы, адзін з пажылых людзей гэтай вёскі перажыў асабліва страшнае гора.

У гэтага чалавека была адзіная дачка. Дзяўчыне было семнаццаць год. Калі немцы ўварваліся ў вёску, дзяўчына з бацькам былі дома.

За вёскай яшчэ ішоў бой, а ў самой вёсцы гітлераўская салдатня і афіцар'ё пабеглі па хатах і дварах шукаць сабе спажывы. Дзяўчына хавалася ў садзе за домам, і яе заўважылі эсэсаўцы. Удвух пабеглі яны да дзяўчыны, затрымалі яе і схапілі за рукі. Не выпускаючы яе з рук, яны пачалі грызціся паміж сабой за дзяўчыну і, нарэшце, слабейшы ўступіў месца здаравейшаму, але сам не пайшоў далей, а ціхом схаваўся за вуглом.

Той, што астаўся з дзяўчынай, пачаў біць яе кулакамі, бачачы, што яна стараецца вырвацца ад яго. Калі дзяўчына не магла ўжо вырывацца, эсэсавец яе згвалціў і, задаволены сабой, пайшоў у хату шукаць яды. Дзяўчына ляжала ў садзе, не могучы падняцца. У гэты час да яе падышоў той, што стаяў за вуглом. Бой за вёскай заціх. Была цішыня. Немцы шнырылі па хатах. Бачачы, што дзяўчына ледзь жыве, эсэсавец выстраліў у яе, і яна кончылася. Эсэсавец пайшоў у хату і ўбачыў таго, другога, які ўжо напіхаў свае кішэні і ранцы хлебам і сырам.

Дзяўчынін бацька стаяў у гэты час каля парога. Гэты ціхі чалавек, які калісьці прайшоў франты старой вайны, які сам калісьці спрабаваў смак ран і ўсіх ваенных бядот, быў цяпер разгублены. Ён не ведаў, што рабіць. Яго госці з ім не гаварылі. Наадварот, адзін немец так паглядзеў на яго, што ён зразумеў, што цяпер ён тут, у сваёй уласнай хаце, лішні. Ціхом выйшаў ён у сенцы.

Чалавек думаў, што немцы пагаспадараць у яго хаце і пойдуць, і тады ён зноў увойдзе ў яе, і ўсё можа пайсці звыклым парадкам. А пакуль ён пайшоў у сад прыхавацца. Вельмі можа быць, што гэты чалавек у гэты момант яшчэ не асмысліў усяго, што адбываецца. Гэта быў просты чалавек, не вельмі пісьменны. Усё на свеце ён расцэньваў з пункту погляду таго, які ён сам.

Адным словам, чалавек гэты быў сын свайго народа і сваёй зямлі, дзе жывуць і пашана да чалавека, і спачуванне чужому гору, і літасць, і праўда, і справядлівасць, і адкрытая душа, і сэрца.

Чалавек падышоў у садзе да старой яблыні і ўбачыў, што там ляжыць яго Насця, прастрэленая ў грудзі і з пасінелым тварам. Кусцік зялёнай травы прымяўся пад яе мілай, слаўнай галавой.

Усё стала вядома без слоў. Чалавек у адзін момант зразумеў праўду. Не, не чалавек гітлераўскі салдат! Не чалавек гітлераўскі афіцэр! Не чалавек гэты паганы чужынец, што прыйшоў таптаць нашу зямлю!

Можа мінут тры стаяў чалавек над сваёй няшчаснай Насцяй, а пасля кінуўся бегчы ў паплавы за садам. Прабегшы крыху, ён вярнуўся і пабег назад. Неўзабаве ён зноў быў каля сваёй Насці. Але ўжо не стаяў над ёю. Ён узяў накошанай нядаўна зялёнай травы, якая ляжала за маліннікам, і накрыў цела сваёй Насці.

Чалавек выбег за вёску і азірнуўся. Проста перад ім пачыналася вясковая вуліца, а на вуліцы ён убачыў скопішча салдатні. І тут з чалавека сплылі рэшткі бяздум'я. Бездапаможна ён азірнуўся, быццам чагосьці шукаючы вачыма. Яму не прыйшло да думкі, што немцы могуць па ім страляць, калі заўважаць яго. Ён стаяў адзін на апусцелых паплавах. Нічога не знайшоўшы вачыма навокал сябе, чалавек сумна пайшоў далей, быццам абыякавы да таго, што яго зараз заб'юць немцы. Але раптам закончаная думка заўладала ім. Ён кінуўся на зямлю і папоўз. Цяпер ён бярог сваё жыццё для вялікай мэты. Жыць! Жыць, бо жыве непараўнаная ні з чым нянавісць, народжаная з вялікай, як свет, любві да няшчаснай пакутніцы Насці.

Мінут дзесяць поўз чалавек. І раптам убачыў: перад ім ляжыць мёртвы чырвонаармеец. Гэта быў кулямётчык, які быў забіты ў часе нядаўняга бою за вёску. Каля чырвонаармейца, прыхаваны за невялікім насыпам, ста-

іць гатовы к стральбе кулямёт. Чалавек рыпуўся к кулямёту. Ён пачаў устанаўляць кулямёт, ссунуты са свайго месца. Пасля перакаціў кулямёт наперад, бліжэй к першым вясковым загарадзям. Ён ляжаў перад кулямётам на знойдзеным новым месцы, адкуль, падняўшы галаву, мог бачыць вуліцу і ўсё, што на ёй рабілася.

І раптам яго кулямёт пачаў работу. Ён біў проста ў нямецкае скопішча. Прайшло некалькі мінут, пакуль ашаломленыя немцы, сярод якіх упала многа раненых і мёртвых, пачалі страляць у бок невядомага свайго ворага. Чалавек ваяваў адзін супроць іх. Немцы стральбой папсавалі кулямёт. Чалавек споўз убок, дапоўз да вядомых яму глінішч, счакаў там, пакуль усё зноў прыціхла, і папоўз далей. Праз гадзіну ён увайшоў у лес, дзе знайшоў сваіх людзей. Усе яны былі паміж лініяй нашай абароны і немцамі.

Расказвалі, што вечарам таго самага дня група мужчын перайшла ў другі лес, а праз некалькі дзён каля тых месц партызанскі атрад грозна заявіў аб сабе фашыстам.

# РАСКАЗЫ ПАРТЫЗАН ВІЦЕБШЧЫНЫ

## 1. Маладая гераіня

У нашым атрадзе была камсамолка Нюра. Да вайны яна была сакратаром Н-скага сельскага райкома камсамола.

Каля вёскі П. у нас быў вялікі бой з акупантамі. Бой цягнуўся доўга, немцаў было многа, і вельмі цяжка было выбіваць іх з месца. Мы ішлі ўрукапашную. Навокал свісталі кулі.

Нюра была ў першых радах. Многа яна выявіла адвагі, баявой хітрасці і ўласнай ініцыятывы. Бачыў я, як да яе бег высокі немец і цэліўся з вінтоўкі: яна ўпала на зямлю, і куля прасвістала вышэй яе. Тады яна рванулася наперад і стрэліла з нагана. Немец упаў і больш ужо не ўстаў. Тут яна ўбачыла, што чатыры немцы абкружылі аднаго партызана і стараюцца закалоць яго штыкамі, і яму вельмі цяжка прыходзіцца. Нюра ў момант апынулася там і выстралам з нагана палажыла на месцы немца. Другі кінуўся да яе з штыком, але яна застрэліла і гэтага. Але ў той жа момант да яе кінуўся трэці немец, і яна ўпала, пракалоная штыком. Немец, што закалоў яе, кінуўся ўцякаць, бо партызан у гэты час справіўся ўжо з астатнім немцам і кінуўся да гэтага. Партызан дагнаў яго, і ён упаў мёртвы.

Бой цягнуўся яшчэ нейкі час, і немцы, якія асталіся жывыя, уцяклі. Наша Нюра, мілая наша сястра і дачка, ляжала на полі. Мы апошні раз глядзелі на дарагія, слаўныя рысы яе твару і пахавалі яе, затаіўшы ў сэрцы боль і вялікую волю да помсты.

Мы захаваем і пранясем для будучых пакаленняў памяць аб нашай дарагой Нюры, вобраз якой паўстае перад намі — светлы, чысты, у вялікім сваім харастве.

## 2. Паўлікава помста

Было яму чатырнаццаць год, і звалі яго Паўлік. Прыйшоў ён у наш атрад ціхі, змучаны, як бы нясмелы. Відаць было адразу, што ён раней не быў такі. Вочы яго быццам бы ўвайшлі позіркам у яго душу. Быццам бы яго тачыла і не давала спакою адна страшная думка.

Пад вопраткаю ў яго быў нямецкі штык. Гаварыў ён вельмі неахвотна. З яго скупых слоў мы дазналіся, што ён родам з К. раёна і што немцы забілі яго бацьку і маці і спалілі хату.

Праз некалькі дзён у нас быў бой з немцамі. Паўлік не захацеў астацца ў ціхім месцы і прасіў, каб яму далі вінтоўку. Але вінтоўкі лішняй у нас не было. Паўлік, трымаючы ў руцэ штык, ляжаў разам з намі на зямлі. Ішла перастрэлка. Паўлік убачыў, што ўпаў ранены немец і пасля падняўся і пабег. Паўлік кінуўся за ім наўздагон. Дагнаў і закалоў немца штыком... Так ён пачаў сваю помсту крывавым гітлераўцам за смерць сваіх бацькоў.

Неўзабаве ён стаў у нас самым лепшым разведчыкам. Праз нейкі час ён пайшоў з данясеннем у чырвонаармейскую часць, а пасля ў ёй і астаўся зусім. Там ён атрымаў вінтоўку і стаў байцом-разведчыкам.

## 3. Знішчылі чатырох афіцэраў

Вартавы з нашага атрада стаяў на пасту з краю лесу. Неўзабаве ён убачыў, што ў бок вёскі Н. праехала нямецкая машына, у якой былі чатыры афіцэры. Вартавы добра разгледзеў іх. Ён адразу ж паведаміў пра гэта ў атрад.

І вось з атрада выйшла сем чалавек партызан. Неўзаметку яны з'явіліся ў вёсцы і дазналіся ад людзей, што немцы вымагаюць ад сялян мёд і пайшлі цяпер у хату да калгасніка Б. Машына стаяла на вуліцы, і ў ёй цяпер аставаўся толькі адзін афіцэр і шафёр.

Партызаны падкраліся да машыны і забілі афіцэра і шафёра і кінулі ў матор машыны гранату. А тады ўбеглі ў хату, дзе немцы паспелі ўжо збіць гаспадыню і перавярнуць усё, шукаючы мёду. Праўда, пачуўшы на вуліцы

гранатны ўзрыў, яны паспелі ўжо выскачыць у сенцы, але ў самых дзвярах на двор іх засцігнулі партызаны. Немцы хацелі вырвацца і ўцячы, але адзін адразу ж упаў забіты, а астатніх двух партызаны схапілі і абяззброілі.

Іх павялі ў лес, дзе і ўзялі ад іх патрэбныя паказанні аб тым, дзе якія стаяць нямецкія часці.

# МАЛЕНЬКАЯ ЖАНЧЫНА

Яны ішлі ляснымі сцежкамі і глухімі закуткамі. Ішлі з дзецьмі. Меншых неслі на руках. Яны былі маўклівыя. У гэтай маўклівасці было адзінае для ўсіх іх пачуццё — вялікае і наймацнейшае за ўсё, што асталося цяпер у іх жыцці. Гэта была нянавісць, і ёй не было ні канца, ні меры.

Найбольш гэта былі жанчыны. Былі маладыя, былі і сярэдніх год, былі і старыя. Але ішла сярод іх адна «жанчына» са «сваімі дзецьмі», у якой адной з'ядналася ўсё, што было напісана на многіх тварах, што жыло ў многіх душах. Гэтай «жанчыне» было год дванаццаць, і вяла яна з сабой двое дзяцей. Большаму хлопчыку было год сем, меншай дзяўчынцы — год пяць. Гэтую дзяўчынку яна нават разоў са два спрабавала падносіць на руках. Было гэта паблізу і раўналежна дарозе з Мінска на Маскву.

Бадай-што кожны з гэтых людзей перажываў сваю асабістую крывавую драму. Адзін не ведаў, дзе ў страшную хвіліну дзеліся бацькі, другі не ведаў, дзе дзеліся дзеці. Дзеці, якія ішлі адны, не ведалі, дзе дзелася маці. Але ўсе ішлі на ўсход, ад ворага. І ўсё асабістае злілося ў кожнага ў адно з усімі.

Дванаццацігадовая жанчына, якая вяла сваіх дзяцей, не ведала, што гэта за дзеці. Яна іх спаткала на дарозе адных і ўзяла пад сваю апеку. Калі выйшлі на палявую дарогу і калі з'явіўся над галовамі нямецкі драпежнік, яна цвёрдым голасам загадала сваім дзецям упасці на зямлю і ўпала сама. Увесь натоўп жанчын і дзяцей ляжаў на зямлі, пакуль пераляталў ненаеднік. Здавалася, што ён ужо мінуў гэтае месца, але тут ён, зверху напэўна, заўважыў некалькі белых хусцінак на зялёнай зямлі.

Праз гул матора сыпануўся дробны кулямётны стук і так жа дробна сыпануўся на распасцёрты ніц на зямлі натоўп град куль.

Што ж у гэтую хвіліну рабіла дванаццацігадовая жанчына? Упаўшы грудзьмі і тварам на зямлю, каб перачакаць бяду, яна заснула самым сапраўдным сном. Трэція суткі яна не спала ні часіны і ўсё ішла.

Высыпаўшы кулі, немец зрабіў круг і паляцеў далей. З нейкага інстынкту дванаццацігадовая жанчына адразу прачнулася, паднялася на ногі, падняла сваіх дзяцей і стала ў ланцуг усяго натоўпу. І неўзабаве яна ўжо ішла далей, прысутуленая, маўклівая, з завостраным ад нуды і небыту носам, у стракатай хусцінцы на мілай дзіцячай галоўцы. Твар яе сабраўся ў адну рысу, непарушная ўпартасць паклала на яго сваю пячаць. Вочы накіраваны былі ў адзін-адзіны пункт — глядзелі туды, што ўжо было знойдзена і вядома.

Усё было вядома! Вядома стала, што прыйшла пара вялікага выпрабавання, смутку і ўпартасці, непахіснасці і непакорнасці. У душы — воля да жыцця, а над душою — крывавы забойца! І свавольная жыццярадаснасць дванаццацігадовай дзяўчынкі ператварылася ў сталасць спрактыкаванага чалавека, які многа ведае і да многага імкнецца. І ўсё гэта было на яе пакутным тварыку.

Раптам яе сямігадовы хлопчык сышоў убок і пайшоў з ёю побач.

— Ідзі за мной,— строга сказала яна яму,— мне мама казала, што трэба ісці роўна, адзін за адным, і спакойна, дык больш пройдзеш і менш стомішся.

— А дзе твая мама? — абазвалася жанчына, што ішла перад ёю.

— Маму забіла бомбай у Мінску, але яна яшчэ мне сказала, каб я ішла адразу ж і не аставалася.

На адзін найкарацейшы момант тварык яе зморшчыўся, сцягнуўся, рухавасць прабегла па ім, яна міргнула вачыма, сціснула вейкі, кулачком правяла па вачах, каб выцерці раптоўныя слёзы, глытнула сліну і загойдалася далей у роўнай, размеранай хадзе. І нейк адразу ўсе ўскінулі твары ўгару. Нямецкі драпежнік зноў ляцеў сюды. Нароўны рокат яго матора хлынуў раптоўна. Цяпер ён ішоў ніжэй, як першы раз, і кругі рабіў вузейшыя. Зноў натоўп жанчын і дзяцей ляжаў на зямлі, і зноў яна ў сваёй стракатай хусцінцы спала, уткнуўшыся тварам у

здзірванелую абочыну дарогі. Побач з ёю ляжаў сямігадовы хлопчык, а пяцігадовую дзяўчынку яна праз сон адчувала працягненай рукой. Яе рука ляжала на руцэ той, якой яна стала замест маці.

І раптам увесь гэты гарачы і ясны дзень раскалоўся ад свісту. Усё ўскалынулася і рванулася ўгару. Свет страсянуўся, жудасны гук аглушыў яго, і стала цёмна. Але яна так моцна спала, што больш за хвіліну не магла апамятацца, калі ўскочыла на ногі з-пад зямлі, якая ўпала на яе балючым тупым ударам. Яе кінула далёка ад дарогі і засыпала зямлёй. Не паспела яна скінуць з сябе забыццё, як зноў, ужо з другога боку і так жа блізка ад яе рванулася з трэскам і грукам зямля. А пасля далей і далей, і так многа разоў. Усё згінула і знікла, і раптам заўладала светам цішыня. Чутно было, як аддаляўся гул, знікаў у вышыні, якой не відно было.

Яна стаяла адна ў гэтым жудасным пекле. Яснага дня ўжо не было. Ад дыму і пылу стаяла ноч. І вось у яе душу пачала сачыцца радасць, што стала ціха. Калені яе згіналіся, галава хілілася к грудзям. Усё яе цела ныла, балела і прагнула спакою. Дарэмна яна старалася што-небудзь разгледзець навокал сябе. З трывогай яна ўспомніла, што нават не ведае, як завуцца яе дзеці і як іх цяпер паклікаць, каб яны абазваліся. Яна апусцілася на калені, нейк бокам, і старчма галавой уткнулася ў зямлю, і ні з чым не параўнаная асалода сну ахапіла яе. Але разам з тым кожную хвіліну яе пранізвала пакута свядомасці, што яна не бачыць каля сябе сваіх дзяцей. Раз-поразу яна адрывала твар ад зямлі, шпарка адкрывала вочы, бачыла змрок пылу і дыму і зноў падала ў шчасце сну. І так было многа разоў. Пасля пачаў яснець дзень, і яна з натугай, якая магла быць не пад сілу самаму моцнаму целам і духам мужчыну, адарвалася ад сну і затапталася назад і ўперад. Ужо не было дарогі, а замест яе ямы. Не было і зялёнай абочыны. Тут ляжала шэрая зямля. Яна працёрла кулачкамі вочы і ўбачыла адарваную галаву той жанчыны, якая ішла перад ёю. У трывозе яна пачала азірацца, дзе яе дзеці. Але бачыла толькі рукі і ногі, адарваныя ад цел, галовы і скрываўленыя косці. І тут вочы яе спыніліся на той малой дзяўчынцы. Дзіця было напалавіну прысыпана зямлёй, але твар быў наверсе. Ён быў чорны ад пылу і дыму. Яна падняла сваё дзіця на рукі. Яно вельмі цяжка дыхала і ва-

чэй не расплюшчвала. І толькі цяпер яна заўважыла, што ў дзіцяці скрываўлены ногі. Густая ад зямлі кроў цякла бесперастанку. Дванаццацігадовая жанчына прыціснула да сябе сваю дзяўчынку і бездапаможна азірнулася. Хоць бы дзе жывы хто, хоць бы чалавечы голас! Ахопленая страхам і смуткам, яна, моцна трымаючы пры сабе дзіця, пабегла полем у той бок, дзе стаяла сонца. Два разы яна спатыкнулася і два разы падала, але кожны раз утрымоўвалася на каленях, каб зберагчы тую істоту, якую несла на руках. І кожны раз аставаліся на палявой зямлі знакі ад яе вострых каленак. Яна ўсхватвалася і бегла далей, трымаючы ў памяці толькі адно — туды, дзе стаіць сонца. Гэта яна цвёрда засвоіла: каб не збіцца з дарогі, трэба ісці туды, дзе ўсходзіць сонца, трэба ісці на ўсход, к Маскве. Так сказала ёй, уміраючы, маці. Але цяпер было пасля паўдня. Сонца стаяла высока. З галавы яе выйшла, што трэба праверыць свой кірунак на ўсходзе сонца. Яна ў гэтыя моманты не магла адумацца і бегла к паўднёваму сонцу, якое ва ўсім сваім бляску стаяла над гарачай зямлёй.

Ёй здавалася, што яна бяжыць вельмі доўга. Сэрца яе разрывала грудзі. Яна пайшла павальней. Ногі блыталіся ў траве, над якой гулі пчолы. Гарачыня ціснула яе. Яна азірнулася і села на зямлю. Сваё дзіця яна паклала на зямлю і, пакуль аддыхвалася, не адкрывала вачэй, а як адкрыла, убачыла, што дзіця не варушыцца і не дыхае. Смерць! Яна гэта адчула ўсім сваім інстынктам. Яна ўстала на ногі і доўга так стаяла. Цяпер яна з усёй яснатой думкі чакала, што хто-небудзь з'явіцца на гэтым пустым і гарачым полі. Раптам яна прыгнулася, дакранулася рукой да нежывога дзіцяці і вельмі павольна пайшла ў той бок, куды ішла і дагэтуль — к сонцу. Многа разоў яна чула за сабой далёкія ўзрывы, многа разоў чула дзесьці над сабой рокат нямецкіх ненаеднікаў, але яна нават не аглядалася, быццам нічога і не чула. Усё ішла і ішла. Вузкая палявая дарога была перад ёю. І якраз добра — дарога вяла проста туды, дзе стаяла сонца. Яна пайшла шпарчэй. Сонца плыло к захаду. Цяпер было лягчэй ісці, не такая была гарачыня. І яна падумала, што сонца спусціцца яшчэ ніжэй і тады стане яшчэ лягчэй, а пасля будзе адвячорак і яна напаткае людзей і зусім добра будзе. Яна ўскінула твар угару, каб паглядзець, ці высока сонца. Сонца стаяла ўжо даволі нізка, і тут яна

адумалася і ўспомніла, што не туды ідзе, куды трэба. Трэба ісці туды, дзе сонца ўсходзіць, а яна ідзе туды, дзе сонца будзе заходзіць. Спалохана яна азірнулася і пачала думаць: дзе ж на небе тое месца, дзе ўсходзіць сонца. Ці там, дзе на даляглядзе відны нейкія дрэвы, ці там, дзе той узгорак з ветраком? І ніяк яна ўгадаць не магла. Яе агарнула думка: перачакаць тут ноч да дня і тады рушыць на першыя сонечныя праменні. Яна зноў села на зямлю, пасля неспакойна ўстала. Непадалёку вызначаліся зараснікі нізкарослых дрэў і кустоў. Іх нядаўна мінула сонца. Яна пайшла туды і ўвайшла ў цень.

Аднак жа гэта быў сапраўдны лес, і здаваўся ён здалёк нізкім таму, што рос у лагчыне. Тут раслі яліны і траплялiся бярозы. І ядловец гусціўся пад арэшнікам. Як тут было ціха і спакойна! Здавалася, усе грымучыя навальніцы смерці і пакут адышлі ў нябыт. З вельмі далёку даходзіў сюды грукат нейкіх узрываў, але гэта не было над галавой, і ў гэтым было шчасце. У прагаліну паміж дрэў падала з самага нізкага свайго захаду сонца. Дзяўчынка стаяла ў сонцы быццам ужо ў бяздум'і. Стракатая хусцінка на яе галаве страціла ўжо ўсе свае колеры. Гэта была анучка, брудная і скамечаная. Суденка вісела на гэтым дзіцяці кавалкамі трантаў, вываляных у зямлі. Ног не было відно з-пад пласта пылу. Там, дзе ногі былі прабіты і абадраны аб каменні і карчы гэтай нялюдскай дарогі, тырчалі гузы закарэлай крыві. Завостраныя плечы яе тырчалі ўгару, адно плячо трымалася вышэй за другое і раз-поразу ўздрыгвала. А твар быў учарнелы, завостраны і неспакойны. Чым больш яна стаяла тут, тым выразней сыходзіла з яго пячаць ранейшай цягавітай упартасці, і замест яе ажываў адчай. З-пад залепленых зямлёй вейк відны былі вочы, у якіх смяротэльная стома змагалася з выбухамі страшнага агню. Гэта быў позірк ні з чым не параўнанай прагі да радасці, здушанай найвялікшым смуткам. Неўзабаве пачало прасочвацца ў душу і пачуццё адзіноты, але яно не паспела пакласці сваю пячаць на вочы. Так, як птушка, чуючы свой час, шукае ціхага месца ўміраць, яна пачала шукаць вачыма чагосьці каля сябе. Ужо ў гэтыя моманты ногі яе пачалі згінацца ў каленях, худзенькая постаць яе яшчэ больш прысутулілася, яшчэ больш падняліся ўгару плечы, твар усімі рысамі сваімі і вачыма ўпаў уніз, і ўсю яе павяло з месца. Нейк бокам падышла яна к дрэву і паехала ўніз.

Гэта было жывое ўвасабленне самай закончанай супрацьлегласці ёй самой, якая яна была яшчэ некалькі дзён таму назад. Каб увесь свет, як вялік ён ні ёсць, ад усіх сваіх пачаткаў і бязмежнасці сабраўся і ажыў, як вялікая істота, з вачыма, каб бачыць, з вушыма, каб чуць, з душой, каб адчуваць, з розумам і думкамі,— сумленне кінула б яго ніц перад гэтым дзіцем. Ён страсянуўся б ад жаху, што так не ўдаўся ў ім сэнс шмат чаго, што ён церпіць на сабе.

Упаўшы на зямлю, яна, чорная, скурчаная, маленькая, здушаная, уткнулася галавой у дрэва, тварам уніз, і сцішылася. Праз паўхвіліны яна шпарка адарвала галаву ад зямлі, зірнула ўгару і зноў упала. І так было многа разоў. Відаць, душа яе не паддавалася зморанасці цела, і кіпела, і рвалася. Раптам яна ўздрыганулася. Гэта быў плач не дзіцячым голасам, але гэта плакала дзіця, а не тая жанчына, што не так даўно апекавалася над меншымі за сябе. У яе ўжо і слёз не было, і вочы былі сухія, калі яна плакала. Нарэшце літасцівы сон наваліўся на яе, але ласкавасць яго не была доўгая. Пачаўся сонны кашмар, без выразнасці і якой бы там ні было формы. Бяздомнасць, выгнанне, смерць, сіроцтва, матчыны вочы перад смерцю, грукат нямецкіх бомб, самалётаў, бязлітаснасць, жорсткасць — усё палосамі агню і зямлі ішло ўгару і не давала шчасця быць у забыцці. І так цягнулася доўга. Можа гэта была вечнасць, якую хрысціянства дакляроўвае злачынным душам. І вось яна паднялася і села. Зорнае неба было над ёю, і чорныя дрэвы маўчалі. Стаяла цішыня. Яна прытулілася к дрэву. І так, седзячы, адразу заснула і ўжо не чула сама, як галава яе і плечы паехалі па дрэве ўніз і яна ляжала на зямлі.

Прайшло многа часу, бо калі яна прачнулася — сонца спускалася к захаду. Пабудзілі яе выстралы і крыкі. Стоячы пад дрэвам, яна бачыла, як беглі чырвонаармейцы, як навокал стралялі, як дзесьці на ўзлеску стукаў кулямёт, а ў другім баку ехалі грузавікі. Лес ажыў, і яна азіралася навокал сябе і пасля стулілася за дрэва. І раптам яна ўбачыла, што проста да яе бяжыць немец. Яна яго пазнала адразу, хоць ніколі раней яго не бачыла. Ён ужо быў крокаў за шэсць ад яе і раптам пачуў наперадзе, так як і за сабой чуў, крыкі і шум людзей. Ён закруціўся на месцы. Яна задрыжала і не спускала з яго вачэй. Ён кінуўся на жывот, выцягнуўся і пачаў стра-

ляць перад сабою. Яна бачыла яго плечы і, адумаўшыся, пачала заўважаць, што ён цэліцца перад сабою. Але да яе свядомасці, што значыў гэты прыцэл, дайшло пасля. Цяпер яна не зводзіла воч з яго плеч, з яго галавы. Пачуццё жаху, уласнай гібелі, рэшткі вячорнага кашмару ўладалі ёю. Каб не стрывожыць яго, яна ціхом адышлася, пасля пабегла. І ўбачыла трох чырвонаармейцаў. Яны ляжалі на зямлі і, выцягнуўшы перад сабою вінтоўкі, не спускалі з чагосьці вачэй. Яна кранула аднаго рукой.

— Падай і ляжы! — грозна сказаў ён ёй.

— Там немец ляжыць і страляе. Унь там.

Чырвонаармеец паглядзеў на яе, устаў і пайшоў, прыгнуўшыся. Яна ішла поплеч яго, таксама як і ён, угнуўшыся, і паказвала рукой. Калі ён упаў на зямлю, упала і яна. Чырвонаармеец прыцэліўся і стрэльнуў. Яна бачыла, як немец уздрыгануўся і ўткнуўся галавой у зямлю.

— Гатоў,— сказаў чырвонаармеец.— А ты ляжы на зямлі.

І пайшоў назад. Яна ўпала на зямлю, і першая за гэтыя дні радасць страсянула яе душу. Яна ляжала, пакуль усё заціхла, і пасля пайшла да чырвонаармейцаў. Яны збіраліся разам і гаварылі паміж сабою, што ўвесь нямецкі дэсант знішчан. Чырвонаармеец, якому яна паказала немца, падняў яе на рукі і пранёс крокаў тры, а пасля яна пайшла поплеч яго. Яны прайшлі паўз таго немца, і яна бачыла яго, доўгага, спруцянелага.

Момантам гэтай радасці скончылася яе адзінота, таксама як і яе маленства. Прыйшла сталасць на доўгі яе век.

# МАТЧЫНА БЛАГАСЛАВЕННЕ

Прастрэленая гітлераўцамі ў грудзі, умірала маці. Пакутная смерць яе ішла павольна. Часамі жанчына ўпадала ў забыццё, часамі даходзіла да яснай памяці, усё перад сабой бачыла, усё чула, пра ўсё думала. Каля яе быў толькі адзін трынаццацігадовы яе сын, Максім. Бацька быў у арміі, недзе па той бок фронту, і з першага дня вайны не было ад яго ніякай весткі. Старэйшая сястра ўжо другі месяц недзе тулялася, каб не натрапіцца немцам на вочы. Нехта гаварыў, што яна сышла далёка, туды, дзе глушэй, дзе больш партызан і куды менш дабіваюцца немцы. І Максім адзін нудзеў і тужыў, гледзячы на маці. За гэтыя дні ён страшна схуднеў, вочы яго ад бессані сталі чырвоныя, ён часта імі міргаў, і, калі маці быццам бы рабілася лягчэй, ён стараўся чым-небудзь яе разважыць. Нейкім інстынктам ён адчуваў, што яна не хоча думаць аб смерці і можа не адчувае, што памрэ, і думка яе імкнецца да ўсяго звыклага і знаёмага. І ён часта гаварыў ёй, што робіцца на двары.

Перад самым вечарам ён увайшоў у хату і падышоў да маці. Яна зноў глядзела кудысьці перад сабою і, відаць, думала, думала. Ён ціха сказаў:

— Мама, а ўжо вясна скора. Ужо чорная зямля вышла ў нас каля хаты з-пад снегу. А ў агародзе на ўзмежку відны мокрыя кусцікі травы.

Маці перавяла позірк на яго, і ён прачытаў у яе вачах вялікае імкненне.

— Ужо сёння Марцінавы дзеці капалі хрэн за нашым агародам.

— Нашто ім хрэн? — прашаптала яна сухімі губамі.

— Яны не паспелі нічога схаваць, і ў іх немцы ўсё забралі. Яны вельмі галодныя. Яны накапаюць хрэну, на-

труць і паставяць у місцы, каб ён вытахся. А тады, як ён вытхнецца, будуць есці. Без нічога. Гэта іх Уладзік выдумаў.

Ён змоўк і думаў, што б яшчэ расказаць маці. Апошні прамень сонца сплыў з падлогі насупраць акна. Змяркалася, і ўсюды было так жа ціха, як і ўдзень. Людзей асталося мала, мала хто аставаўся дома. І ўвечары ў кожнага было лягчэй на душы — змрок мог схаваць чалавека ад немца.

Маці быццам пачала драмаць ці, можа, зноў упала ў забыццё. Яна сцішылася, але стала цяжэй дыхаць. Максім адышоўся на сярэдзіну хаты і стаяў так у страшнай адзіноце, у вялікім смутку аб маці, аб сабе, аб усім жыцці.

— Мама,— сказаў ён,— мама! Ты не чуеш? Я пайду гляну на вуліцу, я адразу ж прыйду. Ты не чуеш, мама?.. Мусіць, спіць...

Ён ціха падышоў да дзвярэй і спыніўся ў трывозе. На вуліцы грукаў грузавік і чуліся нямецкія галасы. «Добра, што я агню не запальваў»,— думаў ён. Але немцы ішлі ўжо і ў цёмную хату. Забразгалі сенечныя дзверы. Ужо мацалі клямку хатніх дзвярэй. Святло ўпала на падлогу з электрычнага ліхтарыка. Увайшлі два немцы. Калечанай рускай мовай адзін закрычаў:

— Хто тут? Усе сюды выходзь. Паднімай рукі.

Максім стаў перад гітлераўцамі і падняў рукі.

— Хто яшчэ ёсць?

— Я адзін. А маці — унь ляжыць, яна хворая, умірае.

Немец уставіўся ліхтарыкам у матчын твар. Яна застагнала і заварушыла губамі. Фашысты абгледзелі ўсе куткі, вышнырылі ўсюды і загадалі запальваць агонь. Максім запаліў лямпу. Газы ў ёй было толькі ў дне. Лямпу ён паставіў на стол. Немец сеў за стол, а другі падаў яму ўкручаную ў газету яду. Максім здагадаўся, што гэта афіцэр і салдат. Немец раскруціў газету і пачаў штосьці там рэзаць нажом.

— Дзе хлеб? — сказаў ён да Максіма.

— У нас няма хлеба,— адказаў Максім.

Афіцэр штосьці сказаў салдату, і той выйшаў. Можа ён пайшоў даставаць хлеба, можа чаго іншага — Максім нічога не мог ведаць. Немец сядзеў за сталом на лаве, парэзваў нешта ножыкам і клаў у рот, жаваў і чакаў. Чутно было, як цяжка дыхае маці. Агонь у лямпе пачаў цьмець, кнот выцягваў апошнюю газу. Максім раптам ус-

трапянуўся. Ён падышоў да стала і паказаў немцу па покуць, дзе вісела маленькая іконка і на ёй ляжаў зверху невялічкі, з даўніх год, недагарак свечкі.

— Лямпа зараз патухне,— сказаў ён,— а газы ў нас больш няма. Я запалю свечку, унь ляжыць.

— Я, я,— заківаў галавой гітлеравец.

Напружваючыся, каб суняць сваю ўзбуджанасць, Максім узлез на лаву ўздоўж другога берага стала, дастаў свечку і адчуў, як сэрца распірае яму грудзі і аддаецца стукам у вушах. Ён адвёў ад сябе недагарак, дзьмухнуў на яго і ўбачыў многа пылу ў сябе перад вачыма.

— Запальвай, што ты робіш! — нездаволена абазваўся гітлеравец.

Максім ступіў нагамі на тую лаву, дзе сядзеў немец, прыпёрся левым каленам у край стала і над сталом прыгнуўся да лямпы, разаграючы над лямпай канец свечкі, каб прыляпіць яе да стала. Свечку ён трымаў у левай руцэ, і ў той жа час правай рукой дастаў з кішэні складаны нож. Правая кішэня яго і правая рука былі за спіной у немца. Са свечкай ён вельмі марудзіў, бачачы, што нешта нясkладна выходзіць, і чакаючы нейкай зручнасці.

Гітлеравец раззлаваўся на гэтую маруду. Ён нешта замармытаў, ірвануў з Максімавых рук свечку і адным махам уляпіў яе ў стол. Максім ірвануўся за нямецкія плечы, адным рухам адчыніў нож і даў ім у нямецкую шыю ззаду, пад самай галавой. У гэты момант толькі мільганула ў яго вачах гэтая шыя, яна здалася яму тоўстай. Гітлеравец захрыпеў і пачаў хіліцца на стол. Максіму здалося, што нож як-небудзь выцягнецца і немец падніметца, і ён налёг на немца і ўціснуў нож глыбей, адчуўшы пальцамі кроў. Гітлеравец пакідаў храпці і толькі ўздрыгваў плячыма. Лямпа патухала. Максім, плюючы на рукі і атрэпаючы іх, скінуў з лямпы шкло, запаліў свечку. Стала відна. І тут ён убачыў, што маці глядзіць на яго быстрым позіркам, якога ўжо даўно ў яе не было. Яна з усіх сіл старалася прыўзняцца і не магла, і нешта хацела сказаць і не магла выгаварыць. Адны толькі няўлоўныя гукі і шэпт сыходзілі з яе языка. Максім падбег да яе і глядзеў у яе вочы. Абяссіленая, яна ўпала галавой на падушку, і яе вочы не пакінулі свяціцца і не сыходзілі з Максіма. Ён задыхаўся і стараўся ўздыхнуць глыбей. Яна забылася пра сябе і далёка была ад думкі і ад адчування, што ўмірае. Уся яе істота ў апошнія свае хвіліны

напоўнілася іншым. Твар і вочы яе мерклі з пячаццю задавалення, і можа нават тут былі адзнакі радасці. Апошнім промнем сваіх вачэй яна дзякавала свайго Максіма і благаслаўляла яго.

Праз хвілін дзесяць Максім пастукаў у акно хаты, якая стаяла бадай-што на канцы вуліцы. Гаспадар, стары дзед, і такая ж старая гаспадыня выйшлі з лучынай у сенцы і ўбачылі Максіма ў ватовай вопратцы і з торбаю за плячыма. Твар яго быў заплаканы, вочы чырвоныя, і голас перарываўся.

— Дзядзюхна,— сказаў ён,— цётухна, мая мама памерла. Пахавайце яе, а пасля мне пакажаце яе магілу. Мне няможна быць тут. Пахавайце маму, пахавайце!

Ён выйшаў на сцежку і па ёй, у цёмным веснавым полі, знік з вачэй здагадлівага старога чалавека, які махнуў яму ў дарогу рукой.

# БАЦЬКА

Яна яшчэ памятала, калі гэтая дарога ішла чыстым полем да самага лесу, паабапал яе тады яшчэ не было ні клёнаў, ні ясеняў. Два хвойныя лясы стаялі на двух узгорках, і паміж імі, на гэтым велічэзным полі, толькі стары вяз відзён быў зводдалеку. Ён рос над вадзяным млынам. А па той бок рэчкі, за паплавамі, над усёй мясцовасцю і нават, здавалася, над лясамі ўзвышаліся адзінокія бярозы. Там быў могільнік, і даволі далёка ад млына, каб ёй малой адной хадзіць туды часта.

З таго часу яна пачала памятаць і свайго бацьку. Тады ён не быў яшчэ такі лысы, але вусы яго і тады пачыналі ўжо сівець, а цяпер сталі зусім сівыя. Цяпер ён ужо ў гадах, і ў яе самой ужо дванаццацігадовая дачка. Як шпарка прайшоў час! Ёй ужо трыццаць адзін год, а ёй здаецца, што гэта было зусім нядаўна, калі яна была такая ж, як цяпер яе Настачка. Бацька гаворыць, што Настачка так падобна да яе, што ён думае, што гэта яна сама малая. І ніколі так раней, як у гэтую страшную часіну, бацька не здаваўся ёй такім родным, такім дарагім. Якая мілая лысая ў яго галава! Які ён ціхі, добры, справядлівы чалавек! Якія залатыя ў яго рукі! Гэта ж ён сваімі рукамі, з таго часу, як стаў калгасным садаводам, змяніў твар усяго гэтага кутка. Ён паабсаджваў дрэвамі дарогу, ён пасадзіў тры сады, ён развёў пчол. Ён пасадзіў вербы скрозь паўз рэчку. Ён пасадзіў ліпы навокал дома, новага, нядаўна яшчэ пабудаванага на месцы той старой хаты, дзе яна радзілася і вырасла. Разам з дрэвамі вырасла і новая вуліца. І дзе ён цяпер — родны, слаўны бацька, з лысінай, з сівымі вусамі? Што яны з ім зрабілі! І што яны зрабілі з Настачкай! Які смутак рэжа душу! І як думка горнецца ў ранейшыя шчаслівыя дні. І калі новы дом

будавалі, і калі яшчэ тая старая хата стаяла з гліняным токам замест падлогі. І яшчэ далей ідзе думка — калі яна сама была малая і здалёк, з-пад млына, дзе бацька служыў мельнікам, бачыла над галавой зялёную гушчырню старога вяза і высокія бярозы на могільніку. А раней яшчэ і маці была жывая. Усё прайшло! Усё мінулася! І цяпер яна ў пакутах і смутку стаіць у цёмных сценах, прыпаўшы тварам да замкнутых дзвярэй.

І раптам забразгаў замок, і гэтыя дзверы адчыніліся. І зноў ён, той самы, стаяў над душой. У яго рыжая галава і ўвесь твар быццам бы рыжы. Цяпер ён нешта дажоўваў і не зводзіў з яе вачэй. Пасля разважліва калупаў у зубах і сплёўваў з кончыка языка. А пасля, усё так жа гледзячы на яе, пачаў гаварыць зноў тое ж самае:

— Дзе твой брат? Табе яшчэ асталося адну хвіліну, каб думаць.

Ён вельмі дрэнна гаварыў па-руску, але яна разумела. Сказаць яму, дзе брат, родны брат Юрась? Такі малады, так падобны з твару на бацьку. Аддаць яго на смерць, на пакуты? Каму? Таму, што ўварваўся сюды і не даў жыць? Выказаць Юрася? Тады нябожчыца маці перавернецца ў магіле і пракляне на векі вечныя.

— Я не ведаю, дзе мой брат.

Рыжы гітлеравец паглядзеў кудысьці ў глыбіню двара праз адчыненыя дзверы і, здаецца, зрабіў нейкі знак вачыма. І раптам перад яе вачыма стала Настачка, і яе трымаў за плечы другі немец. Што стала з Настачкай? Шчаслівая тая маці, якая ляжа ў магілу раней, чым убачыць так сваё дзіця. Настачка стаяла зусім не такая, якая раней была. Яна была прысутуленая, маўклівая. Нос у яе завастрыўся. Здавалася, што тварам яна доўга ляжала ў зямлі. Рукі яе дрыжалі, калені згіналіся, галава хілілася на левае плячо. Гітлеравец трымаў яе за плечы так, што здавалася, ён хоча ўціснуць яе ў зямлю. Толькі вочы яе жылі. Як яна ўбачыла маці — вочы засвяціліся надзеяй ратунку. Маўклівая, яна быстрымі вачыма сваімі чакала, ці скора маці выратуе яе. Але калі разглядзела яна, што маці таксама схіляе галаву к сцяне, і адчула, што страшныя спазмы душаць яе, Настачка раптам заплакала. Маці ўскінула галаву і пайшла да Настачкі. Але тут схапіў яе за плечы той, рыжы.

— Дзе твой брат?! — Яна маўчала, калоцячыся.—

Твой брат дома! Дзе ён?.. Ты не скажаш? Калі ты не скажаш — яна (ён ткнуў пальцам у Настаччын твар) зараз будзе мёртвая.

Ей трэба было выбіраць паміж імі двума, роднымі, любымі, дарагімі. Сэрца яе распірала грудзі. Гітлеравец больш не чакаў, ён стрэліў у Настачку. Настачка ўпала, наварушыла пальцамі рук і заціхла.

Яна з усіх сіл ірвалася да сваёй Настачкі. Немцы ўжо ўдваіх біліся з ёю і не пускалі яе. Яны далёка кідалі яе ад сябе, шпурлялі ў сцяну, а яна ўсё жыла і не ўмірала, і ўсхватвалася на ногі, і кідалася да сваёй Настачкі.

— Дзе твой брат?..— гучала раз-поразу ў яе вушах, і гэты боль ішоў з вушэй у душу і сэрца і рваў чалавека на часткі. І нейк адразу яна ўся ўспыхнула. У вялікім парыве яна стала ва ўвесь свой рост і перасіліла слабасць. Яна яе больш не адчувала. Згінуў і боль у галаве. Толькі адчувалася кроў. Яна цякла з вушэй і з рота. Як толькі магла, яна пачала лавіць ротам паветра і страшным позіркам глянула на рыжага гітлераўца. Яна сама не пазнала свайго голасу:

— Наш Юрась адпомсціць за Настачку. У яго руках зброя. І я вам не скажу, дзе ён. І мой муж у Чырвонай Арміі. І Чырвоная Армія адпомсціць. І не будзеце вы панаваць над намі. Ніколі вы не дазнаецеся ад мяне, дзе Юрась.

Фашыст выстраліў ёй у грудзі, і яна ўпала нежывая. Стала ціха. Немцы пайшлі ў хату. Прайшло хвілін дзесяць, і ён — ціхі, лысы, з сівымі вусамі, увайшоў з агародаў ў двор, з касою і граблямі на плячах. Дома ён быў мала, не больш як гадзіну. Далёка і надоўга цяпер ніхто не адыходзіў ад дома. З канюшыннага поля ён бачыў, як паехаў сюды грузавік з немцамі, і ён адразу заспяшаўся назад. Яму рупіла: ці паспее скрыцца Юрась. Быццам бы ўсё ціха скрозь. «Можа, немцы паехалі далей»,— думаў ён. І раптам у сваім двары ён убачыў адчыненыя дзверы свіронка і пад імі Настачку ў сіняй сукенцы. Анямелы, ён зрабіў крок яшчэ і на парозе ўбачыў і яе, адзіную сваю дачку. Саломіна з пустым коласам старчаком паднялася з-пад яе галавы і зламалася над ілбом. І ў той жа момант і Настачка і яна зліліся ў адну постаць, у адну істоту. Гадамі яна стала, як Настачка. Дачка і ўнучка сталі адным яго дзіцем. Яна адна з ім. Ён садзіць сады і дрэвы ля дарог, і яна каля яго.

І гэта ж сапраўды так было. Яна была тады яшчэ малая, і ёй хацелася кратаць пальцамі кожнае пасаджанае ім дрэўца... Не, не так было... Думкі яго не так уявілі. Калі яна была малая, ён тады малоў у млыне, і яна прыходзіла да яго, і, бывала, цэлымі днямі гуляла пад старым вязам. Але яна была такая ж, як цяпер Настачка. Ён зараз возьме на рукі Настачку, жывенькую, цёпленькую, і гэта будзе яна, малая, пад тым вязам, як год дваццаць ці больш таму назад. Настачка! Яна ж ляжыць тут каля яго ног, і пальцы на яе руках застылі растапыраныя, так, як яна варушыла імі ў апошнюю сваю хвіліну.

Ён адумаўся, азірнуўся, заварушыў ніжняй паловай твару, кінуў касу і граблі і павалок свае ногі к хаце. Там чуліся галасы. Ён вярнуўся, абышоў хату паўз глухую сцяну і глянуў на вуліцу. Усё быццам вымерла. У канцы вуліцы стаяў вартавы немец. Грузавік відзён быў далёка ў вуліцы і каля яго другі немец. Астатнія, мусіць, шукалі па хатах. Што ім трэба? Хто іх зваў сюды? Што ім да таго, як тут жывуць людзі, і што Юрась камсамолец, і хто іншы — ці камсамолец, ці камуніст, ці хто б ён ні быў. Хто іх ведаў, хто іх чапаў! Шпарка ён вярнуўся назад, увайшоў у сенцы і прыслухаўся. У хаце паміж сабою гергеталі немцы. Дзе Юрась? Божа мілы, дзе Юрась? Цяпер Юрась патрэбен. Але ён не дома. Бо каб ён быў тут — не гаварылі б так ціха немцы, і не даў бы ён у крыўду сястру і Настачку. Але тут ён не вытрымаў сваіх наіўных думак і несвядомага чакання. Адчыніў ён дзверы і ўвайшоў у хату. Там былі ўсяго два немцы. Рыжы сядзеў за сталом і сам сабе прачытваў нейкія паперы ці так проста глядзеў у іх. Другі, нізкі і тоўсты, корпаўся ў кубле з салам. Ён паспеў уцягнуць кубел сюды з цёмных сянец. Сала было толькі ў дне, і ён стараўся ўздзерці зляжалы пласт і падкорпваў яго сваім шырокім нажом. І няўжо ён быў такі атупелы дурань, гэты немец? У чалавека ён сам толькі што замучыў насмерць дачку і ўнучку. І цяпер абкрадвае яго. І, убачыўшы гэтага чалавека, ён і не спалохаўся, і не пасаромеўся яго. І не адагнаў ад сябе, і не закрычаў на яго, а з практычнай развагай паказаў яму на сала і нешта загергетаў. Знакамі ён паказваў чалавеку, што не можа ўздзерці сала, і пытаўся, дзе сякера, каб разбіць кубел. Чалавек жахнуўся ад гэтай нечаканасці. Быццам збянтэжаны, ён хапіўся рукой за сваю лысіну,

пасля за сівы вус, пасля азірнуўся па хаце. Увагу яго ўзяла на сябе рыдлёўка. На ёй яшчэ была гліна. Некалькі дзён таму назад ён браў ёю гліну. У момант ён хапіў рыдлёўку і з усяго размаху, вострым кантам, апусціў яе на нямецкую галаву. Гітлеравец захістаўся і аб'ехаў на падлогу, але ён не бачыў гэтага: ён адразу рвануўся к сталу з ускіненай зноў рыдлёўкай. Рыжы гітлеравец стрэліў у яго, і ён з усёй сілы, як толькі мог, даў рыдлёўкай па зноў працягненай нямецкай руцэ з пісталетам. Пісталет бразнуўся вобземлю, гітлеравец закрычаў, сашчаміў зубы і ўскочыў нагамі на лаву. Ён стаяў цяпер на лаве галавой бадай-што пад самую столь. І тут белавусы гаспадар зноў ускінуў над сваёй галавой рыдлёўку. Фашыст кінуўся на чалавека, але той паспеў не дапусціць яго да сябе тым, што даў рыдлёўкай па яго твары. Немец рынуўся ў дзверы, пераскочыў цераз труп свайго паплечніка, выскачыў у сенцы, пасля на двор. Ён крычаў хрыплым голасам, і чалавек гнаў яго перад сабою на агароды, пасля на паплавы, пасля падагнаў да вузкай і плыткай паплаўной рачулкі. Ад удару рыдлёўкай у твар у гітлераўца, відаць, кружылася ўсё перад вачыма. Бегучы, ён часамі збіваўся з простага тропу, яго вяло ўбакі, але ён дапаў да рачулкі, ускочыў у яе і з поўнымі халявамі вады выпаўз на той бераг. Чалавек задыхваўся, бегучы за ім. Сэрца распірала яму грудзі. Ён сцішыў хаду і павальней перайшоў праз рэчку. І немец задыхваўся ад бягі і, не зводзячы вачэй з чалавека, сочачы за кожным яго рухам, глытаў паветра. Ён стаяў. Стаяў на беразе і чалавек. Так прайшло хвіліны можа тры. Чалавек зноў пабег за немцам. Пачаў уцякаць і той, з пачарнелым тварам ад удару рыдлёўкай. Так яны дабеглі да другой, вялікай рэчкі. Немец ужо не мог больш бегчы. Ён азірнуўся і пайшоў берагам. Пайшоў і чалавек следам за ім. Немец пачаў падаць, усхватвацца, бегчы, ісці. Чалавек не адступаўся ад яго. У яго цямнела ў вачах ад слабасці, сэрца яго гатова было разарвацца, але ён бег і ішоў следам. Пачаўся вечар, пачало змяркацца. Немец увайшоў у лес. Увайшоў за ім і чалавек. Немец стараўся схавацца за дрэвамі, чалавек не спускаў яго з вока. Ён выбіваўся з сіл, каб бліжэй быць да немца і не страціць яго з вока. Ужо было цёмна, яны чулі адзін аднаго толькі з трэску сухога галля пад нагамі. Чалавек заходзіў управа, каб выгнаць немца на край лесу. Немец не ведаў мясцовасці,

ён рушыў ад чалавека ўлева і выйшаў на цёмны поплаў. Чалавек быў тут жа, каля яго блізка. Немец азірнуўся і падняў рукі ўгару і нешта стараўся сказаць. Хрыпата яго голасу даходзіла да траскучага шэпту. Грудзі яго хадзілі ўбакі, здавалася, ён прысядаў пры кожным сваім выдыху і ўздыху. Чалавек быў шчаслівы перадыхнуць хоць момант. Напэўна, з гадзіну, а можа і больш, доўга яны так стаялі адзін перад адным. Калі немец апускаў рукі, чалавек замахваўся рыдлёўкай і немец зноў падні-маў рукі. Узышоў месяц, усё стала белым. Навокал по-плаву чарнеўся лес. Чалавек ускінуў рыдлёўку і рушыў на гітлераўца. Немец пабег. Перамагаючы сваю сілу, чалавек на тры крокі стаў бегчы за немцам і аглушыў яго па гала-ве кантам рыдлёўкі. Гітлеравец упаў. Чалавек біў яго рыд-лёўкай, а пасля пачаў паволі адыходзіць ад яго. Ады-шоўся да нечага цёмнага, невыразнага, вялікага, што было на ўвесь свет, і грымнуўся вобземлю ўсім сваім це-лам. Усё было ціха. Месяц свяціў усю ноч. Вялікая раса ляжала на траве. Пад дзень узняўся вецер, і лес зашумеў. Чалавек падняў галаву, калі быў дзень і сонца стаяла высока. Лес шумеў няроўна, крушыннік і ядловец раз-гойдваўся пад ветрам. Чалавек падняўся на ногі, маўклі-ва глядзеў на рыдлёўку і на немца каля яе і быццам ні-чога не памятаў. Гітлеравец ляжаў, падкурчыўшы адну нагу. Здавалася, што ён хоча падняцца і пабегчы. Але на яго твары сядзела плойма мух. Пад нямецкай спіной была купіна, і немцаў жывот тырчаў угару. Чалавек увайшоў у лес і пайшоў, мала што заўважаючы перад сабою. Адумаўся ён праз кіламетраў чатыры. Ён здзівіўся, як далёка зайшоў ён уночы — з-пад гэтага ляска, які ён цяпер пераходзіў, дадому было вёрст дванаццаць. Ён і сам не ведаў, куды ён і па што ідзе. Знаёмай дарогай ён ішоў дадому — і толькі. Ён ледзьве пераступаў нагамі, такая страшэнная стома гняла ўсё яго цела. Многа прайшло ча-су, пакуль ён, бадай-што ў бяздум'і, падышоў к месцу, дзе стаяў яго дом. Ён падумаў, што няможна цяпер яму па-казвацца тут смела. Ён сеў на зямлю і прычакаў вечара. Губы яго былі сухія, у твар быццам калолі тысячы голак. Ён глядзеў на дарогу, дзе густа вырысоўваліся перад во-кам дрэвы, пасаджаныя ім самім. Вялікі, як свет, смутак здушыў яго душу. Ён пайшоў к дрэвам. Да гэтых дрэў дакраналася яна. Яна памагала яму садзіць іх. На гэтых, выраслых ужо дрэвах жывуць сляды яе рук. Ён хадзіў

каля дрэў і дакранаўся пальцамі да іх кары. Ён доўга стаяў тут. Уночы ён увайшоў у свой двор. Ні яе, ні Настачкі ўжо не было на зямлі. Ён пастукаў да суседа ў акно. Сусед выйшаў. Ён запытаўся. Сусед адказаў, што іх пахавалі нядаўна, перад вечарам. Пахавалі суседзі, украдкам. Ён не захацеў зайсці ў хату. Ён ужо не баяўся, ён не хацеў ці не мог. Ён прахадзіў усю ноч. Перад днём ён зноў зайшоў да таго ж суседа...

— Юрась не прыходзіў? — запытаў ён.

І ў голасе яго гучалі ўжо ноты заклапочанага чалавека.

— Не, Юрася не бачылі,— адказаў сусед.

Ён зноў выйшаў з вёскі. Ён чакаў, што прыйдзе Юрась. Але гэта была толькі частка таго, што было ў ім. Смутак, страшны і непераможны, душыў яго, не выпускаў яго са сваёй жудаснай улады. Так прайшло тры дні. На чацвёртыя суткі яму стала ясна, што ён не вытрымае. Часам змрокам ён падыходзіў да свайго дома і адразу адварочваўся ад яго, ішоў назад, прыдушаны і знябыты. Без прыстанішча ён бадзяўся па ўсёй гэтай мясцовасці многа дзён. З-за дрэў у лесе ён бачыў, як ехалі на грузавіках немцы, як пасля дым і агонь узняўся над яго домам. Уночы, пад дзень, ён прыйшоў на роднае месца. Чорныя асмалкі яго дома курыліся яшчэ і тлелі. Ліпа над асмалкамі стаяла без лісця і веццяя, абгарэлы пень тырчаў угару. Ён прыпёрся плячыма да пня і стаяў так, аж пакуль не ўднела добра. Сусед штурхаў яго ў плячо. Ён схамянуўся.

— Юрась прыйшоў... Слухай, Юрась прыйшоў.

— Дзе Юрась?

— У мяне, спіць. Ідзі, пагавары з ім.

Паслухмяна і маўкліва пайшоў ён за суседам. Юрась сядзеў у суседавай прыгрэбцы, увесь у саломе, і праціраў вочы. Бацька глянуў на яго, заміргаў вейкамі, і сударга здушыла яму горла. Юрась усхапіўся, стаў перад бацькам.

— Я ведаю, усё ведаю,— сказаў Юрась.

— Сынку мой, сынку мой,— зашаптаў бацька.

Юрась выцягнуў з саломы вінтоўку і даў бацьку. Пасля другую даў суседу. Пасля выцягнуў адтуль жа свой аўтамат.

— Куды цяпер ісці? — сказаў бацька.

— Тут быць. Будзем чакаць. Нашы там, цераз поплаў, на беразе. А яны зараз сюды зноў прыедуць.

Пасля гэтага гадзіны дзве яны не сказалі адзін аднаму ні слова. І вось загуло і затрашчала на вуліцы. Юрась глядзеў праз прычыненыя дзверы. Два грузавікі, поўныя нямецкіх салдат, прапаўзлі і спыніліся. Гітлераўцы пачалі разыходзіцца па хатах, шукаць і дапытваць. На машынах асталіся сядзець толькі шафёры і вартавы салдат каля іх. Сусед прыцэліўся, і фашыст грымнуўся вобземлю. Юрась выбег на вуліцу і кінуў пад машыну гранату. Машына разарвалася, і абломкі яе, з разверненай зямлёй, завалакліся дымам. Страляючы, немцы выбягалі з хат. Юрась ірвануўся за сцяну прыгрэбкі, і яго аўтамат пачаў сваю работу. З-пад рэчкі, цераз поплаў, беглі людзі і стралялі. Гітлераўцы з крыкам збегліся на агароды, залеглі, і адзін з іх крыкнуў каманду. Пачаўся бой. Абліваючыся крывёю, выбег наперад чалавек і адну за адной шпурнуў дзве гранаты. Грук і дым. Чорная зямля рванулася перад вачыма Юрасевага бацькі. Ён ляжаў у градах і страляў. Пасля ён пачаў доўга цэліцца. Напроці яго ледзь відна нямецкая галава. Дым разышоўся. Ён яе вельмі выразна бачыў. Рукі яго дрыжалі, і яму цэліцца цяжка было. Нарэшце ён стрэліў. Ён бачыў, як над нямецкай галавой узляцела ўгару рука і адразу ўпала. Галава ўехала ў траву. Радасць, вялікая, вартая ўсяго жыцця, ахапіла чалавека. Ён цэліўся і страляў і забыўся на ўсё, апроч гэтай радасці. Сонца моцна пякло. Бой заціхаў.

— Бацька! — крычаў Юрась.

Чалавек стаў на ногі і пайшоў на Юрасеў голас.

— Ты возьмеш на плечы мяшок з хлебам,— сказаў Юрась.

— А дзе той мяшок?

— Там, усё прыгатавана,— сказаў сусед, і ўсе падышлі да свірна.

Сусед націснуў на дзверы. Яны не адчыняліся.

— Што такое? — сказаў сусед.— Я іх не замыкаў.

Ён грукнуў у дзверы прыкладам вінтоўкі.

— Адтуль стралялі фашысты, мы іх туды загналі,— закрычаў здалёк белагаловы партызан, спацелы і без шапкі.— Ім не было дзе дзецца, і яны туды... Замкнуліся.

Яго голас прагучаў у вялікай цішыні. І раптам на агародах застукаў кулямёт.

— Зноў немцы... там! — закрычалі на вуліцы.

І неўзабаве зноў пачаўся бой. Туды пабег і Юрась.

Туды пайшоў і белагаловы партызан. У гэтыя хвіліны бацька ўжо не пільнаваўся свайго Юрася. Ён памятаў толькі тое, што на яго пакінулі гэтых немцаў у свірне. Тут ён убачыў, што дзверы прыадчыніліся і ў шчыліну выглянула вінтовачная руля. Ён стрэліў туды. Дзверы зноў зачыніліся. Ён успомніў, што тут за сцяной валяўся заўсёды дрот. Ён хапіў яго і пачаў прыкручваць ім клямку дзвярэй к прабою ў вушаку. Не вельмі моцна ён прыкруціў клямку, але гэта было ненадоўга. Страляючы ў дзверы праз кожную хвіліну, ён прымчаў тры ахапкі сена, тут жа, з поплаву, прыціснуў да сцяны і запаліў. Ён адышоўся наводдаль і прыцэліўся ў дзверы. Дзверы рваліся, іх стараліся адчыніць, але сцены ўжо гарэлі. Ён яшчэ раз стрэліў. Ужо гарэла страха. Дзверы пачалі трашчаць. Ён яшчэ стрэліў. У свірне крычалі. Усё ўжо гарэла. Сцены палалі ў агні. З агню выскачыў гітлеравец і ўпаў і зноў ускочыў на ногі. Адзежа на ім гарэла. Чалавек стрэліў, і немец упаў увесь у агні, і больш не падняўся. Неўзабаве і сцены ўпалі. Слупы іскраў паляцелі ўгару. Бярвенне датлявала, і з-пад яго тырчалі варожыя ногі і рукі.

Праз гадзіну ўсё тут было ціха. Ён адзін ішоў адгэтуль даганяць Юрася і ўсіх. Сонца ўжо спусцілася к лесу. На агародах ён прайшоў паўз нямецкія трупы. І яму здавалася, што іх занадта мала. Нават мільёны іх не ўнімуць боль яго душы і яго смутак. Але цяпер яму было лягчэй. Хоць у руках і нагах ён стаў бадрэйшы. Ён ішоў сцежкаю паўз дарогу, пад раскідзістым веццем пасаджаных ім самім дрэў, і ведаў, што праз усё сваё жыццё будзе бачыць іх і што яны будуць тут вечна расці.

# СМЕРЦЬ

Дажджы скончыліся якраз тады, калі нашы часці мінулі лінію лясоў і выйшлі да вялікага паселішча. Перад імі быў прастор і ясны дзень. Свет здаваўся шырокі і радасны. Цяжкое выпрабаванне крывавага бою асталося за плячыма. Вораг ляжаў скрозь на полі дзвюма сотнямі трупаў. Над імі, на мокрым яшчэ дрэве, сядзела лясная жоўтая птушка. На першай вуліцы стаяла шыбеніца, і на ёй вісеў труп павешанага чалавека. На другім канцы гэтай вуліцы датляваў пажар некалькіх дамоў. Жанчыны і дзеці вылазілі з паграбоў і ішлі за байцамі, але тыя спяшаліся далей: на захад адгэтуль, зусім недалёка, ішоў бой. Там праз групы нашых дэсантнікаў стараліся прабіцца рэшткі нямецкага палка, галоўныя сілы якога за тую раніцу леглі навекі ў трох месцах навокал таго паселішча. Байцы мінулі вуліцу і поле за ёй, прайшлі паўз чатыры дробныя старыя ляскі, і па той бок іх неўзабаве бой выбухнуў з новай сілай. Не больш як праз гадзіну бой заціх, лінія фронту аддалілася яшчэ, а тут па дарогах пайшлі рэзервныя часці і абозы.

Праз чатыры дробныя ляскі ішла шырокая дарога, па ёй ішлі грузавікі, і артылерыя, і санітарныя аўтобусы. З лясоў выходзілі на дарогу людзі. І як кожны з іх ні рваўся ісці хутчэй к свайму нанава знойдзенаму дому, усё ж натоўп стаяў па абочынах дарогі, і сотні вачэй не сыходзілі з усяго гэтага баявога руху. Адзін стары чалавек стаяў каля маладой жанчыны з заплаканым тварам і бесперапынна махаў шапкай на дарогу.

У бок ад дарогі адразу пачыналіся густыя зараснікі ядлоўцу і крушыны, а яшчэ далей — прэлае карчэўе пад пластом гнілога лісця. Тут правальвалася нага і ісці было цяжка, і асабліва таму, хто не ведаў тут ні сцежак, ні дарог. Аднак жа нейкая постаць, сагнуўшыся і прыслухоўваючыся на кожным кроку, правальваючыся ў мокрую

трухліну, старалася як найхутчэй адысці далей ад дарогі, дзе ўсё так грымела і жыло бесканцовым рухам. Праз хвілін дваццаць ходу гэтая істота дайшла да вельмі густога месца. Падлесак пераплёўся нізкімі кустамі, ад дарогі тут было ўжо далёка і вельмі слаба даходзілі сюды гукі яе руху. Сонца стаяла ўжо даволі нізка. Яно відно было над кустамі, паміж ствалля старых бяроз. І праз гэтую гушчырню ішла вузенькая, як праехаць з калясьмі, дарога. Над ёю гнуліся купчастыя дрэвы, і праз іх вецце сонца свяціла на яе. Яна ўся была, нават і ў каляінах, зарослая вымытай дажджамі травой. Тут было ясна і ціха. Пахла мокрая трава і зямля з-пад лісця і мху. Часамі падала на лапушысты лісток запозненая кропля вады з дрэва, і здавалася — вялікі спакой і вялікая радасць ёсць нязменныя спадарожнікі чалавека на свеце, і ні трывогі, ні пакуты не рвуць яго душу.

У страшным смутку па нечым дарагім і навек страчаным сагнутая істота выглянула на гэтую глухую і ціхую дарогу. Гэта быў нямецкі салдат. Постаць яго была ў дзіўным выглядзе: ён быў увесь мокры і адзежа яго ў многіх месцах разарваная. На твары скрозь крывавіліся абдзёртыя пляміны. Галава без шапкі. Над вушыма тырчалі ўгару рэдкія кусцікі валасоў, на самым версе голай галавы, на круглай лысіне быў рубец закарэлай крыві: гэта мог яго шмаргануць і сухі сук нізкай галіны. Ён часта дыхаў, калені яго дрыжалі. Нейкім дзіўным чынам ён нагадваў цяпер дробную мыш, якая сярод людскога гаману не можа выбрацца, як ні стараецца, са шкляной пасудзіны. Ён не больш як паўхвіліны ўглядаўся ў дарогу, пасля схаваўся назад у кусты, там пры самай дарозе прыпёрся плячыма да дрэва, аб'ехаў так і сеў на зямлю і прыплюшчыў вочы. Магло здавацца, што ён зараз засне або памрэ. Але аўтамат свой ён не выпусціў з рук.

Праз хаос яго думак білася наверх адна, самая вострая: перачакаць тут, пакуль сцямнее, а тады брацца на захад, хоць паўзці многа кіламетраў, нават міль, абы дайсці туды. А што такое гэта «туды» — гэта трацілася ў наплывах хворых мар. Гэта была Германія і дом. У ёй і дзеці, і сям'я. І ніколі гэты яго смутак не быў такі выразны, як у гэтыя хвіліны. Раней было чаканне шчаслівага звароту, і часамі, калі над галавой не навісала смерць, не было нават і смутку, а адчуванне таго, што ён, разам з усёй арміяй, так далёка цяпер на заваяванай зямлі.

Але рэшткі гэтага адчування сплылі ўжо назаўсёды ў пачатку мінулай ночы, і ім ужо не суджана было вярнуцца. Полк з усіх бакоў апынуўся пад страшным абстрэлам, а пасля чырвонаармейцы беглі з настаўленымі штыкамі, і ён, перапаўзаючы цераз трупы нядаўніх сваіх таварышаў, браўся ўсё далей і далей к гэтаму лесу. Калі ён бег той шырокай лясной дарогай, дарогу яму загарадзіла некалькі сваіх жа афіцэраў, і ён пабег назад у бой, але там пластом ляжала смерць, а хто жывы быў — разбягаліся. І ён зноў папоўз назад, пакуль не прыпоўз у гэты лес. Цяпер ён ведаў, што апынуўся ўжо на гэтай старане фронту, і ратунак уяўляўся яму як недасяжная далечыня. У гэтыя хвіліны чакання паўставала перад ім шыбеніца ў тым паселішчы, каля якой ён стаяў у густым ланцугу варты і сачыў, каб не разбегліся людзі, якіх сагналі глядзець, як вешаюць партызана. Праўда, не ён сам стаў на варту, яго паставілі вышэйшыя за яго. Але ён стаяў і вельмі пільна сачыў за тварамі жанчын і дзяцей: ці не хоча хто ўцячы, каб не глядзець? Як укладвалі партызанскую галаву ў пятлю, як пасля ўздрыганулася вісельная жэрдка — ён бачыў без хвалявання і трывогі. Ён думаў аб сваіх дзецях і аб сваім доме. Тут яму ўсё было чужое і ўяўлялася быццам нежывым, яно нават не належала да чалавечага свету, у якім жыў ён і на якім трымалася яго душа.

Асталася ў яго памяці і шыракаплечая прысадзістая постаць таго сведкі, які каля шыбеніцы пацвердзіў, што падведзены пад жэрдку чалавек ёсць сапраўды партызан і што ён яго ведае з малых год. І гэты сведка ўяўляўся яму таксама чужым і непатрэбным. Ён быў датуль патрэбен толькі на тое, каб паказваць, дзе хто з людзей захапаў сала або хлеб. Усяго два тыдні полк стаяў у гэтым месцы, а сведка пад шыбеніцай запомніўся ўсім салдатам. Нават ведалі яго прозвішча — дзіўнае, тутэйшае і цяжкое для вымаўлення: Пацейчык. Камандзір палка назначыў яго старастам, і з таго часу салдаты мелі хлеб.

І ўсё гэта прамільгнула ў яго думках як непатрэбства, як штосьці чужое, далёкае, няважнае і нічога не вартае перад тым важным, што вырысоўвалася як далёкі ратунак. Вельмі марудна цягнуўся час. Сонца, як сумысле, вельмі павольна хілілася к захаду, як яго ўласны смутак і балючы парыў да жыцця і радасці. Як долатам у галаву, мучылі птушыныя галасы ў вяршалінах дрэў, і занадта

ясна было ад сонца, здавалася яму. Каб больш цішыні і змроку, каб ноч хутчэй і каб людское вока ніякае нідзе не існавала. І забыццё не прыходзіла. І так ён доўгія гадзіны пераджываў свой жах.

Да захаду сонца асталася можа ўсяго гадзіна, як ён пачуў ледзь заўважны для вуха шум. Нехта як быццам рассоўваў рукамі веццe кустоў. Сэрца яго амярцвела, вочы шырока раскрыліся; не выпускаючы з рук аўтамата, ён, як сядзеў, падаўся ўсім тулавам наперад і пачаў прыслухоўвацца. Усё зноў было ціха, але праз момант яшчэ — той жа асцярожны гук, і нават быццам трэснула пад нагамі сухім галлём. Салдат не зводзіў вачэй з прагаліны паміж веццем, праз якую блізка відзён быў зараснік па той бок дарогі. Зноў запанавала цішыня. Салдат прыціснуўся да дрэва, і тут пачуліся сапраўдныя крокі. Хтосьці цяжка выйшаў на дарогу і спыніўся на ёй. Салдату відна была спіна гэтага чалавека, у рудой вопратцы з самаробнага тутэйшага сукна, і палатняная забруджаная торба пад пахай, немалая і туга напакаваная. Гэта не быў чырвонаармеец, але гэта мог быць партызан. Салдат асцярожна падняўся на ногі і ўпёрся плячыма ў дрэва. Аўтамат ён нарыхтаваў страляць. Чалавек на дарозе кінуў тварам у бакі, азіраючы дарогу, і зноў застыў на месцы. І страшная, ні з чым не параўнаная радасць скаланула салдатаву душу: на дарозе стаяў той самы сведка каля шыбеніцы з цяжкім тутэйшым прозвішчам — Пацейчык. Упершыню салдат адчуў у ім жывую істоту. Ён гатоў быў кінуцца яму на шыю і цалаваць яго. Ён гатоў быў клікаць яго да сябе і выкласці перад ім сваю душу. Рука яго здрыганулася, аўтамат спусціўся ўніз. Ён не зводзіў узбуджанага позірку з Пацейчыкавага твару і стаў проста-такі шчаслівы, калі Пацейчык двума крокамі пераскочыў дарогу на гэты бок, прыслухаўся на момант і пабраўся кудысьці ў глыб дрэў, далей ад яго. Устрывожаны салдат ціха свіснуў, і Пацейчык застыў на месцы. Салдат падняў руку і махнуў к сабе. Пацейчык убачыў немца, і адзеравянелы твар яго перасмыкнуўся бляскам момантнай радасці. З вялікай гатоўнасцю ён адразу рушыў да немца.

Яны спаткаліся так, быццам бы ведалі адзін аднаго з маленства. Але гаварыць паміж сабою яны не маглі. Немец тыкаў пальцам Пацейчыку ў грудзі і шаптаў цераз дзесятае ў пятае цяжкое яму слова «Пацейчык», стараючыся паказаць гэтым, што ён яго ведае. Пацейчыкківаў

галавою. Пасля салдат тыкаў сабе ў грудзі і шаптаў «Клебер». Ён напрошваўся на дружбу к Пацейчыку, ён шукаў каля яго ратунку. Ён бачыў, што Пацейчык ратуецца цяпер і ратавацца будзе як толькі можа, і ён імкнуўся да яго на чужой і незразумелай зямлі.

Пацейчык не мог схаваць свае радасці. Ён і не хацеў хаваць яе. Наадварот, ён стараўся быць ліслівым з немцам. У ім ён бачыў свой ратунак. Гэты Клебер быў нейкай частачкаю нямецкай арміі, і ён, чалавек зусім не вайсковы, не мог разабрацца ў навакольнай абстаноўцы. Ён не ведаў, што гэты немец тут адзін. Ён думаў у гэтую хвіліну, што трапіў на нямецкую лінію. Ён ківаў галавой і наіўна ўсміхаўся.

Цішыня пацягнулася далей. Абодва яны сядзелі ў гэтай гушчырні і глядзелі адзін аднаму ў вочы. І кожнаму пры другім было смялей і спакайней. Нарэшце Пацейчык развязаў торбу і дастаў адтуль хлеб і кус сала. Удвух пачалі яны есці. Немец аж душыўся гэтай сытай ядой, недалікатна напіхаючы поўны рот. Ён быў галодны і, апроч таго, стараўся нагнаць запас на вялікую дарогу. Пацейчык быў рад. Ён імкнуўся дагадзіць Клеберу, каб той быў да яго ласкавейшы і як-небудзь забраў з сабою. Каб хоць не праганяў ад сябе, а вывеў у зону нямецкай улады. Змрочныя карціны таго, што будзе, не давалі яму спакою. Мусіць, прыйдзецца бадзяцца па свеце, і пачынаць можа дзе ў Германіі жыццё спачатку, і назаўсёды пакінуць родныя мясціны. Ён гатоў быў аберуч ухапіцца за гэтага невядомага яму і чужога Клебера і так трымацца за яго і дзень і ноч. Ён размяк, як мокрая салома, і рад быў, што немец пхне сабе ў рот яго сала.

— Пане Клебер,— шаптаў ён, падсоўваючы яму торбу і заікаючыся.

Клебер глядзеў на яго ўдзячнымі вачыма і ўсё еў і еў.

Калі сцямнела, яны абодва падумалі, што пара ісці. І кожны з іх думаў на другога, што той першы ўстане і павядзе яго. «Клебер жа салдат! — думаў Пацейчык.— Яго тут афіцэрства пакінула на нейкую справу. Ён мяне выведзе». «Гэты тутэйшы ведае ўсе дарогі, ён зараз павядзе»,— думаў Клебер. Яны доўга сядзелі і пасля, папацёмку, пачалі штурхаць адзін аднаго. Калі яны мінулі лес і прайшлі ўпоперак праз запушчанае, неаранае поле, пачаў узыходзіць месяц. Ледзьве дабраліся яны ў ясным змроку да вузкай грады нізкарослага лесу і адтуль усё

ішлі і ішлі блытанымі сцежкамі, трымаючыся хмызнякоў і лагчын.

Пасля поўначы яны пачулі кулямётную стральбу перад сабой і падаліся назад, а пасля сышлі ўбок. Нешта падазронае яны пачулі і там, паблізу. Абодва падумалі пра партызан, і гэта ім асабліва было страшным. Ахопленыя жахам, яны пайшлі назад і ўбіліся ў нейкі забалочаны хмызняк. Пот ліўся з іх цурком, яны моўчкі апынуліся адзін пры адным і доўга прыслухоўваліся. Усё як быццам было ціха, і яны рушылі ў дарогу. Да самага рассвітання яны прабадзяліся, самі ўжо не ведаючы дзе, і дзень іх застаў на ўзгорыстым полі. Лес быў далёка, і страшна было павідну ісці полем. Здалёк чулася артылерыйская кананада, а тут, недзе блізка, палявой дарогай ішлі людзі, і да іх выразна далятаі гукі жаночай гаворкі: прыціснуўшыся да зямлі, яны цэлы дзень праляжалі пад удзірванелым схілам голага ўзгорка, і змрок вечара прынёс ім заспакаенне.

— Пане Клебер, вы ж салдат, вядзіце к сваім,— маліўся Пацейчык.

Клебер нічога не разумеў, бездапаможна азіраўся, тыкаў пальцам Пацейчыку ў галаву і махаў рукой у прастору, хочучы давесці яму, што тутэйшыя дарогі павінен ведаць ён, тутэйшы. Яны ўбіліся ў незнаёмы лес і блыталіся па ім і гэтую ноч. Некалькі разоў яны чулі непадалёку вінтовачную стральбу і ў адным месцы нават чулі паблізу чалавечыя галасы. Яны абодва здагадваліся, што партызаны або чырвонаармейцы вылоўліваюць брадзячых салдат. З жахам яны кідаліся ісці ў які-небудзь супрацьлеглы бок, даходзілі аж датуль, пакуль было ціха, і пазіралі на зямлю, абняможаныя.

Гэты дзень застаў іх у лесе. Які гэта лес і куды яны зайшлі — Пацейчык не ведаў. Ён ужо зусім не ведаў, куды ісці, і дзе захад, і дзе ўсход. Дзень быў хмурны, і ліў дождж. Ні на водным з іх сухога рубца не было. Панылыя, яны сядзелі адзін насупраць другога. Пацейчык развязаў торбу і немец падсунуўся бліжэй. Пацейчык хапіў торбу і адцягнуў да сябе. Ён ненавідзеў гэтага Клебера ўсімі сваімі помысламі і пачуццямі. Гэты Клебер сам шукае сабе ратунку, і ніякі ён не салдат, за якога можна трымацца. Ён толькі тады быў цвёрды і самаўпэўнены, калі ён, Пацейчык, паказваў яму ці каму-небудзь іншаму з іх, дзе чалавек закапаў хлеб. Цяпер гэтая гніда сама гатова

пыць і енчыць аб ратунку. За гэтыя часы Клебер стаў нейкі закарэлы, у сіняках і струпах, аброслы, ускудлачаны, абшарпаны. Пад губамі ў яго было мокра. Вытырклыя калені штаноў лопнулі, у адным боце адарвалася падэшва і ледзь трымалася адным канцом. Ідучы, ён шмараваў ёю аб зямлю, каб не згубіць яе, і ўсё чмыхаў носам. І гэтае шморганне падэшвай і чмыханне носам раздражнялі Пацейчыка.

Калі Пацейчык пацягнуў к сабе торбу, Клебер зірнуў на яго злым позіркам: нікуды ён не варт — гэты тутэйшы мяшок. Дарог ён не ведае, смеласці не мае і сам стараецца выратавацца за чужымі плячыма. І ў гэты момант яму да жудасці захацелася застрэліць яго. Ён адсунуўся далей, сціскаючы аўтамат. Пацейчык сачыў за кожным яго рухам.

— Ад'еўся на маім сале! — прагаварыў ён, паднімаючыся.— Нямецкая сука!

Немец падскочыў і капянуў нагой зямлю пад торбай. Торба адляцела ўбок, паўбулкі хлеба выпала з яе, і немец паспеў хапіць хлеб, а пасля спрытна схапіў і торбу. Пацейчык, сціснуўшы кулакі, стаяў у страшнай позе, чакаючы моманту, каб кінуцца на немца. Але той наставіў на Пацейчыка аўтамат, і Пацейчык абвяў. Павесіўшы на шыю торбу, глытаючы хлеб і сціскаючы аўтамат, немец пайшоў, сам не ведаючы куды, абы далей быць ад Пацейчыка. Немец бесперапынна азіраўся і ўбачыў, што Пацейчык ідзе за ім следам. Ён наставіў аўтамат, але не страляў, баючыся гуку. Пацейчык пачаў паказваць немцу знакамі, каб той аддаў яму хлеб. Немец патрос кулаком і пайшоў далей. Пацейчык, як звер, рынуўся на немца і ўссеў яму на плечы, паваліў і адабраў аўтамат. Немец падняўся з зямлі і падняў рукі ўгару. Пацейчык забраў хлеб і торбу з салам і з усяго размаху смальнуў кулаком немцу ў твар. Немец хістануўся і зваліўся на зямлю. Пацейчык пастаяў над ім хвілін пяць і пайшоў, як п'яны, выбіраючыся на сцежку паміж дрэў. Немец падняў галаву і, думаючы, што той ведае дарогу да нямецкай лініі, але не хоча весці яго з сабой, адзін пайшоў туды. Ён падняўся і назіркам паблытаўся следам. Пацейчык увабраўся ў вялікую гушчырню і лёг на зямлю. Немец таксама лёг, але так, каб сачыць за кожным рухам Пацейчыка.

Пацейчык падгарнуў пад сябе торбу з хлебам і заснуў, нават пачаў храпці. Немец пачаў падкрадвацца, каб вырваць ад яго торбу і аўтамат, але Пацейчык рап-

там падняў галаву і вылаяўся. Немец лёг на зямлю, і абодва яны так праляжалі да самага вечара, не зводзячы вачэй адзін з аднаго.

Так некалькі дзён і начэй яны кружыліся па гэтым лесе, то выпускаючы адзін аднаго з вока, то зноў сыходзячыся. Пацейчык ужо з'еў увесь свой хлеб і адчуваў голад. Немец ужо ледзьве валачыў ногі. Выходзячы з лесу к полю, яны ўсюды бачылі людзей і варочаліся назад. На полі аралі і сеялі. Уночы праз лес хадзілі людзі, адзін раз Пацейчык быў сапраўды такі наткнуўся на двух чалавек, якія стаялі на самай дарозе пры лесе. «Партызанская застава»,— падумаў ён і пабраўся назад. І чым больш праходзіла дзён, тым больш смутак па сваёй хаце агортваў яго. Голад падцягнуў яму жывот к спіне, усё ў яго сярэдзіне гарэла і смактала. Ён хістаўся ў бакі і найбольш ужо ляжаў, чым хадзіў. Але аўтамат ён нязменна прыціскаў к сабе.

Нарэшце яму, як у смагу піць, захацелася хоць здалёк зірнуць на сваю хату. Ён паклыбаў да краю лесу і толькі там адумаўся, што гэта не той лес, пра які ён думаў, і што хата яго недзе далей. Са смуткам ён стаў на месцы і адчуў страшэнны боль у каленях. І тут ён убачыў тое, ад чаго быццам іскры сыпануліся яму ў вочы і асляпілі яго. Аўтамат вываліўся з яго рук, ён працёр кулакамі вочы і пачаў прыглядацца. Непадалёку ад яго выйшла з лесу і ішла ў поле сагнутая постаць. Гэта быў немец Клебер. Ён ледзьве ішоў і ад слабасці прысядаў за кожным крокам. Рукі ён трымаў паднятымі ўгару, гэта было яму вельмі цяжка, яны спускаліся ўніз і ён раз-поразу зноў ускідаў іх угару, быццам лавіў што ў паветры. Напэўна, ён мала што заўважаў ужо навокал сябе.

Вострая думка кальнула Пацейчыка: «Не вытрымаў і пайшоў да людзей прасіць літасці. Там яго накормяць, і ён раскажа, што я тут туляюся». Задыхваючыся, ён ускінуў аўтамат і выпусціў наўздагон немцу ўсе кулі. Пасля гэтага ён шпурнуў аўтамат вобземлю і кінуўся ў лес. Ён не бачыў, як немец упаў, а пасля, не адчуваючы ран, узгробся і паклыбаў далей, ловячы рукамі паветра.

Перад захадам сонца, на трэцім кіламетры дарогі, немец упаў ад слабасці. Поле ў гэтым месцы спускалася ўніз, у лог. Узняўся вецер, у лясах загуло, к вечару захаладала. Клебер неўзабаве як праз сон пачуў над сабой чалавечыя галасы.

Стаяла трое мужчын з вінтоўкамі. Адзін з іх быў той стары, што на лясной дарозе ў той дзень махаў шапкай на дарогу, па якой ехалі грузавікі з байцамі. Не знайшоўшы ў гэтым лесе брадзячых салдат, яны кіраваліся ўжо ў свой атрад, як раптам заўважылі на зямлі Клебераву постаць.

— Немец,— сказаў адзін,— дыхае і крыві няма.

— Спіць,— сказаў другі.— Э, пане фрыц, варушыся!

— Чакай,— сказаў стары.— Гэта ж той самы, што стаяў у каравуле, калі нашага Канстанціна вешалі. Э, ты! Здыхаеш?

Клебер расплюшчыў вочы і ўбачыў над сабою чалавечыя твары. На іх ляжала ружовасць сонечнага захаду, і твар старога ён пазнаў. Стары чалавек не хацеў ісці глядзець на смерць партызана, і Клебер яго гнаў сілай. Свядомасць яшчэ не пакінула яго, і страх заварушыўся ў ім. Ён шпарка пачаў штосьці гаварыць, і голас яго пераходзіў у хрыпаты шэпт.

— Ён нешта гаворыць,— сказаў стары.— Пачакайце, я яшчэ з палону тае вайны не забыўся... Ага, сваіх дзяцей успомніў! Сын фашысцкай сукі! Душа твая рвецца па сваіх дзецях? Гадзіна! Які ж ты к чорту бацька! Калі любіш сваіх дзяцей, дык нашто ж ты чужым згубу прынёс, каб цябе зямля не насіла? Ну, паднімайся, можа яшчэ як давалачэшся!

Назаўтра зранку дзеці выгналі пасвіць каровы і знайшлі пры лесе кінуты Пацейчыкам аўтамат. І ніколі ніхто не дазнаўся, хто яго кінуў. Пацейчык больш не паказваўся з лесу. Ён правалачыўся яшчэ суткі, баючыся і не могучы выбіцца, куды хацеў бы. Да вострай пакутлівай болі душа яго ныла па сваёй хаце, і гэта было яго апошняе адчуванне. Так ён лёг галавой у гнілое карчэўе і пачаў стагнаць. А пасля здолеў яшчэ адумацца: яго могуць пачуць людзі, а чалавека ён баяўся. Перасільваючы сябе, каб не стагнаць і не выць, ён то падцягваў калені к грудзям, то выцягваўся прутам. Часамі ён паднімаў галаву і, як атручаны сабака, вадзіў каля сябе шалёнымі вачыма. Яго то трасло холадам, то ціснула ў зямлю гарачынёй. Кончыўся дзень, пачалася ноч, і ён быццам пачаў падаць у бяздонне.

Калі ўзышло сонца, ён ужо быў скарчанелы, і мухі пачалі роіцца над яго страшным тварам. Рот яго быў раскрыты, быццам дзеля таго, каб апошнія рысы яго твару сышлі ў нябыт цераз грымасу.

# АКСЕНІНЫ СЛЯДЫ

## 1

З некаторага часу ён пачаў адчуваць на сваіх плячах свае пяцьдзесят сем год. Раніцамі, пасля сну, ён падоўгу адкашліваўся, часамі ўночы балелі ў яго ступні ног. Але ўдзень ён нязменна быў рухавы, і ўсялякае недамаганне праходзіла. Усё сваё жыццё ён быў цесляром і сякеры не выпускаў з рук і дагэтуль. Ён многа курыў, гэта была яго старая прывычка, і яго самая маладзейшая з дачок — дваццацігадовая Аксеня — заўсёды была нездаволена, што ён многа курыць. Ён і сам ведаў, што ад гэтага ў яго кашаль, але ён не мог паслухаць сваёй Аксені: яна не разумела, што адвыкнуць ад папяросы яму нялёгка.

Год таму назад ён выбраўся з дому на цэлае лета пад Мінск на вялікія цяслярскія работы. Аксеня асталася адна дома. Усё было ў яго ў ладу. Тры старэйшыя дачкі былі даўно ўжо замужам, у іх былі ўжо дзеці. Ён думаў вярнуцца дадому пад месяц верасень. Выходзіў ён з дому апаўдні ў нядзелю. Аксеня была ў новай сукенцы з вішнёвага аксаміту. Летась увосень, калі ён вярнуўся з работы ў Мінску, ён прывёз ёй гэты аксаміт. І гэтую сваю дарагую сукенку яна надзявала толькі ў якія-небудзь важныя хвіліны. На танцы ў яе была сукенка з сіняга шоўку. У яе была яшчэ зялёная сукенка, была яшчэ і цёмная. А была яшчэ і з тонкага белага палатна, вышываная. Вышывала яна сама. Аксеня была вялікая франціха і, калі прыходзіла з работы з поля ці з агародаў, адразу мылася, скідала старую злінялую сукенку і пераадзявалася ў новую. Такая і асталася Аксеня ў бацькавай памяці назаўсёды — вясёлая, прыбраная, гаварлівая і з густыміваласамі, якім, здаецца, цесна было пад улюбёнай яе стракатай хусцінкай.

— Ты ж глядзі тут, каб агарод хаця быў дагледжан,— сказаў ёй на развітанні бацька.

— Калі гэта ў мяне было што недагледжана? — быццам бы пакрыўдзілася яна.— А табе няма ўжо чаго хадзіць па гэтых работах. Жыў бы сабе ціха дома.

— А што я дома буду рабіць?

— Дык хоць куры менш.

І ўсю дарогу, і пасля ўсе дні ён думаў пра сваю Аксеню. Ён думаў, што не ўбачыць яе да верасня, аж выйшла інакш. Ужо не больш як праз сем дзён ён браўся назад у свой родны кут, і сэрца яго калацілася ад трывогі. Кіламетраў дваццаць ён яшчэ праехаў на нейкай спадарожнай машыне, але раптам нямецкая бомба разнесла машыну на кавалкі, і трэба было дзівіцца, як ён сам астаўся жывы. Шафёр быў мёртвы і парваны на кавалкі, яго ж адкінула далёка з дарогі ў мокры лог, і гэта выратавала яго. Звыш як дзве гадзіны ён ляжаў на мокрай зямлі ў нейкіх імшыстых куп'ях, пасля паволі здолеў падняцца і пайсці. І чым больш ён ішоў, тым больш варочалася да яго звычайная рухавасць. З усіх сіл ён стараўся хутчэй дайсці дадому і ратаваць сваю Аксеню. У гэтыя моманты страшнай адзіноты, больш, як калі раней, яму здавалася, што Аксеня адна будзе вельмі бездапаможная, што яна яшчэ не ведае практыкі жыцця, яна можа падпасці пад злую крыўду. Ён ішоў тры дні глухімі сцежкамі — то паміж жыта полем, то лясамі. Ён часта бачыў над сваёй галавой нямецкія самалёты, часта бачыў на зямлі пабітых жанчын і дзяцей. У адным месцы яму сказалі, што ў тым лесе, праз які ён думаў ісці, сядзіць нямецкі дэсант, і ён абышоў лес і даў вялікага круга. Вайна ўжо грымела навакол яго. Ужо ён чуў артылерыйскую кананаду, ужо спатыкаў раненых чырвонаармейцаў, ужо начамі неба гарэла зямнымі пажарамі і ўсё траслося ад разрываў бомбаў. Зенітныя набоі рваліся на даляглядзе ў небе, і здавалася, што маланка ідзе з зямлі ў неба. Вялікая трывога, неспакой гналі яго нястомна наперад, і праз чорныя засцілы страшнага смутку ў яго душы вырысоўваліся карціны таго роднага месца, дзе ён радзіўся і дзе прайшло ўсё яго жыццё, дзе даўно ўжо ўвабраліся ў сілу пасаджаныя ім дрэвы, дзе ў такім доглядзе стаяў родны яго і яго Аксені дом. Ён успомніў, што за домам, дзе пры лесе пачынаўся поплаў, праз насыпанае кучай дробнае каменне прарасла з зямлі, выбілася наверх і зацвіла цыбатая кветка сцеблаватага жоўтага малачайніку. На першай ад яго дома хвоі даўно ўжо навальніца ададрала тоўстую галіну, і тое месца за-

цягнулася нарастам высахлай на ветры смалы. I на бярозе, напэўна, ужо льга знайсці першы жоўты лісток: першы жоўты лісток на бярозе з'яўляецца вельмі рана. Усё гэта раптам выступіла на паверхню душы і павялічвала яго смутак. Дзіўная рэч, але ў гэты момант у яго вырастала цьмянае адчуванне таго, што родны яго кут спаткае яго ранейшай сваёй звыклай звычайнасцю. Ён вылічыў час і рэштку дарогі і думаў дайсці дадому якраз перад захадам сонца.

Аднак жа сонца яшчэ стаяла даволі высока, калі падышоў ён да апошняга павароту лясной дарогі. Тут было ўсё ціха. Стагоднія хвоі шумелі адвечным сваім роўным шумам і ўціхамірвалі душу. Момантнае забыццё найшло на чалавека. Можна было падумаць, што ўсё, што было ў душы дагэтуль, было пражытым ужо кашмарным сном. Ён шпаркай хадой дарваўся да апошняй лясной хвоі: адтуль відзён быў увесь пасёлак — тры вуліцы, млын, масток праз рэчку, два драўляныя двухпавярховыя дамы, дзве кузні і новая прыдарожная гасцініца, каля якой кожны дзень спыняўся аўтобус. Шасейная дарога праходзіла паўз самы пасёлак. Як толькі ён глянуў здалёк на гэтае месца — быццам бы цёмнае насланнё завалакло яму вочы: усё было чорна, спалена, раскідана, зломана, скалечана, абязвечана. Былі толькі адны асмалкі. Яшчэ нават сям-там курэў дымок з-пад галавешак. Ужо з гэтага месца ён бачыў, што дома яго таксама няма. Ледзьве дацягнуўся ён да роднага папялішча.

— Дзе Аксеня? — было першым яго словам.

Ніхто з суседзяў не ведаў, дзе дзелася Аксеня. Нямецкія самалёты бомбамі запалілі і змяшалі з зямлёй гэтае месца, і ўжо ў часе пажару збегся сюды з поля нямецкі парашутны дэсант. Гітлераўцы застрэлілі з аўтаматаў многа людзей. І палавіна гітлераўцаў шпарка прайшла к лесу і скрылася там. Другая палавіна дэсантнікаў шпарка абышла ўсе дамы, якія яшчэ не гарэлі, і пасля, перад вечарам, таксама пайшла да таго самага лесу. Шмат хто з людзей бачыў, што гэтыя гітлераўцы павялі з сабой некалькі жанчын. А ці была сярод іх Аксеня — ніхто дакладна сказаць не мог. Позна ўвечары пачалі ісці паўз свежае пажарышча, шасейнай дарогай, нямецкія танкі. Да раніцы ўсё стала ціха. І як узышло сонца — спявалі лясныя птушкі і раставала ў летняй гарачыні смала на хвоях.

Можа дзесяць разоў ён перапытваў у людзей пра ўсе гэтыя падзеі і хадзіў усё каля асмалкаў свайго дома і стагнаў:

— Аксеня! Дзе Аксеня?

На шосты дзень яго не відаць стала. Дні праходзілі адзін за адным, і ніхто яго нідзе не бачыў.

— Немаведама куды дзеўся Кандрат Піліпчык,— гаварылі ўсе.

Пачалі здагадвацца, што ён, мусіць, нічога нікому не сказаўшы, сышоў да сваёй старэйшай дачкі, якая была замужам далёка адсюль. Але гэта былі толькі здагадкі.

Прайшла восень, і была зіма. Адзін тутэйшы чалавек варочаўся пехатой дадому здалёку, куды яго немцы загналі былі на работу. Ён захварэў, доўга валяўся без яды і без догляду ў бараку, і нарэшце пашанцавала яму вырвацца на дарогу. Ён цягнуўся ў свой бок і ў адной прыдарожнай вёсцы ўбачыў Кандрата Піліпчыка. Быў адліжны дзень. Пад снегам збіралася вада. Кандрат Піліпчык стаяў на панадворку адной хаты, прыпёршыся плячом да мокрага клёна. Ён курыў і кашляў. Убачыўшы чалавека са сваёй стараны, ён заварушыўся, рвануўся да яго і адразу сыпануў словамі:

— Братка! Ці не чуваць што пра Аксеню? Можа якія сляды дзе? Можа якая чутка прайшла?

Чалавек нічога не чуў пра Аксеню, і Кандрат Піліпчык холадна спусціў вочы ў зямлю і пачаў круціць новую папяросу. Такім парадкам чалавек прынёс у роднае месца навіну, што Кандрат Піліпчык сапраўды жыве ў сваёй старэйшай дачкі, і што курыць ён не тытунь, а нейкае так лісце, і што ён вельмі пастарэў. Больш як калі раней кашляе, у яго з'явілася задышка, і падобна, што ён пачаў заікацца. А можа проста яму цяжка стала выгаварваць словы.

## II

Расказвалі ўсе, што камендант гэтай глухой воласці Эміль Кубке любіў пагаварыць. Быў ён тут камендантам ужо доўгі час, з другой палавіны зімы, і ўжо як мае быць прыглядзеўся да ўсяго тут. Цераз дзесятае ў пятае ён мог гаварыць па-руску і часамі расказваў тутэйшым, як ён думаў, адсталым людзям, якія ў іх там у Германіі добрыя парадкі і ў гаспадарцы, і ў жыцці. Ён верыў у Гітлера, як у бога, і лічыў, што тутэйшая зямля заваявана для Гер-

маніі назаўсёды. Мінулым летам ён нейк вызначыўся пры высадцы якраз у гэтым месцы дэсанта парашутыстаў, упаў у вока вышэйшаму за сябе начальству, быў пасля ранен і цяпер крыху накульгваў і быў прысланы сюды за каменданта. Ён быў лысы, і рэшткі валасоў састрыгаў самай нізкай машынкай. На каменданцкім месцы пачаў круглець, і яму здавалася, што ён выконвае тут нейкую вялікую гістарычную місію і гэта, глыбока ў душах, разумеюць тутэйшыя людзі. Праўда, яны яго баяцца і не любяць, гэта адразу кідалася ў вочы. Кожны стараўся з ім не спатыкацца, але ён апраўдваў гэта вайной і пажарам, які быў тут тым летам пры высадцы дэсанта. І ён думаў, што пройдзе час, усё ўціхамірыцца, і людзі ўжывуцца ў свой стан германскай падлегласці. Часамі яму здавалася, што ўсё ж такі тутэйшыя людзі маюць у сваіх душах да яго і пачуццё пэўнай увагі: яны вымушаны яго баяцца і ён стаіць над імі ўсімі вышэй. Ён меў асалоду адчуваць, што ўсе гэтыя людзі аддадзены яму пад поўную ўладу і што ён можа рабіць з кожным з іх, што сам захоча, і тады трымаўся з людзьмі проста, каб парысавацца — і перад імі, і перад самім сабой сваёй уладай. Улада была яму навіна, ніколі ў сваім жыцці ён не меў ні над кім улады, ён быў да вайны дробным чыноўнікам у справе рахункаводства. Тое, што яго воласць дагэтуль не была яшчэ пад партызанскім нападам, ён ставіў у заслугу сваёй разумнай дзейнасці. Ён сам таго не заўважаў, што нічога не разумее ў тым, што яго абкружвае, і калі яго людзі слухалі, спусціўшы вочы ў зямлю, то ён думаў, што гэта толькі страх або тутэйшая свядомасць сваёй нічога нявартасці перад ім, такой высокай і выдатнай тут асобай.

У пачатку вясны ён выпісаў да сябе з Германіі сваю жонку. Гэтая Эльза была намнога маладзейшая за яго, зусім яшчэ маладая, і ён не да канца ёй верыў. Ён нават пабойваўся яе жаночых капрызаў. І да яе прыезду ў яго было ўжо даволі чаго, каб прывесці яе ў захапленне і ў поўную лагоднасць да сябе. У яго ўжо было шэсць чамаданаў, туга напакаваных, і напакоўваліся яны з самага пачатку вайны. Эльза сапраўды аж закалацілася ад захаплення. Яна цяпер адразу стала такой багатай франціхай, якой з роду не была. Яна сябе вельмі добра адчула ў гэтай невядомай ёй экзатычнай краіне, дзе ўсяго так многа і дзе так лёгка ўсё прыходзіць у рукі, што нават яе

Эмілю прыйшоў чын каменданта і неабмежаваная ўлада над людзьмі, а ёй самой шэсць чамаданаў. І яна пачала пераймаць ад свайго мужа манеру рысавацца перад людзьмі і навучаць усіх або сваёй рысоўкай, або ўладным словам ці крыкам. Яна сябе адчувала так, быццам тутэйшыя людзі аніяк не маглі абысціся без яе. І больш за ўсё яна захаплялася тутэйшымі вышыўкамі на сукенках з белага палатна.

III

Позняй вясной Кандрат Піліпчык з'явіўся ў родны куток. Расказвалі, што ён быў такі ўжо стары, што мала каму верылася, што толькі год таму ён яшчэ на поўную сваю сілу цясляры́ў. Цяпер ён быў прысутулены, маўклівы, са спушчанымі ўніз вачыма. Кашаль душыў яго бесперастанку, і ён ужо зусім не курыў. Здавалася, ён анямеў ад таго, толькі яму аднаму вядомага, болю, які няспынна тлеў у ім. Ён прыйшоў сюды пехатой, з ядлоўцавым кіем у руках, і перш за ўсё доўга стаяў перад зарослым лебядой і шчаўлюком печышчам свайго дома. Таксама, як і раней, білася праз кучу каменняў нейкая ўпартая расліна, але нешта цяжка цяпер чалавеку глядзець на яе. Як і век вечны раней, крычалі на прылессі дробныя птушкі, але іх галасы былі чужыя і непатрэбныя. Пасля Кандрат Піліпчык абышоў увесь гэты кут і ў кожнага пытаўся, асцярожна і нават баязліва:

— Пра Аксеню ніадкуль не чуць?

Людзей тут ужо было мала. Здавалася, што ўсе малыя дзеці за год вельмі выраслі і зыначыліся. У хаце, якая асталася на сваім месцы, жыло па некалькі сем'яў. Каля рэчкі былі зямлянкі. Мужчын мала было відно. Кандрат Піліпчык прабадзяўся тут чатыры дні, і здавалася, што ён быццам адзеравянелы. Ён бачыў, што ніхто тут нікому ні на што не скардзіўся і ўсе моўчкі чагосьці чакалі. І цяжка было сказаць, якія ў яго намеры і ў якой меры жывуць у ім яго жывыя імкненні.

На пяты дзень прыйшоў паліцэйскі і павёў яго да Эміля Кубке. Кандрат Піліпчык пазнаў гэтага паліцэйскага. Гэта быў недалёкі адгэтуль Сымон Шалуцька.

— Нашто ты мяне вядзеш,— сказаў яму Кандрат Піліпчык,— нібы ты не ведаеш мяне?

— Для каменданта ты новы чалавек,— адказаў Шалуцька.— Ідзі.

Нельга сказаць, што Кандрат Пілiпчык перажываў у гэтыя моманты якую-небудзь трывогу: у яго ўжо даўно было роўнае пачуццё, гэта была прытупленасць усёй яго істоты. Бадай-што спакойна ён падышоў да камендантскага дома. Гэта быў будынак школы. Ганак пры гэтым доме быў зроблен яго, Пiлiпчыкавымi рукамi. Шалуцька правёў яго праз увесь дом калідорам і вывеў на дворык па той бок дома. Эміль Кубке без мундзіра, у шлейках, сядзеў за столікам пад густым веццем разгатай ігрушы. Эльза, маладая і павольная ў рухах, выйшла з дома следам за Кандратам Пiлiпчыкам і ўставiлася ў яго нерухомымі вачыма. Відаць, гэты стары тутэйшы чалавек быў ёй незразумелым дзівам тут, на гэтай чужой ёй і невядомай зямлі. І тым больш яна зацікавілася гэтым старым, што ён раптам спыніў на ёй свае вочы, і вочы яго раптам загарэліся, ажылі. І ўвесь ён у момант вока змяніўся. Адразу сышла у нябыт яго атупеласць, назаўсёды скончылася яго панурасць. Здавалася, яго твар уздрыгануўся ўсімі сваімі рысамі, і рух гэты астаўся жыць на ім. Кандрат Пілiпчык нічога перад сабой не бачыў, апроч гэтай бялявай немкi. Яна стаяла перад яго вачыма як жывы кашмар пражытага ім гэтага года. Эльза была ў вышыванай сукенцы з тонкага палатна.

— Аксеніна сукенка,— прагаварыў, заікаючыся, Кандрат Пiлiпчык, і ўжо ніхто не мог утрымаць яго на адным месцы. Твар яго пабялеў, пасля пачырванеў, і ён рушыў да Эльзы. З дзікім крыкам яна ўбегла ў дом. Кандрат Пілiпчык узбег на ганак і рвануў з усіх сіл дзверы. Уся яго істота прагнула толькі аднаго: каб хоць што-небудзь трапілася пад рукі, што льга было б цяжка апусціць на галаву гэтай вастраплечай немачкі. У гэтую хвіліну перапалоханы Эміль Кубке стрэліў Кандрату Пiлiпчыку ў плечы, і ён упаў мёртвы на ўваходзе ў калідор.

## IV

Пра смерць Кандрата Пiлiпчыка стала вядома ў той жа дзень. Ужо да захаду сонца сярод жанчын ішла гаворка, што ў камендантавай жонкі Аксеніны сукенкі. Адна жанчына, якую некалькі разоў раней прыганялі ў камендацкі дом мыць падлогу, расказала, што яна тады ўжо ўбачыла, як немка франціць у вішнёвай Аксе-

нінай сукенцы, але пабаялася гэта каму-небудзь расказваць. Другая жанчына якраз учора бачыла, што немка сядзела на ганку ў вышытай Аксенінай сукенцы. Трэцяя жанчына з плачам пачала гаварыць, што ў немкі зялёная шаўковая сукенка яе маладзейшай дачкі. Знайшлася жанчына, якая ўкленчыла, згарнула рукі і пачала клясці немку за тое, што яна носіць жоўтыя туфлі, тыя самыя, якія летась шыліся яе маладой незамужняй сястры. Адзін з тутэйшых людзей, ціхманы чалавек, сказаў:

— Я гэтага Кубке памятаю, як ён шнырыў тут летась. Ён быў у тых самых дэсантніках.

Назаўтра па зямлянках, па ўцалелых пунях — дзе толькі жылі людзі — ішла гаворка, што ў Кубке і яго жонкі ўсе тыя рэчы, якія прапалі тут летась у часе пажару і грабяжу. І раптам усё выбухнула наверх, тое, што было дагэтуль затоена ў душы. Быццам толькі цяпер у поўнай меры дайшлі да свядомасці смутак і жальба па забітых дачках, па абязвечаных дзецях. Са страшнай сілай кожны адчуў, што жыве як пад зямлёй. Было падобна, што дагэтуль людзі не маглі апамятацца ад грому раптоўнай навалы і толькі цяпер дайшлі да поўнай свядомасці сваіх спраў. З меншым, як летась, парывам адчаю, але з глыбейшым горам, з прыгнечаннем усёй душы пачалі плакаць і галасіць жанчыны па дзецях, па хатах, па ўсім тым, што было раней і чаго няма цяпер. Тут, у лесе, было такое месца, дзе з пескавой выдмы цягнуўся ўгару густы верас. Выявілася, што ў гэтым верасе ў леташнюю восень мокла пад дажджамі акрываўленая кофтачка Пілінчыкавай Аксені, у якой яна была ў той страшны дзень мінулага лета. Прыходзіў з зарэчнага боку чалавек і казаў, што на тым тыдні памёр яго хлопец, якога паліцэйскі біў збіў кулакамі ў канцы зімы, калі немцы забіралі аўчыны. Прыйшло двое людзей з мястэчка, якое ўваходзіла ў гэтую воласць. Яны расказалі, што Пілінчыкава Аксеня была знойдзена мёртвая ў іхнім лесе перад самай мінулай зімой. У аднаго з гэтых людзей гітлераўцы забілі брата і забралі ўсю жончыну адзежу. Перад захадам прыйшла чутка, што паліцэйскія без труны і ўпотайкі, каб ніхто з людзей не бачыў, закапалі Кандрата Пілінчыка за каменданцкім домам на куп'істым выгане. А адразу пасля заходу сонца, на старой параконнай брычачцы, праехала аднекуль дадому бялявая Эльза. Яна была ў зялёнай сукенцы, і

за ёю конна ехаў Сымон Шалудька, які стараўся не глядзець у вочы людзям, якія траплялiся яму па дарозе. Эльза ж пазірала ўсім у твары, і жанчына крыкнула ёй услед:

— Сучка! Ці скора папухнуць твае ногі ў туфлях маёй сястры?

Неўзабаве выявілася, што двое местачкоўцаў і зарэчны чалавек не пайшлі дадому, а былі тут. Як сцямнела, сярод леташніх асмалкаў пачаў збірацца натоўп жанчын і мужчын. Зарэчны чалавек пайшоў паперадзе. Усе бачылі, як ён дастаў з разоры ў агародзе вінтоўку. Двое тутэйшых мужчын выйшлі са сваіх пунь таксама з вінтоўкамі. Два местачкоўцы раптам сказалі ўсім не ісці адразу к камендантскаму дому, а толькі тады, калі гэты дом пачне гарэць. І пасля гэтага два местачкоўцы зніклі. З імі пайшла жанчына, якая нядаўна кляла Эльзу за сястрыны туфлі, два тутэйшыя мужчыны з вінтоўкамі і зарэчны чалавек. Каменданцкі дом пачаў гарэць толькі пасля поўначы. Шэсць паліцэйскіх выбегла з дома, і яны ўбачылі, што сёмы, які стаяў перад домам на варце, ляжыць мёртвы. Мужчыны далі залп з вінтовак. Чацвёра паліцэйскіх упалі, два кінуліся ўцякаць. За імі пабеглі мужчыны. Натоўп жанчын з каламі і віламі кінуўся к дому. Адстрэльваючыся з рэвальвера, Эміль Кубке стараўся прарвацца праз натоўп і цяжка параніў дзвюх жанчын. Цяжкі кол з размаху апусціўся на яго галаву, ён захістаўся і пабег у бок куп'істага выгану. З дзікім позіркам ашалелых вачэй Эльза ў той самай зялёнай сукенцы выскачыла з ахопленага полымем дома і пабегла следам за сваім Кубке. Але Кубке доўга бегчы не мог. Ён упаў, спатыкнуўшыся, на купіну. Яго ляжачага пранізалі віламі. Эльза выбегла к лесу і крычала і выла, чуючы, як натоўп жанчын бяжыць за ёю. У лесе яна сціхла і стала кідацца паміж хвоямі. Яна раптам знікла ў цемені.

— Яна тут недзе,— закрычала адна жанчына,— абкружым усё гэта месца.

Зарэчны чалавек раптам з'явіўся тут і расставіў усіх шырокім кругам. Праз гадзіну пачало світаць, і заўважылі, што Эльза сядзіць на разгалістай сухой старадрэвіне, прыхінуўшыся грудзьмі і тварам да ствала. Вострыя яе плечы дрыжалі. Адзічэлыя яе вочы бегалі па людскіх тварах унізе пад дрэвам.

— Злазь, сука! — пачула яна голас знізу.

Яна ўздрыганулася і папаўзла вышэй. Каменне паляцела ёй наўздагон, і адзін камень уцэліў ёй у патыліцу. Яна пакінула брацца вышэй, пачала асядаць на сукі. Жанчына стала на ніжэйшы сук і з размаху стукнула віламі па Эльзіных плячах. Эльза паехала ўніз, зачапілася зялёнай суквнкай за сухое голле і павісла галавой уніз. Яна яшчэ жыла некалькі хвілін і кончылася так, быццам задушылася сваім уласным горлам. Натоўп стаяў навакол яе. Узышло сонца, і зарэчны чалавек прывёў аднекуль жывога Сымона Шалуцьку. Адзін местачковец сказаў перад натоўпам:

— Цяпер усе за мной, у трэці зарэчны лес, хто хоча ўзяць зброю. Мужчыны і жанчыны! І слухаць, што я казаць буду.

Сымон Шалуцька хацеў кінуцца на калені, але яго штурханулі ісці.

Праз некалькі хвілін гэтае месца апусцела. Дзень прайшоў к вечару. Перад захадам сонца схмурнела, і ўзняўся вецер. Збіралася к начы на дождж. Зашумеў лес. Чуўся скрып голля, якое адцягвалася ўніз апруцянелай Эльзай у зялёнай суквнцы. Бялявыя валасы яе звіслі, і ўся яна размахвалася ў такт сухому скрыпу.

# ПАГАНЫЯ КОСЦІ

— Бадай цябе парвала на кавалкі, каб ты гніў дзе-небудзь пад маім плотам,— сказаў Мацей, выціраючы слязу.— Каб маё няшчасце стала табе пякельнай пакутай да самай тваёй старасці.

Немец нічога не разумеў з Мацеевых слоў, стаяў, хлябтаў са збанка малако і толькі пакіўваў галавою. Мацей стаяў перад ім і ўсё гаварыў ціхім голасам і павольнымі словамі:

— Каб цябе зямля не насіла, як ты прывалокся сюды на маё гора. У мяне малы Арцёмка хворы ляжыць, я яму гэтае малако за пяць вёрст прынёс, а ты, як сабака, улез у збанок, каб табе сабачая смерць. Гэта ж не малако ты п'еш, а Арцёмкаву кроў. Напаўзло вас, як ліхое плоймы, каб па вас чэрві поўзалі. І карову забралі, і муку выграблі, і жыць не далі. Чуеш, як баба мая плача ад бяды і няшчасця, каб па табе не было каму паплакаць, калі ты апруцянееш, шэльма ты злая.

— Я, я,— ківаў немец галавою, прыслухоўваючыся да спакойнага Мацеевага тону.

— Убег ты ў маю хату, як шалёны воўк. Хіба я зваў цябе? А можа вас зваў Івась Казімерчык, якога вы павесілі? А можа вас чакала ўсё мястэчка Баваўнянка, якое вы спалілі? Ці можа Анэта Базылёвых прагнула вас убачыць, якой вы выкалалі вочы? Дапіваеш малако, каб яно стала табе атрутай!

І Мацей увесь скалануўся і ў момант абхапіў гітлераўца рукамі. Як абцугамі, ён прыціснуў немца да сябе разам са збанком і сагнутымі яго рукамі і закрычаў жонцы:

— Вяроўку! Вяжы!

Жанчына хапіла са сцяны вяроўку і ўкруціла гітлераўцу грудзі, разам з сагнутымі рукамі. Збанок упаў на

зямлю і пабіўся. Немец закрычаў. Мацей заткнуў яму рот старою рукавіцай, аддыхаўся і зноў пачаў гаварыць:

— Трасцу ты больш закрычыш! Хочаш, каб прыбеглі тыя твае астатнія, што ў другіх хатах вырываюць у людзей з рота апошні кавалак? Хваробу табе, а не ратунак. Дзякуй богу, змяркаецца на дварэ. Зараз мы з табой пройдземся, пагутарым. Ты, любенькі мой, можа і не бачыў, як у нас добра ў полі і каля лесу. І ноч месячная. Але мы пойдзем цяпер, пакуль месяц не ўзышоў. Не канечне, каб хто прыглядаўся, як мы з табой будзем ісці. Ну, пайшоў, фашысцкі сабака!

І Мацей пхнуў гітлераўца тронкам віл у спіну. Немец стаяў. Мацей даў яму ў плячо выгнутай старанон віл і пагнаў з хаты. Было цёмна. Як выйшлі ў поле, Мацей зноў загуў сабе пад нос:

— Бачыш, я цябе агародам вывеў, каб ніхто не бачыў твайго сораму, што храбры ваяка ідзе з заткнутай ляпай. Будзем ісці доўга, каб і следу ніякага не было, каб ніхто і не падумаў.

Восем кіламетраў Мацей гнаў немца, падштурхваючы яго ззаду віламі. Пачаў узыходзіць месяц. Яны прыйшлі на балота, паміж лясных зараснікаў.

— Вось тут і стой. Паглядзі, як над лесам месяц усходзіць,— можа ты, любенькі, і не бачыў ніколі нашага месяца над лесам. Глядзі, немчык, глядзі.

Гітлеравец як бы чмыхнуў носам.

— То можа гэта ты слязу пусціць задумаў? А чаму ж той ваш вешальнік не пускаў слязы, калі вешаў Івася Казімерчыка? Няхай ужо лепш твае вочы будуць сухія, бо чым большая ў цябе будзе сляза, тым больш я табе не веру і большая мяне злосць разбярэ. Ну, падыдзі сюды, дзе багна яшчэ не падмерзла, а то тут сушэй, мне гэта не патрэбна. Ну, ідзі! Сука!

Гітлеравец зрабіў два крокі, і ногі яго паехалі ў багну.

— От так. На вечны спакой. А каб ты спакайней сядзеў у гэтай мяккай лагодзе, на табе раз віламі па галаве. От так. Глыбей! Глыбей! Нават і ваўкі не дастануць тваіх паганых касцей. Вечная табе памяць. Каб ад гэтай памяці тысячы год людзі адплёўваліся, як ад халеры.

Пад поўным месяцам Мацей стаяў і чакаў, пакуль багна не замкнулася над галавой ворага.

# МАТЧЫНА КРОЎ

Раптам прайшла чутка, што недзе непадалёку нехта бачыў на дарозе Максіма, якога ўжо з паўгода не відаць і не чуваць было з таго часу, калі немец выбіў яму два зубы. Ён сышоў немаведама куды. Васьмігадовая Галена ўзрадавалася гэтай навіне і чакала бацьку. Ёй ужо здавалася, што вось зараз адчыняцца дзверы і ўвойдзе ён, звыклай сваёй павольнай хадой, і тады зноў настане поўнае шчасце на свеце. А то няма таго дня, каб не прыходзіў гэты вядомы ўжо тут паліцэйскі і не дапытваўся: дзе бацька? Ён так мучыць гэтым допытам і яе, малую, і маці. Маці ўсё стогне і плача кожную ноч.

Цяпер маці пайшла на той бок рэчкі, да сваёй сястры, дастаць палатна і кудзелі, каб пашыць Галене на зіму цёплую вопратку. Галена наклала ў печ лому, уссунула на босыя ногі хадакі, адрэзаныя з старых бацькавых ботаў, і хацела ісці куды-небудзь да суседзей, каб дастаць вугалёк жару і распаліць у печы. Раптам адчыніліся дзверы і ўвайшоў ён. Не бацька, а зноў ён, усё той самы паліцыянт, і з ім ужо немец.

— Дзе твой бацька? — як і заўсёды, крыкнуў ён.

— Я не ведаю, дзе дзеўся мой тата.

— Стань на калені і стой! — загадаў паліцыянт.

Галена стала на калені, паліцыянт падпаліў у печы лом, і ўдвух з немцам яны пачалі грэць рукі. Прывыклая да ашчаднасці, Галена падумала, што лом без патрэбы згарыць і, каб зварыць есці, прыйдзецца другі раз паліць дровы. У гэты якраз час увайшла ў хату маці. Яна ўбачыла ў кутку на каленях сваю Галену, і душа яе зайшлася ў смутку і жалю.

— Я не ведаю, дзе дзеўся Максім,— прывычна адказала жанчына.

— А вось ты зараз будзеш ведаць.— І паліцэйскі павярнуўся да Галены: — Устань! Скідай з ног хадакі! Бяжы на двор!

Галена скінула з ног хадакі, устала. Паліцыянт хапіў яе пад пахі і вывеў на двор. Дзьмуў сівер, і ў паветры кружыўся снег. У Галеніных вачах мільганула мерзлая трава каля плота.

— Бяжы! — крыкнуў паліцыянт і пхнуў Галену нагой у плечы.

Босая і ў адной сукенцы, яна пабегла.

— Назад! — закрычаў паліцыянт.

Ахопленая жахам, яна бегала ўзад і ўперад па мерзлай зямлі, а немец крычаў нешта. Яна задыхвалася, падала і зноў усхватвалася, а ў вушах яе грымеў нямецкі крык. Ён працінаў яе жахам.

— Прызнавайся, дзе бацька! — крычаў паліцыянт, і маці стаяла тут жа на вуліцы як анямелая.

У гэты момант грымнуў аднекуль выстрал, і немец пляснуўся на зямлю. Паліцэйскі кінуўся ўцякаць, але праз крокаў дваццаць яго дагнала куля, і ён выпрастаўся навекі. З-за глухой сцяны выйшаў Максім. Ён бег да сваёй Галены, якая без сіл ляжала на зямлі, але ў гэты момант пачалі выбягаць з хат немцы.

— Галена, бяжы за мной! — крыкнуў Максім, кідаючыся за хату.

Галена ўздрыганулася, родны голас падняў яе на ногі, яна набралася сіл і пабегла. Немец, які першы даскочыў сюды, прыцэліўся і стрэліў. Галена навек упала. Галеніну маці схапілі і павялі. Пад замком яна пасядзела ўсяго некалькі хвілін. Яе ўвагналі ў машыну і памчалі ў бальніцу. Там яна ўбачыла раненага Максімам немца. Ён не варушыўся. Падышоў нямецкі ваенны доктар, нешта лапатаў сваёй мовай і ўзяў у жанчыны многа крыві для немца. Жанчына так аслабела, што ледзьве магла варушыцца. Яе вынеслі ў карыдор і кінулі на падлогу. Яна пачала азірацца і ўбачыла, што два немцы, якія стаялі на ганку, некуды адышліся. Жанчына знайшла ў сабе сілы, каб выбрацца з карыдора і дабегчы нацянькі да рэчкі, а там, ледзь перастаўляючы ногі, яна дайшла да сястры. Шэсць дзён яна прасядзела там у пограбе, набіраючыся сіл і пакутуючы ад смутку і адчаю з таго, што на яе крыві застанецца жывы немец. Яна адчувала сябе быццам бы вінаватай перад сваёй беднай Галенай. На сёмы дзень яна не

вытрымала. Як пачало змяркацца, яна вярнулася назад у сваё мястэчка. Усю ноч, аж пад самы дзень, яна прастаяла каля бальніцы, прыткнуўшыся плячом да тоўстага голага дрэва. Нямецкі вартавы хадзіў навакол бальніцы. Яна ведала, што ў бальніцы ляжаць хворыя немцы і той самы, патрэбны ёй, цяпер ранены Максімам. Яна дачакалася моманту, калі вартавы немец як бы задрамаў або задумаўся, прыпёршыся плячом да сцяны, дзе было зацішней ад ветру. Сэрца распірала ёй грудзі. Яна ўвайшла ў карыдор. Там было пуста. Яна ўзышла па ўсходах на гару і падпаліла кастрыцу. Яна паспела выйсці назад і стаць зноў пад дрэва, каб бачыць адтуль, як неўзабаве бушаваў агонь, як збягаліся немцы, але не маглі ўжо выратаваць тых, хто там рабіўся трупам у агні. Яшчэ не развіднелася, як яна ішла сцежкаю паўз лес, каб знайсці свайго Максіма...

# АГОНЬ

У чыстым полі тлеў жар. Ён мігцеў на ветры і відзён быў здалёк. Стаяла цішыня і ноч. Па небе цягліся хмары, і часамі яснела там, дзе павінен быў быць месяц. Умерзлая зямля яшчэ была без снегу.

Чуўся стук хады ў полі. Відаць, той, хто ішоў, абуты быў у цяжкі абутак. Ён высокі і як бы прысутулены. Ішоў шпарка, проста туды, дзе тлеў жар.

Калі рванецца вецер, жар мігціць шырокай зыркай плямінай, і навокал яго ўсё яшчэ цямней. Цёмна было ў полі і нічога нідзе перад вокам не вырысоўвалася. Высокая і прысутуленая постаць ужо бадай-што бегла. Яна адразу кінулася да цяпла, у тое вузкае месца, дзе дрыжала слабае святло.

Гэта быў нейкі абарванец. Худы, танканосы, брудны і аброслы. Чамусьці здавалася (а можа так і было), што ў яго адно плячо вышэй служыць за другое і тапырацца ў бакі вушы. Рукавы на яго доўгіх руках былі чамусьці кароткія, на шыю накручана нешта гаматное, як бы цяжкае. Галава служыла набок. Шырокія, як бы расцягнутыя, губы мыляліся, як бы што нячутнае шапталі.

Стрыжаныя вусы тырчалі пукамі, вочы міргалі, куткі губ уздрыгвалі. Чалавек гэты ўкленчыў перад жарам, працягнуў да яго рукі з растапыранымі пальцамі. Прыгнуўся тварам у самы жар і так застыў. Відно было, што холад працінаў яго. Барада яго трэслася, і ён дрыжачым нізкім голасам хрыпата цягнуў адну ноту без канца і супынку. Перадыхваў ён так, быццам ірваўся з месца. Ён піў асалоду цяпла і ўсё бліжэй браўся ў жар. Здавалася, што ён зараз каленьмі стане ў яго. Жар зырчаў. Вецер падзьмуў раўней. Вогненная навалока з'явілася на вуголлі. Агонь узнімаўся і браўся далей. Вецер раздзьмухваў яго. Вецер пачаў шумець мацней. Цішыня ночы канчалася. Навокал

агню стаяла сцяна цемені. І здавалася, што поўная адзінота, непераможная, як далечыня свету, пануе тут і ўсюды.

Раптам агонь успыхнуў. Полымя выбухнула ўгару, гайданулася ў бакі і пайшло далей. Яно паўзло і паўзло. Адразу агонь стаў вялікі, ён разыходзіўся ў шырыню. Пайшла пара і дым. У агні засіпела мокрае дрэва. Агонь стаў сцяной, цемень рушыла далей, стала прасторна і ясна. Чалавек стаяў на каленях, як і раней, але выпрастаўся і падняў рукі ўгару. Агонь добра нагрэў яго. Ён быў у такой паставе, што як бы маліўся перад агнём. Ён пажвавеў і правёў вачыма скрозь, дзе было відно. Гэта гарэлі ўжо раней асмаленыя рэшткі нейкай будыніны. Мокрыя асмалкі. Агонь даядаў тое, што не даеў раней — прыцярушаныя снегам галавешкі. Вызначалася чорнае бярвенне, абкуродымленыя печы, абгарэлыя слупы, награмоджаныя дробныя асмалкі. Агонь браўся далей і шырэй, і ўсё больш разыходзілася кола святла. На ўсю далечыню зноў пачынала гарэць вялікае пажарышча. З ветрам пайшоў попел. І раптам вызначыліся два абгарэлыя трупы. Тады яны не згарэлі да канца. Цяпер агонь зноў дабіраўся да іх. Постаць ірванулася з месца. Прысутулены і высокі чалавек шпарка пайшоў у чорнае бяздонне свету. Жах адзіноты апаноўваў яго. І раптам ён убачыў злева ад сябе не кранутую агнём хату. Нават кавалак плота з дрэвам тырчаў пры ёй. Праўда, і сцены, і дрэва былі абсмалены, але ўсё стаяла на месцы. Прысутулены чалавек шпарка ішоў туды. Пажар аставаўся за ім. Хата была асветлена ясна. Прысутулены дабраўся да дзвярэй і хапіўся за клямку. Дзверы адчыніліся. Ён апынуўся ў сенцах. Тут нават і ўведаць не было як, што пажар зноў узнімаецца. Сенцы былі без вокан і зусім пустыя. Толькі доўгі тапчан стаяў паўз адну сцяну і на канцы яго гарэла свечка, нейкая чорная і як бы самаробная. Трымалася скупое святло.

На другім канцы тапчана сядзела маладая жанчына ў кароткім кажушку і каляровай вялікай хустцы на галаве. Яна ўздрыганулася, калі высокая постаць увайшла ў сенцы.

— Немец, божачка! — крыкнула яна і ўсхапілася з месца.

Яна стаяла перад нечаканым госцем, выцягнуўшы ўніз рукі і не зводзячы з яго вачэй.

— Чаго ты, чаго ты, ідзі! — зноў крыкнула яна.

Прысутулены падняў рукі ўгару і прагаварыў:

— Я толькі выспацца, да раніцы. Я трое сутак не спаў. Я ўміраю з голаду. Ты жанчына. Можа і ў цябе ёсць муж ці брат. Можа і ён так дзе... Накармі мяне. Дай адаспацца. Я табе зла не зраблю. Цяпер ноч, пустэча. А пасля я пайду. Я больш ваяваць не буду, можа я дапаўзу яшчэ як да Германіі, да роднага дома, да дзяцей. У мяне трое дзяцей. Я быў хворы і астаўся ад часці, калі яна адступала.

— Ты хочаш дайсці да сваіх дзяцей? А я да сваіх дзяцей ужо не дайду. Яны сатлелі жывыя ў агні.

Жанчына закрыла твар рукамі і зарыдала. Нямецкі твар зварухнуўся. Пячаць надзеі лягла на яго твар. Гора жанчыны магло стаць яму апірышчам. Ён ступіў крок наперад. Жанчына шатнулася ўбок. Немец сказаў:

— Скончыцца вайна, і ты забудзеш.

— Не забуду! — крыкнула жанчына.

— Гора пройдзе,— гаварыў немец,— час залечыць душу... (Тут ён змоўк і падумаў.) Ты яшчэ маладая... (Ламаная яго мова ціха гучала ў пустых сенцах.) Мне хоць хлеба дай... хоць чаго... Зіма... пустэча... ноч...

Стараючыся ўсміхацца, ён асцярожна падышоў да тапчана і сеў на яго.

— Ты раіш мне, як лячыць душу! — сказала жанчына.

Немец кіўнуў галавой. Жанчына раптам падбегла і дала яму кулакамі ў твар. Ён адкінуў галаву назад і махнуў рукамі. Яна, не даючы яму апамятацца, хапіла з кута гліняны збанок і апусціла яго з вялікага размаху яму на галаву. Немец ірвануўся да яе ўжо бадай-што вобмацкам. Яна пабегла на двор і, толькі выбегшы з сянец, убачыла, што пажар даядае асмалкі. Яна падняла камень. Немец пабег з сянец. Яна сустрэла яго каменем у твар. Немец упаў ля самага парога, тварам у мёрзлую зямлю, раскінуўшы рукі, падагнуўшы адну нагу і выцягнуўшы другую. Асветлены пажарам, ён і нежывы як быццам бы ўцякаў.

# НА ПАПЯЛІШЧЫ

Зоры пабялелі, і на ўсходзе неба запалавела. Ясна вызначыліся панурыя абрысы чорных асмалкаў. Старана неба, супрацьлеглая ўсходу, успыхвала як бы белым туманам, і зямля ўздрыгвалася. Але гук сюды не даходзіў. Стаяла вялікая цішыня, і павявала духам адзіноты.

Адзінокая чалавечая постаць стаяла на дарозе, паабапал якой чарнеліся печышчы, тырчалі асмалкі, і адусюль тхнула гарэласцю. Развіднялася паволі. Добра відзён стаў абгарэлы конскі труп у абвугленым бярвенні. Адзінокі чалавек паволі азіраўся. Ён быў высокі і трымаў у руках аўтаматычную вінтоўку. На галаве шапка з аўчыны, і торба цераз плячо. Льга было заўважыць, што ён вачыма шукае чагосьці навокал сябе.

Вялікае пажарышча ўжо астыла. Бадай-што да самага далягляду чарнеліся абсмаленыя сады і вялікія дрэвы, і ўсюды ляжалі сцены чорным асмаллем. І толькі наводдалек відны былі дзве хаты з вокнамі і стрэхамі, і з каміноў у іх ішоў дым. А тут, бліжэй, захавалася ад агню дробная будынiна з адным акенцам.

— Гэтая варывенька праз нейкі цуд тут асталася,— разважліва мармытнуў сам сабе чалавек, і на твары яго, як і раней, не зварухнулася пячаць застылага холаду. У яго віселі доўгія вусы, і твар быў абветраны. Было яму з выгляду год пад пяцьдзесят. Ён не ведаў, куды ісці; у кожным разе, у такой няпэўнасці была ўся яго пастава. Раптам ён як бы ажывіўся. Нейкая постаць паднялася аднекуль з асмалкаў і рушыла проста да яго. Гэта была жанчына. Падтрымліваючы пад барадою незавязаныя рагі хусткі, яна шпарка падышла да незнаёмага ёй чалавека. На твары яе была напісана вялікая скруха. З выразнымі нотамі надзеі ў голасе яна запытала:

— А я гляджу, хто гэта стаіць тут. Ці далёка куды?

— Я сюды прыйшоў,— адказаў ён, гледзячы на яе імклівую паставу. Здавалася, што яна прагне або пачуць штосьці, або расказаць аб нечым.

— Але вы доўга стаіце на адным месцы. Я ўсё глядзела на вас.

— Бо я тут нічога не ўбачыў таго, да чаго ішоў можа пяцьсот кіламетраў.

Твар яго раптам пацямнеў і перасмыкнуўся ўсімі сваімі рысамі.

— А ты не тутэйшая, што я цябе не ведаю?

— На гэтым месцы я жыву больш года. Унь у той варывеньцы.

— А дзе ж твой дом?

— Ужо даўно няма дома. І дзяцей няма, і мужа няма. І нікога ўжо няма. Усё з'еў немец. Дзеці памерлі ад такога жыцця. Мужа забілі немцы. Я асталася адна і прыблыталася была сюды.

— А хто яшчэ жыве ў той варывеньцы?

— Нейкі хлопец яшчэ жыве. Косцік.

— Косцік? — устрапянуўся чалавек.— А колькі яму год?

— Год дванаццаць.

— Чарнявы?

— Чарнявы.

— Шрам на пераноссі?

— Але.

Чалавек змяніўся ў твары.

— Дома ён цяпер?

— Не. Пайшоў яшчэ ўчора на работу. Хлеб зарабляе.

Чалавек змоўк і сцяў губы. Было падобна, што ён не хоча больш ні пытаць, ні слухаць.

— Нічога. Ён здаровы і дужы,— сказала здагадлівая жанчына.

Твар у чалавека ажыў, і вельмі шпарка чалавек выказаў цэлы струмень слоў. Гэта быў парыў раптоўнага ўздыму яго душы.

— Дык ты ведаеш яго, гэтага Косціка? Ты можа кожны дзень яго бачыш? О, як ён радзіўся, якая была мне радасць! Тут я сабе і дом паставіў новы. Дваццаць пяць год таму тут было голае поле. Тут за гэтыя годы цэлае мястэчка выбудавалася. Якія дамы стаялі ў людзей! Мы садоў колькі панасаджвалі!.. Унь мой дом быў, дзе тое шула асмаленае тырчыць.

— Адкуль жа вы ідзяце? — абазвалася жанчына.

— У Германію везлі, а я ўцёк. Тры разы я ўцякаў. Лавілі. Страляць хацелі. Мне шанцавала. У атрад да партызан прыбіўся. І вось прыйшоў следам за фронтам.

— А ці далёка ўжо немцы?

— Мусіць, далёка. І наша войска ўжо ўсё наперадзе.

— Косцік зараз павінен ісці,— сказала жанчына. Паволі яна пайшла ў сваю варыўню.

Чалавек зноў адзін стаяў на дарозе. І зноў яго твар стаў шэры і халодны. Як бы ён сам стараўся сцішыць свае парывы і імкненні. Жанчыны ўжо не было. І Косцік нідзе не ішоў. Чалавечая постаць узвышалася адна сярод чорных асмалкаў. Гэта было чорнае пекла. Пустэча. І зноў постаць з'явілася на дарозе. Гэта было падобна да мужчыны. Нагавіцы. Боты. Ватоўка. Брудныя вусы пад носам. І на галаве хустка. З носа цякло. Вачыма ён глядзеў, як жывёліна ў разніцы на нож. Падняўшы рукі ўгору, ён шпарка ішоў проста на чалавека. Голас хрыпаты, захаладжаны:

— Капут. Смерць. Я не ваюю. Я кінуў зброю. Я астаўся. Я шукаю добрага сэрца. Я да сваіх дзяцей хачу. Я астаўся на полі бою. Злітуйся, чалавек.

Гэты немец гаварыў ламанай рускай мовай. Дрэнна гаварыў, і не ўсё дайшло да вушэй чалавека. Але выгляд яго! Гэта была просьба і гора. Бяда. Пошукі ратунку.

Зноў чалавечы твар ажыў і паяснеў. Чалавек не вытрымаў. Яго ж самога душыла гэтая абсмаленая пустэча! «Чаму ж так доўга Косцік не ідзе?» Душа яго рвалася. Ён гатоў быў абняць гэтага абарванага і змерзлага немца.

— Хадзем у тую варыўню, там будзем разам грэцца і есці што-небудзь.

Поплеч яны зрабілі некалькі крокаў. Жанчына стаяла ля дзвярэй у варыўню і сказала да чалавека:

— Дык ці не немец гэта з табою ідзе? Ён ужо ўчора звечара прыходзіў.

І раптам загаласіла:

— А дзеткі ж мае! Ужо і мне жыць няма як! Нашто мне жыць, калі вас няма! Немец, што ты нарабіў! Нашто ты спаліў маіх дзяцей!

Валасы яе лезлі з-пад хусткі. Твар у яе дрыжаў, вочы сталі вялікія і страшныя. Яна падняла абкуродымленую цагліну і кінула немцу ў грудзі.

— Гэта Гітлер,— сказаў немец.— Я не...

— І сам ты Гітлер,— крыкнула жанчына і кінула ў немца другую цагліну.

Чалавек уздрыгануўся. Вусы яго зварухнуліся і твар акамянеў. Здавалася, што душа яго запыла навек.

— Косцік! — крыкнула раптам жанчына.

Хлапчук з вострымі прыўзнятымі плячыма ішоў сюды, да людзей.

Твар у чалавека перасмыкнуўся. Хлапчук стаў сярод чорных асмалкаў і як анямеў, спыніўшы позірк на чалавеку з аўтаматычнай вінтоўкай. Немец раптам падняў рукі ўгору і штосьці замармытаў. Хлапчук не зводзіў воч з чалавека. Жанчына зноў загаласіла:

— А гэта ж мусіць твой бацька! А ты ж яго ўспамінаў часта!

Твар у чалавека заварушыўся. Шпарка зрабіў ён некалькі крокаў ад немца, падняў вінтоўку і стрэліў. Немец упаў і не паварушыўся. Чалавек абхапіў хлапчука рукой за плечы і шпарка выйшаў з ім на дарогу.

# ПРАСТОРНЫ ДОМ

На ўваходзінах у новы дом, увосень, гадоў за сем да вайны, Банадысь Татарынчык добра падпіў і расказваў:

— От бо даўней людзі ўмелі выбіраць моцнае дрэва на будоўлю. Той старой хаце, што некалі стаяла на гэтым самым пляцы, было год семдзесят, калі я раскідаў яе. І яшчэ не сказаць, каб вельмі ўжо трухлявая была. Мой нябожчык бацька быў малы, калі яе ставілі. А я дык за свой век ужо другі дом стаўлю. А мне ж усяго пяцьдзесят шэсць гадоў.

Але Банадысю было абы пагаварыць, а ўсім абы паслухаць. Усе, хто быў тады за сталом, многа пілі, многа елі і надоўга пачалі гаворку пра будаўнічую спрактыкаванасць старых людзей і пра мацунак сцен са смольнай хвоі. А Банадысёў сусед Уладзя Якубоўскі сказаў:

— Даўнейшым часам хвоя ў лесе смальнейшая расла.

Пасля гэтага ўсе засмяяліся, і гаворка пачала хіліцца на іншае. Гаварылі пра Банадысёвы справы і яго новы дом, які ён паставіў зусім не таму, што той ранейшы быў ужо стары. Банадысь слухаў людскую гаворку, і ў душы яго было многа радасці. Справы яго былі вельмі добрыя. І новы дом яго быў вельмі добры. І ўсё жытло яго трымалася ў дабрыні.

Першымі часамі пасля рэвалюцыі ён раскідаў старую цесную хату і на яе месцы паставіў дом. Той дом стаяў год трынаццаць. І стаў здавацца цесны. Нарэшце, ён быў ужо мала чым выгаднейшы за тую старую хату. Тады Банадысь Татарынчык паставіў гэты дом, вялікі і выгодны.

У Банадыся было шасцёра дзяцей. Усе яны выгадаваліся і пайшлі на добры лад. Самы старэйшы яго сын, Канстанцін, скончыў у Мінску універсітэт і астаўся пры

ім давучвацца і працаваць. Год за годам, і ён стаў вучоным. Яго імя часта сустракалася ў газетах, калі дзе што пісалася аб універсітэце, аб Акадэміі навук, аб справах навукі. Ён быў жанаты і кожным летам прыязджаў да бацькі з жонкаю і дзвюма дзяўчаткамі. Прыязджала і сям'я другога сына, машыніста з чыгункі. У гэтага было чацвёра дзяцей. Трэцяя з дзяцей, Ганна, была замужам за кавалём, тут жа па-суседству, праз дзве хаты. У гэтай было трое дзяцей. Чацвёртая, Наста, была настаўніца і таксама прыязджала ўлетку з мужам, будаўніком мастоў, і трыма дзецьмі. Пяты сын быў заатэхнік. Гэты жыў дома з бацькам, і на яго клопаце была ўся жывёла ў калгасе. Самая ж маладзейшая з дзяцей, Клава, была вечная трывога Банадысю Татарынчыку. Заўсёды ён думаў пра яе як пра асобу вельмі легкадумную і без усялякай сталасці. Калісьці яна кінула, не давучыўшыся, педагагічны тэхнікум, прагнучы нейкай «артыстычнай славы на эстрадзе», як сама тлумачыла бацьку. Яна мала калі бывала дома. Яна часта пераязджала жыць з горада ў горад. Даходзілі чуткі, што яна ніяк не можа выбраць сабе працы і не набыла сталай прафесіі. Яна была вялікая модніца. Банадысь Татарынчык ніяк не мог уцяміць, чаму яна не пайшла замуж. Ён злаваў на яе і сумаваў па ёй, як па страчаным сваім дзіцяці. Яна нейк і гаварыць старалася з асаблівым акцэнтам і інтанацыяй і нарэшце стала ўяўляцца Банадысю як бы чужой.

Пасля ўваходзін у новы дом адразу пачалося ў ім жыццё на поўную меру. Асабліва гэта было ўлетку, калі ўсе сюды з'язджаліся. Тут было многа дзяцей і многа шчаслівага жаночага клопату. Канстанцін прыязджаў сюды і зімою, пісаць свае навуковыя працы. Дом вельмі хутка абжыўся, і пачало здавацца, што ён стаіць ужо вельмі даўно. Усё было б як не трэба лепш, каб не думкі аб Клаве, якая была нейкая нялюдская. Дайшлі былі чуткі, што яна вельмі часта зменьвае сваю працу і нічога не можа дабраць сабе да густу, бо і густы яе часта зменьваюцца. Банадысь пачаў нарэшце спадзявацца, што ў яе можа нарадзіцца дзіця і яна прыедзе гадаваць яго дома. Але прыйшоў момант, што яна і без дзіцяці явілася дадому.

Гэта быў страшны час у жыцці Банадыся Татарынчыка. Яго вялікі дом быў пусты, з усіх яго пакояў павявала пустэчай. Сам Банадысь з жонкай жыў у кухні. Улетку не прыязджалі дзеці, унукі, і невядома было, дзе яны

і што з імі. Вядома было толькі, што сын, які жыў дома, у арміі. А дачку, кавалёву жонку, забілі фашысты, калі забіралі жывёлу. Сам каваль, забраўшы з сабою дзяцей, пайшоў туляцца ў лясы. У доме панавала маўчанне. А тут жа заўсёды было так людна і весела. У гэтым доме Канстанцін напісаў быў за лета кнігу. Тут радзілася адно з дзяцей у дачкі-настаўніцы. Банадыся палохала нязвыклая цішыня пустых сцен. Ён усё чакаў, што якім-небудзь патаемным парадкам пачнуць прыходзіць дзеці. І яшчэ ён чакаў, пакуль зінкнуць адсюль немцы. Тады ўжо напэўна ўсе пазбіраюцца ў свой прасторны дом. У такім чаканні памерла жонка, старая ўжо жанчына. Ён жыў адзін, беспераnынна курыў і пільнаваў дом. Ён зберагаў яго на лепшы час, калі ўсе, шчаслівыя, збяруцца разам. І вось прыйшла Клава. Банадысь накурыў гэтулькі дыму ў сваёй кухні, што яна спынілася ў парозе як бы збянтэжаная. Нават і ў такім сваім стане ён усцешыўся харастом сваёй дачкі, якое было цяпер яшчэ большым, як заўсёды раней, і сапраўдным, чалавечным. У яе цяпер не былі падмалёваны губы, і гаварыла яна проста, так, як умела змалку. Яна была адзета прасцей, і не было ў яе крыклівай самаўпэўненасці.

Вялікая радасць скалынула Банадысёву душу. Ён абняў Клаву і стаў распытваць. Вось што яна сказала:

— Я ледзьве жыла. Ужо доўга-доўга я жыла галодная і тулялася, каб немцы не пагналі мяне ў Германію на работу. А раней да цябе прыйсці я баялася: гэта ж такая дарога, сотні кіламетраў. А было чутно, што і тут гоняць у Германію.

Ён пачаў карміць яе. Пакуль яна ела, ён не спускаў з яе, маўклівай, вачэй і ўяўляў сабе, што гэта яна, як некалі, малая сядзіць за сталом і чакае яго ласкі і добрага бацькаўскага слова.

Але яна ўжо не была малая. Яна ціха жыла з бацькам і адпачывала душой і целам. Яна адаспалася і папрутчэла ўсім сваім рухам і голасам. Так прайшло можа з месяц, і ў вёсцы спыніліся на пастой немцы. Вялікі Банадысёў дом нагледзелі сабе афіцэры. Іх было, маладых і старэйшых, сем чалавек. А пры іх былі салдаты. Такім парадкам дом заняло ўсяго дзевятнаццаць немцаў. Яны занялі ўсе пакоі, кухню, сенцы і халодны пакой пры сенцах. Яны пахвалілі гаспадара за прасторны і вы-

годны дом. Ў адной толькі кухні магло б жыць дзесяць чалавек.

Немцы занялі дом зранку. Відно было, што яны заўважылі і хараство гаспадаровай дачкі. Сумятня ў доме пачала сціхаць. Салдаты ў кухні пачалі рыхтаваць абед. Афіцэры ўладжваліся ў пакоях і раскладалі свае рэчы. Банадысь, сам не свой, стаяў у адчыненых дзвярах з сянец на двор. Клава сядзела ў сенцах. Малады немец разпоразу хадзіў з пакояў на двор і з двара ў пакоі. Праходзячы праз сенцы, ён кожны раз прагнымі вачыма акідаў Клаву, і магнасць да яе прымушала яго заўсёды сцішваць хаду каля яе. Банадысь не спускаў з яго вачэй. А ён усё выносіў на двор вытрасаць нейкія чамаданы, паперы, адзежу. Нарэшце, Клава заўважыла ці адчула на сабе ўвагу гэтага немца. Яна акінула яго вачыма, і позіркі іх спаткаліся. Банадысь стаяў як прыкаваны да пакуты. І тут адбылася страшная рэч. Немец на адзін момант спыніўся ля Клавы і ўсміхнуўся ёй. Банадысь акамянеў, і яму цяжка стала дыхаць. Ён убачыў: Клава ўсміхнулася немцу. Немец злавіў яе ўсмешку і рушыў у пакоі, каб праз паўхвіліны зноў ісці праз сенцы і зноў есці вачыма Клаву.

— Выйдзі з сянец! — загадаў Банадысь Клаве. Яна зразумела і выйшла, збянтэжаная.

— Скінь з сябе гэты шоўк, каб яго перуны спалілі! Яшчэ бо выфранцілася якраз! Пераадзенься ў матчыну адзежу. Зачыніся ў пуні і ляжы да вечара. Да ночы будзь гатова ў вялікую дарогу... Каму ты ўсміхалася! Гадаўка! Дык вось чаму ты заўсёды была гэтакая нялюдская! Ты ведаеш, каму ты ўсміхнулася? Я магу цябе ўзненавідзець, брыда паганая!

Як атручаны хадзіў ён цэлы дзень і ўсё правяраў акяніцы ў доме. Горкая прыкрасць душыла яго. Агіда і нянавісць не давалі яму спакою. Клава не выйшла з пуні да самага вечара.

Пасля Банадысь Татарынчык расказваў, што рашучая і ясная думка прыйшла яму ў галаву адразу, як толькі ён убачыў, што немец і Клава абмяняліся ўсмешкамі. За дзень жа ў яго галаве вымеркаваўся план.

Як толькі сцямнела, афіцэры ў самым большым пакоі селі за стол і запалілі свечкі. Банадысь увайшоў сюды і сказаў таму афіцэру, які за той дзень колькі разоў гаварыў з ім па-руску:

— Трэба зачыніць акяніцы. Дом стаіць на высокім месцы, вокны вялікія і з сярэдзіны асвечаны. Не тое што зблізку, а за кіламетр відно ўсё ў доме знадворку. Чаму вы такія неасцярожныя?

Апошнюю фразу Банадысю ўдалося сказаць з такой шчырай інтанацыяй, што афіцэр распарадзіўся зачыніць ва ўсім доме акяніцы. Зачыняў іх сам Банадысь. Ён умацоўваў іх як толькі мог і пабраў знадворку на зашчапы.

Ужо стаяў поўны вечар. Паднімаўся маладзік. Дом стаяў на адрыве ад вясковых забудоваў. Было ціха і тут, і там, на вёсцы. Салдаты сядзелі ў кухні і ў пярэднім вялікім пакоі. Афіцэры вячэралі ў другім пакоі. Вартавы салдат стаяў у браме на вуліцу. Клава стаяла ў адчыненых дзвярах пуні.

— Ідзі пазабаўляй вартавога, ты ж павінна ўмець,— сказаў да яе Банадысь.— Увядзі яго ў пуню, а сама выйдзі.

Клава, ужо ў матчыным адзенні, пайшла да вартавога немца і асталася стаяць з ім. Неўзабаве яны селі на лаўку. Але хутка пайшлі ў пуню. Банадысь зашчапіў на клямку сенцы і адразу апынуўся ля пуні. Клава выйшла адтуль. Банадысь ірвануў дзверы, зачыніў пуню і ўзяў дзверы на крук. У наступны момант ён ткнуў у саламяную страху пуні запалку з агнём. Чвэртку хвіліны яму трэба было на тое, каб дабегчы да дома, распусціць пры яго сценах раней развязаныя чатыры кулі саломы і падпаліць. Вартавы ў пуні пачаў грукаць у дзверы. Пуня ўжо гарэла зверху. Банадысь паспеў яшчэ прываліць бервяном сенечныя дзверы і падкласці ў агонь пры доме саломы. Ён тузянуў за рукаў аслупянелую Клаву, і яна пайшла за ім проста ў поле. За імі шыбала полымя і чуўся крык. Толькі праз кіламетраў сем Банадысь сцішыў хаду, выбіраючыся на выкручастую сцежку ў хмызняку. Клава маўчала, паслухмяная, ціхая, добрая, ужо цяпер падобная да малой дзяўчынкі.

— Ці доўга мы будзем так ісці? — запытала яна.

— У Шастакоўскім лесе я найду нашага каваля. Так што, пакуль там у нашым прасторным доме нашы кватаранты выскварацца на ўсе бакі, ты ўжо здолееш усміхнуцца там у лесе каму сабе захочаш,— адказаў Банадысь Татарынчык.

# ВЯЛІКАЕ СЭРЦА

Вёска Галаскі выславілася тым, што ў ёй чалавек малога росту і сярэдніх год, Пархвен Катлубовіч, біўся з п'яным пеўнем. Гэта было даўно. Малыя хлопцы дасталі гарэлкі і сілком напаілі пеўня, зляўшы яго на Пархвенавым двары. Певень стаў як шалёны і кінуўся на свайго гаспадара, калі той выйшаў на двор. Пархвен спачатку адмахнуўся ад пеўня, але той падлятаў і дзёўб чалавека ў твар. Пархвен кінуўся на ўзвар'яцелую птушку, і так яны ўдвух качаліся па зямлі, аж пакуль Пархвену не ўдалося, нарэшце, адкінуць пеўня на той бок свінушніка. Пра гэтае смешнае здарэнне доўга гаварылі, а пасля з году ў год так і хадзіла погаласка пра бойку чалавека з пеўнем. На Пархвенавым агародзе рос вялікі стары дуб. Можна сказаць, што ён узвышаўся над усёй мясцовасцю, і калі па шашы, якая праходзіла тут непадалёку, ехалі людзі, ім гэты дуб відзён быў гадзіны дзве, а вёска Галаскі ўсё яшчэ недзе скрывалася ў полі. Але даволі было і дуба, каб, зірнуўшы на яго, хто-небудзь не падаў заўвагу:

— А унь і тыя Галаскі, дзе Пархвен з пеўнем біўся.

І кожнаму, нават самаму далёкаму ад Галаскоў чалавеку, які ніколі таго Пархвена і не бачыў, здавалася, што Пархвен — чалавек варты смеху і нясталы: вядома, дзе ж гэта на свеце было, каб стары чалавек з пеўнем біўся. Так і склалася ўяўленне па людзях аб Пархвене Катлубовічу. У саміх Галасках часта льга было пачуць, як жанчыны крычалі на дзяцей:

— Чаго вы развар'яваліся, як Пархвен каля пеўня!

Што ж да самога Пархвена, то ён, здавалася, не зважаў на такую сваю славу. Магло быць, што гэта быў чалавек можа і дробны сваёй натурай, але ў кожным разе ён быў задаволен тым, што было ў яго: была смешная слава, была хата, пры ёй двор і агарод, у агародзе пра-

дзедаўскі дуб напроці хатніх вокнаў і жыццё — ціхае і роўнае, у цягавітай працы ад усходу сонца да заходу і з панядзелка да панядзелка. Ён быў скупы на слова, і за гэта сусед не ўзяў яго ў суд за сведку: «Ён жа ў гадзіну па слову цэдзіць». Пархвен пра гэта нават і не ведаў, а думаў, што гэта выйшла таму, што на судзе і без яго абышлося. Ён рана аўдавеў, і з дзяцей у яго была адна толькі дачка. Ён тады зусім як бы ўвайшоў у самога сябе. Упраўляў сваю работу, весну, лета і восень хадзіў босы («так ямчэй» — казаў), гадаваў сваю дачку Марылю, а яна расла вельмі высокая і, калі дарасла да паўналецця, была вельмі мажная, на галаву вышэй за бацьку, які, здавалася, пашчуплеў, і новая рыса з'явілася ў яго: раней ён з малых годналожваў сваю Марылю да работы, а гэта ўсё сам у хаце рабіць стаў: варыў яду, карміў свіней, насіў з лесу ўвосень кашом апенькі, і нехта пусціў пра яго новую пагалоску: у яго быццам на левай назе не пяць, а чатыры пальцы. Марыля з кожным годам яшчэ больш мажнела і пайшла замуж за каваля ў мястэчка на тым беразе рэчкі, да якой даходзілі галаскоўскія паплавы. Тады Пархвен Катлубовіч быццам змяніўся натурай: стаў бываць на людзях і больш гаварыць. А вядома, што ён мог гаварыць, не бываючы ніколі далей зарэчнага мястэчка. Гаварыў пра буракі і рэдзьку, пра алешнік і асаку, пра дупляваты асіннік і пра мак-відук. І пайшлося так, што найбольш ён гаварыў пра гэтыя рэчы з жанкамі, а мужчыны пра яго казалі:

— І чорт яго ведае, як такі чалавек адважыўся біцца з пеўнем, ды яшчэ з п'яным.

Праз некаторы час Пархвен Катлубовіч прынёс з зарэчнага мястэчка ў свой агарод Марылінага двухгадовага сына і пасадзіў яго пад дубам, сказаўшы яму:

— Ты яшчэ, унуча, малы і не ведаеш, што гэты дуб садзіў твой прапрапрадзед. Ты малы?

— Малы.

— А бачыш, колькі жалудоў насыпалася? Бо цяпер восень. Мне няма часу, і матка твая таксама не мае часу, а ты тут збірай сабе з травы жалуды і забаўляйся з імі, а пасля маці цябе забярэ. А калі будзе заходзіць сонца, то зірнеш угару, як тады відно будзе ў дубовым голлі! Я і сам кожны вечар гляджу. Прывыкай да гэтага дрэва. Можа ты яго кожны дзень праз сваё жыццё будзеш бачыць. Бачыш, які жолуд! Зялёны з жоўтым. Бо можа табе суджана жыць

у гэтай маёй хаце. Хата яшчэ здаровая, а ты ў мяне адзін. Каму ж хата пасля мяне будзе, як не табе? Можа ты ў вялікім дзе свеце апынешся, як вырасцеш. А дуб сабе будзе на гэтым самым месцы расці, і кожны год жалуды з яго будуць падаць, і табе будзе здавацца, што ты дайшоў ужо да такога месца на свеце, без якога і свет не свет, і людзі не людзі, а тым часам сонца кожны дзень, калі будзе заканчваць сваю дзённую дарогу, прысядзе адпачыць на гэты дуб, а не на тваю галаву, хоць яна і залатая была б. Дык ты і падумаеш, калі чалавекам будзеш, што і дзяды і прадзеды ў цябе былі, і там, дзе яны жылі, сонца на дрэвах бывае кожны дзень... Бачыш унь? Жолуд упаў!

Ён так разгаварыўся, што нават гаварыў, калі ў хату ўвайшоў. Так з ім бывала цяпер. У гэты свой час ён думаў, што можа мала песціў і шкадаваў сваю Марылю, а калі гора яе спасцігне, то што яна добрага ўспомніць са свайго маленства?

— А ты ж не даваў ёй нават у печы паліць, а рабіў гэта сам, калі яна была ўжо вялікая,— сказалі яму, калі ён пачаў раз гаварыць аб сваёй Марылі.

— І добра рабіў, што не даваў, хоць выгулялася дзеўка,— адказаў ён.

І дзіўна было людзям бачыць дробнага ростам Пархвена Катлубовіча, які стаяў ужо на парозе сваёй старасці і так клапаціўся аб сваёй Марылі, якая жыла асобна, мела сваю сям'ю, ростам, размахам плячэй, даўжынёй рук і сілай была падобна на здаровага мужчыну і мела са сваім кавалём багатую дамоўку.

Аднойчы Пархвен Катлубовіч захаладзіўся, пакашліваў, і яму здалося, што прыйшла нейкая бяда. Ён лёг на ложак, каб адляжацца ад хваробы, і наказаў праз людзей Марылі, што захварэў. Таго ж дня надвечар Марыля, як бура, уляцела ў хату, а за ёю ўвайшоў яе каваль. Зяць закурыў, седзячы каля Пархвена, а Марыля падмяла хату, памыла вокны і міскі і пагаварыла з бацькам. І яму стала лепш.

— Заўтра, Марылька, я буду здароў, не прыходзь,— сказаў ён, а сам сабе падумаў: «Заўтра сёе-тое яшчэ мне пабаліць, а паслязаўтра ўжо ўсё пройдзе».

Назаўтра ён, як і заўсёды, устаў нацямочку і да падвячорка спускаў сухастой у лесе, а першым прыцемкам сядзеў на прызбе і глядзеў, як апошняе сонечнае праменне ляжыць на дубовай вяршаліне, а ўвесь агарод пад дубам

агортваецца вечарам. Адбывалася і яшчэ многа важнага і патрэбнага: за Галаскамі пракрычала балотная птушка, з шашы доўга чуўся грузавы аўтамабіль, запахла роснаю травою, і неба за агародамі цьмела, зламаная саломіна гойдалася на браме: узнімаўся нанач вецер. «Вось я і здаровы»,— думаў Пархвен, хоць і сам не ведаў, чаму якраз з гэтай хвіліны ён стаў здаровы, а, кладучыся спаць, думаў, што ён жыве адзін, і што прыйшла старасць, і што ён у сваім жыцці занадта мала зрабіў для сваёй Марылі. «Ну, што ж, няхай ужо са сваім кавалём там як-небудзь»,— суцешыў ён сябе, нарэшце, і заснуў да самай раніцы на доўгую вераснёўскую ноч. Усю тую восень, а пасля зіму і вясну ён пражыў з нейкім цьмяным адчуваннем, што прыйшла старасць, і што ўжо скончаны яго вялікія справы, і што трэба ўжо толькі дажываць веку, і невядомая раней горыч прыйшла да яго. «Я толькі і зрабіў, што пабіўся з пеўнем»,— падумаў ён раз. Але суджана яму было вельмі хутка адцурацца гэтых думак, як самай брыдкай непатрэбшчыны. Прыйшла пара гора і думак толькі аб тым, што навісла над душой і перад чым ранейшыя клопаты і гора сталі дробнай забаўкай. Вось дзе была праўда, вялікая і горкая: жылося, былося і прычакалася. Дзеля чаго ж так добра было жыць, калі да такога канца дайшло? Вось калі смутак сапраўдным болем разануў душу аб тым, што Марыля не так многа мела шчасця ў мінулым і ўжо не можа ўспамінамі заглушыць сваёй беспрасветнасці. Як яна збялела! Страшна стала глядзець, якая яна высокая! І твар яе ўчарнеў за тры дні. Асталася яна адна як ёсць і вярнулася назад да яго і жыве ў роднай хаце. Але гэта ўжо не была тая Марыля, якую ён гадаваў і шкадаваў. Гэта была ўжо пажылая жанчына, праз жыццё якой прайшоў добры чалавек, каваль з зарэчнага мястэчка, і сын, якому ішоў ужо чацвёрты год.

На трэцім тыдні вайны ў зарэчным мястэчку асеў нямецкі камендант, а яшчэ раней з Галаскоў чутно было, як па шашы грукаюць і равуць нямецкія машыны. У мястэчку пачалі шукаць неадмабілізаваных мужчын. Яны і сапраўды былі і прыхоўваліся, дзе хто мог. Такі самы быў і Марылін каваль. Яму горка было і дом з сям'ёй кінуць, і аставацца яшчэ горш было: на ўездзе ў мястэчка ўжо чатыры дні вісеў на дрэве нехта нікому невядомы, якога гітлераўцы злавілі на шашы і ў той жа дзень павесілі. Каваль сядзеў у лесе, і Марыля насіла яму есці. Калі

пачалася ў мястэчку аблава, Марылі ўдалося з хлапчуком на руках выбегчы на паплавы. Прыгінаючыся да прырэчных зараснікаў, яна дайшла да лесу і перад вечарам там жа развіталася з мужам. Іншай рады не было, як ісці яму адгэтуль. Пацалаваўшы Марылю і сына, ён рушыў змрокам дня ў вялікую дарогу. Дзе і як ён пяройдзе фронт і выйдзе да сваіх — гэта здавалася яму лягчэйшай справай, чым тое, што Марылін твар стаў востры і сухі. Ён шпарка ішоў усю ноч і не мог хоць на момант вырваць са сваёй галавы пакутнай думкі аб яблыньках пры доме, якія гэтай вясной першы раз зацвіталі.

Калі яна падыходзіла агародамі да свайго дома, хлопчык штосьці пачаў ёй гаварыць.

— Маўчы, сынок,— сказала яна,— а то пачуе немец.

Спалоханае дзіця сціхла, але ад ворага не ўратавалася: ён сядзеў у сенцах, замок з якіх сарваў з прабоем. Ён толькі яе і чакаў, нават і ў хату не пусціў, так з сянец і пагнаў разам з хлопчыкам у камендацкую ўправу. Тры дні там яе дапытвалі, дзе яе муж. Ужо ёй выкруцілі палец на левай руцэ, ужо ўвесь твар быў у крывавых сіняках, і апроч таго, што каваль у арміі, яна нічога не магла сказаць. Уначы на чацвёрты дзень камендант прыклаў рэвальверную рулю да хлопчыкавага вуха і ціха сабе, быццам гэта ён адрэзваў прыгожымі нажнічкамі кончык цыгары, стрэліў. Марыля спачатку закрычала, пасля анямела. Так яе выпхнулі на двор і, б'ючы рамянямі, прагналі далёка ад камендацкага дома, і яна ўжо не бачыла, як салдат выкінуў яе нежывое дзіця праз акно на дарогу паміж травяністым капяжом і плотам. Больш за тыдзень яна, як адзічэлая, прабадзялася па лесе, полі і прырэчных паплавах, а пасля прыйшла да бацькі чакаць нечага таго, што набліжаецца з кожным пражытым днём.

Час — найлепшы доктар чалавеку. Ён уціхамірыць хоць які боль. Пасля лета прыйшла восень, а пасля зіма. Марыля ўсё жыла ў бацькі і аднойчы ў сярэдзіне лютага змрокам дня сказала бацьку:

— Нешта сёння больш як заўсёды верх дуба на агародзе стаіць на сонцы.

— Бо дзень пабольшаў і вясна блізка,— адказаў Пархвен Катлубовіч, ужо сівы каля вушэй і аблыселы наверсе галавы стары чалавек. Ён аж выйшаў на двор, пакуль не змеркла, глядзеў адтуль цераз вуліцу на дуб у агародзе і ўсё гаварыў сам сабе, быццам спяваў:

— Вось і зіма прайшла, і дзень вялікі, і перазімавалі, і вясны дачакаліся...

Якія прыйшлі неўзабаве ночы! Лес трашчаў і гуў ад густога ветру. Снег пачаў асядаць, і на світанні дзён ружовы водбліск неба ляжаў у снегавой вадзе. Шаша за Галаскамі стала чорнай. Вароны бадзяліся па голай мокрай зямлі, і яснымі адвячоркамі сонца ўсё больш і больш затрымлівалася на дубовай вяршаліне. А тым часам у зарэчным мястэчку з'явіўся новы чалавек — высокі, сярэдніх год і як бы прысутулены. З гэтай прысутуленасці і з паходкі яго пачалі пазнаваць тутэйшыя пажылыя людзі. Пазнаў і Пархвен Катлубовіч. Раз, стоячы пры акне і гледзячы на вуліцу, ён сказаў Марылі:

— Паглядзі, вуліцаю ідзе чалавек і з ім салдат. Каб стары Пфайфель не памёр, я падумаў бы, што гэта ён.

— А хто такі Пфайфель? — запытала Марыля.

— А па той бок рэчкі пры самым мястэчку быў у старыя часы маёнтак пана Гальцовіча, і правіў усім маёнткам наняты немец Пфайфель. Гальцовіч пасля злавіў яго на тым, што ён цягнуў у сваю кішэню з маёнтка больш, чым аддаваў самому Гальцовічу, і прагнаў яго, і той паехаў назад у сваю Нямеччыну, а пасля прыехаў да другога пана, па той бок шашы, і перад самаю той вайной памёр. А гэты, што ішоў цяпер вуліцай, кропля ў кроплю — той.

Праз некалькі дзён усіх галаскоўцаў і местачкоўцаў сагналі разам, і той, падобны на Пфайфеля, сказаў перад людзьмі прамову:

— Я прыехаў на гэтую зямлю, якую некалі мой бацька даводзіў да ладу. Ён, нябожчык, многа сіл аддаў гэтай зямлі. Ратунак гэтай зямлі ў нямецкай культуры і арганізаванасці. Даўней паны, а пасля бальшавікі тут не ўмелі гаспадарыць. Я навучу вас культурнай працы на зямлі.

Так галаскоўцы дазналіся, што гэта прыехаў да іх уладаць тым даўнейшым маёнткам сын таго Пфайфеля. Ён асталяваўся жыць на краю мястэчка ў былым калісьці панскім доме. Дом стаяў на высокім месцы, і з галаскоўскай вуліцы з тых дзён відно стала, што пры доме стаіць на варце нямецкі салдат. І галаскоўцам пачало здавацца, што дарога ім туды, на той бок рэчкі, загароджана. І гэта было адчуванне такое, што як быццам ад чалавека адабралі паўсвету. Адтуль жа салдату Галаскі былі відны толькі вярхамі стрэх, а ніжэй густа раслі сады, а цераз стрэхі чарнелася лінія шасейнай дарогі, далёка, за шэрым полем.

У гэтым полі была доўгая града хмызняку, яна цягнулася да самай шашы і па той бок яе. Аглядаючы праз бінокль мясцовасць, Пфайфель заўважыў, што вартавы салдат не можа са свайго месца бачыць гэтую хмызнячную граду з-за нейкага вялікага дрэва, якое густым сваім голлем нават і цяпер, калі яно бязлістае, закрывае даволі шырокі прагалак за Галаскамі. Пфайфель зацікавіўся гэтым дрэвам з трывогай: хмызняком могуць ісці партызаны, а пасля хмызняку ўжо і полем могуць ісці проста сюды: іх будзе скрываць дрэва, а лепш за ўсё яму самому па некалькі разоў на дзень аглядаць праз бінокль усю шырыню мясцовасці. Ён нацэліўся на невядомае яму чужое дрэва і пачаў удакладняць, дзе яно расце. Два салдаты-інваліды закончылі пошукі тым, што нарэшце апынуліся ў агародзе Пархвена Катлубовіча пад дубам. Вось яно, тое дрэва! Цэлы тыдзень пасля гэтага клопат тачыў і Пфайфеля, і каменданта: выгнаныя на спілаванне дуба галаскоўцы ніякай рады даць не маглі: дуб быў у некалькі абхватаў і таўсцейшы за даўжыню піл. Пілы рваліся, а дуб стаяў. Спілаваць яго нельга было. Прайшоў тыдзень марна. Тады камендант загадаў Пархвену Катлубовічу за два дні прыбраць з агарода дуб. Пархвен, як стаяў перад камендантам зняўшы шапку, так і дадому прыйшоў з шапкаю ў руцэ і так прасядзеў на лаве каля стала да самага вечара. А змрокам ён пераабуўся ў навейшыя боты і выйшаў з дома, і хоць ён нічога пэўнага не сказаў на адвітанні Марылі, але яна і так ведала, што ён проста толькі сышоў, бо жыцця ўжо тут больш не будзе. «А я буду пільнаваць хаты»,— цвёрда падумала яна і перабыла тую першую ноч з вялікім смуткам. Зранку ўзышло сонца, і ёй стала лягчэй на душы. Праз два дні сам Пфайфель з салдатам-інвалідам прыйшлі ў Галаскі і доўга глядзелі на дуб. Ён стаяў сабе вышэй над усёй мясцовасцю, а пад ім ляжалі парваныя і пашчэрбленыя пілы. Пфайфель тым днём гаварыў каменданту, што гэты дуб трэба адправіць у Германію, каб там пабачылі, якія дзівы вырастаюць тут і якую багатую краіну заваявалі нямецкія салдаты. Камендант быў салдат, а не мяккадушны летуценнік. Ён адказаў:

— Кругом тут з'яўляюцца партызаны, і трэба хутчэй прыбраць дуб з вока.

— А як жа яго так скора зняць? — абазваўся перапалоханы Пфайфель.

— Я распараджуся,— сказаў камендант.

Выконваючы яго новы загад, назаўтра зранку пацягліся ў агарод Пархвена Катлубовіча галаскоўцы і местачкоўцы. Кожны нёс бярэмя дроў. Пры дубе наклалі дроў у сажань вышыні і падпалілі. За гадзіны дзве дровы згарэлі, дуб знізу абсмаліўся, і агонь патух. Пасля абеду Пфайфель зірнуў праз бінокль і ўбачыў дуб. Ён закалаціўся ад незразумелай яму самому трывогі і пабег да камендanta. Той, як мог, давёў яго да спакою, але ненадоўга. Як толькі пачало змяркацца, Пфайфелю пачало здавацца, што дуб з Галаскоў прысунуўся да самага мястэчка і ўжо зусім блізка стаіць каля дома. Пфайфель доўга не мог заснуць у тую ноч і сонны і злосны пайшоў на раніцы да каменданта і зрабіў яму заўвагу, што гаспадар дуба недзе знік з дома і ніхто яго не шукае, а дуб стаіць сабе, як і стаяў. Пасля ён нават сказаў штосьці каменданту аб сваіх нейкіх адмысловых паўнамоцтвах. Камендант нічога не адказаў і толькі ткнуў пальцам кудысьці за дом на дарогу, дзе ехаў цэлы абоз з дрывамі. Пфайфель здагадаўся і з двума салдатамі-інвалідамі пайшоў у Галаскі глядзець. Там ён застаў на Пархвенавым агародзе вялікі гармідар. Гітлераўскі салдат крычаў на людзей, а яны цэлыя шуркі дроў укладвалі пад дубам. Пфайфель не вытрымаў і сам пайшоў падпальваць. Ён запаліў укладзеную ў дровы кудзелю і рушыў назад у мястэчка. На ўваходзе ў вуліцу ён прыпыніўся і азірнуўся. Дым і агонь вельмі выразна відзён быў яму адгэтуль. У каменданта ён узяў новага салдата і зноў пайшоў туды.

Дуб стаяў, здушаны вогненнымі сціртамі дроў. Цэлыя бярвенні гарэлі пад ім. Людзей ужо не было. Толькі адна нейкая жанчына ў кароткай ватовай вопратцы стаяла, узлёгшы локцямі на загарадзь. Яна была высокая і нейк дзіўна паглядзела на яго, калі ён з'явіўся.

— Што глядзіш? — запытаў ён па-руску.

Яна не адказала і пайшла ў хату напроці агарода. Яго быццам укалола яе маўклівасць, і ён пайшоў назад: за гэты дзень ён ужо даволі нахадзіўся, і лішняя турбацыя не ўваходзіла ў яго планы. Да абеду яму яшчэ трэба было пагаліцца і абдумаць сёе-тое на далейшае, а пасля — абед, і якраз у той дзень са смажанымі трусамі, а трусінага мяса ён ужо не спрабаваў дзён тры, а гэта парушала яго планы ў гэтай краіне, распрацаваныя ім да канца вайны. Так ён з лёгкім сэрцам забыўся пра маўклівую жанчыну. Але яна не магла забыцца на яго. Ноч прыйшла пасля таго

дня шумная, з ветрам і дажджом, у полі гуло і ў прырэчных зарасніках трашчала голле. Ніколі раней так моцна жанчына не адчувала сваю адзіноту, як цяпер,— быццам бы толькі цяпер дайшло да яе свядомасці, што страчана навек самае важнае і дарагое: і застрэленае дзіця, і муж, і стары бацька, і тыя гады, якія трэба яшчэ пражыць, і гады, што пражыліся,— і нічога як і не было, і нічога як і не будзе. На світанні ёй здалося, што бацька прайшоў каля вокнаў. Яна выйшла на панадворак, і нікога там не было. Дзень пачынаўся мокры. Скрозь стаяла вада і са стрэх капала. Дуб стаяў на агародзе над асмалкамі, вуголлем і попелам, сам увесь апалены і з далёка працягненай ніжняй тоўстай галінай. А верх яго такі ж самы, як і быў, але знізу дробнае голле патлела. Цяпер ён ужо не закрые сабой шашы і хмызняку ад Пфайфелевых і салдацкіх воч. Марыля ледзьве перабыла той дзень. Усё, што ўжо з часам уціхамірылася, зноў паўстала перад ёю, як з магілы. Так прыйшла ноч. Зноў доўгая, і зноў з дажджом і ветрам. Ужо даўно спяваў певень у прыгрэбцы, і світанне цадзілася паволі. У смутку і горы яна выйшла з хаты і кінула позіркам на мястэчка. Там, як мурашка малы, відзён быў здалёк нямецкі салдат на варце.

— Ты мне свет завязаў,— заплакала яна, адварочваючыся.

Тут яна ўбачыла, што паліцэйскі залез на верх дуба.

— Куды ты палез, хамула! — крыкнула яна.

— А мне загадалі абцерабіць дуб: колькі яго ні палілі, усё роўна закрывае дарогу. От бо ўдаўся, і агонь яго не бярэ!

Праз гадзіну дуб стаяў без верхняга голля. Марыля ўвесь той дзень выходзіла глядзець, як стаіць далёка постаць нямецкага салдата. І так было кожны дзень. Нарэшце яна пачала думаць, што далей так не вытрымае, што ўсё гэтае невядомае чаканне скончыцца вялікай бядой, мусіць, нейкай страшнай хваробай. Яна пачала баяцца сваёй адзіноты, і ночы ёй сталі пакутай. А вартавы немец усё стаяў на тым жа месцы. Так і вясна пачала ўбірацца ў сілу. Аднойчы Марыля захацела ўспомніць мінулыя маладыя дзявочыя гады і прайшла босая сваім дваром па халоднай і яшчэ мокрай зямлі. Так яна хадзіла калісьці, але тады быў пры ёй бацька. А цяпер яна адна. І вось яна ўсвядоміла сваю адзіноту і падумала, што ёй трэба сысці зусім адгэтуль, можа нават і назаўсёды. Можа ёй трэба

пашукаць бацькі. Счакаўшы дзён два, яна пачала збірацца ў невядомую дарогу: сядзела ў куце і плакала. Тады якраз прыйшлі па яе. Усе галаскоўскія жанчыны стаялі ўжо па вуліцы цесным натоўпам. Паставілі ўсіх пры сцяне, і доўга адзін з паліцаяў тлумачыў, што ўсім трэба ісці ў новую сялібу да Пфайфеля і вычысціць яму стары панскі сад і ўскапаць у агародзе грады пад пасадку гародніны. І выйшла так, што Марыля з дня ў дзень працавала ў Пфайфеля — то ў агародзе, то ў садзе. Яна не адпрошвалася ад работы, як усе: агарод пры бацькавай хаце ў яе пуставаў, ёй ні разу не прыйшло ў галаву рабіць што-небудзь каля дому. Тупы смутак увесь час ныў у яе душы.

Паліцай, што ганяў жанчын на работу да Пфайфеля, ужо добра ведаў гэтую жанчыну, яна не адрываецца ад працы і ўсё маўчыць. Раз і сам Пфайфель накіраваў на яе пільную ўвагу. У той дзень многа жанчын і некалькі старых галаскоўскіх мужчын працавалі ў яго садзе, і ён з веранды ўбачыў і пазнаў тую самую жанчыну, што калісьці маўчала, гледзячы на абсмалены дуб у агародзе. У добрым настроі цяпер ён лёгкімі крокамі падышоў да яе і захацеў з ёю пагаварыць.

— Што ты ўсё маўчыш? — сказаў ён.— Ну, не маўчы! Муж у цябе ёсць?

— Ёсць.

— І дзеці?

— Сын. Чатыры гады яму. І муж, і сын, і стары бацька, і мужаў дом у мястэчку, і хата бацькава ў Галасках, і я сама як хачу, так і жыву з мужам, з сынам, з бацькам.

Тут яна махнула рыдлёўкай і адным ударам раскроіла яму чэрап. Ён упаў разам з акрываўленай рыдлёўкай на леташняе непрыбранае прэлае лісце, доўгі і тонкі, не паспеўшы пагаварыць з невядомай яму жанчынай, асвойванне душы якой ён увёў у свае планы разам з аднаўленнем гэтай старой панскай сялібы і з будаваннем новай трусінай фермы.

Ужо і сонца рушыла ў поўдзень, а ён ляжаў нечапаны нікім, і на стале ў яго ляжала недапісанае пісьмо ў Германію, дзе ён паведамляў свайму швагру, што аднаўленне сялібы падыходзіць да канца і што патрэбен прыезд яшчэ двух новых гаспадароў. Пісьмо было перарвана на тым месцы, дзе ён угаварваў швагра хутчэй закончыць у родным горадзе свае справы і прыязджаць сюды.

Марыля падышла да жанок і сказала:

— Унь там ляжыць спруцянелы Пфайфель. Я яго забіла.

Жанкі анямелі. Марыля пайшла сцежкаю ў поле.

— Куды? — загарадзіў ёй дарогу паліцэйскі.

— Браток, ты ж местачковы, хамула ты дурны, ты ж мяне змалку ведаеш, пусці.

— Ідзі назад,— загадаў ён,— раз я служу, то я павінен.

Яна пайшла назад і сказала жанкам:

— Паліцэйскі не пускае.

І гэта ўзварушыла ўсіх, з рыдлёўкамі, граблямі і віламі ўсе пабеглі ў палявую сцежку, паліцыянт стрэліў у паветра, адна з жанчын пхнула яго ў грудзі, ён упаў, і ўсе беглі цераз яго. Праз колькі хвілін усё тут апусцела. Некалькі дзён і Галаскі пуставалі, і толькі пасля то той, то сёй з'яўляўся дадому. Пайшлі тыдзень за тыднем, і хата Пархвена Катлубовіча стаяла пустая. Сенечныя дзверы былі адчынены, адно акно ад двара аставалася таксама адчыненае і ўдзень і ўночы, і праз колькі дзён вецер з дажджом вырваў гэтую фортку і пабіў шкло. Запуставала і старая панская сяліба на краі мястэчка.

Ужо час падыходзіў да пачатку лета. Яшчэ не змяркалася, як Пархвен увайшоў у свой двор з паплавоў. Над Галаскамі вісла вялікая цішыня. Пархвен як сам не свой патупаў па двары, зазірнуў ва ўсе куткі, увайшоў у хату, заўважыў вырванае акно і, сумеўшыся, пастаяў перад ім. На зямлі было ўжо змрочна, але неба яшчэ было яснае. Раптоўнае хваляванне зварухнула Пархвенаў твар. Ён шпарка падышоў да вулічнага акна і зірнуў туды, дзе па той бок вуліцы, на агародзе, сонца павінна было ўжо быць на вяршаліне дуба. І раптам ён уздрыгануўся: ён убачыў у небе чорны высокі ствол без голля, і толькі адна тоўстая і таксама чорная галіна знізу зелянелася густымі новымі парасткамі. А сонца ляжала дзесьці не тут, а далей, за далёкай шашою ў полі. Гэта быў ніколі раней, з самых малых дзён, не знаны ім свет, і нічога таго, што было ў яго праз усё жыццё, ужо не было тут. Усё было чужой рукой вырвана і знявечана. Яшчэ не было ў яго такога вялікага смутку нават тады, калі ён пакідаў родную хату.

— Божа мой,— сказаў ён, шпарка і з вялікім страхам выходзячы з хаты і ныючы душой.

«Хоць бы хто на вуліцы быў! Хоць бы дзе адна жывая душа! Можа хто сказаў бы, чаму пустуе хата, і як, і ці

даўно ўжо?» Калі прайшоў ён паўз дзве суседнія хаты — укалола яго жудасная здагадка: Галаскі пустыя як ёсць. Ён парадкам пачаў заходзіць у кожную хату, стукаў у вокны і дзверы, а дзе не былі замкнёныя сенцы — уваходзіў у хату і ўсюды казаў:

— Хто жывы, абзавіся!

І ніхто яму не адказваў нідзе. Асмялелыя мышы сядзелі на сталах і лавах, пацукі пазвешвалі з паліц нерухомыя хвасты, усюды была нежывая вільгаць, адзічэлыя каты зазіралі яму ў вочы і кідаліся ад яго. Так ён перабраў усю вуліцу і, гнучыся, уцягваючы галаву ў плечы, рушыў назад да сваёй хаты. З трывожным чаканнем ён адчуў, што слабее. Лёг на край халоднай печы і неўзабаве задрамаў. Дрымота перайшла ў сон. Пабудзіў яго жаночы голас; нараспеў нейкая жанчына гаварыла просьбу:

А галубочкі родныя,
А не дайце прапасці,
А дайце хлеба на раз укусіць,
А пераначаваць пусціце.
А было ж у мяне многа ўсяго...

Сонны Пархвен падняў галаву і чамусьці крыкнуў:

— Адкуль ты?

— З Малога Прысынка.

— А хто ты такая?

— Няшчасная маці, у якой гітлераўцы забілі дзяцей. Божачка мой, літасцівы мой!

— А ці не чула ты, чаму гэта Галаскі абязлюдзелі?

— А ты ж чаго сам апынуўся тут?

— Вярнуўся з уцёкаў, і мне пустэча як сто пудамі на грудзі і — канцы могуць прыйсці.

— А тут, кажуць, быў такі Пархвен, што з п'яным пеўнем біўся. Дык яго дачка, дай божа ёй здароўя, нямецкага пана, нейкага Пфайфеля, на той свет адправіла. Гітлераўцы яе шукаюць і траслі Галаскі так, што ўсе з хат, хто куды мог, разышліся.

— А дзе яна?

Жанчына на яго паглядзела:

— Як жа ты так пытаеш? Ці маеш ты, чалавеча, розум? Хто ж гэта можа ведаць, дзе яна? А каб і ведала, то — хіба я ведаю, дзе яна? Няхай яе бог ратуе.

— Я ж яе — ты ведаеш? — бацька.

— Што ты выдумляеш?

— Дальбог жа, гэта я з пеўнем біўся. З мяне ж праз

усё жыццё смяяліся. Гэта я. Не верыш? Дык сядзі ж у гэтай хаце. Аддаю яе табе.

Жанчына ўздыхнула і пайшла, а ён убачыў, што заходзіць сонца. Стаў перад акном і зноў жахнуўся: недзе там, далёка, ляжала сонца, дуб стаяў чорным асмалкам, а адна галіна зелянелася. Толькі яна адна і асталася. Ледзьве прычакаў ён, пакуль сцямнела, а тады рушыў на другі канец Галаскоў, дзе, ён праз усё жыццё ведаў, у чалавека пад свірнам заўсёды ляжаў лом. З радасцю ён абмацаў яго, узяў на плячо і пайшоў, сам сабе шэпчучы:

— Гаспадара няма, а ты, ламок, ляжыш сабе. Вылежаўся, выкачаўся.

Ён ішоў гадзіны са дзве ціха і бесперастанку. Ён пакідаў за сабою ўсё, што калісьці поўніла яго жыццё. Вось ён мінуў доўгую граду хмызу, перайшоў упоперак шашу і як бы ўпаў у вільгаць логу, а адтуль ішоў проста. Свяцілі зоры, і стаяла цішыня. Сэрца яго калацілася, але разам з тым цвёрдасць намераў уціхамірвала яго хаду. Усе гэтыя кіламетраў сем ён прайшоў паволі: ён ведаў, што доўга яму трэба будзе выбіраць месца і зручны момант. Вось ён і два ляскі мінуў, і балота, і азярцо абышоў, і хутарская паляна мільгацела светлякамі. Унь там! Трыма крокамі ён перайшоў схілісты адкос, лёг на зямлю і прыгледзеўся. Нерухомая постаць нямецкага салдата відна была ў змроку. Цягнучы за сабою лом, ён адпоўз на ранейшае месца і выйшаў на адкос праз чвэртку кіламетра. Позірк направа і налева — нікога нідзе. Божа, памажы! Сэрца распірала яму грудзі. Ён падклаў лом пад рэйку і павярнуў угару. Божа, якая цяжкая рэйка! Утапіць бы яе ў лужу. Ён яе спусціў з адкосу і некалькі разоў калупнуў пад яе ломам. Балота! І рэйка пайшла ў прорву. Зараз можа быць усё, чаго так прагне яго змучаная душа. Ён адышоўся можа за паўкіламетра, і лёг на зямлю, вухам на траву, і чакаў. Вось яно, грыміць зводдалеку, звоніць, дыхае. Божа, як марудна, канца няма, але раптам гром, грукат, стукат, бразгат, і ўстанавілася цішыня. Шчасце! Палавіна страчанага жыцця вярнулася да чалавека. Каб так кожную ноч! Але ж лома няма. З рэйкай ён уплыў у балота. У мястэчку, у зяця, у каваля, два ламы былі, ляжалі ў прыбудоўцы к сенцам. А што каб ціхом пайсці і ўзяць да наступнай ночы? Як бы там ні было — трэба хутчэй даваць адгэтуль ходу. Сонца ўжо застала яго каля Галаскоў. Па той бок рэчкі мястэчка від-

но было яму выразна. Ён падумаў: напэўна, і мястэчка абязлюдзела. Чаму там так ціха і ніякага руху? Нацяньні ён рушыў проста да кавалёвага дома. І як толькі апынуўся ля шула кавалёвай брамы, убачыў: ён вельмі неасцярожны — проста перад ім усю вуліцу акідае позіркам немец. Ён кіўком пальца паклікаў да сябе Пархвена. І калі той ступіў тры крокі, гітлеравец крыкнуў і паказаў яму пальцам, куды ісці. Пархвен ціха рушыў да вялікага натоўпу, які нерухома і маўкліва займаў усю вуліцу. Пархвен бачыў, як стаяць местачкоўцы. Чаго яны так пасталі тут? Унь стаіць муляр Костусь, а унь Юрась-мельнік, Раман-шавец. Унь настаўнік, у якога яшчэ вучылася Марыля. (Божа мой, дзе яна!) Унь стаіць Тамаш Васілюк, той самы, што ў юнацкіх гадах вельмі сябраваў з ім, Пархвенам. Унь Васіль Сцяпуцкі, які разам з Пархвенам калісьці хадзіў у заработкі. Унь Янук Кастэцкі, дачка якога Гануся дружыла з Марыляй. Усе стаяць. І Раман Шабуня, і Змітрок Ярмаліцкі, і Канстанцін Шкуцька, і Мікалай Цвіркевіч... Пархвен стаў, не дайшоўшы да натоўпу. Тут нямецкі крык загадаў яму ўвайсці ў натоўп. І толькі ў гэтую апошнюю хвіліну Пархвен заўважыў, што аўтаматчыкі трымалі наведзены на натоўп цэлы рад аўтаматаў. І ў гэты момант як бы нейк загаўкаў прарэзлівы і крыклівы гітлеравец:

— Чацвёрты раз заяўляю: калі зараз жа не будзе сказана, хто забіў афіцэра сельскай гаспадаркі Пфайфеля, аўтаматчыкі расстраляюць адным залпам усіх да аднаго!

Тут Пархвен убачыў, як наводшыбе ад усіх чамусьці стаіць Марцін Лагута. Натоўп не зварухнуўся. І зноў нямецкі галасіна:

— Апошні раз заяўляю: калі і цяпер не скажаце,— спачатку страляю яго (гітлеравец паказаў на Марціна Лагуту). А тады — усім капут!

Натоўп маўчаў. Фашыст махнуў рукой, бухнуў стрэл, і Марцін Лагута ўпаў мёртвы. Пархвен уздрыгануўся.

— Апошні раз заяўляю! — зноў крычыць гітлеравец.

Божа! Літасцівы! Яны ўсіх зараз заб'юць. І Рамана, і Кастэцкага, і Костусь ляжа, і ўсе яны — мілыя, любыя сябры, браты, таварышы. Як жа ратаваць іх? Вось дзе пакута!

— І калі не скажаце, хто забіў... — ірве вушы нямецкі голас... Хвіліна маўчання і...

— Гэта я забіў! — пачуўся раптам Пархвенаў голас.

Тут рух адбыўся сярод немцаў.

— Ну, ідзі!

Рад — няволя, а ісці трэба. Пархвен выйшаў з натоўпу, і два немцы сталі паабапал яго. Каманда аўтаматчыкам, і яны пайшлі ў вуліцу. Натоўп загуў і заварушыўся. Пархвен бачыў перад сабою лес і над ім сонца. Ужо яно не ляжыць больш на дубе. Ужо і Марылі няма, і яе сынка няма, і каваля — хто ведае, што з ім! І Галаскі пустыя, і пацукі там з паліц хвасты пазвешвалі... І тут Пархвен крыкнуў, ідучы:

— Чаго ж вы стаіце, местачкоўцы? Ратуйце свае галовы!

— Чуем! — пачуў Пархвен голас ужо дзесьці з агародаў. Ён скоса азірнуўся і бачыў, як людзі па адным мільгацелі ўжо за мястэчкам. Натоўпу даўно ўжо не было на вуліцы. («А я крычу!») Як яго ўводзілі ў двор камендацкага дома, ён убачыў, як тая ўжо знаёмая яму жабрачка ідзе агародамі з торбамі і з кіем. Змрокам таго дня ён стаяў пасярод вялікага пакоя ў тым доме, дзе жыў камендант. Твар яго быў у крыві, адзежа вісела на ім шматкамі, у вуха яго была ўстаўлена з паперы труба, і ў яе немец крычаў:

— Не ты забіў! Гавары, нашто бярэш на сябе віну?!

Крык за сценамі можа сотні галасоў перарваў немца. Людзі ўварваліся ў дом і ў гэты пакой. Следчы гітлеравец спалатнеў, закалаціўся і падняў рукі ўгару. За мястэчкам стральба чутна была да самай раніцы.

Месяц у тую ноч змеркнуў позна, ужо ружавела неба на ўсходзе.

Стараючыся не рабіць многа шуму ў гэты ранні час, імшыстай сцежкай паміж балотам і лесам ішло многа людзей, расцягнуўшыся доўгім ланцугом. Адным з самых задніх ішоў Пархвен. Твар яго ўжо быў абмыты ад крыві, і толькі на тую парваную адзежу была ўжо накінута суконная жакетка. Яны мінулі балотнае азярцо і выйшлі да чыгуначнага насыпу. Многа ўзброеных людзей было па траве пад дрэвамі. Тыя, што прыйшлі, спыніліся ля гэтых, і Пархвен заўважыў сярод іх тую жабрачку, а пасля і трох сваіх галаскоўцаў. Раптам ён убачыў Марылю, і вялікім выбухам радасць стукнула ў яго грудзях. Праз дзён некалькі Пархвен і ўсе, з якімі ён ішоў цяпер, былі ў адным з блізкіх адсюль лясоў. Камандзір партызанскага атрада пытаў у яго:

— Гэта ты і ёсць з тых самых Галаскоў, з якіх Пархвен выратаваў цэлае мястэчка ад расстрэлу?

— З тых самых,— адказаў Пархвен.

— Там яшчэ быў такі Пархвен, што з п'яным пеўнем біўся,— пачуўся голас.

— Там яшчэ ёсць такі Пархвен, што нямецкі поезд пад адкос спусціў нядаўна,— сказаў Пархвен.

— Яшчэ і цяпер на тым месцы вецер абсвіствае добрую сотню раструшчаных гітлераўцаў,— абазваўся ўсё гой жа голас.— От бо чалавек, гэты Пархвен! У Галасках, мусіць, некалькі Пархвенаў ёсць!

# ЗАЎТРАШНІ ДЗЕНЬ

Тым летам мурашнік перавысіў першы сук старой яліны. Цяпер ён даходзіў да другога сука. І раптам асыпаўся, аб'ехаў, растрывожаныя мурашкі бегалі ў траве. Нехта хадзіў тут, хто не ведаў ходаў і сцежак, убіўся ў мурашнік, набраўся голак з мурашкамі, выйшаў з узлесся ў поле і сыпаў з сябе яловымі голкамі па цаліне аж да арабіны з ададранай галінаю. Пад арабінай былі цэлыя камякі з мурашніку, і вялыя з холаду мурашкі поўзалі па каструбаватай кары старой арабіны і на зямлі пад ёю. Самі яны не маглі сюды дайсці так далёка ад лесу, у поле. Той невядомы нешта тут рабіў каля дрэва, гэта няйначай было так. Напэўна, ён і цяпер недзе тут паблізу, ён не паспеў яшчэ далёка куды адысціся, у мурашніку ён нядаўна коўзаўся, сляды свежыя, і дажджы з ветрам не паспелі яшчэ ўпляскаць у зямлю пад арабінай і на сцежцы яловых голак. І ніхто нідзе не заўважыў, каб які-небудзь бадзяга ішоў дзе або круціўся полем ці лесам, шукаючы дарогі. Праўда, гэта мог быць спрактыкаваны хітрун і прайдзісвет, які ціхом высачыў, што яму трэба было, і знік сабе так, што цяпер шукай яго разам з ветрам у полі. Можа і так. Але гэта была б вялікая ганьба таму, хто не дапільнаваў яго. І першы, каму за гэта была б, ці можа ўжо і ёсць, ганьба, гэта Коля Сушчэвіч. Ён быў цяпер вельмі ўзбуджаны і ўражаны, гэты Коля. І з дзвюх прычын. Першае — гэта тое, што сама справа была вельмі цікавая сваёй таемнасцю. Нехта хадзіць, і ніхто яго ўбачыць не можа. А другое — гэта ж ён, Коля, праспаў у шапку таго невядомца, які можа тут нарабіць вялікага зла. Хоць можа гэта, калі раздумацца, быў хто-небудзь нявінны і ціхі, а можа і не чалавек, а прыблудная жывёліна ўбілася ў мурашнік і бадзялася па полі. Як бы там ні было, Коля Сушчэвіч быў вельмі ўзнепакоены.

Здавалася, што ён аж схуднеў за той дзень, хоць яму і худнець лішне не было чаго. Плечы яго былі вострыя, і здавалася, што ён занадта доўгі на рост паводле сваёй дзіцячай вёрткасці. Яму было цяпер год трынаццаць. Можа і больш крыху. Як шпарка прайшоў час! І як зацягнулася вайна! Калі яна пачыналася, Коля быў зусім малы. Вялікі смутак точыць яго душу, як толькі на думку яму прыйдзе тое, што было калісьці. Адзін толькі ўспамін аб маці забівае дух і, як стопудовы камень, ціснe яго ўсяго. Маці была (ці здаецца гэта яму цяпер?) высокая ростам, і рукі яе заўсёды пахлі мылам, а валасы пахлі ранім вечарам, ружовым захадам, калі ўжо лета пайшло на восень, і канае дзень, і вецер дзьме з саду ў адчыненае акно. Так асталося ў яго памяці. І пахнуў вечар полем. У маці быў такі голас, якога ён ужо больш нідзе на свеце не пачуе. Апошні раз ён чуў яе голас, калі яе вялі паліцаі, а яна азірнулася і сказала яму:

— Шукай бацьку. А я вярнуся.

А бачыў ён яе апошні раз, калі на тым жа пляцы, дзе і іхні дом быў, маці стаяла высока, так што відна была адусюль з плошчы, і вочы яе не мелі спакою і шукалі ўсё навокал. Дзіцячым сваім сэрцам ён здагадаўся, што гэта яна яго шукае ў апошнюю сваю хвіліну. У яго, аднак жа, хапіла розуму, каб не паказацца ёй і не даць ёй новай атруты смутку бачыць яго і ведаць сваю адарванасць ад яго навек. Ён прысеў на зямлю, і сэрца яго схаладала. Ён запомніў гэты апошні момант: вецер трапаў распушчаныя матчыны валасы. Калі ён падняўся з зямлі і зірнуў, усё было скончана. Маці вісела на тых лесках, на якіх раней фізкультурнікі рабілі свае практыкаванні. Некаторыя заўважылі: тады ж адразу, у момант вока, у Колі Сушчэвіча ўздрыганулася і пачала існаваць над левым вокам дугаватая маршчына, і здавалася, што яна не на дзіцячым, а на старым ілбе. Так яна і асталася. Вайна цяглася, час ішоў, і маршчына не сыходзіла з ілба. Яна толькі выраўнялася і стала глыбейшая. Гэта ўжо навек. Яна надавала Колінаму твару новы, адмысловы выраз. Магло здавацца, што гэта не хлапчук-недаростак, а чалавек, што з нейкай хворасці спыніўся на рост і старэў жывучы. Аднак жа твар яго ад часу зглаДжваў на сабе сляды непатрэбнай у гэтыя гады сталасці. Маленства вымагала свайго. І ў яго душы ішло вялікае змаганне заўчаснай сталасці з абязвечаным маленствам. Пачало перавышаць маленства. Яно было моцнае і ў абладзе

сваёй хацела мецъ радасці ўсяго свету. Коля пачаў цешыцца з таго, з чаго не нацешыўся яшчэ датуль. Ён любіў вечарам сядзець на лаўцы ля спусцелага дома, у якім пазнаў першыя ўражанні ад жыцця. Не верылася, што ў доме пуста, і што вецер там дзьме праз выбітыя вокны, і павукі пазаплятаді павуціннем куткі, і вераб'і гаспадараць так, як хочуць. Але можа быць, што ўвойдзе раптам туды бацька. Не век жа пра яго не будзе аніякага слыху. Недзе ж ён нешта робіць, недзе думае пра дом, і пра тое, што раней было, і пра яго, пра свайго Колю. Надзея, што бацька вернецца, расла і ўмацоўвалася і выратавала Колева маленства ад сталасці. Ён жыў адзін, начаваў дзе траплялася, еў што дзе знаходзіў, прыслухоўваўся да ўсялякіх чутак і раз пайшоў за дзесяць кіламетраў глядзець пабітых на шашы немцаў. Баязліва і з непераможнай цікаўнасцю ён вызірнуў з прыдарожнага рова і ўбачыў зграмозджаныя ў кучу разламаныя грузавікі, і немцы, парваныя і патрушчаныя, яны ляжалі, як пачварная агіднасць сярод зялёных зараснікаў у зіхаценні яснага дня. Коля Сушчэвіч, больш не хаваючыся і не крадучыся, пайшоў па шашы і праз кіламетраў дзесяць убачыў у зарасніках прыдарожнай шыпшыны чалавека ў ботах і без шапкі. Толькі гэта і заўважыў Коля. А які гэта быў чалавек і як выглядаў — гэта пасля ўжо дайшло да Колевай свядомасці. Адразу ж чалавек аглушыў Колю нечаканым загадам:

— Стой, хадзі сюды! Далёка ідзеш?

— З раёна.

— Ого! Немцаў бачыў дзе?

— А нідзе.

— А ў раёне?

— Таксама няма. Толькі паліцаі.

— Чый ты?

— Я Сушчэвіч.

— Дзе ж твой бацька?

— Я не ведаю.

— А хто ж ведае? Можа ён у арміі?

— У арміі.

— А можа не?

— Не.

— Дык дзе ж ён?

— Я не ведаю.

— І слыху ён не падае?

— Не падае.

— Чаго ты хітруеш? Ты яшчэ малы на хітрыкі! А як немцы матку павесілі, дык ён і тады не абазваўся?

— Не абазваўся.

— Няпраўда.

— Праўда.

— Не можа быць. Тваго бацьку бачылі на тым тыдні ў Барцёўскім лесе. Ён і нейкія яшчэ два з ім ляжалі на траве.

Што раптам зрабілася з Колем! Бурная радасць, вялікая, як увесь свет, нарадзілася ў ім, і назаўсёды пакінула яго нэндза, якая не давала яму спакою з таго, калі ён убачыў матку на шыбеніцы. Горш за пагібель, калі жыць без надзеі! У Колі Сушчэвіча была цяпер надзея. Ён знойдзе бацьку. Бацька прыйдзе да яго. Бацька тут недзе блізка. Коля лёг поплеч чалавека ў шыпшынніку і астаўся з ім. Ужо і дзень пачаў хіліцца к вечару, а Колю Сушчэвічу не хацелася адыходзіць ад чалавека. А як жа! Яго чаканне бацькі павінна быць важна і гэтаму невядомцу. Так ратавалася ад адзіноты Колева душа. Цені ад дрэў пачалі рабіцца доўгімі, як раптам чалавек прыўзняў галаву і стаў прыслухоўвацца. Ён сказаў Колю:

— Вызірні на дарогу і палічы машыны, колькі іх ідзе.

— Дзве,— сказаў Коля, углядаючыся ў дарогу.

— Кладзіся хутчэй пры мне і не варушыся!

Дзве машыны з немцамі праехалі, і яшчэ яны ляжалі з гадзіну. Пачало змяркацца, і чалавек падняўся.

— Дык дзе ж ты жывеш?

— Нідзе,— адказаў Коля.

Сэрца яго калацілася з радасці. Ён зачапіўся за мэту: мэта яго — чаканне бацькі — і надзея, усеабдымная, ні з чым не параўнаная, абнімала яго.

Чалавек дарма чакаў цэлы дзень: немцы ездзілі толькі вялікім гуртам, і ніводнага цярплівы снайпер за дзень не застрэліў. Ён пайшоў моўчкі, і так жа моўчкі Коля пайшоў з ім. Гэта было яшчэ першымі месяцамі вайны. Ужо і другі год вайны пачаўся, і ўсё так жа надзея і спадзяванне ратавалі Колеву душу. Ён ужо многа выхадзіў мясцовасцей і прывык ужо да таго, каб бачыць часта, як канчаецца прастрэлены немец. І ўсё ж не ўнімалася скруха ў душы: нішто ядавітае і самая горшая атрута з атрут не маглі б выпаліць з сэрца і памяці таго моманту, калі вецер трапаў распушчаныя матчыны валасы. Самая малая душа можа змясціць у сабе найвялікшую ў свеце

радасць. Ён прагнуў усё больш шчасця. Ён упіваўся радасцю кідаць гранаты пад нямецкія машыны; цэліцца ж у матацыклістаў і страляць у іх ён не мог многа: вінтоўка была яму яшчэ зацяжкая. Ён лёгка пралазіў пад калючыя загарадзі, мог падгрэбціся пад сцяну пуні і так улезці ў яе або вылезці з яе. Ён мог прыкінуцца глухім пастушком, галодным сіратой-жабраком, цікаўным малым дурнем, вясёлым рагатуном, шукальнікам усяго, што толькі льга згубіць і страціць. Ён мог дапасці да нямецкага штаба, да вартавога салдата на мосце, да вайсковай нямецкай станкі, палічыць танкі і колькі салдат, папрасіць у немца закурыць, каб у таго не было падазронасці. Ён мог абсачыць за суткі шырокі круг мясцовасці, узяць на памяць кожны след на роснай траве, пераначаваць у нямецкай кватэры, вярнуцца яшчэ загадзя ў атрад і выслухаць пахвальбу і падзяку ад камандзіра. Так месяц за месяцам, усё больш і больш яго ясная надзея зліласся з плынню дзён, заўсёды занятых, поўных дзейнасці, што стала яму ратункам. Ён жыў поўным жыццём. Маршчына над левым вокам хоць і аставалася на сваім месцы, але ўжо так стала, што пакінула надаваць усяму твару свой выраз. Яе забіла і перавысіла штосьці іншае, што ішло з душы і свяцілася на твары. І як жа гэта так прыйшлося, што ён нават і падумаць не можа, хто развярнуў мурашнік і калупаўся нешта пад арабінай у полі? Паняверка тачыла яго. Ён быў сам не свой. Цэлы той дзень яго не бачылі ў атрадзе. Змрокам дня ён вярнуўся і сказаў, што ўначы зноў пойдзе, бо яму здаецца, што напаў на тое, што трэба. Цераз ноч, калі сонца ўжо высока стаяла, ён вярнуўся і сказаў, што ў той трухлявай хаце, што стаіць крайняя ад ельніку і ўжо многа часу пуставала, нехта жыве.

— Ты бачыў? — запыталі ў яго.— Адкуль ты ведаеш? Ты быў у гэтай хаце?

— Не быў, але нехта жыве.

— Дым з коміна ішоў? Агонь у вокнах свяціўся? Нічога ж гэтага не было.

— А чаму ж ручнік там на плоце вымыты сохне?! І белы певень больш не спіць на седале перад акенцам сенечным? І чырвонаю анучкаю дзірка ў шыбе заткнута? І лом валяецца ў брамцы? Нехта з лесу цягаў апал у хату.

— Дык высачы, хто гэта. Паглядзі, які ён. Адкуль ён з'явіўся і чаго ён тут. А калі ён гаспадар хаты, дык дзе ён дагэтуль быў, што хата пуставала.

Так яму сказаў камандзір, і ён гатоў быў у той жа момант кінуцца на пошукі таго, хто так смела з'явіўся тут. Але якраз у гэты момант і з'явілася ў яго нечаканая думка; яна кранула ўсё глыбокае і патаемнае, што жыло ў яго пачуццях і адкуль білася на паверхню такое вялікае шчасце, як надзея. Раптам ён стаў думаць, што гэта можа сам бацька яго аднекуль з'явіўся і хаваецца ў гэтай пустой хаце. Хоць тут можа і недарэчы слова «хаваецца». Той невядомы не вельмі і хаваўся, калі так адразу льга было заўважыць, што ён жыве ў хаце.

Ужо сонца даўно з поўдня сышло. Да таго ж быў кастрычнік месяц, і дзень знікаў шпарка. Да вечара мала заставалася часу, як Коля Сушчэвіч выйшаў з лагера. Было ясна і дзьмуў вецер. Усюды было многа вады ў нізкіх мясцінах. Усюды было многа вузкіх дарожак з глыбокімі каляінамі, выезджанымі за доўгія гады. У каляінах стаяла вада, і трава над ёю была жаўтаватая, зблякла і мокрая. Да яе прыліпала зморшчанае лісце. Парыў ветру рвануў з прыдарожнай дзікай ігрушы хмару счарнелага лісця, і яно, як снег у замець, доўга не магло асесці на зямлю. Коля стаяў у віхры лісця, і ўсё яму было добра. І поле паміж двух лясоў вабіла яго ў свежы вецер, і жоўтыя колеры позняй восені. Можна сказаць, што ў ім ужо цвёрда жыла нават не надзея, а ўпэўненасць знайсці бацьку ў той хаце. Падыходзячы да доўгашуканай мэты, чалавек не рвецца да яе, а абдумана перажывае асалоду канца цяжкай дарогі. Такое параўнанне можа было б дарэчы пры Колевым настроі, калі ён, ужо добрым змрокам, убачыў перад сабою тую хату.

Гэта была мясцовасць глухая і зацішная. За дзесяць кіламетраў праходзіў вялікі шлях, на якім мала калі заціхаў рух машын і людзей. Конныя абозы і калоны грузавікоў тут праходзілі часта, нават і ў гэты час, калі даўно ўжо тут не было нямецкіх салдат і толькі паліцаі трымалі сяк-так нямецкую ўладу. У гэтым жа кутку, паміж двух вялікіх хвойных лясоў, здавалася, ніколі не знікала і не знікне спрадвечная цішыня. Уяўлялася, што самы густы і напорны вецер не заб'е тут паху грыбоў і лясной трухлі. Там, за дзесяць кіламетраў адсюль, быў да вайны раённы цэнтр, а цяпер нямецкая воласць і камендантцкае кіраўніцтва. Тут, здавалася, усё жыло толькі зменай дзён і начэй. У дажджысты восенны дзень адзінокі жоўты лісток цалюткі дзень трапятаўся пад ветрам на звіслай га-

ліне, і здавалася, што тут толькі таго і руху, што гэты лісток, і што гэта будзе і заўтра, і далей. Узбунтаваная адчаем душа тут магла ўціхамірыць сваё ўтрапенне, і вечнасць тут жыла ў першародным сваім абліччы. Дзе-небудзь пад лясным сухастоем чарвівее грыб, і ніхто не патрывожыць яго павольнага знікнення са свету, пакуль ён не размыецца дажджамі. Жолуд падае з дуба, правальваецца да самай зямлі праз гнілы пласт лісцвянага насцілу, ляжыць восень і зіму, прарастае, узыходзіць і расце. На доўгі век паднімаецца маладое дрэва. Дубы стаяць, як каменныя горы. Магутная сіла і найтанчэйшае хараство зліліся тут у непадзельнае і вялікае, як свет, адзінства. Раніцай гэты куток агалашаецца самавітым гудком з якога-небудзь блізкага завода. А пасля на ўвесь дзень трава пачынае співаць сваю ціхую песню пад роўным ветрам.

У гэтым кутку, дзе хадзіў цяпер Коля Сушчэвіч, была ўжо зусім глухата. Самае людпае месца, бліжэйшае адсюль, гэта і быў той раённы пункт, за дзесяць кіламетраў, на шляху. Вітая дарога, як размінуцца двум з калясьмі, ішла скрозь полем, пасля бралася паўз лес, і там над ёю навісалі, кіламетраў на два, бярозы і роўна ўзнімаўся граб. З другой стараны ішла шырокая града хваёвага лесу, і ясным адвячоркам ціхае сонца доўга ляжала на старых хвоях. Ціхае хараство знікала доўга і незаўважана, і здавалася, што і ўночы штосьці ад яго асталося на дрэвах. Я памятаю, як у гады першай маладосці мне заўсёды хацелася на ўсю ноч аставацца пад тымі хвоямі. Скрозь паўз лес дарога даходзіла да акружанага з трох бакоў лесам поля. Гэта было падобна да шырокай паляны. Шэсць хат стаяла там маляўнічым непарадкам, не ў вуліцу, а абы-як. Адна хата стаяла задам у вокны другой, другая бокам да глухой сцяны першай, і ўсе далёка адна ад адной. Будаваліся тут, не апчаджаючы месца. Хаты былі няроўныя, былі вялікія, з кветнікамі перад вокнамі і з маляванымі вокнамі і дзвярыма. Былі новыя, яшчэ з жоўтым колерам свежага дрэва і з нявыветранай свежай смалой на хваёвым бярвенні. Былі і малыя хаты. Цесныя і старыя. Гэтыя даўно аселі і цяпер трухлелі сярод сваіх прыбудовак і дрэў. Дарога праходзіла паміж імі і ішла праз лес. Толькі з аднаго боку гэты дробны пасёлак не быў адгароджан ад шырокага свету лесам. Там было поле, крыху ўзгорыстае, высокае, са старой прысадзістай арабінай,

у якой была ададрана разам з паласой кары да самай зямлі тоўстая галіна. Ці то гэта маланкай у навальніцу, ці чыёй злой рукой. Арабіна стаяла на ўзвышшы, і ад яе да хаты полем вілася сцяжынка.

Самая крайняя ад поля з арабінай хата была новая і нясканчаная. Вокны ў ёй былі забіты дошкамі наглуха, і ніякай агароджы каля яе. Спарыш і трыпутнік буялі навокал гэтай неабжытай будыніны. Мокрая і прыціснутая восенным холадам, цяпер гэтая расліннасць усё яшчэ гусцілася і ўпарта зелянелася. Ганка пры новай хаце з забітымі вокнамі таксама не было. Парог у сенцы быў высокі, падмуроўка ўжо была гатова, з роўна складзенага вялікага камення, змацаванага цэментам і абсыпанага жвірам. Бярвенне было здаровае, смольнае, шуфляды ў вокнах тоўстыя і шалёўка на іх шчыльна дапушчана. Відаць, што ўсё тут рабілася як навек, каб стаяла доўга і, як кажуць, на месцы гніло. Усярэдзіне яшчэ не было падлогі, толькі ўпушчаныя ў падрубы падваліны на яе. З пілаваных плашак сцяна выгароджвала ў хаце кухню, а сцяна з дылёвых дошак — шырокую бакоўку. Вокны рабіліся вялікія, павінна было тут быць светла і прасторна, і, відаць, гаспадар меў густ да выгоды ці, у кожным разе, прагнуў яе. Але нейкі марны лёс скепсціў чалавечыя замыслы. Ужо і дах з гонты пачаў чарнець, а знізу ўсё так і асталося без завяршэння. Вераб'і снаваліся з хаты і ў хату праз шчылле ў забітых вокнах. Жытло пуставала. Але новыя сцены выглядалі весела. Падоўжная сцяна з трыма вокнамі стаяла на поўдзень, і ў яснае надвор'е сонца свяціла сюды. Рассыпаныя ўсюды дробныя трэскі гнілі і зарасталі травою. Арабіна на ўзвышшы адсюль відна была вельмі добра. Здавалася, што вельмі блізка адсюль гэтае дрэва. Узгорыстасць пад дрэвам зменшвала чалавечаму воку адлегласць.

Апошняя ж на гэтай паляне, туды пад лес, хата была зусім старая і малая. Яна стаяла занадта ўжо далёка ад усіх іншых хат, прыткнутая да самага лесу, так што бадай у лесе яна стаяла. Паміж ёю і лесам была толькі гаспадарская, як праехаць аднаму з калясьмі, дарога, выслаexisting ная хваёвым і яловым іголлем і з выбітым наверх карэннем прыдарожных дрэў. Каржакаватая старадрэвіна тырчала пры хаце голлем пад самай дарогай, і кара на ёй унізе была здзёрта восьмі праезджых вазоў. Хата гніла і трухлела. Яна ставілася на зусім ужо старасвецкі лад: са-

ламяная страха з тоўстым каптуром над вулічнай сцяной, і шчыт не з стаякоў у наваратку, а з ляжачай паўтарачкі, даўно сточанай шашалем. Салома на страсе ўдзірванела пад зялёным пластом збітага моху і ўпарта працівілася дажджу і ветру. Нізкая прызба і агароджа з ляжачых жэрдак, дзе-нідзе акораных і яшчэ здаровых. Хлявух з аполкаў і пунька са скрыўленымі сценамі яшчэ трымаліся на старым шуллі. Ляжачымі жэрдкамі перад двума вокнамі ў падоўжнай сцяне быў выгараджаны куток на расаду, цыбулю і можа кветкі. Увесь гэты плацец меў на сабе сляды таго, што тут доўга начавалі куры. Ці можа гаспадар з натуры свае быў пустадомак і не прыстроіў сваім курам зручнейшага седала, ці можа так яму ішлося, але ўсё тут сведчыла, што жыццё тут ішло як бы да часу. Але і так сказаць: сапраўднае жытло можа тут і ўкаранілася было вельмі даўно, калі хата толькі паставілася і была вялікім здабыткам таго, хто яе ставіў. Гэта быў тагачасны панскі парабак, і хату ён зрабіў сабе на тры акны — два ад двара і адно з вулічнай сцяны. Свой кут стаў раскошай чалавеку. Таго парабка прозвішча было Крамарэвіч. Ужо зусім старым чалавекам ён дажыў да рэвалюцыі і памёр у гэтай сваёй хаце, пакінуўшы трох сыноў, жанатых і з дзецьмі. Два паспелі ўжо ўзяць сабе зямлю і выбрацца на асталяванне ў былы маёнтак. А трэці Крамарэвічаў сын, самы маладзейшы, астаўся дома. Пахаваўшы бацьку, ён жыў тут сабе і гадаваў свайго адзінага сына, якому ў тыя часы было год дзесяць. Гэты дзесяцігадовы хлапец зваўся Антонам і да часу бацькавай смерці ўзмужаў як мае быць. Такім парадкам яму трэба было пачынаць самастойнае жыццё якраз у часы свае ўзмужаласці, бо гаспадарку да самай смерці вёў бацька, а ён сам упадабаў служыць на чыгунцы: ён чакаў таго, каб хоць трохі ўзняліся на ногі трое яго дзяцей, што нарадзіліся за першыя тры гады пасля таго, як ён ажаніўся. Жонка яго была нездараўчаная жанчына, і з дзецьмі было клопатна. А ў яго была вялікая прага паставіць добрую хату, прасторную і выгодную. На гэта трэба былі вялікая турбацыя і грошы. З жонкай яны згаварыліся так: яна будзе гадаваць дзяцей і жыць у старой дзедаўскай трохакопнай хаце, а ён будзе служыць і збярэ грошай. Гэта была мара аб прасторнай хаце. Аднаму яму, са слабай здароўем жонкай і дробнымі дзецьмі, адолець будоўлю было зацяжка, і ён стараўся і чакаў. Тым часам трое дзяцей узраслі, ён прызапасіў грошай, і

жонка як бы выраўнялася здароўем: як мае быць яна рабіла штодзень у калгасе, і нічагуткі. Ёсць такія хваробы, што праходзяць з часам і следу не пакідаюць. Трое дзяцей былі: густавалосая Ганка, няўнімная рагатуха Алеся і разважлівы з малых дзён Толя. Гэты вырастаў, не ў прыклад сваім сёстрам, заўсёды як бы ў задуме, так што аж кпілі з яго старэйшыя. Антон Крамарэвіч кінуў службу, вярнуўся дадому і распачаў будоўлю. «Будуецца чалавек раз у жыцці,— казаў ён жонцы,— дык трэба, каб будоўля была моцная, выгодная і каб цешыла вока». У яго калацілася сэрца, калі ён давёў сцены да вокан, а калі ўжо налажыў ашлапы над вокнамі — як бы і ўся будоўля была скончана. Блізіўся канец цеснаму жыццю ў дзедаўскай трохаконнай хаце. Праўда, у ёй радзіўся і вырас чалавек, але ж гэта быў час такі, калі ўсе навокал даўно ўжо зыначылі сваё жытло: ужо і не хаты стаялі скрозь, а новыя дамы і дамкі, і старасвецкай трухліны бадай-што нідзе ўжо і не ўбачыш. Антон Крамарэвіч пакінуў жыць мараю, а жыў штодзённым клопатам. І, можна сказаць, толькі цяпер па-сапраўднаму ён ацаніў той куток на свеце, дзе ён радзіўся і асталёўваўся цяпер навек дзеля сябе і дзяцей сваіх. У той меры, у якой выраcталі сцены яго дома, ён спакайнеў душой: мара з'ядае чалавека, а яго мара цяпер перажыла сама сябе і пакінула існаваць. Ганка, Алеся і Толя былі ўжо такія вялікія, што і самі ўвайшлі ў бацькаў будаўнічы клопат. А яна! Жонка, маці гэтых дзяцей! Твар яе ружовіўся. Яна быццам ажыла ці спачатку пачала жыць. Дзеці і іх маці быццам бы знайшлі страчаную бацькам мару. Цяпер яны ўладалі мараю: жыць у новым доме, у выгодзе, у радасці і шчасці і на доўгі век. Гэта было жыццё без атрутнага смутку аб учарашнім дні і без горкай трывогі аб дні заўтрашнім. Можа быць, продкі нашы ад дзесятага пакалення думалі аб такім жыцці сабе і сваім дзецям. Антон Крамарэвіч так думаў аб далейшым і раіўся з жонкаю:

— Калі пяройдзем у новы дом, то старую хату тады я скіну з месца. Трухліна пойдзе на апал, а здаровае згодзіцца ў гаспадарцы.

Ужо нават і тое, што ён калі-небудзь будзе пілаваць на дровы трухліну са старой хаты, радавала яго. За тыя гады і ўвесь той пасёлачак выбудаваўся і перабудаваўся. Хто жыў у старой хаце, той і новую пакрысе складаў, бервяно да бервяна, дзе-небудзь у іншым месцы, дзе з

задаваленнем спынілася яго вока. А хто жыў ужо ў новай хаце, той старую не пільнаваў, а скідаў яе. Такім парадкам гэты пасёлак так і астаўся шасціхатным. Можна было выбрацца на большую разлегласць, дзе ў полі вырасла новая вялікая вёска, але ў гэтым кутку людзі любілі сваё абжытае месца і з яго не зрушыліся. Антон Крамарэвіч быў шчаслівы яшчэ і тым, што нарэшце не жыў ужо на службе, як да часу, а асядаў на родным месцы. Гэта быў чалавек ціхмяны, добры і справядлівы. Пра яго казалі, што ён казюлі без патрэбы не раздушыць. Але, які б ён ні быў, раптам прыйшоў такі час, што ўвесь яго клопат пайшоў намарна і нічога ў яго не асталося больш, як паспрабаваць вярнуцца да той старой мары. Але горыч сціснула яму душу, і мара ператварылася ў здзеклівае непатрэбства і атрутную прыкрасць. Сам Антон Крамарэвіч лічыў, што ўсё здарылася праз Аляксандра Сушчэвіча, новага тут тады чалавека. Можа і так, а можа тут мела месца тая акалічнасць, што гэты Аляксандр Сушчэвіч, як мог і як зносіла яго не вельмі вострая галава, стараўся ўтрымацца на той паверхні, на якую выбіла яго бурнае ў тыя гады жыццё. Іншая справа, што гэта магло дрэнна прычыніцца да Антона Крамарэвіча. Як бы там ні было, трэба не спускаць з увагі самога факта.

Аляксандр Сушчэвіч быў у тых жа гадах, што і Антон Крамарэвіч, і людзі яны былі вельмі непадобныя адзін на аднаго. Антон Крамарэвіч мог быць залічаны ў натуры дробныя, якія могуць убачыць у растрэсенай на дарозе саломе вялікую страту. Ён выгадаваўся на хлебе, з якога ашчаджалася кожная крошка. Так складалася гэтая натура. Дык трэба ведаць, што калі ў яго выпрацавалася патрэба ставіць не абы-якую хату, а дбаць у ёй аб святле, прасторы і выгодзе, то гэта быў бунт і рух у вялікае. Тут не трэба забываць жыватворчага подыху тых год, калі «хто быў нічым, той рабіўся ўсім».

Аляксандр Сушчэвіч быў родам з дробнага горада і з сям'і, у якой нязменна верылі, што найглыбейшая існасць усяго свету ў тым, як каму пашанцуе, а на гэтым і трымаецца чалавечае жыццё. Сушчэвічаў бацька, не ў прыклад Крамарэвічаваму бацьку, зямлі не араў і хлеба не сеяў, а пускаў у ход дробную капейчыну і хацеў пакласці ў кішэню дзве. Ён сцен не ўзводзіў і дарог не масціў, а прыгандлёўваў на ўсім, што льга было купіць і перапрадаць. Гэта быў дробны перакупшчык. Аляксандрава маладосць прыпа-

ла на час першых год рэвалюцыі, і вялікая плынь пацягла і яго ў сваю імклівасць. Ён, як і кожны ў той час, лёгка мог вызначыць сабе сваю дарогу. Не ў прыклад тысячам маладых людзей, ён ні ў якія рабфакі і тэхнікумы не падаваўся, а з лёгкай душой далучыўся да тых, што адразу хацелі ступіць на прывабную сцежку. Ён быў хлопец увішны і дбайны. Ён не захацеў падначальвацца, а каб самому ўзначальваць. Аж сам бацька дзівіўся: як ён, такі малады, здолеў астацца за начальніка валаснай міліцыі.

Спачатку ён канфіскаваў самагонныя апараты, а пасля налажыўся да гладкіх прамоваў. Месяц за месяцам і год за годам, і ён засвоіў некаторыя думкі вялікіх людзей, але браў іх не з правага, а з левага боку. Аднак жа праз год пяць сваёй службовай дзейнасці мог, вокам не міргнуўшы, лезці ў спрэчкі, і нават філасофскія, з кім толькі хочаш. «Усё цячэ, усё зменьваецца». Ён і гэта ўзяў сабе ў галаву. І раз як адзін з дзеячаў раённай улады выступіў на выпускным вечары ў сярэдняй школе. Невядома, з якой прычыны, але ён тут доўга гаварыў аб тым, што ў адной кнізе, якую ён чытаў, сказана, што нехта праз дзесяць год вярнуўся ў родныя мясціны і застаў усё там на ранейшым месцы і без змен.

— Вучыцеся вы,— сказаў ён выпускной з дзесятага класа моладзі,— бачыць праўду жыцця дыялектычна, а не так, як гэты аўтар, у якога нішто нідзе не цячэ і не зменьваецца, а астаецца нават і праз дзесяць год на тым жа самым месцы.

Хоць з яго прамовы ніхто нічога і не зразумеў, аднак жа ўсё гэта мела дачыненне да яго далейшага жыцця. Пасля ўрачыстай часткі былі танцы, і ён здорава танцаваў, і асабліва з нейкай ціхай і высокай дзяўчынай. Яна была дачка тутэйшага аптэкара, і гора яе было ў тым, што яна нямала да гэтага часу прачытала кніг, але да поўнай меры не дачыталася, а толькі ўзварушыла свае думкі. Такім чынам яна адразу скеміла, што Сушчэвіч гаворыць у плане філасофіі, а што і як — да гэтага яна ў той вечар не магла яшчэ дайсці. Гэтая добрая сэрцам і спакойная душой дзяўчына з таго вечара пачала думаць аб ім як аб чалавеку, вартым таго, каб ім захапляцца. Простае сэрца! Святая наіўнасць! Яна думала, што пасля дзесяцігодкі паедзе вучыцца далей, але імкненні яе маладосці раздвоіліся. Што ж да яго, то ён таксама з таго вечара не выпускаў яе з сваіх думак. Трэба сказаць проста і адразу: увосень таго ж

года яна стала яго жонкай, а роўна праз год радзіўся Коля, які цяпер, маючы надзею, што гэта яго бацька таемна з'явіўся і жыве ў крайняй ад лесу старой трохаконнай хаце, шыбаваў сюды, азіраючыся і дробна перабіраючы нагамі.

Аляксандр Сушчэвіч аставаўся з году ў год у адным месцы, то ў тым раёне, то ў іншым. Як чалавек і работнік ён выпрацоўваўся ўжо на ўсё жыццё. Нарэшце ён асеў надоўга на адным месцы, у тым раёне, дзе і застала яго вайна. Гэта і было за дзесяць кіламетраў ад таго ціхага кутка, дзе Антон Крамарэвіч ставіў сабе добрую хату. Яшчэ год за колькі да вайны Аляксандру Сушчэвічу раз прыйшла ў галаву думка, што нешта не так, як трэба, у раёне. Яно як быццам бы ўсё, як і трэба, было. Людзі хлеб елі, і зямля добра радзіла, і ніхто на бяду не скардзіўся, але немаведама адкуль пагібельная думка пачала тачыць Аляксандра Сушчэвіча. Ён раптам успомніў, што ён сын не пралетарыя, а перакупшчыка і калісьці ўтаіў гэта і ні разу аб гэтым не напісаў у анкетах і біяграфіях. Гэта быў нейкі псіхоз. Смутак пачаў тачыць яго. А вядома, што калі хто праз меру баіцца агню, то той гатоў утапіцца ў вадзе. Сушчэвіч стаў старацца так, што неўзабаве пачаў дрыжаць сваіх жа перагібаў. Ён прычапіўся і да Антона Крамарэвіча: «А чаму ты адразу не сядзеў на зямлі, а быў немаведама дзе, а чаму твая жонка была ў калгасе, а ты і на воку тут ні ўкога не быў, а хто цябе ведае, што ты там дзе рабіў, а можа ты якім злом там займаўся. Дык, значыцца, ты не маеш права стаць членам калгаса. Твая жонка няхай будзе, а ты не».

— Дык што ж мне з жонкай развод браць, ці што?! — устрапянуўся збянтэжаны Крамарэвіч.

— Калі ты браў яе замуж, то ты ў мяне не пытаўся. Што ж ты цяпер пытаеш! У цябе павінна быць свая галава на плячах.

Слабавольны Антон Крамарэвіч уныў душой. Ён пачаў думаць, што дзеля якіх-небудзь, яму невядомых, а Сушчэвічу вядомых прычын трэба, каб ён разлучыўся з жонкай. Дык жа трэба ратавацца. Самае лепшае, каб доўга не паказвацца Сушчэвічу на вочы. Але ж трэба канчаць хату. Ужо нямнога асталося. І вось ён надумаўся: зноў з'ехаць і астацца на чыгунцы, пакуль развеецца над яго галавой хмара, а хату няхай паспрабуе канчаць жонка. Няхай наймае людзей, а грошы ён падашле. Аднак жа сталася не зу-

сім так, як ён думаў. Праўда, хмара і сапраўды развеялася. Неўзабаве і сам Сушчэвіч пра ўсё забыў. Але адной жанчыне было занадта ўжо клопатна давесці да заканчэння і парадку новую будыніну. Яна пісала яму аб гэтым пісьмо за пісьмом. Ён жа не адважыўся так адразу назад вярнуцца. «Яшчэ год ці два»,— думаў ён. Да таго ж яму вельмі спадабалася новая служба на чыгунцы. Нарэшце прыйшло пісьмо: «Хату я накрыла, каб сцены не гнілі, а вокны і дзверы забіла дошкамі. Няхай так стаіць сабе, пакуль усё выйдзе на лад. Нейк жа скончыцца пакрысе. Дзякуй богу, жыць ёсць дзе, дождж і ў старой хаце за карак не лье». Ён прачытаў пісьмо і аддаўся горкай задуменнасці. Дзень пайшоў за днём і месяц за месяцам, і не тое што год, а і два, і больш прайшло. І так нейк жылося да часу. Усё чагосьці чакалася. І дачакалася да вялікага няшчасця. Ужо і не пайшлі пісьмы ад яе і дзяцей, і невядома стала, ці хаця жывыя яны асталіся.

Праз тую станцыю, дзе служыў Антон Крамарэвіч, прайшлі апошнія цягнікі, і немцы былі ўжо зусім блізка. Не тое што ад кананады, усё траслося і рвалася ад частых налётаў нямецкай авіяцыі, але ўжо і нямецкія танкі падышлі былі да самай станцыі і зноў зніклі. Антон Крамарэвіч разам з усімі, з кім ён жыў і працаваў тут доўгі час, быў у знішчальным атрадзе, які затрымліваў падазроных асоб, капаў супрацьтанкавыя равы, узводзіў насыпы, забіваў надаўбы, спаткаў быў нямецкія танкі стральбой і гранатамі. І многа тут яшчэ было работы гэтаму атраду. Але яшчэ няясна было: ці астанецца атрад тут, як прыйдуць немцы. Падыходзіў апошні момант. А на станцыі аставаліся яшчэ таварныя вагоны, цэлы эшалон. Гэта быў таварны цягнік, у паравоз якога трапіла бомба і раніла машыніста. Начальнік станцыі выбраў з усіх Антона Крамарэвіча: ён ведаў, што Крамарэвіч такі чалавек, што калі ў яго не хопіць пачуцця абавязкаў давесці справу да канца, то таксама не хопіць і смеласці не давесці яе да канца. Антон Крамарэвіч увесь час, некалькі гадзін, стаяў на паравозе пры раненым машыністе. Машыніст быў забінтован па твары, плячах і жываце і сядзеў на высокім табурэце. Крамарэвіч стаяў пры ім і то даваў яму піць, то рабіў тое, што казаў яму машыніст. Без агнёў і ціхім ходам яны адводзілі цягнік у тыл. Але паравоз быў сапсаваны бамбардзіроўкай, і язда была такая марудная, а нямецкія самалёты шукалі сабе

спажывы так часта, што цяжка было гнаць ад сябе безнадзейнасць. Ехалі, ці, праўдзівей сказаць, паўзлі ўсю ноч і раніцу і тады, калі сонца рушыла на поўдзень. Тут якраз і здарылася тое, што вырашыла далейшыя Крамарэвічавы паводзіны. Немец зверху заўважыў цягнік і стаў над ім кружыцца. Машыніст спыніўся. Трэба думаць, што немец пачаў траціць цягнік са сваіх вачэй і, можа быць, каб зусім не згубіць яго для сябе, ён бадай-што на ўсялякі выпадак скінуў увесь груз сваіх бомбаў. Гэты страшны пачастунак упаў так блізка ад цягніка, што паравоз і пярэднія чатыры вагоны ўздрыгануліся, зрушыліся набок, пагнуліся і сталі нягоднымі для далейшага руху. Машыніста і Крамарэвіча выкінула з паравоза. Крамарэвіч ачомаўся праз некалькі гадзін, і не так сабе, а ад артылерыйскай кананады. Немцы абстрэльвалі гэтую мясцовасць з гармат. Усюды ўзнімаліся ўзрывы. Пыл з дымам раз'ядаў вочы і грудзі. Крамарэвіч хацеў прыўзняцца і адчуў, што ранен у грудзі. Кроў закарэла і пакінула ісці. Уночы свяціў месяц. Крамарэвіч хацеў стаць на ногі і ўпаў у непрытомнасць. Вельмі можа быць, што жудасны холад, які можа быў і ад хворасці, вярнуў яго да памяці. Ён калаціўся з холаду і не ведаў, колькі часу ён так праляжаў. Заходзіла сонца, і зямля была мокрая, мусіць, нядаўна прайшоў дождж. З нечалавечай натугай Крамарэвіч усё ж такі падняўся на ногі і паспрабаваў паволі ісці. Яго вадзіла ўбакі, і ў вачах стаялі чорныя кругі. Сам не ведаючы куды, ён усё ішоў, растапырыўшы рукі, быццам мацаючы паветра і трымаючыся за яго. Разышоўшыся, ён аднак жа пайшоў лягчэй. Ён садзіўся і лажыўся на зямлю і зноў ішоў. У адным месцы, дзе чарнеліся кусты і дрэвы, ён чуў зусім блізка ад сябе нямецкую гаворку і ледзьве мог схапіць грудзьмі паветра. На расвітанні ён бачыў, як прайшло палявой дарогай многа нямецкіх танкаў. Ён лёг пад куст палявога быльнягу і не варушыўся. І ніколі так моцна, як у гэтыя моманты, не ныла яго душа па Алесі, Ганцы, Толю і ёй, добрай яго жонцы, такой блізкай і роднай жанчыне. І па тым кутку пры лесе, дзе сэрца многа знаходзіла ціхай радасці і дзе ўцеха з малога была лепш за радасць з вялікага. Пераляжаўшы так многа гадзін, ён зноў пайшоў. Ужо ён быў слабы і ад раны, і ад голаду. Многа сілы адабрала і ўся гэтая валтузня. Ён ведаў адно. Па ўсёй мясцовасці панавалі ўжо немцы, а мясцовасць была незнаёмая. Яшчэ праз

паўсутак ён дацягнуўся да нейкай дробнай вёсачкі, дапаў да скошанай і прывялай травы каля частакола з рассунутымі прутамі. Бязвусы, босы і ў чорнай рубашцы без падпяразкі чалавек угледзеў яго і разгаварыўся з ім. Ён паспагадаў яму ў няшчасці і паклаў на леташнюю салому ў сваёй пуні. Кожны дзень ён прыносіў яму два разы хлеб і малако, і так пайшоў тыдзень за тыднем. Адно што душа была не на месцы, а так усё ішло добра. Хоць паволі, марудна, як світанне ўвосень, але варочалася здароўе, а значыцца, у чалавека і надзеі ажывалі. Антон Крамарэвіч, ужо ўвосень, упершыню выйшаў з пуні, ахоплены одумам, што яму цяпер рабіць. Гаспадар яго быў чалавек ціхі і баяўся немцаў. Ён распытваў па людзях, што дзе чуваць, а пасля падоўгу сядзеў з Крамарэвічам, і яны раіліся і думалі, як далей трымацца і ці трэба Крамарэвічу падавацца цяпер у свой раён, дзе аставаліся жонка і дзеці. Хадзілі аднак жа чуткі, што ў тым раёне, далёкім адгэтуль, многа нямецкага войска, і там людзі забілі трох гітлераўскіх афіцэраў, і карны атрад там даўно ўжо, і няма як туды паткнуцца. Вельмі можа быць, што Крамарэвіч занадта рана падняўся з саломы і не вылежаў хваробы да канца. Бо праз невялікі час рана адкрылася і хвароба адкіпулася. Ён зноў ляжаў на саломе ў пуні, пад кажухом і ў ботах, бо восень была позняя і пачыналіся замаразкі. Снег пайшоў, і маразы пачаліся. Стала зіма. А ён усё ляжаў. Добры лёс паслаў яму чалавека з душой і розумам. Ён прыводзіў да Крамарэвіча доктара, і той сказаў берагчыся і раней часу не ўставаць. Так і зіма прайшла, і вясна настала. І толькі як высахла зямля, Антон Крамарэвіч па-сапраўднаму ўбачыў, што ён як мае быць робіцца здаровы. На пераломе вясны на лета ён цвёрда надумаўся брацца ў свой бок. А там будзе відно, што і як далей. Скрываючыся і трымаючыся глухіх закуткаў, ён больш як тры тыдні ішоў у свой бок. Да знаёмай стараны ён дайшоў якраз тады, калі яна апусцелася. Многа людзей забраў з сабою карны атрад. Казалі, што многія апынуліся ў канцэнтрацыйным лагеры, а многіх пагналі ў Германію. Дзе-нідзе Антон Крамарэвіч натыкаўся на чутку, што далёка адсюль, па дарозе ў лагер, многа людзей уцякло з-пад варты. Ім памаглі партызаны, напаўшы на канвой і перабіўшы яго. Самымі гарачымі днямі Крамарэвіч прыйшоў у свой пасёлак. Новую сваю хату ён знайшоў з забітымі дзвярыма і вокнамі,

так, як і пісала яму калісьці жонка. Што ж да старой хаты, то яна была як пустка якая: усё паадчыняна, паразварочвана, кінута абы-як, і ні душы нідзе. Крамарэвіч кінуўся па суседзях. Але толькі ў двух хатах знайшліся людзі. Астатнія хаты пуставалі. Суседзі казалі ў адзін голас, што трое Крамарэвічавых дзяцей і жонка зніклі немаведама дзе. Разам з тысячным ці большым натоўпам людзей і іх гналі некуды. А ці ўцяклі яны, ці не — невядома. І што з імі, і дзе яны — ніхто не ведае. Антон Крамарэвіч абышоў увесь раён, дападаў куды толькі мог і нічога не даznаўся. Вялікае гора здушыла яго. Да самай глыбокай восені ён стаў сумным вандроўнікам. Дзе ён толькі ні быў! Абышоў круг на сотні кіламетраў. Быў і ў тым баку, дзе з-пад варты ўцяклі людзі. Дзе што чуваць было яму спанаднае, ён кіраваўся туды. І на след не напаў. Нарэшце, ужо ўбачыўшы марнасць сваіх пошукаў, ён узгадаваў у сабе прагу знайсці дзе сляды партызан і астацца з імі. Але партызаны сваіх слядоў напаказ не выстаўлялі. Дзе грамаздзіліся на дарозе куча лому з разбітых машын і парваных гранатамі на кавалкі немцаў, там, здавалася, яшчэ цішэй было, як дзе. На дрэвах спявалі сабе птушкі, і спакойна шастала трава пад ветрам. Здавалася, што тут няма і не было нікога нідзе жывога. Адзінокі, як саломіна на дарозе, Антон Крамарэвіч зноў рушыў у свой бок. Ужо ніякіх цвёрдых намераў ён не меў. Дзесьці ў глыбіні душы была толькі, як яснасць сонца па той бок хмар увосень, надзея, што пакрысе, як павелічэнне дня к вясне, выкіруецца ўсё на дабрыню і шчасце. На гэта патрэбен час, і ён радаваўся кожны вечар, што яшчэ адзін дзень мінуўся. Так, у маруднай хадзе, ён прычакаў позняй восені. Ужо быў кастрычнік, і дзіўна, як гэта так доўга стаяць цёплыя дні. Хоць поле было і пустое, хоць трава была злеглая і зблякла, але часам, з вялікай задумы, здавалася, што зараз над прыгрэтай сонцам травінай загудзе пчала. А ў лесе зусім было цёпла. Часамі яшчэ чуўся піск камара. Антон Крамарэвіч дайшоў да роднага кутка ў канцы ночы. Было холадна і мокра. Мінулым днём доўга ліў дождж. Крамарэвіч падыходзіў да лесу. Сцежка, калісьці знаёмая, губілася ў змрочным падлеску. Ён доўга шукаў сцежкі і з прыкрасцю крывіўся, калі пад нагамі трашчала ламачча. Ён кружыўся на адным месцы, убіўся ў мурашнік, пакаўзнуўся і выцяўся тварам аб зямлю, усхапіўся і, ужо не шукаючы больш сцежкі, ру-

шыў проста ў прастор паміж дрэвамі. Тут жа адразу пачалося поле, і як быццам сцежка чарнелася і вілася ўгару на ўзвышша. Ён пайшоў сцежкаю і ўбачыў перад сабою дрэва з ададранай галінай. «Гэта тая самая арабіна, каля якой я некалі араў і на нізкі сучок торбу з хлебам вешаў». Ён прыгнууўся, абмацаў сук. Сэрца яго як бы ўздрыганулася. Ён пайшоў шпарчэй. Ужо добра світала. Дзень пачынаўся ясны. Ён падышоў да шасці хат. Дзесьці тут у хляве рыкала карова. Ён падышоў да новай сваёй хаты. Усё таксама яна стаяла з забітымі вокнамі і дзвярыма. Але бярвенне ўжо яе пачарнела. Быццам стараючыся адкаснуцца ад страшных прывідаў, ён паддаў ходу, проста да той старой хаты. Ён тады яе замкнуў, калі пакідаў яе апошні раз. Ён здалёк бачыць: замок вісіць на дзвярах. Ніхто не зачапіў нічога. Ён увайшоў у двор. Тое самае ржавае і сплюшчанае ў бляху вядро валялася пад нагамі. Пасярод двара стаяла вада. Белы певень, худы і нейкі доўгі, з вострым і высокім грэбенем на галаве, спалохаўся чалавека і з крыкам, узмахваючы крыллем, рынууўся наўцёкі. Ён адзічэў у адзіноце. Ён пакінуў след пасля сябе, ён начаваў перад вокнамі на плоце. Крамарэвіч згубіў ключ у часе свайго вандравання. Ён падняў камень, адбіў прабой і адчыніў сенцы. Як яго ўразіў пах вільгаці ў хаце! Першае сонца білася ў акно і ляжала на столі. Са сцяны тырчаў той самы драўляны крук, убіты яшчэ дзедам, на які два ці можа тры пакаленні вешалі вопратку, хусткі, шапкі. Смутак здушыў Крамарэвічу грудзі. Ён зноў пад гэтым крукам, пад якім быў малым, пад якім часта курыў, седзячы тут на лаве. Яго душа ныла аб тым, што яшчэ так нядаўна было, напаўняла жыццё і радавала чалавека. Ужо ж быў даведзены да даху дом. Гэта нічога, што заканчэнне дома адклалася. Самае большае было зроблена. А дзеці! Старэйшая Ганка ўжо даўно пісьмы яму пісала. Яго душу рвала тое, што ён зноў апынуўся ў дзедаўскай хаце, быццам злы лёс сумысля не даваў яму выбрацца на прасторнейшую сцежку, чым тая, па якой ішоў дзед. А каб ён і скончыў дом, і пажыў год ці два ў ім. Тое шчасце было б нічым перад тым няшчасцем, што цяпер агарнула яго. Ён быў адзін, без дзяцей і жонкі, без нікога на свеце. Што з таго, што ён мае дзве хаты! Навошта цяпер канчаць новую хату, калі іх няма. Хоць цэлую вуліцу дамоў дай яму. Гэта толькі павялічыць яго смутак. Нічога яму цяпер

не міла. Няма яму цяпер за што зачапіцца, каб жыць. І няма каму скардзіцца. Над душой вісіць гад з гадаў, бязлітасны прышэлец з чужой зямлі. Пакуль чалавек жыве, ён ратуецца ад усякай злой навалы. Каб уняць свой смутак, Антон Крамарэвіч падумаў, што трэба ж жыць на свеце. Ён выйшаў, набраў лому, напхаў у печ і падпаліў. Некалькі разоў ён падкідаў у печ дровы. Печ нагрэлася, па хаце пайшла парнасць. Ён падумаў, што будзе чад, і яму карцелаісці шукаць людзей і зноў пытацца, ці не ведаюць дзе следу яго жонкі і дзяцей. Замест замка ён укруціў дротам клямку і рушыў з двара. Той белы худы певень выткнуўся з-за вугла, і зноў убачыў чалавека, і зноў кінуўся ў лес з крыкам. «Як адзічэла птушка! Нейк жа і жыве адна, начуе сабе на плоце, жывіцца сама». Думаючы аб усемагутным жыцці, якое на кожным кроку ўкараняецца і імкнецца да красавання, адчуваючы гэта ўсёй душой сваёй, ён пайшоў у той вялікі пасёлак, дзе быў раней цэнтр раёна. Там ён гаварыў з людзьмі, нічога не высніў і каб трохі, дык трапіў бы ў рукі паліцаяў, якія заўважылі нейкага новага тут чалавека. Добрым змрокам вярнуўся ён дадому. Праз пабітую шыбу дзьмуў па хаце вецер. Ён заткнуў анучаю дзірку ў акне і агню не запальваў. Ён памятаў, што на тым дзедаўскім круку вісіць чорны ад гразі ручнік. Яго не паспелі памыць. Вобмацкам ён паклаў ручнік у ночвы, якія бачыў у сенцах, наліў вады і абмацаў ля коміна на печы мыла. Доўга ён мыў ручнік, і гэтая разрыўка гнала ад яго смутак. Ужо было позна, калі павесіў ручнік на плот. У цемені ночы ён заўважыў, што той белы певень сядзіць на плоце перад хатаю і схаваў пад крыло галаву. Яму захацелася як-небудзь прылашчыць гэтую адзінокую птушку. Пасля ён пайшоў на той бок арабіны ў полі, дзе бачыў, калі ішоў сюды, цэлы загон нявыбранай бульбы. Ці ёсць на яе гаспадар, ці не? Няхай сабе як хоча. Ён навыграбаў бульбы ў мех як панесці мог. Вярнуўся з мехам у хату. Белы певень спаў усё на плоце. Ён лёг на цёплую печ і адразу заснуў. Перад днём выбіўся з-за хмар месяц і пачаў цьмець. Раніца пачалася ясная. Ён прахапіўся, быццам было ў яго многа важных спраў. Зазірнуў у акно. Белы певень дзёўб нешта пасярод двара. Ён падпаліў у печы, узяў з-пад лавы чыгун і паставіў да агню бульбу, каб хапіла і сабе, і пеўню. Управіўшыся з гэтым важданнем, ён сеў на печ, звесіў ногі і курыў. Нязабаве дым ад яго папярос плаваў па ўсёй хаце.

Круціў ён папяросы адну за адной. Смутак, як самы вострыя боль, пёк яму грудзі. Ён адчуў, што так не вытрымае доўга. «Толькі пераначую яшчэ адну ноч і тады сыду куды». Ён, здаецца, чуў, як ідзе час, секунда за секундай. Ён быў такі насцярожаны, што ўздрыгануўся, як ад раптоўнага грому, ад ціхага бразгату сенечнай клямкі. Як той певень ад чалавека, так ён ад гэтага гуку як бы хістануўся ўбок, да сцяны, пасля саскочыў з печы і стаў у гатовай да ўсяго паставе. Адчыніліся дзверы, і цераз парог пераступіў Коля Сушчэвіч. Антон Крамарэвіч убачыў перад сабою хударлявага, з абветраным вострым тварам, хлапчука, у якім (і гэта адразу кідалася ў вочы) нерашучасць і баязлівасць змагаліся з самай выразнай адвагай. Можа гэта было штучна напушчанае ім на сябе, але яно было і ўладала гэтым малым, нечаканым і незнаёмым госцем. Коля Сушчэвіч бачыў перад сабой незнаёмага чалавека ў зрыжэлых ботах, у ватоўцы, з дробнымі светлымі вусамі, з вачыма, адначасна і рухавымі, і задуменнымі. Гэты незнаёмы чалавек стаяў нерухома і, здавалася, еў вачыма свайго малога госця. Так ён пільна прыглядаўся да яго. Коля Сушчэвіч засадзіў пальцы рук за раменную сваю падпяразку па кароткай вопратцы з шэрага сукна і, здавалася, думаў і меркаваў. Антон Крамарэвіч падазрона ўглядаўся ў яго і сказаў тонам чалавека, які не так дапытвае другога, як сам шукае апірышча:

— Што скажаш? Адкуль ты? Чаго ты забрыў сюды?

Коля ўзяў спакойны тон. Хітрасць яго межавалася са шчырасцю.

— Я шукаю свайго бацькі.

— А дзе ж твой бацька дзеўся?

— Хіба ж я ведаю? З першага дня вайны я яго не бачыў.

— А ты здалёку?

— З раёна.

— Хто ж твой бацька?

— Сушчэвіч.

Антон Крамарэвіч перасмыкнуў усімі рысамі свайго твару. З гарачым уздымам ён ні то запытаў, ні то дапытліва крыкнуў:

— Як жа ты не ведаеш, дзе твой бацька?! Хіба твой бацька адцураўся цябе? Можа ён самахоць ведаць цябе не хоча? (Яму было прыемна гаварыць нядобрае пра Сушчэвіча яго сыну.) А можа ён і рад, што такая завіруха на

свеце, каб адцурацца ўсіх сваіх і аднаму астацца. Знайшліся і такія.

Сказаўшы гэтае жорсткае слова, Крамарэвіч змоўк. Ён убачыў, што яго малы госць уздрыгануўся, заміргаў вачыма, а вочы ў яго зачырваніліся. Ён нейк дзіўна кіўнуў галавой, чмыхнуў носам і гатоў быў у той жа момант заплакаць. У кожным разе так здалося Антону Крамарэвічу. Ён спалохаўся, як кожны слабавольны, хто нарабіў вялікай бяды. Ён гатоў быў праклінаць сябе за гэтую сваю дурноту, што перад малым хлапчуком пачаў нядобрым словам спаганяць сваю злосць на Сушчэвіча.

— Можа ты змерз? — сказаў ён.— Дык лезь на печ. Печ цёплая.

— Мне не холадна,— сказаў Коля нейкім панурыстым тонам.

І тут Коля раптам зірнуў на Крамарэвіча вачыма, поўнымі просьбы:

— Хіба вы што-небудзь дрэннае чулі пра майго бацьку? — сказаў ён.— Мусіць, і ўсе нешта пра яго ведаюць, бо нічога мне пра яго не кажуць, а самі яго ўспамінаюць, што ён тут недзе поблізу з'явіўся. Я не раз чуў, як яны гаварылі.

— А хто гэта яны?

Коля маўчаў.

— А дзе твая, калі так, маці?

— Маю маму гітлераўцы павесілі за тое, што яна не хацела сказаць, дзе бацька. Яго немцы шукалі. А яна не ведала, дзе ён.

— Давай хіба будзем есці бульбу, хоць халодную, у мяне повен чыгун,— сказаў Крамарэвіч, адчуваючы прагу сказаць што-небудзь добрае і ласкавае Колю Сушчэвічу.

— Я не хачу есці,— адказаў Коля.

— А ты тут можа і раней бываў каля гэтага месца?

— Быў часта. Калі яшчэ тут фашысцкіх афіцэраў забілі, і пасля карны нямецкі атрад шукаў тых, хто іх забіў, дык я тады ўвесь раён абышоў: многа людзей тады адусюль ішло хавацца. Дык я хацеў, каб убачыць: можа мой бацька з людзьмі дзе. Я тут на гэтым пасёлачку тады дзве ночы начаваў у аднаго чалавека.

— А каго з гэтага пасёлачка немцы забіралі? З гэтай хаты трое дзяцей і жанчына прапалі.

— Ведаю. Іхняга чалавека не было дома. Дык думалі, што гэта ён забіў афіцэраў і скрываецца. Тут так многа

тады людзей стралялі і вешалі, што доўга не разбіралі, а адразу: або застрэляць, або гоняць некуды далёка. Тых трое дзяцей і іхнюю маці паставілі, з аўтаматаў адразу застрэлілі, а самі на грузавік і паехалі.

— А ты гэта бачыў? — слабым голасам сказаў Крамарэвіч.

— Не, але чалавек, у якога я начаваў, казаў. Ён бачыў.

— А з каторай гэта хаты чалавек?

— З той, што крытая саломай і што вокны з сінімі акяніцамі.

Сэрца ў Крамарэвіча быццам адарвалася і ўпала ў бездань. Ён ужо ведаў: яму самому той чалавек не сказаў праўды, бо не хацеў даваць яму горычы ў душу. Цяпер ужо скончыліся яго пошукі і надзеі. Утрапенне заўладала ім. Яго ўзбуджанасці не было меры. Ён закалаціўся. Коля запытаў:

— А вы хто? Гэта ваша хата ці так сабе вы тут прыпыніліся?

— Гэта мая хата,— панура і праз зубы абазваўся Крамарэвіч.

— А вас даўно дома не было, што хата пуставала?

— Не было мяне, сынку, дома. Даўно не было. (Голас яго спакайнеў і позірк цвярдзеў.) Ну, а як той чалавек казаў, застрэлілі іх, і хаця ж яны доўга не мучыліся?

— Ён казаў, што адразу ўпалі, і канец.

Можа яно і сапраўды так было, а можа Коля толькі казаў так, каб даць спакой ранам душы гэтага чалавека. Усёй душой сваёй ён чуў, што больш ужо не трэба яму задзнавацца, злы гэты чалавек ці добры, дзеля злога задумы ці так сабе ён явіўся сюды. Але ён даводзіў справу да канца. Ён запытаў:

— Гэта вы ўбіліся ў мурашнік?

— А-а, гэта ты прыйшоў паглядзець, што я тут раблю,— здагадаўся Крамарэвіч.— Дык ведай, сынку, што я астаўся адзін і сам шукаю, каб хто быў са мною. Ты мне скажы проста і адразу: ты служыш партызанам ці немцам?

Коля Сушчэвіч ніколі не спадзяваўся на такое запытанне. Падазрона паглядзеў на Крамарэвіча і задзірыста адказаў:

— Я нікому не служу, а шукаю свайго бацькі.

І раптам яны, адзін стары, а другі малы, сталі адзін да аднаго, як раўня. Крамарэвіч сказаў:

— А мне ўжо і шукаць не трэба. Дарэмна ўжо.

— А можа і мне таксама.

Крамарэвіч ступіў крок да Колі. Коля сеў на лаву і папрасіў курыць.

— Не ўвыкай, сынку, да гэтага дыму. Гэта не вялікае шчасце.

— Калі ж смага нейкая, здэцца б палын глытаў.

— А ты перацярпі, перамаўчы, перачакай. Усё на свеце праходзіць. Пройдзе і гора гэтае.

Коля пасунуўся глыбей у лаву і ўзлёг локцямі на стол. Як у спёку смага, яго апанавала прага да прытульнага спакою ў пасцелі дзе ці ў добрай гаворцы з родным чалавекам. Вачыма, поўнымі просьбы, ён глядзеў на Крамарэвіча, а ў таго гэты позірк вывarочваў душу. Ён прагнуў мець пры сабе дзіцячую душу. Ён адначасна разумеў і Колеў смутак. Не так дзеля сябе, як дзеля таго, каб абладзіць гэтага хлапчука, ён сказаў:

— А нікога ў цябе хіба няма блізкага, каб і пашкадаваць часам цябе, пакуль ты бацьку знойдзеш?

— Ёсць у мяне дзядзька Сымон, і Павел Пракапенеў мне як таварыш, дарма, што яму дваццаць год. І ўсе. Мы ўсе паміж сабою добра жывем.

Думка, радасная і важная, і патрэбная, як збавенне, нарадзілася і пачала жыць у Антона Крамарэвіча пасля гэтых Колевых слоў. «Ён прагаварыўся, гэты хлапчук. Гэта яны там у сваім атрадзе добра паміж сабою жывуць. Не трэба больш нічога распытваць. Не трэба чапаць яго, няхай думае, што ён нічога не сказаў». Якая гэта была радасць Антону Крамарэвічу! Гэта прыйшоў яго ратунак ад пагібелі ў сумнай адзіноце. Трымаючыся за гэтага хлапчука, ён выйдзе да людзей. З людзьмі ён будзе жыць, як шчаслівы чалавек, а не мадзець, як пакутнік. І на доўгі час Крамарэвіч змоўк. Коля Сушчэвіч падумаў, што гэты чалавек хоча быць толькі сам з сабою, і ўныў душой. Гэта заўсёды так бывае. Дзіцячая душа, калі яна ўражана вялікім утрапеннем, горкім і атрутным, прагне ратунку цераз добрую ўвагу да сябе ад усіх як ёсць. Ласкавасць ад усяго свету, а не ад аднаго толькі чалавека, выратуе дзіцячую душу ад псіхалагічнага калецтва. Коля падумаў: я там скажу, што тут жыве падазроны чалавек.

— Ты, здаецца, завешся Коля? — сказаў Крамарэвіч.

— Коля,— узрадаваўся хлапчук. Ласкавасць усяго свету зноў да яго павярнулася. Гэты хлапчук стаяў на мяжы

або душэўнага калецтва, або жалезнай загартаванасці на ўсё жыццё.

— Дык ведаеш, Колечка, цябе дрэмаць цягне. Ляж на печ і паляжы. І я паляжу.

Коля маўчаў.

Крамарэвіч падумаў, што зноў гэты хлапчук наершыўся на яго, і сапраўды такі ўстрывожыўся. Чалавек просты, ціхі, звычайны, сярэдні, а ці малы будзе лячыць душу тым, што каб усе ведалі пра яго гора. Крамарэвіч знайшоў што сказаць:

— Ведаеш, Коля, у мяне ёсць бульба, чыгун і гаршкі, дровы і запалкі. Давай зварым есці.

— Добра,— сказаў Коля.

Гэта настаў момант іх сапраўднага збліжэння, шчырага і глыбокага, без якога б там ні было недавер'я адзін да другога. Цяпер ужо гаварылі яны адзін з адным бясконца. Да самых прыцемак былі яны ў хаце. Коля надаставаў са сваіх кішэнь укачаных у хлебныя крошкі кавалкаў сухой каўбасы. Варачы яду і ядучы яе, абодва яны былі роўныя натурай і настроем, сапраўдныя дзеці. Пасля яны такі прылеглі на печы. Але толькі на некалькі хвілін. Першы ўзварушыўся Коля. Ён быццам успомніў, што страціць зараз нешта важнае.

— Ужо я пайду,— сказаў ён.

— Напрозі ночы?! — са штучным здзіўленнем устрапянуўся Крамарэвіч, але ён і ведаў, што яно ўсё так будзе, ён гэтага чакаў і хацеў гэтага.

Коля зашпільваў вопратку і вельмі спяшаўся. «Моўчкі трэба з ім»,— думаў Антон Крамарэвіч і цясней падперазаўся па ватоўцы. Не гледзячы адзін на аднаго, яны прыгатаваліся ў дарогу. Ужо моўчкі ў думках сваіх яны згаварыліся. Коля стаяў і чакаў, пакуль Крамарэвіч закруціў дротам сенцы. Захад яшчэ ружовіўся, але змрок восеннага вечара ўжо быў густы. Певень ужо сядзеў на сваім месцы перад вокнамі.

— Адзічэў адзін, небарак,— сказаў Крамарэвіч, гледзячы на пеўня.

— О, ён тут усё сядзіць з самага лета і раней яшчэ. Я яго тут часта бачыў.

«Гэты хлапчук ведае ўсе таямніцы гэтага кутка тады, калі мяне і нікога ўжо тут не было. Гэты двор пры хаце жыў сваім бязлюдным адмысловым жыццём, а ён ведаў усё гэта, ён бачыў гэтае жыццё». Антон Крамарэвіч адчу-

ваў усё так, быццам ён і Коля Сушчэвіч былі з даўніх часоў змоўшчыкі. Так яны ішлі, Коля паперадзе, а Крамарэвіч за ім. Коля думаў: «Няхай ён ідзе за мною, я скажу, што не толькі дасачыў, хто жыве ў пустой хаце, але і прывёў яго».

Яны мінулі старую арабіну і дайшлі да лесу. Крамарэвіч быў упэўнен, што яны ідуць туды, куды ён хацеў. Без жальбы і смутку ён думаў аб пустой хаце, у якой такі страшны цяжар ціснуў яго душу. Не было б горшай пакуты, каб аднаму аставацца там.

Гэта і быў апошні вечар і дзень яго сумнай адзіноты. Ноч агарнула іх у далёкім лесе. Зоры позняй восені зіхацелі над чорнай цішынёй яловага лесу. Бралася на прымаразак. Боты шорgalіся аб зямлю, і пад імі трашчалі лісце, іголле і першая намаразь. Антон Крамарэвіч заўважаў усё гэта так, як і праз усё сваё жыццё ён адчуваў і любіў гэты час года і сутак.

Пакуль гаілася яго рана і пакуль ён сам правіўся ў таго добрага чалавека, усё навакольнае здавалася яму несапраўдным. Важным і сапраўдным было толькі тое, што ён не ведаў, як і дзе яго дзеці, і сумаваў па іх. Пакуль ён сядзеў цяпер у сумнай адзіноце старой хаты, усё навакольнае — і сонца, і дождж, і дзень позняй восені, і апошнія лісткі на дрэве,— усё-ўсё, што ён век свой любіў, было несапраўднае, як бы знявечанае і ўражанае яго смуткам. Самае важнае і адзінае і сапраўднае на ўвесь свет было тое, што ўсе яны, дзеці і яна, іх маці, верная сяброўка яго, зніклі з жыцця, што іх ужо на свеце не было! І што той, хто адабраў у іх жыццё, вырваў душу, сам жыве і цешыцца з жыцця. Першыя прыступы нянавісці ўжо тады пачалі завалодваць ім, але іх душыў роўны смутак і бесперапыннае прыгнечанне душы. Свет быў заслонен перад ім. Як быццам бы ўжо няможна было цешыцца з дрэва за акном і з яснага неба зранку.

Чалавеку не трэба многа для яго ўцехі і шчасця. І тое, што жыве ў чалавечай душы, не мае вечнай меры вялікага і малога. Ён яшчэ не бачыў тых людзей, да якіх вёў яго Коля, а ўжо страціў пачуццё таго, што ўсё навакольнае несапраўднае. Прыгнечанне было знята з яго душы. Ці надоўга? Але цяпер, так як і заўсёды, стаяла восенная ноч і так, як заўсёды, можна і трэба было мець з яе вялікую ўцеху.

Яны прыйшлі ў лясны лагер задоўга да світання. Тут

ужо Крамарэвіч заўважыў, што Коля пачаў трымацца як гаспадар усяго тут. Перад Крамарэвічам ён увайшоў у ролю.

— Тут заўважым чалавека, унь там будзе стаяць,— сказаў ён таемным голасам.

Сапраўды, яны пачалі падыходзіць да цёмнага абрысу чалавечай постаці.

— Гэта я, Коля Сушчэвіч,— паціху выгукнуў ён, і Крамарэвіч шпарчэй пайшоў за ім. Коля сказаў яму прыгнуць галаву, калючае голле зачапіла за лоб і вушы, і Коля сказаў, што трэба закурыць і класціся спаць. Коля ўжо распараджаўся. Крамарэвіч сеў на нейкае ламачча. Коля раптам сказаў:

— Гэта я забыўся, нам трэба не ў гэтае месца. Пярэйдзем туды.

— Куды гэта? — сказаў Крамарэвіч сумысле. Ён падумаў, што яму не трэба быць такім паслухмяным перад гэтым хлапчуком. Ён як мае быць вылечыўся ад свайго душэўнага заняпаду.— Куды ж нам ісці? — сказаў ён.— Раніцай пойдзем, а цяпер прыдрамнуць трэба. Гэта шалаш нейкі?

Цвёрды і аўтарытэтны тон яго слоў адразу ўзяў пад уладу Колю.

— Гэты шалаш як на аднаго, гэта я сабе яго зрабіў,— абазваўся Коля тонам малога, які рад пахваліцца перад старэйшым.— Тут толькі трэба выцягнуцца, дык і ўдвух льга выспацца.

І праўда, што ім трэба было выцягнуцца, каб удвух паспаць да раніцы. Яны цесна прыціснуліся адзін да аднаго спінамі і глыбока задрамалі. Але ненадоўга. Неўзабаве Коля пачаў гаварыць і кідацца. Дрымота яго была неспакойная. Праз сон ён гаварыў з бацькам, а пасля пытаўся ў некага, дзе бацька, і некаму казаў, што калі маці вісела на шыбеніцы, вецер трапаў яе валасы. Некалькі разоў ён усхватваўся, а пасля зноў кідаўся на ранейшае месца і прыціскаўся да спіны свайго суседа. Крамарэвіч выразна ўбачыў і адчуў, як уражана душа гэтага хлапчука і што ён можа стаць на мяжы душэўнага калецтва. І ў гэты момант уся істота яго ўздрыганулася ад думкі, што яму трэба шукаць сваіх дзяцей, што, можа, каторае з іх толькі падстрэлена і мучыцца дзе. Можа гэта было хворае ўяўленне таго, у што ён сам не верыў, але гэта зноў узнімала да вялікага гарту яго ўзбуджанне. Зноў яму ста-

ла цяжка, і ён з радасцю заўважыў, што пачало світаць.

Пад самы дзень Коля заснуў спакайней, але дрыжаў з холаду. Шалашык быў малы, і ў ім нават стаць нельга было на ўвесь рост. Сплецены з яловых лап, шалашык толькі ад людскога вока ўкрываў таго, хто ў ім быў. Холад цёк у яго адусюль. «Як мучыцца гэтае хлапчанё, і я мучуся, і дзеці мае мучыліся. Якое жыццё настала!..» Страшная нянавісць здушыла Крамарэвічу грудзі. Ён стаў і чакаў, пакуль Коля прачнецца і ўстане.

Дзень пачаўся ясны, і пад сонцам да паўдня сышоў з травы іней. Коля павесялеў, як толькі скончыўся абавязак спаць уночы. Надвечар ён знайшоў Крамарэвіча і сказаў, што ідзе на ўсю ноч у разведку, а калі прыйдзе — невядома. Ён пойдзе ўжо зусім у іншы бок. Крамарэвіч бачыў: гэты хлапчук быў ужо яму блізкі і родны. Ён ужо быў патрэбен яму. Гэта было апірышча яго душы.

Коля не прыходзіў некалькі дзён. Крамарэвіч адзін спаў у тым малым шалашы, некалькі разоў на ноч курыў і ўжо і заваду не было таго цяжкага, што раней гняздзілася ў душы яго. Дзень за днём ішлі шпарка, і як чагосьці вельмі важнага для сябе ён чакаў, калі вернецца Коля. Ён прыйшоў на сёмы дзень і прынёс дзве навіны, адну ўсім, а другую толькі аднаму Крамарэвічу. Першая навіна была: па шашы тымі днямі будуць гнаць многа людзей некуды. Іх адусюль зводзяць і зганяюць у цэнтр раёна. Там з'явіліся нямецкія салдаты і раскватараваліся па хатах. Коля Сушчэвіч расказваў пра гэта без якой бы там ні было ўзбуджанасці. Можна было падумаць, што ён бачыў што-небудзь цікавае і толькі, а не тое, што зноў зачапіла яго самыя патаемныя думкі.

— Немцаў многа. Ходзяць па мястэчку. Я з імі гаварыў. Адно слова наша, а другое нямецкае. Я два дні курыў іхнія папяросы. Я начаваў адну ноч у паліцэйскай канцылярыі. Я ім сказаў, што гэта я шукаю, каб дзе жыць, бо не ведаю, дзе бацькі, і я адзін астаўся...

У гэтым месцы ён сціснуў вейкі воч і счырванеўся, але зноў пачаў спакайней гаварыць:

— Яны мне сказалі, гэтыя паліцаі, ісці куды начаваць, а я сказаў, што вельмі мне баліць жывот і галава і не ведаю, да каго ісці. Пасядзеў, прылёг на нейкі куфар з плюскатым векам і ляжаў. Мяне да раніцы не чапалі. А яны ўдвух усю ноч курылі і гаварылі, што людзей, мусіць, па шашы будуць гнаць. Я яшчэ і назаўтра з паўдня каля іх

быў, а пасля вельмі есці захацеў і пайшоў папрасіў у адну хату. А там мяне ведаюць і пачалі распытваць, ці не ведаю я, дзе мой бацька. А я сказаў, што я сам яго шукаю. Яны на мяне паглядзелі і нічога не сказалі. Я ўбачыў, што яны нешта ведаюць пра майго бацьку, але казаць мне не хочуць. Я пачаў дапытвацца ў іх, а яны мне маўчаць. Я скончыў есці і пайшоў пад наш дом. Нехта падаставаў з яго вокны. Я зазірнуў усярэдзіну, дык там з канапкі абіўка здзёртая, а на канапцы, дзе я некалі спаў, нейкі шчанюк ляжыць сабе, схаваўшы морду ў лапы. Мне так нядобра стала, што я адразу пайшоў адтуль. Я выйшаў на шашу і ўбачыў, што там нямецкая танкетка ідзе і немцы з яе страляюць наабапал шашы. Гэта яны прачасаць хочуць кусты паўз дарогу. Дык я падумаў, што гэта яны шашу ачышчаюць, каб па ёй гнаць тых людзей. Я яшчэ вярнуўся ў раён і пайшоў прасіць у немцаў есці і закурыць. Адзін немец даў мне пяць белых сухароў і цыгару. Я пералічыў, колькі там на двары салдат, закурыў цыгару і разгаварыўся з адным немцам. Там дзве роты салдат стаяць, на тым тыдні іх прыгналі. У іх ёсць грузавікі і танкеткі, і гэта яны будуць ачышчаць ад партызан шашу і трымаць па шашы варту, каб дарога была свабодная ім. Тады я пайшоў пад шэсць хат. Дык туды матацыклісты прыязджалі і зноў паехалі. Я павячэраў у таго чалавека, што хата з сінімі акяніцамі. Ён мне сказаў пра бацьку, я не адчапіўся ад яго, пакуль ён не сказаў.

Тут Коля Сушчэвіч перадыхнуў і спыніўся. Гэта была другая навіна, якую ён сказаў толькі аднаму Антону Крамарэвічу і некалькі разоў прасіў яго маўчаць пра гэта перад усімі. Ён аж заікаўся, шпарка гаворачы, аж твар яго перасмыкваўся ад празмернай узбуджанасці:

— Мой бацька ў немцаў служыць.

— А можа гэта няпраўда,— перарваў на паўслове Колю Крамарэвіч, з гэтага моманту чуючы, як пачынае нараджацца ў яго дзіўная думка: гэта была думка ад задаволення і ад пачуцця зларадства. Аляксандр Сушчэвіч пайшоў на службу да немцаў! Гітлераўцы павесілі яго жонку, у яго кватэры на канапе спіць шчанюк валачашчы, а хлопец яго мучыцца ў лесе пад кустамі. А ён немцам служыць! Той самы Сушчэвіч, што некалі быў вельмі востры на слова і на справу! Але не гэта ўсё было самае важнае, з чаго Антон Крамарэвіч быў усе тыя дні ў неспакойнай узбуджанасці. Прычына ўзбуджанасці была ў вялі-

кай крыўдзе: у самы цяжкі момант свайго жыцця, калі ён пакідаў на жончыны рукі няскончаную хату, ён жа добра ведаў, што Аляксандр Сушчэвіч дурань, хвалько і самы большы тут прайдзісвет. Але толькі цяпер, праз колькі год, ён скінуў з сябе тое, у што быў адзеты. Якая вялікая крыўда душыла Антона Крамарэвіча! Ён ужо не слухаў, што і як дагаварваў да канца Коля. Атрутная думка тачыла яго. «Каб не Аляксандр Сушчэвіч, мой дом даўно ўжо быў бы гатовы! На свеце адным домам было б больш. Я ставіў дом. А ён нічога не зрабіў добрага. Ён адно не даў мне давесці да канца будоўлю... Але хто жыў бы цяпер у тым доме? Няма ўжо іх, тых, дзеля каго будаваўся дом. Божа мой, божа, няма іх!»

Ён аж выгукнуў гэтыя словы. Коля паглядзеў на яго і пакінуў расказваць аб сваёй разведцы. Позіркі іх спаткаліся.

— А ў маю хату ты там заходзіў? — запытаў Крамарэвіч, прагнучы душой, каб так было, што Коля заходзіў у хату і сказаў яму, што там робіцца.

— Заходзіў,— адказаў Коля.— Я там адну ноч перапаў на печы.

— Там жа холадна?

— Холадна.

— А певень?

— Сядзеў на той самай жэрдцы.

— І ніхто туды не прыходзіў і не хадзіў паблізу?

— Не. Ціха было.

— А дзверы ты не забыўся дротам закруціць?

— Закруціў як мае быць.

— Ну добра. Дык цяпер, мусіць, на шашу трэба будзе ісці?

Коля паціснуў плячыма. Ён рабіў, што да яго належала. А ўсё іншае — на гэта ёсць іншыя людзі.

Праз дзён два прыйшла змена ў жыцці ўсяго атрада, і Крамарэвіч ахрысціўся на вечнае развітанне са сваёю адзінотаю. Коля Сушчэвіч яшчэ раз схадзіў у разведку і сказаў, што на шашы пачаўся небывалы раней рух. Ездзяць машыны з аўтаматчыкамі, матацыклісты, танкеткі і легкавікі. Камандзір здагадаўся, што гэта падобна на нямецкую псіхічную атаку: многа руху і грукату, каб праціўнік думаў, што ідзе вялікая сіла. Гэтак і тут.

На трэцюю ноч атрад зняўся з месца і выйшаў да світання на шашу. На ранейшым месцы асталіся толькі

двое, і адзін з гэтых двух быў Коля Сушчэвіч. Камандзір атрада апошнімі днямі пачаў думаць, што гэта не так сабе незнаёмыя людзі пачалі з'яўляцца ў гэтым месцы. Гэта маглі быць нямецкія выследчыкі, якія вывіжоўвалі партызанскія сляды. Можа яны напалі на след атрада? Калі гэта так, то пасля аперацыі на шашы не трэба варочацца на гэтае месца. Дык трэба праверыць, ці ў гэтыя дні будуць падыходзіць туды незнаёмцы. Дзеля гэтага ў лесе асталіся Коля Сушчэвіч і добра вядомы яму з самых малых дзён тамашні чалавек, які апошнія перад вайной два гады быў садаводам і пчаляром у блізкім да раённага цэнтра саўгасе і часта бываў у доме Сушчэвічаў. Яны ўдвух самі з сабою памеркаваліся заняць месцы далёка адзін ад аднаго, каб шырэй абсочваць мясцовасць. Коля ўвесь першы дзень прасядзеў на прыдарожнай таполі, і яму добра відно было на шырокую разлегласць. І ўсе падыходы да лесу былі як на далоні. Нават добра заўважаўся дробны кусток шыпшынніка, ужо без лісця і прыламаны калёсамі. За дзень Коля не ўбачыў аніводнага чалавека. Было так ціха і пуста, быццам тут ніколі не лілася чалавечая кроў і быццам бы тут не тлелі ў зямлі прыблудныя ў гэты куток фашысты і іхнія паліцаі. Змрокам дня Коля злез з дрэва і пайшоў на лагернае месца ў лес, так, як яны і дамовіліся з садаводам. Той ужо быў там і нецярпліва чакаў Колю. Здавалася, што ён нейкі ўзбуджаны. Ён узяў Колю за плечы і сказаў:

— Ну, сынку, ты ўсё тужыш па бацьку і шукаеш яго. Дык будзь спакоен, твой бацька жыў і здароў.

Коля ўздрыгануўся і, апанаваны вялікай трывогай, сціішыўся.

— Я сёння апоўдні твайго бацьку бачыў. І так мне хацелася з ім пагаварыць, але не ўдалося. Ён ішоў паўз лес, я яго бачыў здалёку і пазнаў. Я крычаў, а ён не пачуў, вецер дзьмуў ад яго. Так што твой бацька жывы і здаровы. Цяпер ужо, калі так, ты з ім можаш скора і спаткацца.

Гэты чалавек не ведаў, што ён не ўзвесяліў Колю, а ўвагнаў яго душу ў жах безнадзейнасці і трывогі. Удвух яны леглі на ноч у Колевым шалашыку. Садавод заснуў адразу і праспаў ноч, не павярнуўшыся. Гэта быў здаровы сон чалавека, які пражыў дзень як трэба і заўтра будзе жыць як трэба. Здаровы чалавек і спіць здорава.

Трэба думаць, што гэтага садавода ў маленстве не кранула за душу ніякае зло. І ён мог бы быць прыкладам

усім: жыві так, як расце дрэва. Радуйся сонцу і ведай, што ў самую страшную навальніцу ідзе дождж і жывіць усё жывое.

Коля Сушчэвіч нават і вачэй не заплюшчыў у тую ноч. Скурчыўшыся, ён чакаў дня і з радасцю заўважыў, як світанне пачало цадзіцца ў шалаш праз усе шчыліны. Ён вылез на двор і ўбачыў: стаяў сапраўдны мароз. Дзе крыху дрэвы разыходзіліся ў паляну, там усё бялелася. І ў твар рэзала холадам. Блізка была зіма. Пачуццё вялікай няўтульнасці апанавала Колю Сушчэвіча. Ён хацеў аднаго: ісці туды, дзе ўсе, а не аставацца тут удвух. І яшчэ: ён гарнуўся да Антона Крамарэвіча, яму хацелася быць з ім. З вялікай нецярплівасцю ён перачакаў тут некалькі дзён, пакуль не стала і яму і садаводу ясна, што падазроныя людзі і сапраўды-такі гэтае месца агледзелі і старанна абсочваюць яго.

Нават нейкія ўдвух прыходзілі на месца самога лагера. Сказалі, што скрываюцца ад немцаў, пасядзелі, пагаварылі і пайшлі. Усё было выразна. Коля з садаводам рушылі ў дарогу. Ідучы скрозь паўз шашу, яны дайшлі да вялікіх забалочаных паплавоў. Тут была ўжо тэрыторыя суседняга раёна. Балота было замерзлае. Рыжая асака тырчала на ім пукамі паміж куп'я і кустоў. Яны наткнуліся на свайго чалавека. Ён стаяў пад адкосам і акідаў вачыма дарогу. Увесь атрад быў тут. Па шашы засада была ў трох месцах. Коля Сушчэвіч знайшоў Крамарэвіча і астаўся пры ім. Толькі на восьмы дзень людзі ўбачылі вялікі натоўп людзей на шашы. Тут былі прыдарожныя дубы. Як зялёныя скалы, яны ўзвышаліся над шырокай мясцовасцю. Ніводнага з гэтых магутных дрэў не магла б узяць ніякая піла, такія яны былі тоўстыя. Кожны з гэтых дубоў меў не адну сотню гадоў. Вялікі натоўп людзей павалі ішоў дарогай. Людзей было некалькі сот, і напэўна больш за тысячу. Больш як палова ўсіх тут было жанчын. А рэшта былі старыя і нават не старыя мужчыны, падросткі і дзеці. Зусім малых дзяцей жанчыны неслі на руках. Трэба было бачыць твары гэтых жанчын, матак і сёстраў. Але найбольш маглі ўразіць чулую душу дзяўчынкі, самі яшчэ падросткі. Убачыўшы нядаўна смерць сваіх бацькоў, яны неслі на руках сваіх малых братоў і сёстраў, якія некалі нават і памятаць не будуць, што іх жыццё пачыналася ў час, калі чалавецтва найбольш ганарылася сваёй цывілізацыяй і найбольш сыходзіла крывёй і енчыла ў пакутах

з таго, што ясны розум яго занядбаў тое вялікае, што магло б быць названа сэнсам светабудовы,— гэта чалавечае сумленне. Не памагла цывілізацыя.

Чалавечыя твары ў гэтым натоўпе былі шэрыя, учарнелыя і прыгнечаныя. Усе ішлі цесна адзін пры адным. Ужо не было тут нікога такога, хто не пераступіў бы яшчэ мяжы паміж дбайнасцю аб сваім выглядзе і абыякавасцю да ўсяго, апроч адзінай думкі аб захаванні жыцця. Вялікае гора скідае з чалавека нават і некаторыя ўласцівасці яго натуры. У гэтым вялікім натоўпе асуджаных на пакуты і гібель былі ўжо і такія, што не спадзяваліся на ратунак. Відна была высокая і худая жанчына з завостраным тварам і паднятымі ўгару плячыма. Няйначай, што яна многа месяцаў адбыла ў якім-небудзь канцэнтрацыйным лагеры. Абхапіўшы яе рукамі за шыю і звесіўшы галаву цераз яе плячо, вісела ў яе на спіне зусім малая дзяўчынка з забінтаванай каляровымі лахманамі нагой. Жанчына ішла размашной паходкай. Ззаду яе падганяў натоўп. А натоўп падганялі канвойныя. Дзяўчынка гула сабе пад нос бясконца адну ноту. Здавалася, што жанчына спяшае, каб хутчэй мінуць тое месца, па якім яна ішла ў той момант, і толькі. Але не да мэты яна спяшала. Бесперапынны стан псіхікі ў напружаным прыгнечанні можа знішчыць у чалавеку імкненне. Блізка ад гэтай жанчыны ішоў нізкарослы чалавек з распушчанымі рыжымі вусамі. Калі жанчына ішла роўна, нікуды не гледзячы і не маючы перад сабой куды глядзець, то гэты чалавек бесперапынна раз-поразу азіраўся на бакі і назад. Здавалася, што ён нешта хоча зараз убачыць. І ўсе ішлі цесным гуртам то panылыя, то рухавыя. Абзываліся дзеці, маўчалі дарослыя, шоргаўся аб дарогу стаптаны абутак, чуўся кашаль і часам голас канвойнага салдата ці паліцая. За ўсім натоўпам ішлі два грузавікі з аўтаматчыкамі і пешкам цягліся паліцаі, цэлая каманда. Грузавікі то спыняліся, каб прапусціць наперад пешы натоўп, то даганялі яго. Следам жа ішла машына лёгкая, крытая брызентам, і ў ёй сядзеў малады нямецкі афіцэр, чысты і спрытны. З таго часу, калі ён з'явіўся ў гэтых мясцовасцях, ён больш, як калі раней, і вельмі многа ў апошнія тыдні думаў аб сваёй еўрапейскай цывілізаванасці. І ў гэты дзень ён перажываў вялікую прыкрасць ад таго, што прыйшлося яму, цывілізаванаму немцу, узначальваць такі азіяцкі спосаб перагонкі арыштаваных

людзей. Калі трымацца законаў цывілізацыі, то іх трэба было б пасадзіць на грузавікі. Няважна, чаго ён з'явіўся сюды і што яны яго не запрашалі. Важна тое, якія формы надаць перагону іх з аднаго канцэнтрацыйнага лагера ў другі. Не ў тым сэнс, што ад імя і імем свайго фюрэра ён мучыць гэтых людзей на іх жа роднай зямлі і ў іх уласным доме. А сэнс у тым, каб рабіць усё гэта паводле законаў нямецкай цывілізацыі. А тут якраз не было грузавых машын, а яму хацелася як мага хутчэй здаць са сваіх рук арыштаваных, бо могуць быць уцёкі, а гэта пагражае яму зніжэннем пасады і пенсіі. Да таго ж ёсць загад вышэйшага начальства аб пераводзе арыштаваных. Ён не мог знайсці хоць якой уцехі ў думках, што ў гэты ж дзень будзе складзен і падпісан акт, што гэтулькі вось людзей памерла ў дарозе, а гэтулькі ўцякала і іх застрэлілі. (Хоць іх застрэлілі за тое, што яны ад сваёй змучанасці ў лагеры ўжо не маглі далей цягнуць ног і несці на сабе малых дзяцей.) Уцехі ў гэтага немца не было таму, што ён быў уражлівы і схільны бачыць перад сабой самае горшае. Дык вось і цяпер яму ўсё здавалася, што палавіна забраных людзей зараз пабяжыць і ўцячэ, і яшчэ (хіба не можа быць?) перадушыць яго салдат. Да таго ж — партызаны. Ад гэтай думкі ў яго пачынала ў грудзях ныць і смактаць. Нарэшце ён такі знайшоў сабе ўцеху ў думцы, што ён выконвае вялікую місію сярод гэтых людзей — місію нямецка-патрыятычную і цывілізатарска-еўрапейскую. Ён на заваяванай чужой зямлі і абкружан ворагамі. Нездарма вышэйшы за яго начальнік выразна быў сказаў:

— Тут многа хворых і немагучых. Ні да якой работы яны не здольны, і карысці ад іх мала. Гэта непатрэбны баласт. Але ён у дарозе можа пабегчы ўцякаць. Тады астаецца толькі адно: перастраляць іх усіх.

Толькі цяпер гэтыя словы ў поўным сваім сэнсе як мае быць дайшлі да свядомасці цывілізаванага немца. Божа, якое шчасце было б не ўзначальваць іх, а хутчэй ведаць, што яны не існуюць больш на свеце. На душы ў яго стала спакайней і лепш. «Вось зараз пачне канчацца дзень. Не можа быць, каб хто-небудзь з іх не паспрабаваў уцякаць». Жыццярадаснасць пачала варочацца да яго. Благаславенная яго маладосць вымагала найчысцейшай радасці і задаволення сабой. І задаволенне прыйшло да яго. І яшчэ адна думка прыйшла да яго на падмогу: ён жа выконвае і яшчэ адну місію: неабходнасць вышэйшай расы ўладаць

рэштаю свету. Ён паглыбіўся ў думкі так, што з-пад яго ўвагі пачало знікаць усё навакольнае. Настаў момант, калі ён загадаў спыніць машыну і выйшаў з яе. Паўз яго ішоў натоўп. Плылі людскія постаці, міналі яго, далей і далей. Яшчэ ён убачыў, як чорны жук поўз цераз дарогу, як птушка выпырхнула з травы; «ціха, дзіцятка, бо немец пачуе»,— пачуўся бадай-што ў яго над вухам жаночы голас, бусел праплыў у старане за дарогай. Ён зрабіў тут жа на дарозе свой прыродны інтэрас, дзеля якога і вылез з машыны, і прыгнуўся, каб зноў сесці ў машыну. І сапраўды настаў момант. Усё ў яго вачах здрыганулася, у вушах яго ляснула і грунула. Ён пачуў крык многіх галасоў, адчуў пах дыму і пылу, дзікімі вачыма кінуў у дарогу і ўбачыў, як натоўп пачаў разбягацца з дарогі, і тут жа перад ім апынуўся чалавек з распушанымі вусамі і даў кулакамі яму ў твар. Ён упаў, чуючы крык, і святло яснага адвячорка змеркла ў яго вачах.

Гэта Коля Сушчэвіч ляснуў гранату пад машыну гэтага афіцэра. Дзве гранаты яму выдалі ў той жа дзень, калі ён прыйшоў сюды і апынуўся пры Антону Крамарэвічу, у якога таксама было дзве гранаты. Калі забраныя людзі пад канвоем салдат і паліцаяў з'явіліся на дарозе, Коля адчуў, як сэрца распірала яму грудзі. У яго была практыка: кожны раз у такіх выпадках у першы момант яму цяжка было дыхнуць на поўныя грудзі. І цяпер ён пачаў шукаць вачыма патрэбнага яму пункта. Яму добра відна была лёгкая машына, крытая зялёным брызентам. «Там павінен быць афіцэр, гэта няйначай»,— так думаў ён і сцішыўся. Ён адчуваў толькі адно: як павольі паўзе гэтая машына. «Каб яна была згарэла»,— каб трохі, дык выгукнуў бы ён. Людзі праплывалі паўз яго. І канваіры то з'яўляліся, то знікалі далей у дарозе. Ён нават і не прычакаў, каб машына даехала да яго. Ды і чакаць не было як: машына стала. З яе выйшаў афіцэр. Наўскасяк цераз адкос Коля шпурнуў гранату. Што там было далей, ён ужо не бачыў.

— Што ты зрабіў? — з горкім упікам крыкнуў яму блізкі голас.— Трэба было пад салдацкі грузавік! Унь аўтаматчыкі драла даюць.

Грузавікі з аўтаматчыкамі мітусіліся, стараючыся завярнуцца і даць ход назад. Тады пачаліся гранатныя ўзрывы адзін за адным. Гэтае месца шашы было ўзарвана, і ніякага ходу па шашы тут ужо быць не магло. Пашча-

паныя ў трэскі грузавікі ляжалі мёртвым пластам разам з косцьмі, галовамі і плячыма, з адарванымі рукамі ў рэштках мундзірнага нямецкага сукна. Ніводнага чалавека з таго натоўпу ўжо на шашы не было. Чалавек з распушанымі вусамі стаяў за адкосам на паплаўцы, узбуджана азіраўся, і вочы яго бліпчалі. Ён усё гаварыў раз-пораз:

— А браткі мае, от жа ёмка, але ж і далі! От жа ж! — І раптам знік у паплаўным хмызняку.

Чакалі гэтага моманту восем сутак у засадзе ля шашы, а самая аперацыя закончылася праз некалькі хвілін. Коля Сушчэвіч і Антон Крамарэвіч выйшлі на шашу. Нямецкі афіцэр ляжаў нежывы. У гэтым месцы на шашы была толькі адна яма, па той бок машыны, якая бадай-што цэлая стаяла над афіцэрам. Колева граната пераляцела паўз машыну па той бок яе і ўпала ў старане ад яе: Коля не разлічыў размаху сваёй рукі. Вельмі можа быць, што афіцэр сканаў, упаўшы патыліцаю аб каменную дарогу. Коля агледаў яго з усіх бакоў. У Антона Крамарэвіча пачаліся першыя адзнакі шчасця помстай ачышчаць сваю душу ад смутку і цяжару. Гэтае пачуццё ў хуткім часе стала яму вельмі знаёмым. Калі праз доўгі час ён успамінаў гэты момант, то выразна думаў, што ад-гэтуль і пачалося поўнае знікненне яго духоўнай прыгнечанасці. Ён пакінуў закідаць думкі назад і забягаць імі лішне далёка. Ён ужо жыў тым, чым жыў кожны дзень. Многа людзей з выратаванага натоўпу асталося пры атрадзе.

Якраз у тыя дні пачаліся сталыя халады і нападаў снег. Атрад вярнуўся ў ранейшыя свае мясціны, але не ў лес, а заняў тыя шэсць хат пры лесе. У няскончаным Крамарэвічавым доме паклалі падлогу, паставілі печы, пашклілі вокны, і неўзабаве над дахам гэтага дома пачаў віцца дым з коміна. Антон Крамарэвіч аднак жа астаўся ў старой хаце і з ім Коля Сушчэвіч. Сэрцу Антона Крамарэвіча нічога не гаварылі сцены новага дома.

У тыя дні, пасля справы на шашы, ніводнага немца не асталося ў раённым цэнтры, і гэты пасёлак заняў другі атрад, які ў часе яшчэ ляснога жыцця суседзіў з цяперашнім шасціхатнім атрадам. Пачалася зіма як мае быць. Па шашы цяпер зусім не ездзілі немцы. І па ўсёй тут вялікай акрузе зусім не з'яўляліся. Партызаны ўладалі тут усім на вялікую разлегласць.

Пераход на новае месца, новыя справы ў атрадзе, новыя ўражанні самога Колі Сушчэвіча і шпаркая хада часу ўзялі на сябе ўсю ўвагу гэтага ўражлівага хлапчука. І ён цяпер ужо не мучыўся думкамі аб бацьку. Быццам бы ён уведаў тую праўду, што яшчэ не тое што гады, а дзесяткі год будуць турбаваць яго ўсялякія думкі пра бацьку, а цяпер трэба рабіць самае важнае: трымацца за штодзённыя чалавечыя справы і абавязкі, у якіх і сэнс, і радасць. Ён за гэты час і паждавеў, і папрутчэў.

Але сам Аляксандр Сушчэвіч якраз у гэты час больш, як калі раней, думаў пра Колю, і можа нават думкі пра сына былі цяпер адзіным апірышчам яго душы, у гэты злы і брыдкі час яго жыцця.

Можна пэўна сказаць: яго згубіў той вялікі разрыў, што быў у яго паміж розумам і дзейнасцю, якую ён выбраў сабе, і не абы-як, а на ўсё жыццё. Ён лез у кіраўнікі. І ў гэтым было няшчасце не так таго раёна, дзе ён быў даволі-такі паважнай асобай, як яго самога. Кіраўнічага таленту ў яго можа хапіла б на тое, каб сядзець у возе, трымацца за лейцы і скіроўваць каня то ўправа, то ўлева. Ён і не падумаў ніколі, што навакол яго людзі. Яму здавалася, што ён нечым кіруе і нешта арганізоўвае, а было так, што людзі бачылі яго і хтосьці нават сказаў быў раз:

— Каб замест яго паклаў у яго крэсла палена, то тое самае было б.

Але няхай сабе яго і абсмейвалі. Гэта яшчэ паўбяды. Поўная бяда была з таго, што яго пачыналі ненавідзець. Антон жа Крамарэвіч не так сабе кінуў сям'ю і зноў выехаў у свет шукаць спосабу жыць. Выязджаючы, ён раструбіў усім, што гэта праз Сушчэвіча ён разлучаецца з сям'ёй. Гэтаму Крамарэвічу і ў галаву не прыйшло, што Сушчэвіч можа тут і сам жахнуўся б, каб яму хто сказаў, што ён і не кіраўнік, і не работнік, а самы сапраўдны злачынец перад Савецкай дзяржавай. Але ён не толькі гэтага не ведаў і не адчуваў, а думаў, што ён вельмі важны чалавек у сацыялізме. Ён вельмі быў пакрыўджан тым, што не быў узнагароджан ордэнам. Я нядаўна чуў, як адзін работнік так суцяшаў сябе: «Яшчэ рана думаць, што ўсё скончана. Яшчэ не ўсе загадчыкі аддзелаў атрымалі ордэны». Як быццам бы ордэн павінен давацца за загадванне аддзелам, а не за працу і заслугі перад дзяржавай. Аляксандр Сушчэвіч насіў у сабе крыўду і пакрысе варушыўся. Можа б Антон Крамарэвіч і вярнуўся б хутка дадому,

і скончыў бы, як сам хацеў, сваю новую хату, але да яго даходзілі чуткі пра некаторыя справы каля Аляксандра Сушчэвіча, і ён думаў: «Пачакаю яшчэ крыху, няхай там аціхне».

У тым раёне быў памылкова раскулачан адзін чалавек, які не быў кулаком. Недагляд гэта быў ці якое-небудзь спагнанне злосці? А пасля аднаго чалавека выкінулі з калгаса за тое, што ён сказаў быў раз: «Якая ж гэта савецкая ўлада, калі тут чалавека раскулачваюць, а не кулака?» Каб на добры розум, дык гэтага чалавека трэба было б падзякаваць і пахваліць за добрую і справядлівую думку, а Сушчэвіч прышыў яму абвінавачанне, што ён падрывае аўтарытэт прадстаўнікоў улады. Ох, гэты «аўтарытэт», там, дзе яго няма! Колькі разоў мне даводзілася выслухваць навучанні, як працаваць і як жыць, ад людзей, якія самі не ведаюць, як трэба працаваць і як трэба нам усім жыць.

Была і яшчэ хіба ў Аляксандра Сушчэвіча. Ён сілаю-гвалтам укараняў у людское жыццё тое, што было ўласціва яму самому. Вядома, не кожны мог прыняць гэта як непарушную праўду. Да таго ж, сярод гэтых людзей знаходзіліся і такія, што галоў на пяць былі разумнейшыя нават за самога Аляксандра Сушчэвіча. Не прымаючы сушчэвічаўскіх нормаў і спосабаў, а робячы інакш, яны былі пад падазронасцю ў яго. Здаралася, што праз колькі год, абсвяжыўшыся якім-небудзь свежым ветрам, Сушчэвіч даходзіў да новых думак і ў захапленні сам ад сябе тлумачыў усім новыя дасягненні сваёй галавы. Яму гэта была навіна, а многія ўвесь свой век жылі гэтымі думкамі і спосабамі. Дык некаторыя з яго пасміхаліся, а некаторыя з пэўнага часу ўзненавідзелі. Вялікае няшчасце бывае тады, калі чалавек з мандатам на права навучаць іншых пачынае думаць, што навокал яго ўсе бараны, якія нічога самі не ведаюць і не маюць сваіх мазгоў. Вельмі часта з Сушчэвічам выходзіла тое ж самае. Але ўсё гэта была драбяза пакуль што. Навокал Аляксандра Сушчэвіча жыццё ішло сабе. Расло добра на полі, спела ўвосень садавіна, людзі багацелі сабе і разжываліся, дзяўчаты ішлі замуж, гадаваліся дзеці, улетку было цёпла, а ўзімку холадна. Але тут здарылася, што той раскулачаны пачаў дамагацца свайго права. Чалавек ён быў прабітны і рухавы. Ён ездзіў кудысьці да вышэйшых кіраўнічых сфер, браў з сабой сведак і цэлы шмут усялякіх даведак і вярнуўся з высокай

рэзалюцыяй на сваёй заяве аб тым, што яму павінна быць аддадзена ўсё, што ў яго ўзялі ў часе раскулачвання. Тым жа часам паперка аб гэтым пайшла ў раён. Хоць Аляксандр Сушчэвіч і не быў які-небудзь самы вышэйшы ў раёне кіраўнічы, аднак жа ён вельмі заеўся. Вядома, кожны мае свой гонар. І бяды ніякай тут няма. А там яна, злая і горкая, дзе на шалькі з аднаго боку кладзецца начальніцкі гонар, а з другога жыццё чалавека. У Сушчэвіча з тым раскулачаным была даволі-такі бурная размова. Абодва яны ненавідзелі адзін другога. Той забраў усю сваю адабраную маёмасць і падаў на Сушчэвіча заяву, што той падрывае аўтарытэт савецкай улады тым, што раскулачвае не кулакоў. Сушчэвіч кідаўся ўсюды, і справа нейк абышлася ціха. Аднак жа нянавісці яго да таго чалавека ўжо не было меры. Можна было падумаць, што ён узяў за мэту свайго жыцця згубіць гэтага чалавека. Ён пачаў да яго капацца. Тут мела месца не толькі нянавісць, але і страх, што той даможацца свайго і ссадзіць яго з пасады. Дык пакуль той дамогся свайго, то Сушчэвіч хутчэй дапаў да сваёй душэўнай лагоды: ён такі сагнаў чалавека з жывога месца. На яго было ўзвернена гэтулькі ўсялякай віны, што той аж сам уздрыгануўся. Ён кінуўся, каб дзе дзецца з Сушчэвічавых вачэй. Казалі, што ён, сцураўшыся і здабытай маёмасці, падаўся з роднага месца на старану і астаўся за рабочага па тарфяных распрацоўках. Нешта яму там не спадабалася, ён перайшоў на іншае месца і на іншую работу, але і там доўга не ўбыў. Так ён і бадзяўся з месца на месца аж да самай вайны. У самыя першыя дні вайны яго ўжо бачылі дома. Ён пастарэў і загадаваў вусы, густыя і распушаныя. Трэба думаць, што ён калі і не зіхацеў з радасці, што ідуць немцы, то і не лішне плакаў ад гэтага. У кожным разе, ён, калі пачуў, што ў суседнім з гэтым раёне раённыя кіраўнікі арганізавалі партызанскі атрад і скрыліся ў лясы, сказаў:

— Смеху варта. Яны хочуць даўбешкаю сагнуць гармату.

У апошні дзень перад прыходам немцаў ён ужо смела хадзіў сабе па мястэчку і нават з нейкай душэўнай прыўзнятасці, як сам пасля казаў, «гакнуў з суседам паўлітра». Пасля яны з суседам выйшлі, п'янаватыя, на гасцінец і ўбачылі, што Аляксандр Сушчэвіч імчыцца ў сваёй легкавой машыне як з пажару. Удвух яны сталі пасярод дарогі, паднялі рукі ўгару і запынілі машыну, і ў вочы ім

кінулася, што Сушчэвіч ехаў з чамаданамі, клункамі і нават з патэфонам.

— А-а-а,— зацягнулі яны ў адзін голас,— куды ж гэта цябе нячыстая сіла гоніць? Чаму ж гэта ты раней быў такі смелы?!

— Калі са мною ваяваў...— дадаў вусаты.

— Гэта ж чужынец ідзе, а не хто іншы, яго ж біць трэба, а не ўцякаць ад яго.

— На каго ж ты нас усіх пакінуў, ты ж, калі ўсё добра на свеце было, паказваў перад намі сваю моц.

— А жонку і сына чаму ты не забраў з сабою?

— Я не ўцякаю, я еду выконваць свае абавязкі,— адказаў збянтэжаны Сушчэвіч.— Дрэнны той чалавек, які ў рашучы момант жонку ставіць вышэй рэспублікі. Сыдзі з дарогі!

Невядома, ці меў намер Сушчэвіч яшчэ вярнуцца па жонку і сына, ці меў што іншае ў галаве, але ён раптам пазнаў, што вусаты перад яго машынай — гэта той самы, што быў раней бязвусы. Звыклая да схематычнага і дагматычнага думання, яго галава адразу нарысавала, ці, праўдзівей сказаць, узяла гатовую схему: «Гэта ж той самы. Ён стаў ненавіснікам савецкай улады. Цяпер ён рад, што прыходзіць фашызм!»

Сам спалохаўшыся, ён выхапіў наган, стрэліў у паветра і закрычаў, каб тыя не стаялі на дарозе. А тыя кінуліся на яго, сцяглі яго з машыны і параілі збянтэжанаму шаферу ехаць, куды ён сабе хоча. Аляксандр Сушчэвіч пайшоў кудысьці ў дарогу, а вусаты насмешліва гукнуў яму наўздагон:

— Ідзі ў суседні раён, да партызанскіх атрадаў прыставай!

Назаўтра ўсю гэтую мясцовасць занялі немцы. Сушчэвіч не ведаў, што яму рабіць: вярнуцца дадому ён баяўся. Выходзіць на ўсход за фронт або тут брацца за што-небудзь рашучае ён таксама баяўся. Да таго ж ён думаў, што калі ён як бы без следу згіне, немцы не зачэпяць яго сям'і. І спачатку ён паспрабаваў туляцца, а пасля як-небудзь ціхом прыйсці дадому. Яго галава меркавала так, што раз ён быў у раёне даволі знаным чалавекам, то немцам толькі і клопату, каб злавіць яго. Праўда, калі ўжо тут з'явіўся нямецкі камендант, а ў суседнім раёне партызаны даволі ўжо даліся немцам у знак, знайшоўся нехта такі, што падаткнуў данос, што гэта нібыта Сушчэвіч

84528

арудуе ў суседнім раёне і яго жонка ведае пра гэта і мае ад яго весткі.

Вядома, даносчык! Сапраўдны даносчык ніколі не пакажа праўды, бо ён яе і не нюхае ніколі. Няхай гэта ведаюць тыя, хто ўмее думаць, што на даносах льга ўгрунтоўваць грамадства. Даносчыкі родзяцца на свет там, дзе знікае вера ў чалавека. Трэба ведаць, што без веры ў чалавека не можа трымацца не толькі сям'я або сяброўства двух, але і цэлая дзяржава. Як бы там ні было, але Сушчэвічыху немцы ўзялі на допыт, нічога ад яе не дамагліся і спешным парадкам павесілі няшчасную жанчыну. Сушчэвіч неўзабаве і дазнаўся пра гэта. Яго здушыў смутак аб Колю. Хлапчук астаўся адзін. Што будзе з ім і што будзе з самім Сушчэвічам? Тут яго галава зварыла так: «Не ўдалася Савецкая дзяржава, ёй прыйшоў канец. Цяпер трэба пачаць нанава жыць. Хоць як, але каб умасціцца ў жыцці». З такімі думкамі ён наважыўся выслужыцца перад немцамі. «Яны кажуць, што прыйшлі знішчыць бальшавізм. Як бы гэта, каб забылася навек тое, кім я быў да вайны праз гэтулькі год? Каб забылася або загладзілася». Яго розуму хапіла на тое, каб паверыць, што злодзей і разбойнік маюць нейкае ідэалагічнае абгрунтаванне сваёй дзейнасці. Ні разу яго сумленне не ўзварушвала яго душы. Страх забіваў у ім усё жывое. На гэты час ён нават і пра Колю пакінуў успамінаць. Скончылася тым, што ён такі нарэшце пайшоў да каменданта і папрасіўся на службу. Ён і сам здзівіўся, што яго адразу на службу і ўзялі. Перад ім паставілі задачу: раскрыць камуністычную падпольную арганізацыю ў раёне. Не падумаўшы нават, што можа такой арганізацыі тут якраз і няма, ён кіўнуў галавой і развітаўся з камендантам за руку. Гестапны немец навучыў яго: калі ў яго няма ў самога ніякіх канцоў у руках, то трэба высачыць партызан і ад іх пачынаць віжаваць. Ідучы ад немцаў, ён быў як пад зямлёй: а можа ўпасці да ног перад партызанамі? Астацца з імі? З сваімі быць — гэта шчасце. Але ж там можа быць і той, з вусамі. Не, той служыць немцам. «Дык гэта яшчэ горш, бо я з ім тут магу спаткацца». Зноў страх апанаваў яго. Страх еў яго душу і пустошыў сэрца. І ён рынуўся віжаваць. Хадзіў, слухаў, сачыў. Так прыйшла восень і падышла блізка зіма. Яго ўсё трымалі на такой рабоце, а ён стараўся зрабіць, што яму казалі, каб пасля зашыцца ў кут, у зацішак і хоць так жыць. Ён пакінуў спаць нача-

мі, і рысы яго твару пачалі перасмыквацца. Нічога яму, аднак, не ўдавалася. Скончылася восень, і на шашы адбылося вызваленне забраных людзей. Немцы пачалі выбірацца з таго раёна. Ужо не страх, ужо жах уладаў Сушчэвічам. Горкай практыкай ён ужо дайшоў да той праўды, што немцы прыйшлі сюды дзеля таго, дзеля чаго яны сюды прыйшлі, а не дзеля таго, каб ён перад імі выслужыўся. Не ведаючы, у які бок схіліць галаву, ён прыняў апошні загад астацца ў гэтых месцах.

Марозлівым днём ён падышоў да шасці хат і ўбачыў з-за тоўстай хвоі: людзі габлююць дошкі, сядзяць на бярвенні, кураць сабе, устаўляюць вокны ў хату, а тут і той вусаты з сякерай стаіць. Вось ён дзе! Не служыць ён немцам! Але самае важнае, што тут убачыў Сушчэвіч, гэта тое, што ўсе кіраўнікі суседняга раёна і сакратар райкома гэтага раёна, чалавек, якога Сушчэвіч ведаў многа год, тут. І яны тут усе каля гэтай хаты. І Антон Крамарэвіч тут. Унь гаворыць нешта з вусатым. І многа тут людзей. Унь вартавы з аўтаматам стаіць.

Вялікае было шчасце Аляксандра Сушчэвіча, што ней-кім выпадкам ён не ўбачыў тут свайго Колі. Смутак мог бы задушыць яго. Як утрапёны шаленствам, ён даў ходу з-за тоўстай хвоі і ўвечары таго дня ён сказаў таму, хто распараджаўся цяпер яго душой:

— Я высачыў партызан. На шэсць хат трэба кіравацца.

Каб гэта раней, то гэта мог бы быць доўгачаканы яго момант: першая ўдача за такі доўгі час. Цяпер жа выпустошаная душа яго не радавалася і не хвалявалася. Ён тупеў з кожным тыднем. Яму сказалі:

— Павядзеш туды глухімі сцежкамі карны атрад.

Ён не меў яшчэ дагэтуль ніколі такога ўтрапення. Ніякага апірышча душа яго ўжо не мела. І як за апошняе ён ухапіўся за Колю. Ён жа жыве недзе! Можа нават дзе тут блізка. Каб як выбіцца з гэтай пасткі, дзе прастарней дыхаць, дзе вальней, дзе стаў бы сам сабою, ды каб Колю знайсці і жыць з ім і дзеля яго.

Гэтая думка была пакутная, бо не было веры ў яе. Ён нават быў упэўнен, што ніколі гэтага не будзе.

Лепш бы не жыць такому чалавеку на свеце.

Праз дзён дзесяць ён ішоў лесам без сцежкі і без жадання хутчэй дайсці туды, куды ён ішоў. Дзень быў змрочны. Снегавая хмара вісела над лесам. Было вельмі ціха.

Ён чуў, як за ім шастаюць па зямлі крокі немцаў і паліцаяў. Зямля была мёрзлая і прыцярушаная снегам. Гук ног аб яе быў востры і калючы.

Далейшыя справы таго дня пайшлі вельмі шпарка, адна за адной. Вартавыя паведамілі, што ў лясы навокал шасці хат прасочваюцца адзін за адным нейкія людзі. Іх было даволі-такі нямала. Як пасля выявілася, гэта былі пераадзетыя паліцэйскія. Аднаго з іх злавілі і прывялі ў старую Крамарэвічаву хату, дзе за сталом сядзеў камандзір атрада, а прыпёршыся плячом да печы, стаяў Коля і курыў. На лаве сядзелі людзі з аўтаматамі і вінтоўкамі. З вінтоўкай тут быў і Антон Крамарэвіч. Пераадзетага паліцая ўзялі на допыт. Пра сябе ён так расказаў: у першыя дні вайны яму трэба было мабілізавацца ў армію і трэба было шукаць ваенкамата, які эвакуіраваўся ў тыя ж дні. Ён вярнуўся дадому і астаўся там. Немцы прыйшлі неўзабаве. Яму трэба было з'явіцца да каменданта. Камендант сказаў яму:

— Дык ты не захацеў ісці ў сваю армію? Значыцца, ты быў супроць дзяржаўнай улады? Дык калі не пойдзеш зараз служыць у паліцыю, то адразу расстраляю.

І ён стаў паліцаем.

Пра агульную справу ён так сказаў:

— Пасля таго, калі партызаны ўкараніліся ва ўсім гэтым раёне і, самае важнае, загарадзілі шашу, па якой немцы не мелі цяпер праезду, нямецкае камандаванне дайшло да свае патрэбы выцесніць адсюль партызан. На гэта ўжо ўзяты ўсе паліцэйскія, тутэйшыя гарнізоны, і яшчэ прыйшоў атрад эсэсаўцаў. Немцы ведаюць, дзе стаяць партызаны. Не ведалі толькі яны, што ў шасці хатах стаіць атрад. Але цяпер і пра гэта ведаюць. Паліцаі, што адсюль родам, або так каторыя службоўцы пры немцах і ведаюць тут усе хады і выхады, а найбольш тыя, што высачылі партызан, па ўсім раёне павялі сёння нямецкія атрады ім вядомымі дарогамі на партызан. Гэтак і ў шэсць хат кіруецца нямецкі атрад, зборны, з паліцаяў і немцаў. Найбольш усе ўзброены аўтаматамі, ёсць і кулямёты. А то яшчэ і так: дзе-нідзе паліцаі па адным збіраюцца ў лесе і там на месцы гуртуюцца і жарнуць на партызан, як пачуюць сігнал.

Коля Сушчэвіч памчаўся ў суседні атрад, кіламетраў за восем, каб пераказаць усё, што расказаў гэты паліцэйскі.

«Можа ўсе атрады гэта ўжо ведаюць, але няхай пагаласка дойдзе ўсюды».

На пачатку зімы дзень вельмі кароткі. Коля не паспеў завідна вярнуцца. У старой хаце было цёмна і горача. Печ была добра напалена. Усе спалі, хто на лаве, хто на прыстроеных паўз сцяну нарах, а хто проста на саломе, пасланай на зямлі пасярод хаты. Коля палез на печ, на сваё звыклае месца. Там спала некалькі чалавек. Коля звыклым інстынктам пазнаў, каторы з іх Крамарэвіч, і лёг пры ім, плечы ў плечы. Якая доўгая ноч на пачатку зімы! Коля спаў толькі спачатку, як лёг. А пасля ўжо, як прачнуўся пад канец ночы, да святла нават і не задрамаў. Раптам стукнула ў грудзі і вушы вялікае ўзбуджанне. Колькі такіх начэй і дзён ужо было! Яны канчалі тое, што было да іх, і пачыналі новае. Гэтак і цяпер. Заўтра пачнецца можа грозная і цяжкая пара. Тут ужо недзе блізка ходзяць яны, жорсткія, тыя, што павесілі матку. Яны панавалакаліся, як плойма, на пакуту людзям. Можа ўжо многія, што спяць тут у гэтай хаце, дажываюць апошнія свае гадзіны. Хто з іх заўтра будзе ўжо нежывы, а хто ўзнясе да ўсяго свету сваю вялікую радасць, што жыве і сваімі рукамі зрабіў смерць не аднаму прышламу гаду. Гэтая радасць будзе вялікая, аб сваім жыцці і аб гадаўскай смерці! Божа мілы! Каб у гэтыя хвіліны знайсці роднага бацьку! Ён жа жывы! Можа ён і тут дзе, блізка! Блізка быў дзень, і Колева душа была на вялікім уздыме.

Світала. Коля звесіўся з печы і глядзеў на хату. Партызан з распушанымі вусамі, лежачы на лаве, курыў папяросу. Белы певень стаяў пад сталом, выцягнуў шыю і заспяваў. Ён чуў дзень. Каля людзей ён адкарміўся і абсмялеў. Коля саскочыў з печы на зямлю і пачаў адзявацца. Шыбы ў вокнах былі чыстыя, і прымарожаныя сняжынкі садзіліся на іх і ападалі. Певень спяваў раз-поразу, і людзі пачалі ўставаць. Антон Крамарэвіч апрануўся ў кароткі кажушок і пайшоў станавіцца на дзённую варту. Вусаты дакурыў папяросу, залажыў рукі пад галаву і сказаў да Колі:

— А ты чаго, хлопча, устаеш так рана? Ты яшчэ стаіш напроці свайго веку, дык прывучвайся спаць і ў вадзе, і ў агні. Калі ты будзеш мець такую натуру, што здолееш заснуць за тры гадзіны да смерці, дык і ніякае смерці тады не будзе. Спакоем і халоднаю развагаю льга горы з месца зрушыць. Хадзі сюды. Садзіся пры мне, пагаворым.

Гэты вусаты чалавек апошнімі часамі ўсё больш зблі-жаўся з Колем. Хоць і ўсе так. Лёс вусатага чалавека так склаўся: пасля таго як устанавілася ў раёне нямецкая ўлада, яго паклікалі ў паліцэйскую ўправу і сказалі яму: «Ты цярпеў ад савецкай улады. Ідзі служыць у паліцыю». Ён адказаў: «Я цярпеў ад дурнога Сушчэвіча. Дазволіце мне ісці дадому? Я хачу жыць ціха». Дадому яму ісці дазволілі, але ўвечары забралі, і ён апынуўся ў канцэнтра-цыйным лагеры і быў там, аж пакуль не пагналі яго разам з усімі па шашы. Сам то ён не бачыў, але чуў і ведаў ад Антона Крамарэвіча, што гэта Коля першы кінуў гранату, пасля чаго ён кулакамі палажыў навек нямецкага афіцэра і пабег з шашы. У яго нарадзілася і вырастала з кожным днём вялікае замілаванне да Колі Сушчэвіча, а пасля па-чала з'яўляцца як бы рэўнасць аб Колю да Антона Кра-марэвіча, з якім Коля быў неразлучны.

— Развіднела, а нічога не чуваць,— сказаў Коля, сеў-шы на край лавы ля вусатага.— Можа паліцай наманіў, і ўсё так абыдзецца?

— Не абыдзецца,— сказаў вусаты.— Калі сёння будзе ціха, дык заўтра будзе грукатна. Як ні круці, а з немцам біцца прыйдзецца. Не на тое ён навалокся сюды, каб яму ў зубы глядзець. Ты, сынку, прыхоўвайся, калі што якое. Не вытыкайся без патрэбы. Шануйся. У сталых гадах прыйдзецца з гадаўём зноў біцца.

— Хіба зноў тады вайна будзе?

— А ты думаеш, так адразу гады на свеце звядуцца? На твой век яшчэ хопіць.

Ён, гэты вусаты, тым і быў непадобен да Антона Кра-марэвіча, што мог і любіў разважаць, хоць бы нават і сам з сабою, калі не было з кім. Ён любіў Колю, як бацька любіць сына. Крамарэвіч жа імкнуўся да Колі як да ней-кага неабходнага апірышча сваёй душы.

Марна спадзяваўся Коля, што абыдзецца цішынёй той дзень. У познюю раніцу немцы пайшлі на гэты лес, але наткнуліся на вялікую засаду. Так што бой пачаўся не ў самым лесе, а за паплаўнымі хмызнякамі. Ад шасці хат гэта было кіламетраў за шэсць. У старане, дзесьці ўбаку, таксама чуўся бой. Там нават білі гарматы. Відаць, немец пачаў не жартам. Апоўдні самалёты страшылі партызан тым, што скінулі над лесам некалькі бомбаў. Але ўсё гэта было звыклае і неўзабаве мінулася. Самае важнае пача-лося надвечар. Як пасля выявілася, да гэтага часу ў пяці

месцах таго раёна партызаны разбілі ўшчэнт немцаў і паліцаяў. У двух жа месцах партызаны адступілі да гэтага «шасціхатняга» лесу. Так што тыя два атрады і «шасціхатні» сышліся і стаялі разам. Яны займалі пазіцыю доўгім шнурам на ўзлессі. Немцаў перад імі было многа. Кулямёты ўвесь час білі па гэтым узлессі. Немцы здорава націскалі. Партызаны адыходзілі ў глыбіню лесу. Пасля ўсе казалі — і гэта, бадай-што, магло быць праўдай,— што такі, наканаваны здаровай думкай ці выпадковы, манеўр згубіў немцаў і праваліў усе іх намеры. Шашу ім ачысціць так і не ўдалося.

У лесе пайшлі рукапашныя схваткі. Усе выбіліся з франтавага шнура і пабіліся на групы па некалькі чалавек. Так само сабою зрабілася. Выглядалі адны адных, расстрэльвалі, беглі на штыкі, біліся з крыкам «ура» і з лаянкаю. Вечар пачынаў агортаць першым змрокам зямлю. І ўжо зусім чорным стаў сухі верас на белым засціле мёрзлага снегу, якога вецер не паспеў яшчэ сагнаць у лагчыны. Па ўсім лесе ішла страляніна. Былі адзіночныя стрэлы, і іх глушылі аўтаматы і кулямёты. Божа! Як бярог увесь дзень Колю Антон Крамарэвіч! Ён усё гнаў яго лажыцца дзе пад выварат і чакаць. Коля лажыўся і прыпадаў да зямлі. Але ж гэта было б добра, каб усё стаяла на месцы. А то за дзень ім давялося некалькі разоў абшнарыць увесь лес з канца ў канец. Яны нарэшце ўдвух толькі ў рэдкім лесе і асталіся. Настаў момант цішыні. Раптам усё сціхла. Ці гэта і тыя і гэтыя паляглі, ці, гонячы адны адных, зайшлі далёка, ці гэта яны ўдвух адбіліся ад усіх і выйшлі з бою? Ці ўжо больш немцаў не хапіла, і бой сціх? Праўда ж, ляжаць два гітлераўцы перад імі, чэравам угару.

Коля вылез з-пад вываратa і стаў пры хвоі. Твар яго быў чырвоны, і адзежа ў зямлі. Крамарэвіч сядзеў на зямлі і прыслухоўваўся. У Колі на рэмені віселі гранаты. Крамарэвіч быў з аўтаматычнай вінтоўкай. У старане зноў загрукала і заляскала. Блізка. Нават чутно, як закрычалі.

— Рус, здавайся! — чутно было.

— Сука берлінская! — адказалі. І зноў трэск і грукат, і зноў: «Рус!» І зноў: «Нямецкая сука!»

— Коля, падай! — сказаў Крамарэвіч.

Коля ўпаў на зямлю і пачуў, што ідуць. Паволі, ціха, каб без трэску. Асцярожна. І Крамарэвіч ляжыць поплеч яго.

— Іх многа,— шэпча Крамарэвіч.— Іх можа пад дваццаць. Колечка, рыхтуйся кідаць гранаты. Шануйся, не высовывайся. Яны нас не бачаць. Яны ідуць проста на нас. Як падыдуць бліжэй, кідай у самую кучу. З вінтоўкі я менш іх палажу...

Коля не даслухаў. Вельмі можа быць, што ён і зусім нічога не чуў, што казаў яму Крамарэвіч, які меў за свой абавязак навучаць малога. Нічога Коля не чуў. Ён бачыў зводдалеку, як ступае па белай зямлі многа ботаў. І калі падумаў, што пара, ускінуў руку і ткнуўся лбом у снег. Добра. Грунула. Устрасянулася.

— Колечка! Сынку! От жа маладзец! А на доўгі ж твой век! Ты ж з іх кашу зрабіў,— здаецца, не гаворыць, а спявае Крамарэвіч.

Ён яшчэ не бачыў сваёй работы, а душа яго напоўнілася ўздымам шчасця і радасці. Ён усхапіўся на ногі і шырокай хадой рушыў туды. Моцны шэпт Крамарэвіча дагнаў яго:

— Куды ты, чакай, унь там адзін ходзіць, гнучыся. І другі. Проста стаіць!

Крамарэвіч нацэліўся і стрэліў. Коля бачыў, як там адзін упаў, а другі сеў пры дрэве.

— Здавайся! — крыкнуў Коля і падбег, рыхтуючы гранату. Ён быў п'яны ад сваёй узбуджанасці, і ўздым яго не змяншаўся. Дзеля такой хвіліны варта шмат што пацярпець! Вось яны! Варожыя галовы, рукі, ногі, плечы, грымасы на акамянелых тварах, усё парвана, расшастана, скрываўлена. Разварочаная зямля. Вырванае карэнне. Ён быў п'яны ад шчасця. А ў старане яшчэ ішоў бой. Антон Крамарэвіч тузануў Колю за плячо:

— Не стой, не глядзі, яны яшчэ могуць прыйсці.

— Гэтыя не прыйдуць.

— Дык іншыя. Хадзем.

Крамарэвіч пацягнуў Колю ў кусты, і яны паспелі прайсці не больш дваццаці крокаў.

— Здавайся! — закрычалі тут жа наўздагон.

Яны ўпалі і папаўзлі. Ледзьве паспелі дапасці да кустоў.

— Здавайся! — яшчэ раз закрычалі.— Паднімайце рукі і сюды ідзіце!

— Трасцы! — ціха абазваўся Коля. У вачах яго ўсё кружылася.

— Здавайся! Здавайся! — крычалі.

А партызаны адпоўзвалі. Тыя пачалі страляць. Стукаў кулямёт. Кулі цераз іх галовы стабнавалі зямлю. Ужо скончыўся дзень. Ужо свяціў месяц. Чутно стала: тыя пакінулі страляць і шпараць следам. Крамарэвіч азірнуўся, прыўзняўшыся. Нацэліўся і стрэліў.

— Гатоў,— сказаў ён.

Зноў адтуль пачалі страляць. Коля ўстрапянуўся і зашаптаў, моцна і заікаючыся:

— Яны мне відны. Спераду страляюць, а з бакоў заходзяць. Абкружваюць нас! От каб аўтамат...

Шэпт яго сціх. Ён пачаў азірацца.

— Трымацца, сынку! Дай мне адну гранату.

Вельмі можа быць, што ў гэты момант якраз і працверазіўся Коля ад сваёй узбуджанасці. Ён працягнуў Крамарэвічу гранату і зірнуў на яго, як на бацьку, ад якога чакае ратунку. Ад месяца было відно. Бой у старане заціх. Навісла цішыня.

— Здавайся! — закрычалі з двух бакоў. І пачалі страляць.

Іншай рады не было. Крамарэвіч пачаў адстрэльвацца. Так і пайшло. Тых было многа. Крамарэвіч адстрэльваўся адзін. Было цяжка, нудна і страшна. Душа ў Колі ныла і прасіла рутунку. Крамарэвіч здаваўся яму цяпер асілкам, і хацелася схавацца за яго плечы. Страшны сум па матцы рвануў яму душу. Хацелася кінуцца на шыю бацьку і заплакаць. Вось ужо з двух бакоў пачалі абсыпаць іх кулямі.

— Дай яшчэ гранату,— сказаў Крамарэвіч.

Коля паслухмяна даў яму гранату.

— Бяжы за мной,— сказаў Крамарэвіч.— Нарыхтуй гранату. Прабіцца трэба.

Крамарэвіч пабег, і Коля за ім. Крамарэвіч упаў, і Коля за ім.

— Перачакаем момант,— шапнуў Крамарэвіч.— Пільнуйся мяне.

— Іх тут мала! Можа ўсяго адзін! — пачуўся крык.

Калі гэта не быў кашмар, а сапраўды ўсё гэта так і было, як чуў Коля, то гэтаму меры няма ў чалавечым абыходку. Колю здалося, што гэта закрычаў яго бацька. У Колі твар пачаў дрыжаць і зубы стукаліся аб зубы. Ён як ляжаў тварам уніз, так адчуваў, што барада дробна стукае аб мёрзлую зямлю. Ён падпоўз да Крамарэвіча і астаўся пры яго плячы. Крамарэвіч ускінуў руку, і граната разарвалася там, адкуль крычалі. Крамарэвіч тузянуў

Колю за вопратку, і ўдвух яны пабеглі ўбок. Ужо ім здалося, што яны адарваліся ад тых, хто дамагаўся іх смерці. Лес канчаўся, і пустая прастора вызначылася перад імі. Колю стала спакайней і весялей. Ужо яму хацелася, каб тыя падбеглі сюды і каб шпурнуць у іх гранатай. Але не, лепш ратавацца, бо унь яны бягуць напярэсціжкі. І зноў! З аўтаматаў б'юць адтуль. І вось ужо пеканула яму ў ногі, і калена левай нагі здрыганулася.

— Сынку, Мікалайка, хутчэй, мы адрываемся ад іх.

— Я ранен у ногі, — абазваўся ён і кінуўся на зямлю. Крамарэвіч чуў, як трэснула пад ім струхлелае вецце. І запанавала цішыня. Крамарэвіч нагнуўся над Колем і пачуў, як недзе зусім блізка аддаляюцца нечыя крокі.

— Моцна табе баліць?

— Моцна.

— Ну, як ты сам чуеш? Многа крыві ідзе?

— У боце мокра.

— Толькі ў адным? — узрадаваўся Крамарэвіч.

— Здаецца, у адным.

— Дык можа ты толькі ў адну нагу?..

— Можа і ў адну. Баліць у абодвух.

— Чакай, дай сцягнуць бот. О так. Ого, крыві многа. О так. О так. Здаецца, тут, на лытцы. Перавязаў. Не варушыся. Дай другі бот. Нічога. Здаецца, тут няма раны. Каб лесам, то бліжэй да хаты. На табе мой кажух, ляжы на ім. Я пабягу дарогу разведаю. Чакай мяне. Адну гранату я табе пакіну, а рэшту адвяжу ад цябе.

Крамарэвіч пайшоў. Стаўшы, каб прыслухацца, ён пачуў, што гавораць. Блізка. Іншай рады не было. Ён нарыхтаваўся і рушыў туды. Іх было трое. Яны стаялі паміж двух дрэў і вельмі добра відны былі пад поўным месяцам. Але трэба было зберагчы гранату. Крамарэвіч налажыўся і стрэліў. І адзін упаў. Крамарэвіч пабег туды.

— Здавайся! — крыкнуў ён.

І той усё самы голас аглушыў яго:

— Ён адзін! На яго!

Крамарэвіч застыў пры дрэве. Унь яны відны. Бяруцца. Крамарэвіча брала злосць. Прыйдзецца гранатай. Ён пабег да іх. І яны сталі відны яму як мае быць. Яны разбегліся ў два бакі. Крамарэвіч улёг за адным. А другі знік і страціўся. Крамарэвіч дагнаў яго ў знаёмым яму месцы. Гэта была вывернутая навальніцай хвоя, завіслая на беразняку. Крамарэвіч задыхаўся. Той пачаў кідацца

ўбакі. Ён ужо не дыхаў, а хроп і свістаў лёгкімі. Нарэшце стаў і падняў рукі ўгару. Здавалася, што ён не мог ужо трымаць іх так, бо яны аб'ехалі ўніз, і толькі цяпер з рукі ў яго ўпаў на зямлю аўтамат. Крамарэвіч паспеў заўважыць, што ён у цывільнай адзежы і без шапкі. Крамарэвіч нацэліўся і стрэліў. І той грымнуўся вобземлю, дзіка заенчыў, захроп, перакруціўся і змоўк у нерухомасці.

Коля цярпліва чакаў на тым самым месцы. Крамарэвіч узяў яго на плечы і панёс лесам. І ціха гаварыў з Колем, які трымаўся за яго шыю і звісаў тварам з пляча.

— Унь тут, ля завіслай хвоі, ён ляжыць. Гэта ён усё крычаў і, мусіць, ён пачаставаў цябе ў нагу. Нічога, Мікалайка. Зараз данясу. Пацярпі.

Так ён вынес Колю з лесу на палявую дарогу, і перад імі зачарнелася ў полі старая арабіна, знаёмая ім абодвум. Стаяла вялікая цішыня. Дзіўна было падумаць, што нядаўна яшчэ тут усё гуло і калацілася. На ўваходзе ў шэсць хат стаяў партызанскі вартавы. У старой Крамарэвічавай хаце было пуста. Адзін толькі белы певень прымасціўся на табурэце і не паварушыўся, калі Крамарэвіч унёс Колю. Людзі пачалі збірацца ў самае світанне. Дзень пачынаўся адлежны. Сінія засцілы стаялі над лесам і полем. Коля ляжаў у дрымоце. Крамарэвіч драмаў, седзячы ля яго. Певень заспяваў. Коля зварухнуў вейкамі. Крамарэвіч выгнаў пеўня з хаты, і той агаласіў сваёй песняй першую раніцу. Крамарэвіч выйшаў з хаты курыць. На панадворку з'явіўся той, з распушанымі вусамі. Ён быў у вельмі добрым настроі і сыпануў Крамарэвічу словамі:

— Але ж і далі ўчора. От жа далі! А братка! Колькі немцаў навалена. Страх. Ужо і з таго раёна немцы выбраліся. Разведка была і ніводнага немца не застала. Вось як. А ты што тут курыш?

— У хаце ранены Коля ляжыць.

Вусаты збялеў:

— Як? Што?

— Толькі ён аслабеў, крыві сышло. Белы як палатно. Але рана лёгкая. Уночы быў доктар. Пабажыўся, што на трэцім месяцы абуецца ў боты і пойдзе з хаты, куды захоча.

І яны ўвайшлі ў хату. Людзей ужо насыходзілася. Гэтая старая хата быццам пачала ў сабе жыццё нанава. Як тут усё было не падобна да таго моманту, вельмі ня-

даўняга, калі Крамарэвіч, напалохаўшы адзічэлага пеўня, увайшоў у яе са свайго бадзяння. На ўбітым у сцяну круку віселі аўтаматы, і вусаты разлажыўся на стале чысціць свой наган. Коля павесялеў.

— О так,— сказаў вусаты, прыгледзеўшыся да яго.— Ты напроці свайго веку. Тваё шчасце ўсё наперадзе.

У той дзень пад завіслай на бярозах хвояй знайшлі ўкарчанелага Сушчэвіча. І Крамарэвіч сказаў Колю:

— Мікалайка, каб раз назаўсёды з гэтым скончыць, каб ты больш не думаў і не мучыўся дарма, а каб весялеў і ачуньваў, скажу табе: няпраўдзівыя былі чуткі, што твой бацька недзе тут. Няпраўда. Ужо даўно. Яшчэ ў першыя дні твайго бацьку застрэлілі немцы. Ачуньвай, станавіся хутка на ногі. Кожны новы дзень зменьвае стары. Так усё ідзе да лепшага. Спадзявайся на заўтрашні дзень. Ты яшчэ дзіця. І стаіш напроці свайго веку. Ідзі ў заўтрашні дзень так, як і дагэтуль ішоў. І ён будзе табе повен шчасця.

# ГОРА

Страшны і худы сядзеў Палікар у сваёй хаце. Здавалася, што ўвесь свет наваліўся яму на грудзі і не дае дыхаць. Вусы яго ўздрыгвалі, і чырвоныя ад бессані вочы дробна міргалі. Ён думаў: каб хаця як вытрымаць, каб не памерці. Локцямі ён успёрся на калені, далонямі падпёр твар і так сядзеў тварам уніз. І яшчэ ён думаў: усё на свеце ідзе і мінаецца. Пройдуць не толькі гэтыя дні. Пройдуць нават сотні гадоў. І косці гэтых замучаных малых, і яго ўласныя косці спарахнеюць і стануць пылам, і нічога тады не будзе. Нічога. Значыцца, і смутку, і жалю, і пакуты не будзе. Але гэта была малая ўцеха. І ён сядзеў.

Недзе за хатаю заспяваў певень. Палікар падняў галаву, здзіўлены і ўзрадаваны. Жывы голас! А то ўжо такая цішыня стаяла, як у магіле. Ужо добра ўмеркла. Ён і не заўважыў, як скончыўся дзень. Дзіўна, што ў такую пору певень спявае, мусіць, на змену надвор'я. З усіх сіл ён стараўся думаць пра надвор'е, пра пеўня, пра першы замаразак, і яму як бы лягчэй стала. Ён ціхом выйшаў на двор. Ужо ўзышлі зоры. Месяца не было. Быў густы змрок. Куды падацца, што рабіць?

Стоячы так у цемені, ён пачаў заўважаць, што ў Кірылавай хаце, у адным акне, як бы ўспыхвае раз-поразу на момант святло. Нават і не святло, а слабы водбліск яго, такі цьмяны, што яго і заўважыць цяжка. «Мусіць, Кірыла курыць, адзін,— падумаў ён.— Баіцца Кірыла немцаў. Дзве яго дачкі, маладыя дзяўчаты, недзе хаваюцца. Ім ужо было сказана, што яны павінны сабрацца ехаць у Германію. Кірыла, мусіць, спадзяецца на нейкі шчаслівы лёс і на свае немаладыя гады: мала ён і прыхоўваецца, пільнуе хаты. Ціхі, нерашучы чалавек».

Палікар увайшоў да Кірылы. Той і сапраўды курыў.

— Бяда прыйшла, — сказаў Кірыла.— Жыць нельга. Бойся кожнага кроку.

— Цяжка,— уздыхнуў Палікар.— Каб я хоць не бачыў смерці сваіх малых, можа б лягчэй было. А то — як Зоська канчалася, а гітлеравец усё крычаў над ёю...

Палікар не скончыў, яму здушыла горла.

— Ты ведаеш, што я думаю,— гаварыў ён далей.— Здаецца, крышыў бы, давіў бы, угрызся б зубамі ў нямецкае горла.

— Барані цябе божа,— устрапянуўся Кірыла.— Калі што надумаешся, дык адыдзіся за многа вёрст адгэтуль. Фашысты паляць кожную вёску, дзе хоць што зробяць супроць іх. Я цябе ведаю, ты чалавек гарачы. Ты можаш. Тады наробіш бяды ўсім. Трэба спакойна перачакаць бяду, перасядзець, як у нары. Дзень за днём. Не губі людзей. Я гатоў тры гады сядзець пад карчом у лесе, абы было ціха, а тады ўсё асталюецца на свеце. І ты, братка, ідзі дадому, няможна хоць і па дваіх збірацца. Тут жа ў вёсцы могуць кожную хвіліну з'явіцца. Ідзі, братка, прашу цябе. Калі што якое — дык я адзін, і нікога і нічога не ведаю.

— А я хацеў у цябе начаваць, вельмі цяжка ў адзіноце.

— Не, братка, ты ж май розум.

Палікар патаптаўся на месцы і з жахам падумаў, што наперадзе доўгая ноч адзіноты. А заснуць яму не ўдасца, ён гэта ведаў. Ціха ён выйшаў. Кірыла быццам напрарочыў: яны і сапраўды з'явіліся. Ішлі чацвёра ў двор. Ужо не было як бегчы на вуліцу. Палікар прыліп да шула ў двары. Адзін стаў вартаваць каля дзвярэй, крокаў за шэсць ад Палікара. Гэта быў немец. У Палікара займала дух. Трое пайшлі ў хату. Палікар не памятаў, што ён робіць. Ён адным махам наскочыў на фашыста і грукнуў яго вобземлю, ускочыў каленьмі на грудзі, заціснуў далоняю рот і задушыў за горла. За ўсё сваё жыццё ён не меў яшчэ такога шчасця ў душы. Ён адчуў сябе так, што ўжо дасягнуў свайго. Цяпер ужо і памерці не страшна. Ён адарваў ад немца аўтамат, з якога не ўмеў страляць, і адчыніў сенцы. Там ён убачыў: гарыць на лаве свечка і стаіць паліцыянт з вінтоўкай. Гэта быў тутэйшы мужык, нейкі таўстагубы хамула.

— Здавайся, нас тут многа! І ні гуку! — моцным шэптам загадаў Палікар. Паліцыянт пабялеў і аддаў вінтоўку.

— Стой і не выпускай яго з сяней,— сказаў Палікар

праз адчыненыя сенечныя дзверы ў пустую прастору вечара. Паліцыянт падняў рукі ўгару і застыў так пры сцяне. Палікар праверыў паліцэйскага вінтоўку, прычыніў хатнія дзверы і стрэліў у немца. Той як скошаны грукнуўся вобземлю. Паліцыянт, які дапытваў Кірылу, дзе яго дочкі, устрапянуўся, каб страляць.

— Хата абкружана партызанамі! — крыкнуў Палікар, і паліцыянт на момант сумеўся. Палікар выбіў у яго з рук вінтоўку і аглушыў прыкладам. Той захістаўся. Палікар звязаў яму рукі і глянуў у сенцы. Той, першы, усё стаяў з паднятымі рукамі.

— Ідзі ў хату! — загадаў Палікар.

Той увайшоў, калоцячыся, і стаў зноў з паднятымі рукамі.

Белы як палатно, Кірыла стаў перад Палікарам:

— Што ж ты нарабіў! Ты згубіў мяне. Цяпер мяне павесяць.

— Павесяць, калі будзеш чакаць.

— Божа мой, з хаты прыйдзецца сыходзіць.

— Цяпер ужо нічога не зробіш. Прыйдзецца сыходзіць і табе, і мне.

— Хаця ж разам каб ісці, пільнавацца адзін аднаго.

— Пойдзем разам, пашукаем партызан. Збірайся. А я тым часам гэтых малайцоў адпраўлю на той свет.

— Братачка, таварышок,— заенчыў той, што быў з развязанымі рукамі.— Не забівай мяне. Нашто табе шукаць партызан, я табе іх сам пакажу!

— А ты паспеў ужо высачыць?

— Каб я не сачыў, мяне немцы застрэлілі б.

Асеннія ночы доўгія. На світанні вартавыя партызаны на ўзлеску ўбачылі малюнак: да іх ішлі чацвёра. Першы ішоў са звязанымі рукамі. За ім — з прыўзнятымі ўгару рукамі. Трэці ішоў пажылы чалавек у кажушку, з вінтоўкай і аўтаматам цераз плечы. Гэта быў Кірыла. Самы задні быў высокі і худы, з вінтоўкай. Чалавек у кажушку, здавалася, нешта тлумачыць таму, з паднятымі рукамі. Як падышлі бліжэй, партызан разабраў яго словы:

— Падла ты, каб на цябе немач! Каму ты пайшоў служыць, каб ты па свеце не хадзіў! Ты думаеш, ад нас, партызан, ухаваешся? Не дажджэш, трасца табе ў галаву, нямецкі папіхайла, каб цябе халера выпрастала!

# ВОСЕНЬ

I лета даўно мінулася, і восень праходзіла, а яна ўсё так, як і тады, у той страшны гарачы дзень: не мае спакою, не спіць начамі, уседзець на месцы не можа, сохне і душыцца горам. І няма ніякай палёгкі ёй. Як настане раніца, ёй рупіць некуды ісці, нечага шукаць. Выйдзе яна з хаты на агароды і задумаецца: няма куды ісці і няма каму выказаць горыч з сэрца. І ніколі не думала яна раней, што адразу, у адзін дзень, ёй суджана стаць такой адзінокай. А была ж такая вялікая сям'я! Трох сыноў і дзве дачкі. Так было заўсёды шумліва і весела ў хаце! І вось прыйшоў дзень. Тры сыны пайшлі мабілізавацца. Праз шэсць дзён прыйшлі немцы. Праз шэсць дзён забралі старэйшую дачку і немаведама дзе дзелі яе. Мусіць, некуды далёка завезлі або забілі дзе. А пасля прыходзілі па маладзейшую, па Ганулю. Яна ўцякла. І немаведама, дзе яна туляецца. Прайшла зіма, вясна і лета. І канчаецца цяпер восень. А іх нікога няма, і яна адна. Стаяць месячныя ночы. Нацерусіўся снег. Вецер пазганяў яго ў лагчыны, і зямля шэрая. Тырчыць з зямлі сухая трава. Гойдаецца пад ветрам голы куст шыпшыны. Высока стаіць месяц. Усюды пустэча і цішыня. Усё прытаілася. Усё змоўкла. Яна адна ідзе пустою дарогаю. Ноч. Ясны змрок. Чаго яна ідзе сюды, у поле да рэчкі?

Вось і масток, і чорныя абрысы трох алешын. Холадна. Пуста. Страшная адзінота. Яна завярнулася і пайшла назад. А бывала, як было добра ўвосень! Лістапад месяц, багатая пара. Усё было завалена садавінай, гароднінай, збожжам. Збіраліся талакой па чарзе ў кожнай хаце шаткаваць капусту. Спявалі песні. Пасля работы банкетавалі. Да Ганулі сваталася многа хлопцаў, а яна пераборлівая вельмі была. Усё чакала таго, з кім ёй суджана

век векаваць. Старэйшая, Лізавета, ужо згаварылася са сваім ісці замуж. Няма ўжо ні Лізаветы, ні яго. Ён ваюе недзе.

Яна падыходзіць назад да сваёй хаты. Вось так і ходзіць і дзень і ноч, ад смутку, ад матчынага адчаю. І ніхто не заходзіць, і нікога няма, і так дзень за днём.

Чорны цень ад хаты закрываў палавіну двара: месяц свяціў за хатаю. І ці гэта ёй здаецца, ці гэта сапраўды нехта стаіць пад дзвярыма? Цень. Нічога не відно выразна. Стаіць жанчына. Высокая. Чакае пад дзвярыма, на якіх вісіць замок. Яна падышла бліжэй. І пазнала. Божа мой, гэта Лізавета! У маці трасліся ногі і рукі. Ледзьве яна выдзьмула з жару агонь і запаліла лучыну. Лізавета! Бедная, няшчасная, абарваная, абшарпаная, з вострым носам, з дзікімі вачыма, з ускудлачаныміваласамі. Голас хрыпаты, рух павольны, позірк страшны.

— Маці, я ўцякла з лагера. Цэлы год я мучылася. Некалькі разоў хацела налажыць на сябе рукі. Больш як пяцьсот кіламетраў я ішла, туляючыся. Перагрызла горла паліцэйскаму, які быў злавіў мяне па дарозе. Дзе наша Ганулі?

Яны патушылі агонь і за ноч не маглі нагаварыцца, і абодвум ім было цяжка, як у магіле.

Перад самым рассвітаннем хтосьці пастукаў у акно. Маці выйшла на двор і ўбачыла Ганулю. Яна была ў ботах, у ватоўцы і ў шапцы. Як яна не падобна была на Лізавету! Яшчэ трэба было запаліць лучыну, але Ганулі не дазволіла, і маці папацёмку гладзіла Ганулю галаву.

Як бы сам лёс наканаваў так, што раптам пачала збірацца гэтая сям'я.

— Маці,— сказала Ганулі,— я прыйшла толькі даведацца цябе і сказаць табе, што мы ўсе жывы. Я ведаю, што жыве і Юрась наш, і Павал. Вер, што і Мікола недзе жывы. І мы ўсе зноў сваёй сям'ёй збярэмся дома. Я была далёка адгэтуль. І нам трапіла ў рукі газета, скінутая нашымі лётчыкамі. Прачытала, што наш Юрась забіў за дзень дзевяць гітлераўцаў. Значыцца, жыве ён! І ўсе мы жывем. І нават Лізавета выратавалася. Але мне няможна тут доўга аставацца.

Цэлы дзень Ганулі была дома. А ўвечар пайшла. І сказала, што прыйдзе па Лізавету, калі тая ўвойдзе ў сілы. Маці пацалавала Ганулю ў чыстым полі, на сцежцы праз чорнае ржышча. Ганулі́на постаць сплыла ў ясны змрок

ранняй ночы. Маці адна ішла да сваёй хаты. І не было больш адзіноты. Не было пустэчы на свеце. І якая стаіць восень! Тры алешыны над рэчкай гойдаюцца ў ветры. Сівер коле твар. Далёкі лес пачарнеў: над ім усходзіць месяц. Лягчэй ідуць старыя ногі! Свет раскрыўся перад душой, як слаўны дар чалавеку: за яго варта пакутаваць і чакаць. І якая Ганулая стала! Ваюе. Слаўная якая, і Юрась які! Жанчына адна стаіць пасярод свайго двара. У хаце спіць Лізавета. Набіраецца сіл. Позна. Ноч. Свеціць месяц. Узнімаецца ў самае неба чорная постаць стагодняй бярозы. Адзінокая сняжынка ўпала на твар. Апошнія дні і ночы восені! Надзеяй і верай ажыў чалавек. Якая восень стаіць!

# КАМЕНТАРЫІ І ВАРЫЯНТЫ

У дадзены том увайшлі апавяданні 1928—1944 гг. Усе яны былі апублікаваны пры жыцці пісьменніка. Некаторыя — у перыядычным друку; большасць — у зборніках: «Вераснёвыя ночы» (1929), «Нянавісць» (1930), «Брыгадзіравы апавяданні» (1932), «Выбраныя апавяданні» (1932), «Выбраныя творы» (1934), «Як дзядзька Тамаш напалохаў ваўкоў» (1941), «Вялікае сэрца» (1945), «Выбраныя творы» (1947). Апавяданні «Маленькая жанчына», «Матчына благаславенне», «Бацька», «Смерць», «Аксеніны сляды», «Агонь», «На папялішчы», «Прасторны дом», «Вялікае сэрца», «Заўтрашні дзень» друкуюцца па аўтографах, якія захоўваюцца ў сям'і пісьменніка.

## МАЛЮНАК (стар. 5)

Друкуецца па кн. «Выбраныя творы», ДВБ, Мінск, 1934. Упершыню — час. «Малады араты», 1925, № 4, пад назваю «У вёсцы». У 1930 г. апавяданне перапрацавана і змешчана пад назваю «Малюнак» у кн. «Выбраныя апавяданні», 1932. У «Выбраных апавяданнях», 1932, і «Выбраных творах», 1934, датуецца: «1925 г.— 1930 г.»

## НЕ ХАЧУ ГЭТАК (стар. 12)

Друкуецца па зб. «Вераснёвыя ночы», БДВ, Мінск, 1929. Упершыню — час. «Чырвоны сейбіт», 1928, № 3, пад назваю «Не хачу так». У зб. «Вераснёвыя ночы» датуецца: «Снежань 1927 г. Сакавік 1928 г.»

## ВЕРАСНЁВЫЯ НОЧЫ (стар. 20)

Друкуецца па зб. «Вераснёвыя ночы», БДВ, Мінск, 1929. Упершыню — час. «Узвышша», 1928, № 4. У зб. «Вераснёвыя ночы» датуецца: «Снежань 1927 г. Жнівень 1928 г.»

## ВЕСНАВЫЯ ДАРОГІ (стар. 39)

Друкуецца па зб. «Вераснёвыя ночы», БДВ, Мінск, 1929, дзе датуецца 1928 г. Упершыню — газ. «Звязда», 1928, № 103.

## ЛІСТ ЯКУБА МАЛЬКЕВІЧА (стар. 45)

Друкуецца па час. «Узвышша», 1929, № 2, дзе апублікавана ўпершыню; датуецца лютым 1929 г.

## СПРАВА ВІКТАРА ЛУКАШЭВІЧА (стар. 57)

Друкуецца па час. «Узвышша», 1929, № 5, дзе апублікавана ўпершыню; датуецца маем 1929 г.

## НЯНАВІСЦЬ (стар. 81)

Друкуецца па кн. «Выбраныя творы», ДВБ, Мінск, 1934. Упершыню — час. «Узвышша», 1929, № 9—10, пад загалоўкам «Неўзабаве вясна».

Варыянты час. «Узвышша»:

Стар. 101

[3] Замест: У дачыненні// У дачыненнях (унесена ў асноўны тэкст).

Стар. 103

[32] Пасля: загудуць.//

Каго сілаю гналі, дык таму нічога, а

Стар. 106

[1] Пасля: свой.//

А трымаецеся за гэтую сваю кучу гною, як за шчасце. Сам жа хоча ўсякі пад'есці добра, галодным не быць, чалавекам быць, а не нявольнікам нейкім.

Варыянт кн. «Нянавісць»:

Стар. 106

[1] Пасля: свой.//

А трымаецеся, калі хто захоча лішні кавалак з'есці. З гразі не захоча ўсякі пад'есці добра, галодным не быць, чалавекам быць, а не нявольнікам нейкім.

*Гаматны* — вялікі, нязручны.

*Гала* — прастора.

## СПАТКАННІ З ВАСПАВАТЫМ ЧАЛАВЕКАМ (стар. 108)

Друкуецца па кн. «Выбраныя творы», ДВБ, Мінск, 1934. Упершыню — час. «Узвышша», 1930, № I, пад назваю «Васпаваты чалавек».

## СЯМ'Я ЮРЫЯ ГАРЭЙКІ (стар. 122)

Друкуецца па кн. «Выбраныя творы», ДВБ, Мінск, 1934, дзе датуецца чэрвенем 1930 г. Упершыню — час. «Полымя», 1930, кн. 7.

## БРОНЯ КАЗАКЕВІЧ (стар. 133)

Друкуецца па кн. «Выбраныя творы», ДВБ, Мінск, 1934. Упершыню — час. «Узвышша», 1931, № 1.

## БРАТЫ (стар. 144)

Друкуецца па кн. «Выбраныя творы», ДВБ, Мінск, 1934. Упершыню — час. «Узвышша», 1931, № 2.

Варыянт час. «Узвышша»:

Стар. 145

[33] Замест: есці.// талерку каламутнай поліўкі, у ёй плавала некалькі крышаноў капусты і бульбы. Жанчына, што падавала на стол, мусіць, ужо ведала гэтую пару, бо, кіўнуўшы дзяўчыне галавою, прынесла яшчэ адну лыжку. Дзяўчына ўзяла споднюю талерку і падзяліла папалам сваю страву. І абое пачалі падкалочваць поліўку гарчыцаю. Гэтак жа яны падзялілі і другую страву. Яны яшчэ, відаць, больш елі б, але абышліся гэтым.

Варыянт зб. «Брыгадзіравы апавяданні», 1932:

Стар. 148

[29] Пасля: кашу// (кажуць «дубовая каша»); елі гэтак, што аж за вушыма трашчала. Часамі ў гэтай кашы пападаліся скваркі, сухія нейкія і вялыя, як мазалі на далонях, але хто на іх там лішне прыглядаўся! Падавальшчыцы на стол з абыкласцю насілі талеркі з сухою кашаю, прыносілі ў мокрых, нявыцертых шклянках гарбату. У кутку двое мужчын, налёгшы грудзьмі на свой стол, выпілі па шклянцы гарэлкі ўпотай, і адзін схаваў пустую пляшку за пазуху. Лямпачкі гарэлі вельмі зырка, можа паводле таго, што і столікі не былі выцертыя як трэба, і што насмечана было на падлозе, і што ■ кухні горкі дым цёк проста сюды, і што ўкрадкі двое выпілі гарэлку — можа паводле ўсяго гэтага і залішне было тут святла. Нават побач з гэтымі новымі, чыстымі электрычнымі лямпамі і даўнейшыя плямы на сценах ад колішніх, яшчэ нядаўных курадымных лямпаў з газаю здаваліся занадта праціўнымі, нават агіднымі. Здавалася, што ў гэтай закурадымленасці на сцяне няйначай павінны клапы сядзець. І твары людскія былі найбольш струджаныя, не ачышчаныя сном, добраю ядою, доўгім адпачынкам. Гэтакі быў і Гурык. Толькі вочы яго струменілі ўздым, радасць, весялосць, бясхмарнасць надзей.

## СЕМНАЦЦАЦЬ ГОД (стар. 164)

Друкуецца па кн. «Выбраныя творы», ДВБ, Мінск, 1934. Упершыню — час. «Полымя рэвалюцыі», 1932, кн. 2.

## РАМОНТНАЯ БРЫГАДА (стар. 187)

Друкуецца па кн. «Выбраныя творы», ДВБ, Мінск, 1934. Упершыню — зб. «Брыгадзіравы апавяданні», ДВБ, Мінск, 1932.

Варыянты зб. «Брыгадзіравы апавяданні»:

Стар. 189

[33] Пасля: галовы.//

Гэтакія от гаворкі і адбываліся тады ля кузні.

— Добраахвотна ў калгас ісці, ці сілком гоняць?

— Добраахвотна.

— Ну, дык калі добраахвотна, дык ты мяне туды і калом не загоніш. Сам ідзі.

— І пайду.

— А чаму ж дагэтуль не ішоў?

— Дагэтуль?.. Дагэтуль?..
Гаварыў жа нават гэтакі хлопец, як Андрэй Казакевічаў, «неарганізаваны я быў...»
Стар. 190
[20] Пасля: дні.//
Прыходзілі, калі хто мог і як хто мог. Проста такі часамі аж да натоўпу было ўсё падобна, гэтулькі падыходзіла мужчын. Заячыя, трусавыя і авечыя шапкі, злубянелыя і не злубянелыя кажушкі, боты, лапці, шарачак... Увесь вясковы народ.

## МАДЭЛЬШЧЫК ПАРХВІЕНКА (стар. 192)

Друкуецца па зб. «Брыгадзіравы апавяданні», ДВБ, Мінск, 1932, дзе апублікавана ўпершыню.

## ВІНГЕЛЬ (стар. 196)

Друкуецца па зб. «Брыгадзіравы апавяданні», ДВБ, Мінск, 1932. Упершыню — час. «Чырвоная Беларусь», 1930, № 21—22, пад назваю «Ударнік Вінгель».

## ЗЛАЧЫНЦА ПАКАРАНЫ (стар. 204)

Друкуецца па час. «Чырвоная Беларусь», 1932, № 16, дзе апублікавана ўпершыню; датуецца 18/VI 1932 г.

## ТРУХЛЯВАЕ КОЛА (стар. 210)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1933, № 12, 23 красавіка, дзе апублікавана ўпершыню.

## БРЫГАДЗІРАВА ПАМЫЛКА (стар. 216)

Друкуецца па кн. «Выбраныя творы», ДВБ, Мінск, 1934. Упершыню — час. «Полымя рэвалюцыі», 1933, кн. 4.
Варыянт час. «Полымя рэвалюцыі»:
Стар. 226
[10] Замест: не// я (унесена ў асноўны тэкст).

## ЗВЯГА (стар. 231)

Друкуецца па кн. «Выбраныя творы», ДВБ, Мінск, 1934. Упершыню — час. «Полымя рэвалюцыі», 1933, кн. 10.
Варыянты час. Полымя рэвалюцыі»:
Стар. 240
[18] Пасля: падзяліць.//
— Значыцца, ён распусны. А чаму ж цяпер нічога за ім, апрача работы ў кузні, не відаць?
— Што я ведаю. Я гавару тое, што чуў ад тых, што ведаюць. Але і цяпер ён у горадзе бывае. Можа ён туды гуляць ходзіць. Як бы тут па-чалавецку гуляць не можа! Тут так. Гаварылі, што ён на брыдкую хваробу хварэў. Можа ён і цяпер хворы.
Стар. 241
[20] Пасля: каваль.//
— Праз акно лезці ці праз дзверы? — вымучыў ён жарт.

Яна маўчала.

— Ну дык хадзем праз дзверы.

І ўжо ён, як гаспадар, павёў яе за сабою. Яна ўсё маўчала. Яна выйшла ў сенцы, узяла лямпу і пачала яе запальваць.

— Запальвай, запальвай,— як бы што новае зразумеўшы, злосна сказаў ён.— Раней ты заўсёды тушыла, а цяпер запальваеш.

## «СВЯТАЯ» ПАПРУЖКА (стар. 255)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1934, № 163, 26 ліпеня, дзе апублікавана ўпершыню.

## МУРАВАНЫ СКЛЯПОК (стар. 262)

Друкуецца па час. «Полымя рэвалюцыі», 1934, кн. 6—7, дзе апублікавана ўпершыню.

## ФЛЁРКАВЫ СЛЁЗЫ (стар. 278)

Друкуецца па час. «Іскры Ільіча», 1940, № 1, дзе апублікавана ўпершыню.

Апяваданне «Флёркавы слёзы» з'яўляецца перапрацоўкай апавядання «Слёзы», напісанага ў 1926 г. і змешчанага ў час. «Беларускі піянер», 1926, № 2.

## ЯК ДЗЯДЗЬКА ТАМАШ НАПАЛОХАЎ ВАЎКОЎ (стар. 282)

Друкуецца па кн. «Як дзядзька Тамаш напалохаў ваўкоў», ДВБ, Мінск, 1941. Упершыню — час. «Іскры Ільіча», 1937, № 11.

## МАКАРКАВЫХ ВОЛЬКА (стар. 295)

Друкуецца па час. «Полымя рэвалюцыі», 1938, кн. 5, дзе апублікавана ўпершыню.

## СЦЯПАНАВЫ ДЗЕЦІ (стар. 305)

Друкуецца па час. «Іскры Ільіча», 1939, № 8, дзе апублікавана ўпершыню.

## ДАРАГУСЯ (стар. 312)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1939, № 34, 3 кастрычніка, дзе апублікавана ўпершыню.

## РОДНЫЯ МЯСЦІНЫ (стар. 319)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1939, № 260, 12 лістапада, дзе апублікавана ўпершыню.

## ЗЯМЛЯ (стар. 325)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1940, № 28, 14 верасня, дзе апублікавана ўпершыню.

## НАВАГОДНЯЯ НОЧ (стар. 330)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1941, № 3, 4 студзеня, дзе апублікавана ўпершыню.

## РАСПЛАТА (стар. 335)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1941, № 2, 27 кастрычніка, дзе апублікавана ўпершыню.

## РАСКАЗЫ ПАРТЫЗАН ВІЦЕБШЧЫНЫ (стар. 338)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 7, 5 студзеня, дзе апублікавана ўпершыню з падзагалоўкам «Цыкл апавяданняў».

## МАЛЕНЬКАЯ ЖАНЧЫНА (стар. 341)

Друкуецца па аўтографу, дзе мае загаловак «Дванаццацігодняя жанчына»; у канцы паметка: «Сакавік — красавік 1942. Кузьма Чорны».

Упершыню — «Беларусь», альманах 1, 1943, выдавецтва «Савецкая Беларусь».

## МАТЧЫНА БЛАГАСЛАВЕННЕ (стар. 348)

Друкуецца па аўтографу.

Упершыню — «Беларусь», альманах 1, 1943, выдавецтва «Савецкая Беларусь».

## БАЦЬКА (стар. 352)

Друкуецца па аўтографу.

Упершыню — на рускай мове ў газ. «Известия», 1942, № 112, 15 мая.

## СМЕРЦЬ (стар. 361)

Друкуецца па аўтографу.

Упершыню — на рускай мове ў кн. «За Советскую Беларусь», М., 1942.

## АКСЕНІНЫ СЛЯДЫ (стар. 370)

Друкуецца па аўтографу.

Упершыню — на рускай мове ў газ. «Труд», 1942, № 176, 29 ліпеня.

## ПАГАНЫЯ КОСЦІ (стар. 380)

Друкуецца па сатырычнаму лістку «Партызанская дубінка», выдавецтва ЦК КП(б) Б, 1943, № 3, дзе змешчана ўпершыню.

МАТЧЫНА КРОЎ (стар. 382)

Друкуецца па літаратурнаму дадатку да газ. «Савецкая Беларусь», 1943, № 1, 1 мая, дзе змешчана ўпершыню.

АГОНЬ (стар. 385)

Друкуецца па аўтографу; у канцы подпіс: «Кузьма Чорны».
Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1944, № 1—2, 5 студзеня.

НА ПАПЯЛІШЧЫ (стар. 388)

Друкуецца па аўтографу; у канцы подпіс: «Кузьма Чорны».
Упершыню — час. «Беларусь», 1944, № 2, пад загалоўкам «Папялішча».

ПРАСТОРНЫ ДОМ (стар. 392)

Друкуецца па аўтографу, дзе маецца паметка: «18 мая 1944 года (Перадзелкіна). Кузьма Чорны».
Упершыню — «Выбраныя творы», ДВБ, Мінск, 1947.

ВЯЛІКАЕ СЭРЦА (стар. 397)

Друкуецца па аўтографу; у канцы подпіс: «Кузьма Чорны».
Упершыню — на рускай мове ў час. «Красноармеец», 1944, № 13—14.

ЗАЎТРАШНІ ДЗЕНЬ (стр. 413)

Друкуецца па аўтографу.
Упершыню — час. «Полымя», 1945, № 5—6.
*Стабнаваць* — прашываць.

ГОРА (стар. 463)

Друкуецца па зб. «Вялікае сэрца», ДВБ, Мінск, 1945, дзе змешчана ўпершыню.

ВОСЕНЬ (стар. 466)

Друкуецца па зб. «Вялікае сэрца», ДВБ, Мінск, 1945, дзе змешчана ўпершыню.

# АЛФАВІТНЫ ДАВЕДНІК

## ЗМЕСТ

**Чорны К.**

Збор твораў у васьмі тамах. Том другі. Апавяданні 1928—1944 гг. Мн., «Мастацкая літаратура», 1972. 488 с. з іл. 15 000 экз. 1 р. 10 к.

Другі том Збору твораў К. Чорнага складаюць апавяданні 1928—1944 гг.

Бел2

7-3-3 / 90-72

Ч 75

На белорусском языке

Кузьма Чорный

(Николай Карлович Романовский)

Собрание сочинений в восьми томах

ТОМ ВТОРОЙ

Рассказы 1928—1944 гг.

Издательство «Мастацкая літаратура» Государственного комитета Совета Министров Белорусской ССР по печати. Минск, Ленинский проспект, 79.

Рэдактары Г. Шаранговіч, А. Куліш.

Мастак Ю. Зайцаў

Мастацкі рэдактар Л. Прагін

Тэхнічныя рэдактары Я. Шляшынская, Г. Федарук

Карэктары Н. Лебедзева, А. Глушчанка.

Здадзена ў набор 12/I 1972 г. Падп. да друку 23/VIII 1972 г. Тыраж 15 000 экз. Фармат 84×108$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 25,62. Ул.-выд. арк. 26,06. Зак. 1444. Цана 1 руб. 10 кап.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў Беларускай ССР па друку. Мінск, Чырвоная, 23.